# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 17 Сшыткі 1–2 (32–33) Снежань 2010

## Змест

### Да 600-годдзя бітвы пад Грунвальдам



### Прэзентацыі



### Артыкулы



### Публікацыі



### Гістарыяграфія

## Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі



## Агляд перыёдыкаў



## In memoriam

# Бітва пад Танэнбергам і яе значэнне ў гісторыі ордэнскай дзяржавы*

**Свэн Экдаль**

## I

Нямецкі ордэн на тэрыторыі Прусіі ўяўляў сабою напрыканцы XIV ст. унутрана і знешне ўмацаваную тэрытарыяльную дзяржаву[1]. Выдатна арганізаваны, з выдатным кіраваннем, ён уладарыў на паўднёва-ўсходніх

* Тут выкарыстоўваецца артыкул С. Экдаля „Бітва пад Танэнбергам і яе значэнне ў гісторыі ордэнскай дзяржавы", апублікаваны ў „Deutsche Ostkunde", 1989, 2, с. 63–80, а пазней — у часткова дапоўненай, часткова скарочанай форме — у „Acta Historica Universitatis Klaipedensis", I (1993), с. 34–64.

1 Змястоўны агляд даецца ў: Reinhard Wenskus. *Das Ordensland Preußen als Territorialstaat des 14. Jahrhunderts, Der Deutsche Territorialstaat im 14. Jahrhundert* [Reichenau-Vorträge 1967–1968], Bd. 1, hrsg. v Hans Patze, Sigmaringen 1970 (= Vorträge und Forschungen 13), с. 347–382. У многіх адносінах састарэлая, але ўтрымлівае багаты матэрыял праца: Johannes Voigt. *Geschichte Preußens. Von den ältesten Zeiten bis zum Untergange der Herrschaft des Deutschen Ordens,* Königsberg 1827–1839, 9 т. (таксама рэпрынтнае выданне 1968 г., Hildesheim). Гл. таксама: Christian Krollmann. *Politische Geschichte des Deutschen Ordens in Preußen,* Königsberg 1932; Bruno Schumacher. *Geschichte Ost- und Westpreußens*, 7. Aufl. Würzburg 1987; Hartmut Boockmann. *Der Deutsche Orden.* Zwölf Kapitel aus seiner Geschichte, 3. Aufl. München 1989 (= Beck'sche Sonderausgaben); Marian Biskup, Gerard Labuda. *Dzieje Zakonu Krzyżackiego w Prusach.* Gospodarka — Społeczeństwo — Państwa — Ideologia, Gdańsk 1986. Іншыя літаратурныя крыніцы па гісторыі Нямецкага ордэна ў Прусіі, а таксама па гісторыі Польшчы і Літвы: гл. маю працу, згаданую ў спас. 5, с. 6 і наст.

тэрыторыях Балтыкі. Адзіным, чаго яшчэ, здавалася, не хапала, была тэрытарыяльная сувязь з лівонскім адгалінаваннем Ордэна, якую можна было забяспечыць, падпарадкаваўшы Жамойць на Паўночным Усходзе і засцярогшы ад небяспекі шляхі зносін з Захадам прысваеннем Новай Маркі (Neumark). Абедзве задачы былі вырашаны напрыканцы XIV і на пачатку XV ст.: па Салінскім дагаворы 1398 г. Вітаўт (1392–1430), вялікі князь ВКЛ, перадаў Ордэну Жамойць у абмен на Усходнюю Судаву[2], таму што літоўцы ў той час збіралі сілы для барацьбы супраць татар (у наступным годзе яны пацярпелі цяжкае паражэнне ад татар на Ворскле), а ў 1402 г. Ордэн здолеў атрымаць Новую Марку ад венгерскага караля Жыгімонта, на той час маркграфа брандэнбургскага. Тым самым небяспека шляхам зносін для крыжаносцаў і наймітаў з Райха і з Заходняй Еўропы больш не пагражала, заставалася яна толькі там, дзе яшчэ не хапала невялікага злучальнага адрэзка паміж Новай Маркай і Прусіяй у паўднёвай Памераніі. Акрамя таго, у 1398 г. Ордэн выгнаў з Готланда так званых братоў-віталійцаў, і вялікая частка тэрыторый Балтыйскага мора была вызвалена ад марскіх разбойнікаў[3], так што з гэтага часу больш не існавала перашкод для гандлёвай дзейнасці багатых ганзейскіх гарадоў Прусіі — найперш тут можна назваць Данцыг, квітнеў таксама і ўнутраны гандаль Ордэна з цэнтрамі ў Мальбарку і Караляўцы. Здавалася, што гэтая незвычайная ордэнская дзяржава дасягнула піка сваёй моцы і ёй забяспечана бліскучая будучыня.

Аднак гэта было зацішша перад бурай. Нагод для канфліктаў і ў самой Прусіі, і па-за яе межамі хапала, яны не маглі не ўцягнуць краіну ў хуткім часе ў вір войнаў і паражэнняў. У барацьбе супраць экспансіі Польшчы і ВКЛ Нямецкі ордэн быў настолькі аслаблены, што пасля заключэння Торуньскага мірнага пагаднення 1466 г. ён захаваў толькі цень сваёй былой велічы. Во-

2 Неабжытая тэрыторыя паміж Ордэнам і Літвою.

3 Friedrich Benninghoven. *Die Gotlandfeldzüge des Deutschen Ordens 1398–1408* // Zeitschrift für Ostforschung 13, 1964, с. 421–477.

йны 1409–1411, 1414, 1422, 1431–1433 (1435) гадоў і, нарэшце, вырашальная трынаццацігадовая вайна 1454–1466 г., у якой рыцарства і гараджане выступалі супраць ордэнскіх улад, — вось этапы яго паступовага заняпаду[4].

„Вялікая вайна” 1409–1411 г., кульмінацыяй якой стала знішчальнае паражэнне Ордэна ў барацьбе з польска-літоўскім войскам у бітве пад Танэнбергам 15 ліпеня 1410 г.[5], была выклікана жамойцкім пытаннем. Хаця рыцары Ордэна, спрабуючы заваяваць краіну, не раз ладзілі паходы на Жамойць па даўно выпрабаваным узоры вайсковых наступаў на Літву[6] і будавалі там замкі-крэ-

[4] Адносна вайны 1409–1411 г. гл. спас. 5. Вайну 1414 г. апісвае Вільгельм Нёбэль (Wilhelm Nöbel). *Michael Küchmeister, Hochmeister des Deutschen Ordens 1414–1422,* Bad Godesberg 1969 (= Quellen und Studien zur Geschichte des Deutschen Ordens 5). Гл. таксама: Sven Ekdahl. *Der Krieg zwischen dem Deutschen Orden und Polen-Litauen 1422* // Zeitschrift für Ostforschung 13, 1964, с. 614–615; Klaus Neitmann. *Politik und Kriegführung des Hochmeisters Paul von Rusdorf 1422/23,* тамсама, 34, 1985, с. 330–378. Падзеі вайны 1432–1433 (1435) г. даследуе, у прыватнасці, Карл Аўгуст Люккерат у біяграфіі аднаго з вялікіх магістраў: *Paul von Rusdorf, Hochmeister des Deutschen Ordens 1422–1441*, Bad Godesberg 1969 (=Quellen und Studien zur Geschichte des Deutschen Ordens 15). Падрабязнае апісанне Трынаццацігадовай вайны знаходзім у: Marian Biskup. *Trzynastoletnia wojna z Zakonem krzyżackim 1454–1466*, Warszawa 1967.

[5] Да гэтай тэмы — з падрабязнымі спасылкамі на крыніцы: Sven Ekdahl. *Die Schlacht bei Tannenberg 1410.* Quellenkritische Untersuchungen. T. 1: Einführung und Quellenlage, Berlin 1982 (= Berliner Historische Studien 8; Einzelstudien I) (далей — *Tannenberg,* 1). Па-сапраўднаму распачаць працу над запланаваным другім томам да гэтага часу не ўдалося з прычыны мноства іншых задач. Самае вядомае польскае даследаванне — праца Стэфана М. Кучыньскага (Stefan M. Kuczyński), гл. спас. 76. Найноўшая літоўская публікацыя: Mečislovas Jučas. *Žalgirio mūšis*, Vilnius 1990.

[6] Найперш варта назваць трохтамовую доктарскую дысертацыю Вернэра Паравічыні (Werner Paravicini. *Die Preußenreisen des europäischen Adels.* Teil 1. Sigmaringen: Thorbecke, 1989; Teil 2. 1995).
Пар. яго ж: Die Preußenreisen des europäischen Adels, у: Historische Zeitschrift 232, 1981, с. 25–38. Гл. таксама названыя

пасці, уладарыць там па-сапраўднаму яны не здолелі. Калі ў траўні 1409 г. успыхнула агульнае паўстанне пад кіраўніцтвам Вітаўта, Ордэну пагражала страта Жамойці, і адзінай магчымасцю спыніць такое развіццё падзей бачыліся буйныя вайсковыя аперацыі. Таму Ульрых фон Юнгінген (1407–1410)[7] летам паслаў аднаго са сваіх падначаленых з даручэннем навербаваць у Шчэціне, Мейсэне, Цюрынгіі, Браўншвайгу і Люнебургу крыжаносцаў, якія павінны былі выйсці ў паход за ўласны кошт, і 200 пік наёмных воінаў, агульнай колькасцю каля 600 чалавек. Былі мабілізаваныя і ўласныя сілы ордэна.

Абмежаваны канфлікт перарос у маштабную вайну, таму што супраць Ордэна выступіла не толькі Літва, але і Польшча на чале з каралём Ягайлам (1386–1434). Пасля Крэўскай уніі 1385 г. і шлюбу вялікага князя літоўскага Ягайлы, стрыечнага брата Вітаўта, з Ядвігай, малалетняй каралевай Польшчы, які адбыўся ў 1386 г. у Кракаве, Польшча і Літва аб'ядналіся ў унію, якая, нягледзячы на цяжкія ўнутраныя канфлікты, апраўдала сябе ў час вырашальнай барацьбы з Ордэнам. Польшча не магла канчаткова пагадзіцца са стратай Гданьскага Памор'я ў 1308–1309 г. і, як і Літва, імкнулася да выхаду на Балтыйскае мора. Пры гэтым на першы план усё больш выходзіла гандлёвая палітыка. Калі вялікі магістр пад час вырашальных перамоў з прадстаўнікамі Польшчы ў замку Мальбарка 1 жніўня 1409 г. пачуў, што Ягайла не застанецца бяздзейсным сузіральнікам, калі Ордэн паспрабуе задушыць паўстанне ў Жамойці, „перш чым будуць ўладжаныя спрэчкі паміж каралём і Ордэнам", ён

ў спас. 60 і 61 працы, а адносна даўнейшага часу: Edvardas Gudavičius. *Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII amžiuje.* Vilnius 1989.

7 Біяграфія гэтага вялікага магістра пакуль яшчэ не напісана. Гл. агляд Свэна Экдаля: *Ulrich von Jungingen. 1407–1410* // Die Hochmeister des Deutschen Ordens 1190–1990, hrsg. v. Udo Arnold, Marburg 1998 (= Quellen und Studien zur Geschichte des Deutsche Ordens 40). S. 106–114.

вырашыў спачатку пакарыць Польшчу і ўжо праз некалькі дзён пачаў вайну[8].

Ваенныя дзеянні 1409 г. былі для Ордэна паспяховымі, тры яго арміі спусташылі вялікія тэрыторыі ў паўночнай Польшчы, у тым ліку памежную Добжынскую зямлю[9]. Яны закончыліся перамір'ем, якое спачатку павінна было працягвацца да дня Св. Яна — 24 чэрвеня 1410 г., а потым было падоўжана да 4 ліпеня 1410 г. Між тым абодва бакі рыхтаваліся да верагоднай новай вайны: арміі ўзбройваліся, у Райху, і ў Заходняй Еўропе праводзілася вярбоўка і прапаганда, таму што чэшскаму каралю Вацлаву і Жыгімонту Венгерскаму місія пасрэднікаў у дасягненні міру не ўдалася.

Менавіта перамовы вясною і летам 1410 г. сталі для Ордэна фатальнымі, таму што ўмацавалі ў Ульрыха фон Юнгінгена пачуццё, быццам Вацлаў і асабліва Жыгімонт Венгерскі — гэта яго падтрымка, прыкрыццё з тылу. Але Жыгімонта больш любіў даваць абяцанні, чым дзейнічаць, яго цікавілі ў першую чаргу грошы Ордэна, якія цяклі да яго ракою. Уяўленне вялікага магістра пра асобу Жыгімонта не адпавядала рэальнасці. Палякі ж і літоўцы, наадварот, вельмі ўмела праводзілі паспяховую прагматычную палітыку[10].

## II

Вайна 1410 г. карэнным чынам адрознівалася ад паходаў на Літву і ставіла перад кіраўніцтвам Ордэна непрывычныя задачы. Калі да гэтага часу яно было больш прызвычаена да наступальных дзеянняў, то цяпер трэба было паспрабаваць перайсці да абарончай стратэгіі з

[8] Спасылкі на крыніцы ў Ekdahl, *Tannenberg* I, с. 6.

[9] Тагачаснае апісанне вайны 1409–1411 г. з пункту гледжання Ордэна даецца ў працягу хронікі Ёгана фон Посільге ў „Scriptores rerum Prussicarum", hrsg. v. Theodor Hirsch, Max Toeppen und Ernst Strehlke, Leipzig 1866, т. 3 (а таксама рэпрынт: Frankfurt am Main, 1965), тут с. 301 і наст.

[10] Больш падрабязна па гэтым пытанні — у запланаваным другім томе працы.

усімі яе недахопамі. Ніхто дакладна не ведаў, у якім месцы вораг нападзе пасля заканчэння перамір'я, да таго ж вялікая разгубленасць панавала яшчэ ў апошнія дні чэрвеня, калі аддаваліся часам палярна супярэчлівыя загады выступіць у паход, і непатрэбныя маршы стамлялі падраздзяленні Ордэна.

Армія ВКЛ прайшла неабжытую тэрыторыю і Мазовію і на пачатку ліпеня аб'ядналася з велікапольскімі і малапольскімі сіламі пад Чэрвіньскам на Вісле, дзе палякі наладзілі пераправу па пантонным мосце. У дапаможных атрадах на баку літоўцаў былі рускія і татары, на баку палякаў ваявалі наёмныя салдаты, галоўным чынам з Чэхіі і Маравіі, а таксама з Малдавіі і, магчыма, Валахіі. У першай палове ліпеня вялізная армія рушыла на поўнач, у напрамку Прусіі: Ягайла і Вітаўт вырашылі не драбніць сілы на некалькі франтоў, а адолець праціўніка адзіным магутным ударам на Мальбарк, галоўную цвярдыню Ордэна ў цэнтры краіны. Гэта было незвычайна правільна для таго часу спланаванае і праведзенае разгортванне войскаў.

Польска-літоўскае войска перайшло мяжу Прусіі ў паўднёвай частцы комтурства Остэродэ і паспрабавала спачатку ўварвацца ў Хэлмінскую зямлю пад Каўэрнікам праз раку Дрвенцу, аднак атрадам Ордэна ўдалося адбіць гэтую атаку. Праз тры дні быў узяты штурмам гарадок Гільгенбург. Вестка пра гэта выклікала ў войску Ордэна, якое знаходзілася пад Лёбаў, мітуслівую актыўнасць, вынікам якой стаў славуты начны марш на Танэнберг, як высветлілася — да месца будучай Грунвальдскай бітвы. Абараняючы кіраўніцтва Ордэна ад папрокаў, ордэнскі храніст кантынуатар Посільге падкрэслівае, што такое рашэнне было прынята адзінагалосна. У гэтым маршы Ульрых фон Юнгінген бачыў жаданую магчымасць перахапіць ініцыятыву і заспець ворага знянацку, што яму і ўдалося. Аднак чаканай перавагі ён не атрымаў, бо Ульрых ці то не змог, ці то не захацеў выкарыстаць эфект нечаканасці і адразу атакаваць непадрыхтаванага ворага. Храніст Ордэна тлумачыць гэта рыцарскімі прынцыпамі камандзіраў ордэнскіх войскаў, г. зн. у пер-

шую чаргу вялікага магістра: ён піша, што камандзіры хацелі змагацца з ворагам „па рыцарскіх правілах”[11].

Бітва адбывалася на палях паблізу трох вёсак комтурства Остэродэ — Танэнберг, Грунфельдэ і Людвігсдорф (па-польску адпаведна Стэмбарк, Грунвальд і Людвігова, а па-літоўску — Танэнбергас, Жальгірыс і Людвігсдорфас). Надзейных звестак пра колькасны склад войскаў няма, таму ў літаратуры прыводзяцца надзвычай супярэчлівыя лічбы[12]. У нямецкіх даследаваннях часцей за ўсё гаворыцца пра 12 000–15 000 воінаў з боку Ордэна і 20 000–25 000 — з варожага боку. Польскія ж і літоўскія гісторыкі прыводзяць значна большыя лічбы. Не спыняючыся на гэтай праблеме больш падрабязна, я, тым не менш, хацеў бы адзначыць у гэтай сувязі, што Герард Лябуда нядаўна спасылаўся на крыніцу з 30-х г. XV ст., у якой гаворка ідзе пра 30 000 чалавек у літоўскім войску[13]. Важнае значэнне маюць два лісты комтура Рагніта маршалу Ордэна і комтуру Брандэнбурга ад 13 чэрвеня 1410 г., з якіх вынікае, што кожная зямля Жамойці паставіла 400 коннікаў[14] і што на трох коннікаў прыпадала адна павозка[15]; Антоні Прахаска ў *Codex epistolaris Vitoldi* памылкова называе замест гэтай лічбы 300[16]. Настолькі ж не адпавядае сапраўднасці яго інфармацыя, нібыта салдаты Ордэна выступілі ў паход на Прусію, маючы 60 000 коней[17]: у адпаведнай крыніцы — лісце ком-

[11] Scriptores rerum Prussicarum III. (як у спас. 9), с. 316.

[12] Агляд у: Ekdahl, *Tannenberg* I (як у спас. 5), с. 68–73; гл. таксама: M. Jučas. *Žalgirio mūšis* (як у спас. 5), с. 75–86.

[13] Gerard Labuda. *Król Władysław Jagiełło i wielki książe Witold w ocenie historiografa kurii papieskej* // Historia, 76, 1989, с. 201–210, тут с. 202, 207.

[14] Сакрэтны Дзяржаўны архіў „Прускі Культурны фонд”, Берлін, XX галоўны аддзел „Дзяржаўны архіў Караляўца” (скарочана GStAPK, XX. HA StA Kbg), Архіў перапіскі Ордэна (OBA), № 1305. Пар. спас. 50.

[15] *Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae, 1376–1430.* Collectus opera Antonii Prochaska, Cracoviae 1882 (= Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustantia VI, 1 i 2). (Таксама рэпрынт, Нью-Ёрк, Лондан, 1965.). № 444, с. 209.

[16] Тамсама, № 446, с. 210.

[17] OBA (як у спас. 14), № 1316.

тура Шлохаў вялікаму магістру ад 25 чэрвеня 1410 г. — гаворка ідзе толькі пра 2000 коней[18]. Такія тлумачэнні ці варыяцыі не спрыяюць высвятленню дыскусійнага пытання пра лічбы і колькасны склад войскаў.

Што тычыцца ордэнскага войска, то ў яго ўваходзілі не толькі браты Ордэна са сваімі слугамі і абавязаныя да службы вольныя людзі, гараджане і войты, але і каля 5000 наёмных жаўнераў з Сілезіі, Чэхіі, Мейсена, Лужыцы і іншых земляў Райха, былі сярод іх і крыжаносцы, а таксама іншыя дапаможныя атрады. Сярод даволі вядомых асоб, якія паходзілі не з Прусіі, але ваявалі на баку Ордэна, былі маладыя герцагі Казімір Памеранска-Шчэцінскі і Конрад Мудры з Ольса (Сілезія). Абодва яны пад час бітвы трапілі ў палон. У абозе ордэнскага войска было, напэўна, даволі шмат сялян. Яшчэ 2000 наёмных салдат знаходзіліся ў Гданьскім Памор'і[19].

Паводле распаўсюджанай у даследаваннях думкі — у тым ліку і ў нядаўніх польскіх публікацыях, напрыклад, у Анджэя Надольскага[20] і Мар'яна Біскупа — ор-

[18] *Das Soldbuch des Deutschen Ordens 1410/1411. Die Abrechnungen für die Soldtruppen. Mit ergänzenden Quellen bearbeitet und ediert* von Sven Ekdahl. Teil I: Text mit Anhang und Erläuterungen, Köln, Wien 1988 (= Veröffentlichungen aus den Archiven Preußischer Kulturbesitz 23/I, тут: Уводзіны, с. 4. Больш падрабязна: Kilka uwag o księdze żołdu Zakonu Krzyżackiego z okresu „Wielkiej Wojny" 1410–1411 // Zapiski Historyczne 33, 1968, с. 111–130, тут с. 115–123.

[19] Надольскі прытрымліваецца распаўсюджанага тэзіса, згодна з якім бітва адбывалася ў мясцовасці „Вялікі Ручай" („Wielki Strumień") паміж Танэнбергам і Людвігсдорфам. Калі б гэта было так, то войска Ордэна вырушыла б з месца, дзе потым знаходзілася капліца (гл. спас. 23), на ўсход, дакладна супраць сонца. Акрамя названага ў спас. 23 даследавання А. Надольскага, згадаем наступныя працы: *Rozważania o Grunwaldzie*, у: Kwartalnik Historyczny 1980, 2, с. 447–457; *Pola Grunwaldu w świetle badań 1980 roku* // Komunikaty Mazursko-Warmińskie 1981, 1, і: *Grunwald — Problemy wybrane. Cześć I* // Komunikaty Mazursko-Warmińskie 1983, 2/3, с. 295–325.

[20] Як у папярэдняй спас. Пар. спас. 81. З іншых прац Біскупа варта назваць *Grunwaldska wielka rocznica (1410–1960)* // Nowe Drogi 14, 1960, 7, с. 116–126 (пар. у гэтым кантэксце:

дэнскае войска вырушала ва ўсходнім напрамку, гэта значыць наўпрост супраць узыходзячага сонца. Гэты тэзіс паходзіць ад польскага гісторыка Яна Длугаша (1410–1480), які несправядліва ацэньвае Ульрыха фон Юнгінгена, бо не мог такі дасведчаны палкаводзец настолькі пагарджаць элементарнейшымі ваеннымі правіламі. Больш даверу выклікае інфармацыя храніста Ордэна, паводле якой ордэнскае войска выйшла з Лёбаў, кіруючыся на вёску Танэнберг (...*да Танэнберга, пасялення ў мясцовасці Остэродэ*...)[21]. Гэта значыць, войска рухалася з Танэнберга ў паўднёва-заходнім напрамку, і сонца свяціла збоку. Баявы лагер Ордэна быў разбіты там, дзе пазней (у 1411 г.) пабудавалі капліцу. Гэты пункт гледжання, выказаны ўпершыню мною ў 1978 г.[22], цяпер падзяляе ўжо і большасць польскіх калег[23]. Настойлівае імкненне ордэнскага войска як мага хутчэй уступіць у бітву, як і маруджанне польскага караля на працягу некалькіх гадзін, не ў апошнюю чаргу залежала ад руху сонца: Ягайла адкладваў наступ да таго часу, пакуль сонца не пачне свяціць у твар ужо не яму, а ворагу[24].

Ekdahl, *Tannenberg* I, c. 32, спас. 56) і *Bitwa grunwaldzka (geneza — przebieg — dzieje — znaczenia)* // Grunwald w świadomości Polaków. Ягоная найноўшая праца з'явілася ў 1988 г. на польскай мове ў Торуні (як у спас. 36).

[21] Scriptores rerum Prussicarum III, c. 315.

[22] Даклад на „Вечары Сярэднявечча" ў Інстытуце гісторыі імя Макса Планка ў Гётынгене 8 траўня 1976 г. Паводле ранейшай думкі, на месцы пабудаванай пазней капліцы сустрэў смерць Ульрых фон Юнгінген.

[23] Незалежна ад аўтара Анджэй Надольскі таксама вылучыў гіпотэзу, што капліца была пабудаваная на месцы знаходжання баявога лагера Ордэна; гл. яго працу *Z problematyki archeologicznych badań pola grunwaldzkiego* // Komunikaty Mazursko-Warmińskie 1980, № 2 (148), c. 123–132, тут c. 124 і 130. Таксама, напрыклад, М. Біскуп у кнізе, пазначанай у спас. 1, c. 364.

[24] Аўтар упершыню выказаў гэты тэзіс у інтэрв'ю Першай праграме польскага радыё і тэлебачання 15 ліпеня 1985 г., аднак польскія гісторыкі да гэтага часу не абмяркоўвалі яго (гл. спас. 81). Больш падрабязна пра гэта будзе сказана ў другім томе маёй кнігі пра Танэнберг.

Само поле бітвы знаходзіцца, згодна з гэтай думкай, не паміж Танэнбергам і Грунвальдам і не на ўсход адсюль, як меркавалася ў ранейшых даследаваннях, а на палях і ў даліне на поўдзень і паўднёвы ўсход ад вёскі Грунфельдэ. Па назве гэтага паселішча палякі называюць месца бітвы Грунвальдам — так гучыць паланізаваны варыянт Грунфельдэ. Літоўцы гавораць пра бітву пад „Жальгірысам" (пераклад назвы Грунвальд на літоўскую мову), а немцы назвалі бітву Танэнбергскай — па назве таго паселішча, у напрамку якога яны выступілі[25].

Такім чынам, у даследаваннях існуюць два супярэчлівыя пункты гледжання, археалагічныя ж пошукі не далі ніякіх доказаў на карысць адной з гэтых гіпотэз.

Вядомым эпізодам з'яўляецца перадача двух мячоў Ягайлу і Вітаўту пры выкліку на бітву — такі звычай існаваў тады ў рыцараў. У тых абставінах ён меў крыўдны акцэнт. Перадача адбылася без ведама вялікага магістра; магчыма, Ульрых фон Юнгінген яшчэ знаходзіўся на той час разам з самым цяжкаўзброеным кавалерыйскім атрадам, сваім трэцім войскам, у лагеры. Эпізод з перадачай мячоў пазней шырока выкарыстоўвала польская прапаганда — ён інтэрпрэтаваўся як дэманстрацыя фанабэрыі, *superbia* Ордэна. Гэтая прапаганда была вельмі паспяховай[26].

Пасля першапачатковых поспехаў ордэнскага войска бітва скончылася яго знішчальным паражэннем. Тлумачыўся такі паварот, у прыватнасці, цяжкай тактычнай памылкай, зробленай пэўнай часткай воінаў Ордэна на левым флангу: яны кінуліся пераследаваць літоўцаў, якія пачалі адступаць, і адарваліся ад сваіх баявых парадкаў, і тут іх, атакуючы злева, перахапілі палякі. Част-

[25] Адносна поглядаў аўтара наконт выступлення войскаў і месца знаходжання поля бітвы гл.: Tannenberg I, с. 354–357. Пад час паседжання ў Берліне ў красавіку 1989 г. (пар. спас. 13) прафесар Г. Лябуда паведаміў мне, што ён цалкам падзяляе гэты новы тэзіс наконт Грунвальда. На яго думку, гэта вырашае і праблему розных назваў бітвы.

[26] Да гэтага пытання падрабязна раздзел *„Пісьмовыя крыніцы пра бітву да Аналаў Яна Длугаша"* // Ekdahl, *Tannenberg* I, с. 107–274.

ку рыцараў узялі ў палон, іншых забілі. Паводе адной праўдзівай тагачаснай крыніцы, уцёкі гэтыя былі падманным тактычным манёўрам літоўцаў менавіта з такой мэтай[27]. Гэта стала пачаткам паражэння Ордэна, заклала яго падмурак, далейшы ход бітвы ўжо нічога не мог змяніць. Хаця вялікі магістр яшчэ і спрабаваў павярнуць да сябе ваенны шацунак, накіраваўшы цяжкаўзброенае падраздзяленне свайго войска — 15 ці больш харугваў (так называліся тактычныя адзінкі войска) — у масіраваную атаку на цэнтральныя польскія сілы і сам тройчы *(?) аб'ехаў яго на кані*, але спроба не мела поспеху, бо вораг меў колькасную перавагу, тым больш што частка вясковага рыцарства, а таксама некаторыя іншыя атрады кінуліся ўцякаць. Войска вялікага магістра было акружана і знішчана палякамі, іншаземнымі наёмнікамі і „паганцамі" (так па ордэнскай тэрміналогі называліся літоўцы). Акрамя Ульрыха фон Юнгінгена і іншых асоб з вышэйшага камандавання сваю смерць у бітве знайшлі больш за 200 братоў-рыцараў, амаль трэцяя частка усіх братоў-рыцараў Прусіі. Пад канец дня быў зломлены апошні супраціў: пераможцы ўзялі штурмам зробленую з павозак крэпасць у баявым лагеры Ордэна. У 1411 г. новы вялікі магістр Генрых фон Плаўэн (лістапад 1410–1413) загадаў пабудаваць на тым месцы капліцу Дзевы Марыі, рэшткі муроў якой захаваліся да гэтага часу[28]. У

[27] Гэтая крыніца — ліст незнаёмага вялікаму магістру прыкладна ад 1413 г. — апублікавана ў: Sven Ekdahl, *Die Flucht der Litauer in der Schlacht bei Tannenberg 1410* // Zeitschrift für Ostforschung 12, 1963, с. 11–19, тут с. 16 і наст. Гл. таксама яго ж *Banderia* (як у спас. 41), с. 16, спас. 36, і M. Jučas. *Žalgirio mūšis* (як у спас. 5), с. 113 і наст.

[28] Sven Ekdahl, *Tannenberg* I, с. 191 і наст., 325 і наст., 333–344 і малюнак. Польскія археолагі правялі грунтоўнае даследаванне рэштказў капліцы і адкапалі рэшткі сценак падмурка (1985 г.), так што план пабудовы відаць дакладна. Гл. малюнак да артыкула аўтара пра Ульрыха фон Юнгінгена (як у спас. 7). Адносна гісторыі капліцы гл. таксама: Sven Ekdahl. *Ein Inventar der Propstei auf dem Schlachtfeld von Tannenberg aus dem Jahre 1442* // Preußenland 21, 1983, с. 1–9. Пар. таксама № 584d згаданага ў спас. 46 каталога выставы, с. 522 і наст., з выявай булы папы Яна XXIII ад

бітве загінула амаль усё вышэйшае кіраўніцтва Ордэна, а з ім і тысячы простых воінаў і сялян з ордэнскага войска. На баку праціўніка найбольш цяжкія страты панёс Вітаўт, таму што менавіта яго войску давялося на пачатку бітвы ўзяць на сябе ўвесь цяжар барацьбы. У адной з крыніц адзначаецца, што „ў абедзвюх частках", гэта значыць, на абодвух баках, загінула па 8000 чалавек[29]. Цела вялікага магістра, які загінуў у бітве, было з вялікім ушанаваннем прывезена ў Остэродэ, а на чацвёрты дзень пасля бітвы перавезена адтуль у Мальбарк. Ён быў пахаваны побач з іншымі вялікімі магістрамі Нямецкага ордэна ў капліцы Св. Ганны.

Тут нам хацелася б звярнуца да важнай праблемы падманных уцёкаў часткі літоўскага войска. Здагадка, што так званыя ўцёкі былі тактычным манёўрам літоўцаў з мэтай разбурэння баявых парадкаў ворага, якая выказвалася ў даўнейшых даследаваннях — напрыклад, Станіслава Куёта[30], Канстанціна Юргеля[31] і Веслава Маеўскага[32], стала ўпэўненасцю дзякуючы таму, што ў архіве Нямецкага ордэна ў 1963 г. была знойдзена і потым апублікавана[33] вышэйзгаданая крыніца. У лісце, датаваным прыкладна 1413 г., аўтар перасцерагае вялікага магістра ад паўтарэння падзей бітвы пры Танэнбергу і тлумачыць манёўр разлікам на тое, што людзям уласціва імкненне даганяць уцекачоў[34]. Гэтая тактыка пад Танэнбергам мела абсалютны поспех і стала падмуркам паражэння ордэнскага войска. Ці дамаўляліся Ягайла і Вітаўт пра такую тактыку, як мяркуе Мячыславас Ючас у сваёй

6 кастрычніка 1412 г., якою ён дае індульгенцыю тым, хто ў пэўныя святы наведвае капліцу.

29 Ekdahl, *Tannenberg* I, c. 182 і наст.

30 Stanisław Kujot: [Rok 1410] Wojna // Roczniki Towarzystwa Naukowego w Toruniu, Bd. 17. Toruń 1910, тут с. 156.

31 Constantine Jurgėla: Tannenberg, New York 1961, с. 48 і наст.

32 Wiesław Majewski: Kilka uwag o bitwie pod Grunwaldem // Zapiski Historyczne 25, 1960, 2, с. 9–3, тут с. 18–22.

33 Ekdahl, *Die Flucht der Litauer* (як у спас. 27). Там даецца таксама падсумаванне дыскусіі ў даўнейшай літаратуры.

34 Тамсама, с. 16 і наст.

кнізе пра бітву, што толькі што выйшла з друку[35], — невядома, доказы адсутнічаюць, але гэта вельмі верагодна. У любым выпадку было б недапушчальнай метадычнай памылкай не прымаць да ўвагі непрадузятае меркаванне сучасніка падзей, выказанае ў яго лісце вялікаму магістру, і аддаваць перавагу шмат пазнейшаму тэндэнцыйнаму апісанню храніста Яна Длугаша, як гэта робяць даследчыкі Стэфан М. Кучыньскі і Мар'ян Біскуп, знаходзячыся пад уплывам Длугаша[36]. Даследчыкі да гэтага часу амаль не прымалі да ўвагі апісанне бітвы ў французскай хроніцы манаха з Сэн-Дэні, якое грунтуецца на прыязным да Ордэна пісьмовым сведчанні ад жніўня 1410 г. і паказвае проста згубны вынік падманных уцёкаў літоўцаў[37]. У ім гаворыцца: калі воіны Ордэна ў сваім пераследаванні перабеглі адкрытае поле і дасягнулі лесу, на іх з фланга напалі моцныя сілы, якія да таго часу хаваліся ў лесе, — палякі; пераследчыкі былі ўжо зусім знямажаныя папярэдняй сутычкай і не здолелі адбіць моцную атаку. Паводле запісу манаха з Сэн-Дэні лёс бітвы — перамога ці паражэнне — вырашыўся ў яе першай фазе[38].

[35] M. Jučas (як у спас. 5), с. 164.

[36] У гэтым дачыненні гл. падрабязны разгляд дыскусіі ў М. Ючаса, с. 107–115, асабліва с. 114. Апісанне падзей у хроніцы Яна Длугаша вельмі шырока выкарыстоўвалася савецкімі даследчыкамі. Так, у т. 2 "*Истории военного искусства*" Я. А. Разіна (нямецкі пераклад выйшаў у 1960 г.), с. 440, напісана: „Асабліва стойка змагаліся пад Грунвальдам рускія атрады. Смаленскія палкі неслі галоўны цяжар барацьбы. Рускія прыкрылі атакаваны фланг апературыўнага пастраення войскаў і выратавалі палякаў ад знішчэння. Бітва вырашылася апошняй атакай літоўска-рускіх атрадаў": Marian Biskup. *Wielka wojna Polski i Litwy z Zakonem Krzyżackim (1409–1411) w świetle najnowszych badań* // Expansja niemieckich zakonów rycerskich, Toruń 1990, c. 169–185.

[37] Ekdahl, *Tannenberg* I, c. 183–185.

[38] *Chronique du religieux de Saint-Denys, contenant le règne de Charles VI, de 1380–1422, publiée en latin pour la première fois et traduite par M. L. Bellaguet, précédée d'une introduction par M. de Barante,* Bd. I–VI, Paris 1839–1852 (= Collection

Завяяваныя харугвы ордэнскага войска былі прывезены ў Кракаў і Вільню і вывешаны ў саборах як пераможныя трафеі. Потым яны зніклі. Харугвы, якія трапілі на Вавель, знаходзіліся там яшчэ ў 1603 г.: яны згадваліся тады ў „Даведніку пра касцёлы кракаўскія”[39], тыя ж, што былі прывезены ў Віленскі сабор, зніклі, як можна меркаваць паводле даследаванняў Альвідаса Нікжэнтайціса, яшчэ ў 1530 г.[40]. На шчасце, дзякуючы каляровым малюнкам і каментарам да іх у пергаментным рукапісе „Banderia Prutenorum” сярэдзіны XV ст.[41] нам вядома, як яны выглядалі, — прынамсі, тыя, што захоўваліся ў Кракаве.

У сваім апісанні бітвы кантынуатар хронікі Посільге, які звычайна ставіўся да Ордэна стрымана, крытыкуе яго за недаацэнку праціўніка і адзначае, што ўвогуле справы Ордэна выглядалі не найлепшым чынам. Адно з яго выказванняў можна, відавочна, зразумець так: вялікі магістр неразумна зрабіў толькі адзін гуф (трэцяе войска), з якім і выправіўся на бітву, у той час як Ягайла меў у сваім распараджэнні некалькі гуфаў, „і гэта прынесла Ордэну вялікую шкоду, а каралю і ягоным людзям вялікую перавагу на іх шчасце і карысць”[42]. У іншым месцы храніст рэзка крытыкуе Ульрыха фон Юнгінгена за тое, што той павёў у паход вельмі многа старых братоўрыцараў, якія і загінулі пад Танэнбергам. Застаўшыся

de documents inédits sur l’histoire de France, Première série, Histoire politique, 16). Паведамленне пра бітву знаходзіцца ў IV т., Paris 1842, с. 334, 336; пераклад на франц. мову тамсама, с. 335, 337. Гл., напрыклад, таксама Scriptores rerum Prussicarum III, с. 455 і наст.

39 *Przewodnik kościołów krakowskich, Kraków 1603,* с. 17. Больш падрабязна ў: Ekdahl, *Banderia* (як у спас. 41), с. 2.

40 Паведамленне спадара д-ра Нікжэнтайціса.

41 Апошняе па часе выданне: Sven Ekdahl. *Die „Banderia Prutenorum” des Jan Długosz — eine Quelle zur Schlacht bei Tannenberg 1410. Untersuchungen zu Aufbau, Entstehung und Quellenwert der Handschrift. Mit einem Anhang:* Farbige Abbildungen der 56 Banner, Transkription und Erläuterungen des Textes, Göttingen 1976 (= Abhandlungen der Akademie der Wissenschaften in Göttingen, Philologisch-historische Klasse, Dritte Folge, №9 104). Літоўскі пераклад — Vilnius 1992.

42 Scriptores rerum Prussicarum III (як у спас. 9), с. 317.

дома, яны прынеслі б куды больш карысці. Гэта было „надзвычай кепскае” рашэнне вялікага магістра[43]. Аднак канчатковай ацэнкі роля вялікага магістра як палкаводца яшчэ не атрымала.

## III

Паражэнне пад Танэнбергам было для Ордэна катастрофай, але яшчэ не смяротным прысудам. Польскалітоўскае войска прайшло праз Прусію ў паўночным напрамку і пачало 25 ліпеня аблогу галоўнай цвярдыні Ордэна — Мальбарк. Крэпасць паспяхова абараняў пазнейшы вялікі магістр Генрых фон Плаўэн. Разлад сярод саюзнікаў, эпідэміі ў войску, цяжкасці з забеспячэннем, пагроза нападу венгерскай арміі на паўднёвую Польшчу (праўда, адбыўся ён толькі ў сярэдзіне кастрычніка, прычым сіламі аднаго невялікага падраздзялення), дапамога Ордэну з Інфлянтаў, — вось тыя прычыны, чаму 21 верасня аблога была знятая, прычым Ягайлу не ўдалося захапіць такі жаданы для яго грашовы скарб Ордэна. Ён спадзяваўся, што захопленымі грашыма зможа разлічыцца са сваімі наёмнікамі, якія большай часткай паходзілі з Чэхіі, аднак быў вымушаны пакінуць Прусію, не дасягнуўшы гэтай мэты[44]. Ягайла знаходзіўся ў цяжкім фінансавым становішчы. Узброеныя сілы Ордэна адваявалі адну за адной амаль усе, за невялікім выключэннем, занятыя Ягайлам крэпасці, было заключана перамір’е, а 1 лютага 1411 г. „Вялікая вайна” закончылася Першым Торуньскім мірам.

Для Нямецкага ордэна Торуньскі мір быў большым выпрабаваннем, чым часта лічаць, і наступствы яго былі цяжэйшымі, чым мяркуецца. Даследчык, які абмяжуецца толькі юрыдычным аспектам тэксту мірнага пагаднення, зазначыць, што ўмовы мірнай дамовы былі надзвычай спрыяльныя для Ордэна[45], які павінен быў

43 Тамсама, с. 319. Пар. агляд, згаданы ў спас. 7.

44 Па гэтым пытанні: Ekdahl, *Tannenberg* II (пар. спас. 5).

45 Тэкст мірнай дамовы ў: Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preußen im 15. Jahrhundert, hrsg. von Erich Weise,

толькі саступіць Жамойць Ягайлу і Вітаўту на час іх жыцця, а Закжэў (на Укры) і Добжынскую зямлю аддаць герцагу Мазавецкаму Зімавіту і каралю Ягайлу. Абодва бакі павінны былі адпусціць сваіх палонных без выкупу і бесперашкодна перадаць захопленыя крэпасці, гарады і землі другому боку. Такая ўмова, здавалася б, мела перавагі менавіта для Ордэна. Але на самай справе гэта была ўсяго толькі ўмова *pro forma*, якая павінна была адпавядаць патрабаванню сярэднявечнага права вайны да дзейснага заключэння міру, што прадугледжвала адпусканне палонных без выкупу[46]. У адказ на вызваленне палонных і вяртанне крэпасцяў Ягайла пад час перамоў запатрабаваў ад Ордэна 100 000 коп чэшскіх грошаў, і прадстаўнікі Ордэна запэўнілі яго, што гэтая сума будзе выплачана ў чатыры раты[47]. Абавязацельства пра выплату, падпісанае вялікім магістрам Генрыхам фон Плаўэнам у Торуні 31 студзеня 1411 г., — як перадумова заключэння мірнай дамовы на наступны дзень — было знойдзена толькі ў 1979 г. у адным з фаліянтаў Ордэна ў выглядзе копіі і потым апублікавана[48]. У выніку такога абцяжарання фінансаў Ордэна, і без таго ўжо спустошаных аплатай наёмнікаў і іншымі выдаткамі, Ордэн апынуўся ў вельмі дрэнным фінансавым становішчы, што справакавала канфлікт з прускімі станамі, якіх Ордэн для аплаты даўгоў мусіў абкласці высокімі спецыяльнымі падаткамі (канфлікт з Данцыгам 1411 г.). Карані рэзкага заняпаду ордэнскай прускай дзяржавы пасля 1410 г. трэба шукаць

Bd. I (1398–1437), 2. Aufl. Marburg 1970, № 83, c. 83–89.

[46] S. Ekdahl, *Tannenberg I*, c. 169 і наст., спас. 51. Гл. таксама тэкст каталога выставы Свэна Экдаля да № 584b „Polen im Zeitalter der Jagiellonen 1386–1572" [Schallaburg 8. Mai-2. November 1986], Wien 1986 (=Katalog des Niederösterreichischen Landesmuseums, Neue Folge, № 171), c. 521 і наст. (з ілюстрацыямі).

[47] Гл. спас. 51.

[48] Markian Pelech. *Der Verpflichtungsbrief des Hochmeisters Heinrich von Plauen bezüglich der Bezahlung von 100 000 Schock Böhmischer Groschen an den König von Polen vom 31. Januar 1411* // Preußenland 17, 1979, 4, c. 55–64. Пар.: Weise, Staatsverträge I, № 84, c. 89 і наст.

у пагібельнай бітве пад Танэнбергам і яе наступствах, да якіх належала і абавязацельства ад 31 студзеня 1411 г. Тэкст мірнай дамовы ад 1 лютага стварае памылковае ўяўленне пра гэтае становішча і адлюстроўвае фактычную сітуацыю толькі часткова[49].

Дзякуючы гэтаму Ягайла, нягледзячы на беспаспяховую аблогу Мальбарка, завалодаў вялікімі сумамі грошай для аплаты сваіх наёмнікаў, хоць цалкам усе грошы так і не былі выплачаны. Адна нататка ў архіве перапіскі Ордэна[50] сведчыць пра тое, што вялікаму магістру было цяжка выплаціць нават ужо другую рату выкупу 24 чэрвеня 1411 г. у Торуні. Для параўнання адзначым, што 100 000 чэшскіх грошаў адпавядалі прыкладна кошту 10 000 баявых каней[51].

Тое, што каса Ордэна, якая лічылася ў Еўропе самай напоўненай, апусцела, тлумачылася не толькі частковымі выплатамі адкупных. Сваю ролю выканалі таксама значныя сумы, якія вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген

[49] Гэтага не заўважыў Клаўс Найтман у сваім вялікім даследаванні пра дзяржаўныя дамовы Нямецкага ордэна; гл. яго *„Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preußen 1230–1449. Studien zur Diplomatie eines spätmittelalterlichen deutschen Territorialstaates,* Köln, Wien 1986 (= Neue Forschungen zur brandenburg-preußischen Geschichte 6); старонкі пазначаны ў рэгістры.

[50] Неапублікаваныя крыніцы па гісторыі Нямецкага ордэна ў Прусіі з часу бітвы пад Танэнбергам знаходзяцца перш за ўсё ў Сакрэтным архіве „Прускі Культурны фонд", Берлін, XX галоўны аддзел „Дзяржаўны архіў Караляўца" (GStAPK, XX. HA StA Kbg), Архіў перапіскі ордэна (OBA) і пергаментныя граматы (па гэтым пытанні Э. Ёахім — В. Губач), а таксама фаліянты ордэна (OF). Больш падрабязна гл.: S. Ekdahl, *Tannenberg I,* с. 77–85. Згаданая вышэй нататка — у Архіве перапіскі ордэна № 1534.

[51] Паколькі 100 000 коп чэшскіх грошаў у той час адпавядалі прыкладна 150 000 прускіх марак, а месячная аплата найміта складала з другой паловы кастрычніка 1410 г. дванаццаць марак, то Ордэн мог бы за гэтыя грошы ўтрымліваць каля 2083 коп'яў, гэта значыць 6250 вершнікаў, на працягу шасці месяцаў, пры тым што найміты самі плацілі б за пражыванне, утрыманне і харчаванне. Іншы прыклад: гэтая сума адпавядала кошту прыкладна 45 000 тон жыта.

выплачваў Жыгімонту Венгерскаму і Вацлаву Чэшскаму, каб прыцягнуць іх на бок Ордэна, і непамерны кошт наёмнікаў у час вайны. Разлікі з большасцю наёмнікаў Ордэна за 1410–1411 г. зарэгістраваныя ў так званай „Кнізе жолду"[52].

„Ціхія" да таго часу багацці з казны Ордэна проста затапілі рынак усходняй часткі Цэнтральнай Еўропы, што выклікала інфляцыю і прывяло да абясцэньвання грошай і росту цэн. Пасля Торуньскага міру надышоў доўгі перыяд фінансавай, а тым самым і палітычнай і ваеннай слабасці. Такое становішча абвастралася вялікімі людскімі стратамі, гібеллю жывёлы і стратай каштоўнасцей. Вышэйшае кіраўніцтва Ордэна загінула, у бітве пад Танэнбергам загінулі і войты, што не магло не прывесці да развалу ўлады і таму мела цяжкія наступствы для ўсіх галін кіравання. Назавем іншы прыклад: такая важная для рыцарскага Ордэна конегадоўля была амаль цалкам знішчана, і тут трэба было пачынаць усё з нуля[53].

Таму не здзіўляе той факт, што само насельніцтва ордэнскай дзяржавы называла паражэнне пад Танэнбергам галоўнай прычынай аслаблення Прусіі і яе заняпаду на працягу дзесяцігоддзяў пасля 1410 г. Гэта яскрава вынікае з заключэння, якое горад Морунген у 1425 г. склаў па даручэнні вялікага магістра Паўля фон Русдорфа; *„stryt"*, бітва, называецца ў ім першым і другім пунктам у пераліку прычын заняпаду. Вельмі часта ў аналагічных заключэннях з розных мясцовасцяў, якія захаваліся за Прусіяй, называецца яшчэ адна пры-

52 Як у спас. 18.

53 S. Ekdahl, *Tannenberg* I, c. 8. Падрабязна ў: Fritz Jünger: *Herkunft, Rassezugehörigkeit, Züchtung und Haltung der Ritterpferde des Deutschen Ordens. Ein Beitrag zur Geschichte der ostpreußischen Pferdezucht und der deutschen Pferdezucht im Mittelalter* // Zeitschrift für Tierzüchtung und Züchtungsbiologie 2, 1925, c. 211–308, тут найперш c. 237, 266–280, 296. Гл. таксама: Sven Ekdahl. *Das Pferd und seine Rolle im Kriegswesen des Deutschen Ordens* // Das Kriegswesen der Ritterorden im Mittelalter, Toruń 1991 (= Ordines militares VI), c. 29–47.

чына заняпаду — абясцэньванне грошай[54]. Да гэтага дадаваўся і такі важны ў гульні палітычных сіл фактар, як страта прэстыжу. Пра гэта сведчыць ліст незнаёмага гараджаніна з Прусіі ад 1427 г., адрасаваны гораду Штральзунду. Ён праводзіць паралелі паміж вайной Нямецкага ордэна з Польшчай і ВКЛ ды вайной Ганзы з Паўночным саюзам (Данія — Швецыя — Нарвегія). Відавочна, слушна піша ён, што прускае панства недаацаніла караля польскага і Вітаўта, і таму страціла зямлю, за́мкі, людзей, гонар, дабро і ўладу[55].

Паражэнне і яго наступствы сталі паваротным пунктам і ў рассяленні немцаў на Усход. Замарудзілася яно яшчэ ў сярэдзіне XIV ст., у чым сваю ролю адыграла чума, але ў наступныя пяцьдзясят гадоў недахоп рабочай сілы і насельніцтва ўдавалася часткова кампенсаваць за кошт інтэнсіфікацыі „экспедыцый на Літву", якія не ў апошнюю чаргу мелі на мэце захоп палонных і дастаўку іх у Прусію ў якасці насельнікаў і таннай рабочай сілы. Нагадаем для прыкладу, што комтур бальгскі выдаткаваў у 1382 г. вялізную суму — 4000 марак — на рассяленне ваеннапалонных[56]. Хоць пасля Танэнберга ўнутраная каланізацыя і рассяленне працягваліся, але Мельнскі мірны дагавор 1422 г. на шмат стагоддзяў (да 1919 г.) вызначыў усходнюю мяжу Ордэна, якая стала і мяжою нямецкага рассялення на Ўсход. Польскія і літоўскія гісторыкі надаюць гэтаму факту вялікае значэнне: пад Грунвальдам-Жальгірысам, падкрэсліваюць яны, аб'яднанымі сіламі палякаў і літоўцаў быў спынены нямецкі *Drang nach Osten*, нямецкі ж бок такую трактоўку ўсур'ёз не прымае, называючы яе прапагандай. Але як

[54] Больш падрабязна гл.: S. Ekdahl, *Tannenberg* I, с. 8 і наст. (цытуюцца крыніцы).

[55] Тамсама, с. 9.

[56] *Das große Ämterbuch des Deutschen Ordens, hrsg. von Walther Ziesemer,* Danzig 1921 (а таксама рэпрынт: Вісбадэн, 1968), с. 150. Комтур таксама сказаў літоўцам, што гэта каштуе 4000 м[арак]. Такім чынам у Кінштуце засталося доўгу 1000 марак за яго палонных, на што ў яго ёсць пісьмовае пацверджанне.

бы тое ні было, устанаўленне мяжы ў 1422 г. — неабвержны факт. Жамойць і Літва як землі патэнцыйнага засялення былі страчаны.

Пад час сваіх ранейшых даследаваняў я ў публікацыях[57], інтэрв'ю[58], выступленнях у дыскусіях[59] зноў і зноў спрабаваў звярнуць увагу калег-гісторыкаў на вышэйназваны новы аспект паходаў на Літву. У працах некаторых аўтараў — напрыклад, Генрыка Лаўмяньскага[60], Фрыдрыха Бенінгхофена[61] — не даецца вычарпальнага адказу на пытанне, чаму Нямецкі ордэн пераганяў так многа людзей як ваеннапалонных у Прусію і як яны там выкарыстоўваліся. Не ўсіх абменьвалі на палонных з Ордэна; часткова іх прадавалі[62], але галоўным чынам, як гэта вынікае з прыведзенага прыкладу з комтурам бальгскім, выкарыстоўвалі для рассялення і як танную рабочую сілу. Гэтым у пэўнай ступені тлумачыцца тая ўпартасць, з якой Ордэн трымаўся за „экспедыцыі на Літву". Увесь комплекс праблем — хрысціянізацыя, рассяленне, „экспедыцыі на Літву" — заслугоўвае грунтоўнага, аб'ектыўнага даследавання, на якое мне хаце-

[57] Ekdahl, *Banderia,* c. 123–124, спас. 37; S. Ekdahl, *Tannenberg I*, c. 6, спас. 16; S. Ekdahl, *Die Rolle der Ritterorden bei der Christianisierung der Liven und Letten* // Gli inizi del cristianesimo in Livonia-Lettonia. Atti del colloquio internazionale di storia ecclesiastica in occasione del'VIII centenario della chiesa in Livonia (1186–1986). Roma, 24–26 giugno 1986. Città del Vaticano 1989 (= Pontificio comitato di scienze storiche. Atti e documenti 1), c. 203–243, тут c. 238.

[58] *Bitwa o Grunwald. Rozmowa ze Svenem Ekdahlem* // Życie Literackie, 14 ліпеня 1985 г.

[59] Так, напр., на Міжнароднай канферэнцыі па праблематыцы гісторыі царквы „La cristianizazione della Lituania" [Рым, 24–26 чэрвеня 1987 г.], арганізаванай Папскай гістарычнай камісіяй, і на Міжнароднай канферэнцыі „Нямецкі ордэн у Лівоніі" 13–15 лістапада 1987 г. у Боне, арганізаванай Балтыйскай гістарычнай камісіяй.

[60] Henryk Łówmiański. *Agresja Zakonu Krzyżackiego na Litwę w wiekach XIII–XV* // Przegląd Historyczny 45, z. 2–3, c. 338–371.

[61] Friedrich Benninghoven: *Zur Technik spätmittelalterlicher Feldzüge im Ostbaltikum* // Zeitschrift für Ostforschung 19, 1970, 4, c. 631–651.

[62] Параўн.: S. Ekdahl, *Banderia*, c. 123–124, спас. 37.

ласся б заахвоціць калег; тут можна было б выкарыстаць для параўнання паралельныя з’явы пад час іспанскай Рэканкісты[63]. У сваёй трохтамовай працы пра наведванне Вернэр Паравічыні звернецца да некаторых аспектаў гэтай надзвычай цікавай і шматраннай тэмы[64].

Але вернемся да тэмы Танэнберга. Наступствы паражэння Ордэна адчуваліся не толькі ў Прусіі, але і ў Інфлянтах і ў заходніх абласцях. Паўночны саюз пачынае прыглядацца да Эстоніі, і ўжо ў 1411 г. Эрых Памеранскі, спрабуючы выкарыстаць цяжкае становішча Ордэна, заяўляе прэтэнзіі на правінцыі Гарыен і Вірланд. Яшчэ да смерці каралевы Маргарэты (1412 г.) да вялікага магістра была накіравана дэлегацыя з патрабаваннем аддаць Эстонскае герцагства Даніі. Магістр Інфлянцкага ордэна быў вымушаны пакарыцца патрабаванням апазіцыйных кляштараў. Да гэтага дадалася фінансавая ноша — неабходнасць выплачваць грашовую дапамогу прускаму адгалінаванню Ордэна[65].

У абласцях складвалася аналагічная сітуацыя: „надзвычайныя” выплаты Прусіі можна было часткова пакрыць толькі продажам і закладам, што азначала эканамічнае спусташэне ўласнай фінансавай субстанцыі[66].

Станоўчым наступствам бітвы — прынамсі з пункту гледжання насельніцтва — можна лічыць рост уплыву станаў на палітыку Ордэна. Яшчэ ў XIV ст. на судовых працэсах у Ордэне прыцягвалі сведкаў з рыцараў і гараджан, але толькі рост фінансавых і ваенных патрабаванняў пасля паражэння 1410 г. — вымушана — абумовіў больш уважлівае стаўленне да іх з боку

[63] Першапачатковы намер аўтара самому заняцца гэтай тэмай (гл. *Tannenberg* I, с. 5, спас. 16), хутчэй за ўсё, не ўдасца рэалізаваць з прычыны недахопу часу. Пар. далей працу Уільяма Урбана пра „The Frontier Problem in Baltic History”.

[64] Як у спас. 6.

[65] S. Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 10.

[66] Тамсама. Так, сярод грамат і актаў ордэнскай вобласці Кобленц, 55 A1, № 203, знаходзіцца спіс страт, якія вобласць Кобленц панесла ў выніку аказання дапамогі Нямецкаму ордэну ў Прусіі ў перыяд 1420, 1433 і 1445 г. Параўн. S. Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 96.

Ордэна. Усё гучней саслоўі патрабавалі права на ўдзел у вырашэнні галоўных пытанняў, у тым ліку і знешнепалітычных. Аднак у час праўлення вялікіх магістраў Кюхмайстара і Русдорфа яны не дабіліся ад Ордэна згоды на прадстаўленне ім кансенсуснага права пры вырашэнні пытанняў пра саюз, вайну і мір. На працэсе па пытанні стварэння Прускага саюзу ў 1453 г. саслоўі ў прысутнасці кайзера спасылаліся на тое, што згубная вайна 1410 г. была распачата без іх ведама, згоды і парад[67].

## IV

Да галоўных праблем, якія паўсталі перад Ордэнам у выніку Першага Торуньскага міру, належала і пытанне, як у будучым можна спраўляцца з ваеннымі праблемамі ў стасунках з Польшчай і ВКЛ. Уласнага войска ордэнскай краіны для значнага выпрабавання сіл было недастаткова, таму вялікія магістры выкарыстоўвалі вярбоўку, якая абыходзілася вельмі дарага і яшчэ больш падрывала фінансы. Дзесяцігоддзі пасля 1410 г., з перапынкам на 20 гадоў, з 1435 да 1454, — гэта час вялікіх вярбовак наёмнікаў. У Сілезіі, Чэхіі і іншых землях Райха на службу бралі прафесійных воінаў-коннікаў, а ў Данцыгу і іншых балтыйскіх гарадах вербавалі маракоў — іх накіроўвалі ў гарнізоны крэпасцяў ці ў ахоўныя атрады, якія неслі службу на Вісле і ў яе рачной сістэме[68]. Больш-менш

67 Гл. па гэтай праблеме: Klaus Neitmann. *Die preußischen Stände und die Außenpolitik des Deutschen Ordens vom 1. Thorner Frieden bis zum Abfall des Preußischen Bundes (1411–1454).* Пра формы і шляхі ўплыву саслоўяў гл.: Ordensherrschaft, Stände und Stadtpolitik. Zur Entwicklung des Preußenlandes im 14. und 15. Jh., hrsg. v. Udo Arnold, Lüneburg 1985 (= Schriftenreihe Nordost-Archiv, Bd. 25), с. 27–80.

68 Літаратура ў: S. Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 11. Больш падрабязна пра маракоў у: S. Ekdahl, *„Schiffskinder" im Kriegsdienst des Deutschen Ordens. Ein Überblick über die Werbungen von Seeleuten durch den Deutschen Orden von der Schlacht bei Tannenberg bis zum Brester Frieden (1410–1435)* // Acta Visbyensia IV, Visby-symposiet för historiska vetenskaper

значная фінансавая перадышка ў такіх умовах была немагчыма. Раней эканамічны дабрабыт не даваў праявіцца напружанасці, якая існавала паміж Ордэнам і прускімі гарадамі, епіскапамі і мясцовай арыстакратыяй — сельскім рыцарствам, але цяпер, у час нягод, усе супярэчнасці выйшлі на паверхню. Хоць рыцарам Ордэна і ўдавалася — дзе жорсткасцю, дзе саступаючы справіцца з незадаволенасцю, але потым усе плаціны, што стрымлівалі напружанне, прарвала. Грамадзянская вайна 1454–1466 г., так званая Трынаццацігадовая вайна гарадоў і станаў, скончылася (пасля таго як у яе ўступіла Польшча) тым, што Нямецкі ордэн, па ўмовах Другога Торуньскага міру 1466 г., страціў вялікія тэрыторыі, а ўрэшце і статус вялікай дзяржавы. Ён мусіў адмовіцца ад Гданьскага Памор'я і Хэлмінскай зямлі з правінцыяй Міхелаў, а таксама ад тэрыторый Эльбланг, Мальбарк, Штума і Крыстбург („Каралеўскай Прусіі" і гарадскіх тэрыторый Гданьск, Эльбланг і Торунь). Падуладная вобласць Эрмландскага біскупства стала самастойнай, а Хэлмінскае біскупства было падпарадкавана духоўнай уладзе архібіскупа гнезненскага. Кожны новаабраны вялікі магістр Ордэна павінен быў прысягаць на вернасць каралю Польшчы — наконт таго, ці была гэта прысяга васала, ці толькі асабістая клятва вернасці вялікага магістра, сярод польскіх і нямецкіх гісторыкаў згоды няма[69]. У 1525 г. апошні вялікі магістр Прусіі Альбрэхт пераўтварыў тую частку Прусіі, якая яшчэ заставалася ў Ордэна, — з Каралеўцом як рэзідэнцыяй вялікага магістра, у свецкае евангелічнае герцагства[70].

У ходзе такога гістарычнага развіцця бітва пад Танэнбергам была вырашальнай падзеяй, яна стала для Ордэ-

1971, Visby 1973, с. 239–274.

[69] Мірны дагавор 19 кастрычніка — гл.: Weise, Staatsverträge II (пар. спас. 45), Marburg 1955, № 403, с. 262–288.

[70] Гл.: Marian Biskup. *Das Ende des Deutschordenstaates Preußen im Jahre 1525 // Die geistlichen Ritterorden Europas,* hrsg. v. Josef Fleckenstein und Manfred Hellmann, Sigmaringen 1980 (= Vorträge und Forschungen 26), с. 403–416.

на „незагойнай ранай", як аднойчы трапна сказаў пра яе Герман Гаймпэль[71].

Польска-літоўская дзяржава дамаглася значнага ўзмацнення сваёй улады ў адносінах да Прускага ордэна і стала адным з самых магутных тэрытарыяльных утварэнняў у Еўропе. Што тут было прычынай, а што — вынікам, сказаць цяжка. У гэтай сувязі важна падкрэсліць і вялікае значэнне эканамічных пераменаў, якія ў познім Сярэдневеччы адбываліся ў Балтыйскім рэгіёне і ў ягоным „тыле", яны абумовілі эканамічны дабрабыт Польскага Каралеўства і ВКЛ.

## V

У ранейшых даследаваннях Нямецкага ордэна бітве пад Танэнбергам ці тым дзесяцігоддзям, якія папярэднічалі ёй, адводзілася цэнтральнае месца. Тлумачылася гэта наступным пунктам гледжання: „шчаслівай" парой Ордэна быў час да 1410 г., дзесяцігоддзі пасля яго сталі перыядам заняпаду, яны не лічыліся цікавымі для больш падрабязнага даследавання. У якасці прыкладу такіх падыходаў дастаткова прывесці цытату з Густава Фрайтага: „Злашчасная бітва назаўсёды знішчыла падарваную моц Ордэна, з таго часу ён марнеў ва ўмовах разбэшчанасці і недахопу грошай"[72]. Гэты „тэзіс пра заняпад" у апошнія дзесяцігоддзі аспрэчваўся цэлым шэрагам нямецкіх і замежных даследчыкаў, якія паказалі, наколькі ўдзячнае поле для працы ўяўляе сабою і час пасля 1410 г. Сёння большасць навукоўцаў гатовы прызнаць самакаштоўнасць XV ст. Такі зрух цікавасці можна толькі вітаць. Гэта не азначае, што бітва пад Танэнбергам страціла сваю вартасць як аб'ект даследавання, але

[71] Hermann Heimpel. *Deutschland im späteren Mittelalter,* Konstanz 1957 (= Handbuch der Deutschen Geschichte, neu hrsg. v. Leo Just, Bd. I, раздз. 5), с. 134.

[72] Gustav Freytag: *Aus den Grenzkriegen im Ordensland Preußen* // яго ж. Bilder aus der deutschen Vergangenheit, 9–10. Aufl. Leipzig 1876, Bd. 2, с. 178–230, тут с. 229. Пар.: Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 64–68.

сведчыць пра тое, што ў агульнай карціне ў параўнанні з нядаўнім часам выявілася больш нюансаў. Самі праблемы бітвы застаюцца, яны не страцілі ні кроплі сваёй прыцягальнай сілы.

Перад гісторыкамі зноў і зноў паўстае кардынальнае пытанне: чаму войска Нямецкага ордэна прайграла вырашальную бітву і чаму польска-літоўскае войска яе выйграла? Ці было паражэнне Нямецкага ордэна аб'ектыўным наступствам унутранага заняпаду, які некаторыя даследчыкі канстатуюць у развіцці Прусіі да 1410 г.? Так, Якаб Кара піша ў трэцім томе сваёй „Гісторыі Польшчы" (1869): „Тое, што настолькі здолела знішчыць адна адзіная бітва, і раней ужо жыло толькі ўяўным жыццём. Тут не месца для падрабязнага апісання ўнутранага жыцця Ордэна, зазначым толькі, што раніцай 15 ліпеня 1410 г. Ордэн быў зламаны не менш, чым вечарам таго дня. Крыніцы яго існавання ўжо пачалі перасыхаць, у крыніцах яго захавання ўжо адбываліся арганічныя змены. У яго рэлігійных стасунках з'явілася расколіна, якая менавіта ў тыя дні шырокай паласою прайшла па ўсім будынку рэлігіі, ад падмурка да самага верху, несучы згубную сілу. Элементы ягонага рыцарскага жыццяператварыліся ў падманную, пазбаўленую сутнасці гульню ценяў. Заблытаны ў традыцыях раскошнага мінулага, захоплены імі, Ордэн прапусціў магчымасць ісці ў нагу са зменамі таго часу, са з'яўленнем новых формаў жыцця і неспадзявана страціў карані, што злучалі яго з роднай глебай, той глебай, на якой ён стаяў"[73].

Іншыя даследчыкі, у адрозненне ад Кара, прытрымліваюцца думкі, што Ордэн напярэдадні бітвы быў настолькі ж моцны, як і раней, так што прычыны паражэння, на іх думку, трэба шукаць хутчэй толькі ў ваеннай перавазе праціўнікаў. У артыкуле 1964 г. пра паходы Нямецкага ордэна на Готланд Фрыдрых Бенінгофен канстатуе наступнае: „Пасля такога бесперашкоднага гарманічнага ўзаемадзеяння Ордэна з яго гарадамі ў

[73] Jacob Caro. *Geschichte Polens,* Bd. 3, Gotha 1869, c. 332.

1398 і 1404 г. унутраны крызіс дзяржавы, які выявіўся ў выніку злашчаснай Танэнбергскай бітвы, успрымаўся як цяжка ўсведамляная нечаканасць. Відавочным фактам мусіць застацца і тое, што на Готландзе змагаліся тыя самыя палкаводцы і воіны, што загінулі потым, у 1410 г., пад Танэнбергам. У 1404 г. заняпад дысцыпліны і маралі ў войску яшчэ нідзе не заўважаўся. Такая нечаканая здрада шчасця, такая змена перакананняў у 1410 г. падымае праблемы і пытанні, якія нягледзячы на ўсе спробы вырашэння будуць цікавіць даследчыкаў і надалей"[74].

Якія ж гэта былі фактары? Як разгортвалася палітычнае, сацыяльнае, эканамічнае і ваеннае развіццё Прусіі ды Польшчы і ВКЛ напярэдадні бітвы? Якія надзейныя сведчанні можна знайсці ў крыніцах? Ці заўважаюцца адрозненні ў асабістай кваліфікацыі палітыкаў і палкаводцаў? Якую ролю адыгралі тактычныя захады і падзеі ў час самой бітвы? За кожнай больш-менш значнай гістарычнай падзеяй можна ўбачыць шэраг фактараў, якія маюць неаднолькавае ўздзеянне, — ад марудных і тых, што больш залежаць ад прыродных умоў, да планаў палітыкаў і палкаводцаў у вырашальных сітуацыях. У доўгім ланцугу прычын, што прывялі ўрэшце да бітвы пад Танэнбергам і паражэння ордэнскага войска, цікавасць выклікаюць апошнія звенні — фактары хуткага і найхутчэйшага дзеяння. Але нельга забываць і пра астатнія абставіны, тыя, што не ляжаць на паверхні, — як, напрыклад, эканамічны росквіт Польшчы ў эпоху позняга Сярэднявечча, які тлумачыўся найперш шырокім экспартам збожжа.

Такім чынам, перш чым задаваць галоўнае пытанне, трэба спачатку спыніцца на больш дробных пытаннях — на агульных праблемах крытычнага вывучэння крыніц, на эканамічных, сацыяльных і ваенна-тэхнічных. І толькі пасля адказу на іх можна будзе адносна ўпэўнена выказваць сваю думку наконт галоўнага пытання. Перш чым складзецца агульная карціна, трэба звесці ў цэлае шмат дробных фрагментаў.

[74] Benninghoven, *Gotlandfeldzüge* (як у спас. 3), с. 477.

Які ж шлях будзе аптымальным для знаходжання адказу на гэтыя шматлікія пытанні? Новых крыніц з пачатку XX ст. з'явілася не так многа, гэта тычыцца найперш „наратыўных" крыніц, а вось колькасць навуковых публікацый вельмі вырасла, усе іх цяжка ўлічыць. З цягам часу ўзнікла столькі гіпотэз, галоўным чынам адносна ходу бітвы, што даследчыкі часткова згубілі доступ да сутнаснай, першараднай праблематыкі і пачынаюць патрохі ператварацца ў „самазабеспячэнцаў". Па-англійску гэта называецца *„self-breeding"*. Пытанне, якое трэба задаваць зноў і зноў, гучыць так: Якія крыніцы і які матэрыял крыніц варта выкарыстоўваць, а ад якіх лепш адмовіцца? Адкуль паходзяць, напрыклад, звесткі ў хроніках, якія тэндэнцыі ў іх можна прасачыць, у якіх суадносінах яны знаходзяцца паміж сабою? Наколькі яны залежаць адна ад другой, калі яны былі напісаны, старэйшыя гэта крыніцы ці больш позніяʼ Трэба пастарацца расчысціць, выявіць надзейныя з іх, тыя, з якімі можна будзе працаваць далей. Патрабуецца больш строгая методыка, больш строгі аналіз, а таксама крытычны падыход да з крыніц[75].

Сам гэты шлях лёгка абазначыць у тэорыі, аднак па ім цяжка ісці на практыцы. Пэўную ролю тут іграе ўжо выбар формы публікацыі: задачы такога кшталту, пра які тут ідзе гаворка, немагчыма рашыць у рамках традыцыйнай дэскрыптыўнай манаграфічнай формы прадстаўлення. Такі аб'ёмісты манаграфічны твор, як „Вялікая вайна" („Wielka wojna") Стэфана М. Кучыньскага, 1955 г., якая ў 1987 г. выйшла 5-м выданнем, выконвае важную задачу аб'яднальнага элемента дыскусіі, але падрабязных адказаў на мноства спецыяльных пытанняў даць не можа[76]. Пры сённяшнім становішчы большую карысць даследаванням прынясе падрабязны „кропкавы аналіз", вынікі якога, магчыма, будуць аб'яд-

[75] Па гэтай праблематыцы гл. раздзел „Навуковая праблема" ў Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 64–68.

[76] Stefan M. Kuczyński. *Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409–1411*. Warszawa, 1–1955, 2–1960, 3–1966, 4–1980, 5–1987.

наныя ў „манаграфічных" знешніх рамках. І толькі пасля таго як у межах даследавання асноў навукоўцы здолеюць глянуць глыбей, можна будзе лічыць, што наспеў час для новага сінтэзу.

## VI

У рэтраспектыве бітва 1410 г. бачыцца як вырашальны паварот, як пачатак „негатыўнага" для Ордэна развіцця, пачатак перыяду слабасці. Цытуючы Ранке, можна сказаць, што гэта быў „пералом у нацыянальнай, а таму адначасова і культурнай сітуацыі тых рэгіёнаў, якія меў працяг яшчэ і ў новым часе"[77]. Таму зразумела, што пасля падзелу Польшчы ў XVIII ст. палякі — а таксама і літоўцы — зрабілі Грунвальд / Жальгірыс аб'яднальным нацыянальным сімвалам, галоўным сімвалам нацыянальнай ідэнтычнасці, з нямецкага ж боку паражэнне пад Танэнбергам разглядаецца як горкая падзея. Але гэта асобная тэма, якая тут не будзе разглядацца[78].

Замест гэтага звернемся на заканчэнне да польскіх археалагічных раскопак на полі бітвы[79]. Яны былі распачатыя ў канцы 1950-х і працягваюцца да сёння, хоць і з перапынкамі, абумоўленымі фінансавымі цяжкасцямі. Самыя значныя вынікі археолагі атрымалі ў першую чаргу на месцы пабудаванай у 1411 г. Генрыхам фон Плаўэнам капліцы Дзевы Марыі і паблізу яе. Да іх належаць некалькі агульных пахаванняў воінаў, што загінулі ў бітве, і рэшткі жылых дамоў святароў. Знойдзены былі таксама амаль сорак наканечнікаў ад арбалетаў і не-

[77] Leopold von Ranke, *Weltgeschichte*, hrsg. v. A. Dove und G. Winter, Leipzig 1888. Ч. 9 (1–3 выд.), раздз. 1, с. 172.

[78] Гл. па гэтым пытанні раздзел „Значэнне бітвы для гістарычнай і палітычнай свядомасці ў Польшчы і Нямеччыне ў XIX і XX стагоддзі" ў: S. Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 14–37. Siehe ferner S. Ekdahl. *Tannenberg / Grunwald — ein politisches Symbol in Deutschland und Polen* // Journal of Baltic Studies 22, 1991, с. 271–324.

[79] Пар.: S. Ekdahl, *Tannenberg I*, раздз. 4, „Археалагічныя крыніцы" (с. 320–369).

каторыя іншыя прадметы. Меркаванне, што на гэтым месцы знаходзіўся баявы лагер ордэнскага войска, падзяляюць апошнім часам, як ужо адзначалася, і польскія даследчыкі[80].

Тым не менш, археалагічныя знаходкі да гэтага часу не дапамаглі вырашыць вялікую праблему бітвы — даць адказ на пытанне напрамку руху і месца стратэгічнага разгортвання і размяшчэння войск, а таксама лакалізацыі самога поля бітвы. Праўда, у афіцыйнай польскай гістарыяграфіі гэтыя пытанні спрэчак ужо не выклікаюць, таму што даследчыкі пагадзіліся на адзінай гіпотэзе, адзінай „мадэлі" бітвы, якую яны і паказваюць грамадскасці[81]. Гэта, аднак, не перашкаджае бачыць, што перад навукоўцамі стаіць яшчэ мноства загадак. Таму неабходна не менш актыўна працягваць археалагічнае і гістарычнае даследаванне такой важнай бітвы Сярэднявечча дзеля стварэння як мага больш аб'ектыўнай карціны падзей з апорай на тагачасныя крыніцы, незалежна ад скіраваных на пэўную мэту інтэрпрэтацый.

## Звесткі пра новыя публікацыі

Пасля публікацыі гэтага артыкула ў *Acta Historica Universitatis Klaipedensis, I* прайшло ўжо амаль дваццаць гадоў. За гэты час я апублікаваў некалькі кніг і шэраг артыкулаў па важных пытаннях тэмы „Бітва пры Танэнбергу". Прыведзеныя вышэй тэзісы ў новых выданнях не рэвізуюцца, але ў шмат якіх аспектах паглыбляюцца. Многія з праблем, прадстаўленых у аглядзе толькі павярхоўна, у гэтых публікацыях разглядаюцца

[80] Тамсама, с. 355, спас. 9. Пар. вышэй спас. 23.

[81] У якасці свежага прыкладу можна назваць апісанне бітвы пад Танэнбергам, дадзенае Мар'янам Біскупам у кнізе, згаданай у спас. 1. Біскуп пераказвае тэзісы Стэфана М. Кучыньскага (с. 363–366 і мал. 67, 68), якія ў сваю чаргу грунтуюцца на непераканаўчым апісанні, дадзеным у 1926 г. польскім ваенным гісторыкам маёрам Ота Ляскоўскім. Падрабязна гл.: S. Ekdahl, *Tannenberg I*, с. 47–55.

падрабязна. Таму здаецца мэтазгодным прывесці тут, у інтарэсах беларускіх гісторыкаў, таксама і дадатковыя літаратурныя звесткі[82]. Яны датычацца толькі маіх уласных даследаванняў і не прэтэндуюць на паўнату, а могуць даць толькі пэўны імпульс для далейшага паглыбленага навуковага пошуку. Працы, ужо пазначаныя ў прыведзеных вышэй заўвагах, амаль не згадваюцца. Больш падрабязныя бібліяграфічныя спасылкі можна знайсці ў інтэрнэце пад **www.ekdahl.de**

Спачатку нагадаем, што кніга „Die Schlacht bei Tannenberg 1410" (1982) ужо выдадзена і ў польскім перакладзе[83]. Ці будзе апублікаваны том матэрыялаў пра важныя аспекты тэмы Танэнберга, яшчэ не вырашана; магчыма, замест яго я аддам у друк зборнік артыкулаў пра Танэнберг, у якіх закранаюцца важныя аспекты гэтай тэматыкі. Вышэй ужо прыводзілася спасылка на літоўскі пераклад кнігі пра „Banderia Prutenorum". Цяпер гэтая кніга перакладаецца і на польскую мову[84]. У 1999 г. у Вільні выйшаў з друку невялічкі зборнік з трох артыкулаў[85], адзін з якіх прысвечаны так званым „уцёкам ліцвінаў" (гл. ніжэй). Асабліва радуе той факт, што ў мінулым годзе ўдалося надрукаваць другі том выдання 1988 г. пра разліковыя кніжкі жаўнераў-наймітаў[86] з генеалагічнымі даследаваннямі пра больш за 800 наймітаў, што знаходзіліся ў Нямецкім ордэне ў 1410 г.[87]. Ва „Уводзінах" даецца агляд вынікаў найноўшых

[82] Карыстаючыся магчымасцю, выказваю падзяку спадару Генадзю Сагановічу за публікацыю майго артыкула з дадатковымі звесткамі пра новыя выданні аўтара ў „Беларускім Гістарычным Аглядзе".

[83] S. Ekdahl. *Grunwald 1410*. Kraków 2010.

[84] У выдавецтве „elSet" у Ольштыне.

[85] S. Ekdahl. *Žalgiris. Šiandienos žvilgsnis. Trys paskaitos Vilniuje*. Sudarė Vydas Dolinskas. Vilnius 1999.

[86] Гл. тэкст артыкула, спас. 18.

[87] S. Ekdahl (Bearb.). *Das Soldbuch des Deutschen Ordens 1410/1411. Die Abrechnungen für die Soldtruppen*. Teil II: *Personengeschichtlicher Kommentar und Indices*. Köln, Weimar, Wien 2010 (= Veröffentlichungen aus den Archiven Preußischer Kulturbesitz 23/II).

даследаванняў развіцця палітычнай сітуацыі і вярбоўкі наймітаў перад бітвай[88].

Па пытанні ўзбраення і вядзення вайны Ордэнам напісаны цэлы шэраг работ. Да гэтага часу застаецца актуальным даволі даўняе даследаванне пра вайсковую службу ў Хэлмінскай зямлі[89]. Цікавымі ў аспекце тэмы ўзбраення з'яўляюцца мае артыкулы пра арбалеты[90] і аблажныя машыны[91]. У гэтым кантэксце можна згадаць і публікацыі пра коней у войску[92], а таксама „Horses and Crossbows"[93]. Два рэдкія спісы адбору наёмнікаў Ордэнам былі апублікаваныя ў 1992 г.[94]. Артыкул пра стратэгічную арганізацыю комтурстваў (адміністрацыйных органаў Ордэна) у Прусіі ды Інфлянтах быў надрукаваны праз дзесяць гадоў у зборніку матэрыялаў адной з канферэнцый у Францыі[95].

[88] Тамсама, с. 1–12.
[89] S. Ekdahl. *Über die Kriegsdienste der Freien im Kulmerland zu Anfang des 15. Jahrhunderts* // Preußenland 2, 1964, с. 1–14 [дадаецца карта: *Ваенныя паслугі вольных людзей у Хэлмінскай зямлі паводле службовай кнігі Хэлмінскай зямлі (1423/24)*].
[90] S. Ekdahl. *Die Armbrust im Deutschordensland Preußen zu Beginn des 15. Jahrhunderts* // Fasciculi Archaeologiae Historicae 5, Łódź 1992, с. 17–48.
[91] S. Ekdahl. *The Siege Machines during the Baltic Crusades* // Fasciculi Archaeologiae Historicae 20, Łódź 2007, с. 29–51.
[92] Гл. тэкст артыкула, спас. 53.
[93] S. Ekdahl. *Horses and Crossbows. Two Important Warfare Advantages of the Teutonic Order in Prussia* // The Military Orders 2: Welfare and Warfare, ed. Helen Nicholson, Aldershot 1998, с. 119–151. Тое ж у інтэрнэце (без мал.): www.deremilitari.org/RESOURCES/ARTICLES/ekdahl.htm
[94] S. Ekdahl. *Zwei Musterungslisten von Deutschordens-Söldnern aus den Jahren 1413 und 1431* // Arma et ollae. [Festschrift für Andrzej Nadolski.] Redaktion: Marian Głosek, Mariusz Mielczarek, Witold Świętosławski, Krzysztof Walenta. Łódź 1992, с. 49–61.
[95] S. Ekdahl. *The Strategic Organization of the Commanderies of the Teutonic Order in Prussia and Livonia* // La Commanderie, institution des orders militaires dans l'Occident medieval, sous la direction d'Anthony Luttrell et Léon Pressouyre. Paris 2002 (= CTHS. Archéologie et d'histoire de l'art 14), с. 219–242.

Ёсць некалькі публікацый пра войны і вядзенне вайны рыцарамі Ордэна пад час іх „крыжовых паходаў" супраць „паганцаў" (так у Ордэне называлі літоўцаў) і схізматыкаў (г. зн. праваслаўных хрысціян); з іх у першую чаргу трэба назваць мой артыкул 1989 г. пра Ватыкан[96] і яшчэ адну публікацыю пра абыходжанне з ваеннапалоннымі[97]. У 2004 г. у штогодніку капенгагенскага Інстытута польска-скандынаўскіх даследаванняў быў надрукаваны даволі вялікі артыкул пра крыжовыя паходы і каланізацыю[98] — праз год ён выйшаў у скарочаным варыянце ў выдавецтве Palgrave[99]. Кардынальныя пытанні „місіі" Нямецкага ордэна ва Усходняй Еўропе разглядаліся ў хуткім часе пасля гэтай публікацыі ў дакладзе „Хрысціянізацыя — рассяленне — паходы на Літву", які быў надрукаваны на літоўскай[100] і на нямецкай мове[101]. Неўзабаве ў энцыклапедыі „The Crusades"[102] быў змешчаны агляд пытанняў вядзення вайны Нямецкім

96 Гл. тэкст артыкула, спас. 57.

97 S. Ekdahl. *The Treatment of Prisoners of War during the Fighting between the Teutonic Order and Lithuania* // The Military Orders [1]: Fighting for the Faith and Caring for the Sick, ed. Malcolm Barber, Aldershot 1994, c. 263–269.

98 S. Ekdahl. *Crusades and Colonisation in the Baltic. A Historiographic Analysis* // Rocznik Instytutu Polsko-Skandynawskiego 19, 2003/2004, Kopenhaga 2004, c. 1–42.

99 S. Ekdahl. *Crusades and Colonization in the Baltic* // Palgrave Advances in the Crusades, ed. Helen Nicholson, Basingstoke / New York 2005, c. 172–203.

100 S. Ekdahl. *Krikštijimas, apgyvendinimas, lietuvių reisai. Lietuvos krikštas kaip Vokiečių ordino dilema* // Lietuvos krikščionėjimas Vidurio Europos kontekste. Strapisnių rinkinys. <…> Sudarė Vydas Dolinskas, vertė Klaus Berthel, Irma Daugvilaitė, Irena Tumavičiūtė. Vilnius 2005, c. 173–188.

101 S. Ekdahl. *Christianisierung — Siedlung — Litauerreise. Die Christianisierung Litauens als Dilemma des Deutschen Ordens* // Die Christianisierung Litauens im mitteleuropäischen Kontext. Sammlung von Vorträgen. <…> Zusammengestellt von Vydas Dolinskas, übersetzt von Klaus Berthel, Irma Daugvilaitė, Irena Tumavičiūtė. Vilnius 2005, c. (173), 189–205.

102 S. Ekdahl. *Warfare: The Baltic Crusades* // The Crusades. An Encyclopedia, ed. Alan V. Murray, Santa Barbara, Calif. / Denver, Colorado / Oxford, England 2006, Vol. 4: Q-Z, c. 1241–1249.

ордэнам і яго праціўнікамі пад час „крыжовых паходаў” у Прыбалтыцы.

З 1409 г. пачынаецца новая эра ваеннай гісторыі Ордэна — з гэтага часу яго рыцары праводзяць вярбоўку цэлых атрадаў наймітаў, якіх выкарыстоўваюць для ўзмацнення ўласнага войска. Гэтай тэме прысвечаны два артыкулы, апублікаваныя ў Польшчы[103] і ў Англіі[104]. Асновай для іх напісання паслужылі надрукаваны ў 1968 г. артыкул пра разліковыя кніжкі наймітаў[105] і выданне 1988 г. пра такія ж кнігі[106]. Яшчэ шырэй найміты выкарыстоўваліся ў вырашальным 1410 г. Палітычныя і дыпламатычныя падзеі і спалучаная з імі вярбоўка жаўнераў з'яўляюцца тэмай шэрагу публікацый. Новым у іх было сцверджанне, што вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген планаваў раптоўны напад на Польшчу ўжо на 1 чэрвеня 1410 г., г. зн. яшчэ да сканчэння тэрміну перамір'я, але з палітычных прычын не змог здзейсніць яго[107]. Уплыў палітычных і дыпламатычных падзей на вярбоўку наймітаў Ордэнам і Польшчай быў вельмі значным. Гэтая важная праблематыка разглядаецца ў матэрыялах, апублікаваных у літоўскіх[108], аў-

[103] S. Ekdahl. *Soldtruppen des Deutschen Ordens im Krieg gegen Polen 1409* // Fasciculi Archaeologiae Historicae 15, Łódź 2002 (2003), с. 47–64.

[104] S. Ekdahl. *The Teutonic Order's Mercenaries during the 'Great War' with Poland-Lithuania (1409–11)* // Mercenaries and Paid Men. The Mercenary Identity in the Middle Ages, ed. John France, Leiden 2008 (= History of Warfare 47), с. 345–361.

[105] S. Ekdahl. *Kilka uwag o Księdze żołdu Zakonu Krzyżackiego z okresu „Wielkiej wojny” 1410–1411* // Zapiski Historyczne 33, 1968, 3, с. 111–130.

[106] Гл. тэкст артыкула, спас. 18.

[107] S. Ekdahl. *Die Söldnerwerbungen des Deutschen Ordens für einen geplanten Angriff auf Polen am 1. Juni 1410. Ein Beitrag zur Vorgeschichte der Schlacht bei Tannenberg* // Beiträge zur Militärgeschichte des Preußenlandes von der Ordenszeit bis zum Zeitalter der Weltkriege, hrsg. v. Bernhart Jähnig. Marburg 2010 (= Tagungsberichte der Historischen Kommission für ost- und westpreußische Landesforschung 25), с. 89–102.

[108] S. Ekdahl. *Diplomatie und Söldnerwerbung vor der Schlacht bei Žalgiris* // Lietuvos istorijos studijos 25, 2010, с. 48–61.

стрыйскіх[109], нямецкіх[110], англійскіх[111], польскіх[112] і расійскіх[113] часопісах і навуковых зборніках. У адным з артыкулаў даследуецца і тэма вярбоўкі наймітаў Польшчай[114]. Варта згадаць у гэтай сувязі і работы пра эксцэсы ў Данцыгу пасля бітвы, скіраваныя супраць наймітаў Ордэна[115], і пра дамовы, якія Нямецкі ордэн заключаў з камандзірамі наймітаў у гады пасля бітвы[116].

Зразумела, што важнае месца ў даследаваннях займаюць падзеі самой бітвы. Памылковае вызначэнне дат у так званай „Cronica conflictus" паўплывала на апі-

[109] S. Ekdahl. *Das politische Umfeld und die Schlacht von Tannenberg* // Tannenberg / Grunwald 1410. Gesammelte Beiträge. Amt des Hochmeisters, Wien 2010 (= Miscellanea Ordinis Teutonici 1), c. 18–28.

[110] S. Ekdahl. *1410. Die Schlacht bei Tannenberg. 600. Gedenkjahr* // Ostdeutsche Gedenktage 2010. Persönlichkeiten und Historische Ereignisse, Bonn 2010. c. 288–298.

[111] S. Ekdahl. *Politics, Diplomacy and the Recruitment of Mercenaries before the Battle of Tannenberg — Grunwald — Žalgiris* // The Military Orders 5: Politics & Power, ed. Peter Edbury. Aldershot (у друку).

[112] S. Ekdahl. *Dyplomacja i werbowanie żołnierzy zaciężnych w czerwcu 1410 r. W przededniu bitwy grunwaldzkiej* // Średniowieczne bitwy i wojny. Rzeczywistość i narodowy mit. Wokół bitwy pod Grunwaldem i jej życia pośmiertnego. Red.: Jan M. Piskorski (у друку).

[113] S. Ekdahl. *Набор наемников перед Грюнвальдской битвой 1410 г. в контексте политики и дипломатии эпохи* // Studia Slavica et Balcanica Petropolitana, hrsg. v. Alexander Filjushkin (у друку).

[114] S. Ekdahl. *Polnische Söldnerwerbungen vor der Schlacht bei Tannenberg (Grunwald)* // Non sensitis gladios! [Festschrift für Marian Głosek]. Hrsg. v. Olgierd Ławrynowicz und Piotr A. Nowakowski (у друку.)

[115] S. Ekdahl. *Danzig und der Deutsche Orden 1410. Die Ausschreitungen gegen die Ordenssöldner. Mit einem Quellenanhang* // Danzig in acht Jahrhunderten. Beiträge zur Geschichte eines hansischen und preußischen Mittelpunktes, hrsg. v. Bernhart Jähnig und Peter Letkemann, Münster/Westf. 1985 (= Quellen und Darstellungen zur Geschichte Westpreußens 23), c. 121–150.

[116] S. Ekdahl. *Verträge des Deutschen Ordens mit Söldnerführern aus den ersten Jahrzehnten nach Grunwald* // Questiones Medii Aevi Novae 11, Warszawa 2006, c. 51–95.

санне марша малапольскага войска праз Мазовію[117]. Яшчэ больш важнае значэнне маюць вынікі новых даследаванняў пра стратэгічнае разгортванне і пастраенне армій пад Танэнбергам. Пра гэта ўжо згадвалася ў маёй кнізе пра бітву (1982 г., на польскай мове — 2010), а цяпер гэтая тэма атрымала і навуковае абгрунтаванне[118]. Стала відавочна, што меркаванні прускага гісторыка Ёганэса Фойгта, якія з 1836 г. паўтараюць гісторыкі і археолагі, не маюць падставы, таму што само поле бітвы трэба шукаць у іншым месцы (на поўдзень ад дарогі, што вядзе з Грунфельдэ / Грунвальда на Людвігсдорф /Людвігова). Для аналізу важна, у прыватнасці, вызначэнне месцазнаходжання сонца ў дзень бітвы. Гэтая праблематыка асвятляецца ў пошуках поля бітвы ў XV–XVI ст.[119] і капліцы, пабудаванай вялікім магістрам Генрыхам Плаўэнскім у 1411 г. Яна была ўзведзена не там, дзе сустрэў смерць Ульрых фон Юнгінген, як гэта часта сцвярджаецца, а на тым месцы, дзе ў час бітвы стаяла палявая капліца братоў-рыцараў. Тэма разглядаецца ў артыкулах пра Брыгіту, шведскую святую, апублікаваных на шведскай[120] і на англійскай

[117] S. Ekdahl. *„In crastino, die sancti Procopii.” Überlegungen zu einer falsch interpretierten Datumsangabe in der Cronica conflictus* // Tempore pacis et belli. People — Places — Things. [Festschrift für Jan Szymczak.] Hrsg. v. Tadeusz Grabarczyk (у друку).

[118] S. Ekdahl. *Aufmarsch und Aufstellung der Heere bei Tannenberg / Grunwald (1410). Eine kritische Analyse* // Krajobraz grunwaldzki w dziejach polsko-krzyżackich i polsko-niemieckich na przestrzeni wieków. Wokół mitów i rzeczywistości. Red.: Jan Gancewski, Olsztyn 2009 (= Biblioteka „Mrągowskich Studiów Humanistycznych“. Historia, nr 1), c. 31–103) (і тры каляровыя геаграфічныя карты ў футарале).

[119] S. Ekdahl. *Pobojowisko grunwaldzkie i okolica w XV i XVI stuleciu* // Studia Grunwaldzkie 3, Olsztyn 1994 (= Rozprawy i Materiały Ośrodka Badań Naukowych im. Wojciecha Kętrzyńskiego w Olsztynie, Nr. 136), c. 61–118.

[120] S. Ekdahl. *Heliga Birgitta, slaget vid Tannenberg och grundandet av klostret Triumphus Mariae i Lublin* // Skandinavien och Polen. Möten, relationer och ömsesidig påverkan. Red.: Barbara Törnquist-Plewa. Lund 2007 (= Slavica Lundensia 23), c. 1–24.

мове[121]. Дарэчы, названыя пытанні будуць тэмай абмеркавання на міжнароднай канферэнцыі археолагаў, якая ў хуткім часе адбудзецца ў Оснабруку і Калькрызэ[122].

Адзін з дакладаў, што будзе прачытаны на гэтай канферэнцыі, — пра тактыку ў бітве паводле гістарычных крыніц (цяпер ён знаходзіцца ў стадыі падрыхтоўкі) — выйдзе на літоўскай і на нямецкай мове[123]. У ім будуць спасылкі на вынікі новых даследаванняў, у тым ліку і названыя вышэй. Акрамя артыкула пра рыцара Лупальда фон Кёкрыца, які на кані рушыў супраць караля польскага і загінуў[124], у Нямеччыне[125], Літве[126] і

[121] S. Ekdahl. *St Birgitta of Sweden, the Battle of Tannenberg (Grunwald) and the Foundation of the Monastery Triumphus Mariae in Lublin* // Między Śląskiem a Wiedniem. [Festschrift für Krzysztof A. Kuczyński.] Red.: Aleksander Kozłowski, Małgorzata Znyk. Płock 2008, c. 287–301.

[122] S. Ekdahl. *Battlefield Archaeology at Tannenberg (Grunwald, Žalgiris): Physical Remains of the Defeat of the Teutonic Order in Prussia in 1410* // 6th Fields of Conflict Conference — Osnabrück and Kalkriese. 15th–18th April 2011 (у стадыі падрыхтоўкі).

[123] S. Ekdahl. *Quellenaussagen über die Taktik in der Tannenbergschlacht* // Žalgiris — Grunwald — Tannenberg 1410: Krieg und Frieden im späten Mittelalter. (Канферэнцыя ў Вільні ў канцы кастрычніка 2010 г.) На нямецкай мове том выйдзе ў серыі „Крыніцы і даследаванні" Нямецкага гістарычнага інстытута ў Варшаве.

[124] S. Ekdahl. *Ein Brief des Ritters Luppold von Köckritz an Hochmeister Ulrich von Jungingen vom April 1410* // Prusy — Polska — Europa. Studia z dziejów średniowiecza i czasów wczesnonowożytnych. [Festschrift für Zenon Hubert Nowak.] Red.: Andrzej Radzimiński, Janusz Tandecki. Toruń 1999, c. 231–247.

[125] Гл. артыкул, спас. 28, далей — S. Ekdahl. *Die „Flucht der Litauer" in der Schlacht bei Tannenberg* // Lietuvių kultūros institutas, Litauisches Kulturinstitut. Jahrestagung 1998. Suvažiamo darbai. Lampertheim 1999, c. 145–168.

[126] S. Ekdahl. *„Lietuvių pabėgimas" Žalgirio mūšyje* // Žalgiris. Šiandienos žvilgsnis (як спас. 3 у тэксце артыкула), c. 13–34. Новае выданне (з малюнкамі і рэзюмэ на польскай і на англійскай мове) пад назвай *„Lietuviu pabėgimas" iš Žalgirio mūšio* ў вялікім выставачным каталогу Нацыянальнага музея / палаца вялікага князя літоўскага: Kaip atsitiko Didžiajame mūšyje Žalgirio atodangos, Vilnius 2010, c. 33–43 (загалоўкі таксама на польскай і на англійскай мове).

ЗША[127] былі апублікаваныя матэрыялы пра так званыя „ўцёкі літоўцаў". Плануецца пераклад іх на рускую мову[128].

Рыхтуецца даклад пра Першае Торуньскае мірнае пагадненне ад 1 лютага 1411 г. з улікам пытання пра наймітаў[129].

Важнай тэмай з'яўляецца таксама рэцэпцыя бітвы ў больш позні час — упершыню яна закранулася ў кнізе пра Танэнберг, выдадзенай у 1982 г.[130]. Праз некалькі гадоў з'явілася даследаванне „Denkmal und Geschichtsideologie in polnisch-preußischen Spannungsfeld"[131], адным з прадметаў якога быў Танэнберг, некалькі артыкулаў пра помнікі апублікаваны ў Нямеччыне[132],

[127] S. Ekdahl. *The Turning Point in the Battle of Tannenberg (Grunwald/Žalgiris) in 1410* // Lituanus. The Lithuanian Quarterly Journal of Arts and Sciences, Vol. 56:2, Washington 2010, c. 53–72.

[128] Даклад для „Славянского сборника" (у стадыі падрыхтоўкі).

[129] S. Ekdahl. *Der erste Thorner Frieden (1411) im Spiegel der Söldnerfrage* // Die Ritterorden in Krieg und Frieden / The Military Orders in War and Peace. Red.: Roman Czaja, Krzysztof Kwiatkowski, Toruń (= Ordines Militares. Colloquia Torunensia Historica 16) (у стадыі падрыхтоўкі).

[130] У нямецкім выданні кнігі (1982) на с. 14–37, у польскім перакладзе (2010) на с. 30–50. Гл. таксама публікацыю, пазначаную ў спас. 78 артыкула ў „Journal of Baltic Studies" і крыху пашыраны тэкст у: Deutscher Orden 1190–1990, hrsg. v. Udo Arnold, Lüneburg 1997 (= Tagungsberichte der Historischen Kommission für ost- und westpreußische Landesforschung 11), c. 241–302.

[131] S. Ekdahl. *Denkmal und Geschichtsideologie im polnisch-preußischen Spannungsfeld* // Jahrbuch für die Geschichte Mittel- und Ostdeutschlands 35, Berlin 1986, c. 127–218 і 8 ненумараваных старонак з табліцамі. Апублікавана таксама ў: Zum Verständnis der polnischen Frage in Preußen und Deutschland 1772–1871, hrsg. v. Klaus Zernack, Berlin 1987 (= Einzelveröffentlichungen der Historischen Kommission zu Berlin 59), c. 127–218 і 8 ненумараваных старонак з табліцамі.

[132] S. Ekdahl. *Die Grunwald-Denkmäler in Polen. Politischer Kontext und nationale Funktion* // Das Denkmal im nördlichen Ostmitteleuropa im 20. Jahrhundert. Politischer Kontext und nationale Funktion, Lüneburg 1997 (= Nordost-Archiv. Neue Folge, 6, 1997, Heft 1), c. 75–107; S. Ekdahl. *Tannenberg — Grunwald — Žalgiris: Eine mittelalterliche Schlacht im Spiegel deutscher, polnischer und litauischer Denkmäler* // Zeitschrift für Geschichtswissenschaft 50, 2002, c. 103–118.

Англіі[133] і Польшчы[134] — у іх аўтары звярталіся і да тэмы Танэнберга. У артыкулах літоўскіх[135] і нямецкіх[136] даследчыкаў закраналася і пытанне дэміфалагізацыі нацыянальнай гістарыяграфіі пра Танэнберг — Грунвальд — Жальгірыс. У сваім дакладзе на вялікай міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай Грунвальду, што адбылася ў верасні 2010 г. у Мальбарку і Кракаве, я звярнуў увагу на „праблемы і перспектывы даследавання грунвальдскай тэматыкі" і нагадаў між іншым пра тую задачу, якая паўстане перад польскімі археолагамі ў бліжэйшыя гады ў сувязі з новымі навуковымі знаходкамі пра стратэгічнае разгортванне і пастраенне войск і новую лакалізацыю месцазнаходжання поля бітвы[137].

*Пераклад Галіны Скакун*

[133] S. Ekdahl. *The Battle of Tannenberg — Grunwald — Žalgiris (1410) as Reflected in Twentieth-Century Monuments* // The Military Orders 3: History and Heritage, ed. Victor Mallia-Milanes, Aldershot 2008, c. 175–194.

[134] S. Ekdahl. *Bitwa pod Grunwaldem/Tannenbergiem w polsko-niemieckiej historii na przestrzeni dziejów* // Jana Matejki Bitwa pod Grunwaldem: Nowe spojrzenia. Red.: Katarzyna Murawska-Muthesius. Muzeum Narodowe w Warszawie. Warszawa 2010, c. 9–25. Таксама на англійскай мове: *The Battle of Grunwald/Tannenberg and its political and symbolic Interpretations in Poland and Germany through the Centuries* // Jan Matejko's Battle of Grunwald. New Approaches, ed. Katarzyna Murawska-Muthesius. The National Museum in Warsaw, Warsaw 2010, c. 9–25.

[135] S. Ekdahl. *Žalgirio mūšio demitologizavimo problema* // Žalgiris. Šiandienos žvilgsnis (як спас. 3 у артыкуле), c. 35–43.

[136] S. Ekdahl. *Das Problem der Entmythologisierung der nationalen Geschichtsschreibung über die Schlacht bei Tannenberg* // Lietuvių kultūros institutas. Litauisches Kulturinstitut. Jahrestagung 1998, Suvažiavimo darbai, Lampertheim 1999, c. 169–180.

[137] S. Ekdahl. *Probleme und Perspektiven der Grunwaldforschung* // Grunwald — Tannenberg — Žalgiris 1410–2010. Historia — Tradycja — Polityka. (Матэрыялы канферэнцыі рыхтуюцца да друку.)

# The Battle of Tannenberg and its Importance in the History of the Teutonic Order's State

**Sven Ekdahl**

There are historical events of such profound significance that they remain in the consciousness of a people for centuries. They also perform an important cultural and political function long after their occurrence. The Battle of Tannenberg (Grunwald, Žalgiris, Grjunval'd, Hrunval'd) in Teutonic Prussia, which took place on 15 July 1410, is one such. This article is a Belarusian translation of a conference paper which was published in Lithuanian and German in Acta Historica Universitatis Klaipedensis, vol. 1, Vilnius 1993. It gives a synopsis of the political and military situation in Prussia before, during and after the 'Great War' between the Teutonic Knights and Poland-Lithuania in 1409–1411, the peak and turning-point of which was the overwhelming victory of the joint armies of the Lithuanians and Poles with their auxiliary troops at Tannenberg. Traditional interpretations of that famous battle are in many respects called into question by the author who proposes new approaches to this important topic. A supplementary article lists further literature about Tannenberg published by him after 1993 till today.

# Бібліятэка часопіса

## Беларускі Гістарычны Агляд

***Ежы Клачоўскі. Малодшая Еўропа: Цэнтральна-Усходняя Еўропа ў прасторы хрысціянскай цывілізацыі Сярэднявечча***

У бібліятэцы часопіса рыхтуецца да выдання беларускамоўная версія кнігі вядомага польскага гісторыка праф. Ежы Клачоўскага Młodsza Europa: Europa Środkowo-Wschodnia w kręgu cywilizacji chrześcijańskiej średniowiecza (Warszawa: Państwowy Instytut Wydawniczy, 1998). Грунтоўная, напісаная на высокім узроўні эрудыцыі, праца паказвае, як дзяржавы і народы нашай часткі Еўропы далучаліся да т. зв. цывілізацыйнага кола “хрысціянскага Захаду” і якое значэнне мелі тут рэгіянальныя паразуменні Польшчы, Літвы і Русі. У цяперашняй гістарыяграфічнай сітуацыі ў Беларусі, дзе працягвае дырэктыўна насаджацца „заходнерусізм”, кніга праф. Е. Клачоўскага адкрывае чытачам альтэрнатыўную перспектыву беларускай гісторыі.

# Танэнберг / Грунвальд як палітычны сімвал у XIX–XX ст.

## Уда Арнольд

У 1991 г. Свэн Экдаль апублікаваў у часопісе *Journal of Baltic Studies* артыкул пад загалоўкам „Танэнберг / Грунвальд — палітычны сімвал у Нямеччыне і Польшчы”[1]. Раней ён ужо неаднойчы звяртаўся да тэмы грамадскага ўспрымання бітвы[2] і займаецца ёю да гэтага часу[3]. Калі я, нягледзячы на гэта, усё ж бяруся за тэму рэцэпцыі бітвы, мяне падбадзёрвае надпіс, зроблены Свэнам Экдалем на асобным выданні 1991 г.: *Пану Арнольду — якому я ўдзячны за імпульс да гэтага даследавання*. Я не маю намеру папраўляць яго і не думаю, што здолею асвятліць пазначаную тэму лепш. Аднак калі я ўбачыў праект праграмы нашай канферэнцыі, а ў ім запланаваны даклад пана Экдаля пра ход бітвы, я палічыў сваім абавязкам звярнуцца да комплекснай тэмы палітычнай рэцэпцыі Танэнберга / Грунвальда ў

[1] Sven Ekdahl, *Tannenberg / Grunwald — ein politisches Symbol in Deutschland und Polen* // Journal of Baltic Studies 22, 1991, с. 271–324.

[2] Пачынаючы з яго капітальнай працы *Die Schlacht bei Tannenberg 1410. Quellenkritische Untersuchungen.* Bd 1: *Einführung und Quellenlage* (Berliner Historische Studien 8), Berlin 1982; у ёй раздз. 3: *Die Bedeutung der Schlacht für das historische und politische Bewußtsein in Polen und Deutschland im 19. und 20. Jahrhundert*, с. 14–37.

[3] Напр., *Tannenberg — Grunwald — Žalgiris: Eine mittelalterliche Schlacht im Spiegel deutscher, polnischer und litauischer Denkmäler* // Zeitschrift für Geschichtswissenschaft 50, 2002, с. 103–118. Апошняя публікацыя — прачытаны ў 2000 г. даклад *The Battle of Tannenberg — Grunwald — Žalgiris (1410) as Reflected in Twentieth-Century Monuments* // The Military Orders, vol. 3: History and Heritage, hrsg. von Victor Mallia-Milanes, Aldershot 2008, с. 175–194.

XIX–XX ст., таму што інакш на канферэнцыі застаўся б не закрануты адзін важны аспект. Гэта адпавядае і ідэі Ежы Тапольскага, на якога спасылаецца сам Экдаль: „Абавязак кожнага гісторыка, калі ён хоча зрабіць свой унёсак у сучасную гістарыяграфію, — нястомна выступаць супраць міфаў у гісторыі”[4]. Я пастараюся прывесці прыклады, якія да гэтага часу заставаліся невядомымі прынамсі ў Нямеччыне, і тым самым паказаць новыя грані ў дадатак да таго, што ўжо гаварылася раней. Бітва пад Танэнбергам была для Нямецкага ордэна катастрафічным паражэннем. Ордэну пашанцавала, што праціўнікі не здолелі больш аператыўна скарыстацца сваім поспехам, і польска-літоўская аблога Мальбарка, рэзідэнцыі вялікага магістра, пачалася запознена. Дзякуючы гэтаму комтур Швэца Генрых фон Плаўэн атрымаў неабходны час, каб сабраць у крэпасці ўсе сілы і падрыхтавацца да аблогі. Тое, што аблога не мела сапраўднага поспеху, дало Прускаму ордэну ўрэшце магчымасць выжыць, хаця выплаты, агавораныя ў Першым Торуньскім мірным дагаворы, сталі для яго жорсткім ударам. Аднак польскі бок не дасягнуў мэты вайны — не атрымаў Гданьскае Памор'е, яно засталося ў межах Ордэна. Гэта змякчала ўражанне катастрафічнасці паражэння Ордэна. І ўсё ж вестка пра прайграную бітву мела ўласную дынаміку. Пра паражэнне даведаліся не толькі ў блізкім Любеку, але і ў Оснабруку, Браўншвайгу і Магдэбургу, у Аўгсбургу і Баварыі, у Аўстрыі — Мэльку і ў Клостэрнойбургу пад Венай, у Сілезіі і ў Чэхіі, у Францыі[5]; праз семдзесят пяць гадоў швейцарац Дзібольд Шылінг узяў цудоўны малюнак бітвы ў сваю Шпіцэрскую

[4] Цыт. па: Ekdahl, *Tannenberg / Grunwald* (як у спас. 1), с. 272.

[5] Параўн. урыўкі з крыніц у: *Scriptores rerum Prussicarum. Die Geschichtsquellen der preußischen Vorzeit bis zum Untergang der Ordensherrschaft*, hrsg. von Theodor Hirsch, Max Töppen und Ernst Strehlke, Bd. 3, Leipzig 1866, рэпрынт. выд. Франкфурт-на-Майне 1965, с. 405 і наст. Параўн. таксама: Marian Biskup, *Echa bitwy grunwaldzkiej i obleżenia Malborka w niemieckej gałęzi Zakonu Krzyżackiego w lecie 1410 roku* // Komunikaty Mazursko-Warmińskie 1983, № 4, с. 455–460.

ілюстраваную хроніку, а ў 1513 г. — іншы малюнак у Люцэрнскую хроніку[6]. Пра паражэнне Ордэна даведалася ўся Еўропа. Тым самым Ордэн перастаў быць ідэалагічна непахісным, што вельмі яскрава праявілася праз некалькі гадоў на Канстанцкім саборы. Справа ў тым, што ён не толькі прайграў бітву, але і страціў німб непераможнасці — Танэнберг стаў увасабленнем ганьбы, якая цяжарам лягла на гісторыю Ордэна, як іпатэка абцяжарвае гаспадарку. Не выпадкова самае падрабязнае ў XX ст. апісанне гісторыі Ордэна тагачасным архіварыусам, а пазней вялікім магістрам Нямецкага ордэна Марыянам Тумлерам сканчаецца каля 1400 г. — г. зн. толькі да Танэнберга[7]. Як магло атрымацца, што паражэнне — якое хаця і было катастрафічным і каштавала шмат крыві, але ж не пазбавіла Ордэн тэрыторый — праз стагоддзі набыло ў грамадскай свядомасці такую вялікую значнасць і нават ператварылася ў сімвал?

Пасля страты Прусіі і Лівоніі ў XVI ст., а таксама знешніх апорных пунктаў на Міжземным моры ацалела толькі адгалінаванне Ордэна ў Святой Рымскай імперыі як трохканфесійнае аб'яднанне. Напалеон разбіў імперыю, а тым самым у 1809 г. паклаў канец і існаванню Ордэна на нямецкай зямлі. Узнавіць яго на Венскім кангрэсе не атрымалася, так што Ордэн захаваўся ўжо толькі на тэрыторыі Габсбургскай манархіі. Тут яму давялося перажыць рэформы і новыя падыходы, якія сёння дазваляюць яму ажыццяўляць сваю дзейнасць у сямі еўрапейскіх дзяржавах. Праўда, на працягу апошніх 90 гадоў ён існуе

[6] Diebold Schilling, *Spiezer Bilderchronik*, Luzern 1484/85, hrsg. von Hans Haeberli und Vinzenz Bartolomé, Luzern 1991; параўн. таксама *Idee Europa. Entwürfe zum „Ewigen Frieden". Ordnungen und Utopien für die Gestaltung Europas von der pax romana zur Europäischen Union* (каталог), hrsg. v. Marie-Luise von Plessen, Berlin 2003, с. 82. Адносна абодвух малюнкаў параўн. (падрабязна, з дадатковымі прыкладамі і малюнкамі): Krystyna Sroczyńska, *Ze studiów nad ikonografią bitwy pod Grunwaldem* // Rocznik Olsztynski IV, 1961/62, с. 53–104.

[7] Marian Tumler, *Der Deutsche Orden im Werden, Wachsen und Wirken bis 1400*, Montreal / Wien 1955.

ўжо не як рыцарскі ордэн, а як рэлігійна-дабрачынная арганізацыя каталіцкай царквы[8].

Знішчэнне Святой Рымскай імперыі нямецкай нацыі Напалеонам азначала аднaчасова паражэнне Прускага каралеўства. І толькі катастрофа, якую Напалеон пацярпеў пад Масквой, змяніла ход падзей. Вызваленчыя войны, што адбыліся адразу пасля яе, пачыналіся з Прусіі, пад час іх упершыню зноў звярнуліся да традыцыі Нямецкага ордэна Сярэднявечча ў межах яго прускай тэрыторыі. Уласна кажучы, гэта напрошвалася як аргумент яшчэ пры падзеле Польшчы ў XVIII ст., калі Прускае каралеўства далучыла да сябе былую Каралеўскую Прусію з Павіслем, Гданьскім Памор'ем і Эрмландам ды тым самым зноў аб'яднала былую тэрыторыю Ордэна ў адных руках. Але кароль Фрыдрых II забараніў звяртацца да традыцыі Ордэна, у яго былі значныя праблемы з тым ордэнам, які яшчэ існаваў у імперыі, быў яго непасрэдным суседам у ансбахска-прускіх мясцовасцях і ўсё яшчэ прэтэндаваў на валоданне ордэнскай тэрыторыяй у Прусіі[9]. Аднак пасля экспрапрыяцыі і выгнання Ордэна Напалеонам вяртанню да яго сярэднявечнай традыцыі на прускай тэрыторыі больш нічога не перашкаджала.

Прысваенне традыцыі пачалося з увядзення ў 1813 г. Жалезнага крыжа як прускай вайсковай узнагароды[10].

[8] Падрабязнага навуковага апісання яго гісторыі да нашых дзён няма; найлепшы агляд у: Marian Tumler / Udo Arnold, *Der Deutsche Orden. Von seinem Ursprung bis zur Gegenwart*, Bad Münstereifel (5)1992. Udo Arnold, *L'Ordine Teutonico — una viva realtà*, Lana 2001.

[9] Параўн. Udo Arnold, *die Rekuperationsbemühungen des Deutschen Ordens aūf Preußen* // Württembergisch Franken. Jahrbuch des Historischen Vereins für Württembergisch Franken 60, Mergentheim und Königsberg / Berlin 1976, с. 14–54.

[10] Параўн.: Hartmut Boockmann, *Der Deutsche Orden. Zwölf Kapitel aus seiner Geschichte*, München 1981, (5) 1999, с. 234–254. Яго ж, *Zakon Krzyżacki* (Klio w Niemczech 3), Warszawa 1998. *800 Jahre Deutscher Orden. Ausstellung des Germanischen Nationalmuseums Nürnberg in Zusammenarbeit mit der Nationalen Historischen Kommission zur Erforschung des Deutschen Ordens* (каталог), hrsg. v. Gerhard Bott und Udo

Традыцыя мела працяг у літаратуры, у выяўленчым мастацтве, у гістарыяграфіі, урэшце яна стала агульным набыткам грамадскай свядомасці ў Прусіі, а з 1871 г. — у новым, II Райху з кіраваннем па прускім ўзоры. Цяпер ужо ордэнская дзяржава пачала лічыцца зародкам прускасці, нямецкасці, яе крыж як воінская ўзнагарода выжыў, нягледзячы на ўсе ўрадавыя перамены з 1813 г. і да нашых дзён у Федэратыўнай Рэспубліцы. Ордэнская дзяржава ўспрымалася грамадскай свядомасцю як самая нямецкая з усіх нямецкіх дзяржаў, яе сярэднявечную поліэтнічнасць новыя інтэрпрэтатары тлумачылі як паспяховую асіміляцыю прусаў і славян пад нямецкім кіраваннем. Рыцар стаў сімвалам нямецкага героя і быў падняты на такую ж вышыню,

Arnold, Gütersloh / München 1990, у ім раздз. VII „*Geschichte und Politik: Die Vergangenheit des Ordens im Dienste der Gegenwart*", с. 437–505. Udo Arnold, *Prusiskoji vokieciu ordino istorija XIX ir XX amziu vokietijos politineje tradicijoje* // Senoves baltu kultura. Prusijos kultura, Vilnius 1994, с. 235–255. Summary: *The Prussian History of the German Order in the Political Tradition of Germany of the 19th-20th Centuries*, с. 255–258. Яго ж, *Nationalismus, Nationalsozialismus und der Mißbrauch der Deutschordenstradition in Deutschland // Der Deutsche Orden und die Ballei Elsaß-Burgund. Die Freiburger Vorträge zur 800-Jahr-Feier des Deutschen Ordens*, hrsg. v. Hermann Brommer, Bühl / Baden 1996, с. 205–222. Яго ж, *Der Deutsche Orden im deutschen Bewusstsein des 20. Jahrhunderts // Vergangenheit und Gegenwart der Ritterorden. Die Rezeption der Idee und die Wirklichkeit*, hrsg. v. Zenon Hubert Nowak unter Mitarbeit von Roman Czaja (Ordines militares. Colloquia Torunensia Historica XI), Toruń 2001, с. 39–53. Перадрукавана ў: Udo Arnold, *Deutscher Orden und Preußenland. Ausgewählte Aufsätze anläßlich des 65. Geburtstages*, hrsg. v. Bernhart Jähnig und Georg Michels (Einzelschriften der Historischen Kommission für ost- und westpreußische Landesforschung 26), Marburg 2005, с. 93–106. Яго ж, *Die Marienburg als politisches Symbol in Deutschland in der ersten Hälfte des 20. Jahrhunderts // Praeterita posteritati. Studia z historii sztuki i kultury ofiarowane Maciejowi Kilarskiemu*, hrsg. v. Mariusz Mierzwiński, Malbork 2001, с. 33–40, на польскай мове: *Zamek w Malborku jako symbol polityczny Niemiec w pierwszej połowie XX wieku*, тамсама, с. 41–44.

як і хрысціянскі выратавальнік св. Георгій ці нябесны заступнік Нямеччыны св. Міхаэль. І гэтаназіралася нават яшчэ і ў выбарчай барацьбе палітычных партый у 20-я г. XX ст. Але Прускае каралеўства было адной з тых дзяржаў, якія ў XVIII ст. дзялілі Польшчу. Падзел Польшчы захоўваўся і на працягу XIX ст., калі Прусія пасля свайго глыбокага прыніжэння пры Напалеоне перажывала росквіт і станавілася вядучай дзяржавай Еўропы. Таму пазітыўнае засваенне Прусіяй традыцыі ордэнскай дзяржавы Сярэднявечча выклікала ў Польшчы адпаведны сустрэчны рух. Бліскучы ордэнскі рыцар, якім паказваў яго прускі бок, у Польшчы таксама стаў сімвалам — вобразам ненавіснага крыважэрнага крыжаносца. Гэта таксама знаходзіла адлюстраванне ў літаратуры, выяўленчым мастацтве, гістарыяграфіі, нават у помніках і у грамадскіх святкаваннях з нагоды памятных падзей. Такая форма засваення традыцыі ўвайшла ў агульную грамадскую свядомасць палякаў, як гэта было і ў Нямеччыне. У медаля пад назвай Нямецкі ордэн было ў XIX і XX ст. два бакі — зіхатліва-белы нямецкі і змрочна-чорны польскі.

Аднак гістарычнае развіццё Ордэна на тэрыторыі Прусіі не было прасталінейнай гісторыяй поспеху. У ім адзначалася два надломы — канец 1525 г. і бітва пад Танэнбергам / Грунвальдам у 1410 г. У XIX ст. 1525 год асабліва не засмучаў ні нямецкі, ні польскі бок. Урэшце Кракаўская прысяга вялікага магістра і будучага герцага Прускага азначала для Нямеччыны пачатак панавання Гогенцолернаў на тэрыторыі, па імені якой менш чым праз 200 гадоў нават назвалі новую манархію, а для Польшчы гэта азначала канчатковую перамогу над ненавіснымі крыжаносцамі. Што тычыцца 1410 года, то ён успрымаўся інакш.

З прычыны ідэнтыфікацыі з Нямецкім ордэнам у Прусіі / Нямеччыне бітва ўспрымалася як ганьба[11], як паражэнне, якое ўсё яшчэ працягваецца. А ў Польшчы

[11] Гэтае слова ўжывае таксама Андрэас Косэрт (Andreas Kossert): *Ostpreußen. Geschichte und Mythos*, Berlin (3)2005, с. 48.

яно лічылася — і ўспрымаецца менавіта так і цяпер — вялікай перамогай. Гэтая перамога мела тым большае значэнне, што яна была перамогай над той дзяржавай, традыцыю якой імкнулася пераняць адна з краін, што потым дзялілі Польшчу. Святкуючы гадавіну перамогі пад Грунвальдам, палякі трыумфавалі пэўным чынам і над Прускім каралеўствам, дзяржавай, якая ўдзельнічала ў падзеле Польшчы, а потым і над кайзераўскай імперыяй.

Такім чынам, Танэнберг для прускага / нямецкага боку не быў нагодай для трыумфа. А як абыходзіліся немцы з гэтай падзеяй? Самым значным чыннікам фармавання светапогляду і свядомасці для ўсіх слаёў насельніцтва ў XIX ст. была школа. Па-першае, гісторыя мела сярод прадметаў школьнай праграмы яшчэ большае значэнне, чым сёння, па-другое, тады яшчэ не было шматлікіх сродкаў масавай інфармацыі — як, напрыклад, тэлебачання, а ўплыў тых, што існавалі, быў кольскасна абмежаваны — напрыклад, да кнігі звярталіся хутчэй дзеля таго, каб бавіць час. Таму я ў пошуках адказу на сваё пытанне зусім адвольна ўзяў некалькі школьных падручнікаў таго часу. У „Гістарычным дапаможніку для пачаткоўцаў", які быў выдадзены ў 1875 г. у прускім горадзе Кройцнах-на-Наэ, гэта значыць на самым захадзе манархіі, у кантэксце гісторыі Ордэна адзначаюцца тры даты: 1309 г. — Мальбарк становіцца рэзідэнцыяй вялікага магістра, 1466 — заключэнне Другога Торуньскага міру і 1525 — секулярызацыя ордэнскай дзяржавы, ператварэнне яе ў свецкае герцагства[12], — Танэнберг не згадваецца. Трохі раней, магчыма, у шасцідзясятыя гады, у Гале (Прусія) выйшла першым выданнем „Малая айчынная гісторыя. Дапаможнік для народных школ Прусіі". Кніга мела вялікі наклад і была надзвычай папулярнай. З гісторыі Ордэна згадваецца толькі будаўніцтва крэпасці Маль-

[12] J. C. Andrä, *Geschichtlicher Leitfaden für Anfänger*, Bad Kreuznach 1875, c. 93.

барк[13], больш нічога; у храналагічнай табліцы[14] Танэнберг таксама адсутнічае. Так вось абыходзіліся з паражэннем 1410 г. — яно замоўчвалася[15]. Відаць, гэта было працягам сітуацыі XVIII ст., наконт якой Свэн Экдаль сказаў: «Проста ў гэты час тэма „Танэнберг" не мела ў Прусіі сімвалічнага значэння»[16].

Іншы падыход адлюстраваны ў наступнай групе школьных падручнікаў. Яшчэ ў 1832 ці 1833 г. у Патсдаме выйшаў „Нарыс сусветнай гісторыі для гімназій, вышэйшых навучальных установ і для самаадукацыі", у якім пішацца: *„Цяжкае паражэнне пад Танэнбергам (1410) у вайне з Уладыславам II Польскім назаўсёды знішчыла сілу Ордэна, і толькі мужная абарона крэпасці Мальбарка комтурам Генрыхам Ройсам Плаўэн (у хуткім часе ён стаў вялікім магістрам) выратавала Ордэн ад пагібелі"*[17]. Гэтае спалучэнне двух фактаў — паражэння пад Танэнбергам і выратавання Мальбарка — знаходзім і ў надзвычай папулярным „Нарысе брандэнбургска-прускай гісторыі"[18], які выйшаў у 1868 г., г. зн. незадоўга да стварэння Райха. У сціслай форме дапаможніка, прызначанага для паўтарэння, згадка пра іх у агульным кантэксце пададзена асабліва яскрава. У раздзеле „Гісторыя князёў і земляў" чытаем: *„1410 год: паражэнне рыцараў Нямецкага ордэна пад Танэнбергам ад Уладыслава*

[13] A. Hummel, *Kleine vaterländische Geschichte... Ein Leitfaden für preußische Volksschulen*, Halle; тут спас. на 27-е выд. 1887 г., с. 17.

[14] Тамсама, с. 59 і наст.

[15] Характэрнай праявай у гэтым кантэксце з'яўляецца катэгарычная адмова Вярхоўнага прэзідэнта Заходняй Прусіі Тэадора фон Шона ўключыць напамінак пра Ульрыха фон Юнгінгена, вялікага магістра, што загінуў пад Танэнбергам, у праграму ўпрыгожання замка Мальбарка вітражамі; параўн.: Ekdahl, *Tannenberg / Grunwald* (як у спас. 1), с. 278.

[16] Параўн. тамсама, с. 276.

[17] E. A. Schmidt, *Grundriß der Weltgeschichte für* Gymnasien, *höhere Lehranstalten und zum Selbstunterricht. Zweiter Theil: Geschichte des Mittelalters*, Potsdam, тут спас. на 6-е выд. 1851 г., с. 132.

[18] Karl Tücking, *Grundriß der brandenburgisch-preußischen Geschichte*, Paderborn, тут спас. на 3-е выд. 1901 г., с. 30.

*Ягайлы, вялікага князя літоўскага, караля польскага... Генрых фон Плаўэн ратуе Мальбарк"*[19]. Гэта ж можна прасачыць і ў выданні „З Богам за Кайзера і Райх! Народнае апісанне Пруска-нямецкай гісторыі". Яно выйшла ў самым канцы XIX ст. у Вроцлаве (тады Брэслаў)[20], які належаў да Прускага каралеўства. Такім чынам, гэта была яшчэ адна форма абыходжання з паражэннем пад Танэнбергам: у агульным кантэксце з ім гаворка ішла пра выратаванне Мальбарка, а тым самым і Ордэна, і пра заключэнне мірнага дагавора, *ўмовы* якога... *былі яшчэ спрыяльныя для Ордэна*[21]. Гэтым паражэнне ператваралася ледзь не ў поспех. Аднак неабходна падкрэсліць, што такім быў пункт гледжання Прусіі. Надрукаваная ў 1855 г. „Сусветная гісторыя для вышэйшых навучальных установ і самаадукацыі" адлюстроўвае падзеі зусім інакш: *„Перамога палякаў пад Танэнбергам ў 1410 г. зламала сілу Ордэна, і з гэтай бядою, што прыйшла звонку, пачаліся звадкі і выраджэнне. Жамойць і Куявія — паўднёва-ўсходняя зямля Прусіі — сталі платай за мір, заключаны ў 1422 г."*[22]. Тут няма гаворкі пра гераічнае выратаванне Мальбарка, аўтары адразу пераходзяць да Мельнскага міру, без згадкі пра Торуньскі трактат і пра два ваенныя паходы. Характэрна, што гэтая кніга выйшла не ў Прусіі, а ў Бадэне, у каталіцкім выдавецтве „Гердэр".

Наступным жанрам пасля падручнікаў былі дарожныя нататкі і літаратура, прызначаная для баўлення часу. Такія кнігі чыталі галоўным чынам прадстаўнікі вышэйшага бюргерства і арыстакратыі. Побач з аповедамі пра

[19] Friedrich Junge, *Geschichtsrepetitionen für die oberen Klassen höherer Lehranstalten*, Berlin 1885, тут спас. на 2-е выд. 1893 г., с. 72 і наст.

[20] M. Haekel, *Mit Gott für Kaiser und Reich! Volkstümliche Darstellung der Preußisch-deutschen Geschichte*, bearbeitet für Schule, Heer und Haus, Breslau 1899, с. 30 і наст.

[21] Тамсама, с. 31.

[22] Karl Kiesel, *Die Weltgeschichte für höhere Schulen und Selbstunterricht übersichtlich dargestellt,* Bd. 2. *Die christliche Zeit*. Erste Abteilung: *Fünfzehn Jahrhunderte*, Freiburg i. B. 1855, с. 460.

далёкія краіны і прыгоды — як, напрыклад, творы Карла Мая ці, у перакладах, Фенімора Купера — выходзіла мноства кніг гістарычнага зместу. Найбольшую папулярнасць мелі кнігі пра рыцараў і рыцарскія ордэны. Адным з ранніх цікавых аўтараў быў Карл Юліус Вебер. Ён нарадзіўся ў Гаэнлоэ — гэта значыць, у Франконіі, а не ў Прусіі. У 1792 г. ён пачаў працаваць асабістым сакратаром і ўрадавым дарадцам райхсграфа Хрысціяна цу Эрбах-Шонберга[23] і заставаўся на гэтай пасадзе да самай смерці апошняга — да 1799 г. З 1783 да 1799 г. Эрбах быў рэгентам Нямецкага ордэна (а гэта другая па значнасці пасада пасля вялікага магістра, кіраўнічай асобы Ордэна) у Мергентгайме, тагачасным ордэнскім цэнтры[24]. У 1824 г., г. зн. праз дзевяць гадоў пасля канчатковага выгнання Ордэна з Нямеччыны, выйшаў трэці том яго кнігі пра рыцарства і тры вялікія рыцарскія ордэны[25]. Пра Танэнберг Вебер піша: *„Дню Танэнберга было наканавана стаць апошнім днём Ордэна!”* Аднак: *„Нямецкі ордэн згас з гонарам!”* Потым Вебер прыводзіць адвольныя параўнанні: *„З гэтым злашчасным днём, які шмат чым нагадвае бітвы рымлян пры Трэвіі, на Тразіменскім возеры і пры Канах, а яшчэ больш бітву пад Енай 1806 г., — назаўсёды згас бляск Ордэна!”* Аўтар, у якога было сваё, вельмі цёплае, стаўленне да ордэнскай дзяржавы, гэтымі словамі ўскосна выказвае глыбокае шкадаванне, а параўнанні дазваляюць адчуць тую ацэнку гісторыі Ордэна, якую аўтар яшчэ больш яскрава дае ў канцы: *„Ён загінуў у Рэфармацыю, каб застацца жыць у Чорным Арле — сімвале вялікіх магістраў — і*

[23] Параўн.: Marian Blümcke, *Karl Julius Weber, der Demokrit aus Hohenlohe* (Marbacher Magazin 70), Marbach am Neckar 1996.

[24] Параўн.: Klaus Oldenhage, *Kurfürst Erzherzog Maximilian Franz als Hoch- und Deutschmeister (1780–1801)* (Quellen und Studien zur Geschichte des Deutschen Ordens 34), Bad Godesberg 1969, с. 73 і наст.

[25] Тут спас. на Carl Julius Weber, *Das Ritter-Wesen und die Templer, Johanniter und Marianer oder Deutschordens-Ritter insbesondere*, Bd. 3 (Carl Julius Weber’s sämmtliche Werke 14), Stuttgart (2) 1837; наступныя цытаты с. 151–153.

*яшчэ ярчэй расквітнець пад чорным Жалезным крыжам — сімвалам рыцараў! Няхае квітнее Прусія, пакуль захоўваецца дэвіз Ордэна: Suum Cuique*!*[26]. Такім чынам, вяртанне да прускай традыцыі, сімвалічна задакументаванае ў Жалезным крыжы, атрымала ўхвальную ацэнку і ў Вебера, франка, хоць Танэнберг быў для яго сімвалам пагібелі.

Няма магчымасці разгледзець падрабязней творы гэтага жанру. Тым не менш, мы бачым, што мела месца не толькі замоўчванне 1410 года, існаваў і іншы, больш важны падыход да асвятлення дзвюх з'яў — Танэнберга і гераізму Генрыха фон Плаўэна. І хоць развіццё падзей паўстае як вельмі расцягнуты ў часе сцэнар пагібелі, але ж: *„Нямецкі ордэн згас з гонарам!"*[27]. Гэтая гераізацыя дасягнула ўрэшце найвышэйшага пункту ў 1881 г., у вядомым рамане Эрнста Віхерта „Генрых фон Плаўэн"[28]. І ўсё ж у абодвух падыходах можна прасачыць сімвалічны характар: негатыўны сімвал сораму — у замоўчванні, упарты пратэст, як рэакцыя на сорам, — у кульце героя.

Толькі ў XX ст. удалося ператварыць Танэнберг у пазітыўны сімвал. У 1914 г. 8-я нямецкая армія пад камандаваннем Паўля фон Гіндэнбурга і начальніка яго генеральнага штаба Эрыха Людэндорфа атрымала важную перамогу над 2-й расійскай арміяй ва Усходняй Прусіі. Кайзер віншаваў з „перамогай пад Аленштайнам", а ў паведамленнях з арміі гаварылася пра „бітву пад Ортэльбургам-Гільгенбургам". Першы афіцэр генеральнага штаба Людэндорфа Макс Гофман пісаў у 1926 г.: *«Генерал Людэндорф пачынаў дыктаваць загад наступнымі словамі: „Фрогэнаў. Час пакуль не пазначаць". Я звярнуў яго ўвагу на тое, што, магчыма, было б лепш замест назвы Фрогэнаў выбраць гістарычную назву гарадка, перад якім мы стаялі, — Танэнберг, што ён пасля і зрабіў. Дзякуючы гэтаму бітву потым сталі*

[26] Тамсама, с. 156.
[27] Тамсама, с. 153.
[28] Ernst Wiechert, *Heinrich von Plauen*, Leipzig 1881.

* *Кожнаму сваё!* (лац.)

*называць менавіта па назве гарадка, які значыўся ў заключным загадзе Вярхоўнага камандавання»[29].* Людэндорф яшчэ ў 1919 г. у сваіх ваенных мемурах пісаў: *„Бітву па маёй прапанове назвалі бітвай пад Танэнбергам — у знак памяці той бітвы, у якой Нямецкі рыцарскі ордэн пацярпеў паражэнне ад аб'яднаных польскіх і літоўскіх армій"[30].* Сваё слова сказаў у 1920 г. і Гіндэнбург: *„Танэнберг! Слова, якое выклікае ў немцаў балючы успамін пра ордэнскую дзяржаву, і трыумфальны вокліч для славян, падзея, не забытыя ў гісторыі, нягледзячы на больш як 500 гадоў, што прайшлі з таго часу"*[31]. Так другая бітва пад Танэнбергам стала лічыцца позняй помстай Нямецкага ордэна, нягледзячы на тое, што рускія 1914 г. атаясамліваліся з палякамі і літоўцамі 1410 г. Свэн Экдаль слушна сказаў пра гэта: „Сімволіка па-ранейшаму была памылковай"[32]. Тым не менш, назва *Танэнберг* стала ў Нямеччыне пазітыўным сімвалам, гэта замацавалася ў помніку Танэнбергу, які разам з магілай Гіндэнбурга быўператвораны ў помнік славы нацыянал-сацыялістычнага Райха[33].

Пасля Другой сусветнай вайны тэма Танэнберга ў ГДР цікавасці не выклікала, яе перадалі палякам[34]. У Федэратыўнай Рэспубліцы нагод для цікавасці

[29] Max Hoffmann, *Tannenberg, wie es wirklich war*, Berlin 1926, с. 73.

[30] Erich Ludendorff, *Meine Kriegserinnerungen*, Berlin 1919, с. 44.

[31] [Paul] von Hindenburg, *Aus meinem Leben*, Leipzig 1920, с. 85.

[32] Sven Ekdahl, *Tannenberg/Grunwald* (як у спас. 1), с. 288.

[33] Прыклады публікацый Апякунскай рады па справах помніка славы ў Райху: Tannenberg, *Deutsches Schicksal – Deutsche Aufgabe,* Oldenburg i. O. [1939], з „анонсам" ад Адольфа Гітлера. Параўн. таксама: Ernst Vogelsang, *Aus der Geschichte des Reichsehrenmals Tannenberg* // Zwischen den Weltkriegen. Teil II: *Kultur im Preußenland der Jahre 1918 bis 1939,* hrsg. v. Udo Arnold (Tagungsberichte der Historischen Kommission für ost- und westpreußische Landesforschung 7), Lüneburg 1987, с. 73–122. Jürgen Tietz, *Das Tannenberg-Nationaldenkmal. Architektur, Geschichte, Kontext,* Berlin 1999.

[34] Хутчэй кур'ёзам можна лічыць апублікаваную ў ГДР працу: Erwin Ortmann, *Die Banner der Teilnehmer an der Schlacht bei Grunwald 1410* // Kulturgeschichtliche Zinnfiguren. Arbeit-

да пазітыўнай сімволікі таксама ўжо не было, таму што адыход былых нямецкіх тэрыторый да Польшчы пазбавіў гэтую сімволіку глебы. Тэма Танэнберга іграла яшчэ нейкую ролю ў аб'яднаннях выгнаннікаў ці ў якасці элемента адпору спробам палякаў скарыстоўваць гэты перыяд гісторыі як палітычны сімвал[35] або нападкам з боку лева-каталіцкіх колаў на сучасны Нямецкі ордэн. Наколькі гэтая тэма ўвогуле змаргіналізавалася, пацвярджае знаёмства зноў-такі з (заходне)нямецкімі падручнікамі[36]. Адным з падручнікаў-„ветэранаў" быў дапаможнік „Падарожжа ў мінулае" — згадкі пра Танэнберг там няма[37]. Яшчэ адзін падручнік — „Сусветная гісторыя". У раздзеле пад загалоўкам „Польшча становіцца вялікай дзяржавай" заўважаем змену перспектывы: *„У хуткім часе паміж ордэнскай дзяржавай і Ягелонскай імперыяй ўсталяваліся варожыя стасункі, асобныя*

sblätter 3–4, 1964 (Teil I für die deutschen Ritter) und 4–6, 1968 (Teil II für die polnischen Ritter), машынапісныя копіі, а таксама выданне: Günter W. Fricke, *Die Wappen und Fahnen der polnischen Ritter in der Schlacht bei Grunwald 1410* (тамсама, 1972). Першая частка працы Ортмана была апублікавана ў ФРГ у: Die Zinnfigur. Monatsschrift für Sammler und Liebhaber kulturhistorischer Figuren, N. F. 15, 1966, с. 61–77.

[35] Параўн. аб'ектыўна-разважальны артыкул R[ainer] Z[acharias], *Ein vergessenes Datum? 15. Juli 1410: Schlacht bei Tannenberg* // Marienburger Zeitung, № 451, кастрычнік 1985, с. 1–3.

[36] Тут можна скарыстацца толькі пэўнай выбаркай, таму што ў Нямеччыне кожная з 16 федэральных земляў мае ўласны кіраўнічы орган у галіне культуры і адукацыі, які і прымае рашэнне аб допуску школьных падручнікаў, таму існуе вельмі вялікая колькасць падручнікаў. Не ўлічваем і розныя тыпы школ (школа другой ступені, рэальная школа, гімназія, агульная школа), таму што ў школах любога тыпу гэтая тэма абмяркоўваецца ў класах аднаго ўзроставага ўзроўню. Праўда, не ўсе падручнікі дапушчаны для ўсіх тыпаў школ, таму што рашэнне аб допуску прымаецца асобна для кожнага тыпу.

[37] Hans Ebeling, Wolfgang Birkenfeld, *Die Reise in die Vergangenheit,* Ausgabe N, Bd. 1: *Von der Vorgeschichte bis zum Ende des Mittelalters,* Braunschweig 1977, с. 133.

*канфлікты прывялі да вайны, у якой рыцары Ордэна ў вырашальнай бітве пад Танэнбергам у 1410 г. пацярпелі паражэнне"*[38]. Падрыхтаваная прыкладна тады ж хрэстаматыя „Пытанні да гісторыі" з заданнямі абагульняе тэму Нямецкага ордэна ў раздзеле *„Рассяленне на ўсход у Сярэднявеччы"*, Танэнберг там не сустракаецца[39]. У 1985 г. выйшаў падручнік для баварскіх школ, у якім гісторыя Ордэна разглядаецца ў межах агульнай тэмы *„Славяне і немцы"*. Танэнберг тут згадваецца — даволі скупа, як наступства 1309 г. (падпарадкаванне Гданьска і Гданьскага Памор'я) і 1386 г. (аб'яднанне Польшчы і Літвы)[40]. Праз тры гады з'явілася чарговая новая кніга, „Адкрываць і разумець". Тут пра Танэнберг таксама гаворыцца як пра наступства 1386 г. і таксама ў межах агульнай тэмы — *„Нямецкае рассяленне на ўсход"*[41]. Пасля перагляду школьных праграм на пачатку 1990-х г. выйшла нарэшце кніга „Гісторыя і падзеі". І ў гэтай кнізе Танэнберг згадваецца як наступства 1386 г.[42]. У 2008 г. падручнік быў перавыдадзены — з большым акцэнтам на заданні; у перавыданні гісторыя Нямецкага ордэна на тэрыторыі Прусіі разглядаецца больш падрабязна, гаворыцца і пра рэцэпцыю гэтай тэмы ў XIX і XX ст. Танэнберг згадваецца ў кантэксце паражэння Ордэна, якое ўпісваецца ў агульны сцэнар заняпаду[43]. Са сказанага

[38] Wolfgang Hug, Hejo Busley, *Geschichtliche Weltkunde,* Bd. 1: *Von der frühen Zeit der Menschen bis zum Beginn der Neuzeit,* Frankfurt/Main 1974, c. 188.

[39] *Fragen an die Geschichte. Geschichtliches Arbeitsbuch für Sekundarstufe I,* hg. v. Hans Dieter Schmid. Bd. 2: *Die europäische Christenheit,* Frankfurt/Main, тут цыт. (5)1980, c. 139–149.

[40] Joachim Cornelissen u. a., bsv Geschichte 2N: *Vom frühen Mittelalter bis zum Zeitalter des Absolutismus,* München 1985, c. 116.

[41] *Entdecken und Verstehen,* hg. v. Thomas Berger u. a. Bd. 1: *Von der Urgeschichte bis zum Mittelalter,* Frankfurt/Main, 1988, c. 184.

[42] Giselher Birk u. a., *Geschichte und Geschehen.* A2, Stuttgart 1995, c. 157.

[43] Frank Behne u. a., *Geschichte und Geschehen.* Stuttgart 2008, c. 191.

відаць, што школьныя падручнікі асвятляюць гэтую тэму вельмі лаканічна і скупа — або ўвогуле не асвятляюць яе, не апошняй прычынай чаго з’яўляецца ўсё большае скарачэнне вучэбнага часу на выкладанне гісторыі і тэм для выкладання. Таму па падручніках нельга зрабіць ніякіх высноў адносна палітычнага аспекта стаўлення да тэмы.

На падыходах да тэмы бітвы ў Польшчы я спынюся не так падрабязна, бо пра іх вядома значна больш. Там праблем з Грунвальдам як сімвалам не існавала[44]. Бітва адназначна скончылася перамогай. Гэта было прычынай для радасці ў XV ст., а ў XIX ст., асабліва ў яго другой палове, успамін пра Грунвальд быў даведзены да ўзроўню пазітыўнага фактара ў барацьбе з Прускім каралеўствам — адной з краін, якія падзялілі Польшчу (Прусія бачыла сябе пераемніцай Нямецкага ордэна). Гістарычная памяць у спалучэнні з маральнымі развагамі здаўна з’яўляецца зброяй пераможанага, а палякі з часоў падзелаў і ледзь не да канца XX ст. не належалі да пераможцаў. Тым большую сілу мела сімволіка перамогі ў мінулым. Гэта тычылася як 1525 г., васальнай прысягі Прусіі, так і 1410-га, Грунвальда.

Амаль адначасова з увядзеннем Жалезнага крыжа ў 1813 г. тэма, выбраная Янам Матэйкам, увайшла ў жанр, у якім яна на нямецкім баку амаль не сустракаецца, — у гістарычны жывапіс. Юзаф Пешка намаляваў уручэнне двух мячоў ад Ордэна каралю Ягайлу[45], апярэдзіўшы гэтым свайго славутага калегу. Яго буйнафарматную выяву самой бітвы з 1872 г. ведае ў Польшчы кожнае дзіця, яна ўвайшла ў агульнанацыянальны духоўны скарб[46] і да апошняга часу была носьбітам ідэалогіі: у 1976 г., з нагоды 700-гадовага юбілею пабудовы Мальбарка, яна была выстаўлена для шырокага паказу ў Варшаве ў Замку[47], а

[44] Параўн. таксама *800 Jahre* (як у спас. 10) і працы Экдаля.

[45] Bochnia, Muzeum; *ілюстрацыя — 800 Jahre* (як у спас. 10), с. 459.

[46] Варшава, Нацыянальны музей, якасны алейны эскіз на палатне (Замкавы музей, Мальбарк).

[47] Параўн.: R. Zacharaias (як у спас. 35), с. 3.

ў 1999 г. карціну прывезлі для ўзмацнення нацыянальнай свядомасці літоўцаў у Вільню — як паведамлялася, карціну, а тым самым і свайго вялікага князя Вітаўта, удзельніка бітвы пад Танэнбергам, уганаравалі ўвагай 200 000 наведвальнікаў выставы[48]. У час дзяржаўнай самастойнасці Польшчы паміж двума сусветнымі войнамі ўслед за Пешкам бітву выбраў тэмай для свайго твора Войцэх Косак[49]. У гістарычным жывапісе мастакі зноў і зноў звярталіся да гэтай тэмы на працягу 120 гадоў[50], г. зн. сваё значэнне бесперапынна захоўвала на працягу ўсяго гэтага часу і тэма Грунвальда.

Тое ж можна сказаць і пра літаратуру. У першых шэрагах знаходзіцца раман „Krzyżacy" Генрыха Сянкевіча, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Спачатку, у 1897–1900 г., раман друкаваўся ў газетах вельмі вялікім накладам[51], і чыталі яго найперш у вышэйшых слаях буржуазіі. Цэнтральнай часткай твора было апісанне Грунвальдскай бітвы. У канцы яе пераможцы абводзяць позіркам поле бою: *„Пачуццё невыказнага шчасця залівала святлом твары пераможцаў, усе яны разумелі, што вечар гэты паклаў канец нягодам і навалачы не толькі аднага дня, а цэлых стагоддзяў… І не толькі здрадны крыжацкі ордэн ляжыць цяпер ля ног караля, не, — у гэты дзень збавення ўся тэўтонская моц, што дасюль хвалямі патопу затапляла гаротныя славянскія землі, разбілася аб польскія грудзі"*[52]. Тут мы бачым такое самае атаясамліванне палякаў са славянамі, якое праз некалькі гадоў, пасля бітвы на Мазурах у Першай сусветнай вайне, паслужыла асновай для ператварэння Танэнберга нямецкім бокам у пазітыўны сімвал. Раман Сянкевіча хутка пасля выхаду быў уключаны ў спіс абавязковай літаратуры для школьнікаў і таму уплываў на агульнае ўспрыманне гісторыі яшчэ мацней, чым звы-

48 Параўн.: A. Kossert (як у спас. 11), с. 16.
49 Ольштын, Музей Вarміі і Мазур; малюнак у: *800 Jahre* (як у спас. 10), с. 494.
50 Параўн.: K. Sroczyńska (як у спас. 6).
51 *Tygodnik Ilustrowany,* Toruń, Biblioteka Główna UMK.
52 Цыт. па: *800 Jahre* (як у спас. 10), с. 472.

чайныя школьныя падручнікі. Як і карціна Матэйкі, раман амаль цэлае стагоддзе, нават яшчэ не адзін год пасля Другой сусветнай вайны, належаў да агульнанацыянальнага набытку польскай свядомасці. Былі ў гэтым жанры і іншыя творы, але ніводзін не меў такога ўздзеяння, як „Krzyżacy”.

Дык ці магло святкаванне юбілею бітвы ў 1910 г. не стаць маштабным усенародным святам, урачыстасцю, якой накавана было захаваць сваю вартасць у мастацкіх творах, прысвечаных гістарычнай памяці? Дыяпазон такога ўвасаблення сягае ад медалёў Ігнацыя Урублеўскага і Яна Рашкі[53] да фінансаванага выбітным піяністам Ігнацыем Падарэўскім помніка ў Кракаве ў 1902 г. — даволі ліберальным краі, які пры падзеле Польшчы адышоў да Аўстрыі[54]. Зразумела, помнік захаваўся і захаваў сваё палітычнае значэнне і ў міжваенны час. Ён быў разбураны ў час Другой сусветнай вайны, пры акупацыі Польшчы Нямеччынай, г. зн. тады, калі нямецкі помнік Танэнбергу ўсё яшчэ перабудоўваўся.

У адрозненне ад Нямеччыны — усё роўна, ці ГДР, ці Федэратыўнай Рэспублікі, — у Польшчы Грунвальд пасля 1945 г. выконваў значную ролю. Свэн Экдаль прыводзіць шмат прыкладаў, у тым ліку і распрацаваныя яшчэ тры дзесяцігоддзі таму грандыёзныя планы Грунвальдскага камітэта на юбілейны 2010 г. Нагадаем толькі пра названыя вышэй з'явы — карціну, раман і помнік.

Ад жывапісу эстафету пераняў, відавочна, жанр плаката, які ў Польшчы перажываў асаблівы росквіт пасля 1945 г. У мастацтве плаката атрымалі сваё ўвасабленне паражэнне Трэцяга райха і ўдзел Польшчы ў авалоданні Берлінам. Яшчэ ў 1945 г. Тадэвуш Трапкоўскі праводзіў паралелі паміж Грунвальдам і Берлінам, а ў 1946 г.

[53] Toruń, Muzeum Okręgowe; малюнак тамсама, с. 476.

[54] Свэн Экдаль у сваіх працах значнае месца адводзіць помнікам, апошні раз у *The Battle* (як у спас. 3); параўн. таксама: Jürgen Vietig, *Die polnischen Grunwaldfeiern der Jahre 1902 und 1910* // Germania Slavica II (Berliner Historische Studien 4), Berlin 1981, c. 237–262.

мяжа па Одэру-Нэйсэ падавалася на плакатах як запавет Грунвальда. З нагоды юбілею бітвы ў 1960 г. Зыгмунт Ліс зноў падхапіў атаясамліванне Грунвальда з Берлінам, намаляваўшы два танэнбергскія мячы на фоне разбітага шчыта са свастыкай і лічбы 1945 і 1410 на фоне польскага сцяга. Стэфан Вельгус паказвае ў цэнтры свайго юбілейнага плаката ўведзеную ў 1943 г. ваенную ўзнагароду — ордэн Грунвальда, а на заднім плане — фрагменты Матэйкавай карціны[55].

У той час як раман Сянкевіча ўсё яшчэ належаў да абавязковай літаратуры школьнай праграмы, шырокую публіку заваяваў новы від мастацтва — кіно. Хаця і ў сферы палітычнай прапаганды яго магчымасці былі вядомыя, бо выкарыстоўваліся там ужо гадоў трыццаць, аднак з’явіліся новыя магчымасці — шырокі экран і колер. Аляксандр Форд у 1960 г. звярнуўся да рамана Сянкевіча і кангеніяльна выкарыстаў яго ў кіно, натхнёны савецкім папярэднікам — фільмам „Аляксандр Неўскі” Сяргея Эйзенштэйна. Як фільм твор Форда выдатны, а як прапагандысцкі матэрыял ён надзвычай умацаваў польскае бачанне падзеі. У час з 1960 да 1990 г. не было, напэўна, ніводнага вучня, якому б не давялося хоць раз паглядзець гэты фільм, сімвал „Грунвальд” набыў новую значнасць для ўсіх пластоў насельніцтва.

Да гэтага ўрэшце дадаецца помнік — побач з адноўленым кракаўскім манументам узнікае новы, які сваёй манументальнасцю адлюстроўвае ўсё поле бою пад Грунвальдам. На яго адкрыцці ў 1960 г. прысутнічала вышэйшае кіраўніцтва партыі і дзяржавы, з гэтай нагоды адбылася Усяпольская сустрэча моладзі[56]. Помнік павінен быў „стаць перасцярогай агрэсару і адначасова сімвалам адзінства польскай нацыі і брацкіх стасункаў з іншымі сацыялістычнымі краінамі”[57]. Наўрад ці можна было дасягнуць больш моцнага сімвалічнага зараду, хаця і ў памылковым усведамленні ўдзельнікаў. Як пе-

[55] Параўн.: *800 Jahre* (як у спас. 10), с. 501–503, з малюнкам.
[56] Параўн.: S. Ekdahl, *Schlacht* (як у спас. 2).
[57] Marian Biskup, у: *800 Jahre* (як у спас. 10), с. 503.

рад Першай сусветнай вайной, так і пасля Другой: тры сродкі масавай інфармацыі, тры кульмінацыйныя пункты ў сімвалізацыі гістарычнай падзеі з пераносам на палітычную сучаснасць, нязменнасць бачання, нягледзячы на карэнныя палітычныя перамены за паўтара стагоддзі з лішкам. „Польскія нацыянальныя міфы нідзе не маніфестуюцца мацней, чым ва ўсходнепрускім Грунвальдзе / Танэнбергу, месцы трыумфу над Нямецкім ордэнам”[58].

І толькі знікненне палітычных лагераў, паступовае збліжэнне паміж Польшчай і Нямеччынай пазбавіла сімвал „Грунвальд” сілы, якую сімвал „Танэнберг” страціў яшчэ раней. Так, напрыклад, распаўся Грунвальдскі камітэт, які яшчэ ў 1980-я г. распрацоўваў маштабныя планы на юбілейны 2010 год.[59]. Адгалоскі гэтых змен будуць яшчэ адчувацца нейкі час у шырокіх слаях насельніцтва[60], але ў навуцы гэтая тэма ўжо не мае нацыянальнага значэння. Не ўспрымаецца ўжо як нацыянальная драма, напрыклад, наступны эпізод: у тэатралізаваных гульнях на колішнім полі бою — інсцэніроўцы бітвы — выканаўца ролі караля Ягайлы раптам упаў з каня. Штогадовыя Грунвальдскія гульні ўжо перайшлі ў жанр *„son e lumière”*.

Танэнберг і Грунвальд былі як у Прусіі / Нямеччыне, так і ў Польшчы сімваламі, хаця і рознага кшталту і з неаднолькавым значэннем. У Нямеччыне доўгі час пераважаў фактар сораму са спробай замоўчвання або непасрэднага спалучэння паражэння з гераізмам, у выніку чаго гераізм сваім ззяннем зацьмяваў паражэнне. І толькі дзякуючы бітве на Мазурах у 1914 г. Та-

[58] A. Kossert (як у спас. 11), с. 394.

[59] Параўн.: S. Ekdahl, *Battle* (як у спас. 3), с. 194.

[60] У якасці прыкладу можна назваць тытульную старонку бульварнага варшаўскага „Факта” ў нумары, які выйшаў напярэдадні гульні зборных Польшчы і Нямеччыны на чэмпіянаце свету па футболе 2008 г.; параўн.: Krzysztof Ruchniewicz, *Stehlen die Polen immer noch die deutschen Autos? Zur Aktualität der polnisch-deutschen Stereotype* // Polen-Analysen 40/08, Darmstadt 2008, с. 2–8, тут с. 3.

нэнбергператварыўся ў пазітыўны сімвал, няхай сабе і непраўдзівы з прычыны шырокага панславісцкага атаесамлення. Аднак Танэнберг ніколі не быў настолькі папулярны, каб назва яго магла увайсці ў прымаўкі. Ёсць фразеалагізм пра „сваё Ватэрлоа”, а прымаўкі пра нечы „Танэнберг” няма. Пасля 1945 г. Танэнберг увогуле страціў палітычнае значэнне, якое заслугоўвала ўвагі, ён застаўся хіба што лаканічнай датай у падручніках ці гістарычных даследаваннях.

У Польшчы ж тэма Грунвальда ў XIX і да канца XX ст. была папулярнай, ён заўсёды выконваў ролю элемента палітычнага адпору Прусіі / кайзераўскай імперыі / Трэцяму райху / ФРГ. Грунвальд быў надзвычай важным складнікам польскай ідэнтычнасці ва ўсіх пластах насельніцтва, ва ўсіх магчымых сродках масавай інфармацыі яму зноў і зноў даваліся новыя дэфініцыі. І толькі глабальныя перамены ў агульнапалітычнай сітуацыі ў Еўропе прывялі да знікнення сімвалічнага значэння бітвы і ператварэння гэтай падзеі ў своеасаблівую фальклорна-відовішчную з’яву. Палякам у Еўрапейскім саюзе міф Грунвальда больш не патрэбны.

## Пасляслоўе

Гэты тэкст быў прачытаны як даклад у 2008 г. і ў наступным выйшаў у Польшчы па-нямецку. У 2010 г. у Польшчы адбыліся памятныя ўрачыстасці з нагоды 600-годдзя бітвы, якія ўключалі шмат культурных і навуковых мерапрыемстваў. З навуковых варта адзначыць найперш канферэнцыю, што праходзіла з 20 да 24 верасня ў Мальбарку і Кракаве і сабрала дакладчыкаў з сямі краін, а з культурных — свята, якое адбылося 15 ліпеня на полі бітвы. Пад час гэтага свята ў Польшчы дайшло да рэвалюцыйнай перамены: Нямецкі ордэн больш не атаясамліваўся з Нямеччынай (ФРГ), а разглядаўся як уласнае гістарычнае ўтварэнне. Адпаведна з гэтым польскі прэзідэнт Лех Качыньскі, а пасля яго смерці Браніслаў Камароўскі запрасілі на ўрачыстасць вялікага магістра Нямецкага ордэна ў Вене. Вялікі магістр

прыняў запрашэнне і разам з прэзідэнтамі Польшчы, Літвы і Еўразвязу выступіў на памятнай урачыстасці з прамовай[61], на якую было звернута шмат увагі ў польскіх масмедыях. Праўда, у Нямеччыне гэтая падзея засталася незаўважанай, тэлебачанне падало толькі заключныя рыцарскія гульні — *son e lumière*.

*Пераклад Галіны Скакун*

[61] Tannenberg / Grunwald 1410. Gesammelte Beiträge (Miscellanea Ordinis Teutonici 1). Wien 2010. S. 63–65, Abb. 15–17.

# Tannenberg / Grunwald als politisches Symbol im 19./20. Jahrhundert

**Udo Arnold**

Tannenberg und Grunwald waren in Preussen / Deutschland wie in Polen Symbole, wenngleich von unterschiedlicher Art und unterschiedlichem Gewicht. In Deutschland überwog lange Zeit der Schamfaktor mit dem Versuch des Verschweigens oder der Reaktion, Niederlage und Heldentum unmittelbar miteinander zu verbinden, so dass das Heldentum die Niederlage überstrahlen konnte. Erst die Masurenschlacht von 1914 vermochte Tannenberg zu einem positiven Symbol zu machen, wenn auch in Schieflage durch eine weitgreifende, panslawische Identifikation. Jedoch nie war Tannenberg so populär, dass es Eingang im Sprichwort gefungen hätte. Man erlebte sein Waterloo, nie jedoch sein Tannenberg. Und nach 1945 spielte es praktisch keine Rolle mehr.

In Polen dagegen war Grunwald im 19. wie bis zum Ende des 20. Jahrhunderts immer populär, erfüllte stets eine Rolle als Abwehr gegen Preussen / Deutsches Kaiserreich / Drittes Reich / Bundesrepublik. Grunwald war grundlegender Bestandteil polnischer Identität in allen Bevölkerungsschichten und erfuhr in allen möglichen Medien immer wieder eine Neuformulierung. Erst die Änderung des gesamtpolitischen Umfeldes in einem sich rasant verändernden Europa liess den Symbolwert schwinden. Polen in der Europäischen Union benötigt den Mythos Grunwald mehr nicht.

# Ваеннапалонныя Нямецкага ордэна пасля бітвы пад Карановам 1410 г.

**Славамір Юзвяк**

Пад час Вялікай вайны 1409–1411 г., у якой Польшча і ВКЛ процістаялі Тэўтонскаму ордэну ў Прусіі, паміж ваяўнічымі бакамі адбыліся дзве асабліва важныя для ходу ўсяго канфлікту бітвы — Грунвальдская (15 ліпеня 1410 г.) і Карановіцкая (10 кастрычніка 1410 г.). Калі першая з іх, дзякуючы свайму маштабу і вынікам, дачакалася на працягу апошніх ста гадоў шматлікіх разнапланавых даследаванняў, то па другой дагэтуль існуе даволі сціплая гістарыяграфія[1]. Асноўная перашкода пры вывучэнні абедзвюх бітваў заключаецца ў тым, што захавалася даволі невялікая колькасць першакрыніц, а сярод тых, якія ёсць у нашым распараджэнні, галоўнае месца, паводле дэталізаванасці апісання і пераканальнасці паказаных падзей, займае напісаная праз некалькі дзясяткаў гадоў пасля іх хроніка кракаўскага

[1] У ліку ранейшых артыкулаў пра Карановіцкую бітву гл.: Kujot S. Wojna // Roczniki Towarzystwa Naukowego w Toruniu. 1910. № 17. S. 265–267; Kutowski E. Zur Geschichte der Söldner in den Heeren des Deutschordensstaates in Preussen bis zum ersten Thorner Frieden // Oberländische Geschichtsblätter. 1912. № 14. S. 486–489; Spieralski Z. Bitwa pod Koronowem 10 X 1410 // Bitwa pod Koronowem 10 X 1410 / Red. Tomczak A. Warszawa, 1961. S. 47–67; Kwiatkowski K. Kontrakcja militarna Zakonu. Napływ kontyngentów pomocniczych i zaciężnych z obszarów Rzeszy // Jóźwiak S., Kwiatkowski K., Szweda A., Szybkowski S. Wojna Polski i Litwy z zakonem krzyżackim w latach 1409–1411. Malbork, 2010. S. 572 — 615. У сваю чаргу, крокам назад у вывучэнні бітвы пры Каранове (асабліва з увагі на крайне няпоўнае выкарыстанне крыніц) з'яўляецца апошняя праца на гэтую тэму аўтарства П. Дэрдэя: Derdej P. Koronowo 1410. Warszawa, 2004.

канонікa Яна Длугаша[2]. Вось чаму цяжка прэтэндаваць на дакладную і абсалютна бездакорную рэканструкцыю ходу абедзвюх бітваў. Асабліва гэта датычыць бітвы пры Каранове, ход якой вядомы выключна з пераказу польскага храніста; прычым невядома, наколькі гэты пераказ адпавядаў рэчаіснасці. Аднак дзякуючы іншым захаваным крыніцам, асабліва дакументам колішняй канцылярыі вялікага магістра ў Мальбарку, якія апошнім часам інтэнсіўна вывучаюцца, можна праліць святло на некаторыя другарадныя, але не менш цікавыя аспекты гэтай бітвы. Адно з іх — пытанне пра стаўленне да ваеннапалонных пераможанага боку, якому і прысвечаны гэты артыкул.

Бітва пры Каранове, дакладная лакалізацыя якой дагэтуль невядомая (за выключэннем таго, што яна разыгралася недзе ў ваколіцах гэтага горада[3]), адбылася 10 кастрычніка 1410 г. Ордэнскае войска на чале з войтам Новай Маркі Міхаэлем Кюхмайстарам складалася пераважна з жэшаўскіх, сілезскіх і чэшскіх наёмнікаў, якія, у прыватнасці, былі прысланы Ордэну на дапамогу яго тагачасным саюзнікам венгерскім каралём Жыгімонтам Люксембургскім. З польскага боку, у сваю чаргу, змагалася прыдворная каралеўская гвардыя, паспалітае рушанне з прыгранічных тэрыторый і іншыя атрады, характар якіх дакладна не вядомы. Велічыня абедзвюх армій, нягледзячы на шматлікія прыкідкі розных гісторыкаў (пазбаўленыя, аднак, верагоднай дакументальнай асновы)[4], на самай справе невядомая. Як бы там ні было, большасць ранейшых даследчыкаў

[2] Joannis Dlugossii Annales seu cronicae incliti Regni Poloniae // Ed. Plezia M. Lib. 10–11. Varsaviae, 1997 (далей — Długosz). S. 99–115, 152–156.

[3] Гл. найноўшыя разважанні К. Квяткоўскага пра ход і месца гэтай бітвы: Kwiatkowski K. Op. cit.

[4] На думку З. Спяральскага, узначальванае Міхаэлем Кюхмайстарам войска, якое змагалася пад Карановам, налічвала 3500 чалавек, гл.: Spieralski Z. Op. cit. S. 61. У сваю чаргу, С. М. Кучыньскі ацэньваў яго ў менш як 4000 чалавек, гл.: Kuczyński S. M. Wielka Wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409–1411 / Wyd. 4. Warszawa, 1980. S. 502–503.

прытрымлівалася меркавання, што крыжацкае войска колькасна пераважала[5]. У бітве, якая цягнулася да самага вечара і вялася — калі верыць Длугашу — паводле пэўных прызнаваных абодвума бакамі правілаў, перамога дасталася палякам. Храніст двойчы падкрэсліў, што, хоць гэтая бітва была менш маштабная за Грунвальдскую, паводле сваёй зацятасці і значэння яна магла лічыцца важнейшай за яе[6]. Падаецца, што гэты каментарый Длугаша грунтаваўся не толькі на звычайным для яго перабольшванні. Важнасць перамогі, здабытай палякамі пры Каранове, падкрэсліваюць і іншыя, больш раннія дакументальныя сведчанні. Асабліва цікавыя звесткі ўтрымліваюцца ў напісаным 11 кастрычніка 1410 г. непадалёк ад Торуні вялікім лісце тагачаснага выконваючага абавязкі вялікага маршала — комтура бальгскага Фрыдрыха фон Цолерна, адрасаваным выконваючаму абавязкі вялікага магістра комтуру швэцкаму Генрыху фон Плаўэну. Ордэнскі ўраднік якраз атрымаў данясенне ад нейкага свайго надзейнага інфарматара (з Торуні?), які паведаміў яму, што напярэдадні (10 кастрычніка) нейкія прадстаўнікі тамтэйшай гарадской рады размаўлялі з каралём у Інаўроцлаве, просячы яго аб вайсковай дапамозе (гэта быў перыяд, калі аўтаномныя ўлады Торуні раздумвалі, чый бок заняць у далейшай фазе вайны, якая працягвалася). Манарх нібыта сказаў ім, каб яны пастараліся пратрымацца як належыць адважным людзям. Калі Бог пашле яму перамогу ў гэтай вайне, то ён вызваліць іх з-пад улады Ордэна, калі ж прайграе, тады торунцы няхай робяць што здолеюць і што палічаць патрэбным[7]. Уладыслаў Ягайла нібыта выказаўся так

[5] Пра вырашальную перавагу войскаў Ордэна неаднаразова згадваў яшчэ Длугаш. У іншым месцы храніст, яўна перабольшваючы, паведаміў, што ў гэтай бітве з боку тэўтонцаў загінула 8000 чалавек.

[6] Długosz. S. 155–156.

[7] „…Und die von Thorun synt also gestern von Leslaw von im [караля. — *С. Ю.*] gescheyden, do sie bie im gewest synd bittende umb rettunge; das her czu in gesprachen hat, das sie sich sulden

10 кастрычніка, яшчэ не ведаючы пра перамогу яго войска пад Карановам, і, як вынікае з прыведзенага ўрыўка данясення, усур'ёз разглядаў магчымасць сваёй паразы ў вайне. У кантэксце гэтых звестак цяжка аспрэчваць тое, што памянёны мілітарны трыумф польскага боку меў вельмі важнае значэнне для далейшага ходу канфлікту.

Ужо пад час апісання ходу бітвы пры Каранове кракаўскі канонік мімаходзь упамінаў пра ваеннапалонных; больш шырокую ўвагу гэтаму пытанню ён аддаў пры падвядзенні вынікаў сутычкі. Двойчы храніст згадваў рыцара Конрада Німпча пры двары Жыгімонта Люксембургскага, які паходзіў з Сілезіі і змагаўся на баку Ордэна. Так, перад пачаткам вырашальнай бітвы ён нібыта выступіў са строю і выклікаў на асабісты бой добраахвотніка з процілеглага боку. Выклік прыняў Ян Шчыцкі герба „Даліва", які перамог сілезца, зваліўшы яго з каня. Праўда, у гэтым месцы Длугаш не ўдакладняе, ці выжыў пераможаны, але гэта становіцца зразумела пазней, калі, падводзячы вынікі бітвы, храніст згадвае Німпча сярод ваеннапалонных[8]. Цікавыя звесткі прыводзіць кракаўскі канонік, каментуючы часовае перамір'е паміж ваяўнічымі бакамі, якое мела месца паміж другім і вырашальным трэцім боем. Так, абодва бакі павінны былі ў гэты час, у прыватнасці, абмяняцца ваеннапалоннымі і вярнуць коней праціўніка, захопленых пад час бітвы (да гэтага пытання мы яшчэ вернемся падрабязней)[9]. Паводле слоў храніста з апісання апошняй, пераможнай для польскага боку фазы бітвы,

enthalden als bederwe luthe; hilft im got, das her den streyt gewynnet, her welde sie wol von uns macht entseczen, worlust her aber den streyt, so sullen sie thun, wie sie mogen". Цыт. паводле: Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz, Berlin-Dahlem, XX. Hauptabteilung, Ordensbriefarchiv (далей — OBA), № 1355.

8 Długosz. S. 153, 156. Узяцце Конрада Німпча ў палон знайшло адлюстраванне і ў некалькіх дакументах прускага паходжання — пра гэта будзе ісці гаворка ў наступнай частцы гэтага артыкула.

9 Długosz. S. 154.

ніхто з непрыяцельскіх войскаў не пазбег бы палону, калі б не надыход цемры[10]. Чарговыя цікавыя звесткі наконт ваеннапалонных Длугаш прыводзіць у сваім досыць аб'ёмным фінальным каментарыі, прысвечаным Карановіцкай бітве. Так, ён сцвярджае, што ў палон да палякаў трапіла шмат франконцаў, сілезцаў, баварцаў, цюрынжцаў, чэхаў, жыхароў Рэйнскай вобласці і Мейсена, саксонцаў і швабаў. Па імені сярод ваеннапалонных храніст называе галоўнакамандуючага войскам праціўніка новамарскага войта Міхаэля Кюхмайстара, памянёнага ўжо Конрада Німпча, а таксама, паводле фармулёўкі Длугаша, іншых прыдворных караля венгерскага Жыгімонта Люксембургскага — Конрада Элькінгера, Конрада Трукльшэша, Бальтазара з Глоўна (ці Слаўна)[11] і Ганнуса Лебеля[12].

Колькі ўсяго крыжаносцаў апынулася ў польскім палоне? „Свентакшыская хроніка" падае, што людзей знакамітага паходжання сярод іх было каля 300[13]. Э. Кутоўскі на базе досыць адвольных падлікаў (беручы пад увагу толькі частку захаваных першакрыніц) сцвярджае, што іх было не менш як 120[14]. У сваю чаргу, З. Спяральскі, спасылаючыся на прыведзеныя вышэй звесткі з польскай летапіснай крыніцы, заняў у гэтым пытанні супярэчлівую пазіцыю[15]. Дбайны аналіз усіх

[10] Długosz. S. 155.

[11] Назва вар'іруецца ў розных копіях працы кракаўскага каноніка.

[12] Długosz. S. 156.

[13] „Anno eodem breui interuallo, iterum Poloni cum Cruciferis circa claustrum Corunow bellum fecerunt et Cruciferos vicerunt et 300 notabiles captiuos ad regem in Wladislauiam adduxerunt". Цыт. паводле: Rocznik świętokrzyski do r. 1490 / Wyd. Bielowski A. // Monumenta Poloniae Historica / Wyd. Małecki A., Kętrzyński W., Liske K. T. 3. Lwów, 1878. S. 84.

[14] Kutowski E. Op. cit. S. 487.

[15] Аўтар, памылкова інтэрпрэтуючы звесткі крыніцы, з аднаго боку заявіў, што сярод палонных не магло быць „300 знакамітых рыцараў", паколькі такіх ва ўсім Кюхмайстаравым войску было толькі крыху больш, з другога ж — прыняў па ўмаўчанні, што гэтая агульная колькасць ваеннапалонных адпавядае рэчаіснасці, уключыўшы ў яе

наяўных крыніц, у якіх згадваюцца крыжаносцы, узятыя ў палон пасля гэтай бітвы, дазваляе канстатаваць, што іх было не менш як 200, у тым ліку вядомых пайменна, апрача Міхаэля Кюхмайстара, — 67[16]. Улічваючы, аднак, той факт, што наяўны ў дзвюх крыху адрозных адна ад адной копіях складзены ў ліпені 1411 — жніўні 1412 г.[17] пералік сум, выдзеленых вялікім магістрам на падтрымку ваеннапалонных (у ім фіксуюцца кампенсацыі за страчаную зброю і коней, грошы на дарогу да месца выплаты выкупу і г. д.), з'яўляецца найбольш поўным такім спісам, які, аднак, не ўключае ў сябе ўсіх палонных, узятых пад Карановам (нават з ліку наёмнікаў і рыцараў з акружэння Жыгімонта Люксембургскага, якімі гэты спіс абмяжоўваўся)[18], можна з вялікай верагоднасцю дапусціць, што ў суме іх магло быць больш за 300.

рыцараў, збраяносцаў, слуг і г. д. Гл.: Spieralski Z. Op. cit. S. 66–67.

16 OBA, № 1375; Das Soldbuch des Deutschen Ordens 1410/1411. Die Abrechnungen für die Soldtruppen / Bearb. und ediert v. Ekdahl S. Teil I. Köln-Wien, 1988 (далей — Soldbuch). S. 97–98, 102, а таксама Anhang. № 23. S. 177; № 24. S. 184–187, 196–199; Kodeks dyplomatyczny Wielkopolski / Wyd. i oprac. Gąsiorowski A. i Walczak R. T. VII. Warszawa — Poznań, 1985. № 670; Biskup M. Z badań nad „Wielką Wojną" z zakonem krzyżackim // Kwartalnik Historyczny. 1959. № 66. Z. 3. Dodatek, № 7. S. 702–705, 709; Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz, Berlin-Dahlem, XX. Hauptabteilung, Ordensfolianten (далей — OF). № 13. S. 553–554; Soldbuch. Anhang. № 24. S. 192, przyp. 16.

17 С. Экдаль, які падрыхтаваў да друку гэтыя дакументы, устанавіў, што яны былі створаны пасля 15 ліпеня 1411 г., але перад 24 жніўня 1412 г. Гл.: Soldbuch. Anhang. № 24. S. 178, 189 (каментарый выдаўца).

18 Напрыклад, Длугаш паведамляе, што з кола прыдворных венгерскага караля ў палон трапіў, у прыватнасці, Бальтазар з Глоўна (ці Слаўна): Długosz. S. 156. Такая постаць не фігуруе ні ў адной з вядомых крыніц, якія пайменна пералічваюць ваеннапалонных, узятых пры Каранове. На думку Э. Кутоўскага, кракаўскі канонік проста сказіў гучанне прозвішча гэтага чалавека: Kutowski E. Op. cit. S. 486. Цяжка, аднак, згадзіцца з меркаваннем гэтага даследчыка, паколькі ва ўсіх крыніцах, што дайшлі да нас, дзе карановіцкія ваеннапалонныя згадваюцца пайменна,

Длугаш даволі падрабязна апісаў тое, што здарылася з палоннымі 10–16 кастрычніка 1410 г. Так, паводле яго слоў, 12 кастрычніка палякі даставілі іх у Быдгашч і толькі 15-га — у Інаўроцлаў, дзе ў гэты час знаходзіўся кароль. Некаторыя з іх (магчыма, параненыя[19]) перавозіліся на 60 вазах (прапанаваных манархам), а іншыя ішлі пешкі або ехалі верхам на конях. Уладыслаў Ягайла, паводле сведчання храніста, паставіўся да палонных з вялікай далікатнасцю: іх накармілі вячэрай, аказалі медыцынскую дапамогу, размясцілі на зручных кватэрах, дзе кароль наведаў іх асабіста. Пасля агульнай трапезы манарх доўга размаўляў з палоннымі, апавядаючы ім аб прычынах вядзення вайны з польска-літоўскага боку. Паводле слоў храніста, тым самым ён здолеў пераканаць слухачоў, што яны баранілі несправядлівую справу і занялі ў канфлікце няправільны бок. На наступны дзень (16 кастрычніка) палонных пералічылі, узялі з іх абавязацельства з'явіцца ў пэўны час у прызначаным месцы (мабыць, з выкупам) і адпусцілі. Толькі камандуючага войскамі Тэўтонскага ордэна войта ноймаркскага Міхаэля Кюхмайстара не вызвалілі, а накіравалі ў кайданах у Хэнцінскі замак[20]. Апісаны Длугашам парадак абы-

няма нікога, хто меў бы нават такое імя.

19 Пра цяжка параненых ваеннапалонных з-пад Каранова (якія, аднак, выжылі) згадваюць і памянёныя вышэй спісы кампенсацый, складзеныя ў ліпені 1411 — жніўні 1412 г.: „Item Lobens czwene gesellen worden gefangen und swerlich gewunth, 8 frankisch kroner” (Soldbuch. Anhang. № 24. S. 185).

20 Długosz. S. 157. Ордэнскі храніст затое занатаваў, што палякі да ўзятага ў палон Міхаэля Кюхмайстара ставіліся сурова з прычыны таго, што ён быў чалавекам адважным, прычыніў каралеўству шмат шкоды, а раней узяў у палон рыцара Яраслава [з Іўна] — гл.: Johann's von Posilge, officialis von Pomesanien. Chronik des Landes Preussen / Hrsg. v. Strehlke E. // Scriptores rerum Prussicarum / hrsg. v. Hirsch T., Töppen M., Strehlke E. Bd. III. Leipzig, 1866 (далей — Posilge). S. 323. Існуюць, аднак, дакументальныя сведчанні таго, што войт ноймаркскі быў не адзіным нявольнікам, якога манарх адразу пасля Карановіцкай бітвы не выпусціў пад слова гонару. Іншым быў рыцар Генрых Гарфуст, які ў Грунвальдскай бітве выступаў у якасці слугі комтура торуньскага і трапіў

ходжання Уладыслава Ягайлы з ваеннапалоннымі пасля Карановіцкай бітвы пацвярджаецца і паведамленнямі з боку Ордэна. У лісце, напісаным 20 кастрычніка 1410 г. у Тухолі, выконваючы абавязкі тамтэйшага комтура Шыман Лангшэнкель паведамляў швэцкаму комтуру Генрыху фон Плаўэну (які выконваў у гэты час абавязкі вялікага магістра), што ў Тухолю паступова прыбываюць вызваленыя каралём палонныя. Так, акурат прыбыў пан Німшэ (відаць, длугашаўскі Конрад Німпч, у іншых дакументах ордэнскай канцылярыі называны Німічам ці Німпчам) разам з іншымі рыцарамі і слугамі („knechte”), якія па дарозе апярэдзілі пана Эркінгера (відавочна, длугашаўскі Конрад Элькінгер, які сапраўды ўдзельнічаў у бітве і паходзіў з даўняга ніжнефранконскага роду Эркінгераў фон Зайнсхаймаў)[21]. Апошні таксама накіроўваўся ў

у палон, адкуль пры няясных абставінах, але досыць хутка быў выкуплены. Потым ён апынуўся ў войску Міхаэля Кюхмайстара і зноў, цяпер ужо разам з войтам ноймаркскім, трапіў у палон пад Карановам. Фрагмент з ліста вялікага магістра Паўла фон Русдорфа да архібіскупа калонскага за 20 лютага 1438 г. („und darnach in der Nuwenmarke mit her Michel Kochmeister, unserm vorfar, der uff die czeit voith in der Nuwenmarke was, wart her [Генрых. — *С. Ю.*] aber gefangen und wart ouch mit em los…” — OF. № 13. S. 553–554) дазваляе меркаваць, што рыцар Генрых разам з крыжацкім войтам таксама апынуўся ў Хэнціне і разам з ім жа быў пазней вызвалены. Уся яго гісторыя стала вядома дзякуючы таму, што праз доўгі час ён, а пасля яго смерці ягоная жонка дамагаліся ад уладаў Тэўтонскага ордэна кампенсацыі за абодва праведзеныя ў няволі тэрміны, у чым тэўтонцы паслядоўна адмаўлялі, настойваючы на тым, што ўсё належнае ўжо было яму выплачана. Больш падрабязна пра гэты эпізод апавядае С. Экдаль: Soldbuch. Anhang. № 24. S. 192, przyp. 16 (каментарый выдаўца).

21 Длугаш сярод загінулых з боку Ордэна вылучыў знатнага маладзёна Ульрыха Эркінгера, відаць нейкага сваяка Конрада, які нібыта паходзіў з такой багатай сям’і, што калі б выжыў, то за яго можна было б атрымаць 60 000 фларэнаў выкупу (г. зн. у пераліку 30 000 грыўняў). Ён быў пахаваны ў асобнай дамавіне ў Карановіцкім кляштары: Długosz. S. 156. У кантэксце вядомых з іншых крыніц канкрэтных сум, якія выплачваліся тады за вызваленне з палону, інфармацыя Длугаша выглядае значным перабольшаннем.

Тухолю, але часова затрымаўся за мілю ад яе. Усе яны былі вызвалены, за выключэннем войта ноймаркскага, якога кароль не пажадаў адпусціць. Некаторыя вялі з сабой паланёных палякаў, захопленых яшчэ да таго, як яны самі патрапілі ў няволю[22]. Выконваючы абавязкі комтура стараўся выпытаць у прыбылых, што менавіта з імі адбывалася пасля бітвы. На гэта яны адказвалі, што ім забаронена (відаць, польскім бокам) пра гэта гаварыць; тым не менш, ордэнскаму ўрадніку ўдалося сёе-тое высветліць. Так, былыя палонныя казалі, што ніколі не бачылі ўладара, больш заклапочанага справядлівасцю, чым польскі кароль; ён пытаўся, ці мог бы нейкі іншы ўладар з гэтым змірыцца (у тэксце недагаворанасць — відаць, з несправядлівасцю); імкнучыся ж да справядлівасці, ён і сам, маўляў, хоча дзейнічаць па праўдзе. Таму, падкрэсліваў згаданы ўраднік, многія рыцары і наёмнікі прызнаюць рацыю польскага караля, як ён сам ад іх чуў[23]. Гэта пацвярджае аповед Длугаша пра выкладанне польскім каралём сваіх аргументаў перад ваеннапалоннымі, што, паводле сведчання выконваючага абавязкі комтура, пераканала многіх наёмнікаў у польскай рацыі.

Як вынікае з апісання кракаўскага каноніка і іншых досыць шматлікіх сведчанняў з боку Ордэна, палонныя былі адпушчаны Уладыславам Ягайлам пад слова гонару, з абавязацельствам з’явіцца ў пэўным месцы ў пэўны час з выкупам[24]. Некаторыя больш важныя наёмнікі на

[22] „…und sy habin etlich gevangen van den Polan mit in gebracht, dy sy gevangen, e das sy gevangen wurden…” — цыт. паводле: OBA. № 1375. Пра такую звышдалікатнасць Длугаш не згадваў. Храніст пісаў толькі пра абмен ваеннапалоннымі пад час узгодненага другога перапынку ў ходзе бітвы: Długosz. S. 154.

[23] „…sunder also vil sagen sy wol, das sy ny keynen herren sich groslicher habin gehort irbyten tzu gerechtykeit, wen den konyng, wen her spricht, wer irneyn herre, der sichs annemen welde; her welde tun, als das her von rechte tun sulde. Hir ummb so gebin im vele rittere und knechte gerecht, als ich von in gehort habe”. Цыт. паводле: OBA. № 1375.

[24] Як дзейнічаў гэты механізм, прыкладна вядома з гісторыі

службе Ордэна заключалі са сваімі гаспадарамі кантракты, якія прадугледжвалі выкуп з магчымай няволі, атрыманне жалавання на працягу знаходжання ў няволі, а таксама выплату кампенсацыі ў кошт страт і выдаткаў на дарожныя расходы[25], у гэтым кантэксце яны былі зарэгістраваныя ў пазнейшых крыніцах крыжацкага паходжання. Праўда, узнікаюць праблемы з дакладным датаваннем гэтых дакументаў, а таксама з іх адназначнай інтэрпрэтацыяй. Гэта датычыць, напрыклад, асобы Эркінгера фон Зайнсхайма. Са складзенага ў перыяд паміж Карановіцкай бітвай і Торуньскім мірам[26] спіса польскіх палонных, захопленых у Прусіі, якія меліся быць абменены на крыжацкіх ваеннапалонных[27] (спіс захоў-

аднаго з найважнейшых камандзіраў крыжацкіх наёмнікаў, які трапіў у польскі палон пад Грунвальдам, — Мікалая фон Катэвіца (у чэрвені 1410 г. ён прывёў у Прусію 150 вершнікаў і шматлікіх арбалетчыкаў). Пасля вызвалення каралём пад слова гонару ён павінен быў з'явіцца ў Кракаве 29 верасня. Там яго свабода была ацэнена ў 200 коп чэшскіх грошаў (ці 250 грыўняў), два даспехі і чатыры арбалеты, пра што вядома з яго ліста да Генрыха фон Плаўэна, напісанага ў Кракаве прыкладна ў кастрычніку 1410 г. Гл.: Ekdahl S. Kilka uwag o księdze żołdu Zakonu Krzyżackiego z okresu „Wielkiej Wojny” (1410—1411) // Zapiski Historyczne. 1968. № 33. Z. 3. S. 126–127, 129 (разам з публікацыяй крыніцы). Паведамляючы пра гэта выконваючаму абавязкі вялікага магістра, Катэвіц, мабыць, разлічваў на тое, што крыжацкія ўлады заплацяць за яго гэты выкуп.

[25] Пра гэта гл.: Ekdahl S. Op. cit. S. 111–130.

[26] Як сцвярджае М. Біскуп, гэтая крыніца датуецца перыядам паміж 20 кастрычніка 1410 г. і 2 лютага 1411 г. — гл.: Buskup M. Op. cit. Dodatek, № 7. S. 701.

[27] Э. Кутоўскі пераказвае ліст, які збярогся ў рукапіснай копіі; даследчык датуе яго 24 траўня 1412 г. Гэты ліст вялікі магістр Генрых фон Плаўэн скіраваў да князя Пржэмка Апаўскага. Кіраўнік Тэўтонскага ордэна паведамляў у ім, у прыватнасці, што незадаволенасць наёмнікаў узнагароджаннем, атрыманым пасля службы, прымусіла яго пасля Карановіцкай бітвы пайсці на саступкі, якія заключаліся ў павышэнні ім жалавання, а ў выпадку іх паланення — прадастаўленні гарантый абмену на ўзятых у палон палякаў (гл. Kutowski E. Op. cit. S. 488, przyp. 1). На жаль, рукапісны збор, якім карыстаўся нямецкі даследчык, загінуў пад час апошняй

ваўся ў архівах былой канцылярыі вялікага магістра), вынікае, што выкупам за гэтага сваяка Жыгімонта Люксембургскага павінен быў служыць узяты ў палон у Браціяне чашнік добжынскі Ян Краткоўскі[28], чым, відаць, было абумоўлена яго вызваленне. Аднак у далейшай частцы гэтага досыць аб'ёмнага дакумента з'яўляюцца звесткі, што, у сваю чаргу, Эркінгеру і яго людзям былі перададзены некалькі дзясяткаў польскіх палоннікаў разам з іх камандзірам Ярандам[29], узятым у палон у Міламлыне[30]. Напэўна, і гэты крок быў зроблены з намерам ажыццявіць у будучыні нейкі ўзаемавыгадны абмен. Як бы там ні было, крыніцы не даюць уяўлення пра тое,

вайны. Да нашых дзён захаваліся толькі кароткія пераказы ўключаных у яго лістоў і дакументаў. На іх падставе можна толькі скарэктаваць памылкова прыведзеную Э. Кутоўскім дату напісання гэтага ліста вялікага магістра — на самай справе гэта адбылося 27 верасня 1412 г. Гл.: Pelech M. Der verlorene Ordensfoliant 5 (früher Hochmeister-Registrant II) des Hist. Staatsarchivs Königsberg, mit Regesta (nach Rudolf Philippi und Erich Joachim) // Beiträge zur Geschichte des Deutschen Ordens / Hrsg. v. Arnold U. Bd. I. Marburg, 1986. № 102. S. 167. З іншага боку, вядома, што і сапраўды пасля Карановіцкай бітвы крыжацкія ўлады павысілі наёмнікам стаўку жалавання з 11 да 12 грыўняў на кап'ё ў месяц. Гл.: Ekdahl S. Op. cit. S. 119; Soldbuch. S. 25, 98 (заўвагі выдаўца).

28 Пра асобу Яна Краткоўскага гл.: Bieniak J. Elita ziemi dobrzyńskiej w późnym średniowieczu i jej majątki // Stolica i region. Włocławek i jego dzieje na tle przemian Kujaw i ziemi dobrzyńskiej / Red. Krut-Horonziak O., Kajzer L. Włocławek, 1995. S. 38; Sławiński T. Kretkowscy i ich dzieje od połowy XIV wieku. Włocławek — Warszawa, 2007. S. 40–42.

29 Найноўшыя даследаванні сведчаць пра тое, што гаворка тут можа ісці пра дзвюх асоб: пра Яранда з Грабе (Брудзэва), тагачаснага харунжага інаўроцлаўскага, або пра брэсцкага стольніка Яранда з Малой Клобі, які на пачатку 1411 г. атрымаў прызначэнне на месца кашталяна ковальскага. Гл.: Szybkowski S. Postawy polskich i litewskich elit społecznych wobec konfliktu w trakcie wyprawy letniej i kampanii jesienno-zimowej // Jóźwiak S., Kwiatkowski K., Szweda A., Szybkowski S. Wojna Polski i Litwy z zakonem krzyżackim. Malbork, 2010. S. 698. Значыць, калі б меўся на ўвазе апошні, то ўжо на пачатку 1411 г. ён мусіў быць вызвалены з палону.

30 Biskup M. Op. cit. Dodatek № 7. S. 703–704.

як і калі былі праведзены абодва гэтыя абмены. З захаваных у дзвюх крыху адрозных адна ад адной версіях і датаваных ліпенем 1411 — жніўнем 1412 г.[31] пералікаў сум, якія Ордэн выдзеліў на падтрымку сваіх ваеннапалонных, вынікае, што Эркінгер (які згадваецца сярод іншых схопленых сваякоў Жыгімонта Люксембургскага як „von der Kronaw") праз нейкі час пасля Карановіцкай бітвы павінен быў атрымаць ад крыжаносцаў 200 нобіляў, 50 польскіх грыўняў, 100 „шыльдаў" (экю) і 30 фларэнаў (усяго ў пераліку гэта было б каля 340 грыўняў)[32]. Да гэтага 50 фларэнаў (25 грыўняў) было выплачана яго безыменным слугам, а 75 нобіляў, 16 грыўняў і 110 фларэнаў (у суме больш за 150 грыўняў) меліся атрымаць пяць яго згаданых пайменна паплечнікаў[33]. Улічваючы, што ў папярэдняй крыніцы вялася гаворка пра магчымасць абмену на польскіх ваеннапалонных, не зусім зразумела, на што прызначаліся гэтыя грошы, выплачаныя крыжаносцамі Эркінгеру, а таксама ягоным людзям і слугам. У кожным разе гэта яўна не было жалаванне, паколькі Эркінгер і яго паплечнікі, з пункту гледжання Ордэна, не адносіліся да катэгорыі наёмнікаў. Можа, гэтыя сумы хоць часткова прызначаліся на выплату выкупу? Але і гэтага нельга сцвярджаць з усёй пэўнасцю. Вядома, што ўжо неўзабаве пасля заканчэння вайны і вызвалення з палону[34] Эркінгер і яго людзі дамагаліся ад крыжаносцаў (цяжка сказаць, наколькі настойліва) выплаты належнага жалавання і кампенсацыі страт, нанесеных імі на службе Ордэну ў час апошняга канфлікту[35].

31 Наконт датавання гэтых крыніц гл. спасылку 17.
32 Згодна з каэфіцыентам, прапанаваным С. Экдалем, 1 венгерскі фларэн быў роўны 0,5 грыўні (ці 12 скойцам), 1 французскае залатое экю адпавядала 14 скойцам, тады як англійскі нобіль быў роўны 26 скойцам і 4 пфенігам. Гл.: Ekdahl S. Einführung // Soldbuch. S. 18.
33 Soldbuch. Anhang, № 24. S. 186, 197–198.
34 Пра гэта гл. ніжэй.
35 OBA. № 1593, № 1628. Яшчэ ў лісце за 8 траўня 1419 г. магістр нямецкай галіны Тэўтонскага ордэна звяртаўся да вялікага магістра Міхаэля Кюхмайстара з просьбай задаволіць фінансавыя прэтэнзіі Эркінгера (мабыць, яшчэ з часоў вайны

Варта цяпер перайсці да іншых знакамітых ваеннапалонных, схопленых пасля Карановіцкай бітвы, лёс якіх знайшоў сваё адлюстраванне ў крыніцах. Так, згаданы Длугашам рыцар з Сілезіі Конрад Німпч, прыдворны Жыгімонта Люксембургскага, як вынікае з прыведзенага вышэй спіса, складзенага ў кастрычніку 1410 — лютым 1411 г., быў выкуплены разам з двума таварышамі Пятром Ванглем, які трапіў у палон разам са сваімі падначаленымі ў Тчэве[36]. У сваю чаргу, у датаваных ліпенем 1411 — жніўнем 1412 г. пераліках сум, выдзеленых Ордэнам на падтрымку ваеннапалонных, зафіксавана перадача яму 50 прускіх грыўняў, тады як яго паплечнікі (якіх было аж 24 чалавекі[37]) мелі атрымаць 50 грыўняў і 100 фларэнаў (усяго, такім чынам, каля 100 грыўняў — па 4,5 грыўні на кожнага)[38]. У гэтым выпадку таксама дакладна не вядома прызначэнне гэтых грошай, бо Німпч быў не наймітам Ордэна, які ваяваў за грошы, а сваяком Жыгімонта Люксембургскага. Згаданы Длугашам Конрад Труклышэш — гэта, відаць, прысутны ў ордэнскім пераліку Конрад Трухтсэс (Троксас). Ён атрымаў 30 фларэнаў (ці 15 грыўняў), прычым з другой версіі спіса вынікае, што гэтыя грошы прызначаліся на пакрыццё яго дарожных расходаў — відаць, на паездку ў Кракаў, дзе ён як ваеннапалонны мусіў з'явіцца ў вызначаны тэрмін[39]. Сямёра паплечнікаў і двое слуг з яго акружэння атрымалі ў суме 90 фларэнаў (па 10 на кожнага)[40]. Апошнім з пайменна згаданых Длугашам нявольнікаў,

1410–1411 г.), паколькі яго далейшае прыязнае стаўленне да Ордэна мае істотнае значэнне. Гл.: OBA. № 2959; Kutowski E. Op. cit. S. 506, przyp. 5.

36 Biskup M. Op. cit. Dodatek № 7. S. 702. Пра Пятра Вангля вядома няшмат. Магчыма, акурат ён („Petrus Wangel de Brigow") быў абменены ў ліку іншых прыдворных рыцараў Жыгімонта Люксембургскага ў 1397 г. Гл.: Engel P. Magyar Ország világi archontológiája 1301–1457. T. 1. Budapest, 1996. S. 421; Długosz. S. 271 (каментарый выдаўца).

37 Што вынікае з другой версіі спіса.

38 Soldbuch. Anhang, № 24. S. 184–185, 196.

39 „Iten 30 goldin her Conrado Troksos czerunge sich czu gestellin".

40 Soldbuch. Anhang, № 24. S. 198.

узятых у палон пасля бітвы пры Каранове, — таксама з ліку сямейнікаў Жыгімонта Люксембургскага — быў Ганус Лебель (у ордэнскіх крыніцах — Ганус фон Лобель), які трапіў у палон разам са сваімі сваякамі Мікалаем і Німандам. У той самай фінансавай справаздачы пад яго прозвішчам значацца 35 грыўняў і 155 фларэнаў (што ў пераліку дае 112,5 грыўні), з чаго 135 фларэнаў ён меўся атрымаць у якасці кампенсацыі нейкіх панесеных ім страт (відаць, за ўзбраенне і коней)[41].

Сярод іншых ваеннапалонных Ордэна пасля Карановіцкай бітвы адносна добра прасочваецца ў выбраным намі кантэксце лёс камандзіра найбуйнейшага атрада наёмнікаў Гейнца фон Профена (Профіна). З запісу ў ордэнскай „Кнізе выплат", зробленым неўзабаве пасля 10 кастрычкніка 1410 г., вынікае, што не ўсе члены яго роты пасля Карановіцкай бітвы трапілі ў палон42. З вышэйпамянёных пералікаў сум, выдзеленых Ордэнам на падтрымку ваеннапалонных (за ліпень 1411 — жнівень 1412 г.), вынікае, што пад час першай дакументальна зафіксаванай выплаты ён атрымаў 30 фларэнаў (15 грыўняў). Потым за перыяд знаходжання ў палоне вялікі магістр заплаціў яму 262 грыўні. Магчыма, гэтая сума была выдзелена Ордэнам у якасці кампенсацыі за страчаную ў баі маёмасць, а можа (прынамсі часткова) — і на выкуп яго ды, магчыма, яго людзей з палону43. У кожным разе гэта не была выплата пратэрмінаванага жалавання, пра што сведчыць абавязацельства Профена, складзенае, хутчэй за ўсё, на пачатку 1411 г. (пасля 10 студзеня?)44, паводле якога ён і яго людзі („mit meynen

[41] Soldbuch. Anhang, № 24. S. 185, 196.

[42] „Item her Heyncze Ol sustulit 315 m. off 21 spyse von her Heyncze Profins gesellen, dy nicht gefangen worden vor der Kronaw". Гл.: Soldbuch. S. 102.

[43] „Her Heincze von Profin 262 m., dy im unser homeister gab von Nickel Pyskerdorf, in czu manen, als her Hincze gefangen wart, und Niclos Pyskerdorf darvonquam und henusreyth". Гл.: Soldbuch. Anhang, № 24. S. 186–187, 199.

[44] С. Экдаль датаваў гэты дакумент канцом 1410 — пачаткам 1411 г. Гл.: Soldbuch. Anhang, № 23. S. 177 (каментарый выдаўца). Гэты даследчык, аднак, не ўзяў пад увагу той

gesellen also andirrn rittern und knechten") па загадзе вялікага магістра Генрыха фон Плаўэна згаджаліся на ўтрыманне свайго квартальнага жалавання ў кошт 20 коп'яў, ці 60 конных рыцараў, якія разам з Профенам трапілі ў палон перад Карановам45. Свэн Экдаль, які апублікаваў гэты дакумент, звярнуў увагу на тое, што камандзір наёмнікаў згадваў пра ўскладзены на яго з гэтай нагоды доўг („schulde"), з чаго рабіў выснову, што да 10 кастрычніка 1410 г. ён ужо атрымаў гэтыя грошы, якія з прычыны пападання ў палон мусіў вярнуць. Магчыма, так і было, хоць у аналізаваным намі абавязацельстве не ідзе гаворка ні пра якія канкрэтныя сумы. Можна таксама небеспадстаўна сумнявацца ў тым, што Профен разам са сваімі людзьмі адразу пасля бітвы таксама быў вызвалены каралём з абавязкам вярнуцца пазней, што са зместу гэтай крыніцы прынамсі адназначна не вынікае.

Паведамленні, якія дайшлі да нас, сведчаць, што ўжо праз некалькі дзён пасля бітвы пры Каранове былі праведзены перамовы на вышэйшым узроўні (пачатыя выконваючым абавязкі вялікага магістра Генрыхам фон Плаўэнам) наконт вызвалення (паводле прынцыпу абмену) польскім каралём ваеннапалонных, узятых у ходзе гэтай бітвы, перш за ўсё войта ноймаркскага Міхаэля Кюхмайстара. Пра гэта вядома з ліста, які манарх загадаў скласці 25 кастрычніка і які быў адказам на выказаныя некалькі дзён таму пісьмовыя просьбы швэцкага комтура. На пачатку ліста Уладыслаў Ягайла выказваў сваё стаўленне да прапановы кіраўніка Ордэна вызваліць вязняў, узятых у палон 10 кастрычніка, пад слова гонару (з гарантыяй вяртання), узамен чаго Генрых фон Плаўэн абяцаў зрабіць тое самае ў дачыненні да польскіх ваеннапалонных, раней захопленых войскам Ордэна. Манарх адказваў, што незалежна ад просьбаў

акалічнасці, якая вынікае з тэксту, што Профен, трапіўшы разам са сваімі людзьмі ў палон, пагадзіўся на ўтрыманне свайго квартальнага жалавання. Між тым гэтая акалічнасць дазваляе меркаваць, што пасля 10 кастрычніка мінула ўжо тры месяцы.

[45] OBA. № 1625; Soldbuch. Anhang, № 23. S. 177.

вялікага магістра ён, кіруючыся высакародным хрысціянскім звычаем, які павінен захоўвацца і пад час вайны, вызваліў пад слова гонару ўсіх ваеннапалонных як з гэтай бітвы, так і даўней узятых, вызначыўшы ім пэўны (у лісце не канкрэтызаваны) дзень вяртання з выкупам. Потым кароль вылучаў шэраг абвінавачанняў на адрас крыжацкага боку, адзначаючы, што прадстаўнікі апошняга не толькі не захоўваюць ваеннага звычаю, які прадпісвае адпускаць палонных пад слова гонару, але і наадварот, забіваюць, катуюць ды абражаюць вязняў. Ён патрабаваў, каб такія дзеянні былі спынены. Напрыканцы манарх адказваў на яшчэ адну прапанову, вылучаную Генрыхам фон Плаўэнам. Так, тэўтонскі ўраднік прапаноўваў абмяняць харунжага познаньскага Яраслава з Іўна, які трапіў у палон да тэўтонцаў у баі непадалёк ад Члухава („circa Slochow")[46], на паланёнага ў ходзе Карановіцкай бітвы войта Новай Маркі Міхаэля Кюхмайстара. Уладыслаў Ягайла заяўляў, што гэта немагчыма, бо Яраслаў за гэты час быў цалкам вызвалены тым, хто ў памянёным баі ўзяў яго ў палон (манарх не ўдакладняў, на якіх умовах), а таму ён больш не звязаны словам і не нясе на сабе ніякіх іншых абавязацельстваў, так ці інакш звязаных з палонам[47].

Тут варта крыху спыніцца на апошнім пытанні, закранутым у гэтым лісце. Познаньскі харунжы і всхоўскі староста Яраслаў з Іўна быў у той час слыннай фігурай. Пачынаючы з 1406 г. ён быў каралеўскім дыпламатам. У нейкі перыяд да 1409 г. ён падарожнічаў па Заходняй Еўропе і пры гэтым, відаць, удзельнічаў сярод іншага ў баях з маўрамі ў Іспаніі. Непасрэдна пасля 9 верасня 1409 г. ён па загадзе Уладыслава Ягайлы выправіўся ў дыпламатычную місію, у ходзе якой праз Меклембургію, Вестфалію, Клеве, Гельдрыю, Галандыю, Брабант,

46 Эдвард Рачыньскі, які рыхтаваў да друку гэты дакумент, расчытаў гэтую назву як „Slothow". Гл.: Kodeks dyplomatyczny Litwy / Wyd. Raczyński E. Wrocław, 1845 (далей — KDL). № 6. S. 118. Аднак у арыгінале, які дайшоў да нас, выразна відаць напісанне „Slochow". Гл.: OBA. № 1383.

47 OBA. № 1383; KDL. S. 117–118.

Курпфальц, Бургундыю і Францыю дабраўся да Англіі. Па дарозе на дварах нямецкіх князёў, караля рымскага Рупрэхта Вітэльсбаха (Гейдэльберг), а таксама каралёў Францыі і Англіі адстойваў пазіцыю польскага боку ў яго канфлікце з Тэўтонскім ордэнам[48]. У Польшчу вярнуўся, мабыць, увесну 1410 г. Длугаш пісаў, што Яраслаў апынуўся ў войску на чале з ваяводам калішскім і старастам накельскім Мацеем з Вансошы, якое 13 ліпеня 1410 г. выступіла на Памор'е. Яно было, аднак, разбіта ў неназваным храністам месцы аддзеламі войта Міхаэля Кюхмайстара, а сам Яраслаў тады трапіў у палон. Пры гэтым кракаўскі канонік падкрэсліваў, што ў другой палове ліпеня ў лагеры арміі саюзнікаў, якая аблажыла Мальбарк, гэтую паразу не ўдалося замаўчаць акурат па прычыне знікнення рыцара Яраслава[49]. Як вынікае з вышэйпрыведзенага каралеўскага ліста ад 25 кастрычніка, памянёная бітва адбылася недзе непадалёк ад Члухава[50]. Гэтую падзею згадваў і ордэнскі храніст афіцыял памезанскі Ян фон Рэдэн. Так, апісваючы паразу крыжацкіх войскаў пры Каранове, ён адзначаў, што войт Новай Маркі быў адважным чалавекам, паколькі даўней („vor") нанёс Каралеўству Польскаму шэраг страт і ўзяў у палон слыннага рыцара пана Яраслава, „які Ордэн у краях нямецкіх на дварах гаспадароў абвінавачваў"[51]. Відавочна, тут мелася на ўвазе дыпламатычная місія харунжага познаньскага, якую ён ажыццяўляў у канцы 1409 — пачатку 1410 г. Невядома, пры якіх абставінах рыцар Яраслаў быў вызвалены з палону, але, як вынікае з каралеўскага ліста ад 25 кастрычніка, гэта адбылося

48 Пра Яраслава з Іўна і яго тагачасную дыпламатычную дзейнасць гл.: Szweda A. Na polsko-krzyżackim pograniczu. Działalność starosty nakielskiego Jarosława z Iwna (1413–1423) // Roczniki Historyczne. 2003. № 69. S. 105–126; Idem, Szybkowski S. Aktywność dyplomatyczna stron konfliktu na dworach europejskich // Jóźwiak S., Kwiatkowski K., Szweda A., Szybkowski S. Wojna Polski i Litwy z zakonem krzyżackim w latach 1409–1411. S. 192.

49 Długosz. S. 85.

50 OBA. № 1383.

51 Posilge. S. 323.

незадоўга да моманту яго напісання і, мабыць, не абышлося без асабістага ўмяшання манарха. Важнасць Яраслава ў якасці ваеннапалоннага падкрэслівае той факт, што Ордэн хацеў абмяняць яго на галоўнакамандуючага тэўтонскімі войскамі ў бітве пры Каранове, войта Новай Маркі (і пазнейшага вялікага магістра) Міхаэля Кюхмайстара. Па згаданых вышэй прычынах гэта аказалася немагчымым, а ордэнскі саноўнік атрымаў свабоду, мабыць, толькі неўзабаве пасля падпісання Торуньскага міру (пасля 1 лютага 1411 г.)[52].

Як сведчыць вышэйпрыведзены прыклад Яраслава з Іўна, некаторыя палонныя маглі быць абменены менш афіцыйным шляхам, але напэўна ж не задарма. Цікавыя звесткі наконт гэтага ўтрымліваюцца ў напісаным 21 снежня 1410 г. у Накле лісце, у якім тамтэйшы староста — ваявода калішскі Мацей з Вансошы — выкладаў вялікаму магістру Генрыху фон Плаўэну ўмовы, на якіх ён быў згодны вызваліць аднаго з карановіцкіх ваеннапалонных — ордэнскага падданага Каспара, відаць з Нежыховіц[53]. Ягоную свабоду польскі ўраднік ацэньваў у 40 грыўняў. З гэтай сумы палонны за 30 грыўняў павінен быў выкупіць нейкі ліст (даўгавы?) якогась Багумілака (відаць, Мацеевага сваяка) у дэбжненскага мяшчаніна Пашака, землеўладальніка з Бжэзьна[54], тады як астатнія 10 грыўняў мусіў прывезці старосту. Мацей з Вансошы

[52] Хоць дакладныя абставіны і дата яго вызвалення невядомыя, навукоўцы згодныя наконт таго, што гэта адбылося ў лютым — сакавіку 1411 г. Гл.: Nöbel W. Michael Küchmeister. Hochmeister des Deutschen Ordens 1414–1422. Marburg, 1969 (Quellen und Studien zur Geschichte des Deutschen Ordens. Bd. 5). S. 33, 43; Kwiatkowski K. Op. cit.

[53] У крыніцы ён завецца „Caspar dictus Szenefelt”, што дае падставы лічыць месцам яго пражывання мясцовасць Шонфельд (Нежыховіцы, за 3 км на паўднёвы захад ад Хойніц). Аднак гэтага нельга сцвярджаць з усёй пэўнасцю, паколькі словы „званы Шэнефельт” маглі з роўным поспехам азначаць і нейкую яго мянушку. З іншага боку, фігураванне ў гэтай крыніцы Пашака „de Brzesna” (Бжэзьна Члухаўскае на захад ад Нежыховіц) гаворыць на карысць інтэрпрэтацыі, звязанай з паходжаннем памянёнага Каспара.

[54] У іншых крыніцах не фігуруе.

зазначаў, што тэрмін дзеяння зробленай ім узаемавыгаднай прапановы абмежаваны і што наогул ён ідзе на гэта толькі па просьбе вялікага магістра[55]. З прыведзенага тут перakazu вынікае, што польскі ўраднік выкарыстаў факт утрымання ваеннапалоннага для выплаты ранейшых даўгоў свайго сваяка перад падданымі Ордэна. Тым не менш, адзін момант у гэтым лісце выглядае досыць дзіўна. Так, на пачатку Мацей прыгадвае, што памянёнага Каспара ён узяў у палон пад час Карановіцкай бітвы. Але іншыя крыніцы не паведамляюць пра тое, што ён браў удзел у гэтай бітве. Ян Длугаш пайменна пералічыў каля 40 польскіх рыцараў, якія ўдзельнічалі ў гэтым сутыкненні, але сярод іх няма ніякага Мацея з Вансошы[56]. З іншага боку, досыць непраўдападобна (дый гэта супярэчыць тэксту прыведзенага ліста), што староста накельскі мог атрымаць гэтага вязня ў падарунак ад кагосьці іншага. У дадатак да ўсяго варта заўважыць, што з тэксту ліста не вынікае, што Мацей адразу пасля бітвы адпусціў свайго палоннага пад слова гонару, а гэты факт уваходзіць у супярэчнасць з вядомымі з іншых крыніц паводзінамі караля, які рабіў гэта масава. Магчыма, аднак, што гэта датычылася толькі палонных з ліку наёмнікаў або гасцей Ордэна, якія заставаліся ў распараджэнні манарха, а ў астатнім польскія рыцары захоўвалі свабоду ў дачыненні да ўласнаручна захопленых ваеннапалонных.

Апрача разабраных вышэй нешматлікіх сведчанняў, якія дайшлі да нас, у цэлым няма ніякай дакументальнай асновы для таго, каб больш дэталёва паказаць працэс вызвалення палякамі ваеннапалонных Ордэна,

[55] „Scire velitis, quia Casparem dictum Szenefelt incaptivavimus dum conflictum ante Corunow habuimus in invicem, quem eciam taxavimus super quadraginta marcas tali condicione, quod literam a Pascone herede de Brzezna concive in Fredelant in triginta marcis exbrigare deberet Bogumilconis et decem marcas secum aportare, ut eum a captivitate dimittemus. Hec facere habet inprotracte, hanc enim taxacionem sic parvam fecimus causa vestri". Гл.: OBA. № 1424; KDW VII. № 670.

[56] Długosz. S. 157–158.

захопленых у бітве пры Каранове. Цікава, што гэтае пытанне не было вычарпальна ўрэгулявана і ў дакументах Торуньскага міру. У так званым аблігацыйным лісце ад 31 студзеня 1411 г. вялікі магістр Генрых фон Плаўэн абавязаўся ад імя Тэўтонскага ордэна выплаціць польскаму каралю 100 000 коп пражскіх грошаў (чатырма роўнымі долямі: 8 сакавіка, 24 чэрвеня, 11 лістапада 1411 г. і 2 лютага 1412 г.) у якасці зборнага выкупу за вызваленне ўсіх палонных[57]. Але ў астатнім гэты дакумент утрымлівае толькі агульныя фармулёўкі. Перш за ўсё, у ім не вызначаецца ніякага канкрэтнага тэрміну вызвалення палонных. Адсутнічаюць і якія-небудзь гарантыі для крыжацкага боку на выпадак парушэння Уладыславам Ягайлам сваіх абавязацельстваў. Палякі тым часам так і не выдалі ніводнага акта, прысвечанага гэтаму пытанню[58]. З пазнейшых крыніц вынікае, што вялікі магістр перад уручэннем аблігацыйнага ліста выказваў занепакоенасць наконт таго, што кароль можа не выканаць свайго абяцання аб вызваленні палонных. У сувязі з гэтым маршалак Збігнеў з Бжэзя і дзесяць польскіх магнатаў павінны былі прынесці вусную прысягу аб тым, што вызваляць палонных, якія ўтрымліваліся непадалёк, на працягу васьмі дзён пасля выплаты першай долі выкупу (да 16 сакавіка), а рэшту вязняў, якія знаходзіліся ў аддаленых мясцовасцях, — на працягу 14 дзён (да

[57] Pelech M. Der Verpflichtungsbrief des Hochmeisters Heinrich von Plauen bezüglich der Bezahlung von 100 000 Schok böhmischer Groschen an den König von Polen vom 31. Januar 1411 // Preußenland. 1979. № 17. S. 55–58, № 4, а таксама Anhang. S. 59–63, № 1–3.

[58] Мірны дагавор таксама не вызначаў прынцыпаў і тэрмінаў вызвалення ваеннапалонных. У ім толькі агаворвалася, што ўсе неўрэгуляваныя дагэтуль фінансавыя абавязацельствы, якія датычаць выкупу за тых ці іншых палонных, падлягаюць скасаванню. Шырэй пра гэта гл.: Pelech M. W sprawie okupu za jeńców krzyżackich z wielkiej wojny (1409–1411). Część I // Zapiski Historyczne. 1987. № 52. Z. 1. S. 134; Szweda A. Traktat pokojowy // Jóźwiak S., Kwiatkowski K., Szweda A., Szybkowski S. Wojna polski i Litwy z zakonem krzyżackim w latach 1409–1411. S. 712–716.

22 сакавіка)[59]. Паручальнікамі[60] аблігацыйнага ліста Ордэна ад 31 студзеня 1411 г. былі, у прыватнасці, узятыя ў палон пры Каранове Эркінгер фон Зайнсхайм і Конрад Трухсэс[61]. Невядома, аднак, ці ў гэты момант яны ўжо былі вызваленыя, ці гэта гарантавалася ім пасля выплаты першай часткі выкупу[62]. Няма затое ніякіх звестак наконт спосабу і тэрмінаў вызвалення польскім бокам іншых ваеннапалонных Карановіцкай бітвы. Зусім не абавязкова гэта павінна было адбывацца згодна з умовамі дагавораў, заключаных у самым канцы студзеня 1411 г., хоць, з іншага боку, у наступныя месяцы пасля падпісання Торуньскага міру ў крыніцах няма згадак аб тым, што ў палоне ў Польскім Каралеўстве і ВКЛ працягвае знаходзіцца нехта з рыцараў Ордэна або вядомых пайменна наёмнікаў ці гасцей, якія змагаліся ў вайне на яго баку. З іншых крыніц затое вядома, што ў канцы 1411 г. у палоне ў межах ВКЛ і Польшчы знаходзіліся прыкладна 600–900 ваеннапалонных Ордэна[63]. Відавочна, што гаворка тут ішла пра тых палонных, якія на-

[59] Pelech M. Der Verpflichtungsbrief. S. 57, а таксама Anhang. № 1. S. 59–62; Idem. W sprawie. S. 135.

[60] Кожны паручальнік з групы „князёў, графаў і шляхты” быў абавязаны выслаць у Кракаў двух райцаў (кожны з чатырма коньмі), у сваю чаргу паручальнікі з асяроддзя „рыцараў, збраяносцаў і мяшчан” павінны былі з’явіцца туды асабіста, кожны таксама з чатырма коньмі. Выезд у Кракаў павінен быў адбыцца не пазней як праз 9 тыдняў пасля інфармавання паручальнікаў пра адмову Ордэна плаціць выкуп; паручальнікі павінны былі заставацца ў сталіцы Польшчы аж да моманту выплаты Ордэнам належных сумаў. Гл. Pelech M. Die Verpflichtungsbrief. Anhang. № 1. S. 59–62; Idem. W sprawie. S. 133.

[61] Pelech M. Die Verpflichtungsbrief. Anhang. № 1–3. S. 59–63.

[62] М. Пелех па-ранейшаму лічыў іх ваеннапалоннымі. Гл.: Pelech M. W sprawie. S. 136. Тым не менш, гэта не з’яўляецца відавочным.

[63] Гэтыя звесткі ўтрымліваюцца ў лістах Жыгімонта Люксембургскага за 30 студзеня і ордэнскага пракуратара пры папскай курыі ў Рыме Пятра з Арнеты за 18 лютага 1412 г. Гл.: Die Berichte der Generalprokuratoren des Deutschen Ordens an der Kurie / Bearb. v. Koeppen H. Bd. II. Göttingen, 1960. № 68. S. 138; Pelech M. W sprawie. S. 137.

далей утрымліваліся на тэрыторыі гэтых дзвюх дзяржаў. Гэта, аднак, яўна былі прадстаўнікі ніжэйшых сацыяльных слаёў, таму яны доўга і не вызваляліся. Прычынай такога становішча маглі быць і затрымкі з выплатай чарговых частак агаворанага выкупу з боку Ордэна. Апроч таго, у літаратуры ўжо звярталі ўвагу на тое, што агульная сума выкупу, прапанаванага вялікім магістрам у аблігацыйным лісце за 31 студзеня 1411 г. (100 000 коп пражскіх грошаў, ці каля 142 000 прускіх грыўняў), была яўна ніжэйшая за тыя сумы, якія палякі маглі выручыць у выпадку атрымання індывідуальнага выкупу за паасобных палонных[64]. Відаць, гэта таксама было адной з прычын пазнейшых узаемных непаразуменняў у гэтай справе (не зважаючы на добрую волю да выканання палажэнняў падпісанага Торуньскага міру)[65].

Падсумоўваючы нашы развexamaжанні, трэба канстатаваць, што, хоць даследаванне самога ходу бітвы, якая адбылася пры Каранове 10 кастрычніка 1410 г., сутыкаецца з сур'ёзнымі цяжкасцямі з прычыны мізэрнасці захаваных крыніц, пэўныя другарадныя аспекты гэтага канфлікту лягчэй паддаюцца аналізу. Да такіх аспектаў належыць, у прыватнасці, пытанне аб ваеннапалонных Ордэна. Тэўтонскае войска, якое змагалася ў гэтай бітве, складалася пераважна з іншаземных (нямецкіх і сілезскіх) наёмнікаў, а таксама з рыцараў, дваран і сваякоў Жыгімонта Люксембургскага. У польскі палон трапілі не менш як 300 чалавек, з якіх 68 вядомыя пайменна. Як аднадушна паведамляюць крыніцы, кароль паставіўся да іх з вялікай далікатнасцю. Ён асабіста пастараўся пераканаць іх у слушнасці пазіцыі польскага боку, а праз некалькі дзён яны былі пералічаны і адпушчаны пад слова гонару пры ўмове вяртання з выкупам

[64] Pelech M. W sprawie. S. 137.

[65] Наконт супярэчнасцяў паміж Ордэнам і Польшчай (у тым ліку ў справе вызвалення ваеннапалонных) у 1411 г. гл.: Szweda A. Po Wielkiej Wojnie. Zjazdy polsko-krzyżackie w 1411 roku // Kancelaria wielkich mistrzów i polska kancelaria królewska w XV wieku / Red. Trupinda J. Malbork, 2006. S. 267 і наст.

у пэўнае месца ў пэўны час. Усё гэта, відаць, адносілася толькі да іншаземных наёмнікаў і рыцараў-дваран Жыгімонта Люксембургскага, паколькі ўдзельнікі бітвы з ліку манахаў Тэўтонскага ордэна і яго падданых не былі адпушчаны (гэтыя апошнія, зрэшты, знаходзіліся, хутчэй за ўсё, у распараджэнні не караля, а тых польскіх рыцараў, якія ўзялі іх у палон).

Крыніцы не даюць яснай карціны таго, як, калі і на якіх умовах вызваляліся вязні, узятыя ў палон пасля Карановіцкай бітвы. Апрача патрабавання выкупу, у асобных выпадках палякі спрабавалі таксама ажыццяўляць абмен на сваіх рыцараў, раней узятых у палон войскам Ордэна (перш за ўсё ў верасні 1410 г.). Вынікі такіх спроб дакладна невядомыя. Статус паасобных палонных таксама прыносіў немалыя клопаты крыжацкім уладам. Так, у выпадку наёмнікаў ім даводзілася траціць грошы на кампенсацыі, аплату дарогі да месца прынясення выкупу, а часам і на сам выкуп (але пры адначасовай адмове ад выплаты жалавання за час знаходжання ў няволі), тады як да рыцараў-дваран Жыгімонта Люксембургскага было іншае стаўленне: іх кваліфікавалі як гасцей-добраахвотнікаў і не хацелі выдзяляць ім грошы на выкуп. Гэта вяло да шматлікіх непаразуменняў і — з пункту гледжання ўладаў Ордэна — да неабгрунтаваных патрабаванняў з боку рыцараў. Уяўляецца найбольш праўдападобным, што пераважная большасць ваеннапалонных Ордэна, захопленых пад час бітвы пры Каранове (хоць, пэўна, і не ўсе), атрымалі свабоду на працягу некалькіх месяцаў пасля падпісання Таруньскага міру (г. зн. пасля 1 лютага 1411 г.).

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# Teutonic Prisoners in the Battle of Koronowo 1410

**Sławomir Jóźwiak**

The Teutonic army taking part in the battle of Koronowo of 10 Oktober 1410 consisted predominantly of foreign regulars (from Germany and Silesia) and knights, courtiers and household members from the circle of Sigismund of Luxemburg. At least 300 enemy prisoners were captured, 68 of whom are known by their names. As the sources unanimously say, Władysław Jagiełło treated them courteously. He tried to convince them that Poland had acted right. Their names were recorded and they were allowed to go after a few days on the condition that they appeared with ransom in the appropriate place and time.

The sources do not give clear data concerning the manner, time and conditions of releasing enemy prisoners from the battle of Koronowo. Beside the requirement to pay ransom, in some cases there were attempts to exchange Teutonic prisoners for Polish knights captured by the Teutonic army. The outcome is not known. The status of some prisoners caused problems to the Teutonic authorities too, as they had to give memory for compensations, journeys to the place to leave ransom, and perhaps for ransom for regulars (but without playing them during their time of imprisonment). Knight-courtiers of Sigismund of Luxembourg were treated differently, as the Teutonic authorities did not want to give them money for ransom. It led to prolonged conflicts and to unfounded claims on their part. The major part of prisoners from the battle of Koronowo (however not all of them) were given back their freedom within a few months after concluding the First Peace of Thorn (after 1 February 1411).

# Танэнберг / Грунвальд / Дуброўна 1410: сімвалізацыя бітвы ў Беларусі

**Генадзь Сагановіч**

У гістарычным міфе прэзентуецца
сучаснасць, прыбраная ў адзенне мінулага.
*Францішак Граўс*

У сучаснай гуманістыцы прынята лічыць, што гісторыкі як аўтары гістарычнага наратыву „вынаходзяць” традыцыі, на якіх і паўстаюць калектыўныя ідэнтычнасці / нацыянальныя супольнасці. Вось жа пра фармаванне ідэнтычнасці беларускага грамадства і таго, што яно лічыць „сваім” мінулым, нямала можа паведаць высвятленне пытанняў, як паўставаў і якія функцыі выконвае цяперашні міф Грунвальда ў Беларусі.

Акурат сто гадоў таму, адзначаючы 500-годдзе бітвы пад Грунвальдам[1], „Наша Ніва” змясціла толькі фрагмент „Хронікі Быхаўца” з яе вобразным апісаннем, да якога рэдактарам у якасці каментара быў дададзены адзінадзіны сказ: „Пасьля Грунвальдзкай бітвы <…> немцы страцілі сваю сілу”[2]. І ў першым сінтэтычным выкладзе гісторыі Беларусі, напісаным беларусам для беларусаў і выдадзеным у год згаданага юбілею, пра Грунвальд адзначалася толькі тое, што вялікі князь Вітаўт у той

1 Хоць цяпер агульнапрынята называць бітву *Грунвальдскай*, у беларускім гістарычным наратыве былі прыклады ўжывання тапоніма *Танэнберг*, а таксама *Дуброўна* (апошні ў 1990-я г. прапаноўвалася прыняць за нацыянальны эквівалент азначэння, але ініцыятыва не знайшла шырокай падтрымкі), таму тут прыводзяцца ўсе тры варыянты.

2 Гл.: Наша Ніва. 1910. № 28. С. 1–2.

бітве „сілу крыжацкую... зусім зламаў”[3]. Такая стрыманасць ацэнак не можа не ўражваць, калі ўлічваць, што акурат тады пафаснае святкаванне юбілею гістарычнай перамогі і ў Расіі, і асабліва ў Польшчы суправаджалася эмацыйнай панславісцкай рыторыкай, у святле якой Грунвальд падаваўся трыумфам абарончай вайны славян супраць нямецкага *Drang nach Osten*.

„Нямецкая пагроза” стала галоўнай тэмай панславісцкай публіцыстыкі ў другой палове XIX ст., пасля аб’яднання Нямеччыны канцлерам Бісмаркам. З асаблівым драматызмам да барацьбы супраць нямецкай небяспекі заклікала нацыянальная інтэлігенцыя ў падзеленай Польшчы, паколькі антыпольская палітыка прускіх уладаў абвастрала польска-нямецкі антаганізм. І калі Бісмарк, якога лічылі барацьбітом з польскім нацыяналізмам, праводзіў паралелі паміж сваёй палітыкай і тым, што рабіў Тэўтонскі ордэн[4], то дзякуючы творам гісторыка Караля Шайнохі, пісьменнікаў Юзафа Ігнацыя Крашэўскага, Генрыка Сянкевіча, а таксама слыннай карціне Яна Матэйкі славутая перамога у 1410 г. стала пастаянным фактарам свядомасці палякаў. У той сітуацыі Грунвальд сімвалізаваў для іх не проста перамогу над Ордэнам, за якім праглядалася пруская дзяржава Бісмарка, а спыненне германізацыі палякаў, надзеі на адраджэнне польскай дзяржаўнасці. Пад Грунвальдам Польшча, якая ўвасабляла ўсё славянства, сутыкнулася „не толькі з крыжакамі, але з Еўропай”[5], — пісалі гісторыкі-панславісты, узвялічваючы перамогу над немцамі і абгрунтоўваючы першую ролю Польшчы ў аб’яднанні славян.

Манапалізацыя славы пераможцаў Тэўтонскага ордэна палякамі выклікала жывыя пярэчанні гісторыкаў-славянафілаў Расіі, дзе працэс негатыўнай стэрэа-

[3] Власт. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільня, 1910. С. 27.

[4] Ekdahl S. Tannenberg / Grunwald — ein politisches Symbol in Deutschland und Polen // Journal of Baltic Studies. Vol. XXII. Nr. 4. P. 280–281.

[5] Koneczny F. Teoria Grunwaldu // Przegląd Powszechny. 1910. S. 8.

тыпізацыі немцаў праходзіў таксама актыўна. Яшчэ ў класічным творы расійскага панславізму „Россия и Европа” (1871) Мікалая Данілеўскага агрэсія прызнавалася натуральнай рысай „нацыянальнага характару” германа-раманскіх народаў. Як згаданы аўтар, так і іншыя познія расійскія славянафілы — Іван Аксакаў, Канстанцін Лявонцьеў, Уладзімір Ламанскі, Аляксандр Кірэеў — прадказвалі будучую барацьбу Расіі з Нямеччынай і лічылі задачай Пецярбурга вызваленне паўднёвых славян з уключэннем апошніх у межы расійскай дзяржавы[6]. У сувязі з юбілеем славутай бітвы выйшаў шэраг прысвечаных ёй публікацый расійскіх гісторыкаў, якія таксама паказвалі падзею як сімвал славянскага адзінства, як трыумф „великой идеи борьбы против вековых врагов и притеснителей славянства”[7] — немцаў, але галоўная роля ў ёй прыпісвалася Расіі. Невыпадкова і першы асобны нарыс пра бітву, выдадзены ў Вільні да 500-гадовага юбілею, наскрозь панславісцкі, пісаўся ў супрацьвагу польскай легендзе Грунвальда, — для сцвярджэння першачарговых заслуг „русских” палкоў наогул і „западно-русских” у прыватнасці[8]. Яго аўтар Дзмітры Даўгяла паказаў узаемаадносіны ВКЛ і Польскай Кароны з Ордэнам у выглядзе пастаяннага нарастання канфрантацыі славянскага свету з немцамі, якая і прывяла ў 1410 г. да развязкі[9].

6 Хевролина В. М. Идея славянского единства во внешнеполитических представлениях поздних славянофилов // Славянский вопрос: Вехи истории. Отв. ред. М. Ю. Досталь. Москва, 1997. С. 96, 98. Што да тых славянскіх народаў, якія ўжо былі ў імперыі, то нават гаворачы пра славянскую федэрацыю яны выступалі за адзіную і непадзельную Расію, адмаўляючы ў праве на статус суб’ектаў гэтай федэрацыі польскаму, украінскаму і беларускаму народам.

7 Гейсман П. Польско-литовско-русский поход в Восточную Пруссию и сражение при Грюнвальде-Танненберге. С.-Петербург, 1910. С. 45.

8 Довгялло Д. Битва при Грюнвальде 15 июля 1410 г. Вильна, 1909.

9 Тамсама. С. 3, 25. Яшчэ раней у сталіцы імперыі выйшаў тэкст урачыстай прамовы „айца” „заходнерусізму” Міхаіла Каяловіча ў Славянскім Дабрачынным Таварыстве, фар-

Тым больш паказальна, што і ў „Нашай Ніве”, і ў нарысе В. Ластоўскага бітва не была ўпісана ў „общеславянское дело”. І гэта, думаю, не выпадковасць. Бо і пазней, у нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, сфармаванай у 1920-я г., бітва пад Грунвальдам заставалася зусім маргінальнай падзеяй. Так, Усевалад Ігнатоўскі назваў перамогу „пад Танэнбергам, ці Грунвальдам” толькі „відным пераломам у беспарыўным змаганні” ВКЛ з Ордэнам[10]. Тагачасны найбольшы аўтарытэт айчыннай гістарыяграфіі Мітрафан Доўнар-Запольскі ў рукапісе свайго падручніка палічыў дастатковым сказаць, што ў выніку разгрому Ордэна Вітаўтам і Ягайлам „пры Грунвальдзе, або Танэнбергу” той неўзабаве распаўся[11]. Як выглядае, беларускім гісторыкам першай нацыянальнай школы Грунвальд не ўяўляўся нечым большым, чым проста важная, можа нават вырашальная падзея ў агульным кантэксце войнаў з Ордэнам, але небяспека з боку апошняга ніяк не даражноўвалася да тых пагрозаў, што сыходзілі ад Масквы[12]. Больш за тое, ужо тады беларускі вучоны адзначаў эканамічную зацікаўленасць самой Польшчы і ВКЛ у вайне супраць Ордэна[13]. Адметна, што ў міжваеннай Беларусі падобным чынам трактавалі падзею і гісторыкі марксісцкай арыентацыі. Так, першы беларускі гісторык-марксіст Васіль Шчарбакоў у абагуль-

мальна прысвечанай Грунвальду і таксама прасякнутай панславісцкай эмацыйнасцю. Аспрэчваючы ў палякаў славу пераможцаў, гісторык між іншага сцвярджаў, што менавіта смаленскія палкі „спасли славянское дело” і называў прыпісванне палякам найбольшых заслуг „унижением русских сил Западной России”, „величайшим славянским недоразумением”. Гл.: Коялович М. Грюнвальдская битва 1410 года. С.-Петербург, 1885. С. 4, 10.

10 Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5-е выд. Мінск, 1992. С. 86.

11 Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С. 58.

12 Дружчыц В. Галоўныя моманты гісторыі беларускага народу // Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Менск, 1924. С. 14.

13 Доўнар-Запольскі М. Соцыяльна-экономічная структура Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI–XVIII ст. // Гістарычна-Археолёгічны зборнік. Т. 1. Менск, 1927. С. 35.

няльным нарысе зазначыў толькі, што пад Грунвальдам „супольнымі сіламі Літоўска-Беларускай дзяржавы з Польшчай рыцарам… было нанесена жорсткае паражэнне”, пасля чаго Ордэн хутка спыніў існаванне[14].

Зрэшты, такі падыход адпавядаў і тагачасным установкам Масквы. Бальшавікі як пралетарскія інтэрнацыяналісты лічылі ідэю яднання славян рэакцыйнай, і пасля ўсталявання савецкай улады яна была надоўга забытая. Зразумела, не падыходзіла ім і ідэя адвечнай нямецка-славянскай варожасці. Галоўны пралетарскі гісторык Міхаіл Пакроўскі называў раздзьмуты панславістамі тэзіс пра пастаянную агрэсію Нямецкага ордэна „рытуальнай легендай”. Аднак у канцы 1930-х г., пасля ўсталявання культу асобы Сталіна, калі крамлёўскім стратэгам спатрэбілася перайсці ад інтэрнацыяналізму да вялікарасійскага патрыятызму, школа М. Пакроўскага была разгромленая, а савецкая гістарыяграфія ператваралася ў цэнтралізаваную, жорстка кіраваную сістэму, падпарадкаваную ідэалагічным установкам кіроўнай партыі. З таго часу і да канца існавання СССР славяна-нямецкія адносіны ў Мінску можна было трактаваць толькі па канонах, ухваленых у Маскве. А цэнтр савецкай гістарычнай навукі к таму часу санкцыянаваў рэабілітацыю ідэі яднання славян.

Вяртанне да ідэалагем панславізму ў працах савецкіх гісторыкаў мела непасрэдную сувязь з падзеямі ў Нямеччыне. Пасля прыходу да ўлады Гітлера там набылі новае жыццё старыя нацыяналістычныя і расісцкія канцэпцыі, якімі апраўдваліся захопніцкія планы нацыстаў[15]. Гаварылася пра патрэбу новага *Drang nach Osten*, агістарычнай расавай ідэалогіяй абгрунтоўваліся перавагі германцаў над славянамі, пры гэтым палітычна заангажаваныя гісторыкі (як, напрыклад, І. Галер, А. Бракман, Дз. Шэфер і інш.) імкнуліся па-

[14] Шчарбакоў В. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Менск, 1934. С. 93–94.

[15] Wippermann W. Der „deutsche Drang nach Osten”: Ideologie und Wirklichkeit eines politischen Schlagwortes. Darmstadt, 1981. S. 139 і наст.

казаць „націск на Усход” як агульнанацыянальны рух немцаў, а яго ўдзельнікаў — як герояў. У такім кантэксце бітва 1410 г. трактавалася як сутыкненне двух светаў. Хоць сам Гітлер не ідэалізаваў Нямецкага ордэна і не захапляўся яго гісторыяй, фюрэр выказваўся пра неабходнасць узнаўлення „паходу на Усход” там, дзе яго калісь спынілі нямецкія рыцары, а ордэнская сімволіка выкарыстоўвалася ў нацысцкай прапагандзе і ўзброеных сілах (прыкладам, чорны крыж на белым фоне на танках і самалётах)[16].

Савецкія вучоныя адказвалі публікацыямі падобнага кшталту. Як пісаў Мікалай Грацыянскі, „брудным махінацыям” фашысцкіх гісторыкаў «мы павінны супрацьпаставіць ісцінную гісторыю „націску немцаў на ўсход”», часткай якога быў захоп Прыбалтыкі — „суцэльны разбой у грандыёзным маштабе”[17]. Нямецкі ордэн як праваднік палітыкі „націску на ўсход”, маўляў, займаўся захопніцкай дзейнасцю, пазбаўленай усялякай місіі хрысціянізацыі (хоць рыцарская дзяржава дзеля яе і была створана). У шырокае выкарыстанне ўвайшло абразлівае азначэнне ордэнскіх братоў — „псы-рыцары”[18], што быццам даў ім Карл Маркс, які ў „Храналагічных выпісках” крытычна выказваўся пра экспансію рыцараў на ўсход ды ўхвальна адзначаў іх разгром Аляксандрам Неўскім у 1242 г.[19].

16 Падрабязней пра выкарыстанне нацыстамі ордэнскай сімволікі гл.: Ekdahl S. Tannenberg / Grunwald — ein politisches Symbol in Deutschland und Polen. P. 284, 286–287; пар.: idem, The Battle of Grunwald / Tannenberg and its political and symbolic Interpretations in Poland and Germany through the Centuries // Jan Matejko’s Battle of Grunwald: New Approaches. Ed. by K. Murawska-Muthesius. Warsaw, 2010. P. 16–20.

17 Грацианский Н. Немецкая агрессия в Прибалтике в XIII–XV вв. // Историк-марксист. Кн. 6 (70). 1938. С. 87–88. Пар.: Грацианский Н. Немецкий „Drang nach Osten” в фашистской историографии // Против фашистской фальсификации истории. Москва, 1939. С. 135–155.

18 Грацианский Н. П. Немецкий „Drang nach Osten”… С. 148.

19 Маркс К. „Хронологические выписки” // Исторический журнал. 1937. № 1. С. 61. Ёсць меркаванне, што гэтае азначэнне з’явілася ў савецкай літаратуры ў выніку памылковага

У гістарычных прыкладах барацьбы з Нямецкім ордэнам крамлёўскае кіраўніцтва ўбачыла прапагандысцкі інструмент, карысны для мабілізацыі сілаў супраць нацыстаў. Характэрна, аднак, што як „павучальны гістарычны ўрок” для нямецкіх фашыстаў на старонках „Правды” найчасцей паўставала перамога Аляксандра Неўскага ў бітве на Чудскім возеры[20]. Красамоўным можна лічыць такі факт: яшчэ на самым пярэдадні II сусветнай вайны аўтары і рэдактары „Малой Савецкай энцыклапедыі” былі раскрытыкаваныя за тое, што забыліся паказаць гераічную барацьбу „з нямецкімі псамірыцарамі”, не напісаўшы пра бітвы 1240 і 1242 г.[21], а вось „забыццё” непараўнальна большай бітвы 1410 г. ім у правіну не ставілася, хоць у названым выданні яна згадвалася зусім мімаходзь, некалькімі радкамі[22]. Не лічыўся Грунвальд яшчэ і прыкладам справядлівай барацьбы: такімі прызнаваліся „вайна 1242 г. супраць уварвання нямецкіх псоў-рыцараў”, і затым адразу — вайна 1611–1612 г. „супраць польскіх заваёўнікаў”[23]. Перамогу 1410 г. у Маскве толькі пачыналі інструментарызаваць, трактуючы яе як адзін з важных этапаў змагання, што на доўгі час паклаў „канец нямецкай агрэсіі ў Прыбалтыцы”, — як напамін тым, хто рыхтуе новы „Дранг нах Остэн”[24]. У той ідэалагічнай вайне з фашызмам Крэмль канчаткова рэабілітаваў ідэю ўсеславянскай еднасці. Адным з прапагандысцкіх узораў усхвалення перамог

прачытання Марксавага рукапісу: у „Ritterbunden” (рыцарскія саюзы) убачылі „Ritterhunden” (*Hund* — сабака).

20 Казаков А. Ледовое побоище // Правда. 1937. 27 авг. Пра перамогу пад Грунвальдам у 1937 г. яшчэ не згадвалі.

21 Потапов К. Большие изъяны Малой энциклопедии // Правда. 1939. 7 июля. С. 4.

22 Танненберг // Малая Советская энциклопедия. Т. 10. Москва, 1940. Стлб. 617. У „Большой Советской энциклопедии” быў толькі дзесяцірадковы ананімны артыкул пра гістарычную бітву. Гл. т. 19 (1930). Стлб. 687.

23 Минц И. О войнах справедливых и несправедливых // Правда. 1939. 14 авг. С. 4.

24 Грацианский Н. Немецкая агрессия в Прибалтике в XIII–XV вв. // Историк-марксист. Кн. 6 (70). 1938. С. 105, 111.

і 1242, і 1410 г. як прыкладу баявога адзінства славян, аб’яднаных вакол Расіі, стала брашура ваенных гісторыкаў М. Лапіна і А. Турчынскага[25], якая павінна была даказваць, што народы СССР непераможныя.

Але ўжо ў канцы лета 1939 г., адразу пасля заключэння савецка-нямецкага пакта аб ненападзе (23.08.1939), рыторыка Крамля ў адносінах да гітлераўскай Нямеччыны рэзка змянілася. Ад таго часу і да ліпеня 1941 г. не выйшла ніводнай савецкай публікацыі пра агрэсіўнасць немцаў. Савецкі Саюз мацаваў дружбу з Гітлерам, удзельнічаў у падзеле II Рэчы Паспалітай, — пра якое ж „славянскае адзінства” можна было гаварыць.

Толькі ў дні вайны, калі гітлераўская армія ўжо займала савецкія гарады адзін за другім, ідэя славянскага адзінства зноў стала актуальнай. У савецкай прэсе зноў уваскрэсла тэма Грунвальда, аднак ён усё яшчэ згадваўся звычайна другім пасля Лядовага пабоішча, — як адзін з этапаў барацьбы[26]. Прапагандаваць яе мусіў створаны 5 снежня 1941 г. у Маскве Усеславянскі камітэт на чале з генерал-лейтэнантам Аляксандрам Гундаравым, які арганізоўваў спецыяльныя радыёперадачы і з 1942 г. выдаваў часопіс „Славяне”[27]. Адной з галоўных тэм названага перыёдыка і стала „векавая барацьба славянскіх народаў з нямецкай агрэсіяй”. У публікацыях пра гісторыю барацьбы з Ордэнам чырвонай ніткай праводзілася думка пра аб’яднанне славян як адзіны спосаб супрацьстаяння нямецкаму „Дранг нах Остэн”[28],

[25] Лапин Н., Турчинский А. Грюнвальдская битва. Разгром немецких рыцарей 15 июля 1410 года. Москва, 1939. С. 46. Брашура была здадзена ў друк у канцы 1938 г., задоўга да змены характару савецка-нямецкіх узаемаадносін.

[26] Болтин Е. Миф о немецкой „непобедимости” // Правда. 1941. 9 июля. С. 3; Хозин М. О хвастливой выдумке зазнавшегося врага // Правда. 1941. 25 июля. С. 5; Коробков Н. Исторические корни германской агрессии // Правда. 1942. 25 сент. С. 4.

[27] Руколь Б. Идея общности славян в материалах Всеславянского комитета в Москве // Славянский вопрос: Вехи истории. Отв. ред. М. Ю. Досталь. Москва, 1997. С. 204–210.

[28] Державин Н. Ледовое побоище // Славяне. 1942. № 1; Перцев В. Фашизм и средневековье // Тамсама. № 2; Селищев А. Из-

што разумеўся як рэальная гістарычная з'ява, пачатак якой губляўся ў Сярэднявеччы, а пік быў дасягнуты ў форме гітлераўскага фашызму.

Праўда, у галоўнай газеце СССР асобная публікацыя пра Грунвальд з'явілася толькі 15 ліпеня 1943 г.[29], прычым гэта быў толькі пераказ інфармацыі аб прымеркаванай на той дзень прысязе польскай пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, узятая з „Wolnej Polski" (№ 17 і 18), дзе бітва 1410 г. трактавалася як „паваротны пункт гісторыі" Польшчы. Праўдападобна, менавіта ініцыятыва польскіх жаўнераў стала тым прыкладам, які натхніў і савецкае кіраўніцтва на больш актыўнае выкарыстанне Грунвальда. У наступным годзе, у 534-ю гадавіну бітвы, у Маскве адбылося ўрачыстае паседжанне, праведзенае Усеславянскім камітэтам і Саюзам польскіх патрыётаў, пра які падрабязна паінфармавала ТАСС[30]. Лейтматывам усіх выступаў стала пераемнасць паміж сярэднявечнай падзеяй і вайной супраць фашыстаў. Старшыня Усеславянскага камітэта Аляксандр Гундараў, напрыклад, сцвярджаў, што пад Грунвальдам „армія славян… разам з літоўцамі нанесла сакрушальнае паражэнне нямецкім ордам, якія спрабавалі захапіць славянскія землі і заняволіць славянскія народы", а Юстас Палецкіс, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР, правёў ясную паралель паміж Грунвальдам 1410 і Вільняй 1944 г.[31].

У цэлым на завяршальным этапе вайны ключавым пасланнем любога звароту да Грунвальда стала ідэя, што

вечная борьба славян против немецких варваров // Тамсама. № 4; Державин Н., Константинов Ф. Разгром немецких псов-рыцарей под Грюнвальдом и Танненбергом 15 июля 1410 г. // Тамсама. № 2. С. 38–42; Удальцов А. Завершение вековой борьбы славянских народов с немецкими захватчиками // Славяне. 1945. № 5. С. 14–18, і інш.

29 Традиции Грюнвальда // Правда. 1943. 15 июля. С. 4.

30 Годовщина Грюнвальдской битвы // Правда. 1944. 16 июля. С. 3.

31 Тамсама. Калі сыходзіць з паведамлення ТАСС, то выходзіць, што прадстаўнікі ад Беларусі на тым паседжанні не выступалі.

перамагчы нямецкіх імперыялістаў у адвечнай барацьбе можна толькі пры ўмове аб’яднання ўсіх славян на чале з Расіяй. Але і пасля перамогі выкарыстоўвалася тая ж рыторыка, а крамлёўскае кіраўніцтва сур’ёзна разглядала ідэю стварэння саюзу славянскіх дзяржаў. „Каб немцам не даць узняцца і распачаць новую вайну, патрэбен саюз славянскіх народаў”, — заяўляў Сталін у сакавіку 1945 г. на сустрэчы з Бенешам[32].

Менавіта ў такім кантэксце славутая бітва фігуравала і ў першых афіцыйных версіях беларускай гісторыі адразу пасля завяршэння вайны. Быццам на старонках згаданага часопіса „Славяне”, у іх гаварылася пра тое, што „Дранг нах Остэн” уяўляў з сябе „смяротную небяспеку і пагрозу для славянства”, якая насоўвалася з Захаду, а з Тэўтонскім ордэнам, называным „арганізацыяй разбойнікаў і гвалтаўнікоў”, атаесамлялася ўсё нямецкае, надзеленае прыроджанымі адмоўнымі якасцямі[33]. У той жа час бітве пад Грунвальдам па-ранейшаму яшчэ не прыпісвалася выключнага значэння. Напрыклад, у Ціхана Гарбунова[34] гістарычная перамога 1410 г. пададзена як гераічны прыклад паспяховай салідарнасці славян у барацьбе з захопнікамі, аднак — у адным шэрагу з барацьбой супраць мечаносцаў у XIII ст., у якой і полацкі князь Уладзімір стаў „барацьбітом з нямецкімі захопнікамі”. Сутыкненне палачан з мечаносцамі тады выклікала больш увагі, яму прысвячаліся асобныя артыкулы гісторыкаў[35]. У агульна антынямецкім гіста-

[32] Марьина В. Славянская идея в годы второй мировой войны (К вопросу о политической функции) // Славянский вопрос: Вехи истории. С. 180.

[33] Перцаў В. Утварэнне Тэўтонскага ордэна // Полымя. 1945. № 2–3. С. 153, 154. Пар.: Фёдараў І. Тэўтонскі ордэн і прусы // Беларусь. 1946. № 5-6. С. 85–87.

[34] Горбунов Т. Героическое прошлое белорусского народа. Минск, 1945. С. 10–11. Пар.: История БССР. Вып. 1. Ред. Т. Горбунов. Минск, 1948. С. II, III.

[35] Як прыклад гл.: Перцаў В. Барацьба палачан і ноўгарадцаў супраць нямецкіх агрэсараў у XIII ст. // Большэвік Беларусі. 1945. № 7. С. 55–62. У беларускай гістарыяграфіі сюжэт барацьбы Полацка з крыжаносцамі быў доўгі час важнейшы

рычным кантэксце бітве пад Грунвальдам надавалася інструментарнае значэнне. Напрыклад, яна магла служыць аргументам на карысць таго, што ў сэрцах славян даўно гарэла „асобая", „свяшчэнная нянавісць да разбойніцкай Германіі"[36]. Без узвелічэнняў, як адну са старонак барацьбы з захопнікамі, бітву 1410 г. часам прынагодна згадвалі і ў газетах[37].

Неўзабаве, аднак, адбылося чарговае карэктаванне канонаў савецкай гістарычнай палітыкі. Паколькі Маскве не ўдалося разгарнуць „новы славянскі рух" з-за расколу ў яго шэрагах (у прыватнасці — з прычыны асобнай пазіцыі югаслаўскіх камуністаў), то ўжо ў канцы 1940-х г. ідэя славянскай салідарнасці ў савецкай ідэалогіі зноў саступіла месца пралетарскаму інтэрнацыяналізму[38], і актуальнасць Грунвальда ў ім зноў паблякла. Невыпадкова ў вядомых „Тэзісах аб асноўных пытаннях гісторыі БССР", распрацаваных Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ разам з Інстытутам гісторыі Акадэміі навук БССР, Грунвальд ніяк не акцэнтаваўся, — агульна гаварылася пра барацьбу з „нямецка-шведскімі агрэсарамі" проста як фактар, што разам з мангольскім нашэсцем аблегчыў Літве захоп раздробленых княстваў Русі[39].

за Грунвальд. Пар.: Шчарбакоў С. Барацьба беларускага народа супраць нямецкай агрэсіі ў XIII–XV ст. // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1966. № 1. С. 60–69.

[36] Грынблат М. Славянскія народы аб немцах-захопніках // Весці АН БССР. Аддзяленне грам. навук. 1947. № 1. С. 82. Пар. яго ж: Адлюстраванне ў фальклоры барацьбы нашага народа з іншаземнымі захопнікамі // Беларусь. 1946. № 5–6. С. 45–47.

[37] Гл.: Першая гадавіна вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (выступ П. К. Панамарэнкі) // Звязда. 1945. 8 жніўня. С. 1. Пар. нататку пра згаданую кнігу Ц. Гарбунова (тамсама, с. 3).

[38] Падрабязна гл.: Досталь М. Идея славянской солидарности и несостоявшийся в Москве в 1948 г. Первый общеславянский съезд славистов // Славянский вопрос: Вехи истории. С. 182–203.

[39] Тезисы об основных вопросах истории БССР. Ч. 1. История белорусского народа до Великой Октябрьской революции // Известия АН БССР. 1948. № 3. С. 13. Варта заў-

Да актыўнейшай маніпуляцыі Грунвальдам і стварэння яго стандартызаванай сімволікі дайшло ў сувязі з 550-годдзем бітвы, якое ў Польскай Народнай Рэспубліцы адзначалася разам з 1000-годдзем польскай дзяржаўнасці. Выкарыстоўваючы Грунвальд для экспанавання адвечнай польска-нямецкай варожасці, каб прадстаўляць актам гістарычнай справядлівасці высяленне немцаў з іх былых усходніх земляў[40], польскія ўлады наладзілі бяспрыкладнае па маштабах святкаванне, галоўным актам якога было адкрыццё помніка на Грунвальдскім полі[41]. Такі палітычны сэнс Грунвальда цалкам адпавядаў мэтам умацавання толькі што створанага ваеннага блока Варшаўскага дагавора ў супрацьстаянні з Захадам, і найперш з ФРГ, якая не прызнавала новых дзяржаўных межаў, і таму выдавалася за аплот рэваншызму. Не дзіўна, што ў тым кантэксце юбілей бітвы ўпершыню адзначаўся і ў Маскве. У Інстытуце славяназнаўства АН СССР у спецыяльным дакладзе было раскрыта вялікае гістарычнае значэнне перамогі[42]. Уладзімір Каралюк, аўтарытэтны даследчык славянска-нямецкіх адносін, падаў бітву як падзею, што „на доўгія гады спыніла агрэсію нямецкіх феадалаў супраць польскіх, літоўскіх і рускіх зямель” і памяць пра якую „свята зберагаецца ў нацыянальнай традыцыі славянскіх народаў”. У адпаведнасці з ідэалагічнай устаноўкай та-

важыць, што дакладна такі погляд выказаны ў брашуры Л. Абэцэдарскага — другім найважнейшым творы тагачаснай гістарычнай палітыкі ў Беларусі (гл.: Абэцэдарскі Л. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. С. 19).

40 Палітычную кан’юнктуру такой устаноўкі справядліва адзначаў М. Забура. Гл.: Zabura M. „…nie będzie nigdy Niemiec Polakowi bratem”…? // „…nie będzie nigdy Niemiec Polakowi bratem”…? Z dziejów niemiecko-polskich związków kulturowych. Praca zbiorowa pod red. M. Zabury. Wrocław, 1995. S. 283–285.

41 Walichnowski T. Grunwald w świadomości współczesnych pokoleń Polaków // Grunwald w świadomości Polaków. Warszawa, Łódź, 1981. S. 56–57.

42 Перапрацаваны даклад апублікаваны ў 1961 г. Гл.: Королюк В. Д. Историческое значение Грюнвальдской битвы // КСИС. Вып. 32. Москва, 1961. С. 72–85.

го часу, вучоны назваў бітву „сімвалам яднання сілаў розных (sic! — *Г. С.*) народаў у барацьбе супраць агульнага ворага — агрэсара”[43]. Падобныя акцэнты былі расстаўлены і ў навуковым артыкуле Уладзіміра Пашуты і Мечыславаса Ючаса, якія назвалі бітву 1410 г. „заканамерным вынікам” развіцця міжнародных адносін у сувязі з „заваявальніцкай палітыкай нямецкіх феадалаў” і рыцарскіх ордэнаў як яе праваднікоў[44]. Гісторыкі бачылі галоўную заруку перамогі „ў адзінстве краін-саюзніц (не славянскіх народаў. — *Г. С.*) у барацьбе супраць агульнага ворага”, і ў завяршэнне акцэнтавалі памяць пра падзею як „павучальны гістарычны ўрок тым, хто збіраецца зноў пайсці ў рэваншысцкі паход бясслаўным шляхам крыжаносцаў”[45]. Падобным чынам артыкул Юстаса Палецкіса ў газеце „Правда”[46] тлумачыў, што Ордэн «праводзіў палітыку германскіх мілітарыстаў „Дранг нах Остэн”» і ставіў за мэту „зняволіць Літву і Польшчу, каб з усёй сілай абрынуцца на Русь, у першую чаргу на пскоўскія і ноўгарадскія землі”, перамога ж „на пяць стагоддзяў затрымала прасоўванне германскіх імперыялістаў на ўсход”. Аўтар ясна канкрэтызаваў палітычны сэнс святкавання юбілею: гадавіна „павінна нагадваць зарваўшымся заходнегерманскім рэваншыстам не толькі пра разгром Тэўтонскага ордэна ў 1410 г., але і пра іншыя паражэнні нямецкіх агрэсараў, асабліва пра грандыёзны Грунвальд 1945 г.”, савецкім жа народам, па словах, Ю. Палецкіса, юбілей „нагадвае пра неабходнасць стаяць на варце інтарэсаў міру і сацыялізму”[47].

У той самы час у Мінску адзінай публікацыяй, прысвечанай 550-годдзю бітвы пад Грунвальдам, святкава-

[43] Тамсама. С. 74, 84.
[44] Пашуто В., Ючас М. 550-летие Грюнвальдской битвы // Военно-исторический журнал. 1960. № 7. С. 78–88.
[45] Тамсама. С. 78, 85, 88.
[46] Палецкис Ю. Уроки Грюнвальда. К 550-летию исторической битвы // Правда. 1960. 15 июля. С. 5.
[47] Тамсама. Як „сімвал баявой садружнасці славянскіх і балтыйскіх народаў” у барацьбе супраць агрэсіі тэўтонцаў падаў бітву і генерал Г. Караеў (гл.: Караев Г. Грюнвальдская битва 1410 г. Москва, 1960).

най у Варшаве, Вільні і Маскве, стаў артыкул С. Шчарбакова ў галоўнай газеце краіны[48]. Гісторык таксама прэзентаваў далёкую падзею згодна з прынцыпамі сацыялістычнага інтэрнацыяналізму: перамога, якую выйгралі „аб'яднаныя славянскія і літоўскія войскі", „прыпыніла экспансію нямецкіх псоў-рыцараў у славянскія і літоўскія землі", і яна павінна быць навукай „сучасным заходненямецкім рэваншыстам", калі тыя задумаюць ісці шляхам сярэднявечных „псоў-рыцараў", а з іншага боку — гэта прыклад развіцця „цеснай брацкай дружбы народаў савецкай краіны" з польскім народам, што святкаваў тысячагоддзе дзяржаўнасці. Заслугоўвае ўвагі той факт, што гэтым афіцыйны Мінск і абмежаваў маніфестацыю свайго стаўлення да падзеі. Пісалася пра ўсё, што заўгодна[49], але не пра гадавіну бітвы, якая адзначалася ў суседзяў[50]. А наступныя юбілеі Грунвальда савецкая прэса Беларусі наогул праігнаравала, так што вычытаць нешта пра падзею можна было толькі ў навучальнай літаратуры.

Між тым у дапаможніках і абагульняльных нарысах па гісторыі Беларусі пра Грунвальд тады пісалася ў поўнай адпаведнасці з прынятымі ў Маскве канонамі. Калі ў першым пасляваенным акадэмічным выданні гісторыі краіны яшчэ быў тэзіс пра тое, што „агрэсія нямецкіх феадалаў на славянскія і літоўскія землі" была спынена дзякуючы „гераізму і стойкасці рускіх палкоў"[51],

[48] Щербаков С. В единстве народов — путь к победе. К 550-летию разгрома немецких рыцарей под Грюнвальдом // Советская Белоруссия. 1960. 15 июля. С. 3.

[49] Напрыклад, у акадэмічных „Весцях" за 1960 г. было апублікавана ажно 4 артыкулы пра сялянскі ды рабочы рух, разглядалася і тэма вайны, але не Вялікай, а Паўночнай вайны (гл.: Парфёнаў І. Удзел беларускага народа ў Паўночнай вайне // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1960. № 1).

[50] У савецкай Літве юбілей таксама адзначаўся, хоць непараўнальна сціплей, чым у Польшчы (гл.: Nikžentaitis A., Mikailienė Ž. Litewski Žalgiris, polski Grunwald: dwa toposy narodowe w kontekście analizy porównawczej // ZH. T. 75 (2010). S. 11).

[51] История Белорусской ССР. В 2 т. Т. 1. Под ред. В. Перцева, К. Шабуни и Л. Абецедарского. Минск, 1954. С. 81.

дык пазней ён карэктаваўся ў бок інтэрнацыяналізму. У наступнай акадэмічнай гісторыі сцвярджалася, што Грунвальдская перамога „канчаткова спыніла агрэсію нямецкіх феадалаў на славянскія і літоўскія землі", падкрэслівалася, што „Літва і Польшча могуць весці паспяховую барацьбу супраць нямецкіх захопнікаў толькі пры апоры на ваенныя сілы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх земель" і адзначалася карысць разгрому Ордэна для эканамічнага развіцця Літвы і Польшчы[52]. Найбольш кандыцыйная пяцітомавая „Гісторыя Беларускай ССР" захавала аналагічную трактоўку, сфармуляваную, праўда, больш узважана: перамога „прыпыніла агрэсію" Ордэна, паспрыяла эканамічнаму развіццю „Польшчы, Літвы і беларускіх земель" ды, што адзначалася ўпершыню, садзейнічала „згуртаванню беларускіх земель і фарміраванню беларускай народнасці"[53]. Падобна ацэньвалася значэнне бітвы ў наступных абагульняльных нарысах[54], а таксама ў першай беларускай энцыклапедыі: яна „спыніла агрэсію Тэўтонскага ордэна на ўсход", а ў выніку „садзейнічала эканамічнаму развіццю Польшчы, Літвы і Беларусі"[55].

У цэлым з 1970-х г. і фактычна да канца савецкай эпохі пры апісанні значэння перамогі пад Грунвальдам практычна ўсе падручнікі, акадэмічныя і энцыклапедычныя выданні БССР на першае месца выносілі

[52] История Белорусской ССР. В 2 т. Т. 1. Ред. колл.: Л. Абецедарский, В. Перцев, К. Шабуня. Минск, 1961. С. 70.

[53] Гісторыя Беларускай ССР. У 5 т. Т. 1. Гал. рэд. К. Шабуня. Мінск, 1972. С. 166.

[54] История Белорусской ССР. Ред. колл. И. Игнатенко, Н. Каменская, И. Кравченко. Минск, 1977. С. 52; История БССР. Учебное пособие для вузов. Под ред. В. Чепко, А. Игнатенко. Минск, 1981. С. 91–92. Пар. школьны падручнік: Баранава М., Загарульскі Э., Паўлава Н. Гісторыя Беларусі. Падручнік для 8–9 кл. Мінск, 1989. С. 57.

[55] Шчарбакоў С. Грунвальдская бітва 1410 г. // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск, 1971. С. 43–44. Такі ж артыкул С. Шчарбакова, толькі карацейшы, змешчаны ў выданні: Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 1. Мінск, 1978. С. 227–228.

спыненне агрэсіі нямецкіх рыцараў (ці „феадалаў”) на Усход[56]. Апошнюю часам звязвалі з палітычнай праграмай „Дранг нах Остэн”, якая быццам ажыццяўлялася з XII ст., пакуль у 1945 г. не пацярпела крах[57]. Але для шырокіх колаў грамадскасці сама тэма Грунвальда заставалася непазнанай, бо ў масмедыях і гістарычнай публіцыстыцы БССР эпохі Хрушчова ды Брэжнева пра яго не пісалася. Зрэшты, Грунвальд не палічылі вартым уключыць хоць бы ў хрэстаматыю па гісторыі Беларусі для школьнай адукацыі.

Сітуацыя яшчэ ў часы застою пачала паволі мяняцца стараннямі пісьменніка Канстанціна Тарасава. Узяўшыся пісаць на гістарычныя тэмы, ён болей за іншых зрабіў для папулярызацыі Грунвальда сярод шырокай грамадскасці, каб абуджаць гістарычную свядомасць суайчыннікаў. У яго майстэрскай аповесці „Пагоркі Грунвальда”[58], уключанай у вядомую кнігу „Памяць пра легенды”[59], што стала бестселерам сярэдзіны — дру-

[56] У стандартызаваным савецкім вобразе бітвы пад Грунвальдам, выкладзеным у артыкулах галіновых энцыклапедый, таксама за найбольшае значэнне перамогі прызнавалася „спыненне агрэсіі” на Усход, хоць Ордэн наўпрост не атаесамляўся з немцамі. Пар.: Малиновский А. Грюнвальдская битва 1410 г. // Советская историческая энциклопедия. Т. 4. Москва, 1963. Стлб. 860–861; Киселев В. Грюнвальдская битва 1410 г. // Советская военная энциклопедия. Т. 3. Москва, 1977. С. 66–67.

[57] У энцыклапедыі „націску на Усход” быў прысвечаны адмысловы артыкул, у якім паўтараліся асноўныя тэзісы адпаведнай публікацыі У. Пашуты. Гл.: А. Зубар. „Дранг нах Остэн” // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск, 1971. С. 270–271. Пар.: Пашуто В. „Дранг нах Остен” // Советская историческая энциклопедия. Т. 5. Москва, 1964. Стб. 322–325.

[58] Спачатку аповесць „Погоня на Грюнвальд” выйшла ў часопісе „Нёман” (1980, № 4 і 5), але амаль адразу пабачыў свет і кніжны варыянт. Гл.: Тарасов К. День рассеяния. Минск, 1980.

[59] Гл. першае выданне кнігі на рускай мове: Тарасов К. Память о легендах: Белорусской старины голоса и лица. Минск, 1984 (раздзел „Холмы Грюнвальда” — с. 35–54). Цыт. па 2-м беларускамоўным выданні: Тарасаў К. Памяць пра легенды:

гой паловы 1980-х г., супрацьстаянне ВКЛ і Ордэна паказвалася, як і чакалася ад мастацкага твора, намнога драматычней, чым у скупых абзацах навучальных ці навукова-папулярных выданняў. Поўны разгром Ордэна К. Тарасаў падаў у ёй як „неадкладную задачу, жыццёва неабходную патрэбу літоўцаў, беларусаў і палякаў", без вырашэння якой іх чакаў бы лёс прусаў[60]. Праўдападобна, пісьменнік успрыняў „Вялікую вайну" 1409–1411 г. у такім святле пад уплывам грунтоўнай працы польскага гісторыка Стэфана М. Кучыньскага, на той час найбольш аўтарытэтнай з вядомых і даступных у Мінску, напісанай, аднак, праз прызму тэзіса аб адвечнай польска-нямецкай варожасці[61]. І менавіта ў такой канцэпцыі дзякуючы вялікай папулярнасці твораў К. Тарасава ў эпоху „перабудовы" Гарбачова, калі цікавасць да гісторыі небывала ўзрастала, памяць пра Грунвальд паступова набывала ўсё большае месца ў свядомасці грамадства.

У гэтай сувязі этапным для Беларусі можна лічыць 1990 г., з якім звязаны шэраг сімвалічных падзей. У Мінску, ва ўмовах адноснай дэмакратызацыі, упершыню ў гісторыі краіны, грамадскасць публічна адзначыла дзень бітвы — яе 580-ю гадавіну. Тады ж беларуская дэлегацыя, узначаленая вядомым археолагам Міхаілам Ткачовым, хоць і неафіцыйная, упершыню ўзяла ўдзел у міжнародных урачыстасцях на Грунвальдскім полі ў Польшчы. Так быў закладзены пачатак публічнага святкавання перамогі пад Грунвальдам. У тагачасным Вярхоўным Савеце БССР была падрыхтавана „грунвальдская" праграма, якая прадугледжвала прысваенне імя Грунвальда вуліцам, школам і ўстановам, заснаванне

Постаці беларускай мінуўшчыны. Мінск, 1994 („Пагоркі Грунвальда" — с. 77–96).

60 Тамсама. С. 78. І пазней, у сваіх шматлікіх папулярных публікацыях, пісьменнік ацэньваў перамогу пад Грунвальдам як выратаванне беларускага народа ад знішчэння. Гл.: Тарасаў К. Дзень выратавання // Настаўніцкая газета. 1990. 7 ліпеня. С. 4.

61 Kuczyński S. M. Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409–1411. Wyd. 2. Warszawa, 1960.

ордэна Грунвальда і інш., а ўдзельнікі першага святкавання Грунвальдскіх угодкаў у звароце да мінскіх уладаў прасілі да 600-годдзя бітвы ўзвесці ў сталіцы велічны помнік[62]. Праўда, усё гэта так і засталося пажаданнем, і толькі ў Горадні з'явілася Грунвальдская вуліца ды памятны знак, пастаўлены ў 1990 г. каля Каложы, аднак праз колькі гадоў разбураны невядомымі. Пэратварэнне публічнага святкавання Грунвальда ў традыцыю пры новых уладах Беларусі сутыкнулася з нечаканымі цяжкасцямі[63], але, тым не менш, сама падзея ўжо тады была быццам вернута з забыцця. З таго самага часу бітве прысвячаліся навуковыя чытанні, узрастала колькасць прысвечаных ёй папулярных публікацый і мастацкіх твораў[64], „Грунвальдам" называлі перыёдыкі[65], летнікі[66] і г. д.

Пра вялікую перамогу 1410 г. нарэшце пачалі пісаць і беларускія навукоўцы, якія, натхнёныя нацыянальным адраджэннем, спрабавалі пераглядаць афіцыйныя трактоўкі гістарычных падзей[67]. Свядома ці не, але і ў першых навуковых публікацыях пра Грунвальд аказа-

[62] Ядвіга К. Грунвальд–580 // Літаратура і мастацтва. 1990. 20 ліпеня. С. 3.

[63] Ужо ў 1995 г. сталічныя ўлады не дазволілі святкаваць угодкі славутай бітвы (Ахрымук М. Менскія ўлады супраць беларускай гісторыі? // Свабода. 1995. № 28. С. 2; Вецер А. Памяці герояў Грунвальда // Народная газета. 1995. 18 ліпеня. С. 3.)

[64] Гл.: Гарбачэўская В. Грунвальдская бітва на старонках мастацкіх твораў // Бібліятэка прапануе. 2010. № 10. С. 25–27.

[65] У 1990 г. была заснавана газета „Грунвальд. Навіны беларускага Адраджэньня".

[66] Летні лагер для дзяцей „Грунвальд" быў створаны бацькоўскім камітэтам беларускамоўных класаў Мінска ў 1990 г. непадалёк ад сталіцы.

[67] Адным з першых да тэмы звярнуўся Анатоль Грыцкевіч. Гл.: Грыцкевіч А. Знешняя палітыка Вітаўта (Заходні накірунак) // Наш Радавод. Кн. 2. Гродна, 1990. С. 172–175; яго ж. Барацьба Вялікага Княства Літоўскага і Рускага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы) з Тэўтонскім ордэнам у канцы XIV — першай палове XV ст. // Адраджэнне. Гістарычны альманах. Вып. 1. Мінск, 1995. С. 36–61. Пар.: Летапісная аповесць пра Грунвальдскую бітву. Пераклад і прадмова В. Чамярыцкага // Спадчына. 1990. № 2. С. 30–31.

лася перанятай традыцыя трактавання немцаў як адвечных ворагаў славянства, якая выдавала бітву пад Грунвальдам за фатальнае наступства нямецкай агрэсіі. „Тэўтонскі ордэн планаваў стварэнне вялікай нямецкай дзяржавы на ўзбярэжжы Балтыйскага мора з уключэннем у яго склад Паўночнай Польшчы, Літвы і большай часткі Беларусі, Пскова і Ноўгарада Вялікага", — пісаў Анатоль Грыцкевіч, акцэнтуючы існаванне пастаяннай пагрозы „заняволення літоўскага і беларускага народаў, магчымага іх знішчэння або анямечвання (як прусаў)"[68]. У яшчэ больш драматызаванай форме пра „смяротную небяспеку" з боку дзяржавы тэўтонскіх рыцараў гаварылася ў публіцыстычным творы Станіслава Цярохіна, прысвечаным гістарычнай бітве, у якім распавядалася пра планы Ордэна стварыць „Вялікую Тэўтонію", у выпадку ажыццяўлення якіх усходнія славяне, падобна прусам ды іншым плямёнам, „назаўжды зніклі б з гістарычнай арэны"[69].

Падабенства прэзентаваных візій невыпадковае. Абедзве яны паўсталі, думаю, пад уплывам падыходаў згаданага вышэй С. М. Кучыньскага[70], і гэта можна засведчыць, так бы мовіць, амаль дакументальна[71]. Аку-

[68] Грыцкевіч А. Знешняя палітыка Вітаўта. С. 172. Гэтаксама падаецца нямецкая пагроза для беларусаў і літоўцаў у другім, больш грунтоўным артыкуле даследчыка, у якім перамога пад Грунвальдам ацэньваецца як выратаванне „ад вынішчэння і анямечвання беларускага народа" (Гл.: Грыцкевіч А. Барацьба Вялікага княства Літоўскага і Рускага… С. 39, 49).

[69] Цярохін С. Славутыя адвагай на вайне. Да 580-годдзя Грунвальдскай бітвы (1410–1990). Мінск, 1991. С. 13, 16, 17. У 1992 г. тэкст гэтага твора перадрукавала самая масавая на той час „Народная газета", што данесла яе ідэі да найшырэйшай аўдыторыі.

[70] Kuczyński S. M. Wielka wojna z Zakonem krzyżackim w latach 1409–1411. Warszawa, 1960.

[71] Лёгка заўважаецца супадзенне шэрагу тэзісаў. У прыватнасці, у згаданую вышэй брашуру з С. М. Кучыньскага запазычана нават сцвярджэнне, што „ўвесь народ быў прасякнуты нянавісцю да крыжакоў" (Славутыя адвагай на вайне, с. 33), хоць гэта не магло мець да Беларусі ніякага дачынення.

рат апошні ў сваёй манументальнай працы прыпісаў падобныя планы вялікім магістрам Нямецкага ордэна, хоць іх рэальнасць так ніхто і не давёў. Ва ўмовах халоднай вайны з Захадам польскі гісторык вызначыў нямецкі „Drang nach Osten" як праграму „стварэння дзяржаў каланіяльнага характару, заснаваных на ўціску і эксплуатацыі славянскага і балцкага элемента, рэальную пагрозу пагібелі Польшчы і Літвы, а магчыма і Чэхіі, і Пскова, і Вялікага Ноўгарада", падкрэсліўшы пры гэтым, што калі б ВКЛ засталося адно, без Польшчы, то паўночна-заходнія землі Беларусі ды Чорная Русь „напэўна… падзялілі б лёс прусаў", але такая пагроза „на доўгія вякі спынена пад Грунвальдам"[72]. Аднак з таго часу палітычная сітуацыя ў Еўропе непараўнальна змянілася, а падобныя тэзісы С. М. Кучыньскага даўно прызнаны беспадстаўнымі. Сімвалічна, што калі пра Грунвальд пачалі пісаць у Мінску, знакам пазітыўных перамен стала падзенне сумнавядомай Берлінскай сцяны, і ў дэманізацыі Тэўтонскага ордэна, здавалася, больш не будзе патрэбы.

Пасля абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, калі айчынная гісторыя ўпершыню набыла статус самастойнай дысцыпліны, Мінску неабходна было распрацаваць сваю нацыянальна-дзяржаўную канцэпцыю гісторыі, якая мусіла стаць альтэрнатывай савецкай дактрыне. Хоць тэндэнцыі на гераізацыю ўласнага мінулага ў імя кансалідацыі нацыі і адпавядала большае актуалізаванне топасу Грунвальда ў гістарычным наратыве, лагічна было чакаць, што дэмакратызацыя будзе спрыяць вызваленню ад ідэалагем сталінскіх часоў, дэклараванаму яшчэ ў гады „перабудовы". У дапаможніках па гісторыі Беларусі, створаных на аснове новай канцэпцыі, бітве пад Грунвальдам сапраўды стала адводзіцца непараўнальна больш месца, — як падзеі эпахальнай, вартай асобнай увагі. Аднак яе інтэрпрэтацыі парадаксальным чынам аддавалі духам панславізму

[72] Kuczyński S. M. Wielka wojna z Zakonem krzyżackim w latach 1409–1411. S. 10, спас. 1.

і набліжаліся да канонаў сталінскай эпохі[73]. Калі ў даваенных выданнях па айчыннай гісторыі яшчэ можна было прачытаць, што „ваенныя паходы рабілі не толькі рыцары на Літву і Беларусь, але і наадварот, літоўска-беларускія войскі не раз урываліся ў межы тэрыторыі, занятай рыцарамі... спусташалі і грабілі яе”[74], дык у навучальнай літаратуры суверэннай Беларусі ўсё гранічна спрасцілася: увесь час узрастала небяспека з боку Ордэна, і генеральная бітва была неабходная для самавыратавання ВКЛ і Польшчы[75]. Так, у школьным дапаможніку па айчыннай гісторыі знайшлі месца ўсе састарэлыя тэзісы пра бітву як „крах 200-гадовай крыжацкай агрэсіі ў Еўропе”[76], а ўніверсітэцкія дапаможнікі паўтаралі, што „крыжацкая армада” пагражала славянскім і балцкім народам „духоўным і фізічным вынішчэннем”, і толькі перамога на пяць стагоддзяў уберагла славянскія землі ад нямецкай агрэсіі[77], ды што „скрушэнне агрэсіўнага суседа стала жыццёвай неабходнасцю ліцвінаў і палякаў”[78]. Падобныя акцэнты расстаўлены і ў першым у

[73] Падрабязней па тэме гл.: Сагановіч Г. Грунвальд у беларускай гістарыяграфіі // БГА. Т. 9 (2003). С. 152–168.

[74] Шчарбакоў В. Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Менск, 1934. С. 93.

[75] Ідэя выратавальнасці Грунвальдскай бітвы для беларусаў, апрача падручнікаў, пашыралася і аўтарамі іншых папулярных у краіне кніг. У іх гаварылася, прыкладам, што крыжаносцы „пагражалі некаторым славянскім народам іх поўным падпарадкаваннем, задумвалі ператварыць Польшчу і ВКЛ у каланіяльныя вобласці нямецкай дзяржавы” (История Беларуси: вопросы и ответы. Сост. Г. Голенченко, В. Осмоловский. Минск, 1993. С. 17), або проста што дзякуючы Грунвальду „польскія, літоўскія, беларускія землі былі выратаваны ад нямецкай агрэсіі” (Чаропка В. Імя ў летапісе. Мінск, 1994. С. 383; ён жа, Удзел войск ВКЛ у Грунвальдскай бітве // БГЧ. 2000. № 2. С. 21).

[76] Штыхаў Г., Ракуць В. Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі. Падручнік для 6 кл. сярэдн. школы. Пад рэд. П. Петрыкава. Мінск, 1996. С. 135.

[77] Гісторыя Беларусі. Дапаможнік для паступаючых у ВНУ. Пад рэд. Ю. Казакова, А. Каханоўскага, П. Лойкі і інш. Мінск, 1996 (2-е выд. 1998). С. 81.

[78] Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 1. Са старажытных часоў да канца

постсавецкай Беларусі акадэмічным нарысе айчыннай гісторыі: вайна з тэўтонцамі названая „барацьбой за выжыванне славянства”, у якой перамога 1410 г. паклала канец „страшнаму, больш чым двухсотгадоваму супрацьстаянню двух магутных сіл: славянства і крыжацкіх заваёўнікаў”, і дзякуючы ёй „землі ўсходніх славян пяць стагоддзяў не ведалі германскай агрэсіі”[79]. Пасля гэтага не выпадае дзівіцца, што агістарычнае па сутнасці супрацьпастаўленне „Еўропы крыжацкай” і „Еўропы славянскай” стала трапляць не толькі ў папулярныя публікацыі[80], але і на старонкі ўніверсітэцкіх дапаможнікаў[81], а „Вялікая вайна” 1409–1411 г. нават у профільнай энцыклапедыі суверэннай Беларусі прэзентавана як этап нямецкай палітыкі „Дранг нах Остэн”, што прадугледжвала „стварэнне вялікай Тэўтоніі ад вострава Руген у Балтыйскім моры да Фінскага заліва” з землямі Польшчы, Беларусі, Літвы, Пскова і Ноўгарада[82]. Усё як калісь у цытаванага С. М. Кучыньскага…

Зразумела, папулярная публікацыя мала да чаго абавязвае. Напэўна, пісьменніку ці публіцысту, каб эмацыйна ўразіць чытачоў, часам і можна выдаць, што калі б не Грунвальд, то беларусаў з літоўцамі „чакала б такая ж горкая доля”, як і прусаў[83]. Але ў нас ад эмацыйных перабольшанняў, відаць, цяжка было ўстрымацца

XVIII ст.: Курс лекцый / І. Крэнь, І. Коўкель, С. Марозава і інш. Мінск, 2000. С. 234.

79 Нарыс гісторыі Беларусі. У 2 ч. Ч. 1. Гал. рэд. М. Касцюк. Мінск, 1994. С. 118, 120.

80 Асіноўскі С. Сумленна прынялі свой лёс… // Беларуская Мінуўшчына. 1995. № 3. С. 2–6. Паводле аўтара, пад Грунвальдам сутыкнуліся „Еўропа крыжацкая, агрэсіўная, і Еўропа славянская, што браніла сваю годнасць і незалежнасць”.

81 Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 1. Курс лекцый. С. 240.

82 Цярохін С. Грунвальдская бітва // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 3. Мінск, 1996. С. 158.

83 Асіноўскі С. Сумленна прынялі свой лёс… С. 2. Пашыраную версію таго ж артыкула гл. у: Архівы і справаводства. 2005. № 3. С. 113–125. Істотна, што аўтар сам піша пра выкарыстанне публікацый С. Цярохіна, ад якога, думаю, і пераняў гэтыя ідэі.

і некаторым гісторыкам[84], так што патрыятычны пафас і ўзнёслыя ўсхваленні Грунвальда прыпадобнілі творам гістарычнага папулярызатарства як школьны дапаможнік, так і акадэмічнае выданне. Шкада, што замест таго, каб звярнуцца да сучасных даследаванняў, аўтары навуковых артыкулаў ці энцыклапедычных публікацый даверыліся архаічным канцэпцыям, працягваючы пісаць пра „Дранг нах Остэн", параўноўваць магчымы лёс беларусаў з доляй прусаў і да т. п.

Мысленне стэрэатыпамі баіцца дэмакратызацыі і адкрытасці. У Польшчы грунвальдскі міф даўно страціў былую забранзавеласць[85]. Негатыўная стэрэатыпізацыя немцаў там пачала пераадольвацца яшчэ ў пээрэлеўскую эпоху, чаму паспрыяла развіццё польска-нямецкіх кантактаў. Пачынаючы з 1970-х г. даследчыкі па абодва бакі мяжы ўсё больш настойліва пярэчылі аднабаковаму трактаванню нямецкага каланізацыйнага руху і выкарыстанню тэрміна „Drang nach Osten". Вызваленню ад памылак, нацыяналістычных дэфармацый і непатрэбнага пафасу паспрыяла праца заснаванай у 1972 г. камісіі ПНР і ФРГ па школьных падручніках гісторыі. Кіруючыся імкненнем да аб'ектыўнасці і стараючыся зразумець візію процілеглага боку, удзельнікі нарадаў пагадзіліся, што сярэднявечныя перасяленні немцаў на Усход, якія ў традыцыйнай нямецкай гістарыяграфіі лічыліся своеасаблівай цывілізацыйнай місіяй, а ў польскай (як і савецкай) — „нямецкім націскам на Усход", на справе былі часткай агульнаеўрапейскага дэмаграфічнага

[84] Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што сярод навукоўцаў гучалі і галасы „іншадумцаў". Прыкладам, гаварылася, што аб'ектыўна Нямецкі ордэн „з'яўляўся своеасаблівым гарантам незалежнасці ВКЛ" (Міхайлоўская Л. Тэўтонскі ордэн у еўрапейскіх палітычных адносінах канца XIV — першай трэці XV ст. // БГЧ. 1993. № 3. С. 81). Аднак альтэрнатыўныя погляды былі рэдкасцю і не яны ўплывалі на гістарычную свядомасць грамадства.

[85] Traba R. Konstrukcja i proces dekonstrukcji narodowego mitu. Rozważania na podstawie analizy semantycznej polskich obchodów rocznic grunwaldzkich w XX w. // KMW. 1999. Nr. 4 (226). S. 515–525.

руху і гаспадарчага працэсу[86]. Гісторыкі даводзілі, што ў сапраўднасці ніякага нямецкага „націску на Усход" не існавала. Праявы экспансіі IX–XII, XIII–XV і пазнейшых стагоддзяў проста немагчыма звязаць у адну спланаваную агрэсію нямецкага народа. Усе яе ўдзельнікі кіраваліся рознымі інтарэсамі. Прыкладам, экспансія нямецкіх князёў XII–XIII ст. на заходнеславянскія землі не мела нічога агульнага з перасяленнем нямецкіх мяшчан ці сялян на славянскія землі і пагатоў з феноменамі культурных ды рэлігійных уплываў, а тэўтонскія рыцары ніколі не адстойвалі інтарэсаў Нямецкай імперыі, і г. д.

Асабліва значным укладам у рэвізію поглядаў на „Drang nach Osten" сталі спецыяльныя даследаванні польскага гісторыка Бенедыкта Зентары, прысвечаныя каланізацыйнаму руху немцаў на еўрапейскі Усход у Сярэднявеччы і высока ацэненыя замежнымі калегамі[87]. Крытычны аналіз самога паняцця дазволіў вучонаму паказаць, што навуковы падыход адмаўляе не факт нямецкай экспансіі на славянскія землі, а тое, што яна была часткай нейкай праграмы, запланаванай агрэсіі нямецкага элемента ці яго інстынктыўнага парыву. Гэты феномен павінен разглядацца ў катэгорыях экспансіі дзяржаўных арганізмаў навонкі як агульнаеўрапейскай з'явы[88]. Усходняя экспансія немцаў адрознівалася ад іх перасяленняў у іншых накірунках толькі тым, што на Усходзе яны сустракаліся са слабейшым супраціўленнем. Між іншага, іх рух у Італію быў

[86] Topolski J. Problem consensusu i objektywizmu w pracach wspólnej polsko-RFN-owskiej komisji korygującej szkolne podręczniki historii // Polacy i Niemcy. Dziesięć wieków sąsiedztwa. Praca zbiorowa. Red. A. Czubiński. Warszawa, 1987. S. 467–468.

[87] Пар.: Zernack K. Niemiecki Wschód — polski Zachód. O dziele życia polskiego mediewisty Benedykta Zientary (1928–1983) // idem. Niemcy — Polska: z dziejów trudnego dialogu historiograficznego. Red. H. Olszewski. Poznań, 2006. S. 272–273.

[88] Zientara B. Z zagadnień terminologii historycznej // Społeczeństwo, gospodarka, kultura. Studia, ofiarowane M. Małowistowi. Warszawa, 1974. S. 430.

не менш значны, чым на Усход, аднак тэрміна „Drang nach Süden” ніхто не прыдумляў, — трапна заўважыў гісторык[89]. Сапраўды, нямецкіх перасяленцаў цікавілі лепшыя сацыяльныя, гаспадарчыя і праўныя умовы, — гэта ўсё, што яны спадзяваліся знайсці на Усходзе, а не якія-небудзь нямецкія нацыянальныя праграмы[90]. Што ж да канфліктаў паміж славянамі і немцамі, то ў Сярэднявеччы яны мелі асновай не этнічныя, а пераважна рэлігійныя і сацыяльныя, найперш гаспадарчыя матывы[91]. Беспадстаўнасць пераносу дзяржаўна-нацыянальных катэгорый на сярэднявечныя рэаліі, асабліва характэрнага для гістарыяграфіі XIX ст., і атаесамленне нямецкіх перасяленняў на Усход з этнічнай экспансіяй немцаў паказана і ў даследаваннях іншых вучоных[92].

На жаль, у беларускай гістарыяграфіі, не кажучы пра гістарычную публіцыстыку, гістарыяграфічны баласт XIX ст. усё яшчэ знаходзіць заўзятых прыхільнікаў. З’явіліся новыя публікацыі, у якіх дзейнасць Нямецкага ордэна ў літаральным сэнсе атаесамляецца з „Дранг нах

89 Zientara B. Drang nach Osten (Parcie na Wschód) // Mówią wieki. 1984. № 4. S. 2; idem, Z zagadnień terminologii historycznej… S. 428.

90 Zientara B. Konflikty narodowościowe na pograniczu niemiecko-słowiańskim w XIII–XIV w. i ich zasięg społeczny // PH. T. 59 (1968). Z. 2. S. 202; Wippermann W. „Gen Ostland wollen wir reiten!” Ordensstaat und Ostsiedlung in der historischen Belletristik Deutschlands // Germania Slavica II. Berlin, 1981. S. 187.

91 Wippermann W. Der „Deutsche Drang nach Osten”. Ideologie und Wirklichkeit eines politischen Schlagwortes. Darmstadt, 1981. S. 15–16.

92 Graus F. Die Problematik der *deutschen Ostsiedlung* aus tschechischer Sicht // Die deutsche Ostsiedlung des Mittelalters als Problem der europäischen Geschichte. Reichenau-Vorträge 1970–1972. Hg. von W. Schlesinger. Sigmaringen, 1975. S. 31–75; Piskorski J. M. The Medieval Colonization of Central Europe as a Problem of World History and Historiography // German History. V. 22 (2004). № 3. P. 323–343. Пра тое, што адносіны немцаў і славян у Сярэднявеччы не выпадае ацэньваць адмоўна, гл.: Wünsch T. Deutsche und Slawen im Mittelalter. München, 2008.

Остэн", канец якому, маўляў, быў пакладзены Грунвальдам[93]. Падзеі ж апошняга часу паказваюць, што падобныя погляды не толькі пашыраюцца, але і набываюць статус акадэмічнай навуковасці.

Калі 590-годдзе бітвы ў Беларусі прамінула амаль непрыкметна[94], дык у сувязі з 600-й гадавінай выйшла небывалая колькасць публікацый пра Грунвальд, прайшла серыя культурных мерапрыемстваў і навуковых канферэнцый, а па тэлевізіі быў паказаны прысвечаны бітве серыял. Нельга не прызнаць, што гэтым разам, праз сто гадоў пасля ўключэння ў нацыянальны гістарычны наратыў, тэма Грунвальда стала фактарам гістарычнай свядомасці масаў. Аднак дзесяць гадоў таму яшчэ наўрад ці можна было прагназаваць такое адзінагалоссе ў ацэнках гістарычнай падзеі: цяперашні Грунвальд паўстаў у святле славянскай перамогі над нямецкім „Дранг нах Остэн"! Антынямецкі пафас аб'яднаў усіх — адэпта „заходнерусізму", які назваў заходнееўрапейскіх рыцараў „абсалютным злом" і прыраўняў іх даспехі да формы гітлераўскіх СС-фармаванняў[95], з нацыянальна арыента-

[93] Як прыклад літаральнага і зусім некрытычнага прыняцця канцэпцыі „Дранг нах Остэн" у навуковым друку Беларусі гл.: Хухлындзіна Л., Васількоў У. „Drang nach Osten" у кантэксце беларускай і сусветнай гісторыі // Веснік БДУ. Сер. 3. 2005. № 2. С. 3–8. У публіцыстыцы яны трапляюцца часцей. Год таму ў адной з перадач радыё „Свабода" бітва пад Грунвальдам ацэньвалася як „самая значная гістарычная падзея" Беларусі і падавалася цалкам у святле канцэпцыі „Дранг нах Остэн". Гл.: Жыццё і сьмерць мітаў: Грунвальд [у:]http://www.svaboda.org/content/transcript/1808811.html (прагляд — 30.X.2009). Кампіляцыяй спрошчаных трактовак мінулай эпохі аказалася і кніга А. Тараса „Грюнвальд, 15 июля 1410 года" (Мінск, 2010).

[94] Традыцыйная абыякавасць уладаў да датаў далёкай гісторыі суправаджалася захадамі па стрымліванні грамадскіх ініцыятыў святкавання дня бітвы пад Грунвальдам, што давала падставу папракаць іх у імкненні „сцерці [Грунвальд] з народнай памяці". Гл.: Матусевіч К. Грунвальд: вынік — адказ // Свабода. 2000. 14 ліпеня. С. 3.

[95] Гл. размову з В. Гігіным, галоўным рэдактарам часопіса „Беларуская думка": Победа под Грюнвальдом: слава и рубеж нашей истории // Белорусская военная газета. 2010,

ваным аўтарам, у якога тэўтонскія рыцары сімвалізуюць „пагрозу падпарадкавання нашых продкаў Ордэну і анямечвання”[96]; камуніста, якому Грунвальд не толькі забяспечыў „пералом у гісторыі развіцця славянскіх дзяржаў”, але і абумовіў „наяўнасць… беларускай дзяржаўнасці”[97], з заступнікам праваслаўя, што паўтарае тэзіс пра тое, быццам Ордэн пагражаў „знішчэннем славянскіх народаў”, і бачыць у перамозе праяву „лепшых рысаў, уласцівых славянам”[98]; урэшце папулярызатараў гісторыі, якія апісалі нядолі „няшчаснай славянскай зямлі” ў стылі Генрыка Сянкевіча[99], з акадэмікам, пад пяром якога зноў актуалізуецца паралель паміж Грунвальдам і вайной з нацысцкай Нямеччынай, а сярэднявечная бітва і цяпер „адыгрывае сваю пазітыўную ролю” ў захаванні беларускім народам „сваіх пазіцый”[100](?!).

Увогуле лексіка нашых грунвальдскіх публікацый узору 2010 г. выразна нагадала расійскія і польскія выданні стогадовай даўнасці, а таксама савецкія прапагандысцкія трактоўкі 1940-х і 1960-х г. Можна канстатаваць, што да канструявання новай сімволікі Грунвальда ў Беларусі не дайшло, — яе галоўныя кампаненты ўзяты з мінулага. І хоць улады Беларусі не заўважаны ў яўным выкарыстанні славутай гістарычнай падзеі ў прапагандысцкіх мэтах, цяперашні вобраз Грунвальда як месца памяці беларусаў з яго панславісцкім дыскурсам і ўваскрошаным духам славянска-нямецкага супрацьстаяння проста ідэальна адпавядае афіцыёзнай гістарыч-

16 июля. С. 4–5.

[96] Лабадзенка Г. Грунвальд — напамін, што мы нацыя рыцараў і асілкаў // Звязда. 2010. 15 ліпеня. С. 2.

[97] Гамолко С. 15 июля 2010 — 600 лет Грюнвальду // Коммунист Беларуси. 2010. 17 июля. С. 6; 24 июля. С. 6–7.

[98] Велько А., Мартинович М. Грюнвальдская битва. Минск, 2010. Цытата з прадмовы В. Грозава.

[99] Медведев А. Грюнвальдская битва: 600 лет спустя // Советская Белоруссия. 2010. 15 июля. С. 6. Пар.: Рэха Грунвальда // Народная газета. 2010. 15 ліпеня. С. 1.

[100] Грунвальдская бітва 1410 г.: вынікі і перспектывы даследавання. „Круглы стол” Інстытута гісторыі НАН Беларусі і часопіса „Полымя” // Полымя. 2010. № 6. С. 151, 154, 155.

най палітыцы, а падобна, што і не толькі гістарычнай. Сучасны панславізм, які ставіць на мэце „ўзнаўленне палітычнага адзінства ўсходніх славян — носьбітаў магутнай і самабытнай цывілізацыі”[101], і заклікае аб'ядноўвацца супраць „варожага Захаду”, карыстаецца падтрымкай афіцыйнага Мінска. І Грунвальд як сімвал адвечнага змагання славян з „Еўропай крыжацкай” — гэта лепшы аргумент для яго трубадураў.

## Tannenberg / Grunwald / Dubroŭna 1410: Symbolization of the Battle

**Henadz Sahanovich**

The construction of the image of the battle of Tannenberg in Belarus starting with its inclusion into the national narrative in 1910 and up today is the subject of this article. Whereas in Soviet time this event played a totally marginal role in historical literature, today it has penetrated into mass historical consciousness mainly due to the efforts of writers and popularizers. Paradoxically, however, that political emancipation of Belarusian historiography after the disintegration of the Soviet Union did not weaken the tendency to hyperbolize the significance of Grunwald and to borrow pan-Slavism rhetoric. The 2000 analysis of Belarusian publications evidences that the present-day image of Tannenberg is added to the antiquated myth about Slavic victory over the German „Drang nach Osten”. Such understanding of Tannenberg contents both communists and nationalists and especially the adherents of today's Belarusian government who support the present-day pan-Slavism and confronts the West.

[101] Цыт. па: Заявление Съезда славянских народов Белоруссии, России, Украины (2.06.2001) // Пыпин А. Панславизм в прошлом и настоящем. Репринт. Москва, 2002. Приложения. С. 193.

# Пра паходжанне нацый Усходняй Еўропы*

## Тымаці Снайдэр

Шчыра дзякую за запрашэнне, шчыра дзякую ўсім тым, хто прычыніўся да перакладу маёй кнігі на беларускую мову, шчыра дзякую вам усім за тое, што прыйшлі паслухаць лекцыю на замежнай мове, прычым не проста на замежнай мове, а яшчэ і з чужым для гэтай замежнай мовы акцэнтам. Вось жа шчыра вам усім удзячны, і яшчэ ўдзячны спадарам перакладчыкам-сінхраністам за іх працу.

Я хацеў бы сказаць некалькі слоў пра галоўную тэму маёй кнігі, а менавіта пра тое, адкуль паходзяць нацыі Усходняй Еўропы, чаму склаліся акурат тыя нацыі, якія склаліся, а не нейкія іншыя. Гэта па-ранейшаму застаецца краевугольным пытаннем у гісторыі гэтага рэгіёна, пытаннем, якое далёка не такое банальнае, як выглядае, і на якое вельмі цяжка адказаць. Вось на гэтую тэму я і хацеў бы сказаць некалькі слоў.

Я буду гаварыць не пра ўвесь рэгіён, а толькі пра чатыры краіны, якія, лічу, утвараюць сабой гістарычнае адзінства. Маю на ўвазе Беларусь, Літву, Украіну і Польшчу. Пачну з рэчаў, якія могуць здавацца відавочнымі. Што такое краіна? Гэта можа быць аб'ектыўным, канкрэтным, геаграфічным паняццем. Краінай можа быць Новая Зеландыя, Мадагаскар, і пры гэтых словах у вас, бадай што, не ўзнікае ніякіх асаблівых пачуццяў, ніякай трывалай псіхалагічнай рэакцыі. З іншага боку,

* Тэкст публічнага выступу прафесара гісторыі Ельскага ўніверсітэта Тымаці Снайдэра на прэзентацыі беларускага выдання яго кнігі „Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569–1999" (Мінск: Медысонт, 2010), што адбылася 19 траўня 2010 г. у Інстытуце імя Гётэ ў Мінску.

паняцце краіны, краю можа быць суб’ектыўным, расплывістым, асабістым. Калі адзін паляк, скажам, у Лондане гаворыць другому: „Вяртаюся ў краіну”, — то ў нас не ўзнікае пытання, у якую менавіта. Вядома, гаворка ідзе пра Польшчу. Падобная дваістасць уласціва і паняццю „нацыя”. Калі я, напрыклад, другому амерыканцу скажу: „Нацыя цяпер вельмі падзелена ў палітычных адносінах”, — ён не стане ў мяне пытацца, пра якую нацыю ідзе гаворка. Яму будзе ясна, што я маю на ўвазе жыхароў ЗША, амерыканцаў, нашу нацыю. Гэта цікавая рэч, і гэта дзейнічае, гэта працуе, нават калі я гэтага другога амерыканца зусім не ведаю. І такім чынам ствараецца магічнае кола. Я з гэтым земляком маю нешта супольнае; наша нацыя — праз тое супольнае, што мы маем, — таксама з’яўляецца нечым цэлым. Мы знаёмыя, мы, як вельмі прыгожа гавораць у славянскіх мовах, „нашы”. Але адкуль усё гэта бярэцца, чаму мы „нашы” ў нацыянальным сэнсе, а не ў нейкім іншым?

У 1943–1944 г., калі Чырвоная Армія вызваліла Беларусь, большасць беларусаў маглі сказаць: „Нашы вяртаюцца”. Гэта з’ява, якая яшчэ не надта глыбока вывучана, — гэта пачуццё, ці нехта з’яўляецца „нашым”, ці „не нашым”. Неабавязкова гэта ідзе па нацыянальнай прыкмеце. Рускія, армянскія, грузінскія, узбекскія салдаты, якія тады прыйшлі ў Беларусь, былі, вядома, зусім не беларусамі. Вярталіся не беларусы, а савецкая дзяржава. І вось у гэтым заключаецца, можа, галоўнае пытанне: якую ролю ў развіцці нацыянальнай ідэнтычнасці адыгрывае дзяржава? На думку вядомага нямецкага сацыёлага Макса Вэбэра, дзяржава — гэта механізм, які імкнецца да манапалізаванай улады. Можна таксама заўважыць, што дзяржава імкнецца да манапалізаванага сімвалічнага поля. Менавіта такі агульны кірунак даследаванняў аб узнікненні нацый у нас, у Амерыцы. З іх вынікае, што нацыянальная тоеснасць, як і іншыя віды тоеснасці, — гэта вынік пэўнай дзяржаўнай палітыкі. Гэта можа быць вынік пабочны, ненаўмысны, нават непажаданы. Як давёў вучань Макса Вэбэра Эрнэст Гелнэр, шматнацыянальная імперыя

можа зусім не ставіць перад сабой задач нацыятварэння, маючы пры гэтым цалкам іншыя мэты — напрыклад, эканамічны рост. Імперыі XIX ст. уводзілі ўсеагульную адукацыю для моладзі, стандартызавалі мову, для таго каб больш эфектыўна гадаваць сабе працоўную сілу. Але калі яны дасягалі гэтага, то насельніцтва, выхаванае такім чынам, раптам усведамляла, што належыць да адной нацыі. Гэта ўсведамленне, якога не было ў першапачатковых планах.

Акурат у гэтым пункце аргументацыі мае польскія калегі гавораць: „Стоп, гэта не так”. Яны не згаджаюцца са сцверджаннем, што імперыі ўтвараюць нацыі. Палякі часта звяртаюць увагу, што захопніцкія дзяржавы дзейнічалі насуперак польскаму народу, але, нягледзячы на гэта, польскі народ працягваў існаваць. Нешта ў гэтым, вядома, ёсць, але калі глянуць крыху глыбей, то мы ўбачым не стабільнае існаванне аднаго старога польскага народа, а хутчэй узнікненне некалькіх новых нацый, у тым ліку і новай польскай нацыі. Польскі народ не існаваў бесперапынна, а ствараў сябе наноў, і пры гэтым адначасова з'яўляліся новыя нацыі — беларуская, літоўская, украінская. У XIX ст. на тэрыторыі даўнейшай польска-літоўскай Рэчы Паспалітай змянілася само паняцце нацыі. Нацыя стала ўжо не элітарнай супольнасцю, а масавай.

У канцы XVIII ст., калі спыніла сваё існаванне Рэч Паспалітая, палітычнай нацыяй, як цяпер кажуць, была шляхта. Селянін, які размаўляў па-польску, не быў палякам, не лічыўся палякам, і, вядома, шляхта яго таксама не лічыла палякам. Той факт, што ён размаўляў па-польску, тады не меў ніякага палітычнага значэння. Адпаведна, тое, што іншыя сяляне размаўлялі па-беларуску, па-літоўску, па-ўкраінску, таксама не мела палітычнага значэння. У канцы ж XIX ст. польскія палітычныя дзеячы ўжо ставіліся да селяніна, які гаварыў па-польску, як да паляка, і селянін сам мог лічыць сябе палякам. Але прашу заўважыць, што такая змена паняцця польскасці цягнула за сабой пэўныя вынікі. Масавая польскасць была ўжо не тым самым,

чым была польскасць элітарная. Польская мова стала адзнакай нацыі, але адной нацыі замест некалькіх. А што ж тады павінна было стаць з насельніцтвам, якое не гаварыла па-польску? Відавочна, што большасць людзей на ўсходніх абшарах Рэчы Паспалітай гаварылі хутчэй па-ўкраінску, па-беларуску, па-літоўску. Іншыя палітычныя дзеячы, г. зн. не палякі (хоць яны і маглі пры нагодзе карыстацца польскай мовай), рэкрутавалі такіх людзей у склад іншых, няпольскіх нацый — беларускай, літоўскай, украінскай.

Цяпер, у гэты момант нашых развважанняў, мы сутыкаемся з той небяспекай, што дзяржава, г. зн. у гэтым кантэксце Расійская імперыя, увогуле знікае як нацыятворчы фактар. А яе ролю не хацелася б выпускаць з-пад увагі. Новая палітычная арыентацыя на народныя масы была вынікам паражэння традыцыйнай палітыкі. Разгром абодвух польскіх нацыянальных паўстанняў, і перш за ўсё паўстання 1863–1864 г., паказаў, што царызм, Расійскую імперыю немагчыма перамагчы без саюзніка — без народных мас. А чым былі гэтыя народныя масы? Аказалася, што пры іх уключэнні ў сацыяльныя працэсы на іх аснове ўтвараюцца зусім новыя супольнасці — нацыі.

Дзяржава ўдзельнічала ва ўсім гэтым іншым спосабам, які не з'яўляецца такім відавочным і які я цяпер паспрабую раскрыць. І каб гэта зрабіць, будзе вельмі карысна звярнуцца да беларускага прыкладу. Акурат для разумення ролі імперый XIX ст. у нацыятварэнні беларускі выпадак мае ключавое значэнне.

Як усе ведаюць, беларусы ў XIX ст. не зрабілі ніякіх рашучых крокаў па шляху ўтварэння ўласнай нацыі. Менавіта на гэтым мы павінны засяродзіць сваю ўвагу. Калі б дзяржаўны фактар не меў значэння, калі б мела значэнне толькі наяўнасць на пэўнай тэрыторыі сялян, што гавораць па-беларуску, то беларуская нацыя напэўна б тады ўзнікла. Але перашкодай гэтаму была структура дзяржавы. Усе сяляне, што гаварылі па-беларуску, пражывалі на землях, якія ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Менавіта ў гэтым і заключа-

лася праблема — у тым, што ўсе сяляне, якія гаварылі па-беларуску, жылі ў Расійскай імперыі, усе былі пад Расіяй. Нягледзячы на ўсё тое, што па-ранейшаму сцвярджаюць нацыянальныя гісторыкі, і польскія гісторыкі перш за ўсё, шанцы на нацыянальнае адраджэнне значна лепшыя, калі насельніцтва таго ці іншага народа падзелена паміж дзвюма-трыма імперыямі. Для гэтага ёсць дзве прычыны. Па-першае, заўсёды можа быць так, што адна імперыя дазваляе нешта, чаго другая не дазваляе. Значыць, можна дабіцца чагосьці на тэрыторыі адной імперыі і потым пашырыць плён гэтай працы на землі другой імперыі. Класічны прыклад тут — літоўскія выдавецтвы, якія дзейнічалі ў Германскай імперыі, а потым распаўсюджвалі кнігі на літоўскіх землях у складзе Расійскай імперыі. Па-другое, адна імперыя можа, хоць бы на працягу пэўнага часу, дапамагаць паняволенаму народу як фактару канкурэнцыі, фактару барацьбы з другой імперыяй. На пачатку XIX ст. Габсбургская манархія дапамагала сваёй украінскамоўнай інтэлігенцыі, бо хацела адкалоць украінскае насельніцтва Расійскай імперыі, і дзякуючы гэтаму спрыяла на значнай тэрыторыі росту ўкраінскага руху. Падсумуем: нацыянальныя падзелы могуць дапамагаць нацыянальнаму руху, бо калі народ падзелены, яму ў пашпарт нельга запісаць грамадзянства толькі нейкай адной імперыі, адной дзяржавы. Польскі, літоўскі, украінскі народы — усім ім спрыяў нацыянальны падзел. Але для беларускага народа гэта было немагчыма. Гэта роля дзяржаўнага фактару, роля межаў, г. зн. роля геаграфіі межаў. Але гэта і роля выпадку.

Яшчэ адзін выпадковы збег абставінаў вёў да таго, што расійская палітыка тармазіла развіццё беларускага народа. У першай палове XIX ст. расійская адукацыйная палітыка падтрымлівала польскую культуру на землях з пераважна беларускім насельніцтвам. Чаму? Таму што тады, на пачатку XIX ст., куды больш людзей у Расійскай імперыі ўмелі чытаць па-польску, чым па-руску. І калі цар Аляксандр І захацеў ажыццявіць пэўную рэарганізацыю гэтай імперыі, быў сэнс у тым, каб рабіць гэта пры да-

памозе людзей, якія ўжо былі пісьменныя. Такім чынам, мадэрнізацыю Расійскай імперыі пачалі ажыццяўляць палякі, а дакладней, шляхта, якая гаварыла па-польску. Напрыклад, даўняя Віленская езуіцкая акадэмія стала расійскім універсітэтам з польскай мовай выкладання. Дзякуючы, у прыватнасці, гэтай расійскай палітыцы польская мова была ў Расійскай імперыі фактарам прасоўвання па службовай лесвіцы, праўда, толькі на працягу пары дзесяцігоддзяў. За некалькі дзесяцігоддзяў насельніцтва, якое гаварыла па-беларуску, яшчэ больш апалячылася пры панаванні Расійскай імперыі.

Спадзяюся, вы бачыце, што тут нам даводзіцца лавіраваць паміж дзвюма тэорыямі паходжання нацый. На Захадзе, у Амерыцы, падкрэсліваецца вага дзяржавы. Там часта прынята лічыць, што тая ці іншая нацыя — гэта вынік нейкай спланаванай дзяржаўнай палітыкі. Тут, на ўсходзе, усё, вядома, было не так проста. Нельга, канечне, сцвярджаць, што Расійская імперыя свядома спрыяла фармаванню польскай, літоўскай, украінскай нацый. Але гэтыя нацыі існавалі і сфармаваліся. З другога боку, іншая частка даследчыкаў падкрэслівае, што нацыя — гэта вынік самаадданай працы нацыянальных дзеячаў з насельніцтвам. У гэтым, вядома, таксама ёсць зерне ісціны. Але праца гэтых нацыянальных дзеячаў завяршалася поспехам тады, калі яны маглі карыстацца той ці іншай спрыяльнай кан'юнктурай у палітыцы вялікіх дзяржаў.

У XX ст. асноўным фактарам такой кан'юнктуры паслужыла Першая сусветная вайна. Але яна не ў роўнай ступені дапамагла ўсім нацыянальным рухам. Літоўскім палітыкам удалося стварыць уласную незалежную дзяржаву, а, напрыклад, украінскім палітыкам — не ўдалося, хоць сам украінскі нацыянальны рух быў куды мацнейшы за літоўскі і намнога больш украінцаў змагалася за незалежнасць, чым літоўцаў. Такім чынам, пасля Першай сусветнай вайны становішча нашых чатырох нацый аказалася вельмі розным. Рызыкну, аднак, зрабіць галоўнае абагульненне: і для літоўцаў, і для ўкраінцаў, і для беларусаў брак нацыянальнай суверэннасці быў

тыповай сітуацыяй у XX ст., гэтак жа, як і ў XIX ст. І тым не менш у канцы XX ст., нягледзячы на незлічоныя трагедыі, перажытыя гэтымі народамі, узровень нацыянальнай самасвядомасці ва ўсіх іх быў вышэйшы, чым у пачатку таго ж стагоддзя. Як гэта сталася? Хацеў бы яшчэ раз падкрэсліць ролю дзяржаўнага фактару — не абавязкова намераў дзяржавы, а вынікаў той ці іншай дзяржаўнай палітыкі.

Для поўнай яснасці растлумачу, што я не збіраюся прымяншаць велізарныя крыўды, нанесеныя беларусам ці ўкраінцам, — напрыклад, знішчэнне іх нацыянальных эліт савецкай уладай, галадамор на Украіне ў пачатку 1930-х г., высылкі ў ГУЛАГ, савецкі і нямецкі тэрор. Гэта вельмі важная тэма. Я якраз скончыў другую кнігу, прысвечаную самым розным знішчальным праявам савецкай і нямецкай палітыкі. У гэтай кнізе Беларусь адыгрывае цэнтральную ролю. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, ясна, што тагачасная дзяржаўная палітыка была нацыятворчай. Напрыклад, міжваенная Польшча падтрымлівала нацыянальную самасвядомасць украінцаў на Валыні. Чаму? Таму што хацела канкураваць з Савецкім Саюзам за ўплыў на ўкраінцаў. У 1920-я г. Савецкі Саюз спрабаваў скіраваць нацыянальную энергію на будаўніцтва камунізму. Праўда, гэта было не так проста. Вядома, федэратыўныя прынцыпы будовы Савецкага Саюза былі наскрозь фальшывая. Але менавіта гэтыя прынцыпы мелі доўгатэрміновыя вынікі. Узяць, напрыклад, сучасныя межы Рэспублікі Беларусь. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі тры разы ўзбуйнялася за кошт Расіі, а чацвёрты раз — за кошт Польшчы. Паступова Саветы пашырылі на захад і Савецкую Украіну. Без гэтай украінскай савецкай дзяржаўнасці цяжка ўявіць сабе сучасную Украіну. Праўда, як і ў XIX ст., гэтыя змены межаў не спрыялі беларусам у такой самай ступені, як іншым народам. Класічны прыклад, вядомы, пэўна, усім прысутным, — гэта літуанізацыя Вільні. Перад Другой сусветнай вайной Вільня была, як вядома, горадам польскім, а паводле свайго насельніцтва — польска-яўрэйскім. Тое,

што пасля вайны яна стала горадам літоўскім, азначала немагчымасць для яе стаць беларускай, хоць мы ведаем, што Сталін разглядаў і такі варыянт. Горад Мінск быў ушчэнт зруйнаваны пад час вайны і пазней стаў хутчэй звычайным савецкім горадам, а не асяродкам беларускага нацыянальнага жыцця, тым больш што сталінскі тэрор у 1937–1938 г. вынішчыў найлепшых прадстаўнікоў народа, а савецкія партызаны ў 1942–1944 г. забівалі мясцовых настаўнікаў за калабарацыю з немцамі. Таму беларусы ўскладалі свае спадзяванні на Вільню — горад, які яны ж некалі і запачаткавалі. Але гэтыя надзеі не здолелі рэалізавацца. Такое было рашэнне Сталіна. Але гэтае рашэнне было і рэакцыяй Сталіна на сілу канкрэтных нацыянальных рухаў. Беларускі рух быў слабейшы, а нацыянальнага партызанскага руху практычна не было. Таму патрэба кампрамісу з беларусамі была меншай, чым патрэба кампрамісу, напрыклад, з літоўцамі ці ўкраінцамі. У 1991 г. пытанне межаў было, можа, важнейшае за ўсе іншыя, бо гэтыя межы сталі міждзяржаўнымі. У гэты момант, момант распаду Савецкага Саюза, немалаважным было і тое, што Польшча, якая страціла так шмат тэрыторый на ўсходзе, тым не менш, адразу прызнала гэтыя межы. Такая замежная палітыка была, у прыватнасці, заслугай Ежы Гедройца, які быў, да слова, сынам гэтага горада. Такая пазіцыя Польшчы дапамагала літоўскім і ўкраінскім дзеячам скарыстаць гістарычную кан’юнктуру таго моманту.

Дык адкуль жа паходзяць нацыі? Усе яны новыя, і сярод іх можна вылучыць толькі новыя ды яшчэ навейшыя. Усе яны маюць свае карані ў гісторыі імперый, але не заўсёды ў ролі паўстанцаў або ахвяр. Усе народы ўзнікаюць разам, у канкурэнцыі за лаяльнасць мас і ў супольным бунце супраць супольнай гісторыі. Яны ўзнікаюць разам, і ніколі яшчэ ніякая нацыя не нараджалася сама па сабе.

Вялікі дзякуй.

*Пераклаў з польскай Сяргей Петрыкевіч*

# Расійскі царызм і шляхта Беларусі (1795–1863)

## Праверка на „высакароднасць”

**Галіна Тумiловiч**

Ключавым момантам у праблемным полі *вышэйшая ўлада і прывілеяванае саслоўе* на беларускіх землях (што справядліва таксама для Літвы і Правабярэжнай Украіны)[1] з'яўляюцца адносіны царызму да дробнай шляхты, якая складала тут пераважную большасць згаданага стану (на канец XVIII ст. каля 95%)[2]. Гэтая палітыка ўвасобілася ў так званым разборы шляхты. Відавочнасць гэтай высновы прызнаецца айчыннымі гісторыкамі. Разам з тым, у спецыяльных даследаваннях да нядаўняга часу дадзеная праблематыка ў беларускай гістарычнай літаратуры была прадстаўлена літаральна лічанымі працамі. Апошняе тычыцца адлюстравання як праблемы „разбору” шляхты, так і ў цэлым праблемы палітыкі Расійскай дзяржавы ў дачыненні да ўсяго дваранскага саслоўя ў названы перыяд[3].

1 У цэлым значэнне дадзенай праблематыкі для раскрыцця спецыфікі дваранства заходніх земляў Расійскай імперыі пераканальна паказаў вядомы французскі гісторык Д. Бавуа.

2 Мыльников А. С., Якубовский В. А. Процесс разложения дворянства и его социальные последствия // Социальная структура общества в XIX в.: страны Центральной и Юго-Восточной Европы. Москва, 1982. С. 59–60.

3 Спецыяльныя даследаванні належаць, у першую чаргу, аўтару дадзенага артыкула, а таксама С. Л. Лугаўцовай. Асобныя аспекты адлюстраваны ў працы М. М. Улашчыка, дзе дваранства разглядаецца праз прызму аграрнай праблематыкі, а таксама ў працы С. М. Самбук, дзе асвятляюцца пытанні палітыкі царызму ў Беларусі ў 2-й палове

Разам з тым беларускія даследчыкі прызнаюць, што гэтая палітыка не была адназначнай і просталінейнай. Прынята вылучаць два асноўныя этапы ў „разборы” шляхты: да і пасля 1830–1831 г. Прычым сам тэрмін „разбор” сустракаецца ў большасці выпадкаў у дачыненні да другога этапу правядзення мерапрыемстваў, накіраваных на праверку правоў шляхты на прыналежнасць да вышэйшага саслоўя. У дакументах жа выраз „разбор шляхты” выкарыстоўваецца ўжо з канца XVIII ст.[4].

Царызм сутыкнуўся са шматлікай і рознай па маёмасным стане вялікай колькасцю вышэйшага саслоўя[5] — шляхтай, якая жыла на тэрыторыі Беларусі.

Аднак з юрыдычнага пункту погляду ўсе члены дваранскага саслоўя былі раўнапраўныя, таму фактычна першыя расійскія законапалажэнні распаўсюджваліся

XIX ст. У сувязі з гэтым заслугоўвае вялікай увагі першая ў гістарыяграфіі праца (аўтар — польская даследчыца І. Сікорска-Кулеша), цалкам прысвечаная працэсу выключэння дробнай шляхты з прывілеяванага саслоўя. Асабліва трэба адзначыць працы І. Рыхлікавай, дзе аўтар, на нашу думку, слушна паказвае працэс дэкласацыі дробнай шляхты ў перыяд паміж паўстаннямі (1931–1983) як фрагмент доўгага працэсу дэградацыі дробнай шляхты, што адбываўся з часоў першага падзелу Рэчы Паспалітай.

4 Российский государственный исторический архив (Санкт-Петербург; далей РГИА), ф. 1342, оп. 1, д. 346а, б; ф. 1347, оп. 64(1), д. 497.

5 Наконт колькасці шляхты ў беларускай гістарычнай літаратуры застаецца агульнапрынятым падыход Т. Корзана і І. А. Нікоціна. Згодна з ім колькасць яе па розных паветах складала 10–12% ад колькасці ўсяго насельніцтва (гл.: Грыцкевіч А. Беларуская шляхта // Спадчына. 1993. № 1. С. 13–14). Польскія даследчыкі ў апошнія дзесяцігоддзі называюць іншыя, больш нізкія паказчыкі колькасці шляхты — каля 7% насельніцтва; (Rychlikowa I. Carat wobec polskiej szlachty na ziemiach zabranych w latach 1772–1831 // KH. 1991. Z. 3. S. 51–83; Rostworowski E. ilu byĺo w Rzecrypospolity obywateli szlachty // KH. 1987. Z. 3. S. 3–40). Апошняя лічба падаецца нам праўдападобнай. Але паколькі ў вядомых нам працах гутарка ідзе пра „польскую шляхту”, хацелася б удакладніць, ці ўлічвалася пры падліку шляхта, якая засталася праваслаўнай, што жыла вакол Слуцка, Магілёва, Давыд-Гарадка, Пінска.

на саслоўе ў цэлым. Адзіным абмежаваннем у гэты перыяд было пазбаўленне права прапінацыі (свабоды вінакурэння) для ваколічнай шляхты.

Указы ад 13 красавіка 1793 г.[6], 3 траўня і 14 снежня 1795 г.[7], 9 красавіка 1800 г.[8] пацвярджалі, што ўсе палажэнні „Дараванай дваранству граматы" (1785) пра розныя роды дваранскага саслоўя, а таксама пра спосабы яго набыцця і яго доказы распаўсюджваюцца ў роўнай ступені і на заходнія губерні.

Разам з тым ужо на дадзеным этапе ўлады пачалі рабіць крокі па „ўпарадкаванні" саслоўя на месцах. Так, яшчэ згодна з дакладной запіскай першага для беларускіх земляў генерал-губернатара З. Г. Чарнышова ад 13 верасня 1772 г. шляхта ўсходняй Беларусі павінна была падаць у губернскія канцылярыі спісы і дакументы, якія пацвярджалі б дваранства[9].

Такім чынам, беларускі шляхціч прызнаваўся расійскім дваранінам пры наяўнасці дакумента, які пацвярджаў шляхецтва. Іншымі словамі, без санкцыі расійскіх улад ніхто не меў права лічыць сябе дваранінам.

У адным з пунктаў указа ад 3 траўня 1795 г. было патрабаванне аб прад'яўленні доказаў дваранам, „которые временно имеют владение по надаче, закладах и арендах, равномерно как и всем по договорам на землях помещичьих или казенных живущих"[10].

Менавіта гэты ўказ стаў асновай для пастановы Сената ад 17 жніўня 1800 г., па якой для шляхты Кіеўскай, Мінскай, Валынскай, Падольскай, Беларускай, Літоўскай і Курляндскай губерняў у колькасці 218 025 асоб мужчынскага полу быў прызначаны для „отыскания на дво-

6 Полное собрание законов Российской империи (далей ПСЗ). Т. IX. № 17112.
7 ПСЗ. Т. IX. № 17327, № 17418.
8 Тамсама. № 19375.
9 Тамсама. № 13865.
10 ПСЗ. Т. IX. № 17327. РГИА, ф. 1347, оп. 64(1), д. 497, л. 7–8об. Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II. Вильно, 1903. С. 43.

рянство" двухгадовы тэрмін з 1 студзеня 1801 г.[11]. Быў вызначаны і парадак падачы шляхцічамі сваіх дакументаў: папярэдне яны зацвярджаліся дваранскімі дэпутацкімі сходамі, потым — для прыняцця канчатковага рашэння — прыходзілі ў Герольдыю. Яшчэ раней, паводле ўсё таго ж указа ад 3 траўня 1795 г., губернскім маршалкам (предводителям) дваранства даручалася пачаць разам з дэпутатамі дваранскіх сходаў разбор доказаў і складанне на месцах у двухгадовы тэрмін дваранскай радаводнай кнігі. Для беларускіх губерняў гэтае распараджэнне прыйшло ад генерал-губернатара Т. І. Туталміна 31 кастрычніка 1795 г.[12].

Адзначым, што ўказ ад 3 траўня 1795 г. заставаўся галоўным у справе „разбору" на працягу ўсяго першага дзесяцігоддзя XIX ст.

Ці прасочваецца ўжо на гэтым, пачатковым, этапе палітыкі, накіраванай на „упорядочение" шляхты, імкненне да скарачэння яе колькасці? Безумоўна, так. Само патрабаванне на пацвярджэнне доказаў сведчыць пра гэта. Многія шляхцічы або не мелі дакументаў, якія пацвярджалі іх паходжанне, або з-за беднасці часта не мелі сродкаў, каб адшукаць дакументы ў архівах. Не заўсёды яны мелі нават пярсцёнак з фамільным (родавым) гербам, пра які Д. Бавуа гаворыць як пра часта адзінае сведчанне ўшанавання іх продкаў[13]. Адзначым, што зваротным бокам працэсу „отыскания дворянских прав" было наладжванне выпуску фальшывых дакументаў. Не маючы дакументальных крыніц для таго, каб меркаваць пра сацыяльную прыналежнасць уладальнікаў фальшывых пасведчанняў аб дваранстве, можна дапусціць, што сярод іх былі прадстаўнікі розных груп насельніцтва, якія валодалі неабходнымі грашовымі сродкамі для набыцця такіх дакументаў.

11 РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346а, л. 30–32.
12 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (Мінск; далей НАРБ), ф. 320, воп. 1, спр. 1, арк. 28.
13 Beauvois D. Polacy na Ukrainie. Szlachta Polska na Wołyniu, Podolu I Kijowszczyżnie. 1831–1863. Paryż, 1987. S. 91.

Пра імкненне да скарачэння саслоўя сведчыць і ўказ Кацярыны II аб перасяленні чыншавай шляхты на дзяржаўныя землі Таўрычаскай і Кацярынаслаўскай губерняў (у Крым і на Паўночны Каўказ)[14]. Ён не быў выкананы толькі з-за негатыўнага стаўлення да гэтай акцыі пераемніка Кацярыны II — імператара Паўла I, які адмяніў яго дзеянне ў 1797, наступным пасля прыняцця, годзе[15].

Але самае красамоўнае сведчанне імкнення да змяншэння колькасці шляхты, як і самы відавочны вынік правядзення такой палітыкі, — дадзеныя пра колькасць саслоўя за 1796 г.

Па нашых падліках, у выніку V (першай для гэтых тэрыторый) рэвізіі колькасць шляхты ў Беларусі склала 68 775 асоб мужчынскага полу[16]. Супаставіўшы атрыманыя дадзеныя з колькасцю ўсяго насельніцтва беларускіх губерняў, убачым, што ўдзельная вага шляхты складала толькі 5%.

Безумоўна, тут ідзе гаворка пра яўны недаўлік вышэйшага саслоўя. На наш погляд, у аснове гэтага ля-

[14] Жукович П. Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II // Журнал министерства народного просвещения (далей ЖМНП). 1915. № 5. С. 132–133.

[15] ПСЗ. Т. XXIV. № 17 872.

[16] Пры падліку ўлічвалася колькасць толькі па беларускіх паветах. У гэты лік не ўвайшлі татары, „не состоящие в окладе". Разам з імі колькасць складае блізу 71 тыс. асоб мужчынскага полу. У гэтым артыкуле не разглядаецца праблема прыналежнасці татараў да шляхецкага саслоўя, таму звяртаем увагу чытачоў на працу: Rychlikowa I. Tatarzy litewscy 1764–1831 częścią szlacheckiego stanu? // KH. 1991. № 3–4. S. 77–122. Зыходныя лічбы мы ўзялі з акладной кнігі за 1796 г., удакладнілі іх па акладной кнізе за 1808 г. (Акладныя кнігі складаліся штогод па матэрыялах рэвізіі.) Безумоўна, атрыманыя колькасныя дадзеныя мы не лічым зусім дакладнымі, бо недакладнасць у такіх падліках вынікае з недакладнасцяў у саміх крыніцах. Але зварот да звестак самой рэвізіі ўсё ж дазваляе знізіць ступень недакладнасці пры падліку (Тумилович Г. Н. Дворянство Белоруссии в конце XVIII — первой половине XIX в. Минск, 1995. С. 88–93).

жыць, апрача патрабавання на падачу дакументаў, такі аспект, як нежаданне шляхты быць палічанай і імкненне пазбегнуць рэвізіі. Вядома, што па гэтай рэвізіі дваран, якія мелі прыгонных, увогуле не лічылі[17]. Дробная шляхта ў сувязі з гэтым баялася, што ўсе падлічаныя павінны будуць плаціць падаткі, г. зн. будуць упісаны ў падатковыя саслоўі. Такія засцярогі падтрымліваў і характар некаторых указаў, якія спараджалі чуткі пра абкладанні падаткамі „чиншевой, околичной и другой шляхты"[18]. Пэўную негатыўную ролю ў падліку колькасці шляхцічаў выконвала і неадпрацаваная сістэма ўліку. Прычым апошні фактар нельга не браць пад увагу, калі размова ідзе, у прыватнасці, пра Беларусь, дзе шляхта сотнямі знікала з якога-небудзь павета, а потым узнікала ў іншым.

Выразны недаўлік колькасці дваранскага саслоўя за кошт дробнай шляхты — так быў пазначаны пачатак „разбирательства с дворянством" у „приобретенных от Польши" (як яны тады называліся) губернях.

Але сам „разбор" не вызначаўся ні хуткасцю, ні энергічнасцю мерапрыемстваў.

Паводле пастановы 17 жніўня 1800 г. указ выйшаў 25 верасня[19], потым на працягу месяца ішлі рапарты з месцаў пра яго атрыманне[20], услед за імі — прашэнні аб прадаўжэнні тэрміну на падачу доказаў[21]. У адказ выйшаў указ, які вызначаў новы тэрмін — да 1 студзеня 1804 г.[22]. Гэты ж указ абавязваў падаць у Сенат звесткі пра колькасць доказаў, якія прыйшлі ў дваранскія сходы за двухгадовы тэрмін.

[17] РГИА, ф. 571, оп. 9, д. 1860. Переписи населения России: Итоговые материалы подворных переписей и ревизий населения России (1648–1858). Вып. VI. Док. 1. Москва, 1972. С. 14–16, 98–99, 105–108. Тамсама. Вып. VII. Док. 2. С. 115–117, 127–130, 133–137, 171–172.

[18] РГИА, ф. 1347, оп. 64(1), д. 299, л. 299, л. 34–36, 43–45, 52, 79.

[19] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346а, л. 41.

[20] Тамсама, л. 24–44.

[21] Тамсама, л. 67, 68, 71, 74.

[22] Тамсама, л. 64–65.

Найбольш падрабязныя звесткі былі атрыманыя з Мінскай і Віцебскай губерняў. Так, па Віцебскай губерні за 1801–1802 г. у дваранскую камісію на разгляд прыйшло: а) сярод тых, што валодаюць уласнай зямлёй без сялян — 45 заяў; б) тых, што трымаюць зямлю на арэндзе, закладзе, не маюць нерухомай маёмасці — 258; в) тых, што знаходзяцца ў пагалоўным акладзе (г. зн. плацяць падатак з душы), але даказваюць сваё шляхецтва — 125. Усяго — 428, з якіх „решено" было толькі 64, астатнія 364 засталіся без разгляду[23].

Па Мінскай губерні былі атрыманыя звесткі толькі ў дачыненні да чыншавай шляхты, але яны адлюстроўваюць даволі хуткі тэмп праверкі іх дакументаў: з пададзеных 1997 прозвішчаў у дваранстве было прызнана 1241, прызнаны недастатковымі доказы 393 прозвішчаў, зусім не разгледжанымі засталіся доказы 225 прозвішчаў[24].

З астатніх губерняў (Магілёўскай, Віленскай і Гродзенскай) звестак увогуле не было. Адначасова з Віленскай і Гродзенскай губерняў у гэты перыяд ішло шмат скаргаў на злоўжыванні службовых асоб. Так, з данясенняў афіцыйных асоб і асобных шляхцічаў вынікала, што сакратар камісіі па разглядзе спраў пра шляхецтва Тадэвуш Кукевіч „по своему усмотрению выдавал свидетельства", потым жа, „забрав книги о выводящихся в дворянство", выехаў у Санкт-Пецярбург[25], а віленскі губернскі маршалак дваранства Бржастоўскі „не только не выполнял возложенных на него обязанностей, но и укрывал у себя дела, касающиеся чиншевой шляхты Гродненской губернии"[26]. Дзеянне камісіі, што займалася ў гэтых губернях разборам дакументаў на шляхецтва, было прыпынена распараджэннем ад 20 лістапада 1803 г.[27]. Па справе Кукевіча Галоўны суд вынес рашэнне

[23] РГИА, ф. 1341, оп. 7, д. 430, л. 165–166.
[24] Тамсама, л. 170.
[25] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 438, л. 31.
[26] Тамсама.
[27] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346а, л. 199.

„разобраться на месте", дзе праблема, аднак, не вырашалася „из-за недостаточности улик"[28].

Варта адзначыць, што ў цэлым для першага перыяду „разбору" (да 30-х г. XIX ст.) была характэрна, побач з марудным ходам разбіральніцтва, няўзгодненасць у дзеяннях цэнтральнай і мясцовых улад, што ўзмацнялася злоўжываннямі чыноўнікаў на месцах. Урад не прымаў якіх-небудзь мераў па нармалізацыі працэсу праверкі дакументаў і пакаранні вінаватых службовых асоб. Магчыма, што часам гэта было выгадна ўраду, але не выключана, што працэс быў пушчаны на самацёк. Інакш чым растлумачыць тую відавочную маруднасць, з якой ён адбываўся?

Адзінае, што рабілі ўлады — працягвалі тэрмін разгляду доказаў „бывшей шляхты" на дваранства.

Як вынікае з рапартаў мінскага і віленскага губернатараў, 28 ліпеня 1804 г. тэрмін падачы дакументаў быў прадоўжаны да 1 студзеня 1806 г.[29]. Фармальнай асновай для гэтага стаў довад, які часта сустракаўся ў данясеннях з месцаў: „местонахождение оных [г. зн. дакументаў] за границей"[30]. Адначасова патрабавалася падаць звесткі пра тых, чые дакументы знаходзяцца „в заграничных местах". Такія звесткі прыйшлі толькі з Віцебскай і Магілёўскай губерняў. Здзіўляюць лічбавыя паказчыкі: па Віцебскай губерні называюцца толькі 4 прозвішчы — Барташэўскія, Гінкі, Глінкі і Талкоўскія[31]; у магілёўскім дваранскім сходзе ўвогуле не знайшлося ніводнай справы пра шляхцічаў, чые дакументы знаходзяцца „в заграничных местах"[32]. Хаця гэтыя лічбы не выклікаюць вялікіх сумненняў (якія там „заграничные места" для дробнай шляхты ўсходняй Беларусі, якая з 1772 г. адышла да Расіі?). Кур'ёз у тым, што гэты довад стаў падставай для ўказа. З трох астатніх губерняў ніякіх канкрэтных лічбаў не атрымалі.

[28] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 438, л. 40–42.
[29] Тамсама, д. 346а, л. 135–137.
[30] Тамсама, л. 144, 148, 157.
[31] Тамсама, л. 154, 157–158.
[32] Тамсама, л. 140.

У справах канца XVIII — пачатку XIX ст. сярод прычын маруднасці разгляду дакументаў на шляхецтва, апрача згаданых — „недобросовестное отношение должностных лиц” і „нахождение оных за границей” — называюцца таксама „трудности предшествующего периода — внутренние мятежи, пожары и т. п.”[33].

Намнога радзей сустракаюцца спасылкі на беднасць шляхты, многія прадстаўнікі якой проста не маглі несці высокія грашовыя выдаткі, звязаныя з праверкай[34]. Некаторыя шляхцічы не маглі нават заплаціць за гербавую паперу, на якой неабходна было падаваць „переводы с документов”[35].

Але менавіта гэтая прычына — беднасць шляхты — да 1808 г. трапіла ў поле зроку ўлад. Гэта адлюстравалася ва ўказе ад 6 сакавіка, па якім шляхта вызвалялася ад гербавага збору. У ім агаворвалася таксама, што шляхцічы, якія даказваюць сваё паходжанне, не павінны плаціць падаткі (але дзеянне апошняга пункта не распаўсюджвалася на чыншавую шляхту Віцебскай і Магілёўскай губерняў. — *Г. Т.*). Гэтым жа ўказам тэрмін на падачу дакументаў на шляхецтва (папярэдні заканчваўся 1 студзеня 1808 г.) працягваўся на няпэўны час — „до дальнейшего впредь распоряжения”[36]. Іншымі словамі, разбор шляхты надоўга адкладваўся.

Што ж было зроблена ў справе „разбору” на працягу наступных больш чым 20 гадоў — да пачатку 30-х г. XIX ст.?

На гэтым этапе рабіліся некаторыя спробы актывізаваць працэс разгляду правоў шляхты ў заходніх губернях. На наш погляд, да гэтага падштурхнулі вынікі VI рэвізіі (1811 г.), паводле якіх ва ўсіх губернях налічвалася каля 200 тыс. шляхцічаў (без уліку іх сем’яў)[37], на беларускіх землях — каля 80 тыс.[38]. Такім чынам, коль-

33 РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346а, б.
34 РГИА, ф. 1347, оп. 62(2), д. 302, л. 11.
35 НАРБ, в. 319, воп. 1, спр. 3, арк. 111–113. РГИА, ф. 1218, оп. 4, д. 67, л. 86.
36 ПСЗ. Т. XXX. № 22873.
37 РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 4–7.
38 Лютый А. М. Социально-экономическое развитие Белоруссии

касць беларускай шляхты тут не зменшылася, але — або засталася на тым самым узроўні, або нават павялічылася[39].

Безумоўна, такая канстатацыя не магла не выклікаць калі не хваляванне, то незадавальненне расійскіх улад. У гэты час рэзкай перамены ў самой палітыцы царызму не назіралася, але рабіліся спробы зрабіць больш жорсткімі ўмовы „разбору”. Услед за вынікамі VI рэвізіі выйшлі законапалажэнні ад 29 сакавіка 1812 г. (аб прызнанні шляхецтва толькі за тымі, чые продкі „были утверждены в этом звании”[40]) і ад 4 лютага 1813 г. (аб прызнанні ў якасці неаспрэчных, неабвержных доказаў толькі тых, якія змяшчаліся ў 92-м артыкуле „Дараванай дваранству граматы”[41]). У сувязі з гэтым цікавасць выклікае адзін момант. Так, сярод пералічаных у „Дараванай грамаце” ў 13 пунктах доказаў фігуруе і такі, як „свидетельство со стороны 12 несомненных дворян о действительно благородном происхождении семьи доказывающего свое шляхетство”[42]. Але ў адным рапарце з Магілёўскай губерні, які адносіцца да 1805 г., чытаем: „...фамилии многих шляхтичей подтверждаются только свидетельством 12 дворян, что было предписано Сенатом, как недостаточное доказательство, принимаемое в

во второй половине XVIII — первой половине XIX в. Минск, 1990. С. 296.

39 Прыгадаем афіцыйныя дадзеныя, якія адносяцца да канца XVIII — пачатку XIX ст.: 218 025 асоб мужчынскага полу па ўсіх заходніх губернях. Па нашых дадзеных, па беларускіх паветах за той жа перыяд было ўлічана 68 775 шляхцічаў (без уліку сем’яў). І хоць, безумоўна, лічбу каля 80 000 шляхцічаў мы не адносім на рахунак рэальнага прыросту, а лічым толькі папраўкай да ўліку за кошт тых, хто быў прапушчаны пры V рэвізіі, аднак лічбавыя паказчыкі колькасці шляхты не зніжаліся. (Параўнанне паказчыкаў за 1795 і 1811 г. дае падставу некаторым даследчыкам гаварыць нават пра рост колькасці шляхты. Але з улікам вышэйсказанага мы лічым такую выснову памылковай. — *Г. Т.*)

40 ПСЗ. Т. XXXII. № 25064.

41 РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 464.

42 Дворянская империя XVIII века. Сборник документов. Москва, 1960. С. 164–165.

расчет лишь в подкрепление других доказательств”[43]. Тое, што для „сынов Отечества” прызнаецца як неаспрэчны доказ, для шляхціча з „приобретенных от Польши” губерняў расійскаму ўраду бачыцца недастатковым! Забягаючы наперад, адзначым, што рашэннем Сената ад 24 траўня 1818 г. прызнавалася несапраўдным прызнанне ў дваранстве толькі па адных метрычных пасведчаннях[44]. Т. Корзан і М. Бярнацкая звязваюць гэтае распараджэнне з наступным значным змяншэннем колькасці шляхецкага саслоўя ва ўсіх заходніх губернях. Папярэдняе значнае скарачэнне колькасці шляхты Т. Корзан адносіць якраз да перыяду з 1811 да 1816 г.[45].

У тэкстах названых указаў за 1812 і 1813 г. былі абвешчаны і катэгорыі асоб, якія без усялякіх падстаў „выдавали себя за шляхтичей”. Сярод іх былі, у прыватнасці, названыя: „мещане Литовской губернии (маецца на ўвазе Літоўскае генерал-губернатарства, г. зн. Віленская, Гродзенская і Мінская губерні. — *Г. Т.*), владеющие польским языком и подобно шляхте называющиеся”, „выходцы галицийские и княжества Варшавского и разные иностранцы”, „дворовые из крестьян, бывшие в услугах при господских домах и приучившиеся к польскому языку” і інш.[46].

Калі мы гаворым пра актывізацыю працэсу „разбору” шляхты пасля 1811 г. і бачым у гэтым непасрэдную рэакцыю расійскага самаўладдзя на „неутешительную” карціну колькасці саслоўя, то не можам не закрануць прычын правядзення такой палітыкі ў цэлым.

Даследчыкі па-рознаму вызначаюць гэтыя прычыны. Так, І. Сікорска-Кулеша звязвае „разбор” з палітычнай пазіцыяй шляхты, якая ўяўлялася як пагроза пастаяннага бунту. У аснове ўрадавага курсу аўтар бачыць,

[43] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346а, л. 140, д. 346б, л. 464.
[44] Тамсама, д. 346б, л. 466–470.
[45] Korzon T. Wewnętrzne dzieje Polski w latach 1764–1794. T. I. Warszawa, 1897. S. 130–135. Biernacka M. Wsie drobnoszlacheckie na Mazowszu i Podlasiu. Wrocław, 1966. S. 98.
[46] Гл.: ПСЗ. Т. XXXII. № 25064; РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 464.

такім чынам, імкненне спыніць „бунт” і паслабіць польскі ўплыў у рэгіёне[47]. Д. Бавуа зыходзіць з таго, што ў сацыяльнай структуры расійскага грамадства, якое прызнавала падзел толькі на сялян, дваран і мяшчан, „дробная шляхта была анамаліяй”, яе грамадскі статус у Расіі выглядаў „анахранізмам”[48]. Іншымі словамі, улады праводзілі тым самым палітыку сацыяльнай асіміляцыі. Не адмаўляе даследчык і пэўнай ролі фінансавых меркаванняў царызму: павелічэнне падаткаплацельшчыкаў у краіне за кошт пераводу дробнай шляхты ў падатковае саслоўе. Праўда, Д. Бавуа, калі гаворыць пра ўзмацненне жорсткасці ўрадавага курсу з 1831 г., лічыць, што не фінансы зрабіліся галоўнай прычынай акцыі. Параўнаць шляхціча з селянінам азначала б цалкам разбурыць, знішчыць культуру шляхты, яе tożsamość[49]. Менавіта такую мэту і паставіў перад сабой царызм.

Беларускі даследчык М. М. Улашчык падышоў да выяўлення прычын правядзення афіцыйнага курсу „разбору” шляхты, разглядаючы два аспекты: фіскальныя меркаванні ўлад і палітычныя матывы[50].

Безумоўна, што ні афіцыйныя ўлады, ні расійская грамадскасць не былі гатовыя бачыць у складзе расійскага дваранства ўсю тую шматлікую дробную шляхту, якую пазней імператар Мікалай I назаве „сбродом людей, который шатается без дела или находится в услужении”[51].

Не выклікае сумнення, што пры выяўленні прычын правядзення „разбору” шляхты варта ўлічваць усе адзначаныя аспекты. Але на розных этапах правядзення палітыкі, накіраванай на выключэнне дробнай шляхты

47 Sikorska-Kulesza I. Deklasacja drobnej szlachty na Litwie i Białorusi w XIX w. Warszawa, 1995.

48 Beauvois D. Op. cit. S. 92, 101.

49 Тамсама. S. 101, 102.

50 Улащик Н. Н. Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. Москва, 1975. С. 44.

51 Середонин С. М. Исторический обзор деятельности Комитета министров. Т. 2. Ч. 1. С.-Петербург, 1902. С. 63.

са складу саслоўя, яны выяўляліся не ў аднолькавай ступені.

Пры Кацярыне II (да 1796 г.) на першы план выходзілі, хутчэй, меркаванні фінансавага плана. Ва ўмовах, калі ў Расіі не толькі захоўвалася прыгонніцтва, але і назіралася імкненне да яго пашырэння, калі нават не ставілася пытанне пра рэформы, павелічэнне колькасці дробнай маламаёмаснай шляхты было „несогласно с общей пользой”[52]. Чыста палітычныя матывы тады наўрад ці праяўляліся, бо няма падстаў гаварыць пра апазіцыйнасць дробнай шляхты да ўлады ў тыя гады. Хоць, магчыма, гэтага ад яе і чакалі. Таксама няма падстаў гаварыць і пра рэакцыю царызму ў адказ на гэтую апазіцыйнасць.

Як відаць з перапіскі генерал-губернатара З. Чарнышова з грамадзянскім губернатарам М. Крачэтнікавым, у перыяд першага падзелу Рэчы Паспалітай улады турбаваліся за пазіцыі шматлікага дваранства краю[53]. Але першапачаткова ніякага палітычнага руху, варожага Расіі, на тэрыторыі гэтых губерняў не назіралася. Фактычна, за выключэннем некалькіх магнатаў, што займалі высокія дзяржаўныя пасады, і некаторых іншых прадстаўнікоў арыстакратычных родаў — сярод іх двое князёў Радзівілаў — віленскі ваявода і рэчыцкі староста, літоўскі гетман граф Міхал Агінскі, канцлер князь Міхал Чартарыйскі, князі Любецкія, граф Пац і генерал Мнішак — на вернасць Кацярыне II прысягнулі ўсе![54]

Меры, ужытыя супраць удзельнікаў паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі, таксама не даюць падстаў меркаваць пра варожасць расійскіх улад у дачыненні да дробнай шляхты[55].

[52] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 482.

[53] Жукович П. Н. Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II // ЖМНП. 1914. № 2, отд. 2. С. 265–268.

[54] Тамсама.

[55] Царскі ўрад у гэтым выпадку ў пэўнай меры закрануў інтарэсы памеснага дваранства. Канчаткова канфіскаванымі апынуліся маёнткі 25 землеўладальнікаў, да якіх

Такім чынам, з боку шляхты не было сур’ёзных праблем з прыняццем прысягі на вернасць расійскаму трону. Потым, у адпаведнасці з патрабаваннямі, шляхцічы пачалі доўгае, для многіх — на дзесяцігоддзі, „отыскание своих дворянских прав”. Дзіўна, але нават у канцы XIX ст. (!) сустракаецца афіцыйны тэрмін „недоказанный дворянин”. Такі статус меў, у прыватнасці, Дамінік Луцэвіч, бацька вядомага беларускага паэта Янкі Купалы (І. Д. Луцэвіча)[56].

Што ж да імкнення паслабіць „польский дух” краю, то нельга сцвярджаць, што ўжо на гэтым этапе праводзілася мэтанакіраваная і жорсткая палітыка „обрусения”. Хоць, безумоўна, нельга адмаўляць і прарасійскую накіраванасць палітыкі Кацярыны II, якая адразу ж паставіла пытанне пра новы край як пра расійскі. Пра такое яе стаўленне красамоўна сведчыць надпіс на медалях „Отторженная возвратить”[57].

Гаворачы ў цэлым аб прарасійскай накіраванасці палітыкі царызму ў Беларусі, варта памятаць, што, нягледзячы на асобы імператараў, якія змянялі адзін аднаго, і на змяненне афіцыйнага погляду на Беларусь то як на землі „приобретенные”, то як на „присоединенные”, то, нарэшце, як на „возвращенные от Польши”, ёсць адна асаблівасць, што аб’ядноўвае ўсіх прадстаўнікоў вярхоўнай улады — адчуванне свайго законнага панавання над названай тэрыторыяй. Хоць гэтая асаблівасць зусім не азначае, што барацьба з „духом края” заўсёды мела аднолькава яскравае праяўленне.

Першае дзесяцігоддзе XIX ст. не дазваляе меркаваць пра якія-небудзь прынцыповыя змены ў пазіцыі ўлад у дачыненні да дробнай шляхты. Актывізацыя дзеянняў

належалі 26 742 асобы мужчынскага полу. Гэта склала менш за чвэрць ад усіх канфіскаваных маёнткаў (Жукович П. Н. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II // ЖМНП. 1914. № 1, отд. 2. С. 138).

56 Грицкевич А. П. Указ. соч. С. 14.

57 Коялович М. О. Чтения по истории Западной России. С.-Петербург, 1884. С. 15–16.

царызму пачала праяўляцца пасля 1811 г., пасля атрымання зноў „неутешительных” дадзеных па колькасці шляхты ў заходніх губернях.

Але тут варта ўлічваць і ўплыў падзей вайны 1812 г. Царскі ўрад не забыўся пра гэтыя падзеі на тэрыторыі Беларусі і Літвы (прыгадаем хоць бы спробу аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага!). Пасля ўсіх амністый і вяртання канфіскаваных земляў жыхарам гэтых губерняў — удзельнікам вайны супраць Расіі (канчатковы тэкст пра ўсеагульную і безумоўную амністыю быў апублікаваны ў жніўні 1814 г.[58]) — у палітыцы Аляксандра I у цэлым назіраецца перамена ў дачыненні да гэтых тэрыторый.

Пэўным чынам на гэта паўплываў і настрой расійскага грамадства. У лісце ад 13 студзеня 1813 г. да князя Адама Чартарыйскага Аляксандр I пісаў: „...не забывайте, что Литва, Подолия и Волынь рассматриваются как русские провинции, и никакая в мире логика не сможет убедить Россию видеть их под господством другого суверена...”[59]. З іншага боку, жыхары літоўскіх і беларускіх губерняў пасля вайны падпалі пад уціск з боку месных кіраўнікоў. Князь Адам Чартарыйскі, у сваю чаргу, паведамляў пра гэта расійскаму імператару: „...губернатар і ўсе прадстаўнікі ўлады лічаць, што яны прызначаны для таго, каб мучыць і прыніжаць жыхароў, ладзіць для іх пасткі... Ніхто не можа сказаць, што ён адчувае сябе ўпэўненым за сваю маёмасць, за сваё жыццё, за свой гонар...”[60].

Такі настрой сярод расійскага грамадства і афіцыйных улад ужо сведчыў пра імкненне змагацца з „духом” краю і закладваў пачатак той адназначна рэакцыйнай палітыкі ў дачыненні да дробнай шляхты Беларусі, якая выраз-

[58] ПСЗ. Т. XXVII. № 25667. Антонаў В. В. Айчынная вайна 1812 г. / Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1993. Т. 1. С. 74–77. Кудряшов И. Призрак Великой Литвы // Родина. 1992. № 6–7. С. 32–35.

[59] Alexandre I-er et le prince Czartoryski. Correspondance particulière et conversations. 1801–1882. Paris, 1865. P. 208.

[60] Тамсама. P. 227–228.

на выявілася ў гады кіравання наступнага расійскага цара — Мікалая I.

Невыпадкова ўказам ад 20 студзеня 1816 г. урад зноў зрабіў больш жорсткімі ўмовы „разбору”. Праўда, канчатковы тэрмін падачы дакументаў на шляхецтва не пераглядаўся. Застаўся правамоцным указ ад 6 сакавіка 1808 г., які вызначаў, як мы памятаем, няпэўны тэрмін на „отыскание” дваранскіх правоў. Паводле ўказа ад 20 студзеня 1816 г. шляхцічы **ўсіх** заходніх губерняў да дастатковага доказу свайго „благородства” падлягалі падаткаабкладанню; да канчатковай праверкі дакументаў яны не мелі права пераходзіць з месца на месца. „Разбор” шляхты ўскладаўся на камісіі, якія ствараліся для прыёму рэвізскіх дадзеных (г. зн. дадзеных пра колькасць), прычым іх трэба было параўноўваць са звесткамі па V рэвізіі і ўносіць у лік шляхты толькі тых, хто яшчэ ў 1795 г. быў запісаны ў складзе саслоўя[61].

Названы ўказ заставаўся галоўным у справе „разбору” шляхты аж да 30-х г. Якраз год выхаду гэтага ўказа — 1816 — I. Сікорска-Кулеша лічыць пачаткам працэсу дэкласацыі дробнай шляхты[62]. Згодна з падлікамі даследчыцы, у 1816 г. Сенат адхіліў амаль 1/3 усіх прашэнняў на пацверджанне дваранства, пададзеных з беларускіх і літоўскіх губерняў (33 958 з 95 011 у абсалютных ліках)[63]. Лічбы сапраўды ўражваюць, калі згадаць, што паводле дадзеных Т. Карзона за цэлае дваццацігоддзе (1810–1830) колькасць шляхты ва ўсіх заходніх губернях зменшылася на 60 000 чалавек[64].

Дадзеныя, якія прыводзіць I. Сікорска-Кулеша за 1816 г., — прамое следства дзеяння законаў апошніх гадоў (29 сакавіка 1812 г., 4 лютага 1813 г., 20 студзеня 1816 г.), яны сведчаць пра імкненне царызму актывізаваць палітыку ў дачыненні да дробнай шляхты. Але заканадаўчыя меры і пастаянныя патрабаванні ад мяс-

61 РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 466–470. Тамсама, ф. 1341, оп. 64(1), д. 497, л. 7–8.
62 Sikorska-Kulesza I. Op. cit. S. 17.
63 Тамсама.
64 Korzon T. Op. cit.

цовых улад звестак пра колькасць шляхты не прынеслі на гэтым этапе чаканых вынікаў.

Як вынікае з данясенняў з губерняў, мясцовыя ўлады самі не мелі пэўных і дакладных звестак пра колькасць шляхты, што жыла ў губерні. Так, з ведамасцяў, пададзеных рэвізскай камісіяй пра ход „разбору" шляхты ў 1816 г. у Віцебскай губерні, даведваемся, што павятовыя маршалкі 6 паветаў (з 12!) заявілі, што з іх паветах „не имеется чиншевой шляхты"[65]. (Адзначым, што ў шэрагу паветаў указ ад 20 студзеня 1816 г. памылкова трактаваўся як закон, які тычыцца толькі чыншавай шляхты, — такая выснова была зроблена Сенатам[66].) Магілёўскія губернскія ўлады да самага 1828 г. не падавалі „точных сведений о количестве шляхты"[67]. Не было такіх звестак і з астатніх беларускіх губерняў. Не вытрымлівалася і патрабаванне пра забарону пераходу шляхты з месца на месца да падачы дакументаў на шляхецтва. Толькі з аднаго павета (Барысаўскага Мінскай губерні) за 1826 г. прыйшлі звесткі пра тое, што „выбыли в разные и неизвестные места: из околичной шляхты — 20 фамилий; из чиншевой — 105 фамилий, из служащей в дворах — 90 фамилий и из беспоместной — 4. Всего за год выбыли шляхтичи 219 фамилий в количестве 489 лиц мужского пола" (г. зн. без уліку іх сем'яў)[68].

Такім чынам, „разбор" зацягваўся, адны распараджэнні змяняліся іншымі, ні адно з іх не вызначала канкрэтнага статусу шляхты, з месцаў працягвалі прыходзіць прапановы і „мнения", якія разбіраліся ў Сенаце, а ў адказ ішлі новыя пастановы.

Пад час „упорядочения" працэсу „разбору" шляхты з'явіліся новыя ўказы пра парадак абкладання шляхцічаў падаткамі (ад 8 чэрвеня 1826 г.)[69] „впредь до общего их рабора" і пра падаткаабкладанні чыншавай і валоліч-

[65] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 554–562.
[66] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 219–224.
[67] Тамсама, л. 554–562.
[68] НАРБ, ф. 319, воп. 1, спр. 77, арк. 133–138.
[69] ПСЗ. Т. I. № 397.

най шляхты, які прадугледжваў браць падаткі з двароў, а не з асобных шляхцічаў (ад 11 сакавіка 1828 г.)[70].

Некаторыя меры былі прынятыя для рашэння асобных, прыватных пытанняў, адным з якіх было палажэнне аб вайсковай службе шляхцічаў. Само законапалажэнне пра службу (ад 15 студзеня 1824 г.)[71] не ўяўляе для нас вялікай цікавасці, бо было ў многім працягам мераў супраць бядотнага становішча шляхецкіх сем'яў Віцебскай і Магілёўскай губерняў, для якіх у сувязі з неўраджайным годам яшчэ ў 1823 г.[72] была прызначана дапамога. Але ў тэксце гэтага законапалажэння ўжо адлюстраваны асобны падыход да розных катэгорый шляхты з пункту погляду „доказавшие — не доказавшие". Першую групу складалі „доказавшие" і тыя, чые дакументы ўжо паступілі на зацвярджэнне ў вышэйшую для гэтага інстанцыю — Герольдыю, да другой групы належалі тыя, каго прызналі дваранамі дэпутацкія сходы; трэцяя група — шляхцічы, якія не падалі ніякіх доказаў на дваранства[73].

Не прызнаючы праваў дваранства за тымі, хто не падаў адпаведных доказаў, урад зрабіў крокі па вызначэнні саслоўнай прыналежнасці шляхты. У такім кірунку былі прыняты ўказы ад 14 лістапада 1824 г.[74], 11 ліпеня 1828 г.[75] і 14 траўня 1830 г.[76], згодна з якімі шляхцічы, што не мелі сялян, маглі запісвацца ў купецкае саслоўе або атрымліваць пасведчанні мяшчан-гандляроў; два апошнія ўказы давалі права шляхцічам, якія не падалі доказаў „благородства", запісвацца або ў „градские общества", або ў „казенные поселяне".

Гэтымі заканадаўчымі актамі завяршыўся першы перыяд царскай палітыкі ў дачыненні да дробнай шляхты, які характарызуецца, з аднаго боку, імкненнем

70 ПСЗ. Т. III. № 1863, п. 9.
71 РГИА, ф. 1294, оп. 4, д. 1, л. 13–15.
72 Тамсама, л. 11.
73 Тамсама, л. 20.
74 ПСЗ. Т. XXXIX. № 30115, п. 113.
75 РГИА, ф. 1294, оп. 4, д. 1, л. 20–21.
76 ПСЗ. Т. V. № 3663.

скараціць вышэйшае саслоўе, а з другога — вельмі маруднай хадой „разбору”. Маруднасць і зацяжны характар праверкі дакументаў на шляхецтва на дадзеным этапе былі вынікам няўзгодненасці паміж мэтай (скараціць саслоўе) і неадназначнасцю, нават няпэўнасцю падыходу. Лепш за ўсё пра гэта сведчыць тэкст указа Сената ад 17 траўня 1826 г., дзе, з аднаго боку, прызнаецца неабходнасць скарачэння немаёмаснага дваранства ў дзяржаве, „ибо класс служащих[77] и без того сверх меры усиливается”, з другога боку, адзначаецца, што было б несправядліва пазбаўляць свайго звання тую шляхту, якая не мае дакладных доказаў, „но пользуется сим званием несколько столетий”[78]. Зазначым, аднак, што апошняе вынікала зусім не „из любви к справедливости”, а было прадыктавана страхам сутыкнуцца з непадпарадкаваннем вялізнай масы асоб, што засталіся па-за рамкамі вышэйшага саслоўя. Пра гэта наўпрост сказана з самім тэксце[79]. І, нарэшце, у адным з пунктаў прадпісвалася: „...ни в какое разыскание по поводу живут ли между шляхтою непринадлежащие к сему званию люди не входить — предоставить это помещикам”[80]. Сапраўды, паместнае дваранства першапачаткова было

[77] Дваранства ў Расіі лічылася служылым саслоўем, г. зн. такім, што знаходзілася на дзяржаўнай (вайсковай або стацкай) службе. Расійская гістарыяграфія да 1917 г. зыходзіла з палажэння аб „закрепощении сословий государством”, у сувязі з чым і вышэйшае саслоўе, якое выконвала дзяржаўныя службовыя абавязкі, мела адрознае ад заходнееўрапейскага паходжанне. Першапачаткова нават значэнне саміх тэрмінаў „дваранства” і „adel”, „nobility”, „noblesse” не было ідэнтычным. Апошнія перакладаліся на рускую мову літаральна як „знать”, „аристократия”, у той час як у самой назве вышэйшага расійскага саслоўя, на думку дарэвалюцыйных гісторыкаў, адлюстравана яго паходжанне — „из служащих при дворе”. Зазначым у сувязі з гэтым, што значэнне слова „шляхта” паказвае на іншую, падобную да заходнееўрапейскай, крыніцу паходжання, бо азначае „род, паходжанне, пароду”.

[78] РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 480–486.

[79] Тамсама.

[80] Тамсама, л. 482.

„бліжэй” да расійскага трона, у ім царскі ўрад шукаў сваё сацыяльнае апірышча на набытых землях.

Што ж да „разбору”, то ў выніку, як мы бачым, на працягу ўсёй першай трэці XIX ст. не былі вызначаны ні тэрміны, ні канкрэтны статус дробнай шляхты, якая даказвала свае дваранскія правы. Лагічным завяршэннем правядзення такой палітыкі стаў указ ад 22 чэрвеня 1829 г. пра стварэнне камісіі з прадстаўнікоў трох міністэрстваў: Вайсковага, Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства фінансаў — „для дальнейшего составления положения о шляхте”[81], які фактычна падвёў да таго, з чаго пачыналі — прызнання неабходнасці „разбору” шляхты і імкнення арганізаваць гэты працэс.

З улікам сказанага робіцца зразумелай амаль поўная абыякавасць даследчыкаў да падрабязнага разгляду працэсу праверкі шляхецкіх правоў на працягу першага перыяду палітыкі „разбору”. Але нельга і змяншаць ролю гэтага перыяду ў кантэксце ўсёй палітыкі расійскага самаўладства, накіраванай на выключэнне з вышэйшага саслоўя дробнай шляхты і збліжэнне яе з сялянствам, нават на растварэнне ў ім. Падмурак усяго наступнага ўрадавага курсу ў гэтым напрамку быў закладзены менавіта ў разгледжаны намі перыяд. Нягледзячы на тое, што ў цэлым першы перыяд характарызуецца маруднасцю „разбору”, тут ужо можна адзначыць змену пэўных тэндэнцый. Так, у гады кіравання Кацярыны II былі прыняты ўказы, вынікам якіх стаў недаўлік вышэйшага саслоўя ўжо ў канцы XVIII ст. Чарговы перыяд актывізацыі ў дзейнасці ўрада адзначаецца пасля правядзення VI рэвізіі і вайны 1812 г., паколькі дадзеныя па выніках рэвізіі не паказваюць зніжэння колькасці дваранства, а яго палітычныя пазіцыі ў час вайны з Напалеонам яшчэ больш пераконваюць у неабходнасці „чысткі” саслоўя. У выніку — зніжэнне колькасці саслоўя, надзвычайна высокая лічба адхіленняў доказаў на шляхецтва ў 1816 г. Пра-

81 ПСЗ. Т. IV. № 2948.

вавы і сацыяльны статус дробнай шляхты трапляе пад удар ужо ў гэты, „спокойный”, перыяд разбіральніцтва.

Вырашальны паварот у лёсе дробнай шляхты адбыўся ў 1831 г. Несумненна, што гэта была мера ў адказ на паўстанне 1830–1831 г. Менавіта з гэтага моманту дробныя шляхцічы зрабіліся, па трапным азначэнні Д. Бавуа, „ахвярнымі казламі” царскага рэжыму. Якраз на гэтую шматлікую групу беднай шляхты кладзецца (і трэба сказаць, без асаблівых на гэта падстаў!) фактычна ўся адказнасць за падзеі 1830–1831 г. Якраз з гэтым перыядам шэраг даследчыкаў звязвае змяненне значэння і самога паняцця „шляхта”. Так, Д. Бавуа назаве іх „беззямельнымі парызіямі”[82], Я. Ляскевічова напіша, што шляхцічамі сталі называцца тыя, хто страціў права на дваранства[83], а З. Тальвірская, М. Улашчык і С. Самбук прыйдуць да высновы, што паняцце „шляхта” абмяжоўвалася ў гэты перыяд толькі дробнай шляхтай, астатнія прадстаўнікі саслоўя — гэта ўжо ўласна дваранства[84]. Апошнія сцверджанні, праўда, адносяцца да ўсяго перыяду ад канца XVIII ст.

Але паколькі ў гістарычнай літаратуры дадзены перыяд „разбору” шляхты даволі добра асветлены, дазволім сабе спыніцца толькі на яго асобных момантах.

Зыходным пунктам усёй наступнай палітыкі царызму ў дачыненні да дробнай шляхты стаў указ ад 19 кастрычніка 1831 г. Ён вызначаў адрозненне паміж „действительными шляхтичами” (якія даказалі сваё дваранства) і „лицами, именующимися шляхтою”. Другая катэгорыя падзялялася на так званых „сельских и городских обывателей”, больш вядомых пад назвай „однодвор-

[82] Beauvois D. Op. cit. S. 91–92.

[83] Лескевичова Я. Социальная структура общества в Королевстве Польском 1815–1864 // Социальная структура общества в XIX в.: страны Центральной и Юго-Восточной Европы. Москва, 1982. С. 59–60.

[84] Тальвирская З. Я. К вопросу о социальном облике мелкого дворянства в 1960-х годах / Историко-социологические исследования. Москва, 1970. С. 200. Улащик Н. Н. Указ. соч. С. 44. Самбук С. М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX века. Минск, 1980. С. 14.

цы” (для вясковых) і „граждане” (для гарадскіх жыхароў) заходніх губерняў. І першыя, і другія, у залежнасці ад наяўнасці — адсутнасці ў іх зямлі (сваёй або арандаванай) дзяліліся на аседлых і неаседлых[85]. Для асоб творчых прафесій, да якіх адносілі дактароў, настаўнікаў, мастакоў, адвакатаў і іншых, уводзілася асаблівая назва „почетные граждане”.

Ні ў каго з аднесеных да разраду аднадворцаў ці грамадзян не было адабрана права дамагацца асабістага дваранства, г. зн. пажыццёвага, якое не перадавалася ў спадчыну[86].

З тэксту ўказа вынікае таксама, што ў разрад аднадворцаў і грамадзян фармальна пераводзіліся тыя, хто не быў зацверджаны ў дваранстве Герольдыяй. Фактычна ж на гэтым этапе ўрад кіраваўся не столькі звесткамі пра паходжанне, колькі матэрыяльным становішчам шляхты.

Пачынаючы з указа ад 11 лістапада 1832 г. заканадаўчыя акты дэманструюць асобны падыход да розных катэгорый шляхты[87]. Такімі катэгорыямі „бывшей шляхты” сталі: 1) памешчыкі (уладальнікі маёнткаў або толькі прыгонных без зямлі), як зацверджаныя, так і не зацверджаныя Герольдыяй; 2) дваране-няўласнікі, г. зн. тыя, што не мелі маёнткаў, зацверджаныя толькі дваранскімі сходамі; 3) усе астатнія, нікім не зацверджаныя, якія не валодалі маёнткамі з прыгоннымі[88]. Асобы, аднесеныя да першай катэгорыі, вызваляліся ад вайсковай службы і падаткаабкладання; да другой — часткова вызваляліся ад гэтых абавязкаў (да разгляду іх правоў Герольдыяй); прадстаўнікі трэцяй катэгорыі павінны былі без усялякіх адгаворак выконваць гэтыя абавязкі.

Было прадугледжана, каб дакументы прадстаўнікоў першага разраду, г. зн. памешчыкаў, прыходзілі непас-

[85] ПСЗ. Т. VI. № 4869.
[86] Тамсама. Никотин И. А. Столетний период русского законодательства в воссоединенных от Польши губерниях и законодательство о евреях (1772–1872). Вильна, 1886. Т. II. С. 10–11.
[87] ПСЗ. Т. VII. № 5746.
[88] Тамсама.

рэдна ў Герольдыю (указ ад 25 ліпеня 1833 г.)[89]. Для іх вызначаўся двухгадовы тэрмін на падачу доказаў на дваранства, пазней гэты тэрмін неаднаразова працягваўся (указы ад 5 ліпеня 1838 г.[90] і 5 лістапада 1841 г.[91]).

У дачыненні да другой катэгорыі указ ад 25 верасня 1834 г. удакладняў, што да гэтай катэгорыі належаць толькі тыя, хто быў зацверджаны дваранскімі дэпутацкімі сходамі яшчэ да ўказа 19 кастрычніка 1831 г.[92]. З мэтай праверкі выключна ў дачыненні да запісаных у гэтую катэгорыю былі створаны спецыяльныя камісіі па ўсіх заходніх губернях (тэрмін дзеяння іх па розных губернях быў розны)[93].

Заканадаўчыя палажэнні, прынятыя ў дачыненні да асоб трэцяй катэгорыі, вызначаюцца безапеляцыйнасцю і жорсткасцю. Так, у ліпені 1838 г. патрабавалася запісваць іх „безо всякого разбора” адразу ж у аднадворцы[94]; яшчэ раней, у адным з указаў 1834 г. было сказана, што набываць маёнткі з сялянамі маюць права толькі дваране, зацверджаныя Герольдыяй, астатнія ж (гаворка ішла пра тых, хто купіў маёнтак „не по праву”, г. зн. пасля ўказа 19 кастрычніка 1831 г.)[95] былі абавязаны прадаць іх. Фактычна такім чынам выходзіла, што самымі ўрэзанымі рабіліся правы шляхты, якая не мела прыгонных.

У цэлым жа ў палітыцы другой трэці XIX ст. у дачыненні да „бывшей шляхты” выразна прасочваюцца дзве асноўныя тэндэнцыі, накіраваныя на 1) ускладненне доступу ў лік тых, што даказалі дваранства, і 2) рэзкае абмежаванне правоў аднадворцаў і грамадзян. Першы пункт, апрача ўжо названага вышэй, пацвярджае цэлы шэраг фактаў. Так, у прыватнасці, для старannай

[89] ПСЗ. Т. VIII. № 6351.
[90] ПСЗ. Т. XIII. № 11387.
[91] ПСЗ. Т. XVI. № 14998.
[92] ПСЗ. Т. IX. № 7404.
[93] ПСЗ. Т. IX. № 7007. Тамсама. Т. XII. № 9912. Тамсама. Т. XVIII. № 16857.
[94] ПСЗ. Т. XIII. № 11387.
[95] ПСЗ. Т. IX. № 6779.

праверкі актавых і метрычных кніг па ўсіх 9 заходніх губернях (куды ўваходзілі 6 беларускіх і 3 украінскія) указам ад 19 снежня 1833 г. былі створаны тры камісіі (дзве з іх дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі. — *Г. Т.*)[96]. У склад гэтых камісій уваходзілі чыноўнікі Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства юстыцыі і корпуса жандараў. (Што ж, падбор цалкам адпавядае дзяржаве, якая ў гэты перыяд займела ганебную славу „жандара Еўропы"!) На працягу паўгоддзя гэтыя камісіі сабралі ад прыватных асоб і прадстаўнікоў духавенства ўсе копіі метрык і іншых актавых матэрыялаў мінулага часу. Самі чыноўнікі скардзіліся на карпатлівую працу: усё гэта трэба было змацаваць, перакрэсліць прабелы, пранумараваць, прашнураваць, запячатаць і, нарэшце, пра ўсе „беспорядки" паведаміць у Герольдыю[97]. На працягу двух гадоў гэта было зроблена. Каб уявіць, наколькі гэта сапраўды была карпатлівая праца, варта прыгадаць, што колькасць шляхты ў кожнай з гэтых губерняў вымяралася дзясяткамі тысяч.

Больш за тое, у 1840 г. з'явілася чарговае рашэнне (пасля ўжо прынятага 24 траўня 1818 г.) пра выключэнне з радаводных кніг усіх прызнаных у дваранстве па метрыках, рэвізскіх дадзеных, а таксама па сведчаннях прыватных асоб[98]. У 1845 г. — новае патрабаванне, якое тычылася прызнання ў дваранстве на падставе сведчанняў 12 і больш дваран, — і зноў, як і ў першай трэці XIX ст., — размова ідзе пра недастатковасць гэтага доказу[99]. Многія законы, як бачым, не новыя, яны вынікаюць з распараджэнняў і ўказаў першай трэці XIX ст. І на гэтым этапе здзіўляе часам відавочная непаслядоўнасць улад: ці варта было перагортваць гару метрычных і актавых пасведчанняў, складаць і „шнуровать" іх у цэлыя тамы

[96] ПСЗ. Т. VIII. № 6644. Романович-Славатинский А. В. Дворянство в России от начала XVIII в. до отмены крепостного права. Киев, 1912. С. 57.
[97] Тамсама. Доўнар-Запольскі М. В. Гісторыя Беларусі. Мінск, 1994. С. 273.
[98] РГИА, ф. 1341, д. 346б, л. 464–470. ПСЗ. Т. XV. № 13 048
[99] ПСЗ. Т. XX. № 19185.

для таго, каб праз некалькі гадоў выкрэсліваць з радаводных кніг усіх тых, хто быў прызнаны ў дваранстве на падставе гэтых сведчанняў? Гэта можна растлумачыць толькі вялікай стараннасцю, якая вынікала з імкнення прымаць энергічныя меры па як найхутчэйшым правядзенні „разбору”. Тут ужо не ідзе гаворка пра неаднназначнасць або няпэўнасць падыходу, якія назіраліся ў папярэдні перыяд.

Але надзвычай яскрава на гэтым этапе „разбору” прасочваецца імкненне прынізіць аднадворцаў і грамадзян да становішча падатковых саслоўяў. Асабліва паказальныя ў гэтым дачыненні ўказы ад 23 студзеня 1847 г.[100] і 1 жніўня 1857 г.[101]. Згодна з першым аднадворцы заходніх губерняў пазбаўляліся ўсялякага права мець як маёнткі з сялянамі, так і толькі сялян. Закон ад 1 жніўня 1857 г. абавязваў усіх аднадворцаў, якія мелі зямлю, запісвацца ў катэгорыю дзяржаўных сялян; аднадворцы, што не мелі зямлі, маглі па сваім жаданні запісвацца або ў дзяржаўныя сяляне, або ў „городские сословия”. Гэтыя законы азначалі радыкальныя перамены ў юрыдычнай дыферэнцыяцыі некалі адзінага саслоўя.

Аднак не варта спрашчаць сітуацыю і меркаваць, што змяненне юрыдычнага статусу вяло за сабой карэнныя змены ў становішчы саслоўя або яго часткі. Іншымі словамі, змяненне аблічча саслоўя de jure хоць і ўплывае, але яшчэ не цалкам вызначае змяненне саслоўя de facto. На працягу ўсяго разгляданага перыяду, нягледзячы на ўсе законапалажэнні, мяжа паміж асобамі, зацверджанымі ў дваранстве, і тымі, хто апынуўся па-за імі, заставалася рухомай і вельмі ўмоўнай. Вялікая колькасць асоб на працягу дзесяцігоддзяў прыкладала неймаверныя намаганні, каб даказаць сваю прыналежнасць да вышэйшага саслоўя. Пра гэта сведчаць шматлікія дакументы з фондаў дваранскіх дэпутацкіх сходаў, у прыватнасці, па Мінскай і Магілёўскай губернях. Адны

[100] ПСЗ. Т. XXII. № 20845.
[101] ПСЗ. Т. XXXII. № 32000.

даказвалі, што былі памылкова аднесены да разраду аднадворцаў — у спісе толькі па адным (Бабруйскім) павеце за 1836 г. называецца 30 такіх сем'яў[102]; другім удавалася дамагчыся перагляду спраў з-за першапачаткова няправільнага запісу імя — „дело дворян Домбровских, Чернявских"[103], некаторым удалося толькі да 1860 г. атрымаць пасведчанне пра тое, што яны — дваране паводле пастаноў, якія адносіліся яшчэ да першай трэці XIX ст. — так было, у прыватнасці, з дваранамі Баброўскімі (Рэчыцкі ўезд)[104]. Нарэшце некаторыя, зусім бедныя, карыстаючыся дазволам падаваць дакументы не на гербавай, а на простай паперы (1835 г.)[105] і маючы пасведчанне мясцовых улад пра сваю „действительную бедность" (абавязковае ў гэтым выпадку), змаглі таксама даказаць сваё „благородство".

Безумоўна, на дадзеным этапе пераход у дваранскае саслоўе быў яшчэ больш складаны з-за розных законапалажэнняў, але ён быў магчымы паводле таго ж заканадаўства. Да таго ж на працягу ўсяго перыяду не быў выдадзены закон, які абвяшчаў бы заканчэнне працэсу разгляду спраў пра дваранства асоб з „бывшей шляхты" (як бы ні хацеў гэтага ўрад). „Высочайшим Императорским Повелением" ад 13 чэрвеня 1863 г. загадвалася толькі прыпыніць працэс „разбору" шляхты да „усмирения польского мятежа"[106].

Што да паказчыкаў колькасці шляхты ў гэты перыяд, то „разбор" шляхты адразу адбіўся на паказчыках VIII рэвізіі (1833 г.)[107], пазней назіраецца рост абсалютнай колькасці дваранства — да канца 50-х г. XIX ст. яна дасягнула 98 354 чал. мужчынскага полу[108]. Гэта дае некаторым даследчыкам падставу нават назваць такі рост „бурным". На наш погляд відавочна, што гэтае азначэн-

[102] НАРБ, ф. 319, воп. 1, спр. 47, арк. 88–90.
[103] Тамсама, арк. 95, 271.
[104] Тамсама, спр. 3, арк. 111–113.
[105] Тамсама, спр. 47, арк. 289–290.
[106] ПСЗ. Т. XXXVIII. № 39825.
[107] Тумилович Г. Н. Указ. соч. С. 91.
[108] Тамсама.

не памылковае, бо фактычна розніца паміж паказчыкамі найбліжэйшых рэвізій (VIII–IX і IX–X) у 5–6 тыс. чалавек для Беларусі нязначная.

У цэлым жа, нягледзячы на ўсе мерапрыемствы царызму, да пачатку 60-х г. у Беларусі (як у Літве і ў Правабярэжнай Украіне) захоўваліся самыя высокія паказчыкі як абсалютнай колькасці, так і ўдзельнай вагі дваранства ў адносінах да ўсяго расійскага дваранства (больш за 60%)[109] і да агульнай колькасці насельніцтва рэгіёна: больш за 6% па губернях Віленскай, Мінскай, далей ішлі Гродзенская, Магілёўская (больш за 4%) і, нарэшце, у Віцебскай губерні дваране складалі 3,8%[110].

Аднак удзельная вага асобных катэгорый дваранства істотна змянілася. Да 60-х г. XIX ст. узрасла доля дваран, якія валодалі зямлёй і прыгоннымі, да 14%[111], а ў апошняй чвэрці XVIII ст. яна складала каля 5%, што адлюстроўвае асноўны кірунак палітыкі царызму, паколькі сведчыць пра скарачэнне ўдзельнай вагі дробнай шляхты, значная колькасць якой засталася па-за вышэйшым саслоўем.

Якія ж асноўныя змены адбыліся са шляхецтвам на дадзеным этапе? Перш за ўсё, вылучэнне такіх катэгорый, як аднадворцы і грамадзяне, а таксама размежаванне паняццяў „шляхціч" і „дваранін" сведчаць пра юрыдычную дыферэнцыяцыю раней адзінага з пункту погляду заканадаўства саслоўя. Але дваранскае саслоўе і на гэтым этапе не робіцца замкнутым: фактычна яшчэ няма дакладнай мяжы паміж „действительным дворянином" і „бывшим шляхтичем". Прадстаўнікі дробнай шляхты, якія даказалі сваё „благородное происхождение", працягваюць жыць сярод тых, што не даказалі

[109] Корелин А. П. Дворянство в пореформенной России. 1861–1904 гг.: состав, численность, корпоративная организация. Москва, 1979. С. 40. Самбук С. М. Указ. соч. С. 13.

[110] Улащик Н. Н. Указ. соч. С. 93. Зайцев В. М. Социально-сословный состав участников восстания 1863 г. (Опыт статистического анализа). Москва, 1973. С. 103. Sikorska-Kulesza I. Op. cit. S. 84.

[111] Зайцев В. М. Указ соч. С. 104.

яго[112], і першыя, і другія працягваюць вылучаць сябе з навакольнага сялянства[113].

Без перабольшання можна сказаць, што асобныя выхадцы з асяроддзя дробнай шляхты папоўнілі ў той час усе сацыяльныя групы беларускага грамадства — прафесійных афіцэраў, чыноўнікаў, інтэлігенцыі і інш. Але ва ўмовах захавання прыгонніцтва з'яўленне значнай колькасці асоб, што апынуліся за рамкамі вышэйшага саслоўя, вяло, хутчэй, да ўзмацнення працэсу паўперызацыі шырокіх слаёў насельніцтва.

Адлучэнне ад прывілеяванага саслоўя пацягнула за сабой імкненне даказаць сваё дваранскае паходжанне. Немаёмасная шляхта чаплялася за свае прывілеі, што сведчыць пра ўласцівы ёй кансерватызм. Невыпадкова яшчэ ў канцы XVIII ст. Х. Калантай выступаў за тое, каб увогуле прыбраць з палітычнага жыцця дробную шляхту[114]. Безумоўна, з яе асяроддзя выйшла шмат прагрэсіўных дзеячаў. Нельга адмаўляць і шырокага ўдзелу дробнай шляхты ў рэвалюцыйных падзеях канца XVIII — першай паловы XIX ст. Але, як слушна адзначалі А. Заянчкоўскі і іншыя даследчыкі, сацыяльную аснову апазіцыйнага руху складала не дробная, а сярэдняя шляхта[115]. Па сваёй жа сутнасці дробная шляхта не менш кансерватыўная, чым магнаты.

Гаворачы пра менталітэт, варта вылучыць „шляхецкі гонар", усведамленне сваёй „шляхецкай годнасці", якія выконвалі вялікую ролю ў жыцці дробнага шляхецтва. У гэтым таксама няма нічога дзіўнага, бо вякамі складвалася перакананне, што быць дваранінам — значыць быць вышэйшым за іншых. Яно знаходзіла адлюстраван-

112 РГИА, ф. 1341, оп. 1, д. 346б, л. 471–486.

113 Тамсама. Довнар-Запольский М. В., Шендрик Д. З. Белорусская шляхта и панцирные бояре. Верхнее Поднепровье и Белоруссия / Полное географическое описание. Т. 9. 1905. С. 140–145.

114 Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia państwa i prawa polskiego. Warszawa, 1985. S. 278, 289.

115 Zajączkowski A. Główne elementy kultury szlacheckiej w Polsce. Wrocław, 1961. S. 96–100.

не ў імкненні ва ўсім аддзяліцца ад астатніх, нават пасля смерці. У адной мясціне былога кампактнага пражывання шляхты на тэрыторыі сучаснай Мінскай вобласці (паміж Слуцкам і Бабруйскам) нам вядома паселішча, дзе жыхары — нашчадкі тамтэйшай ваколічнай шляхты — працягваюць хаваць нябожчыкаў на асобных могілках. Такая сіла традыцый, так выяўляецца ў грамадстве настальгія па тым сацыяльным феномене — шляхецтву, якое ўжо пражыта, але захавалася ў памяці. Жыхары гэтай мясцовасці (старэйшае пакаленне) дагэтуль вызначаюць прыналежнасць да шляхты па прозвішчу — размова ідзе, вядома, пра распаўсюджаныя, вядомыя ім прозвішчы. Хоць пры гэтым магчымыя памылкі (як пры вызначэнні французскага двараніна толькі па наяўнасці прыназоўніка *de* — *Г. Т.*). Больш за тое, нашчадкі калісьці шматлікай шляхты, якая не раз падпадала пад дэкласацыю, дагэтуль вылучаюць сябе з навакольнага сялянства — „мужыкоў”. Але, ведаючы іх, цяжка нават уявіць, што іх продкі былі калісьці барацьбітамі за свае правы або нават „оказали сильное воздействие на решение крестьянского вопроса (т. е. отмену крепостного права в России)” — як сцвярджалі некаторыя гісторыкі[116]. Кансерватызм і аморфнасць, імкненне замкнуцца ў сваім вузкім свеце і „непротивление злу насилием”, якое вынікае адгэтуль, — ці не гэта выканала галоўную ролю ў лёсе дробнай шляхты і, у пэўнай ступені, у лёсе беларускай дзяржаўнасці?

[116] Улащик Н. Н. Указ соч. С. 93.

# Russian czarism
# and gentry of Belarus

Examination on „genteelness" (1795–1863)

**Halina Tumolivich**

Within the frames of the issue Russian government and the upper class in Belarus the key moment is attitude of czarism to petty gentry, the policy known as "discriminating of the gentry". The historians use this term predominantly with reference to the period of the 30s of XIX century, when in response to the uprising the tsarist government tightened the measures on inclusion to Russian nobility persons belonging to "former gentry". For a long time the initial period of "discriminating" was left unattended" owing to negligibility of reduction of the number of privileged class in Belarusian and other lands incorporated to Russian empire. The nobility here still remained numerous and what perplexed Russian authorities most of all was the "abnormally" high prevalence in its composition of small, often landless gentry. In the present paper the authors made an attempt to trace the major trends which primordially were objectively aimed to reduce the nobility and to change petty gentry's legal status. The analysis of all legislative provisions and the process of "discriminating" at the local level reveal the main trend of the policy pursued by czarism in this question. It also gives a more vivid picture how its motives changed in the process of its formation and development, the mechanisms and the ways of its realization were adjusted, the counting system of poll was perfected, etc. The study of the second period of "discriminating", the most thoroughly examined and specified in literature, shows the rundown of the nobility at the expense of exclusion the petty gentry from its composition. In the attitude of czarism to the nobility of "western provinces" political motifs prevailed. The petty gentry was becoming "the scapegoat" which was first of all expressed in the change of legal status of overwhelming majority of this part of nobility that turned to be beyond the frames.

# Школьная аснова выхавання нацыянальнай самасвядомасці ў БССР

## Пытанне нацыянальнай ідэнтычнасці ў падручніках 20-х г. XX ст.

**Алена Маркава**

Падручнікі як крыніца гістарычнага даследавання часта недаацэньваюцца. Аднак яны з'яўляюцца каштоўным і ўнікальным матэрыялам, які характарызуе свой час. Аналізаваныя падручнікі адлюстроўваюць працэс фармавання новай нацыянальнай ідэнтычнасці, які адбываўся ў 20-я г. XX ст. у адносна нядаўна ўзніклай на палітычнай карце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Беларусь 20-х г., як адна з сацыялістычных рэспублік Савецкага Саюза, часта звязваецца з уяўленнем засілля паноўнай ідэалагічнай партыйнай цэнзуры, адназначнасцю партыйных установак і палітычных рэпрэсій, немагчымасцю суіснавання розных мадэляў нацыянальнай ідэнтычнасці і альтэрнатыўных уяўленняў пра этнагенэзіс, культуру і гістарычнае мінулае Беларусі. Перыяд беларусізацыі 20-х г. пераконвае нас у адваротным. Як сведчаць матэрыялы, гаворка ідзе пра перыяд несфармаваных грамадскіх структур, няпоўнага сацыяльнага складу насельніцтва з пераважнай доляй сялянства і нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыяй, нестабільнымі палітычнымі межамі з неадпаведнай ім этнічнай тэрыторыяй. На працягу дадзенага перыяду фармавалася сістэма нацыянальнай адукацыі і праходзіла інтэнсіўная ўнутрыпалітычная ба-

* The work was supported by the grant SVV-2010-261705 „Patterns of Culture and Minority Social Practice in Modern Central European History”.

рацьба за шляхі наступнага культурнага, эканамічнага і палітычнага развіцця дзяржавы. Адначасова гэты перыяд характарызуецца няўстойлівасцю семантычных структур і наяўнасцю альтэрнатыўных падыходаў да разумення нацыянальнай гісторыі і нацыянальнай ідэнтычнасці. Даследаванне падручнікаў як каштоўных крыніц, што адлюстроўваюць тагачасныя тэндэнцыі разумення гістарычнага мінулага, нацыянальнай ідэнтычнасці і беларускасці як такой у яе шырокім разуменні дапаможа нам у гэтым разабрацца.

Галоўная ўвага будзе аддавацца камплекту падручнікаў па праграмах для сярэдніх, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў на 1927/28 навучальны год. Акрамя архіўных матэрыялаў ф. 42 Наркамасветы БССР і ф. 701 Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) БССР Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь будуць разглядацца метадычныя дапаможнікі, школьныя планы, праграмы выкладання і непасрэдна самі падручнікі, прызначаныя для сярэдніх школ, педагагічных тэхнікумаў і ВНУ (а менавіта праграма Педагагічнага факультэта БДУ)[1]. У гістарычнай частцы школьнай праграмы наша ўвага будзе засяроджана ў першую чаргу на перыядзе Сярэднявечча і ранняга Но-

[1] Програмы выкладаньня на 1927–28 год. Пэдагогічны факультэт, социяльна-гістарычнае аддзяленьне. Менск, 1927; Аб грамадазнаўстве і праграмах грамадазнаўства для другога канцэнтру сямёхгодкі // Асьвета. 1927. № 1. С. 30–43; Аб „Пэдагагічным тэхнікуме ўдому” // Асьвета. 1927. № 1. С. 73–110; Аб парадку здачы залікаў у сувязі з вывучэньнем курсу „Пэдтэхнікуму ўдому” // Асьвета. 1927. № 2. С. 91–105; Дэталізаваныя праграмы I–IV г. г. навучаньня сямёхгадовай працоўнай школы. Другое выданьне, выпраўленае. Менск, 1927; Летнія курсы па перападрыхтоўцы вясковага настаўніцтва // Асьвета. 1927. № 3. С. 90–99; Праект праграм грамадазнаўства для пэдагогічных тэхнікумаў БССР // Асьвета. 1927. № 3. С. 99–121; Праект праграм прыродазнаўчага цыклю для пэдагагічных тэхнікумаў БССР // Асьвета. 1927. № 4. С. 106–138; Праграмы і мэтадычны дапаможнік для настаўніка аднакамплектавай школы. Менск, 1927; Новыя праграмы для II канцэнтру сямёхгадовай працоўнай школы // Асьвета. 1927. № 5–6. С. 21–137.

вага часу. Для аналізу мы выбралі асноўныя і найбольш характэрныя падручнікі па гісторыі („Кароткі нарыс гісторыі Беларусі", „Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця" У. Ігнатоўскага; „Гісторыя Беларусі" У. Пічэты; „Белоруссия. Территория, население, экономика. Важнейшие моменты истории" У. Ігнатоўскага, А. Смоліча), геаграфіі („Кароткі курс геаграфіі Беларусі", „Геаграфія Беларусі" А. Смоліча; „Географія Эўропы" М. Азбукіна) і беларускай літаратуры („Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст." У. Дзяржынскага; „Гісторыя беларускае літаратуры" М. Гарэцкага; „Выпісы з беларускай літэратуры" М. Гарэцкага, У. Дзяржынскага, П. Каравая) як адных з асноўных элементаў, што закладаюць падмурак новай ідэнтычнасці для школьнікаў старэйшых класаў або студэнтаў ВНУ[2]. Менш рэлевантныя падручнікі, такія, як, напрыклад, граматыка беларускай мовы, тэксты для хатняга чытання і да т. п., а таксама падручнікі для малодшых класаў з аналізу былі выключаны[3]. Мы не разглядалі таксама і пад-

[2] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Выд. 4-е, перапрацаванае. Менск, 1926; Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Выд. 3-е, стэрэотыпнае. Менск, 1928; Пічэта У. І. Гісторыя Беларусі. Мінск, 2005; Игнатовский В., Смолич А. Белоруссия. Территория, население, экономика. Важнейшие моменты истории. Экономический очерк Советской Белоруссии и ее округов. Минск, 1926; Смоліч А. Кароткі курс геаграфіі Беларусі. Менск, 1925; Смоліч А. А. Геаграфія Беларусі. Мінск, 1993; Азбукін М. Географія Эўропы. Масква — Ленінград, 1924; Дзяржынскі У. Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст. Менск, 1926; Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Выд. 2-е (папраўленае). Вільня, 1921; Гарэцкі М., Дзяржынскі У., Каравай П. Выпісы з беларускай літэратуры. Ч.1. Вусная народная творчасць. Старадаўняе пісьменства. Менск, 1926.

[3] Некаторыя з названых у артыкуле падручнікаў (у тым ліку і сённяшнія іх перавыданні) датуюцца 1921–1926 г. Падручнікі з праграмы 1927/28 навуч. года маглі быць надрукаваны раней, але яны выкарыстоўваліся ў працэсе выкладання. Некаторыя падручнікі неаднаразова перавыдаваліся без іх перапрацоўкі аўтарамі (Смоліч, Ігнатоўскі). Таму ў спісе рэкамендаваных на 1927/28 навуч. год падручнікаў можна знайсці падручнікі больш ранняга года выдання, напр.:

ручнікі па грамадазнаўстве, якія ўтрымліваюць матэрыял па грамадска-эканамічнай праблематыцы ў яе гістарычным кантэксце. Яўная мэта гэтага, здавалася б, рэлевантнага для дадзенага даследавання прадмета і яго падручнікаў — „прылучыць яго [вучня] да ідэалаў пралетарыяту і яго барацьбы за камунізм”[4] у сярэдняй школе або „прывіць студэнтам правільны і марксысцкі-вытрыманы сьветапогляд і прывучаць іх да актыўнай і сьвядомай грамадзкай дзейнасьці”[5] у тэхнікуме або ВНУ, што дае нам права выключыць гэтыя падручнікі з аналізаванага матэрыялу, бо яны не ўтрымліваюць ніякіх элементаў, якія можна было б аднесці да элементаў нацыянальнай ідэнтычнасці.

Фармаванне сістэмы нацыянальнай адукацыі, а таксама адначасовае стварэнне новых падручнікаў, якія павінны былі ідэалагічна сфармаваць і прапанаваць новую ідэнтычнасць грамадзянам нядаўна ўзніклай БССР, было цесна звязана з правядзеннем нацыянальнай палітыкі беларусізацыі. Афіцыйны пачатак яе на дзяржаўным узроўні часцей за ўсё звязваецца з пастановай „Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі”, прынятай 15 ліпеня 1924 г. 2-й сесіяй Цэнтральнага выканаўчага камітэта Саветаў БССР, якая мела юрыдычную сілу закону[6]. Паводле раздзела II „Аб мерапрыемствах у галіне народнай асьветы БССР” пастановы, беларуская мова ўводзілася ва

Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. 1921, і інш.

4 Новыя праграмы для II канцэнтру сямёхгадовай працоўнай школы // Асьвета. 1927. № 5–6. С. 30.

5 Праект праграм грамадазнаўства для пэдагогічных тэхнікумаў БССР // Асьвета. 1927. № 3. С. 99.

6 Практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Ч. І. Беларусізацыя. Менск, 1928. С. 136–142; Коршук У. К., Платонаў Р. П., Раманоўскі И. Ф., Фалей Я. С. Беларусізацыя. 1920-я гады: Дакументы і матэрыялы. Мінск, 2001. С. 129–135; О практических мероприятиях общего характера по проведению национальной политики по линии Народного Комиссариата просвещения Белоруссии. Минск, 1924; Зборнік чынных законаў БССР за 1921–1924 гады. Менск, 1927. С. 91–93.

ўсе сферы адукацыйнай сістэмы і адначасова з'яўлялася абавязковым прадметам выкладання. Пачынаючы з 1924/25 навучальнага года прадметы па гісторыі і геаграфіі Беларусі, а таксама па беларускай літаратуры ўводзіліся ў праграму ўсіх рабфакаў ВНУ і тэхнікумаў у якасці абавязковых. Глыбейшае вывучэнне беларускай культуры, гісторыі, эканомікі, мовы, традыцый і побыту насельніцтва планавалася праводзіць на адмыслова створаных з гэтай мэтай кафедрах ВНУ. Уступныя іспыты па беларускай мове з гэтага моманту таксама былі абавязковымі, што значна падвышала сацыяльны статус мовы, якая на той час была амаль цалкам выцеснена з публічнай сферы камунікацыі.

Агульнае станаўленне сістэмы нацыянальнай адукацыі было звязана з шматлікімі цяжкасцямі. Яно праходзіла на фоне гаспадарчай разрухі, голаду і эпідэмій, якія дасталіся ў „спадчыну" ад польскай і нямецкай акупацый, што скончыліся ў ліпені 1920 г., і грамадзянскай вайны. У выніку ваенных дзеянняў былі панесены велізарныя страты, разбурана прамысловасць і сельская гаспадарка. Большасць школьных памяшканняў была знішчана, не хапала падручнікаў, паперы і элементарных школьных прылад. Фармаванне нацыянальнай сістэмы адукацыі пачалося з 1920 г. У 1921 г. Народны камісарыят асветы БССР (НКА БССР), заснаваны 17 ліпеня 1920 г., распрацаваў „Асноўныя прынцыпы арганізацыі працоўнай сямігадовай школы"[7], паводле якіх сямігадовая школа забяспечвала агульную адукацыю. У адпаведнасці з гэтым дакументам выкладанне ўсіх прадметаў павінна было весціся на роднай мове вучняў[8]. 16 лютага 1922 г. прынялі новую адукацыйную сістэму, у аснове якой была сямігадовая агульнаадукацыйная працоўная і політэхнічная школа, прызначаная для дзяцей ад 8 да 15 гадоў. Школа рыхтавала іх для магчымага наступнага паступлення ў сярэднюю спецыяль-

[7] Асноўныя прынцыпы арганізацыі працоўнай сямігадовай школы. СРРБ НКА. Менск, 1921. С. 7.
[8] Тамсама. С. 7.

ную навучальную ўстанову (тэхнікум) ці далей у ВНУ[9]. Сямігадовая школа складалася з I канцэнтра (1–4-ы класы, дзеці ад 8 да 12 гадоў) і II канцэнтра (5–7-ы класы, дзеці ад 12 да 15 гадоў). Адначасова існавалі школы I канцэнтра, II канцэнтра або сямігадовыя школы I–II канцэнтра[10].

Складанасць сітуацыі, аднак, не вычэрпвалася недахопам фінансавання і адсутнасцю матэрыяльных сродкаў. Існавала вострая неабходнасць у кваліфікаваных педагагічных кадрах і непасрэдна ў саміх падручніках, па якіх можна было весці навучанне. Згодна з пастановай Савецкага народнага камісарыята РСФСР (Саўнаркам РСФСР) ад 12 траўня 1921 г., усе працаўнікі асветы — выхадцы з Беларусі, адкамандзіроўваліся для працы ў НКА БССР[11]. Аднак толькі частка з іх валодала беларускай мовай. Таму, напрыклад, у адозве да культурных працаўнікоў, настаўнікаў, якія былі ўраджэнцамі Беларусі, але ў выніку грамадзянскай вайны апынуліся за межамі БССР, падкрэслівалася: „Не саромцеся тыя, хто не зусім добра ўладае беларускай мовай. Тут сярод беларускага сялянства вы ўспомніце гэтую мову вашых дзіцячых гадоў і вывучэце яе, калі ў вас будзе да гэтага жаданьне"[12]. Часта школьныя настаўнікі наогул не мелі спецыяльнай педагагічнай адукацыі. Дадзеныя на 1925/26 навуч. год сведчаць, што ў 55% настаўнікаў сямігадовых школ і 66,6% настаўнікаў чатырохгадовых школ не было спецыяльнай педагагічнай адукацыі, а ў 11% настаўнікаў сямігадовых школ і 34,7% настаўнікаў

9 В Народном Комиссариате просвещения // Вестник Народного Комиссариата Просвещения С. С. Р. Б. 1922. № 1. С. 26.

10 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 42, воп. 1, спр. 926, арк. 1. Пазней гэтая схема была апублікавана ў першым нумары „Асьветы", заснаванай у 1923 г. (з 1930 г. — „Камуністычнае выхаваньне").

11 НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 85, арк. 52; ф. 42, воп. 1, спр. 65, арк. 156.

12 Адозва ЦВК Беларусі да культурных працаўнікоў, ураджэнцаў Беларусі // Практычнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы. Ч. I. Беларусізацыя. Менск, 1928. С. 133–136.

чатырохгадовых школ не было агульнай сярэдняй адукацыі наогул[13]. Для падрыхтоўкі новых настаўнікаў ствараліся падрыхтоўчыя курсы з рознай працягласцю навучання. Аднымі з такіх курсаў былі, напрыклад, двухгадовыя Вышэйшыя курсы беларусазнаўства і іншыя[14]. Падрыхтоўку педагогаў забяспечвала таксама адчыненае ў кастрычніку 1921 г. Грамадска-педагагічнае аддзяленне факультэта грамадскіх навук БДУ і іншыя ўстановы.

Праблема агульнага недахопу падручнікаў і метадычных дапаможнікаў мела некалькі складнікаў. Папершае, праяўлялася амаль што поўная за малым выключэннем адсутнасць падручнікаў, традыцыю якіх можна было працягнуць, а па-другое, друкарняў было вельмі мала, да таго ж яны былі вельмі дрэнна абсталяваныя і перагружаныя друкам улётак, агітацыйнай літаратуры, газет і г. д. Выпуску беларускіх падручнікаў і іншай беларускай літаратуры спадарожнічаў канфлікт, які разгарэўся паміж Паліграфічным аддзелам Савета народнай гаспадаркі БССР і Беларускім аддзелам Наркамасветы. Канфлікт суправаджаўся шэрагам узаемных скаргаў у вышэйшыя інстанцыі і саркастычнымі заўвагамі, пра што сведчыць шырокая падборка іх заархіваванай карэспандэнцыі[15]. Галоўную ролю ў гэтым канфлікце адыграў дырэктар Паліграфічнага аддзялення нейкі тав. Стронгін, які неаднаразова заяўляў, што „беларускіх кніжак ніхто ня хоча чытаць і дзеля гэтага іх няма ніякой карысьці друкаваць”[16]. Менавіта гэтым Наркамасветы пасля тлумачыў няздольнасць друкарні забяспечыць наяўнасць беларускіх шрыфтоў,

[13] Новик Е. К. Формирование кадров народного образования в Белоруссии (1917–1941 гг.). Минск, 1981. С. 62.

[14] Два гады нацыянальнай работы ў БССР. Збор прамоў, артыкулаў і рэзалюцый па нацыянальным пытаньні. Менск, 1929. С. 18.

[15] НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 129, арк. 14; ф. 42, воп. 1, спр. 63, арк. 1, 7–7адв., 14–17адв., 23–28; ф. 42, воп. 1, спр. 65, арк. 15–15адв., 19–20адв.

[16] НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 65, арк. 19.

своечасова выканаць карэктуры і набор тэксту. Да таго ж друкарня неаднаразова затрымлівала тэрміны выхаду беларускіх кніг і падручнікаў (напрыклад, падручнік па матэматыцы друкаваўся амаль год з часу канца польскай акупацыі і ўсё яшчэ не быў гатовы, выпуск беларускай граматыкі Б. Тарашкевіча і падручніка па беларускай мове Я. Лёсіка быў спынены Паліграфічным аддзелам без тлумачэння прычын і г. д.)[17]. Канфлікт, распачаты ў верасні 1920 г., працягваўся амаль год, і ў ліпені наступнага года быў скончаны загадчыкам Беларускага аддзела Наркамасветы. Ён афіцыйна заявіў: „Далей лічу лішнім весці барацьбу з паліграфаддзелам, які па пытанні беларускіх выданняў не прызнае ніякіх рашэнняў і пастановаў”[18]. У гэтай сувязі Наркамасветы звярнуўся да замежных выдавецтваў, і ўжо ў жніўні 1921 г. прадстаўнік НКА З.Жылуновіч выехаў у Нямеччыну, дзе на вылучаныя Саўнаркамам БССР сродкі ў памеры 20 млн. царскіх рублёў было надрукавана дзесяць найменняў беларускіх кніг і падручнікаў агульнай колькасцю 138 500 асобнікаў, адпраўленых пасля з Берліна ў Менск[19]. Сярод гэтых падручнікаў быў і „Лемантар” С. Некрашэвіча — адзін з першых беларускіх буквароў, надрукаваны ў Берліне ў 1922 г. Адначасова ЦВК БССР была выдзелена сума ў памеры 5 млн. рублёў для прэмій аўтарам самых лепшых падручнікаў на беларускай мове[20]. У 1922 г. было адчынена Беларускае кааператыўна-выдавецкае таварыства „Адраджэньне” (з 1924 г. пераназванае ў „Савецкую Беларусь”), якое таксама забяспечвала школьны сектар падручнікамі[21]. Аднак востры недахоп падручнікаў працягваўся аж да 1926 г., нават тады забеспячэнне падручнікамі II канцэнтра сярэдняй школы складала толькі 40%.

[17] Тамсама. Арк. 19адв.
[18] НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 63, арк. 7.
[19] НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 318, арк. 112.
[20] Сянькевіч Г. Р., Трухан А. В., Ціток З. М. Народная адукацыя і педагагічная навука ў Беларусі (1917–1941). Мінск, 1993. С. 101.
[21] НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 318, арк. 112.

Асабліва вялікім попытам карысталіся падручнікі па грамадазнаўстве[22].

Друк падручнікаў на беларускай мове запускаў своеасаблівую ланцуговую рэакцыю ў асобных школах, якія павінны былі паступова пераходзіць на беларускую мову выкладання. Так, напрыклад, з чарговай справаздачы НКА па правядзенні мерапрыемстваў нацыянальнай палітыкі ў 1924/25 навуч. годзе мы даведваемся, што „вялікую ролю ў гэтым пытанні [пераводзе школ на беларускую мову] адыгралі падручнікі. Былі дасланыя буквары ў колькасці 30 экз. на школу на беларускай мове. Прысланыя буквары адразу вызначылі мову, на якой будзе працаваць школа. Настаўнікі, якія азнаёміліся з беларускай мовай на летніх кароткатэрміновых педагагічных курсах тэарэтычна і якія часткова ведалі гутарковую беларускую мову практычна, адразу прыстасаваліся да новых падручнікаў. Пасля вельмі і вельмі хутка яны зразумелі, што навучыць грамаце на матчынай мове значна лягчэй, чым на рускай. Насельніцтва, якое атрымала бясплатна для сваіх дзяцей буквары і даведалася, што чытанкі напісаны на той мове, на якой яны размаўляюць, ахвотна пасылае сваіх дзяцей у школы”[23].

Да якой ступені палітыка беларусізацыі 20-х г. адлюстроўвалася ў школьных падручніках і якую ідэнтычнасць або нацыянальную самасвядомасць прапаноўвала яна беларускай нацыі, якая толькі фармавалася? Перад тым як непасрэдна пачаць аналіз, неабходна прыняць да ўвагі некаторыя зыходныя передумовы даследавання. Варта памятаць, што падручнікі ўяўляюць сабой спрошчаную апрацоўку матэрыялу (геаграфічнага, гістарычнага або якога-небудзь іншага). Аўтар падручніка павінен скараціць вялікі аб’ём інфармацыі і дастасаваць да выбару фактаў вызначаныя крытэрыі адбору. Адначасова падручнікі — гэта крыніцы нарматыўнага характару, г. зн. яны змяшчаюць той матэрыял, з якім неабходна азнаёміцца тэарэтычна, таму да іх неабходна падыходзіць

[22] Дадзеныя па НАРБ. Ф. 42, воп. 1, спр. 275, арк. 165.
[23] НАРБ. Ф. 701, воп. 1, спр. 4, арк. 21–22.

таксама, як і да іншых крыніц нарматыўнага характару. Варта таксама ўлічыць, што на працягу даследаванага перыяду часу школьныя падручнікі не былі абавязковымі. Спіс падручнікаў у вучэбных праграмах таго часу меў рэкамендацыйны характар. З-за недахопу вучэбнага і метадычнага матэрыялу ў гэтым спісе часта фігуравалі навуковыя даследаванні, кнігі або зборнікі, якія не прызначаліся для выкладання непасрэдна, але ўтрымлівалі фактычную інфармацыю і статыстычныя дадзеныя (напрыклад: „Адноўленая Беларусь" Я. А. Пятровіча [24] або статыстычная справаздача Саўнаркама БССР 1927 г. „Белорусская Советская Социалистическая Республика"[25] і інш.). Яны рэкамендаваліся як для навучання, так і ў якасці дадатковага ілюстрацыйнага матэрыялу. Пры гэтым настаўнік мог пакінуць за сабой права выбару вучэбнага матэрыялу, які залежаў ад шэрагу фактараў: наяўнасці або адсутнасці падручніка на дадзены момант або яго зместу. Такім чынам, выбар фактаў з саміх падручнікаў набываў адносны характар, г. зн. мы не можам паставіць непасрэдны знак роўнасці паміж тым, што пісалася ў падручніках, і тым, што выкладалася на самай справе, або тым, што ведалі вучні (студэнты). Пры разглядзе падручнікаў па гісторыі мы таксама павінны памятаць пра існаванне вызначанага кансэнсусу таго часу ў ацэнцы гістарычнага мінулага. Дадзены кансэнсус быў не выпадковы, а зыходзіў з падборкі фактаў і адзнак мінулага, характэрных для таго перыяду часу (напрыклад, падкрэслівалася значэнне гарадскога самакіравання ранняга Новага часу, Рэфармацыі, негвалтоўнага характару далучэння беларускіх земляў да Вялікага Княства Літоўскага, барацьбы з Масковіяй і інш.). У агульнай карціне нацыянальнай гісторыі, якая паўстае на старонках падручнікаў таго часу, народ разглядаецца як адвечная катэгорыя, уласцівая прымардыялістычнаму падыходу гісторыі XIX ст.

[24] Пятровіч Я. А. Адноўленая Беларусь. Менск, 1925.
[25] Белорусская Советская Социалистическая Республика. Минск, 1927.

Адзін з самых характэрных прыкладаў падручнікаў перыяду беларусізацыі 20-х г. XX ст. — „Геаграфія Беларусі" А. Смоліча, пра які ў 1926 г. у газеце „Звязда" пісалася як пра „лепшы падручнік, напісаны для вучняў нашай беларускай школы"[26]. Іншы падручнік А. Смоліча „Кароткі курс геаграфіі Беларусі" (1925) — скарочаная і дапрацаваная версія вышэйзгаданага падручніка. У „Геаграфіі" А. Смоліча Беларусь упершыню апісвалася як самастойная дзяржава. Акрамя аб'ектыўнай неабходнасці стварэння падручніка геаграфіі для „нацыянальнага руху, шырокай ракой разьліўшагося па Беларусі", сам аўтар у прадмове тлумачыць напісанне свайго падручніка наступным чынам: «Масы беларусаў, прайшоўшых расейскія ды іншыя школы, яшчэ і дагэтуль глядзяць на родны край вачамі казённых вучэбнікаў. Беларуская маладзёж даведавалася ў школе толькі аб тым, што яе Бацькаўшчына — гэта нейкае адно балота; самае важнае ў ёй — гэта хвароба „каўтун", а па-за гэтым больш няма нічога цікаўнага»[27]. „Вось-жа, калі-б тыя беларусы, што прачытаюць гэтую кнігу, зацікавіліся сваёй Бацькаўшчынаю, каб узяліся самі за глыбейшае навуковае пазнаньне яе, ці асобных праяваў яе жыцьця, каб заахвоціліся шукаць і бачыць яе арыгінальнае хараство, дык-бы аўтар лічыў сваю працу дайшоўшай мэты. А калі-б у іх хоць крыху пабольшала замілаваньня да свае роднае шматпакутнае старaны, такой простай і разам цудоўнай, навет у часы заняпаду свайго поўнай велічу і схаваных сілаў, каб яны паверылі ў яе вялікую будучыню і дзеля будучыні гэтай шчыра працаваць і змагацца пачалі, тады-б аўтар быў папраўдзе шчасьлівы"[28], — піша Смоліч. Апісаны ў падручніку матэрыял разглядаецца ў ракурсе створанай аўтарам своеасаблівай канцэпцыі *„нацыянальнага прастору"*, які чырвонай ніткай злучае ўвесь выкладзены матэрыял і абапіраецца на беларускія этнічныя межы

[26] Звязда. 1926. 8 красавіка.
[27] Смоліч А. А. Геаграфія… С. IV.
[28] Тамсама.

(Брэст — Беласток — Вільня — Смаленск — Бранск — Чарнігаў). Такі падыход, выклад і абмежаванне беларускай тэрыторыі на падставе этнічных, а не палітычных межаў БССР 1920 г., якія ўключаюць толькі пятую частку гэтай этнічнай тэрыторыі, абгрунтоўваецца аўтарам наступным чынам: „Такі палітычны падзел Беларусі не апіраецца ні на якія географічныя асновы. Межы новых дзяржаваў праведзены па жывому целу Беларусі, дзелячы краіны, якія найцясьней зьвязаны між сабою і прыроднымі і экономічнымі і культурна-гістарычнымі варункамі, ня кажучы ўжо аб тым, што ўсе яны наймацней зьвязаны з боку этнографічнага, бо ўва ўсіх пяцёх кавалках, на якія парэзана Беларуская зямля, жыве адзін і той самы Беларускі Народ”[29]. „Дзеля такое штучнасьці сучаснага палітычнага падзелу Беларусі мы ня будзем браць яго пад увагу ў дальнейшым выкладзе”[30], — падагульняе аўтар.

**Карта 1.** Этнічныя межы Беларусі. Карта з падручніка геаграфіі А. Смоліча.

[29] Тамсама. С. 7.
[30] Тамсама.

Агульны выклад матэрыялу ў „Геаграфіі Беларусі" А. Смоліча засноўваецца на ўнутранай цэласнасці, супольнасці беларускай тэрыторыі і адначасова на яе проціпастаўленні суседнім тэрыторыям, і найперш Маскоўшчыне. Гэтае проціпастаўленне (адасабленне) прысутнічае ў кожным раздзеле. Калі ў геаграфічнай частцы апісання гаворка ідзе аб прыродных, кліматычных, эканамічных і іншых адрозненнях, то ў гістарычнай частцы падручніка аўтар разглядае адрозненні, змешчаныя ў культурна-гістарычнай і этнічнай плоскасцях, якія нас будуць цікавіць у першую чаргу.

Тэма беларусаў як асобнай нацыі, разгляданая ў падручніку Смоліча, таксама засноўваецца на прынцыпе ўнутранай гамагеннасці беларускага насельніцтва і проціпастаўленні яго суседнім землям. У раздзеле, прысвечаным гутарковай мове беларусаў, Смоліч прыводзіць вельмі эмацыйную развагу, якую мы лічым неабходным працытаваць цалкам: „Ня ўсе яшчэ беларусы зразумелі, хто яны, і дзеля гэтага шмат хто, можа, і не прызнаецца, што ён беларус. Неграматны, цёмны чалавек не прызнаецца таму, што ён ня ведае, ніхто яго не навучыў; але ёсць шмат і добра вучаных беларусаў, якія прызнаюць сябе палякамі або маскоўцамі. Гэта таму, што іхнія дзяды і прадзеды, а можа й яны самі, здрадзілі свайму народу, выракліся роднае мовы і самога імя беларускага…. Ведама, гэта толькі з'ява пераходнага часу. Сьведамасьць беларуская гэтак расьце, што за некалькі гадоў вернуцца да народу беларускага ўсе яго збаламучаныя сыны"[31]. Гэты заклік вельмі характэрны для ўсяго перыяду беларусізацыі. Такія развагі знікнуць разам з яе затуханнем у 1929 г. як вельмі непажаданыя ў адносінах да камуністычнага інтэрнацыяналізму і савецкай ідэнтычнасці, якая адлюстроўвае класавую барацьбу і аддае вядучую ролю інтэрнацыянальных зносін рускай мове, у дачыненні да якой Смоліч выразна вызначае сваю пазіцыю.

[31] Тамсама. С. 124.

Падобны падыход да матэрыялу можна знайсці і ў падручніку па геаграфіі М. Азбукіна „Географія Эўропы", прызначанага для вучняў старэйшых класаў і студэнтаў. У адрозненне ад папярэдняга тэксту тут цалкам адсутнічае элемент эмацыйнасці, так характэрны для Смоліча. Аднак пазіцыі аўтараў падобныя, і ў раздзеле, прысвечаным беларускаму краю, для яго больш падрабязнага апісання Азбукін спасылаецца на „Геаграфію" Смоліча. Нягледзячы на канстатацыю таго факта, што „ў сучасны момант землі, залюдненыя беларусамі, падзелены паміж пяцьма дзяржавамі [далей ідзе пералік канкрэтных абласцей, што адносцца да розных дзяржаў. — *А. М.*]… Незалежнай Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікай з'яўляецца толькі сярэдняя частка залюдненых беларусамі зямель (113 000 кв. клм. і 4 200 000 насельн.)"[32], — у сваім тэксце аўтар аперуе шырэйшай этнічнай тэрыторыяй, межы якой ужо прыводзіліся ў папярэднім падручніку.

Як уяўлялі сабе Беларусь аўтары кніг па гісторыі, рэкамендаваных для адукацыйных праграм? У. Ігнатоўскі, аўтар „Кароткага нарыса гісторыі Беларусі" і „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця" — падручнікаў, якія атрымалі ў метадычным дапаможніку для настаўнікаў сярэдняй школы 1927 г. ганаровую зорачку „самых неабходных" падручнікаў[33] — адзначае, што „сучасная Савецкая Беларусь ня ўключае ў свой склад усёй этнографічнай Беларусі", і праводзіць мяжу беларускай тэрыторыі зыходзячы з шырэйшых этнаграфічных і эканамічных паказчыкаў (нягледзячы на тое, што 4-е выданне „Кароткага нарыса" 1926 г. уключала ў сябе і звесткі пра першае ўзбуйненне БССР)[34]. Аўтар разглядае гістарычныя падзеі, якія адбываліся на этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, памерам амаль 300 тыс. км кв і насельніцтвам 10 млн. жыхароў. Такі падыход Ігнатоўскага ў прынцыпе аналагічны пазіцыі

32 Азбукін М. Географія… С. 263.
33 Новыя праграмы для II канцэнтру сямёхгадовай працоўнай школы // Асьвета. 1927. № 5–6. С. 36.
34 Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс… С. 7–8.

У. Пічэты, аўтара „Гісторыі Беларусі" (1924). Гэтая кніга таксама рэкамендавалася і выкарыстоўвалася ў якасці падручніка для школ, тэхнікумаў і ВНУ ў 20-я г. мінулага стагоддзя. У сваёй „Гісторыі" да беларускіх земляў Пічэта адносіць полацкія, віцебскія, смаленскія і менскія землі. Пад Літвой гісторык разумее сённяшнюю тэрыторыю заходняй Беларусі (Брэстчына, Гродзеншчына) і Віленшчыну, што вынікае з агульнага кантэксту яго даследавання. Такі падыход, дзе Беларусь разглядаецца найперш у яе этнічна-эканамічных межах, што выходзяць за рамкі ўсталяваных на той момант палітычных межаў БССР, характэрны і для рэкамендаванага для навучання гісторыка-эканамічнага даследавання „Белоруссия. Территория, население, экономика. Важнейшие моменты истории" (1926), напісанага Ігнатоўскім у суаўтарстве са Смолічам. Акрамя таго, розніца паміж Беларуссю ў яе этнаграфічных рамках і палітычнай адукацыяй БССР улічваецца і ў школьных планах выкладання геаграфіі БССР, калі ў пагадзінных заданнях вучням або студэнтам прапаноўваецца апісаць склад насельніцтва „этнаграфічнай Беларусі і БССР" і намаляваць у якасці хатняга задання адпаведныя карты[35].

Неад'емная частка геаграфічнага апісання асобных рэгіёнаў у „Геаграфіі" А. Смоліча — апісанне іх гісторыі. Да галоўных беларускіх культурна-гістарычных цэнтраў Смоліч адносіць Полацк і Вільню. У Полацку, які з'яўляецца, па меркаванні аўтара, своеасаблівым сімвалічным цэнтрам усёй беларускай гісторыі, знаходзяцца вытокі працэсу „стварэньня незалежнае вялікае дзяржавы"[36]. Полацк, які ляжыць на старажытным рачным шляху з варагаў у грэкі, перажыў за ўсю сваю гісторыю нямала ліхіх часоў, але самымі цяжкімі былі маскоў-

[35] Новыя праграмы для II канцэнтру сямёхгадовай працоўнай школы // Асьвета. 1927. № 5–6. С. 42–43; Праект праграм прыродазнаўчага цыклю для пэдагагічных тэхнікумаў БССР // Асьвета. 1927. № 4. С. 122; Дэталізаваныя праграмы I–IV г. г. навучаньня сямёхгадовай працоўнай школы. 2-е выд., выпр. Менск, 1927. С. 9–10, 41–42.

[36] Смоліч А. А. Геаграфія… С. 207.

скія напады. Аўтар згадвае масавыя пакаранні смерцю яўрэяў Іванам Жахлівым у 1563 г. і забойствы манахаўбазыльянаў пад час візіту ў Полацк Пятра І. Культурнаму заняпаду горада ў XIX ст. у значнай ступені спрыяла закрыццё рускімі ўладамі езуіцкай Полацкай Акадэміі ў 1820 г., уся маёмасць якой (бібліятэка, рэдкія рукапісы, выдавецтва, фізічны кабінет і г. д.) была вывезена ў Маскву і Пецярбург. „Пасьля разгрому Акадэміі Полацк зрабіўся самым звычайным ціхім і нязначным паветавым местам, якім і застаецца дагэтуль”[37], — канстатуе Смоліч. „Места гордае Рагнеды, якая не хацела разуць ногі кіеўскаму князю, места Усяслава Чарадзея, найслаўнейшага з князёў беларускіх, места вялікае багамоліцы і кніжніцы сьв. Еўфрасіньні ды слаўнага вучонага Францішка Скарыны — заснула на доўгія вякі.… Як заціх і памёр Полацк, так заціхла і памёрла жыцьцё на ўсей Беларусі. Калі-ж яно адродзіцца і Беларусь стане на свае ногі, пэўне, зусім іначай будзе выглядаць і Полацк”[38].

Полацкаму княству перыяду IX–XIII ст. адводзіцца значная ўвага і ў гістарычнай працы Ігнатоўскага. Яго росквіт звязваецца з кіраваннем Усяслава Чарадзея (1044–1101), якому аўтар прысвячае самастойны раздзел. У „Гісторыі Беларусі” Пічэты, акрамя Полацкага (і Турава-Пінскага) княстваў, значная ўвага аднычасова аддаецца Смаленскаму княству, якое Пічэта лічыць цэнтрам беларускага культурнага і эканамічнага развіцця XI–XIII ст. Вельмі незвычайны для гістарычных кніг таго часу самастойны раздзел, прысвечаны сярэднявечным інтэлектуалам XI–XIII ст., такім, як, напрыклад, Клімент Смаляціч, Аўраам Смаленскі, Кірыла Тураўскі і інш. Такая глеба для інтэлектуальнага развіцця была падрыхтавана культурнымі і гандлёвымі адносінамі з Захадам, што служыў крыніцай „свежае крытычнае думкі, якая гэтак выразна выступае ў дзейнасці галоўных вучоных прадстаўнікоў беларускае асьветы”[39]. У. Пічэта лічыць,

[37] Тамсама. С. 211.
[38] Тамсама. С. 212.
[39] Тамсама. С. 100.

што ў адрозненне ад уплыву Візантыі, які датычыў найперш вярхоў інтэлектуальнай эліты, якая мела доступ да багаслоўскай літаратуры візантыйскага паходжання, адносіны з Захадам „мелі надта выдатны ўплыў на характар і звычаі смальнян, на развіццё культуры навогул”[40]. Пасля прывядзення шматлікіх прыкладаў (параўнанні збораў законаў і г. д.[41]), у заключнай частцы раздзела аўтар выказвае сваё сімвалічнае ўяўленне, звязанае з воссю Усход — Захад, сцвярджаючы, што „для смальнян Захад з’яўляецца сімвалам культуры і асветы. Усход жа — сімвал гвалту і барбарства”[42].

Тэматыка Вялікага Княства Літоўскага бясспрэчна займае адно з галоўных месцаў у гістарычных даследаваннях перыяду беларусізацыі. І аўтары разгляданых падручнікаў таксама аддаюць ВКЛ вялікую ўвагу. Як У. Ігнатоўскі, так і У. Пічэта падкрэсліваюць літоўска-беларускі характар княства. Пічэта лічыць, што працэс аб’яднання беларускіх і літоўскіх земляў не насіў характару заваёвы, паколькі літоўскія вялікія князі абмяжоўваліся „толькі павярховым прызнаннем сваёй улады”, а „ва ўнутраным кіраўніцтве далучаныя землі захоўвалі сваю самастойнасць”[43]. Па меркаванні Пічэты, „Літоўска-Беларуская дзяржава выяўляла сабой федэрацыю краін, звязаных з цэнтрам вельмі нетрывалымі вузламі”[44]. Адначасова гісторык гаворыць пра тое, што этнічныя літоўцы ў княстве былі меншасцю, „распыленай у моры беларускага народа”[45], што дае яму падставу называць гэтае дзяржаўнае фармаванне „Літоўска-Беларускай дзяржавай”. У раздзеле, прысвечаным культуры таго часу, У. Пічэта падкрэслівае, што „Літоўскае

[40] Тамсама. С. 101.

[41] Пічэта згадвае, напрыклад, пра існаванне ў Смаленскім княстве цэркваў неправаслаўных канфесій і рэлігійную талерантнасць насельніцтва, чужаземцы карысталіся ў Смаленску вялікім аўтарытэтам і г. д.

[42] Пічэта У. І. Гісторыя... С. 101.

[43] Тамсама. С. 113.

[44] Тамсама. С. 114.

[45] Тамсама.

Вялікае княства ў культурных адносінах з'яўлялася беларускім"[46]. Аўтар абгрунтоўвае сваё сцверджанне тым, што толькі беларуская мова мела статус дзяржаўнай, паколькі на ёй пісаліся „гаспадарскія лісты, граматы, соймавыя ўхвалы"[47], што беларуская мова „ўжывалася ў гаспадарскай канцылярыі і ў судаўніцтве" і на беларускай жа пісаліся „беларускія летапісы, хронікі, жыцці святых, свецкія белетрыстычныя творы"[48]. Беларуская культура дамінавала ва ўсіх грамадскіх пластах ВКЛ. Ля вытокаў беларускага Рэнесансу XVI ст. знаходзіліся, па меркаванні гісторыка, інтэнсіўныя гандлёвыя кантакты з заходняй Еўропай, якія прывялі да ўзнікнення грамадскага пласта (багатыя гараджане, землеўладальнікі і г. д.), здольнага ўспрымаць новыя культурныя ўплывы. Таксама, як і заходнееўрапейскі Рэнесанс, „беларускі нацыянальна-культурны рух меў індывідуалістычны характар"[49]. Гэтыя індывідуалістычныя тэндэнцыі знайшлі сваё адлюстраванне як у літоўска-беларускім заканадаўстве (напр., да галоўных палажэнняў Статута 1529 г. адносілася „абарона правоў шляхетнае асобы і індывідуальная адказнасць за праступленні"[50]), так і ў пашырэнні Рэфармацыі, узнікненні беларускай літаратурнай мовы, літаратуры і „фармаваньні новай беларускай інтэлігенцыі"[51]. Важным паказчыкам узроўню беларускага культурнага развіцця таго часу было таксама кнігадрукаванне, пашырэнне якога зрабіла даступным перакладзенае на нацыянальную мову Святое Пісанне і іншую рэлігійную літаратуру.

Погляд У. Ігнатоўскага на дадзеную праблематыку падобны. Пра ВКЛ аўтар гаворыць як пра дзяржаву Літоўска-Беларускую, „гаспадарства з літоўскаю ўладаю і полацкаю культурна-экономічнаю асноваю"[52].

[46] Тамсама. С. 153–154.
[47] Тамсама. С. 153.
[48] Тамсама. С. 154.
[49] Тамсама. С. 169.
[50] Тамсама. С. 152.
[51] Тамсама. С. 169.
[52] Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс… С. 62.

У новую дзяржаву, створаную „больш шляхам згоды, чымся шляхам уціску і вайны”[53], далучаныя полацкія землі прынеслі свой больш высокі культурны ўзровень, мову і грамадскія структуры. У якасці прыкладу Ігнатоўскі прыводзіць напісанае на беларускай мове заканадаўства, кнігадрукаванне і г. д., прычым дадае, што беларуская мова «была ў той час ня „мужыцкай” мовай нашага часу, а мовай культурнай і дзяржаўнай»[54]. Пры гэтым у агульнай дзяржаве „абедзьве нацыі жылі ў згодзе. У дзяржаве пануе шырокая верацярплівасьць”[55]. Аўтар падкрэслівае, што новае кіраванне літоўскіх князёў не парушала ўсталяванага на далучаных імі беларускіх землях грамадска-прававога парадку, традыцый і законаў, а наадварот, забяспечвала на ўзроўні закону іх недатыкальнасць. „Ня тое мы будзем бачыць на ўсходзе”, — характарызуе Ігнатоўскі падобны працэс узнікнення Маскоўскага княства. „Маскоўскае самаўладзтва сваёй цяжкаю рукою” будзе „паступова і няўхільна” касаваць „асабісты твар, свае старажытныя звычаі і традыцыі” кожнай воласці, вымушанай увайсці ў склад гэтага дзяржаўнага ўтварэння. Тут будуць пастаянна расці „моцнае самаўладзтва маскоўскіх гаспадароў, каторае потым дасьць цьвёрды грунт для бязупыннай сваволі”[56]. Такім чынам, тут зноў паўтараецца пазіцыя Пічэты, але пададзеная ў больш выразнай форме, а менавіта: вялікакняскае дзяржаўнае ўтварэнне, якое мае характар „федэрацыі краін”, супрацьпастаўляецца маскоўскай „цэнтралістычнай дзяржаве з абсалютнаю ўладаю манарха”[57]. Такая ж інтэрпрэтацыя разам з вылучэннем переваґі беларускай культуры адлюстравана і ў кароткім даследаванні „Белоруссия. Территория, население, экономика. Важнейшие моменты истории”[58]. Адначасова з гэтым у падручніках неаднаразова гаво-

[53] Тамсама. С. 81.
[54] Тамсама. С. 100.
[55] Тамсама. С. 81.
[56] Тамсама. С. 82.
[57] Тамсама. С. 83.
[58] Игнатовский В., Смолич А. Белоруссия… С. 28.

рыцца пра інтэграцыю літоўскага насельніцтва ў беларускае асяроддзе ў новай дзяржаве. Прычым беларускі і літоўскі элементы, нягледзячы на значнае адрозненне, не супрацьпастаўляюцца так выразна, як гэта робіцца аўтарамі падручнікаў у дачыненні да элемента рускага. Тут відавочная прысутнасць больш высокай пагрозы русіфікацыі, а ў гэтай сувязі прысутнічае і большае проціпастаўленне ў дачыненні да Масковіі.

У „Кароткім нарысе" У. Ігнатоўскі неаднаразова падкрэслівае, што характар кіравання літоўска-беларускага дзяржаўнага дзеяча той пары значна адрозніваецца ад кіравання гаспадара Вялікага Княства Маскоўскага, „дзе ў гэты час вырастала і ўзмацнялася тое самаўладзтва, якое ня прымала на сябе аніякіх юрыдычных абавязкаў і ня лічылася з правамі станаў гаспадарства"[59]. Аналізуючы і параўноўваючы законы абедзвюх дзяржаў, аўтар прыходзіць да высновы, што ў літоўска-беларускім зборы законаў старажытныя славянскія традыцыі захаваліся лепш, чым у зборы маскоўскіх законаў. Адначасова беларускі збор законаў старэйшы і не нясе на сабе такога моцнага адбітку мангольскай традыцыі, якая так „значна зацямняе стараруcкую традыцыю старажытнай Рускай Праўды"[60].

Пэўныя фрагменты з 1-га і 3-га Статутаў ВКЛ прыводзяцца ў якасці тэкстаў для чытання ў „Выпісах з беларускай літэратуры" У. Дзяржынскага (1926), — падручніку беларускай літаратуры для вучняў старэйшых класаў і студэнтаў, як „багацейшая крыніца нашага слоўнага матэрыялу, вельмі каштоўная ў літаратурным значэньні", а таксама як „паказ вялікай гібкасьці, багацьця й наогул культурнасьці нашае старой літаратурнай мовы"[61]. Адначасова ў падручніку прыводзяцца ўрыўкі прадмовы да Статута падканцлера ВКЛ Льва Сапегі, „тыповага прадстаўніка беларускае інтэлігенцыі з вялікіх паноў Залатой пары беларускае культуры", а таксама фраг-

[59] Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс… С. 98.
[60] Тамсама. С. 99.
[61] Гарэцкі М., Дзяржынскі У., Каравай П. Выпісы… С. 251, 255–258.

менты беларускай рэлігійнай літаратуры Ф. Скарыны, В. Цяпінскага і інш. У іншым падручніку таго жа прадмета — у „Гісторыі беларускае літаратуры” М. Гарэцкага (1921), які змяшчае гістарычны кантэкст тэкстаў, прыведзеных у „Выпісах”, таксама аддаецца вялікая ўвага перыяду Вялікага Княства, толькі ў літаратурных і моўных адносінах. М. Гарэцкі таксама, як Пічэта і Ігнатоўскі, гаворыць пра негвалтоўны характар зліцця беларускіх і літоўскіх земляў і перавагу ў ВКЛ беларускага культурнага і моўнага элементаў. Кажучы пра паноўнае становішча беларускай мовы, прызнанай афіцыйнай мовай дзяржаўнага справаводства яшчэ пад час кіравання Альгерда Гедымінавіча (1345–1377), аўтар спасылаецца на Статут ВКЛ. На яго думку, гэта „тая несакрушная скаліна, той духоўны памятнік, які найлепей сьведчыць аб славе і магутнасьці нашае мовы”[62].

У адрозненне ад Пічэты, які аналізаваў войны паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам коратка і фактаграфічна, Ігнатоўскі ў „Кароткім нарысе” вялікую ўвагу аддае сумніўнай легітымнасці правоў, часта прад’яўляных маскоўскімі князямі на беларускія землі, якія лічылі, што „ўсе землі рускіх славян ёсьць яго [Ігнатоўскі тут прыводзіць прыклад Івана III. — *А. М.*] вотчына”[63]. Так аўтар апісвае, напрыклад, уварванне Івана III Маскоўскага, які распачаў у 1492 г. вайну за «сваю беларускую „вотчыну”, якой ніколі ня бачыў ні ён, ні яго бацькі»[64]. Барацьба за неіснуючую „вотчыну” маскоўскіх князёў працягваецца амаль 150 гадоў, і „Бацькаўшчына наша руйнуецца, палі зарастаюць лесам, прасякаюць крывёю”. На завяршэнне раздзела Ігнатоўскі піша: «Дорага каштавала беларускаму працоўнаму народу імперыялістычная думка маскоўскіх гаспадароў, што Беларусь ёсьць іх „вотчына”»[65].

Неабходна адзначыць, што, у адрозненне ад сучасных даследчыкаў, аўтары аналізаваных намі падручнікаў

[62] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае… С. 38.
[63] Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс… С. 94.
[64] Тамсама.
[65] Тамсама. С. 95–96.

звужаюць адносіны з Масквой да адносін *Вялікае Княства Літоўскае* (г. зн. беларуска-літоўская дзяржава) — *Масква*, пра Польшчу таго перыяду не згадваюць. Хоць Ігнатоўскі і Пічэта і аддаюць пэўную ўвагу адносінам з Польшчай як з суседняй дзяржавай, тым не менш яны не выходзяць за вузкія ўнутрыпалітычныя рамкі уніі 1385 г. і шэрагу зноў заключаных уній на працягу XV ст. Па меркаванні Ігнатоўскага, першая унія 1385 г. „была зроблена больш на паперы, чым у жыцьці”[66], а наступныя уніі гісторыкі разглядаюць з пункту гледжання ўнутраных палітычных і нацыянальных спрэчак на фоне нявысветленых прэтэнзій і неадназначнага прававога і гаспадарчага ўладкавання двух дзяржаўных утварэнняў. Толькі пасля 1569 г., г. зн. пасля заключэння Люблінскай уніі, у Рэчы Паспалітай Літва і Беларусь, па меркаванні гісторыкаў, страцяць сваю культурную і палітычную незалежнасць, а ў гістарычнай інтэрпрэтацыі мінулага, уключаючы яе адлюстраванне ў падручніках беларускай літаратуры і геаграфіі, Польшча ўжо не будзе выконваць нейтральнай ролі, а разам з Масквой будзе тым *другім элементам*, па стаўленні да якога будзе праводзіць актыўнае размежаванне беларуская гісторыя. Да гэтага моманту, г. зн. на працягу XV–XIV ст., у знешнепалітычных адносінах з Масквой або з Ордэнам нямецкіх рыцараў ВКЛ фігуруе выключна як літоўска-беларуская дзяржава. Такім чынам, вага беларуска-літоўскага элемента настолькі вялікая, што польскі складнік у гэтых адносінах знікае.

Вялікая ўвага ў гістарычнай інтэрпрэтацыі аналізаванага перыяду аддаецца іншым народам, а менавіта немцам, прадстаўленым Ордэнам нямецкіх рыцараў. Ігнатоўскі і Пічэта разглядаюць барацьбу або перамір’е з Ордэнам пачынаючы з полацкага перыяду. Абодва гісторыкі сыходзяцца ў меркаванні, што барацьба з нямецкімі рыцарамі стала прычынай кансалідацыі літоўскіх плямёнаў і наступнага неаднаразовага далучэння беларускіх земляў да Вялікага Княства, у якіх

[66] Тамсама. С. 90.

Гедымін (1316–1341) „бачыў новую сілу дзеля барацьбы з тэўтона-лівонскімі рыцарамі"[67]. Апісваючы бітву пад Грунвальдам у 1410 г., Пічэта гаворыць пра „перамогу літоўска-беларускага войска", а таксама пра тое, что „беларускія палкі, асабліва смальняне, былі прычынай удачы гэтай бітвы"[68]. Ігнатоўскі згадвае пра ўдзел у бітве „літоўска-беларускага гаспадара Вітаўта, разам з польскім каралём Ягайлам" і „добра вядомага чэскага рыцара Жыжкі, будучага нацыянальнага правадыра і дзеяча часу гусыцкіх войн", тым не менш пры апісанні самой бітвы прытрымліваецца згаданай рыторыкі беларуска-літоўскай дзяржавы. А пасля гэтай перамогі, як адзначае Ігнатоўскі, „пачынаецца відны пералом у бесьперарыўным змаганьні Літоўска-Беларускага гаспадарства з нямецкімі ордэнамі"[69].

Апісанне Віленшчыны і Вільні — „культурнага і эканамічнага цэнтра ўсяе Беларусі й Літвы, сталіцы вялікіх князёў літоўска-беларускіх, найбольшага места на ўсім прасторы Беларусі"[70] — пачынаецца ў падручніку Смоліча з этнічнага пытання. Перавагу беларускага насельніцтва на Віленшчыне Смоліч тлумачыць працэсам беларускай каланізацыі, якая ішла з усходніх беларускіх земляў (Смоліч спасылаецца тут на выданне „Starożytna Polska" Баліньскага і Ліпіньскага) у часы ВКЛ і асабліва ў XVI–XVII ст. Потым на працягу гэтага перыяду часу этнічныя літоўцы пераймалі беларускую мову і культурныя традыцыі як даміноўныя: „У рэзультаце абодвых успомненых працэсаў беларускае насяленьне акружыла Вільню, зрабіла яе беларускім местам і пашырылася значна далей на захад"[71]. Больш ранні перыяд гісторыі Вільні Смоліч таксама звязвае з беларускім элементам і гаворыць у гэтай сувязі пра тое, што ў 1128 г. жыхары Вільні прынялі за свайго князя аднаго з беларускіх полацкіх князёў Расціслава (унука Усяслава Чарадзея).

67 Пічэта У. І. Гісторыя… С. 109.
68 Тамсама. С. 121.
69 Ігнатоўскі У. М. Кароткі нарыс… С. 85–86.
70 Смоліч А. А. Геаграфія… С. 221.
71 Тамсама. С. 220.

„Гэта дазваляе нам лічыць, што Вільня ад самага пачатку была беларускім местам. Пасьля, калі вялікія князі літоўскія перанесьлі сюды сваю сталіцу і абкружылі сябе беларускім баярствам, Вільня перахавала свой беларускі характар. Ліцьвіны займалі толькі паўночную частку гораду, каля Замкавай гары, каторая і звалася Літоўская палавіца. Беларуская палавіца займала паўднёвую частку Вільні, пад Вострую Браму”[72], — піша Смоліч і дадае: „…усе культурныя і тэхнічныя сілы йшлі ў Вільню найбольш з Беларусі, і Вільня, дзеля таго, мела характар чыста-беларускага места”[73]. Аб'ём гістарычнай часткі падручніка па геаграфіі не дазваляе падрабязна апісаць працэс гістарычнага развіцця, і таму аўтар спыняецца толькі на найважнейшых яго момантах пачынаючы з Сярэднявечча і заканчваючы цяперашнім часам. У сувязі з беларускім нацыянальным рухам Смоліч згадвае Віленскі ўніверсітэт, дзе „выгадаваліся шырокія кадры краёвае інтэлігенцыі, якая кінула першыя іскры беларускага адраджэньня”. Аднак універсітэцкая традыцыя была ў 1832 г. перапынена рускімі ўладамі. А потым і Каталіцкая духоўная акадэмія — былы тэалагічны факультэт універсітэта — перанесена ў 1849 г. у Пецярбург. Пад час кіравання Мікалая I большасць школ у Беларусі зачынілі, а самыя лепшыя з іх разам з маёмасцю таксама перанеслі ў Масковію. «У будынках універсітэту і іншых школ паадчыняліся расейскія сярэднія школы. У палацах вяльможаў, у каталіцкіх манастырох расейскі урад зрабіў вастрогі, казармы. З эўропэйскага культурнага цэнтру, якому дзіваваліся чужаземцы, маскоўцы стараліся зрабіць звычайны „губэрнскі горад”, поўны казармаў і чыноўнікаў»[74]. Пачынаючы з XVII ст. насельніцтва Вільні да значнай ступені паланізавалася: „Патомкі беларусаў і ліцьвіноў часта ўжо не разумеюць роднае мовы і шчыра лічуць сябе палякамі. Гэткім парадкам **з беларускае Вільні сталася Вільня польска-**

[72] Тамсама. С. 222.
[73] Тамсама. С. 223.
[74] Тамсама.

**маскоўскаю** [вылучана Смолічам. — *А. М.*]"[75]. Аднак з нарастальнай хваляй нацыянальнага адраджэння літоўцы і беларусы паступова адваёўвалі свае пазіцыі ў палякаў, масквічы ж былі толькі „наносным элемэнтам і з выхадам расейскіх войскаў з Вільні счэзлі"[76]. Цэнтрам гэтага беларускага руху была Вільня — горад, у якім друкаваліся першыя беларускія кнігі і газеты, адчынены першы беларускі тэатр, узніклі навуковыя таварыствы і беларускія школы. Адначасова Смоліч падкрэслівае значэнне Вільні як цэнтра культуры і адукацыі літоўцаў і яўрэяў, што складалі амаль палову яго насельніцтва. У сувязі з Вільняй згадвае аўтар і пра самы знакаміты абраз Вастрабрамскай Божай маці, пакланіцца якому ішлі паломнікі з ўсёй Беларусі.

Трэцім важным беларускім цэнтрам А. Смоліч лічыць Менск, як сталіцу БССР і як вялікі культурны і гандлёва-эканамічны цэнтр рэспублікі. Нягледзячы на спусташальную вайну са шведамі, Менск XVII–XVIII ст. мог пахваліцца актыўнай культурнай дзейнасцю каталіцкіх кляштараў, школ і друкарняў, якія дзейнічалі пры іх, адначасова была развіта „культурная і нацыянальная дзейнасць праваслаўных брацтваў"[77]. Самы вялікі заняпад, перажываны горадам, які карыстаўся калісьці магдэбургскім правам, Смоліч звязвае з далучэннем Менска ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай 1772–1773 г. да Расіі, пасля чаго „менскі гандаль стаў чэзнуць". Адначасова прыйшло да заняпаду і культурнае жыццё горада, замест якога запанавала „казённая прасьвета і самадурства губэрнатараў. У гэтым часе было зьнішчана шмат памятак старое архітэктуры; улада расейская старалася зраўнаваць з зямлёю ўсе, што толькі прыпамінала аб мінуўшчыне Менску, аб яго самабытнасьці, не шкадуючы нават і праваслаўных цэркваў"[78].

[75] Тамсама.
[76] Тамсама. С. 224. Але аўтар не называе канкрэтны час, калі рускія войскі пакінулі Вільню.
[77] Тамсама. С. 240.
[78] Тамсама.

Разам з такімі сімвалічнымі цэнтрамі беларускай гісторыі, як Полацк, Вільня і іншыя гарады, вялікую ўвагу ў тэксце „Геаграфіі Беларусі" А. Смоліч аддае і ключавым асобам беларускай гісторыі. Гэта згаданы вышэй Усяслаў Чарадзей, св. Еўфрасіння, Францыск Скарына, беларускія роды Радзівілаў, Алелькавічаў і інш. Можна сцвярджаць, што ўсе аўтары аналізаваных намі падручнікаў сыходзяцца ў іх пераліку і ацэнцы.

У „Географіі Эўропы" М. Азбукін пераймае канцэпцыю Беларуска-Літоўскай дзяржавы Пічэты і Ігнатоўскага. Насельніцтва заходнебеларускага рэгіёна (Вільня — Беласток) аўтар лічыць больш культурным і свядомым „дзякуючы блізкасьці да Заходняй Эўропы... Тут раней за ўсё разьвілася беларуская культура, тутжа распачалося і беларускае адраджэньне"[79]. Азбукін, як і Ігнатоўскі, лічыць Вільню месцам „нацыянальнай і рэлігійнай сьвятыні", у якім знаходзіцца не толькі згаданы вышэй абраз Вастрабрамскай Божай маці, ушанаваны праваслаўнымі і каталікамі, але і цэнтр беларускага культурнага руху. Важным з'яўляецца яго абгрунтаванне Менска як сталіцы Беларусі: „Лежачы ў асяродку Беларускай зямлі, Менск натуральна зрабіўся галоўным асяродкам беларускага нацыянальнага руху і найважнейшым культурным цэнтрам Беларусі. Вільня магла быць сталіцай толькі аб'яднанай Літоўска-Беларускай дзяржавы; Менск — чыста беларуская сталіца, найболей прасякнёная беларускім духам"[80].

Важнае месца ва ўсіх аналізаваных намі падручніках займае пытанне этнагенезу беларусаў. У „Кароткім нарысе гісторыі Беларусі" У. Ігнатоўскі, як адзін з першых беларускіх гісторыкаў (першае выданне „Нарыса" датуецца 1919 г.), называе беларускі тып „прадстаўнікам самага чыстага этнографічнага тыпу ўсходнеславянскага рускага племя"[81]. Гэтае сцверджанне засноўваецца на этнаграфічных працах А. Кіркора, П. Бяссонова, І. Насо-

[79] Азбукін М. Географія... С. 279.
[80] Тамсама. С. 283.
[81] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс... С. 10.

віча, Е. Раманава і на археалагічных даследаваннях таго часу[82]. Украінцы і велікарусы не маглі захаваць свой „старажытны этнографічны тып”, бо шмат стагоддзяў пражылі пад „турка-мангольскім панаваньнем” і яго этнаграфічным уплывам, у той час як „турка-мангольская лявіна да іх [беларусаў] не дакацілася” і „этнографічнага ўплыву мангольскай расы на беларуса не было. Калі і прызнаць этнографічны ўплыў літоўскі і польскі, то гэты ўплыў быў невялікі; апроч таго, літвіны — такія-ж арыйцы, як і беларусы, а палякі — славяне, толькі заходняй галіны”[83]. У „Гісторыі Беларусі” У. Пічэта выказваецца па гэтай праблеме не так выразна і разглядае яе ў шырэйшым кантэксце. Ён лічыць, што толькі паўночна-заходняя група славян (крывічы, радзімічы, дрыгавічы) прыняла ўдзел у фармаванні ядра беларускага этнасу. Паўднёвая ж і паўднёва-ўсходняя галіны славян далі пачатак рускаму і ўкраінскаму народам[84]. У працах абодвух гісторыкаў можна бачыць розныя акцэнты, па-рознаму расстаўленыя імі ў адной і той жа праблематыцы, але яднае іх адрозненне беларускага этнасу ад украінскага і рускага. Сёння цікавасць уяўляе той факт, што такая канцэпцыя прысутнічае нават у падручніку „Гісторыя беларускае літаратуры” М. Гарэцкага, дзе аўтар піша, што плямёны — родапачынальнікі беларускага народа не адрозніваліся адзін ад аднаго мовай, рэлігійнымі і прававымі ўяўленнямі, але „але ўсім тым надта розьніліся ад пляменьняў, з якіх утварыліся маскоўскі і ўкраінскі народы”[85].

У „Геаграфіі Беларусі” Смоліч таксама пераймае канцэпцыю пра беларусаў — прадстаўнікаў самага чыстага славянскага тыпу. Усходнія маскоўскія суседзі, або народ велікарускі „вырас на фінскім грунце, паўстаў ад зьмяшаньня… з манголамі-фінамі”[86]. Гісторыя ж беларусаў не ведала такіх шырокіх уварванняў неславянскіх

[82] Тамсама. С. 9.
[83] Тамсама. С. 10.
[84] Пічэта У. І. Гісторыя… С. 33, 35, 40.
[85] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае… С. 3.
[86] Смоліч А. А. Геаграфія… С. 126.

плямёнаў, паколькі непраходныя гушчары лясоў і балоты служылі перашкодай на шляху качэўнікаў і „беларус ня мае ў сабе тюркскае (гэтаксама мангольскае) крыві, якая налажыла гэткі моцны знак на тып украінца”[87]. Частковае змешванне беларускіх плямёнаў з балтамі адбывалася на захадзе беларускіх земляў, аднак балтыйскія плямёны славянам блізкія. Фізіягнамічны і фізічны тып беларуса ў гэтай сувязі супрацьпастаўляецца Смолічам тыпу рускаму (маскоўскаму). Адрозненне выяўляецца як у фізічным абліччы беларуса (больш далікатным), так асабліва ў рысах яго твару, „тонкіх і мяккіх, як у праўдзівага эўропэйца і славяніна”[88]. Такі ж падыход да пытання этнагенезу характэрны і для М. Азбукіна[89].

Як Азбукін, так і Смоліч сыходзяцца на тым меркаванні, што беларускія народныя звычаі і традыцыі захаваліся ў найбольшай чысціні. Беларуская міфалогія надзвычай багатая, а „беларуская народная лірыка не мае роўных сабе сярод славянскіх лірык”[90].

Апісанне беларускага нацыянальнага касцюма Смоліч завяршае канстатаваннем несуцяшальнай сітуацыі: „Беларуская нацыянальная вопратка мае ў сабе шмат прыгожага; няма каму, аднак, у нас на вёсцы яе належна цаніць. Места і салдатчына прышчапляюць вёсцы грубы смак да меставых модаў; да гэтага яшчэ далучаецца дзешавізна фабрычных тканін, раўнуючы іх да самадзелкавых і дзякуючы ўсім гэтым прычынам нацыянальная вопратка шмат дзе пачала гінуць... Інтэлігенцыя вясковая ў нас, на жаль, саўсім нядбае аб нацыянальнай вопратцы і навет, наадварот, паглядае часта на яе звысока, сама стараючыся пераймаць панскія моды і панскія звычаі. Ўсё-ж шмат дзе вопратка гэтая дажыла да нашага часу ў поўнай чыстаце і цяпер, калі настроі беларускага грамадзянства значна зьмяніліся ў нацыянальным кірунку, пэўна, не загіне”[91].

87 Тамсама. С. 127.
88 Тамсама.
89 Азбукін М. Географія... С. 241, 261.
90 Тамсама. С. 261.
91 Смоліч А. А. Геаграфія... С. 129.

У „Геаграфіі Беларусі” апісваецца і нацыянальны характар беларусаў (гасціннасць, трываласць у працы, талерантнасць, міралюбівасць і інш.), які часта быў, па меркаванні Смоліча, чыннікам залежнага становішча беларусаў у гісторыі. Варта адзначыць, што характар беларуса ізноў жа найлепш выяўляецца на фоне яго супастаўлення з прыведзенымі ў тэксце характарамі суседніх народаў: „Беларус ня мае ў характары тае рызыкі, адкрытае і грубае прастаты, характэрнае для маскоўца; ня мае, йзноў-жа, лёгкадумнасьці, сьвецкасьці і самахвальства, якімі гэтак часта вызначаюцца палякі. І ад украінца, з якім беларус мае наагул шмат супольнага, адзначаецца ўсё-ж ён сваім шчырэйшым сэрцам, ды можа, крыху большаю рухавасьцяю”[92]. У цэлым для гэтага этнаграфічнага раздзела характэрна класічная пазіцыя большасці цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх нацыянальных рухаў, паводле якой самыя выразныя і чыстыя нацыянальныя рысы захаваліся найперш у вясковым асяроддзі. Менавіта таму „характарызуючы беларускую нацыянальнасьць, мы будзем гаварыць перад усім аб сялянстве”[93], — заключае Смоліч. На чале беларускай (г. зн. найперш сельскай) сям’і стаіць гаспадар, аднак яго ўлада абмежаваная і рашэнні прымаюцца калектыўна. У беларускай сям’і „саўсім няма тога дэспотызму, які пануе ў маскоўскай сялянскай сям’і ды наогуле на ўсходзе”[94]. Жанчыны з’яўляюцца раўнапраўнымі членамі сям’і і нават маюць уласныя фінансавыя сродкі, атрыманыя ад продажу сваіх прадуктаў[95]. Для большай нагляднасці параўнання Азбукін дадае: „У сям’і вялікарус адзначаецца дэспотызмам: бацька з’яўляецца поўным гаспадаром сям’і; муж — гаспадаром і ўласьнікам жонкі”[96].

На прыкладзе беларускай сельскай сям’і дэманструюцца і прававыя асаблівасці беларускай традыцыйнай формы землеўладання. Яна аднолькавая амаль на ўсёй

[92] Тамсама. С. 134–135.
[93] Тамсама. С. 124.
[94] Тамсама. С. 138.
[95] Тамсама.
[96] Азбукін М. Географія… С. 291.

тэрыторыі Беларусі акрамя самых усходніх яе абласцей і заключаецца ў падворнай форме землеўладання. Зямля належыць адной сям'і і ёю ж апрацоўваецца, чым прынцыпова адрозніваецца ад рускай абшчыны або калектыўнай формы землеўладання. Гэтае пытанне асабліва шырока разглядаецца ў „Белоруссии" Ігнатоўскага і Смоліча і ў „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця". Абшчына, што існавала ў самых усходніх абласцях беларускіх земляў, „навязаная [расійскім] законам, не з'яўляецца выражэннем выпрацаванага вякамі погляду мясцовых сялян на іх зямельна-прававыя адносіны" і таму нават на працягу 40 гадоў яна не змагла ўкараніцца ў прававой свядомасці жыхароў гэтых абласцей. Абшчына разыходзіцца „з паняццямі мясцовых сялян аб правільным землекарыстанні" (якім з'яўляецца падворная форма), ім чужая думка пра гвалтоўнае адыманне зямлі ад аднаго селяніна для перадачы яе іншаму, пра гвалтоўнае раўнаванне зямельных уладанняў, калектыўную ўласнасць і кругавую паруку[97].

Агульны стан сельскай гаспадаркі ў Беларусі лепшы і больш прагрэсіўны, чым у Масковіі. Гэта датычыцца як апрацоўкі зямлі (у Расіі ўсё яшчэ можна сустрэць „лядавы спосаб ральніцтва", у той час як у Беларусі шырокае распаўсюджванне атрымала „трохпалёўка, сістэма плодазьмену" і г. д.) [98], так і канкрэтных прыкладаў з галіны: «Часта на Беларусі сеюць лубін, які можна лічыць найлепшым „зялёным гноем", і наагул угнойваюць зямлю лепш, як на Маскоўшчыне». Тое ж самае тычыцца і сельскагаспадарчага інвентара[99].

У „Геаграфіі Беларусі" ёсць раздзелы, прысвечаныя этнічным меншасцям (традыцыйна яўрэйскаму насельніцтву) і эміграцыі насельніцтва. Апісваючы эміграцыю ў Амерыку, Смоліч разважае пра тое, што вяртанне беларускіх сялян з Амерыкі з зробленымі там

[97] Игнатовский В., Смолич А. Белоруссия… С. 16–17; Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі… С.112.

[98] Азбукін М. Географія… С. 264–265, 290–291 або: Игнатовский В., Смолич А. Белоруссия… С. 14.

[99] Тамсама. С. 265.

грашыма прынесла б для Беларусі яшчэ больш карысці, калі б адначасова яны прывозілі з сабой і „амерыканскае культурнае і грамадзкае ўзгадаваньне, ды каб іхняя туга па Бацькаўшчыне перарабілася ў нацыянальную сьведамасьць; здаецца, гэтага ўжо чакаць ня доўга засталося”[100].

Мы гаварылі пра элементы нацыянальнай ідэнтычнасці, якія прысутнічаюць у падручніках. Аднак існуе нешта, што ў канструкцыі прапанаванай ідэнтычнасці адсутнічае, а менавіта асацыяванне (або ўвязванне) беларускай ідэнтычнасці з ідэнтычнасцю рэлігійнай ці, іншымі словамі, аб’яднанне беларусаў на аснове канфесіі. Ужо Смоліч заяўляе, што няма неабходнасці падзяляць беларусаў па прыкмеце прыналежнасці да каталіцкай або праваслаўнай веры, таму што „якой-бы веры ні дзяржаўся беларус, ён усё роўна беларусам астаецца”[101]. Прынцыпова такое ж меркаванне выказвае ў „Гісторыі беларускае літаратуры” М. Гарэцкі, гаворачы, што нягледзячы на канфесійны падзел беларусаў, „на варце беларускай адзінасьці стаяла жывая народная мова”[102]. Такая пазіцыя мае сваё абгрунтаванне, паколькі часта на працягу хваляў паланізацыі і русіфікацыі прыналежнасць да каталіцкай канфесіі выклікала ў насельніцтва польскую самаідэнтыфікацыю, гэтак жа, як і на падставе прыналежнасці да каталіцкай царквы польскія ўлады ідэнтыфікавалі беларускае насельніцтва як польскае; тое ж самае ў пэўнай ступені адносіцца і да праваслаўнай царквы і рускай самаідэнтыфікацыі. Але традыцыйна верацярпімасць — адна з самых характэрных рысаў беларуса: „Часта можна заўважыць, што беларускі селянін ходзіць па чарзе і ў царкву і ў касьцёл з аднакавай набожнасьцяю, ня гледзячы на забароны і дакоры духавенства, а найлепшым яго дарадчыкам у справах практычных звычайна ёсьць вясковы крамнік-жыд”[103].

Падручнікі па геаграфіі і гісторыі звязаныя адзін з адным — аўтары дапаўняюць матэрыял узаемнымі

[100] Смоліч А. А. Геаграфія… С. 185.
[101] Тамсама. С. 139.
[102] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае… С. 57.
[103] Смоліч А. А. Геаграфія… С. 136.

спасылкамі. Напрыклад, фрагменты гістарычнага апісання асобных абласцей у падручніках па геаграфіі дапоўнены з даследаванняў Ігнатоўскага і Пічэты, а ў падручніку па беларускай літаратуры У. Дзяржынскага цэлыя раздзелы, якія адносяцца да апісваных перыядаў развіцця літаратуры, перанятыя з „Гісторыі Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця" У. Ігнатоўскага[104].

Які ж лёс быў наканаваны гэтым падручнікам, што так адкрыта супярэчылі ўяўленням пра адвечную садружнасць савецкіх народаў, якія разам крочаць да сацыялістычнага будучыні? Усе разгледжаныя ў дадзеным артыкуле падручнікі разам з геаграфічнымі картамі з 1930/31 навуч. года будуць зняты з усіх вучэбных праграм, а з 1937 г. у адпаведнасці з загадам № 33 „Спіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі з бібліятэк грамадскага карыстання, навучальных устаноў і кнігагандлю" ад 3 чэрвеня 1937 г. Галоўнага ўпраўлення ў справах літаратуры і выдавецтваў БССР Наркамата асветы (Галоўлітбела) будуць падлягаць знішчэнню[105]. Іншыя падручнікі будуць цалкам перапрацаваныя (усяго з выкладання было знята 11 з 54 падручнікаў для сярэдніх школ, 18 падручнікаў было перапісана нанова, а астатнія грунтоўна перапрацаваныя), бо па меркаванні партыйнага кіраўніцтва, якое да таго моманту ўжо выразна кантралявала і вызначала змест адукацыйнага працэсу, матэрыял дадзеных падручнікаў быў занадта насычаны беларускімі нацыянальнымі элементамі і слаба адлюстроўваў прыналежнасць Беларусі да ўсесаюзнага дзяржаўнага ўтварэння — СССР[106]. Той перыяд таксама характарызуецца распачатым з 1929 г. згортваннем палітыкі беларусізацыі і ганеннем на нацдэмаў, да якіх

[104] Дзяржынскі У. Выпісы… С. 30–31, 67–70, 93–98.
[105] Лукашук А. 421° паводле Галоўліту // Спадчына. 1996. № 3. С. 71–91.
[106] Адначасова ў падручніках аддавалася недастаткова ўвагі класавай барацьбе і перамозе сацыялізму над капіталізмам, гл.: Платун А. Культстроительство в БССР за 40 лет // Просвещение национальностей. 1931. № 1. С. 18.

быў прылічаны і шэраг аўтараў разгледжаных намі падручнікаў[107].

Агульны погляд на разгляданы матэрыял дае падставу заключыць, што ў аснове яго выкладу знаходзіцца цэнтральная ідэя аб унутраным адзінстве і яркай культурнай самабытнасці беларускага народа, а таксама яго доўгім самастойным гістарычным развіцці. Усе аўтары разглядаюць полацкі, і найперш беларуска-літоўскі гістарычныя перыяды ў якасці „залатых” перыядаў беларускай гісторыі, якія залучалі ў свой кантэкст грамадска-прававую сістэму, росквіт культуры і г. д. Адначасова яны сыходзяцца ў меркаванні, што перыяд Вялікага Княства меў, па сутнасці, беларускі характар. У пытанні этнагенезу гэтак жа, як і на асобных гістарычных прыкладах, падкрэсліваецца ўнутранае адзінства (агульнага паходжання, мовы, этнаграфічных элементаў і г. д.) беларускага племя або народа і яго набліжанасць да заходнееўрапейскіх тэндэнцый, якія знайшлі сваё адлюстраванне, напрыклад, у існаванні ў гарадах магдэбургскага права, цэхаў, Рэфармацыі, кнігадрукаванні і інш. Гэтыя характэрныя моманты свядома супрацьпастаўляюцца ці параўноўваюцца з іншай, усходняй маскоўскай, традыцыяй. Адначасова падкрэсліваецца доўгае самастойнае і ад Масквы незалежнае гістарычнае развіццё беларускіх земляў і іх адрозненне (культурнае, прававое, моўнае, этнаграфічнае і інш.) ад усходніх абласцей Масковіі.

Як можна заўважыць з аналізаваных падручнікаў, важным складнікам фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці 20-х г. з’яўляецца проціпастаўленне *іншым*, у дадзеным выпадку найперш рускім, персаніфікаваным у выглядзе маскоўцаў. На падставе прыведзенага кантрасту з гэтым блізкім народам беларускі чытач павінен усвядоміць выключнасць і ўнікальнасць беларускай

[107] Самая поўная „энцыклапедыя” таго часу, якая змяшчае тэарэтычнае абгрунтаванне непрымальнасці навуковай дзейнасці нацдэмаў, — гэта калектыўная праца пад рэд. С. Я. Вальфсона «„Навука” на службе нацдэмаўскай контрарэвалюцыі». Менск, 1931.

культуры, мовы, традыцый і г. д., г. зн. элементаў, якія складаюць паняцце *беларускі народ*, усвядоміць самастойнасць адзінай зямельнай і нацыянальнай прасторы, уласнай мовы, культуры і гістарычнага мінулага. Мэта дадзеных падручнікаў — пашырэнне светапогляду беларускага чытача, паколькі для разумення таго, што значыць быць беларусам, ён павінен бачыць і ўсведамляць сваё адрозненне ад *іншых*, разумець, як *наша* культура адрозніваецца ад культуры *іншых*, г. зн. у аснове ствараемай нацыянальнай ідэнтычнасці знаходзіцца проціпастаўленне *тым іншым*. Калі ж мы пяройдзем з гэтай антрапалагічнай плоскасці канструявання нацыянальнай ідэнтычнасці ў плоскасць палітычную, то ўбачым, што яна фактычна падрывала асновы савецкага агульнапартыйнага цэнтралізму, які дапускаў культурнае развіццё нацыянальных ускраін толькі пры ўмове сфармуляванай у траўні 1925 г. Сталіным кіраўнічай канцэпцыі развіцця нацыянальных культур, паводле якой „пралетарская па сваім змесце, нацыянальная па форме, — вось тая агульначалавечая культура, да якой ідзе сацыялізм”[108]. Гэты лозунг, ключавы для ўсяго наступнага развіцця, азначаў па сваёй сутнасці ўніфікацыю асобных нацыянальных культур пры захаванні іх уяўнага вонкавага адрознення. Зніжаючы значэнне нацыянальнага аспекта культуры да ўзроўню простай формы (абалонкі), потым яго можна рэдукаваць на ўзровень фікцыі, а ўсталёўваючы прынцып адзінага зместу ўсіх нацыянальных культур, можна падрыхтаваць глебу для іх інтэграцыі і наступнай уніфікацыі на аснове саветызацыі. У гэтым кантэксце форма магла інтэрпрэтавацца ў якасці толькі неістотнай фіктыўнай плоскасці, на фоне якой галоўная ўвага аддаецца пралетарскаму зместу. Пры такім адзіным змесце і пралетарскай начынцы ўсіх нацыянальных культур, адрозных адна ад адной толькі малаважным нацыянальным

[108] Сталин И. В. О политических задачах Университета народов Востока. Речь на собрании студентов КУТВ 18 мая 1925 г. // Сталин И. В. Сочинения. Т. 7. Москва, 1952. С. 133–152.

налётам, адкрываецца магчымасць для іх наступнага аб'яднання на савецкай аснове ў адзіным механізме сацыялістычнай дзяржавы. У БССР такая рыторыка прагучала ўжо ў 1928 г. у выказанай В. Кнорыным крытыцы нацыянальнага падыходу ў навуцы і літаратуры і яго наступным закліку крытыкаваць спробы працяггвання „ў нашу навуковую, публіцыстычную і мастацкую літаратуру поглядаў, якія разглядаюць нацыю як адзінае цэлае, якія ня бачаць клясавае барацьбы ў мінулым Беларусі і недаацэньваюць клясавае барацьбы зараз”[109].

Неабходна адзначыць, што партыйная падтрымка палітыкі нацыянальнага развіцця, абвешчаная на XII з'ездзе РКП (б) у 1923 г., была абумоўлена спецыфічным разуменнем характару і сутнасці нацыянальнай культуры. Нацыянальная культура рэдукавалася на форму, малаважны спецыфічны момант адзінага ва ўсіх існуючых культурах зместу, які адлюстроўвае класавую барацьбу і яе пралетарскую сутнасць. Далей гэтая форма была ў значнай ступені абмежавана на моўны фактар, хоць, як мы маглі пераканацца, такая партыйная канцэпцыя магла інтэрпрэтавацца і разумецца інакш, асабліва ў асяроддзі нацыянальнай інтэлігенцыі. Тым не менш важна тое, што партыйнае кіраўніцтва мела ідэалагічны аргумент аб уяўнай, хутчэй ілюзорнай, самабытнасці нацыянальнай культуры, а гэтае ж самае дэклараванне падтрымкі развіцця нацыянальных культур давала напрамак для іх будучай савецкай асіміляцыі і інтэграцыі на савецкай аснове. Формула „пралетарскага зместу” і пазней будзе даваць падставу для замены хвалі „растучай нацыянальнай сьвядомасці”, з якой звязвалі гэтулькі надзей стваральнікі разгледжаных намі падручнікаў, на свядомасць класавую, а адначасова падставу для выключэння непажаданых элементаў, якія адлюстроўвалі нацыянальную самабытнасць і самастойнае гістарычнае развіццё, што так яскрава і выразна выявіліся на працягу 20-х г. XX ст.

[109] Кнорын В. Аб рашаючых „дробязях” у вялікім пытаньні. Да пытаньня аб палітыцы беларусізацыі // Асьвета. 1927. № 4. С. 3.

# On the question of national identity in textbooks of BSSR in the 1920 s.

## School basis to raise national self-consciousness

**Alena Markava**

The analysis of textbooks done by researchers provides a glimpse of a new model of national identity that was shaping in BSSR within the 20s of XX century. There is one central idea lying at the root of it, idea of internal unity and pronounced cultural identity of Belarusian people as well as durable independent historical development. At the same time a significant constituent of the 20s national identity formation is a contradistinction to *others*, in the given case to the Russians, personified in the image of Muscovites (the period of Middle ages and early New Time is being analyzed). All the authors relate Polatsk and in the first place Belarusian-Lithuanian as ‘golden’ periods of Belarusian history and concur that the Grand Duchy period was in actual fact of Belarusian nature. In the question of history and ethnogenesis as well as in other historical periods internal unity (common parentage, language, ethnographical components) of Belarusian tribe or nation is pointed out. The researchers also emphasize its closeness to European tendencies (Magdeburg rights, shops, Reformation, book-printing etc.). These specific moments are meaningly either opposed or compared to a different eastern Muscovy tradition. At the same time, a durable self-consistent Muscovy-independent historical development of Belarusian lands and their dissimilitude (cultural, legal, language, ethnographic and other) from eastern regions of Muscovy is accentuated.

# О состоянии евреев в России*

**Карл Фоделло**

### Тетрадь 2-я

### О состоянии евреев в России

Нечто о еврейских обществах в Польше вообще, о раввине, о хазоне или уставщике, о иерушальмах, о шамаше, о шохате, о товарищcommittees в еврейском обществе, о подати по кагалу, о Рохаше, о синагоге и предложения к исправлению всего еврейскаго общества.

### Нечто о еврейских обществах в Польше вообще

Каждое еврейское общество вообще состоит из весьма немногих зажиточных, из большаго числа таковых, которые имеют насущный хлеб свой и из самаго большого числа неимущих. К первому разряду принадлежат большею частию купцы, подрядчики, стряпчие, комиссионеры, ростовщики и т. п. Ко второму — ремесленники, так называемые факторы, рабочие люди и т. д. К последнему же — многочисленная толпа умышленных и неумышленных нищих. (О нравственном и физическом состоянии евреев, о воспитании и характере, одним словом, о всем житии и бытии их изложено в первой части сей тетради и в трактате моем на французском языке, хранящемся в еврейском комитете под заглавием „О состоянии евреев в России".)

Пред сим общества не были столь многочисленны и стеснены как ныне, поелику евреям тогда не было запре-

* Заканчэнне. Пачатак публікацыі гл. у БГА Т. 16, сш. 31, с. 513–539.

щено жить в деревнях и селах. Ныне же, вследствие онаго запрета находится их в ином городке от 10-ти до 20 и 25-ти тысяч и более — часотка, глазныя, грудныя и другие болезни и вид мертвенности между ними господствуют и от них отчасти переходят к христианам, их соседям. Причину сих болезней и сего разслоения должно искать, без всякаго сомнения, в крайне стесненных их жилищах и происходящей от того чрезмерной нечистоты. Но вместе с неряшливостью нищета их увеличивается со дня на день, ибо тысячи, которыя до состояния онаго запрещения по целому году занимались у помещиков копанием рвов, обработыванием земель, выжиганием кирпичей, винокурением, рубкою леса или на пильных мельницах и тому подобном, ныне не в состоянии пропитать своих семейств, сделались нищими и стали обществу в тягость. Прибавим к сему строгую и лишнюю заботливость евреев насчет Моисеевых и раввинских законов чиноправления, крайнее несогласие между ими, безмерную ненависть и преследование хазидов, составляющих почти половину каждаго общества и, собственно сказать, общества в обществе, самовольные и безчестные поступки и притеснения кагала, жестокое и унизительное обращение чиновников — и мы имеем жалостную картину еврейских обществ в Польше.

При таковых обстоятельствах бедный и угнетенный не имеет себе ожидать никакаго утешения и никакой помощи от кого бы то ни было. Ежели он обращается к раввину, к Мгоре Горое или Дайонину (смотри ниже сего объяснение сих названий) дабы получить защиту, то сии сами ныне играют весьма жалкую роль, завися совершенно от кагала, и только что могут сожалеть о бедняке, не смея даже утешать его, опасаясь тем навлечь на себя гнев кагала. Обращаться к полиции и другим христианским чиновникам еще менее бы приносило пользы, ибо оные состоят, как уже сказано, под статьею о кагале, на жалованье у онаго. Единственное утешение сих нещастных при всех бедствиях и притеснениях, ими претерпеваемых, состоит в том уверении, что они суть народ божий и что по пришествии Мессии, о чем они ежеднев-

но молятся и коего ежечастно ожидают, несчастие их прекратится и что вместо побоев, чесноку и черстваго хлеба в обетованой земле мед и млеко для них струями польются.

Тетрадь сия заключает в себе два отделения: в первом буду говорить о распорядке обществ и о собраниях или товариществах, а во втором о доходах общественных и о средствах к исправлению обществ.

1-е, о еврейских обществах, называемых Кхило Кедоша, т. е. „святыми обществами" и о благочинии оных.

По постановлениям раввинов и Талмуда, ни название общества, ниже общественное богослужение места иметь не могут, буде не соберутся по крайней мере десять человек мужеска пола свыше 13-ти летняго возраста, и в таком случае называется „малым обществом" — Гишоб. Таковыя малыя общества, кои ныне в Польше весьма редки бывают, имеют особеннаго своего раввина, который в то же время исправляет должность уставщика (Хазон), резника (Шохат), служителя синагоги (Шамаш), зватая при свадьбах, при похоронах и т. д. Сверх того, они придерживаются ближайших к ним больших еврейских обществ для взнесения казенных и других податей.

Большое еврейское общество, считающее от 50-ти до 1000 и более душ, имеет собственное название Кхило Кедоша или Кхило — в отношении к внутреннему устройству и церковному благочинию таковое большое общество везде управляется следующим образом. Во-первых, бывают в каждом обществе, за исключением кагала, следующие общественные служители: 1/ Раббаним — раввин, 2/ Мгора Гороа — подраввин, 3/ Дайоним — судья или блюститель правосудия, 4/ Хазоним — уставщик, 5/ Шохтим — резник, 6/ Шамашим — служитель синагоги, 7/ Габаим — казначей, 8/ Гоба — сборщик, 9/ Неманим — поверенный, 10/ Рое Хешбон — счетоводец, 11/ писарь и бухгалтер и, наконец, 12/ толпа прислужников.

Сверх сего существуют многия товарищества или собрания, — Хеброт под различными наименованиями, — коих круг действия весьма разнообразен и о коих далее будет пространно говорено.

## О раввине и о Мгоре Горое

Название раввина дано христианами управляющему синагогою в новейшие времена. Польские называют его, по примеру древних евреев западных стран, просто ров, т. е. владыка, наставник, путеводитель. Слово раввин собственно означает ученаго и почти все толкователи Талмуда (талмудисты) без изъятия сим именем нарицаются. Евреи же в Португалии, как равно и живущие в восточных странах, употребляют вместо слова „ров" слово „Хахам", т. е. Мудрец для означения управляющего синагогою. Но поелику название раввин есть общепринятое, то в устранение всякой погрешности будет оное и мною удержано. Должно заметить, что название раввин не находится ни в Пятикнижии, ниже не существовало во времена перваго храма, упоминается лишь при конце 2-го храма. Особенно же раввины начали быть в большом употреблении по разсеянии евреев, когда они образовали общества в различных странах, где находили себе убежища.

Итак, раввин есть звезда первой величины в еврейских обществах. Под его надзором находится вся синагога и благочиние оной. Ему приданы в товарищи трое или более лиц под названием „Дайоним", т. е. судьи. Все сии вкупе составляют род совета или судилища, в коем под председательством раввина решаются дела, относящияся до законов чиноправления, как равномерно и частныя споры насчет собственности и т. д. Сей совет и сие судилище евреи называют „Бетдин", о котором ниже сего дается подробное объяснение.

Поелику священническое достоинство и жертвоприношения вместе с разрушением храма прекратились, то и названия священник или жрец ныне не употребительны. Достоинство раввина не ограничивается единственно, как пред сим достоинство жреца, но поколение Левина, хотя оное и есть единственное изо всех, ныне евреям известное, и которое по мнению их вообще может быть отличено (впрочем, члены сего поколения ныне все вообще почитаются за мирян) и посему управляющий синагогою

избирается из общаго класса ученых по большинству голосов общества, но, впрочем, сын раввинский не утверждается каким либо освящением.

Пред сим раввину надлежало быть мужем не токмо весьма ученым, имеющим совершенное познание в еврейском языке, Талмуде и прочих священных книгах, но и кротким и мудрым, хорошей фамилии, хороших нравов и поведения, словом, без всяких пороков. Но за то звание раввинов было почетнейшее во всем обществе и он имел первое место не токмо при богослужении, но и при других торжественных случаях и вообще пользовался ото всех всевозможным почтением и любовию. Доходы раввина были пред сим более чем достаточны, ибо сверх определеннаго жалованья получал он многие добровольные подарки так, что не имел надобности заниматься торговлею или другими светскими делами.

Он был главою синагоги и целаго еврейскаго общества и избирался большинством голосов онаго и с согласия магистрата или помещика, на земле коего общество имело оседлость.

Ему надлежало остроумно разрешать все сомнения насчет моисеевых законов до обрядов и постановлений Талмуда и раввинов, до чиноправления относящиеся, по временам читать нравственныя проповеди и вообще давать обществу наставления в религии и нравственности, имея вместе с тем надзор за нравственностию общества с полным правом наказывать не благонравных всенародным покаянием и денежною пенью в пользу бедных. Его обязанность была также мирить несогласныя стороны и укрощать раздраженныя умы грубаго народа увещеваниями благоговейными и нравственными.

Раввин имел, как уже сказано было, председательство в „бетдине” или судилище, руководствуясь при судопроизводстве книгою законов под заглавием „Хошем Мишпат”. Решения его были весьма просты, ибо все спорныя дела обыкновенно оканчивались присягою. Раввин также венчал желающих вступить в брак, разыскивая наперед позволительность или непозволительность таковаго союза по законам моисеевым и гражданским, но, впро-

чем, не мог возбранять, чтобы чета 10-ть, 9-ть или иногда 8 лет не сочеталась браком, ибо сие обыкновение искони существует между польскими евреями и превратилось почти в закон. В продолжении сей тетради буду я говорить о вредности слишком ранняго обручения и поспешнаго погребения евреев и о средствах к воспрещению того и другаго.

При смертных случаях и наследственных делах обязанность раввина состояла в том, чтобы защищать вдов и сирот. Развод (книга Второзакония, глава KD. CX. AB изувание сапога Халица, там же глава KE. CX. XQ) и документы о том надлежало ему разсматривать и составлять. О страшном злоупотреблении сих обрядов будет говорено в статье о разводах между евреями.

Словом, при каждом судебном случае надлежало раввину по надлежащем розыскании изъявлять свое согласие рукоприкладством. При духовных завещаниях, при выборе опекунов, при продаже недвижимаго имения, совершении контрактов, при выборе старшин общества и членов кагала раввину также надлежало чинить исследование и о согласии своем дать письменное объявление. Раввин занимал высшее место и никому не был обязан давать отчета, кроме совести своей и главному раввину, имевшему пребывание свое в Варшаве, где также находился „Великий кагал” и куда он относился в чрезвычайных случаях. При каждом товариществе (хебро) был он почетным членом и важностию своею устранял многия злоупотребления и обманы.

Таковы были раввины в прежния времена в Польше и в такой почести находятся они и поныне почти везде, кроме сей страны, в Англии, Австрии, Германии, Франции, Дании, Швеции и т. д. с тою только разницею, 1/, что во многих землях в спорных денежных делах не могут (они) судить свыше 10 руб., большия же претензии должны отсылать в надлежащее присутственное место. 2/. Не смеют они ни венчать, ни разводить без согласия правительства. 3/. Не вправе налагать пеню или проклятие на какого-либо члена общества за отступление от веры.

Что ж значат ныне раввины еврейских обществ в польских губерниях России? Подобно тому, как новый кагал постепенно упадал, так и раввинское достоинство упадало дотоль, пока оно наконец почти вовсе уничтожилось. Вновь учрежденный кагал, основываясь на законности определения своего правительством, вскоре гораздо более присвоил себе власти, нежели ему по-настоящему дано было. Раввины и дайоны были для него слишком честные люди и препятствовали ему везде в самовольных и безчестных поступках и для сего кагал разными происками старался возбудить раздоры между обществом и раввином. Успев в своем намерении, принял на себя личину кроткаго посредника и засим, будто бы во избежание на будущее время подобных споров, присвоил себе право избирать раввинов и дайонимов самим собою, не требуя голосов общества и подкупая местныя начальства, дабы получить их соизволение на подобные выборы. Кого же выбирали? — из необразованной толпы польских евреев людей без познаний, способностей и нравственности, но зато совершенно от них зависящих и готовых плясать по их дудке. Но и сии новые раввины при всей учености и дурной нравственности, по долгу звания их не могли равнодушно смотреть на все ужасы, чинимыя кагалом, а еще менее оные одобрять и посему были в безпрерывной ссоре с кагалами. Для устранения всех сих препятствий кагал мало помалу вовсе уничтожил звание раввинов и оное существует за исключением раввинов у хазидов лишь в весьма немногих обществах. Замечательно, что в сих обществах, удержавших своих раввинов, хотя и не имеющих прежней важности, находится более нравственности и состояние их лучше, нежели в прочих, казенныя подати исправнее уплачиваются и кагал не позволяет себе таковых несправедливостей, как в прочих обществах.

Итак, для устранения всех препон, кагал, как уже сказано, уничтожил вовсе звание раввинов и вместо оных поставил подраввинов, истолкователей закона Мгора Гороа, которые также имеют первое место в синагоге и при других случаях читают также по нескольку

разов в году проповеди о статьях Талмуда. Но главный предмет занятий их состоит в разрешении вопросов насчет чиноправления и сомнительных темных изречений в моисеевых и раввинских постановлениях, что у польских евреев называется „паскнен". Сего человека евреи с утра и до вечера беспокоят и он должен разрешать сомнения каждаго. Особенно же являются к нему безпрестанно женщины с вопросами своими. Ежели находят кровавое пятно на рубахе, то подраввин должен им сказать от чего сие появилось, от блохи ли или от месячнаго очищения, ибо в последнем случае они не прежде, как по прошествии семи дней могут спать с мужем, очистившись сперва в бане. Также после родов и после перваго соития подраввин должен разрешать повторение плотскаго совокупления и т. д. Но за всею готовностию разрешать как сии, так и подобные малозначущие и даже смешные вопросы, подраввины нимало не пользуются тем уважением, которое было оказываемо раввинам. Жалованье их весьма умеренное и посему позволяется им заниматься торговлею и другими промыслами. Весь круг их действия ограничивается предметами, относящимися до синагоги и до обрядов и им отнюдь не позволяется вмешиваться в дела кагала без приглашения онаго, в противном случае лишаются не токмо места, но и подвергаются стыду и поруганию, ибо кагал, дабы очистить себя, приписывает им в таковых случаях всякия беззакония и бездельничества.

Коль бы ни были маловажны сии места подраввинов, но за всем тем, ради доходов, с оными сопряженных, находится много на них охотников. Кагал же уступает их тем, которые более за них платят. Сверх действительнаго подраввина многие за деньги причисляются кагалом к синагоге и сии, не имея ни занятий, ни по званию своему, ни доходов, пользуются единственно тою выгодою, что освобождены от платежа казенных податей, ибо, как известно, все служители общества свободны от податей.

Есть также род странствующих раввинов, называемых „Еми Мехиах", т. е. проповедующими кары и по-

каяния. Проповеди свои, долженствующия возбуждать народ к покаянию и в коих возвещают о близком пришествии Мессии, говорят они обыкновенно при громких рыданиях, изображая ад со всеми ужасами, произносят страшныя проклинания. Поелику нет ни одной религии в мире, которая бы была толь преисполнена суеверия, предразсудков и безсмысленницы, как то бывает религия тех евреев, кои следуют толкованию раввинов своих, то и нет ни одной, которая имела бы толь ужасный ад и о чистилище толь много бесов и злых духов и толь страшных мучений, как вера моисеева по истолкованию раввинов. Но вместе с тем предлагают они разныя средства к спасению и в числе оных чтение „Кадиша", т. е. сыновья усопших родителей должны ежедневно в продолжении целаго года печали читать в синагоге по нескольку раз молитву, называемую „кадиш". Сия честь — одна из причин, побуждающих евреев рано вступать в брак, дабы иметь сыновей.

Сии раввины в большой чести у евреев. Они содержатся обществом и на счет онаго бывают отправляемы от однаго места до другаго. Заметим, что хотя они и увещевают народ к покаянию, но не менее того, проповеди их, в коих нет здраваго смысла, весьма вредны и для нравственности и для просвещения евреев вообще.

## О дионимах или судьях

Упомянутые выше подраввины имеют несколько помощников, называемых „Дионим", которые весьма незначущи и даже не имеют везде определеннаго жалованья, а должны довольствоваться добровольными подаяниями, вносимыми каждым, кто имеет какое-либо дело в их судилище или, лучше сказать, судилищной клети.

Пред сим, когда раввины процветали, то и сии дайонимы пользовались общим уважением и действовали вместе с раввином с споспешествованию добра, помогали ему во всех случаях, имели место и голос в кагале и долженствовали давать согласие при сборах старшин и служителей общества. Ныне же их должность единственно в

том состоит, чтобы решать споры насчет денежных и других дел. Избираются же (они) определительно ныне кагалом и завися совершенно от онаго, не смеют вмешиваться в дела его. И между дайонимами есть многие, которые за деньги пользуются сим названием, не исправляя должности, единственно для того, чтобы не платить казенных податей.

## О хазоне — уставщике

Хазон есть другое лицо в еврейском обществе и пользовался пред сим соразмерною почестью в оном. Он управлял пением в синагоге и тем самым соблюдал порядок при молитве, ибо большая часть в обществе едва ли умеют читать, а тем менее понимают молитвы свои, писанныя на еврейском языке и посему произошел бы величайший безпорядок при богослужении и ежели б уставщик не сохранял порядок напеванием и откликом. Хазону также надлежало пред сим присутствовать при всех выборах и совещаниях общества и он отправлял в оных как бы звание нотариуса. Ныне же должность его единственно в том состоит, чтобы читать и напевать молитвы.

Поелику звание хазона есть довольно почетное и доходное, то весьма многие онаго домогаются, [но] кагалом же уступается тому, кто более ему платит. Иногда выбор его падает на таких, кои едва читать умеют, но каковая в том нужда? Они заплатили порядочную цену, лишь бы умели кричать. Не имея никаких чувств, они, невежи, поют наисвященнейшия молитвы напевом какой-либо питейной песни, производя притом ужаснейший крик! Не должно думать, будто бы я в сем повествовании преступил пределы истины, дабы надсмехаться над богослужением евреев: я слишком почитаю всяк богослужение, чтобы на то покусится. И как насчет сего, так и прочаго, излагаемаго мною о евреях, ссылаюсь на собственное показание сего народа, который признается, что нынешнее богослужение его в величайшем безпорядке до такой степени, что грубая толпа иногда за самыя бездельныя

Яўгена Анішчанкі „Палітычная гісторыя Беларусі ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай", адхіленай ВАКам у 2004 г. найперш з-за таго, што аўтар у адмоўным святле паказаў Расію[3]. Неадназначная роля ВАКа як інстытута яшчэ савецкай сістэмы ў сучасным гістарыяграфічным працэсе колькі гадоў таму актыўна абмяркоўвалася на старонках аднаго з вядучых незалежных часопісаў Украіны[4], у нас жа пакуль не было ніякіх публічных дыскусій пра інструментарную функцыю гэтай установы, хоць патрэба ў такой размове відавочная.

Як можна здагадвацца, падобныя праблемы ў нас адкрыта не абмяркоўваліся не таму, што гісторыкі да іх абыякавыя. Верагодна, ва ўмовах нашай цяперашняй рэчаіснасці, калі прафесійная рэалізацыя навукоўца пастаўлена ў наўпроставую залежнасць ад волі дзяржаўнага чыноўніка, маўчанне стала своеасаблівай стратэгіяй выжывання. Зразумела, гісторык працуе ў дзяржаўнай установе і не можа не залежаць ад улады. Аднак наколькі далёка яго пазіцыя можа вызначацца лаяльнасцю і „дзяржаўнай замовай"? Хоць межы саступак і канфармізму найперш вызначаюцца асабістымі маральнымі якасцямі, абслугоўванне палітычных інтарэсаў улады, яўны сервілізм заўжды лічыліся справай ганебнай, несумяшчальнай і з прынцыпамі прафесійнай этыкі навукоўцаў.

Не выключаю, што камусьці з нашага так раз'яднанага цэху служак Кліа ўсё вышэйсказанае можа падацца плодам маіх суб'ектыўных уражанняў і непатрэбнай драматызацыяй, хоць сам я імкнуўся да стрыманых ацэнак. Вось жа разбіраймася разам. Ніжэй больш аб'ектыўна і markрознабакова справу прадстаўляюць апытаныя намі гісторыкі, адказы якіх, спадзяюся, стануць пачаткам сур'ёзных разваг пра тое, што ёсць нармальным і ненармальным у нашай гістарыяграфіі.

[3] Падрабязней гл.: Оргіш В. Інкарпарацыя, або як адгукаецца палітычная гісторыя Беларусі ў сучасным жыцці // Народная воля. 2005. 2 сакавіка.

[4] Гл.: Форум „Механізм контролю за якістю накової продукції в Україні" // Україна Модерна. № 12 (2007). С. 12–49.

Да супольнай размовы пра сітуацыю ў гістарычнай навуцы Беларусі рэдакцыя БГА запрасіла яе непасрэдных стваральнікаў — вядомых гісторыкаў краіны. Мы звярнуліся да 20 навукоўцаў з дзяржаўных і недзяржаўных устаноў з просьбай адказаць на тры пытанні, звязаныя з некаторымі праблемамі, акрэсленымі вышэй. Але паразважаць над пытаннямі нашай анкеты пагадзілася толькі частка, фактычна — менш за палову запрошаных да размовы, за што ім шчырая ўдзячнасць і пашана. А тое, што сярод матываў свайго ўхілення ад адказаў некаторымі гісторыкамі часам адкрыта называлася асцярожнасць, жаданне „не засвяціцца” (“як бы чаго не выйшла па месцы працы”), толькі пацвердзіла папярэдні дыягназ — сітуацыя ў нашай гістарыяграфіі вельмі і вельмі нездаровая. Калі вучоны яўна незадаволены станам спраў у сваім цэху, але пры гэтым не адважваецца публічна гаварыць пра набалелае, то гэта як мінімум прафесійная несвабода. Сам па сабе гэты факт агаляе сур’ёзную праблему прафесійнай ідэнтычнасці беларускіх гісторыкаў і перспектываў развіцця нашай гістарыяграфіі. Ці, калі дакладней, безперспектыўнасці такога яе развіцця.

*Генадзь Сагановіч*

# Анкета БГА

*1. Як Вы ацэньваеце сістэму падрыхтоўкі навуковых кадраў у Беларусі (патрабаванні ды дысертацый, працэдура прысваення навуковых ступеняў і званняў, спецсаветы па абароне, роля ВАКа)?*

*2. Ці задавальняюць Вас цяперашнія ўмовы вытворчасці гуманітарных ведаў (ад выбару тэматыкі да магчымасцяў архіўна-бібліятэчных пошукаў, апрабацыі і публікацыі даследаванняў)?*

*3. Што змянілася ў прафесійных „стандартах" сучаснай беларускай гістарыяграфіі параўнальна з гістарычнай навукай БССР і гістарыяграфіямі суседзяў? Як можна ацэньваць якасць яе навуковай прадукцыі?*

**Яўген Анішчанка**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва (Мінск)

**1.** Не ўдаюся ў падрабязнасці, апрача таго, што павінна быць вернута ўся сістэма абароны дысертацый у ВНУ з практыкай прысваення навуковых ступеняў у спецсаветах пры ВНУ. Я катэгарычна супраць манапалізацыі гэтай працэдуры ў ВАКу, паколькі такім чынам экспертныя саветы ВАКа: 1) дыскрэдытуюць кампетэнцыю і аб'ектыўнасць саветаў, дзе праводзілася сапраўдная абарона, 2) робяць дарэмнай і фармальнай абарону на першапачатковай стадыі, 3) так званымі ананімнымі, ці закрытымі рэцэнзіямі прызнаецца эфемернасць і выказваецца поўны недавер да традыцыйных рэцэнзій і водгукаў калег на стадыі абароны дысерта-

цый, 4) паколькі гэтую экспертызу праводзіць не абраная шырокай навуковай супольнасцю вузкае кола асоб. Вось сумныя вынікі пераходу навукі пад прэзідэнцкі кантроль, які не зрабіў ВАК апошнім бар'ерам супраць халтуры, падробак і тэндэнцыйнасці, а наадварот, плодзіць іх, заахвочвае да такога шляху. ВАК павінен быць скасаваны як непатрэбны рудымент савецка-бальшавіцкага кантролю за навукай, як паразітычны орган і сегмент звычайнай ідэалагічнай цэнзуры. Пра гэта я пісаў у артыкуле ў „Народнай Волі" ад 10–11.04.2010 г. У любым выпадку, пры перспектыве далучэння Беларусі да Балонскага працэсу і еўрапейскіх стандартаў адукацыі — а гэта абавязкова некалі здарыцца, адмяняецца ВАК і ўся планава-дзяржаўная (па разнарадцы) сістэма ў г. зв. падрыхтоўцы навуковых кадраў.

**2.** Фармальна цяпер ніводны даследчык не звязаны перашкодамі: ад стадыі падрыхтоўкі распрацовак да апрабацыі іх перад калегамі ўсё можна рабіць індывідуальнымі намаганнямі і за ўласны кошт. Гэты шлях вызваляе асабістыя высілкі ад традыцыйных заганаў растварэння ў калектыўных выданнях з ідэйнымі і рознымі метадалагічнымі арыенціроўкамі, навязанымі „зверху" ці прыстасаванымі самімі аўтарамі да бягучых г. зв. „актуальных" задач і патрэб дзяржавы. Гэты шлях звязаны з матэрыяльнымі цяжкасцямі, але ён прадукцыйны і не ангажаваны. Можна назваць прыклады таго, як выкананыя на аматарскім узроўні працы энтузіястаў пераўзыходзілі ўзровень дасягненняў вялікіх калектываў прафесійных гісторыкаў (М. Ермаловіч, Э. Абрамовіч, М. Ф. Чарняўскі).

**3.** Мне давялося ў адной уласнай працы цытаваць паказальныя словы члена-карэспандэнта АН РБ П. Петрыкава пра тое, што гістарычная навука ва ўсе часы абслугоўвала палітыку кіраўніцтва дзяржавы. Гэты паказчык кан'юнктурнасці і элементарнага халуйства навукоўцаў увасобіў нядаўні дырэктар Інстытута гісторыі НАН А. Каваленя (і яго акружэнне), які афіцыйна

заявіў пра шкоднасць „трох Д" у навуцы і які вярнуў гэты „Галоўны штаб" і гэты „вядучы каардынацыйны цэнтр" навукі ў ранейшую каляю партыйнасці, ідэалагізмаў і палітыканства. Мне давялося пісаць у перыядычным друку пра тое, што навука пасля 1996 г. апынулася ў рэчышчы вяртання краіны да элементарнага „паліцэйскага" сацыялізму з усімі ўласцівымі для савецкага часу каардынатамі і нормамі дзейнасці. Гэтая рэстаўрацыя пераважнай большасцю навукоўцаў успрынята абыякава, спакойна, як нармальная з'ява. Гэтая большасць няздольная на нейкія там прарывы, якіх ад іх патрабуюць, на капітальныя распрацоўкі „белых плям", на сінтэзы малавядомых першакрыніц і г. д. Цяперашняя сітуацыя ў гуманітарных навуках нагадвае пагост, дзе пахаваны і замураваны вольная думка, ініцыятыва, талент. Я не бачу ўвогуле інавацыйных ці рэвалюцыйных прац у сучаснай беларускай гістарыяграфіі ні па адным храналагічным перыядзе. Пануе прыстасаванства, схематычна-фармалістычныя падручнікі, якія не стымулююць думку і ініцыятыву, а плодзяць шэрасць, дагматыку і тупасць. Мне зусім не хочацца аналізаваць вытокі такога становішча і даваць парады выхаду з гэтай даўно заезджанай каляіны. На постсавецкай прасторы ёсць краіны, дзе даўно выбіліся з такіх путаў і ўспрынялі агульнапрынятыя і вядомыя ў свеце стандарты.

**Георгій Галенчанка**, доктар гістарычных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі

**1.** Сістэма падрыхтоўкі навуковых кадраў у Беларусі мае даўнія традыцыі і пры некаторай, магчыма, і не вельмі значнай карэкцыі можа захаваць і свае пазітыўныя рысы, і свае праблемы. Галоўная праблема, здаецца, у распрацоўцы аб'ектыўнай і адкрытай сістэмы ацэнак навуковай працы, што асабліва цяжка ў гуманітарных навуках. Мне падабаецца, напрыклад, нямецкая сістэма надання навуковых ступеняў. Там абаро-

на адбываецца выключна пасля таго, як падрыхтаваная дысертацыя абавязкова друкуецца і з ёю на працягу года знаёміцца ўсё чытацкае асяроддзе. Калі няма грунтоўных абвінавачванняў у нізкай якасці ці кампіляцыі, папярэдняе пазітыўнае рашэнне вучонага савета адпаведнай навуковай інстытуцыі зацвярджаецца. Усе навуковыя рэцэнзенты выступаюць з ацэнкай працы адкрыта.

**2.** У большасці гуманітарных навуковых устаноў (горш ва ўніверсітэтах) захоўваецца магчымасць выканання планавай і дадаткова індывідуальнай тэмы. Пры жаданні і працаздольнасці даследчыка. Праблема архіўна-бібліятэчных пошукаў сапраўды абвастрылася з-за дарагавізны і рэдкасці навуковых камандзіровак, значных грашовых пабораў у шмат якіх замежных архівах і бібліятэках пры капіяванні выяўленых матэрыялаў, абмежаванай працы міжбібліятэчных абанементаў, адсутнасці штогадовай профільнай бібліяграфіі па канкрэтных навуковых кірунках. Нарэшце, пры адсутнасці рэспубліканскага высокапрафесійнага часопіса, напрыклад, па гістарычных навуках.

**3.** Гуманітарныя навукі ў шмат якіх постсавецкіх і замежных дзяржавах знаходзяцца ў крызісе з-за недастатковай распрацаванасці асноўных перспектыўных ідэалагем не столькі цывілізацыйнага, колькі цывілізацыйна-фармацыйнага і рэгіянальна-кампаратыўнага ўзроўню. Беларуская гістарыяграфія, безумоўна, змянілася ў значнай ступені ў бок разнастайнасці, шматцэнтрычнасці, метадалагічнай (канцэптуальнай) варыятыўнасці, часам павярхоўнасці, прымітыўнасці, піярыстай палемічнасці. Перашкаджае нярэдка і перабольшаная кампліментарнасць у адносінах да слабых замежных даследчыкаў, групавая салідарнасць на ненавуковых падставах і інш. Рэальная гістарычная навука павінна абапірацца на рэпрэзентатыўную фактуру, навуковую аргументацыю, мець разгорнуты навуковы апарат. Гэтыя здаўна прафесійныя стандарты не змяніліся і не могуць змяніцца. Якасць навуко-

вай прадукцыі ў стане ацэньваць рэальна толькі кваліфікаваныя навукоўцы ці навуковая супольнасць, якія адкрыта выказваюць свае погляды, якія ўдзячны і за сур'ёзную контркрытыку. І ацэньваць навуковыя працы варта не па іх недахопах і памылках, а па тым новым і абгрунтаваным, што ўносяць гэтыя працы ў гістарычную гістарыяграфію.

**Эмануіл Іофе**, доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

**1.** Я лічу, што сучасная сістэма падрыхтоўкі навуковых кадраў па гістарычных навуках не адпавядае патрабаванням часу і сусветнаму вопыту. Зразумела, ёсць нямала станоўчага, але я спынюся на недахопах. Мне шмат гадоў давялося быць членам трох спецсаветаў па гістарычных навуках — двух доктарскіх (пры БДУ і БДПУ імя Максіма Танка) і аднаго кандыдацкага (пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце дакументазнаўства і архіўнай справы).

У апошні час рэзка знізілася роля спецсаветаў па абароне кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Калі ВАК зацвярджае той ці іншы спецсавет, гэта азначае, што ён давярае яго членам і паважае іх думку. На самай справе — што думка і рашэнне таго ці іншага спецсавета нічога не вартыя. Пераважная большасць членаў спецсавета — высокакваліфікаваныя спецыялісты па той ці іншай праблеме, але ўрэшце вырашальнай становіцца думка членаў экспертнага савета па гістарычных навуках, не гаворачы ўжо аб Прэзідыуме ВАКа, у які ўваходзіць толькі адзін вучоны-гісторык.

Кандыдацкая і доктарская дысертацыя праходзіць шэраг этапаў. Першы — гэта думка і водгук навуковага кіраўніка, другі — дзве экспертызы (папярэдняя і спецсавета), трэці — водгук апануючай арганізацыі (знешні водгук), чацвёрты — сама працэдура абароны на спецсавеце, дзе цяпер па новых правілах павінен выступіць (хо-

чаш ці не хочаш!) кожны член спецсавета — спецыяліст па дадзенай галіне гістарычнай навукі. Потым ідзе галасаванне, выстаўляецца сярэдні бал за абарону.

Пяты этап — заключэнне спецыялізаванага савета, дзе ўлічваецца думка не толькі членаў савета, але і афіцыйных і неафіцыйных апанентаў ды апануючай арганізацыі.

Шостым этапам становіцца рашэнне экспертнага спецсавета. Я лічу, што падбор членаў спецсавета даволі часта праводзіцца не па дзелавых прыкметах, не па кваліфікацыі і навуковым аўтарытэце таго ці іншага вучонага, а па нейкіх іншых прыкметах. Паміж членамі спецсавета разгарнулася, як у савецкія часы, „сацыялістычнае спаборніцтва” — хто першым знойдзе той ці іншы „жучок”, хто першы „зарэжа” тую ці іншую дысертацыю. Прэзідыум ВАКа хваліць і стымулюе тых, хто знойдзе больш недахопаў, а пры вялікім жаданні недахопы можна знайсці ў любой дысертацыі. А трэба глядзець, па-першае, на тое, што новага ўносіць дадзенае даследаванне не толькі ў беларускую, але і ў сусветную гістарычную навуку. Справа ў тым, што некаторыя дысертанты адзначаюць, што гэта першае ў айчыннай гістарыяграфіі навуковае даследаванне. Але яго каштоўнасць значна зніжаецца, калі падобнае даследаванне ўжо ёсць у Польшчы, Нямеччыне ці Расіі.

Я лічу, што дысертацыю можна адхіліць у наступных выпадках:

1. Калі выяўлены плагіят.

2. Калі заключныя высновы і большасць высноў у тэксце дысертацыі не аргументаваны.

3. Калі па сутнасці ў дысертацыі няма нічога новага.

4. Калі яе афармленне не адпавядае патрабаванням ВАКа.

І ўрэшце лёс дысертацыі вырашае думка некалькіх членаў (так званай большасці) спецсавета, якія не толькі не з’яўляюцца спецыялістамі па дадзенай праблеме, а часам вельмі далёкія ад яе. Разам з тым гэта недавер навуковаму кіраўніку, вучоным, якія праводзілі экспертызы,

вялікаму калектыву навукоўцаў апануючай арганізацыі і ўсім членам спецсавета.

**2.** Задавальняюць толькі часткова. Да цяперашняга часу ў нашай краіне фактычна адсутнічае каардынацыя навуковых даследаванняў па гістарычных навуках. Гэтая справа перададзена ў прэрагатывы тых ці іншых кафедраў ВНУ або Саветаў ВНУ, не кажучы пра Інстытут гісторыі НАНБ.

Для большасці даследчыкаў стаў закрытым Цэнтральны архіў Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, дзе я двойчы працаваў у пачатку 1990-х г. Калі я ў траўні 2010 г. звярнуўся да старшыні КДБ В. Зайцава з просьбай пазнаёміцца з матэрыяламі пра дзейнасць міністра дзяржаўнай бяспекі БССР у 1943–1951 г. Л. Цанавы, то 31 траўня 2010 г. атрымаў вельмі дзіўны, у многім незразумелы адказ, які нагадаў размову двух глухіх. З КДБ адказалі, што матэрыялаў пра Л. Цанаву ў архіве МЗС (?!) Рэспублікі Беларусь няма, хоць у хадайніцтве рэктара БДПУ імя М. Танка П. Кухарчыка ясна гаварылася пра фонды Цэнтральнага архіва КДБ Рэспублікі Беларусь.

Пераважная большасць даследчыкаў не мае магчымасці працаваць у архівах і бібліятэках Расіі, Польшчы, Нямеччыны, ЗША і іншых краін.

Жадае быць лепшай справа з апрабацыяй і публікацыяй навуковых даследаванняў па гістарычных навуках. Вельмі цяжка выдаваць кнігі. У дзяржаўных выдавецтвах яны зазнаюць сур'ёзную цэнзуру, прычым з навукоўцамі і іншымі аўтарамі нават не раяцца. Так, у 2009 г. у выдавецтве „Беларусь" пад маёй агульнай рэдакцыяй выйшаў даведнік „Высшее партизанское командование Белоруссии. 1941–1944". На самай справе я хацеў назваць яго „Высшее советское партизанское командование Белоруссии", тлумачачы гэта тым, што акрамя партызан, якія падпарадкоўваліся Маскве — ЦШПД і БШПД, існавалі Армія Краёва, АУН-УПА і беларускія нацыяналістычныя партызаны. Але былы галоўны рэдактар выдавецтва Я. Аляксейчык з гэтым не згадзіўся.

Большасць публікацый будучых кандыдатаў і дактароў навук друкуюцца ў часопісах і зборніках тыражом 100 экз., і многія вучоныя-гісторыкі не маюць магчымасці з імі пазнаеміцца і выказаць сваю думку. Нашы радыё і тэлебачанне вельмі рэдка паведамляюць пра выхад новых грунтоўных кніг па гісторыі Беларусі, а тым больш не пачуеш каментарыяў.

**3.** На вялікі жаль, у прафесійных „стандартах” сучаснай беларускай гістарыяграфіі параўнальна з гістарычнай навукай БССР і гістарыяграфіямі суседзяў змянілася нямнога. Па-першае, гэта з’яўленне новай тэматыкі і праблематыкі. Упершыню даследуюцца праблемы, якія раней не даследаваліся. Гэта датычыцца гістарычнага мінулага беларускага народа пачынаючы ад старажытнасці, а таксама многіх пытанняў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. З тэм, якія раней не даследаваліся, можна назваць праблему гісторыі Халакоста на беларускай зямлі. Новай стала гісторыя этнічных меншасцяў Беларусі. Шмат новага зроблена па гісторыі населеных пунктаў, гісторыі беларускай культуры. Значнай падзеяй у навуковым жыцці стаў выхад шасцітомавай „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” і трохтомавай энцыклапедыі „Вялікае Княства Літоўскае”.

Я не супраць таго, што галоўная стаўка робіцца на гераізм і мужнасць беларускага народа. Але да сённяшняга часу не ліквідавана шмат „белых плям” у нашай гісторыі. Даўно настаў час адысці ад ужывання тэрміна, уведзенага ў гістарычную навуку ў 1949 г. Л. Цанавам — „усенародная партызанская вайна ў Беларусі”. Тэрмін „усенародная” стаў стэрэатыпам з савецкіх часоў. Мы маем усе падставы адзначыць „народны характар” партызанскай вайны ў Беларусі, і то толькі з пачатку 1943 г. Калі гаварыць пра 1941–1942 г. — яна не была ўсенароднай, і толькі з другой паловы 1942 г. пачаўся пераход партызанскай вайны ў Беларусі да „народнай”. Два асноўныя крытэрыі — 1) суадносіны колькасці пар-

тызан і калабарацыяністаў, 2) ступень развіцця партызанскага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Беларусь сёння стала адзінай краінай у свеце, дзе не падлічаны страты нямецкіх акупантаў ад дзеянняў беларускіх партызан. Да цяперашняга часу ў афіцыйных выданнях нашай краіны катэгарычна сцвярджаецца, што „ў ходзе партызанскай вайны знішчана… 500 тыс. салдат і афіцэраў фашысцкай арміі”. Але ж гэта міф, які дапамагаюць развеяць у першую чаргу працы вядомага беларускага даследчыка Кузьмы Козака. На самай справе забіта 120–130 тысяч ворагаў (разам з калабарантамі). Сапраўдным наватарам у гісторыі можна назваць Сяргея Новікава.

Застаецца „белай плямай” лічба эвакуяванага насельніцтва БССР у тылавыя раёны СССР у 1941–1943 г. У афіцыйнай літаратуры прыводзіцца лічба 1,5 млн. чалавек. Па маіх падліках, па выніках шматгадовага вывучэння гэтая лічба вагаецца ў межах 750–780 тыс. чалавек. Гэта азначае, што афіцыйная лічба перабольшана ў два разы. Усё гэта можна прачытаць у маім артыкуле „Невядомыя старонкі эвакуацыі” (скарочаны варыянт) у газеце „Звязда” за 15 верасня 2010 г. Але перад гэтым я спрабаваў апублікаваць матэрыял пра невядомыя старонкі эвакуацыі насельніцтва Беларусі ў „Гістарычна-археалагічным зборніку” Інстытута гісторыі НАНБ, „Беларускім гістарычным часопісе”, газетах „7 дней”, „Народная газета”.

Многія рэдактары баяцца новых фактаў і адкрыта гавораць: „Не трэба перапісваць гісторыю”. На пленарных паседжаннях большасці навуковых канферэнцый, як і ў савецкія часы, выступаюць адны і тыя ж людзі — дырэктары інстытутаў, загадчыкі аддзелаў і цэнтраў, у крайнім выпадку — загадчыкі кафедраў ВНУ.

Ацэньваць якасць навуковай прадукцыі ў першую чаргу трэба па навізне і глыбіні даследавання. Большасць публікацый у зборніках навуковых канферэнцый, на вялікі жаль, утрымліваюць вельмі мала новага. Нам не хапае як цікавых глыбокіх манаграфій па асобных праблемах, так і гістарыяграфічных прац. У гэтым

выпадку трэба браць прыклад з вучоных Нямеччыны, Польшчы, Расіі, Украіны, ЗША. Не хапае грунтоўных манаграфій пра жыццё і дзейнасць вядомых партыйных і дзяржаўных дзеячаў Беларусі, у першую чаргу пра П. Панамарэнку, кніг пра выдатных беларускіх гісторыкаў У. Пічэту, М. Доўнара-Запольскага, У. Ігнатоўскага, П. Казлоўскага, З. Капыскага і інш. І яшчэ. Дзяржава павінна падумаць, каб кнігі па гісторыі і культуры Беларусі сталі таннейшымі і былі даступныя не толькі выкладчыкам, але і студэнтам, старшакласнікам.

Хочацца спадзявацца, што ў бліжэйшай будучыні беларуская гістарычная навука ўздымецца на якасна новы ўзровень.

**Андрэй Кіштымаў**, кандыдат гістарычных навук, Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва (Мінск)

**1.** Напэўна, мой выпадак нетыповы. Я не вучыўся на дзённым аддзяленні гістфака; яшчэ не маючы вышэйшай адукацыі, пачаў працаваць у акадэмічным інстытуце гісторыі, не заканчваў аспірантуры і практычна не меў кіраўніка, калі працаваў над кандыдацкай дысертацыяй. Так што атрымліваецца, што я нейкі „несістэмны”. Але сістэму ведаю, бо з яе прадукцыяй знаёмы на працягу трох дзясяткаў гадоў сваёй навуковай дзейнасці.

Лаяць ВАК лёгка і сапраўды ёсць за што. Добра памятаю, як у 80-я г. перыядычна, праўда, на ўзроўні калідорных гутарак, гучала: „Ну чаму ВАК толькі ў Маскве? Якія высілкі патрабуюцца, каб туды прабіцца! Гэта ж монстр, які пажырае навуковую думку. Вось быў бы ў рэспубліцы свой ВАК, мы б паказалі, што такое сапраўдныя крытэрыі ацэнкі навукі”. Сёння ВАК свой. І што ж? Ён не толькі не пазбавіўся ад хвароб „старога” ВАКа, але і досыць таленавіта здолеў іх прымножыць. Плюс, увёўшы сістэму настрыфікацыі, паставіў сябе наогул над усімі ВАКамі свету.

Сучасны ВАК, падобна ВАКу ўчарашняму, заняты тым, што робіць навуку такой, з якой яму зручна і сёння,

і заўтра весці справу. Таму і назіраецца рэальны разрыў паміж ВАКаўскай навукай і навукай, якая не прайшла праз ВАКаўскае сіта. Прычым гэты разрыў найбольш адчувальны ў гуманітарных навуках.

У савецкі час яго не было наогул. Тады паняцці *сістэма* і *навука* цалкам супадалі. Але ў нашу эпоху, эпоху дзялення на „чэсных" і „нячэсных", навуковец перастаў быць дзяржаўным прыгонным. Прыродазнаўцы і тэхнары праблему сваіх узаемаадносін з дзяржавай і яе сістэмай кіравання навукай часцей вырашаюць механічна — проста з'язджаюць за мяжу. Яно і зразумела — лазер дома не ўсталюеш, раўналежную дзяржаўнай лабараторыю генетыкі не адкрыеш, а прыватных карпарацый, здольных на вялікую навуку, такіх, як Soni або IBM, у нас няма.

Гуманітарый можа працаваць і дома, можа працаваць нават у ВНУ або дзяржНДІ, спалучаючы афіцыйную навуку з неафіцыйнай. Ды і ніякага не проста масавага, але і хоць крыху прыкметнага попыту за мяжой на спецыялістаў па беларускай гісторыі не было і не будзе. Менавіта на спецыялістаў, а не на іх працы, якія, безумоўна, могуць быць запатрабаваныя. Асобныя выключэнні, як сярод гісторыкаў, так, дарэчы, і сярод археолагаў (І. Сінчук, В. Собаль) надвор'я не робяць. Так што мы асуджаныя суіснаваць або разам з ВАКам, або побач з ім.

Ці мог ВАК стаць іншым? Мог, калі б адной з першых сваіх пастаноў пазбавіў навуковых званняў і ступеняў тых, хто атрымаў іх за працы па гісторыка-партыйнай тэматыцы. Прынамсі, ва ўсіх нашых суседзяў за Нёманам і Бугам мінуў гэты працэс ачышчэння ад старых завалаў. Як гэта было зроблена? У ГДР і ў прыбалтаў гэта сапраўды вырашылі кардынальна. У палякаў — не. Але тое, што і там былыя гісторыкі ПАРП з першых роляў былі пасунутыя і сышлі ў цень — таксама факт. Паглядзім на досвед і самых блізкіх нашых суседзяў. У адрозненне ад нас, і ў Расіі, і ва Украіне не назіралася такой масавай „міграцыі" былых гістпартаўцаў у акадэмічную навуку. І ужо тым больш яны не станавіліся там дырэктарамі акадэмічных інстытутаў. Хапіла ж і ў нас прынцыповасці прыбраць з праграм ВНУ курсы гісторыі КПСС або „на-

вуковага камунізму". Дык навошта ж было захоўваць парадокс: дысцыпліну перастаць лічыць навуковай, а вось за спецыялістамі па ёй пакінуць званне навукоўцаў? Такі ВАК, які прыняў бы такое прынцыповае рашэнне, сапраўды быў бы новы. Прынамсі, свой разрыў з мінулым ён бы пазначыў досыць ясна. А заадно і разгрузіўся б ад тых, хто і сёння не гатовы ўспрымаць новае.

Як ні парадаксальна, але без ВАКа было б яшчэ горш. Я маю на ўвазе, што сістэма атэстацыі навуковых кадраў павінна існаваць. У першую чаргу як бар'ер на шляху дылетантызму. З некаторым спазненнем, але і для нашай гісторыі актуальнай становіцца праблема folk-history, асабліва ў яе шматлікіх інтэрнэт-версіях. ВАК, з яго задачай легітымізацыі навуковых кадраў, уяўляе сабой хоць бы нейкі бар'ер на шляху гэтай „народнай гісторыі". Хоць і сам пры гэтым, як паказала практыка, можа пладзіць дылетантаў.

**2.** Умовы вядзення гуманітарных даследаванняў за апошнія 10–20 гадоў змяніліся кардынальна. Згадванне пра інтэрнэт, як я разумею, будзе гучаць проста банальна. Як і яшчэ адно жыццёвае назіранне: з штатаў НДІ проста зніклі пасады машыністак. Пра тое, як пашырэла інфармацыйнае поле, упэўнены, у той або іншай форме скажа кожны анкетаваны. Выбар тэматыкі практычна неабмежаваны. Праўда, пры выбары тэматыкі нярэдка адразу даводзіцца вызначацца і з уласнай „арыентацыяй" — будуць мяне далей лічыць „чэсным" або „нячэсным". Тое ж і з апрабацыяй і публікацыяй вынікаў даследаванняў. Магчымасці ёсць, і немалыя, але ў „Беларускай думкі" свае кола аўтараў, а ў БГА — свае.

Але ва ўсёй гэтай шырыні ёсць і свае вузкасці. Падзялюся некаторымі назіраннямі. Калі раней плагіят насіў, так бы мовіць, рытуальны характар: пісалі, напрыклад, пра сацыялістычнае спаборніцтва або калектывізацыю, бралі падобную працу, замянялі Маскву на Мінск, РСФСР на БССР, падбіралі адпаведныя лічбы — і праца гатовая, то цяпер крадуць у сваіх, ды яшчэ і спрабуюць выдаць гэта за ўласны ўнёсак у навуку.

Стала „нямодна” спасылацца на папярэдніка. Больш за тое, увогуле згадваць пра яго існаванне. Затое працы, асабліва маладых гісторыкаў, мільгаюць згадваннямі пра ўласны прыярытэт. Калі я чытаю „ўпершыню”, „па-новаму”, „на падставе невядомых раней дакументаў”, то нярэдка думаю, што праўдзіваму становішчу больш адпавядалі б фразы „ўпершыню *мной*” або „на падставе раней невядомых *мне* дакументаў”. Гэта значыць, пры слабой папярэдняй гістарыяграфічнай прапрацоўцы матэрыялаў даволі лёгка адкрыцці для сябе зблытаць з адкрыццямі ў навуцы.

**3.** У параўнанні з савецкімі часамі прафесійны стандарт ацэнкі гістарыяграфіі проста страчаны. Раней ён быў. Які? Хто старэйшы — гэта ведае, хто маладзейшы — здагадваецца. Але тое, што ён быў — бясспрэчна. Пачынаючы ад абавязковага дэкларавання ў аўтарэфератах наконт таго, што праца выканана ў рэчышчы „марксісцка-ленінскай метадалогіі”.

У савецкай улады былі праблемы ў гісторыі і з гісторыяй. Таму яна і ставіла перад гісторыкамі задачу — давесці, што наш шлях у будучыню не проста слушны, але і наканаваны нашым мінулым. На адпаведнасць гэтай тэзе і праходзіла стандартную праверку любая гістарычная праца.

Цяпер такога стандарту няма. Таму што няма дзяржаўнай замовы на гістарычную навуку. На запуск касмічнага спадарожніка дзяржзамова ёсць, на які-небудзь звышмагутны камп’ютар — таксама, нават на якую-небудзь тэхналогію гадоўлі лёну — ёсць. А на гісторыю дзяржзамовы няма. Гэта значыць, маўкліва мяркуецца, што яна ў дзяржаве павінна быць, і для гэтага нейкую колькасць гісторыкаў дзяржава гатова ўтрымліваць. Але патрэбныя яны толькі да датаў: то чарговыя ўгодкі вайны з перамогай, то ў Белавежскай пушчы юбілей, часам і якому-небудзь гістарычнаму персанажу пашанцуе, напрыклад, Напалеону Орду або Францыску Скарыну. І тут стандарт гістарычных прац вядомы: усё павінна быць хораша, а мы наперадзе ўсёй Еўропы, а то і свету. Аднак

тое, што складае жывую тканіну навукі, гэта значыць — навуковыя праблемы, — як прыярытэты не пазначаны.

Сур'ёзную гаворку пра якасць навуковай прадукцыі трэба і можна весці заўсёды. Ёсць для гэтага і старыя, правераныя часам, скажам так, традыцыйныя метады гістарычнай навукі: рэцэнзаванне, дыскусіі, папярэдняя апрабацыя на навуковых канферэнцыях, сімпозіумах або круглых сталах. Ёсць і новыя, шырока выкарыстоўваныя ў сусветнай навуцы, напрыклад індэкс цытавання. Пра яго існаванне ў нас ведаюць толькі тэарэтычна. Хацеў бы памыліцца, але ніхто, прынамсі ў гуманітарных навуках, яго падлікам у Беларусі не займаецца. Хоць, здавалася б, ёсць каму: той жа ВАК, або НАН Беларусі, або Нацыянальная бібліятэка.

Не спрачаюся, індэкс цытавання — не панацэя. Хоць бы таму, што ў ім аднолькава „важаць" і згадванні са знакам плюс, і са знакам мінус. Таму Трашчанок цалкам можа апынуцца ў лідарах, злёгку саступіўшы Ермаловічу. Затое найцішэйшы Валерый Мянжынскі, бясспрэчны аўтарытэт па вывучэнні Літоўскай Метрыкі, апынецца далёка ззаду ад іх.

Усё-такі, падазраю, айчынная боязь індэкса цытавання заключана не ў персонах. Для ацэнкі іх рэпутацыі ён толькі дапаможная прылада. Аднак індэкс цытавання можа лёгка палічыць і колькасць згадванняў у навуковым свеце, напрыклад, Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Або той жа айчыннай ВАК. Малюначак можа здацца несуцяшальным. Дык ці трэба гэта ім?

І, нарэшце, галоўнае: не будзем забывацца, што навука — гэта не толькі яе (гэта значыць навуковыя) праблемы, але і людзі са сваімі, цалкам чалавечымі праблемамі. Фінансавымі, сямейнымі, псіхалагічнымі і г. д. Што, у нашай гістарычнай навуцы няма спадчыннасці? Ёсць, і нельга сказаць, што нават пры іншых роўных умовах яна не выконвае сваёй ролі. Або: у ВАКу могуць не адзін год сядзець прызнаныя аўтарытэты айчыннай гістарычнай навукі, але зусім не факт, што яны з лёгкім сэрцам гатовыя адкрыць дарогу сваім патэнцый-

ным канкурэнтам з ліку новых дактароў. І, памяняўшы савецкі пашпарт на пашпарт Рэспублікі Беларусь, далёка не заўсёды гісторык гатовы развітацца з савецкім мінулым. Асабліва калі ён яго творца.

**Марына Сакалова**, кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі

**1.** Як такая, сістэма падрыхтоўкі навуковых кадраў не выклікае пытанняў. Аднак бюракратызацыя, непразрыстасць працэсу і накіраванасць на абмежаванне колькасці дактароў навук і г. д. ствараюць неадольныя перашкоды для навукоўцаў.

**2.** Галоўны недахоп, на мой погляд, у тым, што адсутнічаюць шырокія дыскусіі па агульных пытаннях гістарычнай навукі. Апрабацыя даследаванняў адбываецца галоўным чынам у рамках бюракратычных ступеняў падрыхтоўкі дысертацый. Наогул, ствараецца такое ўражанне, што гістарычная навука існуе толькі як працэс падрыхтоўкі дысертацыйных даследаванняў і калектыўных прац. Магчымасцяў для незалежнай даследчыцкай працы (з пункту гледжання фінансавання беларускімі ўстановамі і фондамі) амаль няма.

**3.** На маю думку, прафесійныя стандарты сучаснай беларускай гістарыяграфіі практычна не змяніліся параўнальна з гістарычнай навукай БССР: якасць навуковай прадукцыі ацэньваецца галоўным чынам на падставе выкарыстання архіўных дакументаў і адпаведнасці бюракратычным стандартам. Наватарскія даследаванні сустракаюцца з падазронасцю, бо, як правіла, не ўпісваюцца ў гэтыя бюракратычныя стандарты (нават тэматычна). Як і ў савецкія часы, беларуская гістарычная навука ў вялікай ступені ізаляваная ад сусветнага гістарычнага дыскурсу. У гэтым, як мне падаецца, галоўнае адрозненне яе ад гістарыяграфіі суседзяў.

**Захар Шыбека**, доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта

**1.** Падрыхтоўка гісторыкаў-прафесіяналаў штучна стрымліваецца, асабліва дактароў навук. Яшчэ Мікіта Хрушчоў лічыў гісторыкаў небяспечнымі для ўлады. Ды і на гуманітарных навуках, відаць, хочуць сэканоміць. Хоць па прыкладзе Літвы можна ўвесці ўніверсальную навуковую ступень — доктара навук. Тады зменшацца і выдаткі на падрыхтоўку навукоўцаў. Рэзервы — платныя і бюджэтныя аспірантуры. А штучна стрымліваць рост колькасці прафесійных гісторыкаў, калі людзі таго заслугоўваюць, няма сэнсу. Узрасце канкурэнцыя. І кожны знойдзе месца адпаведна сваім здольнасцям.

У бюджэтнай аспірантуры цяпер ставіцца задача абавязковай абароны пасля сканчэння тэрміну аспірантуры. Гэта не заўсёды ідзе на карысць справе. Дысертацыі атрымліваюцца „сырымі". Аспіранты не паспяваюць сабраць дастаткова архіўных дакументаў і асэнсаваць іх.

Мне не так часта, але даводзіцца апаніраваць дысертацыі. Складваецца ўражанне, што ў навуковай экспертызе пануе фармалізм, заідэалагізаванасць і кумаўство. Прынцып спаборніцтва пры абароне фармальна захоўваецца. Аднак вынік галасавання вырашаецца ўжо на папярэднім паседжанні экспертнай камісіі пры савеце па абароне. Калі дысертацыя прынятая да абароны, тады ўжо заўвагі апанента не маюць асаблівага значэння. Усе ці большасць прагаласуюць „за", каб не ставіць пад сумненне папярэднюю экспертызу, у якой тыя ж сябры савета па абароне і ўдзельнічалі. Дысертацыя ацэньваецца не столькі па навуковай вартасці, колькі па ідэалагічнай вытрыманасці і адданасці аўтара ўладзе. Патрабаванні да дысертацый, асабліва да доктарскіх, нібыта высокія. Але пераважае фармальны падыход. Бюракратыя выпрацавала шэраг казуістычных штампаў,

якія абавязкова павінны прысутнічаць у дысертацыі. Яе навуковая вартасць можа заставацца па-за ўвагай. Для ацэнкі гэтай вартасці ў сучасных экспертаў, якія заселі ў саветах па абароне, не хапае прафесіяналізму, бо яны эксперты, хутчэй, па казуістыцы. Безумоўна, ёсць выключэнні. Але пераважна гэта людзі сталага веку ды кар'ерысты, якія мала дасведчаныя ў дасягненнях сучаснай гістарычнай навукі. Сапраўдным жа прафесіяналам у саветах не хапае мужнасці, каб заняць прынцыповую пазіцыю. Незалежныя эксперты з еўрапейскім досведам у кола экспертаў не дапускаюцца. Яшчэ менш спецыялістаў па гісторыі ў ВАКу. Там навуковую працу гісторыкаў ацэньваюць фізікі, хімікі і толькі найбольш адданыя ўладзе гісторыкі. Праца трапляе эксперту, які прэзентуе яе перад членамі ВАКа. Лёс прысваення навуковай ступені часам залежыць ад сумленнасці і дасведчанасці аднаго чалавека. ВАК не з'яўляецца незалежнай установай. Пад ціскам зверху ён прымае патрэбныя рашэнні.

**2.** Вытворчасць гуманітарных ведаў недастаткова фінансуецца дзяржавай. Аспірантаў чакаюць капеечная стыпендыя, мізэрнасць аплачаных камандзіровак, неспрыянне замежным стажыроўкам, а ў перспектыве — нізкія заробкі. Усё гэта зніжае матывацыю паступлення ў аспірантуру. Выкладчыкі ўніверсітэтаў не могуць разлічваць на аплачаную замежную камандзіроўку як для працы ў архівах, так і для ўдзелу ў навуковых канферэнцыях. З такімі ж праблемамі сутыкаюцца і навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Шчодра фінансуюцца толькі так званыя навукова-практычныя канферэнцыі, якія маюць парадна-юбілейны характар.

Нармальнаму развіццю афіцыйнай гістарычнай навукі перашкаджаюць жорсткі адміністрацыйны кантроль і жывучасць савецкіх стэрэатыпаў. Па ідэалагічных прычынах не дазваляецца ўсебаковае вывучэнне адносінаў з Расіяй, Вялікай Айчыннай вайны, дзейнасці БНР. Застаюцца забароненыя тэмы. Да гэтага часу існуе перака-

нанне пра ненавуковасць вузкіх тэм. Мая суіскальніца тройчы перапісвала дысертацыю пра наёмных рабочых і служачых Мінска, каб дагадзіць савету па абароне дысертацый пры Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. Для выезду выкладчыкаў у іншую краіну нават сваім коштам ці коштам прымаючага боку патрэбен дазвол Міністэрства адукацыі. Два гады таму мяне не выпусцілі ў Прагу на навуковую канферэнцыю, прысвечаную юбілею БНР, ні на якіх умовах. Не далі і адпачынак на ўласны кошт. Матывацыя была такая: каб не парушаць навучальна-выхаваўчы працэс.

У краіне існуе толькі адзін дзяржаўны часопіс, спецыялізаваны на гісторыі, ды і то палову яго аб'ёму займаюць метадычныя парады настаўнікам гісторыі ў школе. Універсітэцкія навуковыя выданні адводзяць гісторыі сціплае месца. У іх пануе „міжсабойчык”. Праблема публікацый часткова вырашаецца друкаваннем матэрыялаў навуковых канферэнцый. Урэшце, не складана апублікаваць добры артыкул у незалежных часопісах „Беларускі Гістарычны Агляд”, „Гістарычны альманах”, „Homo historicus” ці „Arche”. Аднак іх выданні не ўключаны ў лік так званых рэцэнзаваных, што знаходзяцца пад цэнзурай дзяржавы, а таму змешчаныя ў іх публікацыі не ўлічваюцца ВАКам пры абароне дысертацый.

Вядомыя гісторыкі краіны, якія не прытрымліваюцца афіцыйнай гістарычнай схемы, не маюць магчымасці ўдзельнічаць у падрыхтоўцы маладых спецыялістаў. Аспірантаў ім проста не даручаюць.

**3.** Сучасная беларуская гістарыяграфія перажыла непрацяглую мадэрнізацыю ў пачатку 1990-х г., а потым была адкінутая на старыя пазіцыі. І цяпер яна мала чым адрозніваецца ад гістарычнай навукі савецкіх часоў ды катастрафічна адстае ад гістарыяграфій суседніх дзяржаў. Гістарычныя працы прызначаюцца для ўнутранага карыстання. Калі афіцыйных гісторыкаў і цытуюць у еўрапейскіх краінах, дык толькі для таго, каб паказаць іх прыхаваную ці зусім не прыхаваную залежнасць

ад савецкай ідэалогіі і штампаў савецкай гістарыяграфіі. Змены да лепшага адбываліся толькі ў неафіцыйнай гістарыяграфіі краіны. Важным новым стандартам стала веданне маладымі гісторыкамі замежных моў, выкарыстанне імі замежных навуковых даследаванняў і матэрыялаў замежных гістарычных архіваў. Яшчэ — авалоданне камп'ютарнымі тэхналогіямі і асваенне рэсурсаў інтэрнэта. Надзвычай важнай зменай было ўзнікненне недзяржаўных гістарычных часопісаў, якія істотна ўздымаюць якасць навуковых публікацый, знаёмяць беларускіх гісторыкаў з дасягненнем іх калег за мяжой, прэзентуюць беларускую гістарыяграфію на еўрапейскай навуковай прасторы. Усё гэта спрыяе паступовай выпрацоўцы нацыянальнай канцэпцыі гістарычнага развіцця Беларусі, калі мінулае Айчыны ацэньваецца з пазіцый беларускіх нацыянальных інтарэсаў.

Дзяржаве не ўдаецца ўстанавіць над гісторыкамі татальны кантроль. Сапраўды навуковую і канкурэнтназдольную на еўрапейскім рынку прадукцыю ствараюць прадстаўнікі маладой генерацыі гісторыкаў, якія вучацца у еўрапейскіх краінах, працуюць там у архівах і бібліятэках ды карыстаюцца падтрымкай з боку замежных фундатараў. Дасягненні незалежнай гістарыяграфіі так ці іначай уплываюць на афіцыйную. Змяняюцца ацэнкі БНР, далучэння Заходняй Беларусі да БССР-СССР. Праўда, перамены адбываюцца вельмі павольна. Можа таму, што існуе недахоп прафесійнай крытыкі і дыскусій паміж гісторыкамі, якія прытрымліваюцца розных поглядаў. Спрачацца з несумленнымі гісторыкамі, якія служаць не народу, а ўладзе, амаль што бессэнсоўна. Іх не пераканаеш. Аднак матэрыялы любых дыскусій маюць істотнае значэнне для развіцця беларускай гістарыяграфіі.

**Алег Яноўскі**, кандыдат гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Расіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта

**1.** Пытанне як бы простае, бо можна адказаць на яго якраз (зыходзячы з пастаноўкі пытання) зусім спрошчана: ацэньваю на „добра” ці на „здавальняюча”, а можа і на „нездавальняюча”. Але ж, зразумела, гэта не адказ, бо ў кожнага гісторыка за апошнія гады „накіпелі” як эмацыянальныя (у большасці), так і (у некаторых) дастаткова аргументаваныя ацэнкі сістэмы і практыкі „падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў Рэспубліцы Беларусь”.

Так і я, як гісторык з дастаткова вялікім стажам дзейнасці на навуковай і педагагічнай ніве і з вопытам дакладнай працы па падрыхтоўцы гэтых самых кадраў, не без эмоцый ацэньваю наяўную сітуацыю. І даводзіцца не без жалю канстатаваць, што ўсё больш і больш верх бярэ бюракратычны, а не творчы складнік у дадзенай справе, якая відавочна мае непасрэдную і дзяржаўную, і грамадскую вартасць. Як бы там ні было, а *проста* рэалізацыя нашых творчых памкненняў не можа развівацца ў рэчышчы дзяржаўнага фінансавання. Той, хто адважваецца на шлях у навуку, павінен успрымаць і кіравацца пэўнымі абмежаваннямі „палётаў думак і натхнення свайго”, быць гатовым несці адказнасць за выніковасць і праявы свайго творчага „эга”. І быць гатовым успрымаць фармальныя нормы і правілы, якія дыктуюцца „сістэмай” — а гэта і нарматыўныя дакументы ВАКа, і, што найбольш важнае і, можа, сумнае для маладога, экспрэсіўнага розуму — традыцыі, кансерватызм старэйшых і „тытулаваных” калег-настаўнікаў і рэцэнзентаў-экспертаў. Тут, як падаецца, перад спашукальнікамі вучоных ступеняў (у меньшай ступені, прабачце за таўталогію, — вучонах званняў) існуе столькі перашкод і выпрабаванняў, што Сцыла і Харыбда ўспрымаюцца амаль што з усмешкаю.

І праз гэтыя выпрабаванні па-рознаму спрабуюць прайсці маладыя навукоўцы. Адны ідуць напрамую, кіруючыся толькі высокімі катэгорыямі (па іх усведамленні) навуковасці ў абраных тэмах і лічаць другасным звяртаць увагу на фармальныя патрабаванні да дысертацыі. Другія, больш прагматычныя, пунктуаль-

на выконваюць прадпісанні наконт амаль што „кропак" і „косак", міліметраў водступу справа-злева ў тэксце артыкулаў і самой дысертацыі, а таму сэнсавыя моманты застаюцца збоку, а не ў цэнтры ўвагі аўтара. А што датычыцца навуковых кіраўнікоў, то яны, бедалагі, у апошні час сталі амаль што цурацца сваіх вучняў як магчымых аспірантаў. Галаўны боль і нервовыя затраты не кампенсуюць ужо той магчымай радасці і задавальнення, якія прыходзяць услед за творчым поспехам твайго вучня, маладога калегі. Цяжка зразумець перманентныя змены ў патрабаваннях да дысертацый, большасць з якіх носяць фармальны характар.

Як былы вучоны сакратар савета па абароне дысертацый часоў памежжа двух тысячагоддзяў, праз рукі, розум і эмоцыі якога прайшло значна больш за сотню навуковых аўтарскіх трактатаў, і як навуковы кіраўнік дзесяці паспяхова абароненых дысертацый, магу гаварыць толькі з жалем пра сённяшняе становішча ў сістэме падрыхтоўкі нашай змены. Не ўдаючыся ў дэталі, якія ўсім добра вядомыя, назаву два, на мой погляд, найбольш відавочныя наступствы ўсёй „прадпісальнай" дзейнасці ВАКа. Па-першае, гэта амаль што абсалютны фармалізм, калі нават хібы ў пунктуацыі могуць легчы цяжарам на канчатковай ацэнцы дысертацыі. Не гаворачы ўжо пра фармалізм у дачыненні да самой структуры дысертацыйнага даследавання, да бягучых і выніковых папер, якія ўсе гады працы над тэмай у тым ці іншым кірунку суправаджаюць спашукальніка. Але самае галоўнае, па-другое, што цяперашняя сістэма справакавала відавочны недавер да прафесіянальнай якасці і навуковых кіраўнікоў (яны адчуваць сябе сталі як „агнцы на закланне") і, што самае агіднае (!) — да членаў саветаў па абароне (дарэчы, іх засталося ўсяго нічога па гістарычных навуках).

Шмат прыступак на лесвіцы, якая вядзе да запаветнага яблыка — „аступянення"! І кожная вельмі хісткая, кожная сама па сабе. Ды і яны не вельмі важныя, калі раптоўна спатрэбіцца скіраваць пільны зрок на якоганебудзь прэтэндэнта. Тады хопіць толькі меркавання

нейкага „чорнага” апанента. І гэта ў той час, калі нават сабраць савет са спецыялістаў становіцца ўсё больш і больш праблематычным. Але саветы цяпер не могуць выклікаць недаверу па сутнасці, па нашых успрыманнях. Тым больш, што яны зацверджаны ВАКам! Тым часам „спец сярод усіх спяцоў”, калі патрэбна, знаходзіцца. І яго ацэнка вырашальная.

Адным словам, я магу ацаніць сістэму падрыхтоўкі навуковых кадраў у Беларусі як… дзіўную, няплённую і неперспектыўную.

**2.** А вось дадзенае пытанне, у адрознене ад першага, не падштурхнула мяне да роздуму, хоць і павярхоўнага (можна было б сарвацца на эмоцыі, на свой вопыт, на „за” і „супраць” па галоўных сюжэтах тэмы і па дробязях). Лічу, што цяперашнія ўмовы „вытворчасці” гуманітарных ведаў (ад выбару тэматыкі да магчымасцяў архіўна-бібліятэчных пошукаў, апрабацыі і публікацыі даследаванняў), як і раней, як ва ўсе часы залежаць ад таго, як сам навуковец імкнецца спасцігнуць сваю, абраную самім, тэму. Гэта першаснае. Але да гэтага трэба дадаць сродкі, фінансаванне, асабліва ў тых выпадках, калі кірунак тэмы патрабуе звяртання да замежных крыніц. Так, мае вучні і я сам апошнія добрых 20 гадоў больш кіруемся сваёй ініцыятывай у пошуках магчымасці працаваць над тэмамі ў Маскве ці Санкт-Пецярбургу. А калі ж тэма па гістарыяграфіі Паўночнага Каўказа (як у майго аспіранта Андрэя), то хаця б грузінскі кірунак трэба неяк асіліць. За свае грошы — за аспіранцкую стыпендыю. І толькі застаюцца ў памяці рэгулярныя камандзіраванні прафесуры БДУ за „інтэлектуальным сілкаваннем” у жабрацкія 20-я гады, а больш гады тваёй навуковай маладосці (70–80-я), калі 2-3 паездкі за год у архівы і бібліятэкі Масквы былі банальным суправаджэннем працы беларускага расіязнаўцы.

Што тычыцца выбару тэмы даследавання, то тут фармалізм не расквітнеў. Хоць пэўныя чуткі раз-пораз бударажаць акадэмічна-ўніверсітэцкія колы. Напрыклад, нельга, па меркаванні загадчыка кафедры, ісці ўслед

за юнацкай зацікаўленасцю дыпломніка ці магістранта, калі паўстае пытанне аб аспірантуры і магчымай будучай працы яе выпускніка на кафедры. Тут павінна быць відавочнае планаванне: якія тэмы трэба распрацоўваць, каб іх спектр як мага больш гарманічна адлюстроўваў навучальна-навуковыя накірункі ў дзейнасці кафедры, яе традыцыі. І нікуды не дзецца ад творчых інтарэсаў навуковага кіраўніка. Як-ніяк, а навуковую школу хацелася б ці працягваць, ці ствараць.

Здаецца, праблему публікацыі прамежкавых вынікаў працы над дысертацыямі, іх апрабацыі на той ці іншай канферэнцыі, „круглым стале” і г. д. мы вырашылі адназначна. І тут ВАК, спачатку „закруціўшы гайкі”, зрабіў відавочна пазітыўнае: колькасць навуковых выданняў, ім успрынятых і зацверджаных, на сёння дастатковая, каб задаволіць усіх — і аспірантаў, і іх навуковых кіраўнікоў (дацэнты ж таксама павінны рэгулярна друкавацца, каб мець права на навуковае кіраўніцтва). Калі ўзгадаць пачатак 90-х г. і барацьбу за стварэнне „Беларускага гістарычнага часопіса”, які ў хуткім часе стаў амаль што адзіным выданнем, афіцыйна прызнаным, то цяпер ён не выклікае аніякага піетэту, хаця аргументы для ўладных інстанцый аб неабходнасці яго адкрыцця пісаліся ў кабінеце дэкана гістфака БДУ пад прыемны пах кавы.

**3.** На дадзенае пытанне немагчыма даць кароткі адказ. Яно патрабуе глыбокага пранікнення ў „той” час, у навуковую спадчыну гісторыкаў, па сутнасці, не толькі розных пакаленняў, але і розных „падэпох” тагачаснай савецкай эпохі. Тут не абысціся без пранікнення ў абставіны лёсу творцаў гістарычных прац, без спробы зразумець прычыны ці то нонканфармізму, ці то пагаднення з уладамі і з сваім сумленнем, творчым крэда. Мяне гэта ўсё больш і больш цікавіць у апошні час (мабыць, з прычыны вялікай павагі да выдатнай плеяды ўніверсітэцкіх гісторыкаў ад У. І. Пічэты да Л. М. Шнеерсона, тых „гігантаў, на плячах якіх мы ўсе стаім”).

А ці існуе магчымасць „ахапіць вокам" цяперашні стан беларускай гістарыяграфіі? Мабыць, не. Патрэбна кампетэнцыя і кругагляд. А мы больш засяроджаны на сваіх „вузкіх" навуковых праблемах. Пра ўсё астатняе ведаем з-за неабходнасці адпавядаць патрабаванням студэнцкай аўдыторыі (а гэтыя патрабаванні пастаянна паніжаюцца і не падсілкоўваюць творчыя намаганні выкладчыкаў-навукоўцаў).

Тым не менш, пры спробе асэнсаваць гэтае складанае пытанне ў мяне ўзнікла наступная асацыяцыя: час імкліва бяжыць, а нічога не змянілася ў справе гісторыка-даследчыка. Пашырылася кола крыніц, новыя парадыгмы сталі для нас успрымальнымі і зразумелымі, нават такой стракатай і па густу ўсім можа быць метадалагічная аснова нашых прац. Але відавочнай, на мой погляд, застаецца кан'юнктурнасць featured рознага кшталту: ад імкнення пракрычаць „эўрыка!" там, дзе ўсё даўно зразумела і ўвайшло ў навуковы зварот, да імкнення спасцігнуць нейкія ўстаноўкі „зверху", нават калі іх ніхто і не вызначаў.

Але, здаецца, у нашым навуковым „каралеўстве" ў асноўным існуе нейкае незафіксаванае пагадненне — кожны можа рабіць сваю справу так, як ён разумее яе плённасць. Асабліва тады, калі няма патрэбы выходзіць на атэстацыйныя ацэнкі гэтага плёну. І калі хтосьці каго ці сам сябе палохае пэўнымі наступствамі, то гэта водгукі нашага былога выхавання, а ў моладзі — ад нас, запалоханых. І існуюць розныя падыходы да „балючых" у беларускай гістарыяграфіі тэм. І ідуць спрэчкі, хоць у большай ступені неасабістыя, у друку, а не на тутэйшых навуковых канферэнцыях. Дарэчы, яны ў апошні час сталі дастаткова безаблічнымі, з нагоды нейкі гучных дат, падзей, а не па праблемных палях. Ну, тады ёсць магчымасць ад'ехаць за мяжу і там прадэманстраваць сваю кампетэнтнасць. І не бачу нейкіх хібаў у навуковай вартаснасці нашых прац, беларускіх, у параўнанні з „гістарыяграфіяй суседзяў" (дакладней — навуковымі працамі польскіх, расійскіх, украінскіх, літоўскіх гісторыкаў). Не раз сутыкаешся з тым, што нашы паважа-

ныя калегі з Расіі маюць „сваё” разуменне беларускай гісторыі, якое зыходзіць ад іх, расійска-рускага, прачытання крыніц. І дзе знаходзіцца ісціна, аб’ектыўнасць? Няма адказу! Галоўнае ж, лічу, імкнуцца быць самім сабой, мець творчы запал, імкненне спасцігнуць апанента, але аргументаваць свой погляд, сваю перакананасць. Тады адказы на дадзенае пытанне будуць у кожнага з нас лёгкімі, будуць пабуджаць да новых творчых дзеянняў.

# Палітыка у навучальным інтэр’еры*

**Уладзімір Бажанаў**

Стан палітычнай навукі ў Беларусі павінен нас вельмі турбаваць. З’явіўшыся на пачатку 1990-х г., яна прадэманстравала публіцы пакуль невялікую колькасць і значных прац. Палітычная навука ў нас у асноўным не выходзіць за рамкі навучальнай літаратуры. Выдаўцы ў лепшым выпадку прапаноўваюць аўтарам выправіць надпіс „навуковая манаграфія” на „навучальны дапаможнік”, запэўніваючы, што толькі ў гэтым выпадку яна будзе купляцца, г. зн. акупляцца ў той або іншай меры. З асаблівым жаданнем бяруць да выдання падручнікі з грыфам Міністэрства адукацыі, бо ў гэтым выпадку ўзрастае верагоднасць іх набыцця навучальнымі ўстановамі. Але без навукі падручнікі паўтараюць стандартны набор паняццяў „времен очаковских и покоренья Крыма”. Ад студэнтаў у галіне палітыкі патрабуюць ведання безаблічнага і статычнага набору банальных ісцін, пры чытанні якіх „не вспыхнет мысли в целы сутки хоть невзначай, хоть наобум”. Няма паліталагічнай прадукцыі, якая падштурхоўвала б да роздуму, была б карыснай для дапытлівага маладога розуму. У нас няма добрых падручнікаў, у нас ёсць навучальная літаратура. Можа быць, хтосьці палічыць такую маю характарыстыку нашай паліталогіі зневажальнай, аднак працуючы ў гэтай галіне больш за 15 гадоў, я іншага пакуль не бачу.

Беларуская палітычная сістэма застаецца *terra incognita.* Калі ў Расіі, не кажучы ўжо пра Захад,

* Ровдо, Владимир В. Сравнительная политология: в 3 ч. Ч. 3: Политическая система Республики Беларусь. Вильнюс: ЕГУ, 2009. 352 с.

шматлікія аўтары літаральна „па костачках" перабіраюць палітычную гісторыю і сучасную расійскую палітыку, то мы літаральна на пальцах пералічым значныя працы пра палітычнае жыццё ў сваёй краіне.

Пісаць і апісваць палітычную сістэму сучаснай Беларусі вельмі няпроста. Тым больш што на ствол сучаснай Канстытуцыі крок за крокам прышчапляюцца добра вядомыя элементы савецкай палітычнай сістэмы, а таксама выкліканыя часам некаторыя мадэрнізацыйныя элементы. У выніку перад намі „зараснікі" парасткаў, праз якія не так проста даць навукова абгрунтаваны аналіз палітычнай сістэмы краіны. Таму навучальны дапаможнік Уладзіміра Роўды „Параўнальная паліталогія", трэці том якога прысвечаны палітычнай сістэме сучаснай Беларусі, заслугоўвае законнай увагі.

Кніга чытаецца з цікавасцю. Захопліваюць логіка выкладу, насычанасць навуковымі тэорыямі, адсутнасць звыклых штампаў і катэгарычнасці меркаванняў. Выяўлены і выкарыстаны каля 200 найменняў крыніц і літаратуры, у тым ліку больш як 120 беларускіх аўтараў. Сярод замежных такія прызнаныя тэарэтыкі палітычнай навукі, як Макс Вэбер, Марыс Дзювержэ, Габрыэль Алмонд, Джавані Сарторы, Самуэль Хангцінгтан, Джон Паўэл, Збігнеў Бжазінскі і інш. Шырокае кола беларускіх палітычных даследчыкаў і публіцыстаў склалі такія вядомыя асобы, як Валерый Карбалевіч, Віктар Чарноў, Віталь Сіліцкі, Алег Манаеў, Міхаіл Пліско, Аляксандр Екадумаў і інш. Выкарыстаны працы, прамовы, інтэрв'ю і артыкулы палітычных дзеячаў Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, Станіслава Шушкевіча, Вячаслава Кебіча. Гэтым дасягнута высокая рэпрэзентатыўнасць навучальнага дапаможніка, які ўдала злучыў у сабе высокі ўзровень навуковага даследавання і дакладнасць навучальна-метадычнага выкладу матэрыялу. Па кожнай пазначанай праблеме аўтар дапаможніка прапануе пэўны спектр неадназначных ацэнак і разумення, у той жа час аналізуючы іх, спрачаючыся з імі, што прымушае сачыць за думкай аўтара, патрабуе ўдумлівага чытання кнігі. Гэта выгодна адрознівае дадзены дапаможнік ад іншай

паліталагічнай навучальнай літаратуры ў Беларусі. Такую кнігу карысна было б пачытаць цяперашнім палітыкам, дзяржаўным чыноўнікам краіны.

Звернемся да некаторых пазіцый, выкладзеных Уладзімірам Роўдам. Ужо ў прадмове аўтар абяцае прытрымлівацца „свабоды ад ацэначных меркаванняў" і не звязваць сябе голай крытыкай улады і ідэалагізатарскім падыходам. Імкненне навукоўца да аб'ектыўнасці цалкам зразумелае. Але ў сучаснай паліталогіі як гуманітарнай навуцы не можа быць абыякавага падыходу да аб'ектаў, якія вывучаюцца. Гэтымі аб'ектамі ў выніку заўсёды будуць людзі (у адрозненне ад прыродазнаўчых навук з іх неадушаўлёнымі аб'ектамі). Арыстоцель ацэначна дзяліў дзяржавы на „правільныя" і „няправільныя" па форме праўлення. Сапраўды, М. Вэбер зводзіў паняцце дзяржавы да выключнага права на прымус. Але сёння ў навуковы зварот уваходзіць паняцце *smart power* („разумная сіла")[1], гэта значыць здольнасць дасягаць вызначаных мэтаў прыцягненнем на свой бок без усялякага прымусу.

Палітолагі прызнаюць, што ў палітычнай тэорыі немагчыма выключыць уплыў светапогляду, ідэалогіі, палітычнай і жыццёвай пазіцыі даследчыка. Аб'ектыўна і бесстаронне можна працаваць, паўтараю, у прыродазнаўчых навуках. А там, дзе навука закранае жыццёвыя асновы чалавека, яго надзённыя інтарэсы, зрабіць гэта практычна немагчыма, „ступень маральнай абыякавасці, магчымая ў прыродазнаўчых навуках, недапушчальная ў палітычнай тэорыі"[2]. Амерыканскі прафесар паліталогіі Эндру Хейвуд лічыць, што „ўсё гэта накладвае самы рэзкі адбітак на тое, як мы ўспрымаем палітыку і навакольны свет увогуле"[3]. Аднак карысней

[1] Столетов О. В. Тренды трансформации властных отношений в мировой политике: smart power? // Полис. 2009. № 4. С. 173–178, 173.

[2] Коббан А. Закат политической теории // Политическая теория в XX в.: сб. ст.; под ред. А. Павлова. Москва, 2008. С. 219–236, с. 233.

[3] Хейвуд Э. Политология: Учебник для студентов вузов / пер.

прызнаць гэтую тэндэнцыйнасць, чым ствараць уяўную прэтэнзію на палітычную нейтральнасць, калі яе нельга пазбегнуць. Палітыка звязаная з ацэнкамі магчымасцяў і каштоўнасцяў. Таму палітычная тэорыя „ўтрымлівае перавагі, выбар, пачуццё маральнага імператыву, веру ў тое, што адзін зыход лепшы за іншы", што трэба лічыць правільным і жаданым[4]. Дарэчы, адзін з сучасных метадалагічных падыходаў, створаны Дж. Роўлзам, так і завецца — „Тэорыя справядлівасці".

Трэба ўсё ж сказаць, што Уладзімір Роўда досыць выразна вызначае ў кнізе сваю пазіцыю, у тым ліку і ацэначную, ужо пачынаючы з сюжета фотаздымка на вокладцы дапаможніка.

Але, на мой погляд, неяк нядбайна напісана тэма „Акружэнне палітычнай сістэмы". Вельмі беглы гістарычны агляд з супярэчлівымі палажэннямі. Заяўлена, што „ва ўмовах расійскага панавання не спынялася барацьба за свабоду Беларусі", але далей гаворыцца, што і да паўстання 1863 г. і пад час самога паўстання барацьба ішла за адраджэнне Рэчы Паспалітай. Гісторыя не зафіксавала агульнанацыянальнага паўстання беларусаў супраць царызму.

Недапушчальная нядбайнасць у наступным абзацы: „Няўдачы Расіі ў Першай сусветнай вайне выклікалі рэвалюцыю 1917 г., якая пахавала царскую імперыю". Па-першае, у 1917 г. былі дзве рэвалюцыі — буржуазна-дэмакратычная і сацыялістычная. З царскай імперыяй пакончыла першая — Лютаўская буржуазна-дэмакратычная. Далей нічога не гаворыцца пра стан беларускіх земляў пасля Кастрычніцкага ўзброенага перавароту (па тэрміналогіі У. Леніна), а неяк раптам гаворыцца пра абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Прычым не сказана, якія палітычныя сілы ажыццявілі гэты важны гістарычны акт. Атрымліваецца, па логіцы тэксту, што гэта зрабілі ледзь не акупацыйныя нямецкія ўлады. У лю-

с англ.; под ред. Г. Г. Водолазова, В. Ю. Бельского. Москва, 2005. С. 21.

4 Политическая теория в XX в. С. 71.

бым падручніку для ВНУ гэтыя падзеі распісаны амаль па днях і хроніцы падзей, і У. Роўду трэба было гэта выкарыстаць, каб не ствараць абрывы ў гістарычных падзеях таго часу. Або сцвердзіць жаданую новую трактоўку, але тады з абгрунтаваннем яе.

Гісторыя павінна падавацца так, як яна адбывалася. Неабходна імкнуцца да максімальнай дакладнасці, толькі ў трактоўцы падзей дапускаючы аўтарскую інтэрпрэтацыю. Таму прыкра, што аўтар дазваляе сабе пісаць, што ў Смаленску была абвешчана „Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка", г. зн. БССР, хоць на самай справе абвешчана была „Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь", г. зн. ССРБ. Назва БССР з'явілася пасля другога абвяшчэння Савецкай Беларусі ў 1920 г. І, вядома ж, нікуды не вартая фраза „Калі б не было БНР, то не было б і БССР", бо ўмоўны лад у навуцы лічыцца непрымальным — ні аспрэчыць, ні пацвердзіць такую тэзу немагчыма.

Надта катэгарычна ў навучальным дапаможніку са спасылкай на сучаснага беларускага даследчыка З. Шыбеку сцвярджаецца, што „для большасці жыхароў краіны беларускасць заставалася этнаграфічным дзівам і мела глыбінны, натуральны сэнс толькі для вузкага кола беларусаў, пераважна інтэлектуалаў" (12). Па-першае, адкуль інтэлектуалы сілкаваліся беларускасцю? Хіба не назіраючы жыццё пераважна сялянскага насельніцтва Беларусі? Па-другое, хто захоўваў і аднаўляў беларускія традыцыі, песні, фальклор з глыбіні стагоддзяў — самі інтэлектуалы?

Нельга пагадзіцца з меркаваннем аўтара, падмацаваным вялізнай цытатай з таго ж З. Шыбекі, што „эканамічны і сацыяльны прагрэс не суправаджаўся развіццём нацыянальнай ідэнтычнасці і культуры". Як бы бальшавікі ні імкнуліся, змяніць цэлы народ ім было не пад сілу, тым больш ніякая „абалонка" не можа захаваць нешта, калі гэтае „нешта" адсутнічае. У. Роўда захапіўся выкрывальным тонам і страціў пачуццё навуковай праўдзівасці і, калі хочаце, пачуццё элементарнага такту ў дачыненні да свайго народа. Што ж тады, ска-

жыце, рабіць з беларускай літаратурай савецкага часу (П. Панчанка, В. Быкаў, І. Шамякін і шматлікія іншыя), беларускім балетам, жывапісам, скульптурай, тэатрам… Не, перад намі відавочны перабор адмоўных і бяздоказных тэзісаў, што, на мой погляд, непрымальна для навучальнага дапаможніка.

Часам з шэрагу сцверджанняў цяжка зразумець, пра што ідзе размова. Так, аўтар піша: „Абсалютна іншая канцэпцыя паходжання беларускай дзяржаўнасці існавала ў савецкія гады” (13). Аднак на папярэдніх старонках няма выкладу канцэпцыі, якая існавала да „іншай”. Там ёсць крытыка ўплыву бальшавікоў на фармаванне дзяржавы і беларускай нацыі, але няма канцэптуальнага падыходу, які існаваў да бальшавікоў. І калі сказана, што савецкая канцэпцыя паходжання беларускай дзяржаўнасці пры А. Лукашэнку „вярнула сабе статус афіцыйнай тэорыі”, то лагічна выказаць гэтую „савецкую канцэпцыю”. Аднак яе няма. Адсылаць яе на „яскравае адлюстраванне” ў адным з выступленняў прэзідэнта А. Лукашэнкі абсалютна неправамерна, бо ён яе не ствараў. Ды і ў выступленні А. Лукашэнкі няма і намёку на канцэпцыю і нават афіцыйную тэорыю. Тут пададзены нейкі набор асобных меркаванняў, сцверджанняў без аргументацыі і доказаў. Наўрад ці можна гэтую эклектыку ўзводзіць у разрад канцэпцыі або афіцыйнай тэорыі. Гэта, хутчэй, погляды А. Лукашэнкі на некаторыя старонкі беларускай дзяржаўнасці, якія з тым або іншым разуменнем узнаўляюцца афіцыйнымі ідэолагамі

Такія ж надуманыя каментары з боку У. Роўды гэтага выступлення кіраўніка дзяржавы. А. Лукашэнка ў прыведзенай цытаце кажа, што „нікому, нават самаму заўзятаму нацыяналісту, не прыйдзе ў галаву сцвярджаць, што Вялікае Княства Літоўскае было самастойнай беларускай дзяржавай са сваёй беларускай дзяржаўнай ідэалогіяй”. У. Роўда ж у сваім каментары папракае А. Лукашэнку ў тым, што той „дарма крытыкуе прыхільнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння за тое, што яны нібыта спрабуюць атаясамліваць ВКЛ і не згаданае ў дакладзе Полацкае княства з бе-

ларускай нацыянальнай дзяржавай". Але вярніцеся да цытаты з выступлення А. Лукашэнкі і пры самым уважлівым прачытанні вы не знойдзеце там згаданага сэнсу. Тым больш самавольна дадаваць у цытату і Полацкае княства ў адзіным сэнсавым кантэксце з ВКЛ. Далей проста абсурд. У. Роўда сцвярджае, што ідэя нацыі-дзяржавы нараджаецца як афіцыйны міф у гады Вялікай Айчыннай вайны. Але ў прыведзенай цытаце А. Лукашэнка сцвярджае: „Мы прызнаём, што менавіта з утварэння ў складзе Савецкага Саюза Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі... пачынаецца наша дзяржаўнасць". Правільна гэта ці не — іншае пытанне. Але і тут спадар Роўда „сам прыдумаў — сам аспрэчвае".

Проста ашаламляюць аўтаматычныя змешванні паняццяў без бачнай іх ідэнтычнасці або спробы абгрунтавання такога аўтарскага самаўпраўства. Адразу пасля цытаты А. Лукашэнкі У. Роўда робіць, як ён лічыць, „важнае тэрміналагічнае ўдакладненне: тое, што прэзідэнт Беларусі называе ідэалогіяй беларускай дзяржаўнасці, у палітычнай навуцы называецца дзяржаўным (бюракратычным) нацыяналізмам (*bureaucratic nationalism*)" (14). Па-першае, у перадачы тэрмінаў трэба быць абсалютна дакладным, бо ў цытаце выкарыстаны тэрміны „ідэалогія незалежнай дзяржаўнасці", „беларуская ідэалогія", „ідэалогія беларускай дзяржаўнасці". У. Роўда ж адвольна выбірае адзін з іх, не тлумачачы, чаму. Сакрат раіў аднаму з сваіх суразмоўцаў „дамовіцца, як менавіта мы вызначаем, пра што мы раімся, каб не выходзіла, што я разумею адно, ты ж — іншае, і потым, зайшоўшы занадта далёка ў гутарцы, мы не здаліся б самі сабе смешнымі"[5]. Па-другое, трэба высветліць, дзе пазіцыі А. Лукашэнкі супадаюць з паняццем „дзяржаўнага нацыяналізму" А. Шміта, на аўтарытэт якога спасылаецца У. Роўда. І, па-трэцяе, калі гэта адно і тое ж, то ў чым

[5] Платон. Диалоги. Пер. с древнегреч.; сост, ред. и авт. вступит. статьи А. Ф. Лосева; авт. примеч. А. А. Тахо-Годи. Москва, 1986. С. 67.

сэнс параўнання? У тым, што А. Лукашэнка на практыцы развіў тое, наконт чаго тэарэтычна выказаў здагадку А. Шміт? Рэбус-загадка!

Лукашэнка сапраўды ў дадзеным выказванні адмаўляе ролю БНР, але не ў цэлым, а ў тым, цытую, што яна „не змагла пакінуць нам у спадчыну ідэалогію беларускай дзяржаўнасці” (12). Крыху направа, крыху налева: глядзіш — і можна спрасціць аб’ект аналізу для сваёй зручнасці, але на шкоду ісціне. На жаль, гэта нярэдка можна назіраць у нашай навуковай літаратуры: ігнараванне ўсяго сэнсу пазіцыі апанента, звядзенне яе да зручных для маніпулявання паняццяў, апеляцыя да аўтарытэтаў без аргументацыі і г. д.

Шматабяцальная заява У. Роўды пра тое, што „абсалютна іншая канцэпцыя беларускай дзяржаўнасці існавала ў савецкія гады”, пацвярджаецца не працамі, адпаведна, савецкіх аўтараў, а вышэйпаказанай невялікай цытатай заднаго выступлення А. Лукашэнкі. Наколькі мне вядома, канцэпцыі распрацоўваюцца вучонымі, а палітыкі могуць іх выкарыстаць у сваіх праграмах, фармуляванні афіцыйнай пазіцыі і г. д. Але не больш. Можа быць, У. Роўда зыходзіць з аналогіі „Канцэптуальных заўваг Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь”, якія ствараюцца як афіцыйныя дакументы па яго выказваннях пад час паездак па краіне?

У гэтым раздзеле супярэчнасці грувасцяцца адна на адной. Зусім не згодзен з ужываннем мімаходзь такога выразу, як „псеўдасуверэнны характар Савецкай Беларусі”, бо ў рамках адзінай дзяржавы СССР, куды ўваходзіла Беларусь, найвышэйшай уладай была ўлада найвышэйшых дзяржаўных органаў краіны СССР. Значыць, і суверэнітэтам, зыходзячы з сутнасці гэтага паняцця, не валодала ні адна савецкая рэспубліка, у тым ліку і БССР. Гэта прапісныя ісціны паняцця суверэнітэту, у тым ліку ў федэрацыі, якой быў Савецкі Саюз. І ў дадзеным выпадку не было сэнсу аспрэчваць тэзіс А. Лукашэнкі „пра савецкі час як пра найлепшы перыяд у гісторыі беларускага насельніцтва”, бо, па прызнанні самога У. Роўды, „саюзны цэнтр… садзейнічаў хуткай індустрыялізацыі

і ўрбанізацыі Беларусі, развіццю адукацыі і навукі", ды і настальгія значнай часткі насельніцтва Беларусі па савецкіх часах застаецца дагэтуль досыць высокай. Вось і скажыце гэтым людзям, што яны памыляюцца! Не, тут, на мой погляд, аўтар спяшаецца абсалютызаваць сваю ацэнку савецкага перыяду ў жыцці Беларусі, не заўважаючы яе адназначнасці, а значыць і навуковай неабгрунтаванасці.

З адным довадам у дадзеным выкладзе можна пагадзіцца: афіцыйная дактрына незалежнай беларускай дзяржавы сканцэнтравана на ўладным полі прэзідэнта.

Няма неабходнасці далей разбіраць гэты раздзел, бо ён сфармаваны галоўным чынам на безумоўным прыняцці антысавецкіх пазіцый і адзнак З. Шыбекі, якія замянілі скрупулёзны навуковы аналіз вельмі няпростага працэсу фармавання беларускай дзяржаўнасці. Дзеля ісціны неабходна бачыць усё поле, а не тое, што падабаецца. А для гэтага трэба было пашырыць бібліяграфію праблемы, асабліва яе беларускую частку.

Больш роўным і аналітычным атрымаўся другі параграф гэтага раздзела „Геапалітычнае становішча Рэспублікі Беларусь". Тут пададзены розныя пункты гледжання. Аргументавана сцвярджаецца аб'ектыўная неабходнасць для Беларусі выхаду з „фатальнай" прарасійскай арыентацыі. Да месца выкарыстаны тэарэтычныя падыходы і назіранні К. Дойча, Р. Давідоніса, С. Хьюзмэна. Такі ж і трэці параграф „Эканамічнае развіццё Беларусі".

У навучальным дапаможніку пададзена рэальная карціна эканамічнай трансфармацыі краіны, складвання сацыяльнай скіраванасці эканомікі. Перыядызацыя эканамічнага развіцця да 2000 г. і пасля дазваляе разабрацца з механізмамі пераадолення сацыяльна-эканамічнага крызісу. У. Роўда звяртае ўвагу на тое, што беларуская эканоміка ў адрозненне ад эканомікі суседзяў развівалася пры панаванні ролі дзяржавы і значных расійскіх фінансавых і энергетычных датацыях. Іншым важным фактарам было тое, што ўрад праводзіў палітыку шырокага пераразмеркавання рэсурсаў у мэ-

тах падтрымання вытворчасці нават на неэфектыўных і стабільна стратных прадпрыемствах і прымушаў кіраўнікоў прадпрыемстваў падвышаць заробак (47).

У другім перыядзе эканамічны рост стаў стабільным, але, як адзначае У. Роўда, ужо за кошт крыху іншых фактараў: падвышэння спрыяльнай для Беларусі знешнеэканамічнай кан’юнктуры, падвышэння попыту на ўнутраным рынку, паляпшэння працы прадпрыемстваў пад уплывам частковай лібералізацыі эканамічнай палітыкі. Робіцца выснова, што Беларусь павольна, але рухаецца да постіндустрыяльнага грамадства. Такі ўсебаковы аналіз эканомікі краіны не характэрны для навучальнай літаратуры, якая выдаецца ў Беларусі, і студэнты пазбаўлены ведання рэальных, вельмі неаднязначных працэсаў. Гэты дапаможнік у дадзеным выпадку вельмі адрозніваецца ад іншых. Чытаецца лёгка, з цікавасцю.

Наступны матэрыял дапаможніка прысвечаны паліталагічным аспектам Беларусі. Навацыямі тут у параўнанні з беларускімі падручнікамі з’яўляюцца тэмы, прысвечаныя аналізу палітычнага рэжыму Рэспублікі Беларусь і груп інтарэсаў. Побач з імі аўтар палічыў неабходным разгледзець палітычную сістэму краіны, яе палітычную культуру і сацыялізацыю, а таксама выбары, партыі і партыйныя сістэмы. Вядома, тут магчымыя варыянты, але выбраная ў дадзеным выпадку структура аптымальна ўтрымлівае істотныя паліталагічныя фактары, якія дазваляюць раскрыць прынцыповыя і асаблівыя рысы палітычнага ладу ў Беларусі.

Гэтую частку навучальнага дапаможніка сапраўды можна назваць творчай, навукова аналітычнай. Прадмет аналізу пададзены шматбакова, з апорай адначасова на фундаментальныя тэорыі палітычнай навукі і канкрэтую фактalогію, дынаміку палітычных працэсаў у Беларусі. На жаль, беларуская навучальная літаратура ў падобным матэрыяле не выходзіць за рамкі стандартных цытат з вядомых паліталагічных прац, не спрабуючы іх тлумачыць у сувязі з сучасным палітычным становішчам. І часцей за ўсё тэорыя існуе сама па сабе,

а рэальнае палітычнае жыццё само па сабе. Чытаць гэта цяжка, і студэнты нярэдка скардзяцца, што нават пры старанні мала што могуць зразумець, а таксама растлумачыць палітыку з дапамогай гэтых падручнікаў.

Не перабольшваючы дасягненняў аўтара, павінен адзначыць, што дапаможнік падрыхтаваны нестандартна, грунтоўна абапіраецца на шматлікія паліталагічныя даследаванні, адыходзіць ад дэкларатыўных канстатаванняў і пазіцый, лагічна разгортваецца, запрашаючы чытача да пошукаў няпростых ісцін, прымушаючы іх саміх думаць, „варушыць мазгамі”. У нас склалася стэрэатыпнае стаўленне да падручнікаў як да набору „ісцін, якія сцвердзіліся ў навуцы”. Навучальны дапаможнік У. Роўды відавочна аспрэчвае гэтую кансерватыўную памылку. Падручнік не вайсковы статут, які трэба проста вывучыць, бо ён не патрабуе адмысловага разумення. Але калі гаворка ідзе пра падрыхтоўку спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, маладых людзей, трэба натрэніраваць іх мысленне, запусціць на многія гады матор спазнання, нястомнае жаданне да яго пастаяннага пашырэння, паглыблення, абнаўлення. Тады, магчыма, і з’явяцца гэтак неабходныя нам „платоны и быстрые разумом невтоны”, здольныя напаўняць наша сучаснае жыццё энергіяй руху наперад, а не пракручваннем руціны мінулых дзён. А для гэтага патрэбна не столькі „ўсталая навука”, колькі „разважлівая”.

Беларуская Канстытуцыя і палітычна-дзяржаўная практыка задаюць няпростую задачу па класіфікацыі асноўных складнікаў палітычнага свету ў Беларусі. Збіраючы наяўныя погляды на характар палітычнага рэжыму Рэспублікі Беларусь, У. Роўда паказвае вельмі супярэчлівую карціну. Тут і аўтакратыя з элементамі дэмакратыі, і „нешта сярэдняе паміж дыктатурай і дэмакратыяй”, і таталітарызм, і неакамуністычная дыктатура, і дэмагагічная, фасадная дэмакратыя, выбарная дыктатура. Даволі цікавы набор: гэта, у асноўным, рэфрэн двух слоў — *дыктатура* і *дэмакратыя*, якія не спалучаны, але суіснуюць нейкім чынам побач у рэальным палітычным жыцці краіны. У. Роўда не каментуе

гэты шэраг, але відавочна хоча выбраць гэтыя два антыподы.

На жаль, далей аўтар крыху заблытвае карціну, раўназначна выкарыстаючы паняцці „палітычны рэжым" і „палітычная сістэма".

Потым У. Роўда спрабуе высветліць характар палітычнага рэжыму ў Беларусі праз супастаўленне з буйнымі заходнімі тэорыямі. Пазначыўшы зводны набор з 10 прынцыпаў ліберальнай дэмакратыі, запазычаных у Р. Даля, К. Шмітэра, О'Доннелала і Лейпхарта (чаму толькі ў іх?), аўтар, не абцяжарваючы сябе ніякім аналізам, адназначна рэзюмуе, што „ні адна з вышэйназваных характарыстак ліберальнай дэмакратыі не прысутнічае ў Беларусі". Не такая відавочная адсутнасць, на мой погляд, у Беларусі такіх прынцыпаў, як, напрыклад, „індывіды таксама валодаюць фундаментальнымі свабодамі веравызнання, выяўлення меркаванняў, абмеркавання, слова, друку, сходаў, дэманстрацый і падачы петыцый (правы і свабоды)"; „грамадзяне з'яўляюцца палітычна роўнымі перад законам, нягледзячы на іх няроўнасць у валоданні палітычнымі рэсурсамі (прававая роўнасць)" (68). Ніякіх сур'ёзных аргументаў або довадаў на карысць сваёй высновы У. Роўда не прыводзіць, дэкларуючы адназначна сваю пазіцыю. І далей цалкам нечаканая фраза: „Тым самым завяршыласяператварэнне беларускага папулісцкага рэжыму ў чыстую аўтакратыю" (69), якая выклікае шмат пытанняў: як праходзіў гэты „працэс", калі ў краіне склаўся папулісцкі рэжым (даць яго характарыстыку) і якім чынам, у які перыяд ён ператварыўся ў аўтакратыю (даць адпаведную характарыстыку). Потым зноў нечаканы пасаж пра тое, што „дэлегатыўная дэмакратыя ў нашай краіне памерла ў момант свайго нараджэння". Калі яна была ў Беларусі? Я ўжо заблытаўся, які ж рэжым улады быў у Беларусі? Не растлумачыўшы гэтыя лабірынты разваг, У. Роўда ўводзіць новыя варыянты азначэння палітычнага рэжыму ў Беларусі: спаборніцка-аўтарытарны, гегеманісцкі, электаральны, аўтарытарны, радыкальная версія індустрыяльнага аўтарытарызму,

кланава-манапалістычны, султаніscкі і г. д. Атрымліваецца, што палітычны рэжым у Беларусі ўвабраў у сябе ўсе варыянты і прыкметы, распрацаваныя ў паліталагічнай літаратуры, прычым толькі недэмакратычных рэжымаў. Несумненна, што ў свеце няма чыстых па класіфікацыі палітычных рэжымаў. Але з таго і складаецца праца тэарэтыка, каб на фундаментальным тэарэтычным грунце разабрацца з пэўнай характарыстыкай асобнай краіны, у дадзеным выпадку Беларусі, знайсці своеасаблівасць яе палітычнай асобы, а не паказваць яе ў якасці монстра-касмапаліта, „увасаблення зла".

На палітычнай сістэме Беларусі вельмі моцна адбіваецца фактар А. Лукашэнкі. Таму не зусім зразумелы разгляд у тэме „Палітычны рэжым Рэспублікі Беларусь" паасобных падтэм „Асноўныя падыходы да разумення беларускага рэжыму" і затым „Рысы палітычнага рэжыму А. Лукашэнкі". Няма „палітычнага рэжыму" А. Лукашэнкі. Гэтая тэрміналогія характэрна для публіцыстыкі, а не для навукі. Палітычны рэжым складаецца з аб'ектыўных дадзеных. Сярод фактараў уплыву, несумненна, ёсць і суб'ектыўны. Аднак прысвойваць імя асобнага, хай нават і вельмі ўплывовага палітычна-дзяржаўнага персанажа цэлай краіне або яе палітычнаму рэжыму — гэта не больш як журналісцкая „моцная" алегорыя. Таму „рэжым А. Лукашэнкі" для характарыстыкі формы дзяржаўнага кіравання, на мой погляд, прынцыпова непрымальны для навучальнага дапаможніка. У тэксце ж атрымалася, што і „палітычны рэжым", і „рэжым А. Лукашэнкі" сталі сінонімамі, адным і тым жа. Тады ўжо і жыхароў краіны можна называць „лукашэнкаўцамі"?

У той жа час характарызуючы ролю А. Лукашэнкі як прэзідэнта краіны, трэба быць дакументальна дакладным. Я неаднаразова сустракаў меркаванне, што А. Лукашэнка кіруе „ўсім" у Беларусі. І часта ўсялякія яго дзеянні разглядаюцца як узурпацыя, сваявольнасць. Вядома, усяго гэтага хапае з лішкам. Аднак трэба ясна разумець, што шматлікія падобныя яго дзеянні абумоўлены Канстытуцыяй. Прамалінейнае сцвярджэн-

не, як гэта зроблена ў дапаможніку, што „прэзідэнт з'яўляецца толькі кіраўніком дзяржавы, але фактычна ён *узурпаваў ролю кіраўніка ўрада*", лёгка аспрэчыць спасылкамі на тэкст Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Па арт. 79 Прэзідэнт не толькі кіраўнік дзяржавы, але яшчэ ён з'яўляецца „гарантам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь", „увасабляе адзінства народа, гарантуе рэалізацыю асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі, прадстаўляе Рэспубліку Беларусь у адносінах з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі. Прэзідэнт прымае меры па ахове суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, яе нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці, забяспечвае палітычную і эканамічную стабільнасць, пераемнасць і ўзаемадзеянне органаў дзяржаўнай улады, ажыццяўляе пасрэдніцтва паміж органамі дзяржаўнай улады"[6]. У параўнанні з рэдакцыяй Канстытуцыі 1994 г., дзе сапраўды ў арт. 95 коратка фіксавалася, што „Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь з'яўляецца кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады"[7], функцыі Прэзідэнта па Канстытуцыі рэдакцыі 1996 г. сталі сапраўды ўсёабдымнымі. Дыяпазон яго канстытуцыйных паўнамоцтваў настолькі шырокі, што практычна не паддаецца ніякаму кантролю. У гэтых адносінах ён значна пераўзыходзіць сваіх калег па прэзідэнцтве, напрыклад, Расіі, ЗША і Казахстана[8]. Калі, па словах самога прэзідэнта, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь рэдакцыі 1994 г. дала яму сапраўды „царскія паўнамоцтвы", то Канстытуцыя рэдакцыі 1996 г., мабыць, ужо „суперцарскія паўнамоцтвы".

[6] Конституция Республики Беларусь 1994 г. (с изменениями и дополнениями). Принята на республиканском референдуме 24 ноября 1996 г. Минск, 1997.

[7] Конституция Республики Беларусь. Принята на XIII сессии Верховного Совета Республики Беларусь двенадцатого созыва 15 марта 1994 г. Минск, 1994.

[8] Гл.: Конституция Российской Федерации. Официальный текст с историко-правовым комментарием. Москва, 2003; Конституция Соединенных Штатов Америки. Vienna, USIA Regional Program Office, б/д; http: //www. constcoucil. kz/rus/ norpb/constrk

Навошта прэзідэнту „ўзурпаваць ролю кіраўніка ўрада”, калі ён і па Канстытуцыі непадзельна пануе над ім? Артыкул 84 дазваляе яму: старшыняваць на паседжаннях урада; адмяняць акты ўрада; вызначаць структуру ўрада; прызначаць на пасаду і вызваляць ад пасады намеснікаў прэм'ер-міністра, міністраў і іншых членаў урада; прымаць рашэнне аб адстаўцы ўрада або яго членаў. І толькі кандыдатуру прэм'ер-міністра прэзідэнт абавязаны ўзгадняць з Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Прытым па Канстытуцыі прэм'ер-міністра ён прызначае „са згоды Палаты прадстаўнікоў”, але на практыцы ён знаёміць парламент з ужо прызначаным прэм'ер-міністрам. У апошнім акце ёсць элемент „узурпацыі”.

Важна зазначыць, што ў адпаведнасці з ч. 2 арт. 106 беларускай Канстытуцыі „Урад у сваёй дзейнасці падсправаздачны Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і адказны перад Парламентам Рэспублікі Беларусь”[9].

І калі „падсправаздачнасць” урада прэзідэнту, як мы адзначылі вышэй, дакладна і ясна выражана ў Канстытуцыі, то адказнасць перад парламентам такім жа чынам не прапісана. Як бачыце, нічога „ўзурпаваць” не трэба. Прынятая на Рэспубліканскім рэферэндуме ў 1996 г. новая рэдакцыя Канстытуцыі вывела „ўзурпацыю” на канстытуцыйны ўзровень. Як далей слушна адзначае У. Роўда, указы прэзідэнта маюць большую юрыдычную сілу, чым акты Нацыянальнага сходу, прэзідэнт кантралюе не толькі выканаўчую і заканадаўчую галіны ўлады, а таксама і судовую; прэзідэнцкая вертыкаль замяніла сабой сістэму мясцовага кіравання і г. д. Але зноў-такі зазначу, што ўсё гэта замацавана ў Канстытуцыі краіны.

Трэба заўважыць, што практычна нідзе ў свеце ўрад не з'яўляецца самастойным органам улады, усюды ён знаходзіцца пад патранажам або парламента, або кіраўніка дзяржавы, або абодвух інстытутаў адначасова. Менавіта

[9] Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 г. (са змяненнямі і дапаўненнямі). Прынята на рэспубліканскіх рэферэндумах 24 лістапада 1996 г. і 17 кастрычніка 2004 г. Мінск, 2006. С. 60.

на гэтым крытэрыі будуецца навуковая класіфікацыі формаў дзяржаўнага кіравання: адпаведна парламенцкая, прэзідэнцкая, змешаная рэспублікі і парламенцкая, абсалютная і дуалістычная манархіі. Таму прынцыпова няслушна пісаць, што „на самай справе, у парушэнне Асноўнага Закона, сапраўдным кіраўніком *выканаўчай улады* ў Беларусі *з'яўляецца прэзідэнт*". Чаму? А таму, што запісаныя ў Канстытуцыі функцыі прэзідэнта рэальна ўтрымліваюць поўны набор функцый кіраўніка выканаўчай улады. У Канстытуцыі ёсць артыкулы, якія недапушчальна супярэчаць адзін аднаму: з аднаго боку, прэзідэнт выведзены з галін улады, а з іншай — надзяляецца паўнамоцтвамі кіраўніка выканаўчай улады. Парадокс у тым, што, выведзены з галін улады, прэзідэнт робіцца нібыта ўладна „нічыйным", бо арт. 6 Канстытуцыі РБ абвяшчае наяўнасць трох галін улады: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Уладнага статусу ў прэзідэнта няма. І тады ён яго атрымлівае праз поўнае панаванне над урадам, узмоцненае адсутнасцю канкрэтнага механізма палітычнай адказнасці ўрада перад парламентам і інш.

Уладзімір Роўда піша, што Палата прадстаўнікоў яшчэ ні разу не набралася мужнасці прагаласаваць вотум недаверу ўраду (139). Па-першае, вотум недаверу не толькі акт мужнасці (у дадзеных умовах), але ў большай ступені акт развязання ўрадавага крызісу. Таму было б мэтазгодна сказаць, калі ў Беларусі ўрад заслугоўваў гэтага, але парламент прамаўчаў. Па-другое, ці дае Канстытуцыя РБ парламенту такую магчымасць? Адгорнем Канстытуцыю РБ і звернем увагу на арт. 94: „Паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў могуць быць датэрмінова спынены пры адмове ў даверы Ураду, выражэнні вотуму недаверу Ураду або двухразовай адмове ў дачы згоды на прызначэнне Прэм'ер-міністра.

Паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў або Савета Рэспублікі могуць быць датэрмінова спынены на падставе рашэння Канстытуцыйнага Суда ў выпадку сістэматычнага або грубага парушэння палатамі Парламента Канстытуцыі", а таксама ч. 5 арт. 97, якая

прадугледжвае вотум недаверу ўраду пры паўторным адхіленні Палатай прадстаўнікоў праграмы дзейнасці Урада, і ч. 6, якая прадугледжвае разгляд Палатай прадстаўнікоў праграмы ўрада „па ініцыятыве Прэм'ер-міністра". Такім чынам, Канстытуцыя ўтрымлівае магчымасці для адстаўкі ўрада па вердыкце парламента. Ці ёсць у Канстытуцыі механізм такога дзеяння? Па-першае, звернем увагу, што ў адпаведнасці з ч. 3 гэтага ж артыкула „рашэнні па гэтых пытаннях прымае Прэзідэнт". Значыць, парламент мае толькі права выказаць сваё стаўленне да ўрада (ухваленне / неўхваленне), а пытанне пра яго адстаўку знаходзіцца ў кампетэнцыі толькі прэзідэнта. Па-другое, прэрагатыва выпраўлення ўрада ў адстаўку ў Канстытуцыі замацавана выключна за прэзідэнтам (ч. 7 арт. 84). Ч. 25 гэтага ж артыкула дазваляе прэзідэнту адмяняць акты ўрада, і таму ў выпадку ініцыятывы прэм'ер-міністра перад Палатай прадстаўнікоў з нагоды даверу ўраду прэзідэнт мае права, у выпадку неабходнасці, дэзавуяваць гэтую ініцыятыву. А яшчэ трэба ўлічыць, што вылучэнне перад парламентам кандыдатуры на пост прэм'ер-міністра краіны замацавана выключна за прэзідэнтам і нязгода з гэтым меркаваннем можа прывесці парламент толькі да адстаўкі. Гэта дазваляе прэзідэнту кантраляваць усе сітуацыі ва ўрадзе. Старшынёй Канстытуцыйнага суда заўсёды (пасля У. Ціхіні) абіраецца член Канстытуцыйнага суда з ліку той яго паловы, якая прызначаецца прэзідэнтам. Значыць, і тут прэзідэнт кантралюе сітуацыю, калі раптам паўстане пытанне аб датэрміновым роспуску ўрада „ў выпадку сістэматычнага або грубага парушэння палатамі Парламента Канстытуцыі".

Такім чынам, Канстытуцыя РБ распрацавана так, што нават фармальна замацаваныя паўнамоцтвы галін улады лёгка перакрываюцца паўнамоцтвамі прэзідэнта і ў разгляданым выпадку парламент не ў стане, нават калі набярэцца адвагі, адправіць урад у адстаўку або нават выказаць яму вотум недаверу. Іншая справа, з чым я згодзен, што парламент як прадстаўнічы і заканадаўчы

орган улады валодае велізарнымі магчымасцямі разгарнуць палітычнае поле ў свой бок, але для гэтага туды павінны быць абраны іншыя людзі, з іншай палітычнай адказнасцю перад сваімі выбарцамі.

Шматлікія даследчыкі і публіцысты ў даволі вялікім дыяпазоне выказваюцца пра чыннікі стабільнасці беларускага рэжыму і яго перспектывы. Не думаю, што такі раздзел патрэбны ў дапаможніку. Перад намі ж навучальны дапаможнік, а не кіраўніцтва для дзейсных палітыкаў. У назве параграфа фігуруе паняцце „беларускі рэжым", а тэкст пачынаецца са слоў „Выжыванне лукашэнкаўскага рэжыму". Пры любых акалічнасцях палітыка — гэта поле *ўзаемадзеяння*. І, вядома, цяперашні рэжым у краіне можа быць растлумачаны толькі тым, як дзейнічаюць абодва бакі (або некалькі бакоў). У. Роўда падкрэслівае, што А. Лукашэнка ўдала манеўруе, А. Лукашэнка ўмее прыцягнуць на свой бок вялікую колькасць простых людзей. Аднак важкімі падставамі яго поспехаў называюцца таксама такія фактары, як нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці жыхароў Беларусі, неразвітасць грамадзянскай супольнасці. Шэраг навукоўцаў дадаюць да гэтага перавагу *„падданніцкай"* культуры, адсутнасць у характары беларусаў энергічнасці, духу супраціву[10]. У. Роўда цалкам мае рацыю, калі рашуча падкрэслівае: „Найбольш сур'ёзнай праблемай лукашэнкаўскага аўтарытарызму (я настойваю, што рэжым не „лукашэнкаўскі", а беларускі. — *У. Б.*), якая з кожным днём абвастраецца, з'яўляецца супярэчнасць паміж адносна эканамічна і сацыяльна развітым грамадствам і самай прымітыўнай у Еўропе палітычнай сістэмай, заснаванай на персаналісцкай дыктатуры" (115).

Працэс фармавання сучаснай суверэннай Беларусі адбываўся не так энергічна, як у нашых суседзяў. Ён

[10] Гл.: Мельников А. П. Национальный менталитет белорусов. Минск, 2005; Современные глобальные трансформации и проблемы исторического самоопределения восточнославянских народов / Ч. С. Кирвель [и др.]; под ред. д-ра философ. наук, проф. Ч. С. Кирвеля. 3-е изд., перераб. и доп. Минск, 2010.

прыняў павольны характар. Гэта так. Аднак наўрад ці правільна гэтак безаблічна і нязначна гаварыць пра прыняцце Вярхоўным Саветам XII склікання Дэкларацыі аб незалежнасці БССР. Па-першае, дакумент трэба называць так, як ён афіцыйна названы, г. зн. не Дэкларацыя аб суверэнітэце. Такой назвы ён не мог мець, бо прымаўся яшчэ ў рамках тагачаснага СССР. Па-другое, пры ўсёй непаслядоўнасці беларускага кіраўніцтва па ажыццяўленні Дэкларацыі, усё ж аб'ектыўна на вышэйшым дзяржаўным узроўні быў пазначаны намер ісці да суверэнітэту. Менавіта прыняцце Дэкларацыі з'явілася фенаменальным прарывам супраціўлення камуністычнай большасці ў Вярхоўным Савеце і кіраўніцтва краіны, якія без рашучай і энергічнай пазіцыі групы дэпутатаў ад БНФ і іх прыхільнікаў самастойна наўрад ці здольныя былі на такі радыкальны крок. Дэкларацыя вызначыла шляхі размежавання Беларусі з СССР і на гэтай аснове працэс зрушыўся з мёртвай кропкі і ўжо ў 1991–94 г. прыняў павольны, але незваротны характар. Гэта дакумент вялікага гістарычнага значэння на шляху стварэння сучаснай суверэннай Беларусі, і яму трэба аддаць адпаведныя павагу і сімвалічнасць. У нас вельмі мала такіх сімвалаў: апазіцыя адпрэчвае адны, улада — іншыя, і ў выніку нам няма чаго паважаць і шанаваць. Адсутнасць гістарычнай памяці прыводзіць да праблем самасвядомасці і шанавання каштоўнасцяў сваёй дзяржаўнасці, асабліва ў моладзі.

Спрэчным, на мой погляд, з'яўляецца пытанне аб ролі ў палітычна-дзяржаўным жыцці краіны ў гады яе суверэнізацыі В. Кебіча, які ўзначальваў урад. Ён быў вельмі нядрэнным гаспадарнікам, але палітык з яго не атрымаўся. Гэта ў спакойны час урад можа руцінна пракручваць дзяржаўныя справы. Але ва ўмовах крызісу першай паловы 1990-х г., калі ад прэм'ер-міністра патрабавалася здольнасць зразумець палітычны момант, артыкуляваць прарыўныя кірункі выхаду з крызісу, сканцэнтраваць на ім менавіта палітычную волю, ён працягваў руцінна весці справы, безнадзейна разводзіць рукамі пад час сваіх даволі частых справаздач перад

Вярхоўным Саветам. Ён нават не змог годна скарыстацца тым, што Вярхоўны Савет двойчы сур'ёзна пашыраў яго паўнамоцтвы, якія ў шмат разоў пераўзыходзілі яго першапачатковыя прэм'ерскія паўнамоцтвы. У адным з інтэрв'ю ў тыя гады ён прызнаваўся, што не ведае, куды ісці, а ў мемуарах з сумневам ацаніў сваю здольнасць паспяхова кіраваць краінай, калі б яго абралі ў 1994 г. прэзідэнтам Беларусі. Калі б ён хоць у нейкай меры кантраляваў Вярхоўны Савет, як сцвярджае У. Роўда, то Вярхоўны Савет не паставіў бы на парадак дня сваёй сесіі ў студзені 1994 г. пытанне аб зняцці яго разам з С. Шушкевічам з пасады. Якая ж прэм'ерская дыктатура магла пры гэтым складсціся ў 1994 г. у Беларусі? Дыктатар хутчэй бы разагнаў парламент, чым дазволіў яму ставіць такое пытанне для свайго негатыўнага рашэння. Я думаю, што пры ўсёй значнасці ў тыя гады Вярхоўнага Савета ў нас былі ўсе прыкметы парламенцкай рэспублікі. Урад і асабіста прэм'ер-міністр былі пад яго пільным кантролем, які для В. Кебіча быў святы і непарушны.

Цяжка, на мой погляд, адназначна пагадзіцца з тым, што „Канстытуцыя 1994 г. уводзіла інстытут амаль класічнай прэзідэнцкай рэспублікі" (129). Папершае, прыслоўе *амаль* трэба растлумачваць. Падругое, Канстытуцыя надзяляла Вярхоўны Савет такімі паўнамоцтвамі, якія аб'ектыўна ўваходзілі ў супярэчнасці з паўнамоцтвамі прэзідэнта ў першую чаргу як кіраўніка дзяржавы. Вярхоўны Савет акрамя прадстаўнічых і заканадаўчых функцый надзяляўся такімі выключнымі паўнамоцтвамі: прымаць і змяняць Канстытуцыю; даваць тлумачэнне Канстытуцыі і законаў; вызначаць асноўныя кірункі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь; абіраць на пасаду Генеральнага пракурора, Старшыню Кантрольнай палаты; ствараць следчыя, рэвізійныя і іншыя часовыя камісіі; ажыццяўляць кантроль за выкананнем законаў; вызваліць прэзідэнта ад пасады ў выпадку парушэння Канстытуцыі або здзяйснення ім злачынства; заслухаць любога члена Кабінета Міністраў па пытаннях выканан-

ня законаў; даваць згоду прэзідэнту на прызначэнне і вызваленне з пасады прэм'ер-міністра, яго намеснікаў, міністраў замежных спраў, абароны, фінансаў, унутраных спраў, старшыні КДБ; па прапанове прэзідэнта абіраць на пасаду Старшыню Канстытуцыйнага суда, Старшыню Вярхоўнага суда, Старшыню Праўлення Нацыянальнага банка; штогод заслухоўваць даклады прэзідэнта аб становішчы дзяржавы; прапанаваць прэзідэнту інфармаваць Вярхоўны Савет аб рэалізацыі ўнутранай і знешняй палітыкі; заслухоўваць прэзідэнта аб Праграме дзейнасці Кабінета Міністраў. Пры такім аб'ёме паўнамоцтваў Вярхоўны Савет не мог справіцца з іх рэалізацыяй, якасна весці заканатворчую дзейнасць. Але галоўная праблема была ў тым, што па змесце і сваім аб'ёме гэтыя функцыі Вярхоўнага Савета аб'ектыўна выводзілі яго на ролю кіраўніка дзяржавы, бо ўтрымлівалі ў сабе патэнцыйны канфлікт паміж прэзідэнтам і парламентам, што і адбылося адразу ж пасля абрання прэзідэнта ў ліпені 1994 г. На жаль, Канстытуцыя РБ 1994 г. уяўляла сабой эклектычны набор юрыдычных нормаў, спісаных з канстытуцый вядучых краін свету, але мала ўзгодненых з традыцыямі, гістарычнымі асаблівасцямі дзяржаўнасці Беларусі[11]. Абыякавае, руціннае абмеркаванне і прыняцце дэпутатамі Вярхоўнага Савета Канстытуцыі прывялі не да збалансавання паўнамоцтваў галін улады, а фактычна да надання Вярхоўнаму Савету нароўні з прэзідэнтам статусу кіраўніка дзяржавы. Рана або позна, як і прадказвалі некаторыя аналітыкі, гэта павінна было прывесці да палітычнага канфлікту. Таму і тэкст Канстытуцыі выканаў усё ж тут сваю негатыўную ролю. Гэта здарылася б пры любым прэзідэнце. Іншая справа, што А. Лукашэнка ўнёс сюды вастрыню і бескампраміснасць для суаднясення толькі сябе са статусам кіраўніка дзяржавы і дамогся гэтага праз канстытуцыйны крызіс 1995–

[11] Гл.: Курьянович А. В. Конституция независимой Беларуси: разработка, проекты, принятие: монография / А. В. Курьянович. Минск, 2010.

96 г. Выразныя рысы прэзідэнцкай або парламенцкай рэспублікі ў Канстытуцыі РБ 1994 г. адсутнічалі. Дакладней, як выказвалі такую здагадку некаторыя аналітыкі, Вярхоўны Савет ствараў Канстытуцыю пад сваё вяршэнства ў краіне. А інстытут прэзідэнцтва ўводзіўся без асаблівай стараннасці адпрацоўкі яго функцыянавання, бо панавала ўпэўненасць, што прэзідэнтам стане В. Кебіч, паслухмяны, без найменшых уладных амбіцый, разгублены ад праблем, якія на яго зваліліся, які аддана глядзіць у вочы парламенту. Але не! Джын, выпушчаны з бутэлькі, выйшаў з-пад кантролю парламента, чым пазбавіў парламент наіўных мар аб захаванні свайго панавання над краінай і ў тым ліку над прэзідэнтам. Так у палітычнай гісторыі бывала нярэдка. Парламент апынуўся няздатным да палітычнай барацьбы і стаў губляць пазіцыю за пазіцыяй, так і не рашыўшыся звярнуцца за падтрымкай да сваіх выбарцаў, беларускага народа.

Думаю, што аўтар дазваляе сабе залішнюю размашыстасць, ставячы на адзін узровень рэжым улады Гітлера і рэжым улады Лукашэнкі. Справа ў тым, што персаналісцкія рэжымы ў большасці выпадкаў у навуковай літаратуры адносяць да таталітарных палітычных сістэм[12]. Але цалкам відавочна, што рэжым Гітлера панаваў над краінай. У Беларусі ж, як піша сам У. Роўда, А. Лукашэнка не дамогся нават поўнай лаяльнасці з боку чынавенства, не мае падтрымкі з боку шырокага кіроўнага класа, які абапіраецца на ўладу і ўласнасць (117). Па-другое, Адольф Гітлер напоўніў свой рэжым поўнай прыхільнасцю да мэтаў нацыі, расісцкімі поглядамі, планамі сусветнага панавання. Нічога падобнага Аляксандр Лукашэнка не спараджаў. Параўнанне моцнае, але кантрастаў занадта шмат, каб адносіць абодвух лідараў да аднаго палітычнага рэжыму. Можна гаварыць пра падобныя элементы. І тут я прапанаваў бы наступныя: цэнтральная праблема тако-

[12] Гл.: Политический режим как властный порядок // Политология: учебник / А. Ю. Мельвиль [и др.]. Москва, 2005.

га віду арганізацыі ўлады — гэта пастаянная і безварыянтная барацьба за захаванне сябе ва ўладзе, гэта культ асобы, гэта выбудоўванне ўлады і кіравання, выходзячы за межы Канстытуцыі, гэта напружаныя адносіны з суседнімі краінамі. Наўрад ці трэба было ў гэтым выпадку выбудоўваць амаль увесь параграф „Змены канстытуцыйных правілаў прыняцця палітычных рашэнняў" навучальнага дапаможніка на суцэльных паралелях Лукашэнкі і Гітлера.

У дапаможніку, падрыхтаваным У. Роўдам, шмат іншых недакладнасцяў, слаба аргументаваных або, на мой погляд, памылковых пазіцый. Можна на іх таксама спыніцца, але, па-першае, прынцыпова зразумела, што навука прысутнічае толькі тады, калі аналіз вядзецца на максімальна блізкай да праблемы базе крыніц, і спадару Роўду трэба быць у гэтых адносінах больш педантычным; па-другое, фармат дадзенага артыкула не дазваляе падаць больш аб'ёмны аналіз. І, па-трэцяе, нягледзячы на крытычны аналіз, мы канстатуем, што кніга У. Роўды ўяўляе сабой салідную працу. Яна значна адыходзіць ад стандартнага набору банальных ісцін, якімі грашыць наша навучальная літаратура. Дапаможнік цікава чытаць. У ім шмат у якіх выпадках зроблена ўдалая спроба злучыць фундаментальную палітычную навуку з рэальнай палітычнай практыкай. Мяркую, што, рухаючыся ў гэтым кірунку, аўтар яшчэ парадуе нас глыбокімі, навукова выверанымі і вельмі карыснымі для маладых розумаў палітычнымі аналізамі. Прынамсі, такі патэнцыял аўтара закладзены ў дадзеным навучальным дапаможніку.

# Важнае даследаванне пра месты Беларусі і Украіны*

**Максім Макараў**

Праца швейцарскага гісторыка Крыстафа фон Верта прысвечана вывучэнню тых зменаў, якія адбыліся ў жыцці местаў Украіны і Беларусі ў эпоху позняга Сярэднявечча і ранняга Новага часу. Згаданая тэма мае дастаткова багатую гістарыяграфію, аднак рэцэнзаваная кніга вылучаецца на фоне іншых урбаністычных даследаванняў маштабнасцю пастаноўкі пытання. Фактычна гэта першая спроба стварыць цэльны вобраз еўрапеізацыі местаў усходнеславянскіх земляў ВКЛ і Каралеўства Польскага ў рамках асобнай манаграфіі. Паспрабуем паказаць асноўныя палажэнні працы і пракаментаваць іх там, дзе, на наш погляд, неабходна зрабіць заўвагі.

Кніга складаецца з чатырох раздзелаў, заключэння, бібліяграфіі і персанальна-геаграфічна-прадметнага паказальніка. Тэкставы матэрыял арганічна дапаўняюць некалькі дзясяткаў карт, табліц і графікаў. Першы раздзел працы (1–28) выконвае функцыю ўводзінаў. Аўтар вызначае геаграфічныя і храналагічныя рамкі даследавання, робіць неабходныя тэрміналагічныя заўвагі і агаворвае агульныя прынцыпы падачы матэрыялу.

Даследчыка цікавіць гістарычная прастора тых рэгіёнаў былой Кіеўскай Русі, якія, як састаўная частка ВКЛ і Каралеўства Польскага, у эпоху позняга Сярэднявечча і ранняга Новага часу развіліся ў пераходную зону паміж лацінскай і праваслаўнай Еўропай. На думку

* Christophe von Werdt. Stadt und Gemeindebildung in Ruthenien: okzidentalisierung der Ukraine und Weißrusslands im Spätmittelalter und in der frühen Neuzeit. Wiesbaden: Harrassowitz Verlag, 2006. 326 S.

аўтара, гістарычнае значэнне ВКЛ і Каралеўства Польскага заключаецца менавіта ў тым, што гэтыя дзяржавы сваёй палітычнай прасторай пераадолелі канфесійныя структурныя межы і працяглы час выступалі ў якасці краін-мастоў паміж захадам і ўсходам Еўропы. Гэтыя межы страцілі сваю значнасць, і тэрыторыі на ўсход ад іх пачалі еўрапеізавацца (7). Геаграфічныя рамкі даследавання, такім чынам, ахопліваюць усе ўсходнеславянскія землі ВКЛ і Польшчы акрамя тых, якія ў пачатку XVI ст. адышлі да Маскоўскай дзяржавы (8–9).

Пры вызначэнні храналагічных рамак працы К. фон Верт арыентуецца на гістарычныя стадыі фармавання пераходнай зоны. Ніжняя мяжа — гэта другая палова XIV ст. У Чырвонай Русі актыўны працэс еўрапеізацыі (будова сеткі каталіцкіх біскупстваў і парафій, стварэнне сістэмы кіравання па польскіх узорах, шматлікія „лакацыі” паселішчаў на нямецкім праве) пачаўся пасля ўключэння ў склад Польшчы. Для ВКЛ адпраўной кропкай гэтага працэсу можна лічыць Крэўскую унію 1385 г. У якасці верхняй храналагічнай мяжы аўтар абраў падзеі сярэдзіны XVII ст., калі змянілася гістарычная парадыгма развіцця рэгіёна і адносіны да Расіі пачалі адыгрываць у ім вызначальную ролю. Войны гэтага часу прынеслі пераходнай зоне сапраўдную катастрофу і ператварылі ў попел большую частку местаў, якія тут існавалі (п. 1.2.2).

У тэрміналагічных заўвагах аўтар адзначае, што лацінска-праваслаўная пераходная зона ў асноўным адпавядае тэрыторыі сучасных Украіны і Беларусі. Аднак пры апісанні падзей XIV — першай паловы XVII ст. ён практычна не ўжывае гэтыя назвы, бо яны напоўніліся сучасным сэнсам пазней. Тэрмін *Заходняя Расія* як спадчына імперскай гістарыяграфіі, на думку К. фон Верта, таксама не падыходзіць. Таму ён паслядоўна называе рэгіён даследавання Рутэніяй (*Ruthenia*) — лацінскім адпаведнікам тэрміна *Русь*, што трывала замацаваўся ў англамоўнай гістарыяграфіі (п. 1.3). Такі падыход адпавядае асноўнаму прынцыпу даследчыка, які ўслед за Юліушам Бардахам заклікае разглядаць месцкія

паселішчы ў рамках гістарычных рэгіёнаў, а не сучасных дзяржаўных арганізмаў (23).

Згодна са сцверджаннем аўтара, месты Рутэніі былі тымі пунктамі, на абшары якіх працэс фармавання пераходнай зоны пачаўся раней за ўсё. Пад уладай польскіх каралёў і вялікіх князёў літоўскіх рэгіён быў уцягнуты ў працэс культурнага трансферта ці, іншымі словамі, „еўрапеізацыі" Еўропы. Складовай часткай гэтай з'явы быў працэс рэцэпцыі мадэлі еўрапейскага камунальнага места, які стаў прадметам даследавання К. фон Верта. Пад тэрмінам *рэцэпцыя* даследчык разумее не аднабаковы ўплыў, скіраваны з захаду на ўсход, а працэс узаемаадносінаў паміж мадэллю „горада" („burgstadt"), якая засталася ў спадчыну ад Кіеўскай Русі, і тыпам сярэднееўрапейскага прававога места (22). Аўтар не паглыбляцца ў дэталёвы разгляд гісторыі асобных населеных пунктаў, бо ў гэтым выпадку яму неабходна было б выкарыстаць неапублікаваныя архіўныя крыніцы. Мэта яго працы — стварыць агульны агляд развіцця местаў рэгіёна, які б інтэграваў вынікі нацыянальных даследаванняў і зрабіў унёсак у заходнюю гістарычную навуку (23–24).

У раздзеле 2 (29–49) даследчык разглядае гістарыяграфію пытання і крыніцы, выкарыстаныя пры напісанні кнігі. Аўтар паслядоўна паказвае асноўныя дасягненні, недахопы і ідэалагічны падтэкст разыходжанняў прац нямецкіх, польскіх, расійскіх, беларускіх і ўкраінскіх гісторыкаў XIX — пачатку XXI ст. (п. 2.1). Пры гэтым ён падкрэслівае, што беларускія месты аказаліся вывучанымі лепш, чым месцкія паселішчы Украіны, бо ўкраінскія даследчыкі з самага пачатку разумелі мінулае сваёй краіны галоўным чынам як гісторыю казацтва (32–33).

Як адзначае К. фон Верт, яго праца грунтуецца пераважна на апублікаваных крыніцах (44). Найбольш багатым комплексам друкаваных матэрыялаў могуць пахваліцца Львоў і Полацк (для XV ст.), якім у гэтым сэнсе значна саступаюць Вільня, Кіеў, Віцебск, Магілёў і іншыя месты. Правядзенне даследаванняў ускладняецца

тым, што захавалася толькі нязначная частка ў пераважнай большасці позніх актавых кніг магдэбургій рэгіёна, а запісы кніг Метрыкі ВКЛ рэдка сягаюць часу раней за 1480-я г. Кепскі стан захавання дакументальнай спадчыны местаў Беларусі і Украіны змушае даследчыка пры апісанні значных адрэзкаў часу абапірацца амаль выключна на нарматыўныя крыніцы, якія паказваюць стан рэчаў, што існаваў у тэорыі, а не на практыцы (47–49).

Пры разглядзе крыніц К. фон Верт выказвае меркаванне, што ўсе найбольш істотныя дакументы па гісторыі местаў рэгіёна даследавання са складу Метрыкі ВКЛ ужо апублікаваныя (46). З гэтым сцверджаннем мы не можам пагадзіцца. Метрыка налічвае каля 600 актавых кніг пераважна вельмі значнага аб'ёму, і „глыбінныя" пласты гэтага фонду па-ранейшаму застаюцца вывучанымі слаба. У 2006–2007 г. намі былі прагледжаны ўсе кнігі запісаў і судных спраў Метрыкі, якія датуюцца часам да 1654 г. Пры гэтым быў выяўлены шэраг раней невядомых істотных матэрыялаў па гісторыі местаў Падзвіння (пацвярджальны прывілей Суражу на віцебскае права 1576 г. з дадаткам пастаноў, якіх няма ў апублікаваных версіях дакумента; сведчанне 1582 г. пра наданне віцебскага права Веліжу; прывілей Уле на магдэбургскае права 1648 г.; дэкрэт Жыгімонта Вазы 1611 г., які раскрывае рэальную сістэму выбараў полацкімі мяшчанамі канфесійных частак магістрата[1], і інш.). Матэрыялы, якія не датычылі гісторыі Падзвіння, намі ўвогуле не браліся пад увагу, і можна ўпэўнена сцвярджаць, што патэнцыял неапублікаваных кніг Метрыкі ў вывучэнні гісторыі местаў Украіны і Беларусі яшчэ далёка не вычарпаны.

У раздзеле 3 (51–151) К. фон Верт спрабуе прасачыць працэс урбанізацыі абшару Рутэніі згодна з яго падзелам на гістарычныя рэгіёны. Ён слушна адзначае, што ў Рутэніі наяўнасць нямецкага месцкага права не можа служыць выключным фактарам пры вызначэнні

[1] Літоўская Метрыка. Спр. 56, арк. 89адв.–92; спр. 67, арк. 247адв. –248; спр. 125, арк. 330–331; спр. 292, арк. 261–262адв.

паселішча як места. Такім крытэрыем аўтар прызнае права населенага пункта на рынкавы гандаль (54).

Даследчык пачынае агляд з заходніх ускраін рэгіёна. Раней за іншыя землі ў працэс унутрыеўрапейскай каланізацыі ўключылася Чырвоная Русь. Сляды нямецкіх каланістаў і нямецкага права тут прасочваюцца з другой паловы XIII ст. І хоць першыя дакладныя звесткі пра наданне магдэбургскага права Саноку адносяцца да 1339 г., можна ўпэўнена сцвярджаць, што абшчыны на нямецкім праве існавалі ва Уладзіміры, Львове і Перамышлі задоўга да гэтай даты (56–58). Пасля ўключэння Чырвонай Русі ў склад Польшчы прывілеі атрымала большасць местаў рэгіёна. Мэтай польскіх манархаў была інтэграцыя далучаных земляў у склад каралеўства. Гэтаму служыла заснаванне новых местаў на нямецкім праве і яго наданне ўжо існуючым паселішчам. Пасля 1434 г., калі ў Чырвонай Русі было ўведзена польскае права, значна павялічылася колькасць мястэчак, заснаваных шляхтай (59–62). Па шчыльнасці размяшчэння месцкіх паселішчаў рэгіён хутка зраўняўся з Польшчай, але так і застаўся тэрыторыяй малых і вельмі малых местаў. Для сярэдзіны XVII ст. К. фон Верт асцярожна ацэньвае долю месцкага насельніцтва Чырвонай Русі ў 25–30% (67–68).

Адметнасцю Падляшша, як адзначае даследчык, з’яўляецца тое, што ў XV ст. тут атрымала шырокае распаўсюджанне хэлмінскае права. У перыяды знаходжання рэгіёна ў складзе Мазовіі абшчыны на гэтым праве, якія ахоплівалі толькі каталікоў, з’явіліся ў большасці старажытнарускіх „гарадоў” Падляшша. Пасля 1444 г. разам са зменай дзяржаўнай прыналежнасці мазавецкая парадыгма развіцця местаў была заменена літоўскай. Вялікія князі пачалі надаваць месцкім паселішчам рэгіёна звычайнае для ВКЛ магдэбургскае права. Іх наданні адрасаваліся ўсяму насельніцтву места, што дазволіла адысці ад сегрэгатыўнай сістэмы і стварыць адзіныя месцкія абшчыны (72–73). Другой асаблівасцю працэсаў урбанізацыі Падляшша было тое, што нават у

XVII ст. каралеўскіх местаў і мястэчак тут было значна болей, чым прыватных (74, 76).

Наступны гістарычны рэгіён Рутэніі, вылучаны К. фон Вертам, — гэта ВКЛ у межах пасля 1569 г. У адрозненне ад Чырвонай Русі і Падляшша ён не знаходзіўся ў прамым кантакце з лацінскай Еўропай. Акрамя таго, у складзе ВКЛ апынуўся шэраг былых сталіц старажытнарускіх удзельных княстваў з уласнымі прававымі традыцыямі (77).

У працэсах урбанізацыі ВКЛ даследчык умоўна вылучае тры асноўныя этапы. Першы з іх ён датуе часам ад Крэўскай уніі да смерці Вітаўта. Пасля заключэння уніі вярхоўныя ўлады ВКЛ імкнуліся зрабіць сваю краіну як мага больш падобнай да Польшчы. Менавіта гэтым можна патлумачыць наданне ў 1387 г. магдэбургскага права Вільні па прыкладзе Кракава. На думку аўтара, яно было намінальным, паколькі не ішло гаворкі пра аўтаномію і самакіраванне жыхароў сталіцы. Нямецкае права атрымалі таксама Бярэсце ў 1390 г., Горадня ў 1391 г., Коўна ў 1408 г. і Трокі да 1413 г. (80–81). Часта яно надавалася не ўсім жыхарам места, а толькі каланістам каталіцкага веравызнання, пры дапамозе якіх улады ВКЛ спадзяваліся ўзмацніць гаспадарчы патэнцыял дзяржавы. Адыход ад сегрэгатыўнай сістэмы пачаўся толькі пасля смерці Вітаўта (83–84).

Сумненні выклікае ўказаны даследчыкам год надання магдэбургскага права Горадні. Беларускі гісторык Ю. Гардзееў пераканаўча даказаў, што гэтая дата (якой мы таксама раней прытрымліваліся) з’явілася ў выніку гістарыяграфічнага казусу, а места на самай справе атрымала нямецкае права толькі ў 1496 г.[2].

Другая стадыя працэсаў урбанізацыі ВКЛ, паводле К. фон Верта, прыпала на перыяд панавання вялікіх князёў Казіміра і, асабліва выразна, Аляксандра Ягелончыкаў. Афармленне ўпрывілеяванага становішча

[2] Гардзееў Ю. Заўвагі да праблемы даследаванняў гісторыі Гародні (на падставе выдання серыі „Памяць”. Гісторыка-дакументальная хроніка горада Гродна. Мінск, 1999) // Гістарычны альманах. 2002. Т. 6. С. 192–193.

шляхецкага саслоўя, перанос гандлёвых шляхоў і ўзрастанне эканамічнага значэння местаў паўночнай часткі ВКЛ пасля захопу Ноўгарада войскамі Івана III, узброеныя канфлікты з Маскоўскай дзяржавай і фіскальныя інтарэсы гаспадарскага скарбу былі тымі фактарамі, якія вызначалі месцкую палітыку ўладаў ВКЛ гэтага часу (91). Дзяржаўная адміністрацыя спрабавала ўзмацніць месцкія паселішчы як гандлёвыя і мытныя цэнтры і шчодрай рукой раздавала ім прывілеі, якія часта мелі для местаў свой кошт у выглядзе штогадовых аплат за карыстанне магдэбургскім правам (89). У ходзе другога этапу магдэбургскае права было занесена далёка на ўсход ВКЛ. Яго атрымалі Полацк (1498), Мінск (1499) і іншыя месты (91–92). Як адзначыў даследчык, прывілеі Аляксандра Ягелончыка Віцебскай (1503) і Смаленскай (1505) землям таксама можна разглядаць як месцкія, бо яны адрасаваліся ўсяму насельніцтву зямлі, у тым ліку і мяшчанам (91).

Трэці этап урбанізацыі ВКЛ, вылучаны К. фон Вертам, характарызуецца карэннай перапрацоўкай зямельных адносінаў і паўстаннем на ўсёй тэрыторыі дзяржавы густой сеткі мястэчак. Першыя звесткі пра інвестыцыі шляхты ў заснаванне паселішчаў гэтага тыпу датуюцца 80-мі г. XV ст. Але сапраўдны бум месцкай каланізацыі ВКЛ прыпаў на другую палову XVI ст. Ён адбываўся на фоне правядзення „валочнай памеры” (1557), якая спрыяла манетызацыі эканамічных адносінаў (п. 3.3.3). На думку аўтара, стварэнне сеткі гарадскіх паселішчаў было інтэгральнай часткай аграрнай рэформы, а вялікі князь і шляхта разглядалі мястэчкі перш за ўсё як сродак атрымання прыбыткаў (100).

Крыстаф фон Верт адзначае, што ў XVI ст. у ходзе рэфармавання зямельных адносінаў амаль усе буйныя дзяржаўныя месты ВКЛ атрымалі магдэбургскае права (на ўсходзе краіны гэты працэс адбываўся са значным спазненнем). У той жа час мястэчкі зазвычай не карысталіся месцкім правам. Толькі каля 7% „лакацый” у ВКЛ было звязана з наданнем магдэбургскага права (104). Згодна з ацэнкай аўтара, у сярэдзіне XVII ст. доля

месцкага насельніцтва ВКЛ складала каля 15%, але ўсяго 20–30% мяшчан жыло ў паселішчах з колькасцю жыхароў больш за 1 тысячу чалавек (108).

Па словах К. фон Верта (106), ён змясціў усе найбольш значныя месты ВКЛ, якія да сярэдзіны XVII ст. атрымалі магдэбургскае права, на карце № 8 (105). Але прапанаваная карціна не можа быць поўнай без уліку местаў Смаленшчыны, якія ў першай палове XVII ст. былі пераведзены на нямецкае права. Застаецца толькі пашкадаваць, што аўтар цалкам вывеў Смаленскае ваяводства ВКЛ па-за геаграфічныя рамкі сваёй працы.

Апошні рэгіён Рутэніі, які, на думку даследчыка, быў зонай непрамых і другасных кантактаў лацінскай і праваслаўнай Еўропы, складаецца з трох гістарычных частак — Валыні, Украіны і Падолля (109).

Заходняе Падолле з Камянцом, які ў 1374 г. атрымаў магдэбургскае права, у канцы XIV ст. увайшло ў склад Польшчы. У XVI ст. тут паўстала сетка мястэчак, але ініцыятыва стварэння асноўнай іх часткі з прычыны пастаяннай небяспекі татарскіх набегаў сыходзіла ад дзяржавы (110).

Астатнія землі рэгіёна да 1569 г. знаходзіліся ў складзе ВКЛ. К. фон Верт піша, што тут існавала значная колькасць паселішчаў гарадскога характару, аднак рэальнымі цэнтрамі гаспадарчага жыцця да пачатку XVI ст. былі толькі Луцк, Уладзімір і Кіеў (117–118). Нямецкае права пранікла на валынска-ўкраінскую прастору дастаткова рана. Вядома, што ў пачатку XIV ст. арганізаваная па заходніх узорах абшчына існавала ва Уладзіміры. У 30–40-я г. XV ст. структуры такога тыпу паўсталі ў Луцку (1432), Крамянцы (1438) і Жытоміры (да 1444). На думку даследчыка, у гэтых выпадках наданні нямецкага права былі звязаны з барацьбой паміж Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам, якія спрабавалі перацягнуць на свой бок месты рэгіёна, але цяжка сказаць, у якой ступені новыя парадкі былі ўведзены ў жыццё. Адпаведна ў 1497 і 1494–1498 г. Аляксандр Ягелончык надаў магдэбургскае права Луцку і Кіеву (119–120).

Як адзначыў аўтар, на Валыні шляхта пачала ўкладаць сродкі ў стварэнне мястэчак яшчэ ў канцы XV ст. Пік актыўнасці ў гэтым накірунку прыпаў на гады да і пасля Люблінскай уніі, калі мясцовым феадалам неабходна было спыніць адток людзей у месты Польшчы, дзе апошнія асядалі на значна лепшых умовах (122–124). У сярэдзіне XVII ст. доля месцкага насельніцтва Валыні магла набліжацца да 30% (126).

У дачыненні да працэсу ўрбанізацыі Кіеўскага і Брацлаўскага ваяводстваў у першай палове XVI ст., вельмі слаба асветленага крыніцамі, аўтар выказвае меркаванне, што ён працякаў прыкладна так, як і на Валыні (126). Люблінская унія 1569 г. дала новы імпульс унутранай каланізацыі Украіны, але сама гэтая каланізацыя стала інструментам экспансіі магнатаў (136). Наданне нямецкага права ў 80–90-я г. XVI ст. Корсуні, Праяславу і Чыгірыну было звязана з неабходнасцю ўзмацнення абароназдольнасці неспакойных паўднёва-ўсходніх межаў Рэчы Паспалітай (128). Да асаблівасцяў працэсаў урбанізацыі Украіны К. фон Верт адносіць таксама наступныя з’явы: канцэнтрацыю насельніцтва ў мястэчках, што было адзіным спосабам выжыць ва ўмовах частых татарскіх набегаў, і сезонныя ваганні колькасці жыхароў месцкіх паселішчаў, размешчаных на мяжы са стэпам (132–133).

Аўтар прыходзіць да высновы, што ў сярэдзіне XVII ст., калі ў асобных частках Нідэрландаў, Італіі, Францыі і Нямеччыны доля месцкага насельніцтва дасягала 50–60%, Рутэнія працягвала заставацца адным са слаба ўрбанізаваных рэгіёнаў Еўропы (151).

У раздзеле 4 (152–249) К. фон Верт спрабуе прасачыць развіццё камунальных інстытутаў і права местаў Рутэніі ў ходзе працэсаў урбанізацыі. Ён падкрэслівае, што гэтае пытанне не можа разглядацца выключна праз прызму распаўсюджвання нямецкага права на землі сучасных Украіны і Беларусі, бо тут на працягу стагоддзяў суіснавалі розныя гісторыка-генетычныя тыпы месцкіх паселішчаў (154). Услед за Юліушам Бардахам даследчык вылучае два асноўныя іх тыпы: 1) места *без* ці, да-

кладней, *да* надання магдэбургскага права („burgstadt"); 2) места на магдэбургскім праве (159). Варта адзначыць, што з пункту гледжання такіх універсальных крытэрыяў феномена места, як мультыфункцыянальнасць ці сацыяльная дыферэнцыяцыя насельніцтва, аўтар не знаходзіць прынцыповых адрозненняў паміж імі (254). К. фон Верт паслядоўна разглядае два „ідэальныя" тыпы і спрабуе адказаць на пытанне, ці існавалі ў Рутэніі так характэрныя для Заходняй Еўропы месты ў форме аўтаномнай камунальнай абшчыны (159–160).

Пад тэрмінам „burgstadt" даследчык разумее той гісторыка-генетычны тып места, які развіўся з пасялення купцоў і раменнікаў пад сценамі „бурга" (гэта — старажытнарускі *город* ці польскі *gród* у атачэнні пасадаў). Пераход да раннемесцкіх формаў у такім сацыяльным арганізме адбываецца тады, калі паселішча перастае быць выключна дапаможным прыдаткам „бурга" і становіцца гандлёвым цэнтрам сваёй акругі (160). Да гэтага тыпу адносілася большасць местаў Рутэніі, што засталіся ВКЛ і Польшчы ў спадчыну ад Кіеўскай Русі.

Далей К. фон Верт спрабуе прасачыць эвалюцыю ўнутранага ладу „бургштата" ў XV ст. на прыкладзе канкрэтнага населенага пункта. На яго думку для вырашэння пастаўленай задачы лепш за ўсё падыходзіць дамагдэбургскі Полацк, які з'яўляецца тыповым „бургштатам" і можа пахваліцца адносна добрай базай крыніц гэтай эпохі. Акрамя таго, у Полацку дастаткова рана адбылося станаўленне абшчыны з выразнымі камунальнымі рысамі (163).

Даследчык адзначае, што рэгіянальны земскі прывілей гарантаваў Полацку шырокую аўтаномію ў складзе ВКЛ і абараняў традыцыйнае старажытнарускае адзінства „горада" і зямлі. Адрасатамі гэтага дакумента з'яўляліся не толькі баяры, але, безумоўна, з моманту вылучэння з масы свабоднага насельніцтва, і мяшчане Полацка. Аўтар падрабязна аналізуе змены і дапаўненні, унесеныя ў тэкст Полацкага земскага прывілея ў 30–40-я г. XV ст., і прыходзіць да высновы, што пасля гэтых рэдакцый дакумент прадугледжваў для мяшчан правы, падоб-

ныя да баярскіх (164–168). Сведчаннем паступовага вылучэння мяшчан Полацка ў асобную сацыяльную групу, на думку К. фон Верта, з'яўляецца тое, што ў 40–60-я г. XV ст. яны ў шэрагу выпадкаў вялі перапіску з уладамі Рыгі без удзелу баяраў (172).

Аўтар слушна падкрэслівае значэнне падзей 1463 г., звязаных з увядзеннем васковай пячаткі, у справе афармлення асобнай мяшчанскай абшчыны і выказвае меркаванне, што ў Полацку яшчэ да надання магдэбургскага права мог існаваць войт, які ажыццяўляў уладу і суд у сферы гандлю (172–173). Чарговы этап сацыяльнай дыферэнцыяцыі насельніцтва Полацка быў звязаны з падзеямі 1486 г., калі баяры перасталі браць удзел у выплаце агульных падаткаў і фактычна выйшлі з калектыву „бургштата”, а мяшчане і іншыя катэгорыі насельніцтва ў адказ на гэта пачалі вырашаць месцкія справы без іх удзелу (173–174). Такім чынам, як адзначае даследчык, на працягу XV ст. полацкія баяры (земляўласнікі) і мяшчане (купцы) паступова разыходзіліся паміж сабой у сацыяльным і прававым плане. У ходзе гэтага працэсу мяшчане пачалі ствараць такія сепаратныя інстытуты, як васковая пячатка, асобныя сходы, дзясятнікі (177).

З некаторымі акцэнтамі, расстаўленымі аўтарам у гэтай частцы працы, нам цяжка пагадзіцца. Так, К. фон Верт схіляецца да высновы, што ў выпадку з полацкім земскім прывілеем меў месца не працяг традыцыі заключэння палачанамі дамоваў з удзельнымі князямі, а першасная аднабаковая дэлегацыя ім суверэнітэту з боку вялікага князя Вітаўта (165). На наш погляд, даследчык недаацэньвае ролю традыцыі полацкай дзяржаўнасці. У любым выпадку, палітычна-прававая аўтаномія Полацкай зямлі ў складзе ВКЛ, гарантыяй якой быў прывілей, не можа разглядацца ў катэгорыях „падарунка” гаспадара сваім падданым. Вітаўт паслядоўна праводзіў палітыку цэнтралізацыі дзяржавы і не дзяліўся ўладай, калі для гэтага не было сур'ёзных прычын. Хутчэй за ўсё, дакумент, які ўтрымліваў і захоўваў асноўныя палажэнні полацкага права, мог з'явіцца ў выніку кампрамісу паміж вялікім князем і мясцовым грамадствам.

Аўтар не бачыць генетычнай сувязі паміж старажытнарускім вечам і агульнымі сходамі палачан літоўскай эпохі, згаданымі ў дэкрэце 1486 г. Ён невысока ацэньвае ролю такіх сходаў ва ўнутраным жыцці „бургштата" XV ст. (174–175). Сапраўды, у святле захаваных крыніц цяжка скласці пра іх цэльнае ўяўленне. Аднак пэўныя аналогіі можна знайсці ў вельмі падобным на Полацк дамагдэбургскім Віцебску. Да нашага часу дайшлі дзве ўхвалы (1531 і 1551), прынятыя віцебскім сходам-соймам, у працы якога ўдзельнічалі як баяры-шляхта, так і мяшчане. Яны былі складзены на полацкі ўзор і прысвечаны ўмовам утрымання землеўладальнікамі „пахожых" сялян[3]. Дакументы кнігі 228 Метрыкі ВКЛ сведчаць пра выкарыстанне Ухвалы 1531 г. і яшчэ аднаго мясцовага віцебскага закона (Ухвалы пра забарону захоўваць прыстасаванні для лоўлі баброў) у паўсядзённай судовай практыцы[4]. Пакінем пытанне пра пераемнасць паміж вечам і полацкім сходам XV ст., бо захаваныя крыніцы ўсё роўна не дазволяць выйсці за рамкі дапушчэнняў. Адзначым толькі, што абласны сход, які распрацоўваў і прымаў мясцовыя законы, мусіў адыгрываць ва ўнутраным жыцці места і зямлі значную ролю.

Далей К. фон Верт спрабуе прасачыць паходжанне інстытута войтаўства, які ў шэрагу „бургштатаў" Рутэніі з'явіўся задоўга да ўвядзення магдэбургскага права. Даследчык адзначае, што полацкі і віцебскі земскія прывілеі прадугледжвалі аўтаномны суд над мяшчанамі ў гандлёвых справах, і ў сувязі з гэтым звяртае ўвагу на па-

[3] Варонін В. Заканатворчая дзейнасць віцебскіх абласных з'ездаў у першай палове XVI ст. (на прыкладзе ўстаў аб „пахожых" сялянах 1531 і 1551 г.) // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV–XVIII ст. Мінск, 2008. С. 55–57.

[4] Судебная книга витебского воеводы, господарского маршалка, волковыского и оболецкого державцы М. В. Клочко. 1533–1540 (Литовская Метрика. Кн. № 228. Книга судных дел № 9) / [публ. подгот. В. А. Воронин, А. И. Груша, И. П. Старостина, А. Л. Хорошкевич]. Москва, 2008. С. 69, 74, 359.

саду „гарадскога цівуна”, якая не ўваходзіла ў склад замкавай адміністрацыі. Існаванне такой пасады, на яго думку, было саступкай купецтву (182–183). Аўтар мяркуе, што войтаўства магло развіцца з цівунства, прычым каталізатарам афармлення гэтага інстытута сталі спецыяльныя патрэбы гандлёва-рамеснага насельніцтва (184). Заўвагі К. фон Верта адносна ролі цівуноў у жыцці Полацка вельмі істотныя, але зробленае ім абагульненне часткова грунтуецца на яўнай памылцы. На самай справе абедзве прыведзеныя ім цытаты пра „гарадское цівунства” (спас. 115, с. 182) паходзяць з тэксту прывілея Полацкай зямлі. У віцебскім прывілеі такая пасада ўвогуле не згадваецца[5]. Такім чынам, для дамагдэбургскага часу мы можам упэўнена казаць толькі пра існаванне цівунства ў Полацку і войтаўства (з 80-х г. XV ст.) у Віцебску.

Даследчык звяртае ўвагу на абмежаваны характар паўнамоцтваў войтаў дамагдэбургскіх местаў і адзначае, што яны вельмі рэдка станавіліся выбарнымі органамі, легітымнасць якіх выводзілася не толькі ад вярхоўнай улады (186). Нягледзячы на гэта, такія войтаўствы з’явіліся падмуркам фармавання аўтаномных прававых акруг гарадоў Рутэніі (190).

Аўтар спрабуе акрэсліць, якім чынам у шэрагу „бургштатаў” развіліся асобныя мяшчанскія абшчыны і свае ўласныя сістэмы месцкага права. Яго ўвагу прыцягваюць Орша і Віцебск, дзе старажытныя парадкі ўтрымаліся да канца XVI ст.

Даследчык падрабязна разглядае прававое становішча насельніцтва дамагдэбургскай Оршы і адзначае, што ў 1559 г. тут адбылося аб’яднанне мяшчан у камуну, замацаванае прысягай удзельнікаў. Прычынай заключэння „саюзу” стала імкненне аптымізаваць кіраванне маёмасцю места ва ўмовах, калі значны аб’ём павіннасцяў негатыўна ўплываў на яго гаспадарчае жыццё.

[5] Макараў М. Ад пасада да магдэбургіі: прававое становішча местаў Беларускага Падзвіння ў XIV — першай палове XVII ст. Мінск, 2008. С. 155.

Каб стабілізаваць становішча, мяшчане зафіксавалі на паперы крыніцы прыбыткаў сваёй абшчыны. Акрамя таго, грамада абрала войта і 6 прадстаўнікоў мяшчан, якія павінны былі распараджацца фінансамі і складаць справаздачы перад насельніцтвам (191–192). На думку аўтара, такая сістэма самакіравання была кардынальна зменена ў 1593 г. пры правядзенні ў Оршы валочнай памеры. Гаспадарскія рэвізоры прызначылі новага войта, які быў падпарадкаваны замкавай адміністрацыі, і чатырох сотнікаў. К. фон Верт піша, што ўстава 1593 г. цалкам пазбавіла войта судовых паўнамоцтваў і вывела з яго кампетэнцыі нават справы пра месцкія землі (195). Апошняе сцверджанне даследчыка з'яўляецца памылковым, бо ў тэксце дакумента гаворыцца літаральна адваротнае: „...межу на волокахъ къ месту помераныхъ, и застенковъ, и на сеножатехъ местскихъ, и о испашу, и о страву войтъ местский осудить"[6]. Войт павінен быў аддаваць палову судовых аплат вялікакняскаму намесніку, але рашэнні ў падобных справах прымаў менавіта ён. Такім чынам, абмежаванне юрысдыкцыі войта, калі яно мела месца, было далёка не такім значным.

Даследчык звяртае ўвагу на тое, што праз год пасля атрымання магдэбургскага права (1620) аршанскія мяшчане склалі ўласны статут. Яго крыніцамі паслужылі нормы з судовай практыкі Кракава і Вільні, артыкулы Статута ВКЛ 1588 г. і ўласны вопыт аршанцаў. Дзейнасць мяшчан, на думку К. фон Верта, сведчыць пра жывучасць аршанскіх традыцый (196).

Далей аўтар пераходзіць да разгляду сістэмы месцкага права, якая склалася і функцыянавала ў Віцебску. Ён адзначае, што віцебскі земскі прывілей прадугледжваў шырокі набор правоў для мясцовых баяр і мяшчан. Самі „местичи" — знак сацыяльнай і прававой дыферэнцыяцыі грамадства — з'явіліся ў Віцебску ў сярэдзіне XV ст., а ўжо ў канцы стагоддзя на чале іх абшчыны стаяў войт.

[6] Літоўская Метрыка. Спр. 77, арк. 633; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографическою Комиссиею. Т. 1. С.-Петербург, 1865. С. 253.

Паступовае разыходжанне інтарэсаў баяр і мяшчан прывяло да напружанасці ў адносінах паміж гэтымі сацыяльнымі групамі і вострага канфлікту 1541 г. (196–197). Аўтар выказвае меркаванне, што вярхоўныя ўлады ВКЛ зацвердзілі асобны статут для віцебскіх мяшчан яшчэ да 1555 г., але гэты дакумент не захаваўся і ніколі не быў апублікаваны (198). Даследчык аналізуе асноўныя нормы віцебскага месцкага права на падставе прывілеяў Суража (1570) і Улы (1577). Ён адзначае, што гэта права набыло ўстойлівыя формы і ў гатовым выглядзе імпартавалася ў іншыя месцкія паселішчы (198–199). К. фон Верт упэўнена гаворыць пра існаванне „ўласнага віцебскага месцкага права ці нават невялікай віцебскай сям'і месцкага права" (200).

Старонкі працы, прысвечаныя віцебскаму праву, пакідаюць прыемнае ўражанне. Аўтар добра разумее і апісвае сутнасць з'явы, але яго высновы ў некалькіх выпадках патрабуюць удакладненняў. Першае з іх тычыцца дакумента, які легітымізаваў уласную мадэль месцкага права ў самім Віцебску. Насуперак сцвярджэнню К. фон Верта, тэкст крыніцы захаваўся і быў некалькі разоў апублікаваны яшчэ ў дарэвалюцыйны час[7]. Гэта прывілей Жыгімонта Аўгуста віцебскім мяшчанам ад 6 чэрвеня 1561 г., які добра вядомы даследчыку (спас. 178, с. 198). Згаданыя вышэй прывілеі Суража (1570) і Улы (1577) былі створаны ў выніку перапрацоўкі і мадэрнізацыі тэксту гэтага дакумента[8].

Акрамя таго, у сваёй працы аўтар не закранае адной вельмі істотнай акалічнасці: тое, што галоўнай павіннасцю мяшчан на віцебскім праве была прэстыжная конная вайсковая служба. Да таго ж, у выпадку самога Віцебска вярхоўныя ўлады ВКЛ фактычна зраўнялі мяшчан у правах і абавязках з мясцовай шляхтай. Прывілей 1561 г. гарантаваў ім такія ж правы і вольнасці,

[7] Витебская старина / сост. и изд. А. П. Сапунов. Т. 1. Витебск, 1883. С. 61–67; Любавский М. К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. Москва, 1910. С. 367–371.

[8] Макараў М. Ад пасада да магдэбургіі… С. 85–91.

„яко и князи, и бояре тамошъние <…> вживають”[9]. Можна сказаць, што віцебскія мяшчане, якія атрымалі амаль шляхецкі набор правоў, удзельнічалі ў працы мясцовага сходу-сойма і выконвалі рыцарскую службу, апынуліся нават у больш прывабных умовах, чым насельніцтва замкнутых у рамках аўтаноміі местаў на магдэбургскім праве. Бліжэйшай аналогіяй Віцебску другой паловы XVI ст. можа служыць прыклад польскага Плоцка, дзе ў 1237 г. мяшчанам былі нададзены правы мазавецкага рыцарства[10].

На думку К. фон Верта, насельніцтва „бургштатаў” Рутэніі паступова стала нагадваць заходняе мяшчанства. Там, дзе жыхары места атрымалі магчымасць распараджацца агульнай маёмасцю, з’явіліся камунальныя інстытуты, прызваныя кіраваць ёю, а ў Віцебску была створана нават уласная сістэма месцкага права. Аднак, як адзначае даследчык, пра камуналізм у „бургштаце” можна весці размову толькі часткова, бо тут не да канца вытрымліваюцца прынцыпы суверэнітэту і аўтаноміі мяшчанскай абшчыны ў адносінах да палітычнага і сацыяльнага атачэння (203–204).

Аўтар пераходзіць да разгляду магдэбургскіх местаў рэгіёна і спрабуе высветліць, у якім аб’ёме яны карысталіся камунальным суверэнітэтам. На прыкладах Магілёва, Кіева, Полацка і Львова ён намагаецца прасачыць, у якіх абставінах нямецкае права ўводзілася ў буйных местах Рутэніі і якімі элементамі камунальнага ладу характарызаваліся створаныя тут магдэбургіі (п. 4.3.1). Даследчык прыходзіць да высновы, што ў канцы XV — пачатку XVI ст. новыя парадкі ўваходзілі ў жыццё местаў Беларусі і Украіны з вялікімі цяжкасцямі. Спробы пашырыць суверэнітэт прававой мяшчанскай абшчыны на ўсю тэрыторыю места сутыкаліся з кансалідаванай пазіцыяй інстытутаў земскага кіравання, для якіх аўтаномія мяшчанства азначала матэрыяльныя страты, і

[9] Тамсама. С. 91–93, 187.
[10] Wyrozumski J. Dzieje Polski piastowskiej (VIII wiek — 1370). Kraków, 1999. S. 200, 202.

актыўным супрацiўленнем свецкiх i духоўных феадалаў, якiя валодалi нерухомасцю на тэрыторыi „бургштата" (222).

Адносiны памiж абшчынай i ўладамi з'яўляюцца паказчыкам таго, у якой ступенi яна здолела рэалiзаваць свой камунальны суверэнiтэт. У сувязi з гэтым пад пiльную ўвагу аўтара трапляе пасада войта. Ён адзначае, што толькi асобныя магдэбургскiя месты заходняй часткi Рутэнii здолелi так цi iнакш паставiць войтаўства пад свой кантроль. На тэрыторыi Польшчы гэта ўдалося зрабiць мяшчанскiм абшчынам Львова i Камянца-Падольскага, а ў ВКЛ — Камянца i Бельска (224–225). У большасцi магдэбургiй ВКЛ i Украiны пасада войта знаходзiлася ў цеснай сувязi з органамi дзяржаўнага кiравання. Гэта было абумоўлена саступкамi на карысць вялiкакняскiх намеснiкаў (Полацк, Вiцебск) i неабходнасцю ўтрымання беспасярэдняга кантролю над насельнiцтвам местаў, якiя мелi важнае стратэгiчнае i вайсковае значэнне (Дзiсна, Бар). Даследчык нават лiчыць магчымым казаць пра адметны „вiленскi" тып войтаўства, шырока распаўсюджаны ў ВКЛ (226).

Для рэгiёна даследавання XIV — першай паловы XVII ст. К. фон Верт вылучае чатыры тыпы войтаўстваў. Першы з iх функцыянаваў у местах, дзе мяшчанская абшчына здолела iнкарпараваць войтаўства, другi — дзе мяшчане мелi права прапаноўваць уладам кандыдатаў на гэтую пасаду, трэцi — у паселiшчах, дзе войт-шляхцiч замяшчаў сабе лентвойтам, а чацвёрты — там, дзе гаспадарскiя намеснiкi ажыццяўлялi першасныя функцыi войта на ўмовах персанальнай унii пасад (228–229). Аўтар прыходзiць да высновы, што магдэбургii Рутэнii толькi ў асобных нешматлiкiх выпадках здолелi рэалiзаваць аўтаномiю ў адносiнах да ўладаў дзяржавы (229).

Даследчык таксама спрабуе вызначыць, у якой ступенi магдэбургскiя месты рэгiёна канстытуявалiся з боку самiх мяшчанскiх абшчын. Ён пiша, што барацьбу мяшчан за свае прывiлеi можна бачыць ужо на прыкладах Кiева i Полацка пачатку XVI ст. З другой паловы

XVI ст. паходзяць звесткі пра вялікую зацікаўленасць саміх мяшчан у атрыманні адметнага прававога статусу. Просьбы да ўладаў дзяржавы пра наданне магдэбургскага права паходзілі ад мяшчанскіх абшчын Дзісны, Полацка (пасля 1579), Магілёва, Віцебска і іншых местаў (230–231). Такім чынам, у канцы XVI ст. магдэбургскае права стала не толькі інструментам вялікакняскай палітыкі, але і аб’ектам, авалодаць якім намагаліся многія месцкія паселішчы (231). К. фон Верт таксама адзначае, што еўрапейскі прынцып „месцкае паветра робіць вольным” далёка не заўсёды выконваўся ў Рутэніі (п. 4.3.2.3), а шматлікія царкоўныя і шляхецкія юрыдыкі дэзынтэгравалі ўнутраную прастору местаў Рэчы Паспалітай (п. 4.3.2.4).

На думку даследчыка, галоўная прычына ўзнікнення цяжкасцяў пры ўвядзенні магдэбургскага права ў местах Рутэніі — тое, што тут пераважна мела месца не заснаванне новых паселішчаў, а пераўтварэнні ў старых цэнтрах з моцнымі ўласнымі традыцыямі (248).

Нягледзячы на асобныя заўвагі, кніга Крыстафа фон Верта заслугоўвае самай высокай ацэнкі. Аўтар упершыню ў гістарыяграфіі стварыў цэльны вобраз эвалюцыі ўнутранага ладу местаў былой Кіеўскай Русі, што апынуліся ў складзе ВКЛ і Каралеўства Польскага. Вельмі істотна тое, што змены ў жыцці местаў Украіны і Беларусі паказаны даследчыкам у кантэксце агульнаеўрапейскіх працэсаў урбанізацыі і ўнутранай каланізацыі.

*Рэцэнзент выказвае падзяку Дзмітрыю Ходзьку і Наталлі Шаркуновай за дапамогу ў перакладзе кнігі з нямецкай мовы.*

Studia z dziejów Europy Wschodniej. Księga pamiątkowa dedykowana Profesorowi ARTUROWI KIJASOWI w 70 rocznicę urodzin / Pod redakcją GRZEGORZA BŁASZCZYKA i PIOTRA KRASZEWSKIEGO. Poznań: Wydawnictwo Poznańskiego Towarzystwa Przyjaciół Nauk, 2010. 507 s.

Артур Кіяс замыкае спіс вучняў вялікага польскага медыявіста Генрыка Лаўмяньскага (1896–1984), звязанага з Віленскім універсітэтам, а з 1945 г. і да канца жыцця — з Познаньскім універсітэтам, якія атрымалі прафесарскія тытулы (апрача яго, такімі вучнямі, у храналагічнай паслядоўнасці, былі Ежы Ахманьскі, Марцэлі Косман, Станіслаў Александровіч і Марыя Барбара Тапольская). Усе яны, ідучы даваеннымі сцежкамі Майстра, зрабілі вялікі ўнёсак у вывучэнне гісторыі Літвы і Беларусі. Аўтарамі каштоўных доктарскіх дысертацый былі наступныя пяць вучняў Лаўмяньскага, сярод якіх двое займаліся падзеямі на тым самым абшары ў канцы Сярэднявечча — пачатку Новага часу.

Артур Кіяс пачаў займацца гісторыяй у 1965 г. з напісання магістарскай працы пад назвай „Справа Антонія Тызенгаўза ў свядомасці шляхецкіх мемуарыстаў”. Ступень доктара навук ён атрымаў у 1971 г. на аснове дысертацыі „Уласная гаспадарка феадала на Вялікай Русі ў XIV–XVI ст.”, а доктара габілітаванага — у 1983 г., абараніўшы дысертацыю пад назвай „Маянтковая сістэма ў Маскоўскай дзяржаве ў XV — першай палове XVI ст.”. Экстраардынарным прафесарам А. Кіяс зрабіўся ў 1994 г., ардынарным — у 2005 г. на падставе багатага навуковага даробку, які ўключае ў сябе больш як 200 публікацый, у тым ліку шэсць манаграфій — гэта, апрача вышэйпералічаных, „Палякі ў Казахстане”, „Палякі ў Расіі з XVII ст. да 1917 г. Біяграфічны слоўнік”, „Пецярбург — паштоўкі з гісторыі горада”, а таксама „Палякі ў Харкаўскім універсітэце ў 1805–1917 г.”. Тэматыка яго прац ахоплівае перш за ўсё часы

ад Сярэднявечча да сучаснасці, а з тэрытарыяльнага пункту гледжання першае месца ў іх займае Усходняя Еўропа — Расійская імперыя і Беларусь, Украіна, Літва. Пра спадчыну даследчыка красамоўна гаворыць пералік яго публікацый за 1969–2010 г., які адкрывае кнігу. Ён налічвае 203 пазіцыі, але гэтая лічба падвоілася б, калі б асобна былі ўлічаны энцыклапедычныя артыкулы (а іх было шмат), залічаныя пад адным нумарам: напрыклад, 24 артыкулы пад № 16 (у 5-м томе фундаментальнага „Слоўніка славянскіх старажытнасцяў”), 28 артыкулаў пад № 27 (6-ы том таго ж слоўніка) ці 190 артыкулаў у „Лексіконе сусветнай гісторыі” (№ 118).

У напісанні зборніка ўдзельнічалі 32 аўтары, а амаль усе змешчаныя ў ім працы датычаць усходніх суседзяў Польшчы. Том адкрывае гістарыяграфічны тэкст, прысвечаны дыскусіі пра феадалізм у даўнейшай Маскоўскай дзяржаве і Вялікім Княстве Літоўскім. Чарговыя аўтары пішуць пра Наўгародскую феадальную рэспубліку ў XII ст. як „твор мастацтва”, легенду пра рымскае паходжанне ліцвінаў („Падарожжа Палямона і яго сыноў па Літве”), генеалогію ўвекавечанага ў „Патопе” Генрыка Сянкевіча роду Білевічаў, кнігі „Літоўскай метрыкі” як крыніцу па эканамічнай дзейнаскі каралевы Боны на Беларусі. Эпоху Рэчы Паспалітай замыкаюць тры тэксты, прысвечаныя дыпламатыі ў польска-расійскіх узаемаадносінах у часы Аляксея Міхайлавіча, а таксама ваеннай і эканамічнай разведцы на паўднёвым усходзе ў часы Станіслава Аўгуста.

Наступныя аўтары даследуюць XIX ст. — артыкулы асвятляюць культуратворчую ролю Вільні і Крамянца пасля заняпаду Рэчы Паспалітай, гісторыю палякаў у Баку, выдавецкія справы, праблемы верацярпімасці ў Санкт-Пецярбургу, працэсы эміграцыі з заходніх губерняў Расійскай імперыі ў Каралеўства Польскае пасля 1864 г., а таксама развіццё сістэмы адукацыі з XIV да канца XX ст. („Паміж Усходам і Захадам. Этапы развіцця асветы на Беларусі ў канфесійным і нацыянальным кантэкстах да 1991 г.”). Аўтар (Лешак Заштаўт) вылучае на працягу шасці стагоддзяў шэраг этапаў, па-

чынаючы з часоў канкурэнцыі паміж Вялікім Княствам Маскоўскім і Вялікім Княствам Літоўскім (потым Рэччу Паспалітай і Расіяй) аж да сучаснай эпохі. Зразумела, што ў рамках артыкула ён здолеў закрануць толькі асобныя пытанні і выкарыстаць толькі частку даступнай літаратуры. Сама ж тэма вымагае напісання грунтоўнай манаграфіі. Гэта дазволіла б паглыбіць праведзены аналіз, а таксама праверыць высновы наконт XVI ст. (роля Рэфармацыі) і далей, аж да цяперашняга часу. Працытуем адну з фінальных заўваг, якая адносіцца да нядаўняй мінуўшчыны і падтрымана думкай іншага даследчыка (Р. Радзіка): „Прыняцце расійскіх асабовых узораў і пашырэнне на Беларусі расійскай тоеснасці ў спалучэнні з даўняй гістарычнай традыцыяй усходняга хрысціянства, непрыхільнага ці адкрыта варожага да заходнееўрапейскай традыцыі, прывялі да таго, што беларуская тоеснасць — нягледзячы на фармальнае здабыццё незалежнасці ў 1991 годзе — па-ранейшаму знаходзіцца на перыферыі як палітычнага, так і культурнага поля” (192).

Цытаваны даследчык разважае над тым, у якім кірунку пойдуць перамены ў беларускай асвеце. Свае аптымістычныя надзеі ён асцярожна звязвае з нацыянальным адраджэннем, якое надыдзе пасля здабыцця дзяржаўнасці (беларусізацыя прозвішчаў, назваў адміністрацыйных пасад, рост ролі нацыянальнай мовы ў СМІ і літаратуры, а таксама яе дамінаванне ў адукацыі). Свае высновы ён завяршае пытаннем: „Ці паспрыяе гэта крышталізацыі і ўзмацненню беларускай нацыянальнай самасвядомасці так, як гэта адбылося ва Украіне? Пакуль што гэтае пытанне даводзіцца пакінуць без адказу”.

Палову аб’ёму кнігі займае XX стагоддзе.

Артыкулы, якія грунтуюцца на архіўных матэрыялах, прысвечаны пецярбургскаму перыяду ў біяграфіі знакамітага класічнага філолага Тадэвуша Зяліньскага, віленскаму аддзяленню Расійскага Імператарскага таварыства рыбагадоўлі і рыбалоўства, паасобным палітычным фігурам і падзеям. Апошнія даследаванні прысвечаны найноўшай гісторыі. Да іх належаць цікавыя развагі

Анджэя Хвальбы наконт унутры- і знешнепалітычнай праграмы Міхаіла Гарбачова, яе ўвасабленне на практыцы і думкі, якая склалася пра гэтага палітыка ў былым СССР і за яго межамі. Сінтэтычны характар, грунтоўна падмацаваны статыстычнымі дадзенымі, мае даследаванне Уладзіміра Банусяка пра польска-расійскія эканамічныя ўзаемаадносіны ў 1992–2009 г. Анджэй Банусяк — таксама пры дапамозе грунтоўнай дакументальнай базы, пазычанай у інтэрнэце, — характарызуе сучасныя польскія асяродкі ў Расіі. Марэк Фігура, спыняючыся над палітычнымі дылемамі Кіева ў 2004–2010 г. („Украіна паміж Усходам і Захадам"), так завяршае свае развагі гістарычна-паліталагічнага характару: „У сярэдзіне 2010 г. можна <…> чакаць далейшага паглыблення ўкраінска-расійскага супрацоўніцтва, якое пацягне за сабой павелічэнне прысутнасці расійскага капіталу ва Украіне, аднак тое, як у канчатковым выніку складуцца ўзаемаадносіны паміж Украінай і Расіяй, надалей застаецца адкрытым пытаннем. На форму ж гэтых узаемаадносін можа аказаць свой уплыў і Еўрапейскі Саюз, які не павінен праяўляць абыякавасці да таго, што адбываецца ў яго найбліжэйшых суседзяў" (392).

Прэзентацыю каштоўнага зборніка, прысвечанага заслужанаму даследчыку гісторыі ўсходніх суседзяў Польшчы ў мінулым тысячагоддзі, завяршу высновай пра значэнне падобных памятных кніг для гістарыяграфіі. Значная іх частка дзякуючы ўдзелу ў іх напісанні знаўцаў мінуўшчыны займае трывалае месца ў навуковай літаратуры, асабліва калі такія выданні маюць профільны характар і ўносяць шмат новага з пункту гледжання як аналізу, так і сінтэзу. Зборнік „Даследаванні па гісторыі Усходняй Еўропы" несумненна належыць да такіх выданняў. Ён з'яўляецца пераканальным сведчаннем даследчай актыўнасці Познані і іншых польскіх навуковых цэнтраў гэтага профілю.

Познань *Марцэлі Косман*

## Między Odrą a Uralem. Księga dedykowana Profesorowi WŁADYSŁAWOWI ANDRZEJOWI SERCZYKOWI / Pod redakcją WACŁAWA WIERZBIEŃCA. Rzeszów: Wydawnictwo Uniwersytetu Rzeszowskiego, 2010. 599 s.

Прафесар Уладыслаў Анджэй Сэрчык — адна з найбольш выдатных постацяў сярод сучасных польскіх гісторыкаў. Паўднёва-ўсходнімі абшарамі першай Рэчы Паспалітай ён займаўся ад пачатку сваёй навуковай дзейнасці — пачынаючы з кандыдацкай („Магнацкая гаспадарка ў Падольскім ваяводстве ў другой палове XVIII ст.") і доктарскай (на тэму „каліеўшчыны") дысертацый. Перад шырокім колам чытачоў — прыхільнікаў гістарычнай трылогіі Генрыка Сянкевіча — У. А. Сэрчык паўстаў як аўтар выдатна напісаных кніжак пра казацкія паўстанні („На далёкай Украіне", „На палаючай Украіне"), а таксама як навуковы кансультант знакамітага фільма „Агнём і мячом" у пастаноўцы Ежы Хофмана. Трывалае месца ў гістарыяграфіі заняла яго „Гісторыя Украіны", выпушчаная ў вядомай серыі выдавецтва „Ossolineum", перавыданні якой былі пашыраны і дапоўнены. Увогуле У. А. Сэрчык апублікаваў 38 кніг, 130 навуковых артыкулаў і амаль 240 газетных, а таксама каля 100 рэцэнзій.

15 гадоў таму выйшаў з друку памятны зборнік, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння навукоўца, пад назвай „З гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы"[1]. У яго напісанні ўдзельнічалі 34 аўтары. У кнізе, з якой мы знаёмім сёння і якая ўвекавечвае 75-годдзе з дня нараджэння вучонага і 50-годдзе яго навуковай працы, змешчаны тэксты 44 даследчыкаў — пераважна з жэшаўскага асяроддзя, а ў папярэднім зборніку рэй вяло беластоцкае: У. А. Сэрчык быў тады рэктарам тамтэйшага ўніверсітэта. Тэрытарыяльна першае месца ў новай кнізе займае Украіна, за ёй ідзе Беларусь; храналагічна ж пераважаюць тэксты, што датычаць XVI–XX ст. і

[1] Z dziejów Europy środkowo-wschodniej. Białystok, 1995. 424 s.

апісваюць тагачасныя падзеі ў палітычным, культурным і эканамічным аспекце.

Пётр Урускі разглядае адгалоскі Уладзіміравага хрышчэння Русі ў старажытнарускіх крыніцах, тонкі знаўца царкоўных справаў Антон Мірановіч асвятляе пытанні, звязаныя з заснаваннем Тураўскай епархіі на Палессі. На шырокім сацыяльным фоне аналізуе паняцце уніі ў старапольскія часы знакаміты даследчык гісторыі дзяржавы і права Станіслаў Градзіскі. Наступныя аўтары пішуць пра каралеўскі прывілей для Трамбоўлі, пра няпростыя дылемы, што паўставалі перад Багданам Хмяльніцкім як дзяржаўным дзеячам, пра дыпламатычныя дасягненні Станіслава Бянеўскага. Пётр Борак, дасведчаны выдавец і каментатар літаратурных крыніц XVII ст., аддае сваю ўвагу паэзіі Яна Белабоцкага, а Тэрэза Хінчэўская-Хенэль — „Гісторыі грамадзянскіх войнаў у Польшчы" Альберта Віміна (1603–1667). Даследаванне, прысвечанае адлюстраванню казацкай і ўкраінскай тэматыкі ў польскім жывапісе — „Паміж эпапеяй, вяшчунствам і думкай", — адзінае ў томе суправаджаецца ілюстрацыямі, неад'емнай часткай артыкула.

У XVIII ст. нас уводзіць артыкул пра Замойскі сінод 1720 г. (на гэтым прыкладзе паказваецца працэс лацінізацыі ўніятаў), потым — крыніцазнаўчы нарыс пра польска-ўкраінска-армянскія ўзаемаадносіны на Падоллі (дакументацыя ў выглядзе табліц), а завяршае гэты раздзел невялікі артыкул пра сялянскую гаспадарку ў касцельных уладаннях Браслаўскага дэканата.

Шэсць тэкстаў датычаць XIX ст., асабліва прафесараў і студэнтаў польскіх ды ўкраінскіх універсітэтаў Расійскай імперыі. Але хацеў бы звярнуць увагу на эсэ Януша Тазбіра „Штодзённае жыццё ў сялянскіх хатах". Аўтар з характэрнай для сябе эрудыцыяй дае ацэнку такім розным паводле сваёй выразнасці крыніцам, прысвечаным ладу жыцця на вёсцы, узаемаадносінам паміж жыхарамі хат і памешчыкамі, якія ў сваіх мемуарах малявалі іх ледзьве не ідылічна. Падобную выснову я зрабіў, слухаючы выступленні былых шляхцічаў (праўда, не ўсе яны былі такія абмежаваныя) на навуковых канферэнцыях —

яны жылі ў сваіх дварах, не бачачы навакольнай бяды. І самі за гэта пад час Другой сусветнай вайны паплаціліся. У апошнім сказе аўтар прапануе, каб у шляхецкіх музеях поруч з экспазіцыямі палацавай аздобы „знайшлося месца хоць бы для адной сялянскай хаты”.

Палова тэкстаў датычаць ХХ ст. (апошнія нават першага дзесяцігоддзя нашага стагоддзя) — гістарычнай традыцыі (у прыватнасці, святкавання 500-годдзя Грунвальдскай бітвы ў Кракаве, у якім актыўна ўдзельнічаў памянёны продак юбіляра, ці расійскіх урачыстацяў з нагоды стагоддзя бітвы пад Барадзіном), Першай сусветнай вайны і часоў міжваеннай Польшчы. Тэкст пра дзяржаўную прыналежнасць Вільні ў 1918–1920 г. уяўляе сабой цікавы ўнёсак у асвятленне так званай справы генерала Жалігоўскага. Сінтэтычны характар мае нарыс пра незалежную Украіну (1989–2009), які дапаўняе артыкул пра яе Вярхоўную Раду. Завяршаюць кнігу нататкі пра сучасную эміграцыю.

Гэты каштоўны том утрымлівае сінтэтычныя ацэнкі выбраных фрагментаў перш за ўсё гісторыі Украіны і Беларусі, а таксама шматлікія пазнавальныя аналітычныя тэксты, якія з’яўляюцца каштоўным унёскам у даследаванні мінуўшчыны і сучаснасці гэтых краін.

Познань *Марцэлі Косман*

## ГВАНЬЇНІ, ОЛЕКСАНДР. Хроніка Європейської Сарматії / Упорядкув. та пер. з пол. о. ЮРІЯ МИЦИКА. Київ: Видавничий дім „Києво-Могилянська академія”, 2007. 1006 с.

Геапалітычныя працэсы канца ХХ ст., у выніку якіх на карце Еўропы з’явіліся новыя незалежныя дзяржавы, паставілі на парадак дня пытанне пра месца і

ролю гэтых дзяржаў у сучасным свеце. Таму, як і нашы продкі ў эпоху Адраджэння, сёння мы непазбежна звяртаемся да мінуўшчыны, каб знайсці там гістарычную легітымацыю сваёй краіны і паказаць яе правапераемнасць у адносінах да дзяржаўных утварэнняў мінулых эпох. Не сакрэт, што ў сучаснай украінскай гістарычнай навуцы надзвычай пашырана канцэпцыя Украіны як пераемніцы (цалкам або часткова) Кіеўскай Русі. Падобны падыход назіраецца і ў беларускай непадцэнзурнай гістарычнай навуцы, дзе Вялікае Княства Літоўскае (рознымі даследчыкамі ў рознай ступені) трактуецца як старабеларуская дзяржава. Зразумела, што стварэнне падобных канцэпцый сучаснымі гісторыкамі было б практычна немагчымае без звароту да спадчыны гісторыкаў даўнейшых эпох, што разумелі ўжо старажытныя рымляне, заклікаючы заўсёды звяртацца ad fontes (да крыніц). Не меншае значэнне, аднак, мае і папулярызацыя спадчыны, закліканая паспрыяць фармаванню г. зв. нацыянальнага міфа ў шырокіх масах.

Сёння і ва ўкраінскай, і ў беларускай навуцы працэсы развіцця нацыянальных гістарычных канцэпцый адбываюцца больш-менш паспяхова. Складаней выглядае справа з папулярызацыяй набыткаў мінуўшчыны — у першую чаргу ў галіне гістарыяграфіі, і асабліва ў Беларусі. Здавалася б, прыхільнікі ідэі Беларусі-Літвы ў першую чаргу мусілі б звярнуць увагу зусім не на шыракавядомую „Хроніку” Мацея Стрыйкоўскага, а на напісаную з пазіцый ліцвінскага патрыятызму папярэдніцу — хроніку „Пра пачатак… слаўнага народу літоўскага, жамойцкага і рускага”. Аднак за выключэннем 2–3 летапісаў і ўрыўкаў з іх не маем ніводнага перакладу на сучасную беларускую мову тых *аўтарскіх хронік*, якія шырока бытавалі ў былым ВКЛ (Марцін Бельскі, Мацей Стрыйкоўскі, Аляксандр Гваньіні) і значна ўплывалі на многія сферы тагачаснага жыцця[1].

[1] Напрыклад, хроніка А. Гваньіні пад час шматлікіх войнаў Рэчы Паспалітай з Масковіяй адыгрывала вялікую прапагандысцкую ролю ў Еўропе.

У гэтым сэнсе цяжка перааценіць значнасць з'яўлення ўкраінскага перакладу знакамітай „Хронікі Еўрапейскай Сарматыі” Аляксандра Гваньіні (1534, Верона — 1614, Кракаў), выкананага айцом Юрыем Мыцыкам.

Выданне мае традыцыйную структуру і складаецца з уступу ад перакладчыка, самога тэксту перакладу, каментароў і дапаможнага апарату (іменны і геаграфічны паказальнікі). Падставай для перакладу паслужыла польскамоўнае выданне (1611) як найбольш поўнае ў параўнанні з яго лацінамоўнымі папярэднікамі (1578, 1581), крыніцай — асобнікі Цэнтральнага Дзяржаўнага гістарычнага архіва Украіны і Нацыянальнай бібліятэкі Украіны, а таксама ксеракопія страчанага асобніка Інстытута літаратуры НАН Украіны. Кніга багата ілюстравана выявамі партрэтных і батальных гравюр з хронікі 1611 г., прычым укладальнік (паколькі ў арыгінальным друку адны і тыя ж партрэтныя гравюры часам „суправаджаюць” розных гістарычных асоб) ажыццявіў іх сістэматызацыю па прынцыпе першага з'яўлення, адзначаючы месцы паўтарэння адпаведнымі спасылкамі.

Зразумела, што ў межах рэцэнзіі немагчыма ахапіць усе аспекты перакладу, а таму акцэнтуем увагу на найбольш значных, на наш погляд, момантах.

Уступ ад перакладчыка з'яўляецца выдатным узорам публіцыстычнага артыкула на гістарычную тэматыку. Аўтар не столькі падае запазычаныя ў розных даследчыкаў розныя біяграфічныя звесткі пра А. Гваньіні, колькі малюе партрэт тагачаснай эпохі. Маючы несумненны талент апавядальніка, а. Ю. Мыцык, разам з тым, вытрымлівае высокі ўзровень навуковай культуры і не імкнецца да паспешлівых высноў, хоць не заўсёды іх пазбягае, як, напрыклад, у сваіх развагах пра ІІ кнігу хронікі: *„Сімпатыі Гваньіні адназначна на баку Літвы, за выключэннем тых момантаў, калі гаворка ідзе пра польска-літоўскі канфлікт”* (17). Паколькі першыя дзве кнігі хронікі („польская” і „літоўская”) не толькі выяўляюць прамую залежнасць ад хронікі М. Стрыйкоўскага (таксама як 7-я — ад твораў „Запіскі

пра Масковію" Ж. Герберштайна і „Пра норавы і лютае панаванне цара маскоўскага" А. Шліхтынга), але і пераймаюць яе стылістыку, складана гаварыць пра сімпатыі адназначна.

Несумненная заслуга шаноўнага даследчыка — аналіз пытання пра залежнасць хронікі А. Гваньіні ад іншых крыніц (найперш твора М. Стрыйкоўскага) і ступень яе самастойнасці. Зважаючы на тое, што сама хроніка М. Стрыйкоўскага ў многім мае кампілятыўны характар (падобны метад творчасці не з'яўляўся недапушчальным, паколькі паняцце аўтарскага права было адносным), прыведзеныя даследчыкам аргументы маглі б быць прызнаныя за слушныя: *„Ягоны твор адрозніваецца ад хронікі Стрыйкоўскага таксама й структурна, змяшчае арыгінальныя высновы самога Гваньіні. Яшчэ большай аказваецца розніца паміж абедзвюма хронікамі, калі зрабіць параўнанне з польскамоўным выданнем твора Гваньіні 1611 г., якое значна шырэйшае па аб'ёме і змяшчае апісанне многіх падзей, што адбываліся ўжо пасля смерці Стрыйкоўскага!"* (10). Падобнай аргументацыі пярэчыць адзін немалаважны факт, які згадваецца і ва ўступе: М. Стрыйкоўскі падаў пазоў супраць А. Гваньіні ў каралеўскі суд, і 14 ліпеня 1580 г. суд прызнаў рацыю М. Стрыйкоўскага. Аднак жа абвінавачанне заключалася не ў плагіяце, а ў прыўлашчванні рукапісу хронікі[2], што — істотна. Па ўсёй верагоднасці, гэта і паслужыла прычынай, па якой А. Гваньіні спешна дапоўніў сваю лацінамоўную хроніку і перавыдаў яе ў 1581 г. у Шпееры, а не ў Кракаве, як у 1578 г. І толькі ў 1611 г., калі М. Стрыйкоўскі, відаць, адышоў у лепшы свет, з'явілася самае поўнае, але ўжо польскамоўнае выданне. І, думаецца, невыпадкова рукапіс М. Стрыйкоўскага не адшуканы да сёння.

Ва ўступе адчуваецца моцнае жаданне аўтара прыдаць перакладзенаму ім твору ўкраінацэнтрычнасць, што апраўдана наяўнасцю ў „Хроніцы" значнага матэ-

[2] Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу. Мінск: Кнігазбор, 2010. С. 163.

рыялу, датычнага ўласна гісторыі Украіны. Час ад часу, аднак, дазваляе ён сабе і забароненыя ў гістарычнай навуцы прыёмы. Нельга не падаць адзін з прыкладаў падобнага падыходу. Так, на с. 8 са здзіўленнем чытаем: *„Як сапраўдны панегірыст Гваньіні апявае заслугі не толькі Льва Сапегі, але ўсяго роду Сапегаў, які, дарэчы, быў украінскім, але затым спаланізаваўся й акаталічыўся ў канцы XVI — на пачатку XVII ст., і сам Леў Сапега перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва”* [падкрэсленне наша]. Характэрна, што ў канцы гэтага сказа не падаецца спасылка на крыніцу, якая пацвярджала б слушнасць такой думкі. (Хоць уступ поўніцца спасылкамі больш як на 70 крыніц, між іх марна шукаць прозвішчы А. Банецкага, Ю. Вольфа і У. Сямковіча, якія ў сваіх даследаваннях пераканаўча даказалі, што род Сапегаў пачаўся ад велікакняскага пісара ў 1440-я г. Сямёна Сапігі, які паходзіў з полацкіх баяраў.) Рызыкну выказаць меркаванне, што падобнай крыніцы папросту не існуе. Магчыма, справа як быццам бы ва ўкраінскай форме прозвішча Сапіга? Не было і пераходу Льва Сапегі адразу з праваслаўя ў каталіцтва, бо пад час навучання ў 1570–73 г. у Ляйпцыгскім універсітэце ён перайшоў з праваслаўя ў кальвінства, і толькі ў 1586 г. у каталіцтва, што адкрыла яму магчымасць заняць у 1589 г. пасаду канцлера Вялікага Княства Літоўскага.

Выклікае пэўнае пярэчанне і яшчэ адно безапеляцыйнае сцверджанне паважанага а. Ю. Мыцыка: *„Невыпадкова львіная частка аб’ёму хронікі прыпадае на гісторыка-геаграфічнае апісанне ўласна Польшчы (кн. І), Літвы (кн. ІІ), Русі-Украіны, часткова і Беларусі (кн. ІІІ)...”* (14). Па-першае, незразумела, чаму можна ўжыць назву Русь-Україна (у А. Гваньіні — Русь), а Літва-Беларусь (у А. Гваньіні — Літва) — не. У нашы дні наўрад ці хтосьці з сур’ёзных гісторыкаў будзе аспрэчваць, што паняцці даўнейшых Русі і Літвы, з аднаго боку, і сённяшніх Украіны і Літвы[3], з другога, не

[3] У А. Гваньіні Літва і Жамойць фігуруюць асобна. Да Жамойці нават аднесены такія рэкі, як, Прыпяць, Свіслач,

супадаюць. Па-другое, падобнай заяве пярэчыць і змест самой хронікі: так, у яе II кнізе („Хроніка Вялікага Княства Літоўскага") акрамя ўласна літоўскіх (у сучасным разуменні) земляў вялікая ўвага аддадзена і беларускім. У апісанні ваяводстваў ВКЛ асобна вылучаны звесткі пра наступныя павятовыя гарады (388–390): Вільня, Ашмяна, Вількамір, Брацлаў, Казня / Іказнь, Дрысвят (Віленскае ваяводства); Старыя Трокі, Гродна, Коўна[4], Ліда, Упіта (Ковенскае ваяводства); Менск, Кейданаў, Радашкавічы, Барысаў, Лагойск, Свіслач, Бабруйск, Адруцк (Менскае ваяводства); Наваградак, Слонім, Ваўкавыйск, Мсцібаў (Наваградскае ваяводства); Берасце, Пінск, Прыпяць (Берасцейскае ваяводства). Аднак Віцебскае, Полацкае і Мсціслаўскае ваяводствы (разам з Холмскай, Бэлзскай, Перамышльскай, Львоўскай і Галіцкай землямі, а таксама Валынню, Падоллем і Кіеўшчынай, с. 412–422) аднесены А. Гваньіні да кнігі III „Хроніка Рускай зямлі". Узнікае пытанне: ці на думку перакладчыка тры вышэйназваныя беларускія ваяводствы — гэта таксама Русь-Украіна?

Як правільна адзначае а. Ю. Мыцык, „Хроніка" А. Гваньіні — неацэнны скарб для сучасных даследчыкаў. Асабліва сказанае датычыць 4-й („Хроніка Прускай зямлі") і 7-й („Хроніка Вялікага Княства Маскоўскага") кніг твора, першая з якіх з'яўляецца адной з вартых увагі крыніц па гісторыі Прусіі і Тэўтонскага ордэна, а другая мае неацэнную каштоўнасць праз свае апісанні нораваў, што панавалі ў Масковіі ў часы Івана IV Жахлівага (Грознага — у расійскай традыцыі). Зробленыя даследчыкам адносна 7-й кнігі высновы актуальныя не толькі для ўкраінскай, але і для беларускай гістарыяграфіі, таму дазволім сабе пашыраную цытацыю:

*„Хаця ў расійскай гістарыяграфіі ёсць прыхільнікі даволі крытычнага погляду на дзейнасць Івана IV, яны заўсёды былі ў меншасці. <…> Расійская гістарыяграфія, як дарэвалюцыйная, так і савецкая й сучасная, моцна*

Вілія, Нараў і Буг! (с. 523).

[4] Ковенскі павет у перакладзе памылкова названы Ровенскім.

*прасякнута вялікадзяржаўнай, а ў скрайніх формах нават джынгаісцкай ідэалогіяй, таму на першы план, як і ў ацэнцы дзейнасці Пятра I ці Сталіна, высоўваліся моманты, звязаныя з заваяваннем чужых земляў, прычым палітыка Масквы або Пецярбурга апалагетызавалася, і, наадварот, адкрыта замоўчваліся або абвяшчаліся „клеветой" галаслівыя факты знішчэння людзей, не толькі ў замежжы, а й сваіх; знішчэння помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Гваньіні, як і іншыя тагачасныя мемуарысты і храністы (Шліхтынг, Штадэн, Таўбэ, Крузэ і інш.), пралівае святло на гэтую старонку гісторыі Маскоўскай дзяржавы, руйнуе міф пра яе нібыта культуртрэгерства, асабліва ў дачыненні да ўкраінскага і беларускага народаў"* (27).

Даследчыкам беларускай даўніны асаблівую ўвагу варта звярнуць на раздзел „Спосаб арання і сяўбы ў тых ваяводствах Белай Русі, што мяжуюць з Вялікім Княствам Літоўскім і Масквой" (423–425), са зместу якога вынікае, што пад Белай Руссю ў дадзеным выпадку разумеюцца пскоўскія і паўночна-заходнія смаленскія землі. Патрабуюць атрыбуцыі і такія вершаваныя ўстаўкі, як апісанне разні палякаў у Маскве (671) або ўзяцця Смаленска 13 чэрвеня 1611 г. каралём Жыгімонтам III (673–676). Аўтарам першага верша, падпісанага крыптанімам S. R., на думку а. Ю. Мыцыка, быў паэт Паўло Пальчоўскі (25). Разам з тым добра вядома, што гэтым крыптанімам карыстаўся і Саламон Рысінскі. Аўтарам другога верша А. Гваньіні называе самога сябе: „А было тое так, як мы тут сцісла апісалі ў гэтых вершах" (673), што выклікае сумненні ў першую чаргу праз стылістыку твора — хутчэй за ўсё, А. Гваньіні папросту скарыстаў адзін з г. зв. баявых лісткоў („навін"), якія часта выдаваліся ў тую пару, асабліва пасля паспяховых бітваў:

*Kto chce wzięcia istotnego / Хто хоча ведаць праўду*

*Dosiądz zamku smoleńskiego, / Пра ўзяцце смаленскага замка,*

*Przeczytay tę kartę małą, / Прачытай гэты маленькі лісток:*

*Masz figurę okazałą / Мецьмеш, чаго жадаеш.*

Сумнеўна таксама, што А. Гваньіні валодаў польскай мовай у такой ступені, каб пісаць на ёй вершы[5]. Дарэчы, поўны варыянт гэтага верша хронікі, які знаходзіўся ў складзе рукапісу другой паловы XVII ст., апублікаваны сярод іншых польскамоўных твораў батальнай тэматыкі ў „Pamiętniku Literackim" (т. XII, № 2, 1913, с. 206–210). Тэкст верша ў хроніцы і ў часопіснай публікацыі супадаюць цалкам, аж да наяўнасці невялічкага празаічнага пасляслоўя (што праўда, у часопіснай публікацыі дзень захопу Смаленска аднесены да 18, а не да 13 жніўня). Словам, пытанне пра аўтарства патрабуе далейшага разгляду і навуковых росшукаў.

Пры ўсіх дадатных якасцях падрыхтаванага а. Ю. Мыцыкам выдання неабходна, аднак, канстатаваць і наяўнасць відавочных пралікаў. У першую чаргу сказанае датычыць дапаможнага апарату (каментары, паказальнікі імёнаў і назваў населеных пунктаў). Перадаючы ў перакладзе арыгінальную пагінацыю тэксту (па выданні 1611 г.), шаноўны навуковец, на немалое здзіўленне, паводле той самай пагінацыі ажыццяўляе і каментаванне, хаця логіка патрабуе каментара ў адпаведнасці з пагінацыяй *украінамоўнага перакладу*. Абраны падыход стварае для чытача пэўныя нязручнасці, ператвараючы пошук неабходнага каментара ў бясконцае перагортванне старонак і задаванне самому сабе пытання „Навошта?" Дзеля нагляднасці падамо адзін з прыкладаў.

Скажам, нас зацікавіла фраза *„біля гори Кармель племінник Іродів був покараний ангелом"* (с. 805 перакладу і, адпаведна, с. 62 Кнігі IX–X арыгінала). Паколькі ў самім тэксце перакладу нішто не ўказвае на прысутнасць каментара да гэтай пазіцыі, цікаўнаму чытачу застаюцца адно спадзяванні на яго наяўнасць. Адшукаўшы дзякуючы „Змісту" раздзел „Коментарі" (831) і знайшоўшы

[5] Перакладчыкам хронікі на польскую мову быў Марцін Пашкоўскі, які мог зрабіць падобныя ўстаўкі па ўласнай ініцыятыве або па ўзгадненні з А. Гваньіні.

пачатак каментара непасрэдна да кнігі IX–X (924), толькі на с. 943 пад запісам „с. 62” чытач зможа, нарэшце, задаволіць сваю цікаўнасць. Відавочна, што перакладчык зэканоміў бы шмат часу і сабе, і іншым, калі б зрабіў каментар паводле агульнапрынятых прынцыпаў, падаючы канцавыя зноскі з іх нумарацыяй паводле кніг „Хронікі” (Кніга I. [1], [2], [3] і г. д.).

Ёсць і пэўныя недагляды, абдрукі. Калі верыць каментатару (942), адзін з рымскіх военачальнікаў, „пераможца” легендарнага Спартака — Марк Ліцыній Крас — пражыў 38 гадоў замест 62 (указаны 115–153 г. да н. э. [так!], замест 115–53 да н. э.). Вядома, гэта чыста тэхнічны абдрук, тым больш што шаноўны а. Ю. Мыцык ніжэй паведамляе пра заваёву Красам у 54 г. да н. э. часткі Месапатаміі. Аднак жа следам (946) на 16 гадоў „скарачае” жыццё выдатнага рымскага палкаводца Гнея Пампея (указаны 106–148 г. да н. э. [так!], замест 106–48 да н. э.).

Не заўсёды апраўданае і перанясенне ва ўкраінскі тэкст польскіх варыянтаў геаграфічных назваў: да прыкладу, *Галація* (924) — транслітарацыя старапольскага *Galacya* (ад лац. *Galatia*) — ва ўкраінскай мове больш лагічна было б перадаць з канчаткам асновы на *-т*: *Гала**т**ія* (бел. *Гала**т**ыя*). Слушнасць падобнага меркавання пацвярджаецца і Святым Пісаннем, а дакладней, „Пасланнем да Галатаў св. Апостала Паўла” (укр. *Гала**т**ів*; польск. *Gala**t**ów* пры *Gala**c**ja*). У адваротным выпадку незразумела, чаму назва грэцкай правінцыі Беотыі перадаецца як *Беотія* (865), а не *Беоція* (ст.-польск. *Beocya*, лац. *Boiotia*).

Зрэдку сустракаюцца і іншыя недакладнасці ў геаграфічных назвах. Так, гаворачы пра Хэлмінскую зямлю (871) і падаўшы нямецкі адпаведнік назвы яе сталічнага горада (Кульм), каментатар зблытаў Холм (Chełm, Люблінскае ваяводства) з уласна Хэлмнам (Chełmno, у Куяўска-Паморскім ваяводстве; даўнейшы Кульм).

Непаслядоўны ўкладальнік і ў перадачы асабовых імёнаў. Найбольш не пашанцавала ў гэтым плане вя-

лікім князям літоўскім. Так, Міндоўг названы не толькі гістарычна задакументаванымі і наяўнымі ў творы А. Гваньіні формамі імя — *Мендовг (Миндовг)* (870) і *Мендольф, Мендольфус* (969), але і негістарычнай формай *Міндаугас* (969). Сказанае датычыць і імені *Кейстут (Кестутис)* (964). Можна было б успрыняць гэта як знак павагі да літоўскіх калег, калі б укладальнік датрымаў падобны падыход адносна іншых вялікіх князёў літоўскіх і побач з *Альгерд, Вітень, Вітовт, Войшелк, Гедимін* і г. д. падаў *Альгірдас, Вітянис, Вітаутас, Вайшалкас, Гедимінас*…

Зразумела, што вышэйназваныя недахопы можна патлумачыць прычынамі як аб'ектыўнага, так і суб'ектыўнага характару, яны могуць быць лёгка выпраўлены. Не падлягае сумненню і тое, што ў творы гістарыяграфічнага плана (а ў яго перакладзе — пагатоў) падобныя хібы непажаданыя, хоць і непазбежныя. Зробленыя заўвагі, вядома ж, не могуць паўплываць на высокую ацэнку ажыццёўленай украінскім даследчыкам працы, якую, на добры лад, павінен быў бы выконваць цэлы даследчы інстытут. Шаноўны а. Юры Мыцык як перакладчык зрабіў галоўнае — увёў у навуковы зварот і культурны дыскурс сваёй краіны выдатны твор сярэднявечнай гістарыяграфіі, што, несумненна, паслужыць добрым прыкладам для іншых даследчыкаў у іх цяжкай, але так неабходнай грамадству працы.

Хочацца верыць, што гэты дыхтоўны, перакладзены бездакорнай украінскай мовай і багата ілюстраваны том будзе прыхільна сустрэты ўкраінскай грамадскасцю і што ён — толькі адна з цаглінак у аднаўленні велічнага храма мінуўшчыны.

Мінск *Алесь Бразгуноў*

## CITKO, LILIA. „Kronika Bychowca" na tle historii i geografii języka białoruskiego. Białystok: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2006. 509 s.

Хроніка Быхаўца належыць да т. зв. беларуска-літоўскіх летапісаў, што ўзніклі ў XV–XVI ст., і лічыцца іх найбольш позні і цікавым помнікам, адметным сваёй сакавітай мовай і шэрагам унікальных гістарычных звестак. Уведзены ў навуку ў 1-й палове XIX ст., сёння рукапіс хронікі беззваротна страчаны (яго сляды губляюцца ўжо ў 1850-я г.) і вядомы толькі паводле адзінай публікацыі, здзейсненай правінцыйным гісторыкам-рамантыкам Т. Нарбутам у 1846 г. Нарбут быў вядомы як стваральнік фальсіфікатаў па гісторыі даўняй Літвы, таму і апублікаваная ім Хроніка спачатку выклікала падазрэнні ў сваёй сапраўднасці, але пазней яны былі абвергнутыя. Сам рукапіс уяўляе сабой транслітарацыю XVII ці XVIII ст. польскім пісьмом больш ранняга кірылічнага арыгінала (магчыма, 2-й паловы XVI ці пачатку XVII ст.)[1], слядоў якога ў іншых крыніцах не адшукана (за выключэннем Хронікі М. Стрыйкоўскага, які, мяркуецца, карыстаўся спісам, блізкім да Хронікі Быхаўца, і шырока цытаваў яго).

Як ні дзіўна, такі важны летапісны помнік дагэтуль амаль не прыцягваў увагі лінгвістаў. У беларускім мовазнаўстве яму прысвечаны фактычна толькі адзін артыкул А. Жураўскага, які рознабакова, хоць і сцісла, акрэслівае моўныя асаблівасці летапісу[2]. Беларускіх даследчыкаў, напэўна, стрымлівала як адсутнасць арыгінала помніка, так і адметная ўкраінская афарбоўка арфаграфіі перапісчыка. Паказальна, што і цяпер беларускія мовазнаўцы абыходзяць маўчаннем на-

[1] Магчыма сам летапіс узнік у 1542–43 г., гл.: Морозова Н. К вопросу о времени создания Хроники Быховца // Slavistica Vilnensis. 2000. С. 137–141 (Kalbotyra, 49/2).

[2] Жураўскі А. І. Хроніка Быхаўца // Беларуская мова: Энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 596–598.

яўнасць украінскай арфаграфіі ў гэтым спісе[3]. Магчыма, у сувязі з гэтым Жураўскі заўважыў, што „мова помніка як асобная праблема спецыяльна ніколі не вывучалася”[4].

Недахоп у лінгвістычным вывучэнні Хронікі Быхаўца нарэшце ліквідавала капітальная мовазнаўчая манаграфія беларускай даследчыцы з Беласточчыны Ліліі Цітко. Яе праца ўяўляе сабой дэталёвы аналіз мовы выдатнага помніка разам з індэксам усіх яго словаформаў (266–321), а таксама публікацыяй тэксту (353–509) паралельна як ва ўжо вядомай лацінкавай версіі, так і ў кірылічнай рэканструкцыі, здзейсненай на падставе гэтай версіі самой даследчыцай. У сваёй рэканструкцыі яна адмовілася ад выкарыстання літар ѣ і ъ, што не перадаваліся польскім пісьмом, а літару *ь* ужывала толькі для пазначэння мяккасці (349–352).

Ва ўводным раздзеле (9–39) аўтарка абмяркоўвае структуру і канцэпцыю працы, падае кароткія агляды гісторыі ВКЛ і Случчыны, дзе, як мяркуецца, узнік помнік, нарыс моўнай сітуацыі ў краіне і развіцця кірылічнага пісьменства і старабеларускай літаратуры, а таксама беларуска-літоўскага летапісання. Яна акрэслівае (34–39) і папярэдні стан вывучэння помніка.

У наступным раздзеле (40–49) аналізуецца арфаграфія помніка з улікам даўніх прыёмаў перадачы кірылічнай графікі польскім пісьмом і яго магчымых уплываў пры транслітарацыі. Дарэчы, лацінкавае пісьмо помніка ў некаторых выпадках лепш адлюстроўвае рысы жывой мовы параўнальна з кірылічнай арфаграфіяй. Сярод іншых графічных з’яў разглядаюцца выкарыстанне вялікай літары, напісанні разам і асобна, а таксама памылкі пісьма.

[3] Так, у двух беларускіх водгуках на рэцэнзаваную манаграфію Л. Цітко ўвага на ўкраінізмы помніка ўвогуле не звернута (гл. рэцэнзіі Н. Паляшчук // Беларуская лінгвістыка. 2010. Вып. 65. С. 145–150 і М. Свістуновай // Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія; Журналістыка; Педагогіка. 2010. № 2. С. 91–92), а асаблівасці яго мовы акрэслены як рэгіяналізмы (Паляшчук, с. 148).

[4] Жураўскі А. І. Op. cit. С. 598.

У трэцім раздзеле даследуюцца фанетычныя і фаналагічныя рысы хронікі (50–81). У іх прысутнічаюць як іншамоўныя элементы (царкоўнаславянскія, польскія), так і ўсходнеславянскія дыялектныя рысы (пераход [ʼe] > [o], зацвярдзенне шыпячых, [r] і [cʼ], вымаўленне [ɣ], блытаніна літар *w* і *ł* (*zabyw* — *zabył*), *u* і *w* (*y wbaczył*), спецыфічнае старабеларускае еканне (*kniażety*, *pamietay*, *petsot*, *baczeczy*), прадстаўленае, аднак, у помніку не вельмі шырока, кантракцыя (*hodny*, *druhi*), пратэзы [v-], [h-], [j-], сляды гемінацыі і інш.). Сярод іх звяртае на сябе ўвагу пераход прасл. *ě як у [e], так і ў [i]: гук на месцы *ě перадаецца літарамі *e*, *ie*, *i*. Напрыклад, для слоў *wera*, *werity* суадносіны такіх напісанняў складаюць 5 / 1 / 8 (і 2 разы *błahowirny*, 1 раз *bławerny*). Хутчэй за ўсё, у арыгінале, які транслітараваў лацінкай перапісчык, на месцы *ě выступалі літары *е* ці ѣ, а ў яго маўленні — гук [i]. Відаць там, дзе перапісчык бачыў *е*, ён пакідаў гэтую літару, а ѣ замяняў на *i*. Дыскусійным застаецца ў такім выпадку значэнне літар *ie* пасля зычных — такое спалучэнне можа перадаваць [ʼe] ці нават нейкі дыфтонг кшталту [ie]. Іншая выразная з'ява помніка — зацвярдзенне зубных [t], [d], [p], [b], санантаў [l], [m], [n], [w]: *dowodyt*, *dety* ʻдзеціʼ, *byty* ʻбыцьʼ, *mety / mity* ʻмецьʼ, *pryity* ʻпрыйсціʼ, *otpustył* і інш. Напрыклад, інфінітыў ужываецца ў помніку амаль толькі з фіналлю *-ty* — 124 выпадкі супраць 3 выпадкаў фіналі *-ti* (s. 187), хаця і фіналь *-t*ʼ / *-t* адзначана 23 разы (188). Праўда, зацвярдзенне зубных [p], [b] і санантаў прадстаўлена ў многіх іншых пазіцыях (напрыклад, перад [e]) не вельмі надзейнымі напісаннямі: *napered*, *teper*, *Pap(i)eża*, *peśni*; *bitw(i)e*, *Wołodymi(e)r* і інш., якія могуць быць толькі фактамі арфаграфіі [неахайнасць перапісчыка, які прапускаў літару *i* перад галоснай (у спалучэнні *ie*), у т. л. у сярэдзіне слова: *posyłaet* (пры *posyłaiet*), *upadywaet* і інш., што даследчыца лічыць прыкладам кантракцыі (65), але гэта прасцей тлумачыць толькі як асаблівасць транслітарацыі]. Дарэчы, А. Жураўскі разглядаў выкарыстанне ў помніку польскай літары *y* замест кірылічнай літары *u* толькі як арфаграфічную асаблівасць хронікі

(напрыклад, злучнік *і* амаль заўжды перадаецца літарай *у*)[5] і не звязваў гэта з украінскім уплывам. Тым не менш, наяўнасць такой вельмі выразнай з'явы як *ě > і некаторых марфалагічных асаблівасцяў дазваляюць бачыць у помніку ўсё ж зацвярдзенне зычных перад пярэднімі галоснымі, што ўласціва ўкраінскім гаворкам. Магчыма, перапісчык быў украінцам ці ўраджэнцам паўднёва-заходняй Брэстчыны, аднак гэта яшчэ не сведчыць пра ўкраінскае паходжанне аўтара твора. У той жа час у помніку прыкладаў акання адзначана няшмат (57), а выпадкаў дзекання ўсяго два (*Dziawiłtowskim*, *widziaczy*, 71), мала таксама і прыкладаў асіміляцыйнага аглушэння (*dwanatcatoie*, *a-wet* 'а ведзь' і інш., 78). Таму трэба дапускаць, што якраз яны разам з рэфлексам прасл. *ě > *е* былі ўласцівыя мове арыгінала, з якім працаваў перапісчык. Між тым, даследчыца падобнай высновы не робіць, цалкам адносячы мову помніка да беларускага паўднёва-заходняга дыялекту і звязваючы яе з заходнепалескімі гаворкамі (81, 200, 262–263)[6], хоць аўтар не мог быць адначасова носьбітам і тых і другіх гаворак.

Чацвёрты раздзел працы прысвечаны аналізу марфалогіі помніка (82–200), у якой пры панаванні ўсходнеславянскай стыхіі адзначаецца адметны царкоўнаславянскі ўплыў і слабы польскі. Даследчыца пільна апрацавала матэрыял па змяняльных часцінах мовы, падаўшы вынікі свайго аналізу ў выглядзе табліц з усімі прыкладамі і дэталёвымі (гістарычнымі і дыялектнымі) каментарамі да іх. У табліцах формы, узятыя з помніка, супастаўлены са старажытнаславянскімі формамі, што робіць асабліва нагляднай эвалюцыю марфалагічнай сістэмы. Яе асаблівасцю з'яўляецца: а) захаванне клічнага склону; б) трывалае выкарыстанне канчаткаў *-омъ*/*-емъ* у давальным склоне множнага ліку (*городомъ*, *князем*ъ) і канчаткаў *-охъ*/*-ехъ* у месным склоне множнага

[5] Жураўскі А. І. Op. cit. С. 597. Але ў польскім пісьменстве XVI–XVII ст. злучнік *і* часта перадаваўся праз *у*.

[6] Такія высновы падтрымліваюць і іншыя беларускія даследчыкі (напрыклад, Свістунова, с. 92).

ліку (*на местцохъ*, *въ конехъ*) для назоўнікаў асноў на *ŏ-* і *jŏ-*; в) спецыфічнае праяўленне катэгорыі адушаўлёнасці / неадушаўлёнасці (параўн. 119–120, 256), складванне якой яшчэ не завершана: у множным ліку вінавальны склон = назоўнаму склону (*городы*, *пенязи*, *жены*, *дети* і інш.), а вінавальны склон = роднаму склону толькі для асоб мужчынскага роду: *пановъ*, *князей*, *людей*, *воеводъ*, хоць *мужы* 3 разы — *мужей* 1 раз; г) канчаткі *-ое*/*-ее* ў родным склоне жаночага роду адзіночнага ліку для ад'ектыўных часцін мовы (*тое*, *которое*, *своее*, *великое*, *пятое*, хоць часам тут выступаюць і канчаткі *-ой*/*-ей*: *do swoiej*, *bozskoy* 'боскай'); е) канчатак *-мъ* у 2-й асобе множнага ліку прэтэрыта (*ведаемъ*, *бачымъ*, *возвратымъ ся*), але ў імператыве з ім канкуруе канчатак *-мо* (*poiedmo*, *zmowmo*); 1-я асоба множнага ліку ўмоўнага ладу ўтвараецца толькі з дапамогай часціцы *быхмо*; ё) частковае захаванне формаў аорыста і сляды імперфекта ды перфекта (169–179), што абумоўлена традыцыйнай мовай летапісу; ж) прыслоўі *адкуль*, *покуль* — па 1 разе (пры звычайным *одтол (-е, -я, -і)*, *одколе*). Некаторыя з гэтых асаблівасцяў (г, е, ж) характарызуюць марфалагічную сістэму помніка, куды перапісчык мог умешвацца мінімальна, як беларускую, а не ўкраінскую. Верагодна, уплывам украінскага маўлення перапісчыка абумоўлена з'яўленне ў давальным-месным склонах зваротнага і асабовага займеннікаў формаў *собі* / *себі* і *тобі* — 16 і 4 разоў (пры *собе* / *себе* і *тобе* / *тебе* — 13 і 10 разоў), а таксама пашырэнне ў назоўным склоне множнага ліку прыметнікаў канчатка *-іі*/*-ыі* (*kniazi ruskij*, *wiernyi raby*) пры наяўнасці тут канчатка *-ие*/*-ые* (*kniazi ruskiie*, *panowie litowskije*). Але канчатак *-іі*/*-ыі* можа быць толькі архаізмам, архаічнасць жа вельмі ўласцівая мове летапісаў.

Тэмы двух наступных раздзелаў манаграфіі Л. Цітко вельмі рэдка з'яўляюцца ў працах беларускіх мовазнаўцаў пры апісанні мовы канкрэтнага тэксту — гэта аналіз словаўтваральнай сістэмы помніка і яго анамастыкі, вельмі багатай у летапісным творы. У пятым раздзеле даследчыца дэталёва аналізуе словаўтваральныя тыпы

і фарманты (201–233). Матэрыял згрупаваны ёю паводле часцін мовы, катэгарыяльных значэнняў фармантаў і, нарэшце, паводле асобных фармантаў. У сваім аналізе лінгвістка нямала ўвагі аддае пытанню матываванасці-нематываванасці фармантаў, актыўнасці-неактыўнасці асобных спосабаў словаўтварэння і падзельнасці-непадзельнасці марфем. У шостым раздзеле аналізуецца ўсходнеславянская і літоўская антрапанімія і тапанімія помніка (234–253).

У заканчэнні (254–265) аўтарка падсумоўвае вынікі свайго даследавання ў галіне фанетыкі, марфалогіі, словаўтварэння і анамастыкі; асобны параграф складае вылучэнне рэгіяналізмаў у мове і вызначэнне польскіх уплываў (не вельмі моцных). Сярод рэгіяналізмаў хронікі можна адзначыць паслядоўнасць формы *-ма* ў творным склоне лічэбнікаў (*двома*, *шестма*, *дванацатма*, *двадцатма*, *тысячма*). Магчыма, гэтая і іншыя асаблівасці, адзначаныя вышэй, дазволяць у будучым больш дакладна лакалізаваць паходжанне аўтара хронікі.

Праца беларускай лінгвісткі з Польшчы дае вычарпальны аналіз мовы цікавага і малаласледаванага да нядаўняга часу помніка. Вучонай можна хіба што параіць выкарыстоўваць дапаможнікі не толькі па беларускай дыялекталогі, але і па ўкраінскай таксама, асабліва калі яна ставіць сабе задачу вызначыць мясціны ўзнікнення хронікі. У „руськай" мове ВКЛ мяшаліся беларускія і ўкраінскія рысы, а ў арфаграфіі помніка, у дадатак, прысутнічае яскравы ўкраінскі ўплыў. Аднак такі ўплыў — яўна другасны, як было паказана ў дадзенай рэцэнзіі. Праца Л. Цітко выканана на самым высокім узроўні, у найлепшых традыцыях польскай школы гістарычнага мовазнаўства і, трэба спадзявацца, увойдзе ў набытак беларускай лінгвістыкі. Даследаванне будзе вельмі карыснае для беларускіх вучоных, а складзены Л. Цітко словапаказчык і зробленая ёю рэканструкцыя тэксту летапісу дапамогуць у далейшым вывучэнні беларуска-літоўскага летапісання.

Мінск *Ігар Клімаў*

SEREDYKA, JAN. Kunigaikštytė ir plikbajoris: Zofija Radvilaitė-Dorohostaiska ir Stanisławas Tymińskis / [iš lenkų kalbos vertė VYTAUTAS DEKSNYS]. Vilnius: Vilniaus pedagoginio universiteto leidykla, 2010. 199 [1] p.

Ян Серадыка (1928–2008), знакаміты даследчык гісторыі XVII ст., сузаснавальнік апольскага гістарычнага асяродку, рэктар Вышэйшай педагагічнай школы і гарачы энтузіяст ператварэння яе ва ўніверсітэт, нарадзіўся ў Мазовіі, адносна непадалёк ад межаў даўнейшага Вялікага Княства Літоўскага, на землі якога кінула сямнаццацігадовага падлетка ваенная віхура ўвосень 1945 г. Больш як пяць гадоў ён правёў у Пінску на Палессі, там зведаў цяжар непасільнай працы, там страціў брата, пра магілу якога клапаціўся да канца жыцця, дбаючы пра ўстаноўку на ёй надмагільнага помніка. Праз шмат гадоў ён здзейсніў сваю мару — наведаць краіну маладосці. У маім архіве зберагаецца касета з фільмам, знятым на відэакамеру пад час сплаву па Піне і Ясельдзе. Шмат гадоў мы размаўлялі з ім пра Пінск — ягоны (і Рышарда Капусцiньскага) з часоў акупацыі, а таксама мой, з якім я меў магчымасць пазнаёміцца незадоўга да 1980 г. ды параўнаць яго вобраз са старымі крыніцамі, паўсталымі ў першыя дзесяцігоддзі савецкай улады, — перш чым спадар Ян падзяліўся са мной сваімі ўражаннямі ад згаданых адведзін на схіле жыцця.

На Беларусі яго сустрэла таксама ўсеагульнае прызнанне калег-даследчыкаў у сувязі з урачыстасцямі з нагоды чатырохсотгоддзя выхаду твора „*Hippica,* ці Кніга пра коней”, напісанага маршалкам ВКЛ Крыштафам Манвідам Дарагастайскім (1562–1615). Першае польскамоўнае выданне гэтай кнігі выйшла ў Кракаве ў 1603 г., чарговыя выданні датаваліся 1620, 1647, 1700, прыкладна 1730 і 1861 гадамі. Да юбілею было выдадзена старанна падрыхтаванае і прыгожа аздобленае перавыданне ў перакладзе на беларускую мову (з уключэннем рэпрадукцыі некалькіх старонак

арыгінальнага выдання), у прадмове да якога Серадыка быў ушанаваны як знаўца пытання і аўтар кнігі, у якой памянёны гістарычны персанаж быў адным з трох галоўных герояў.

Згаданая кніга апольскага гісторыка была першай грунтоўнай манаграфіяй, прысвечанай Дарагастайскаму. Крыху пазней фрагменту яго біяграфіі прысвяціў сваю ўвагу дасведчаны спецыяліст у галіне старапольскай культуры Алойзій Сайкоўскі[1]. Але найвыдатнейшым знаўцам гэтай тэматыкі сярод даследчыкаў гісторыі Рэчы Паспалітай XVII ст. застаецца Ян Серадыка. Дзякуючы гэтаму даробку ённазаўсёды ўвайшоў не толькі ў польскую, але і ў беларускую, а таксама літоўскую гістарыяграфію. З ім кансультаваліся рэдактары мінскага перавыдання „Гіпікі”, ён сам быў надзвычай зацікаўлены працай, за якую яны ўзяліся, і быў запрошаны на ўрачыстасці, арганізаваныя ў родных мясцінах маршалка з нагоды своеасаблівай беатыфікацыі залічанага да выдатных сыноў беларускай зямлі „вялікага патрыёта” (азначэнне з прадмовы да памянёнага юбілейнага перавыдання).

Ян Серадыка вядомы перш за ўсё як даследчык старапольскага парламентарызму і панавання Жыгімонта III Вазы. Кніга ж, якая так зацікавіла беларусаў і літоўцаў, займае ў яго багатым даробку асаблівае месца. Ён сам адзначаў у прадмове да яе першага, арыгінальнага выдання: „Мае ранейшыя навуковыя інтарэсы ахаплівалі пераважна гісторыю Рэчы Паспалітай канца XVI — першай паловы XVII ст., з асаблівым акцэнтам на развіццё польскага парламентарызму. Бытавыя моманты я закранаў толькі павярхоўна. У маіх планах не было спецыяльных даследаванняў на гэтую тэму. Таму гэтая кніга з’явілася ў немалой ступені выпадкова. Яе задума ўзнікла ў той момант, калі, пераглядаючы ў варшаўскім Галоўным архіве старадаўніх актаў перапіску літоўскіх

[1] Sajkowski A. Opowieści misjonarzy, konkwistadorów, pielgrzymów i innych świata ciekawych. Poznań, 1991. S. 223–236 (раздзел: Z Dorohostaj do Neapolu albo marszałka litewskiego doświadczenia nie tylko podróżnicze).

магнатаў, я быў заінтрыгаваны загалоўкам так званай цыдулы пры адным з лістоў Крыштафа Дарагастайскага, маршалка вялікага літоўскага ў 1597–1615 г., з якой адназначна вынікала, што жонка маршалка, Соф'я Радзівіл, здраджвала яму са Станіславам Тыміньскім, адным са шляхецкіх прыдворных Дарагастайскага"[2].

З таго моманту (а здарылася гэта недзе ў 1960 г.) мінула багата часу, перш чым апольскі даследчык распачаў працу над манаграфіяй, якая працягвалася шмат гадоў і запатрабавала асаблівай дапытлівасці і шматлікіх кансультацый (аўтар закрануў у сваім даследаванні больш як дваццаць айчынных і замежных шляхецкіх родаў). Плёнам, аднак, стала выдатная кніга. Чаму ж да Серадыкі ніхто не ўзяўся за распрацоўку такой удзячнай тэмы? А таму, што гэта запатрабавала велізарнай працы, карпатлівых пошукаў у расцярушаных крыніцах. Так з'явілася самая асабістая кніга польскага гісторыка. З'явілася і… стала чакаць публікацыі. Затрымка мела дзве прычыны — аб'ектыўную і суб'ектыўную. Першая была звязана з бягучым палітычным становішчам у Польшчы ў 1990 г. і… тагачаснымі прэзідэнцкімі выбарамі, на якіх была зарэгістравана ў якасці кандыдата і нават выйшла ў другі тур таямнічая постаць нейкага Станіслава Тыміньскага — цёзкі паводле імя і прозвішча таго самага палюбоўніка жонкі літоўскага маршалка з XVII ст.

Пэўна, для любога аўтара гэта была б ідэальная нагода для папулярызацыі сваёй кнігі, на што я ў свой час звярнуў увагу ў загалоўку прысвечанага Серадыкаваму твору эсэ[3]. Для любога, але не для Серадыкі, які вырашыў хоць трохі счакаць. Але ўлетку 1991 г. аўтара напатка-

2 Seredyka J. Księżniczka i chudopachołek. Zofia z Radziwiłłów Dorohostajska — Stanisław Tymiński. Wydawnictwo Uniwersytetu Opolskiego // Studia i Monografie. № 225. Opole, 1995. S. 7.

3 Kosman M. Romans Tymińskiego // Przegląd Humanistyczny. R. XLI. № 5 (344). Warszawa, 1997. S. 173–177. Адсылаю таксама да абмеркавання беларускага выдання „Гіпікі" на старонках „Studiów Źródłoznawczych" (т. XLVI, 2008, с. 198 і далей).

ла цяжкая хвароба, якая на пэўны час выбіла яго з нармальнага рытму працы. Кніга выйшла з друку толькі ў 1995 г., але раней была прадстаўлена на навуковых паседжаннях у шэрагу акадэмічных асяродкаў Польшчы, у прыватнасці ў Познані і Торуні[4].

Аўтар грунтоўна ўлічыў гістарычны кантэкст, заглыбіўся ў выдатна знаёмыя яму таямніцы старапольскага заканадаўства і супаставіў тэорыю з практыкай. Прадмет яго ўвагі, вядома ж, — любоўны трыкутнік, але цэнтральнае месца ў ім заняў Дарагастайскі — у пэўным сэнсе ахвяра сувязі паміж жонкай і шляхцічам, якому ён давяраў. Падзеі разгортваюцца ў першыя гады XVII ст. Структура кнігі ўзорная з пункту гледжання дынамікі выкладу, як і належыць спрактыкаванаму выкладчыку ВНУ. Тэкст узбагачаны шматлікімі спасылкамі, якія адсылаюць да крыніц і літаратуры, а таксама шмат дзе дапаўняюць асноўны аповед.

Першы з шасці раздзелаў, уводны, мае назву „Dramatis personae”. У ім раскрываюцца вобразы Дарагастайскага і Радзівілаў. Дробнамаянтковы шляхціч Тыміньскі, відавочна, ніякіх звестак пасля сябе не пакінуў.

Раздзел II („Раман Соф'і і Станіслава”) апісвае ходу падзей, абапіраючыся на матэрыялы пазнейшага расследавання, праведзенага падманутым мужам. Шукаючы адказы на пастаўленыя пытанні, аўтар не толькі звяртаецца да юрыдычнай сферы, але і з веданнем справы аналізуе медыцынскія пытанні, у чым яму дапамаглі кансультацыі спецыялістаў, сярод якіх пачэснае месца заняў Збігнеў Куневіч, аўтар аналагічнай манаграфіі („Барбара Радзівіл”), а таксама метадалагічнага даследавання („Пра біялагічнае вымярэнне гісторыі”). Памяці менавіта гэтага вучонага Серадыка прысвяціў сваю кнігу пра княгіню і яе каханка. У гэтай працы навуковага характару не бракуе і белетрыстычных матываў, якія выдатна надаліся б якой аповесці або сцэнарыю мастацкага

[4] Гл.: Seredyka J. Zofia Radziwiłłówna. Z dziejów obyczajów na Litwie w okresie wczesnego baroku // „Sprawozdania Toruńskiego Towarzystwa Naukowego” za rok 1990. Toruń, 1990. S. 18–23.

фільма. Мы маем справу з аўтэнтычнай літаратурай факта. У свой час, амаль чвэрць стагоддзя таму, я напісаў, што варта было б угаварыць Яна Серадыку выпусціць значна большым тыражом новую, „аблегчаную" версію кнігі пра гэты старапольскі раман, прыбраўшы з яе разгорнутыя спасылкі і да т. п.[5].

Пра дынаміку дзеяння і нарастанне драматургічнага напружання сведчаць загалоўкі чарговых раздзелаў: „III. Выкрыццё каханкаў", „IV. Суд над Тымінськім". Назва чарговага, пятага раздзела («„Уз'яднанне" мужа і жонкі») вельмі трапна ўтрымлівае ў сабе двукоссе, таму што муж застаўся апанаваны недаверам і намагаўся пакараць здрадніцу, ад чаго яго стрымліваў толькі страх перад разгневанымі на яго Радзівіламі. Тыя выказвалі досыць слушныя прэтэнзіі, адзначаючы, што Дарагастайскі не быў такі прынцыповы ў выпадку з першай жонкай, калі нярэдка заплюшчваў вочы на здрады. Абвінавачвалі яго і ў тым, што сам ён уяўляў сабой далёка не ідэал у сямейным жыцці. Сапраўднае паяднанне адбылося праз нейкі час, калі абое сужэнцаў наблізіліся да магілы; пра гэта гаворыцца ў раздзеле VI „Так мінае людская хвала і драма".

Першае і дагэтуль адзінае польскае выданне „Княгіні і бедняка" мела тыраж 1000 экзэмпляраў і выйшла ў сціплым, хоць для тых часоў і тыповым, графічным афармленні. Яно стала падзеяй — але толькі ў вузкім навуковым коле. Аўтар не паклапаціўся пра перавыданне, затое працягваў вывучаць біяграфію галоўнага, хоць і не названага ў загалоўку, героя кнігі. Ён апублікаваў некалькі артыкулаў — пра „выхаванне" жонкі Крыштафам[6], яго знаходжанне ў Ніжняй Сілезіі[7], завяшчанне[8]

5 Romans Tymińskiego… S. 176.

6 Instrukcje wychowawcze Krzysztofa Dorohostajskiego dla żony Zofii Radziwiłłówny // Duktem czasów. Księga pamiątkowa ku czci Profesora Mariana Kaczmarka. Opole, 1996. S. 291–303.

7 Krzysztof Dorohostajski na Dolnym Śląsku // Śląski Kwartalnik Historyczny Sobótka. R. 51, № 1/3. Wrocław, 1996. S. 350–356.

8 Testament Krzysztofa Moniwida Dorohostajskiego // Aere perennius. Profesorowi Gerardowi Labudzie dnia 28 XII 2001 w

і ваенныя паходы[9], а таксама пра прававую культуру літоўскіх магнатаў[10]; яшчэ адзін тэкст быў падрыхтаваны ім да друку незадоўга да смерці ў сярэдзіне 2008 г.

Выдавецтва Віленскага педагагічнага ўніверсітэта апублікавала „Княгіню і бедняка" ў перакладзе на літоўскую мову тыражом 500 экзэмпляраў — высокім як для тамтэйшых рэалій. Да выдання была напісана змястоўная прадмова, прысвечаная аўтару і яго навуковай творчасці. Гэта прыгожы і да таго ж карысны жэст з боку віленскіх гісторыкаў дзеля ўшанавання памяці польскага даследчыка, спадчына якога ў значнай ступені датычыць гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Ян Серадыка двойчы, у 1971 і 1972 г., ездзіў у Вільню у некалькімесячныя навуковыя камандзіроўкі. У гэтых паездках ён грунтоўна вывучыў фонды ўніверсітэцкай, акадэмічнай і Нацыянальнай (Рэспубліканскай) бібліятэк. Плёнам гэтых выездаў былі некаторыя артыкулы, шмат матэрыялаў знайшлі адлюстраванне ў чарговых яго кнігах; для польскага ж гістарычнага асяроддзя Серадыка падрыхтаваў і апублікаваў (рэдкасць для нашых часоў) грунтоўны дакументальны артыкул, упершыню прапанаваны на паседжанні секцыі сацыяльна-гістарычных навук Апольскага таварыства сяброў навукі[11]. Будучы ў Вільні, ён не толькі праводзіў час у бібліятэках. Вольныя хвіліны выкарыстоўваў для наведвання такіх блізкіх кожнаму гісторыку мясцін — ад Замкавай гары, Кафедральнай плошчы, Старога Горада да касцёлаў і цвінтароў (Роса, Бернардзінскія і Антокальскія могілкі). Ён таксама завязаў трывалыя

hołdzie. Poznań, 2001. S. 227–240.

9 Militaria Krzysztofa Moniwida Dorohostajskiego // Litwa w epoce Wazów. Prace ofiarowane Henrykowi Wisnerowi w siedemdziesiątą rocznicę urodzin. Warszawa, 2006. S. 355–371.

10 Kultura prawna magnatów litewskich w XVI i XVII wieku // Kultura polityczna w Polsce. T. II: Przeszłość i teraźniejszość. Poznań, 1996. S. 33–46.

11 Źródła do dziejów Polski i Litwy okresu przedrozbiorowego w bibliotekach Wilna i Leningradu (Tekst referatu) // Sprawozdania Opolskiego Towarzystwa Przyjaciół Nauk. Seria A. Nr 10 (1973). Wrocław, 1974. S. 37–48.

кантакты з мясцовымі даследчыкамі. Яны далі свой плён у будучыні, і адной з праяваў гэтага стала кніга „Kunigaikštytė ir plikbajoris”.

Познань *Марцэлі Косман*

## СКОЧИЛЯС, ІГОР. Релігія і культура Західної Волині на початку XVIII ст.: За материялами Володимирського собору 1715 р. Львів, 2008, 80 с.

Кніга Ігара Скачыляса „Рэлігія і культура Заходняй Валыні ў пачатку XVIII ст.: па матэрыялах Уладзімірскага сабору 1715 г.” створана на аснове выпраўленнай і дапоўненай версіі ягонага ж артыкула. Улічваючы недастатковую распрацаванасць гісторыі ўніяцкай царквы апошняй трэці XVII — першай чвэрці XVIII ст. ва ўкраінскай і беларускай гістарыяграфіях, існаванне шматлікіх стэрэатыпаў і састарэлых поглядаў на гэтую праблему, з выхадам гэтай кнігі можна звязваць яшчэ адзін крок у вывучэнні царкоўнай уніі.

Праца падзелена на 5 частак. Першая прысвечана праблеме „рускага ўніяцкага адраджэння” апошняй трэці XVII — першай чвэрці XVIII ст. Аўтар імкнецца стварыць новую канцэпцыю развіцця культурных, сацыяльных і рэлігійныя працэсаў на ўкраінска-беларускіх землях Рэчы Паспалітай у вызначаны перыяд. Гэтая канцэпцыя, на думку аўтара, дазволіць перагледзець „чорную” легенду развіцця Украіны ў перыяд Руіны (1654–1687) і правесці параўнальны аналіз сацыякультурнага развіцця „Уніяцкай Украіны-Русі” і Гетманата (1687–1709) (5). Аўтар прапануе тэзіс пра „рускае ўніяцкае адраджэнне” як прадмову трыумфалізму Замойскага сабору 1720 г. Вызначальнай рэлігійнай парадыгмай гэтага перыяду, на думку аўтара, з’яўляецца маштабная мадэрнізацыя ўніяцкай царквы, арганізаваная

вышэйшай царкоўнай іерархіяй. Для гэтага паспяхова выкарыстоўваліся практыкі канфесіяналізацыі, што зрабіла XVIII ст. „залатым часам" у развіцці ўніяцкай царквы (6–7). Першая частка завяршаецца падрабязным аналізам архіўнай крыніцы — збору актаў епархіяльнага сабору ва Уладзіміры 13–15 кастрычніка 1715 г. (10–11).

Другая частка нарыса прысвечана арганізацыйнай структуры Уладзімірскай епархіі ў пачатку XVIII ст. (згодна з матэрыяламі Уладзімірскага сабору 1715 г.). Вельмі падрабязна на падставе крыніцы аналізуецца палажэнне Уладзімірскага крыласа-афіцыялата ў 1715 г. Вельмі карыснымі для гісторыкаў Беларусі будуць апісанне берасцейскай часткі Уладзімірскай епархіі (12–13), а таксама статыстыка Берасцейскага крыласа-афіцыялата за 1729 г. (17–18). Аўтар прыходзіць да высновы, што ўніяцкім епіскапам не ўдалося дамагчыся поўнага дамінавання над праваслаўем. Адбываліся вострыя канфлікты за цэрквы (напрыклад, у Кобрыне ў 1647 г. за царкву Нараджэння Багародзіцы), а ў Берасцейскім крыласе-афіцыялаце яшчэ ў XVIII ст. паспяхова дзейнічалі шматлікія праваслаўныя царкоўныя брацтвы, цэрквы і манастыры (18–19).

У трэцяй частцы даецца апісанне саборнай практыкі Уладзімірска-Берасцейскай епархіі да Замойскага царкоўнага сабору 1720 г. Асаблівую ўвагу аўтар аддае дзейнасці ўладзімірскага ўніяцкага епіскапа Льва Кішкі ў 1711–1714 г. і падзеям Уладзімірскага памеснага сабору 13–15 кастрычніка 1715 г.

Чацвёртая частка кнігі — аналіз рэлігійнай і культурнай праграмы „памеснага сабору" 1715 г. Уладзімірскі сабор правёў кадыфікацыю і ўніфікацыю літургічных абрадаў уніятаў, узмацніў кантроль царквы за сакраментальнымі практыкамі (царкоўнымі шлюбамі, споведдзю і г. д.), прыстасаваў для мясцовых умоваў культ святога Язафата Кунцевіча, які нарадзіўся ў мяшчанскай сям'і і правёў маладыя гады ва Уладзіміры, пачаў праграму хрысціянізацыі праз засваенне ўніятамі палажэнняў катэхізіса, мадэрнізацыю органаў цар-

коўнага кіравання і адміністрацыйнага кантролю, сацыяльнае дысцыплінаванне і працэс „цывілізавання” парафіяльнага кліру.

У апошняй частцы кнігі даследуюцца „правілы” навастворанай Уладзімірскай епархіяльнай семінарыі. Аўтар абгрунтавана даказаў, што інстытуцыйнай базай для навастворанай семінарыі была Уладзімірская базыльянская калегія. Падрабязна аналізуюцца і 12 параграфаў статута, у якіх фармуляваліся патрабаванні да кандыдатаў у семінарыю, духоўныя, канфесійныя і матэрыяльныя асновы адукацыі святароў, змест праграмы заняткаў і г. д.

Аўтар змясціў у дадатку шэраг дакументаў — „Дзеянні і правілы сабору Уладзімірска-Берасцейскай епархіі 13–15 кастрычніка 1715 г.”, што ўяўляюць каштоўную крыніцу па гісторыі ўніяцкай царквы на тэрыторыі Украіны. Дадатак складаюць 5 частак: 1) уступная і завяршальная формулы чына сабаравання; 2) „дзеянні” сабору; 3) рэестр цэркваў і духавенства Уладзімірскага крыласа-афіцыялата; 4) 20 правілаў сабору; 5) статут Уладзімірскай епархіяльнай семінарыі (12 параграфаў) (47–71). Шкада, што адсутнічае археаграфічны і палеаграфічны аналіз надрукаванай крыніцы.

Праца І. Скачыляса не пазбаўлена некаторых недахопаў. Да іх можна аднесці, напрыклад, не зусім дакладнае вызначэнне геаграфічнага зместу тэрміна „Заходняя Валынь”: у розныя часы тэрмін „Валынь” адносіўся да рознай па памерах тэрыторыі. Напрыклад, горад Луцк (радзіма рэцэнзента) у розныя часы належаў як да „Усходняй Валыні”, так і да „Заходняй Валыні”, таму пажадана ў нарыс уключыць геаграфічныя карты. Наўрад ці апраўданае выкарыстанне словазлучэння „сармацкая Рэч Паспалітая” без двукосся і тлумачэнняў (6). Шэраг палажэнняў аўтарскай канцэпцыі маюць выгляд працоўнай гіпотэзы і пабудаваны на „навуковай інтуіцыі” аўтара (7). Украінскі даследчык не выкарыстаў многія працы па гісторыі ўніяцкай царквы беларускіх гісторыкаў (напрыклад, доктара гістарычных навук прафесара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя

Янкі Купалы С. В. Марозавай). Вывады, атрыманыя на аснове аналізу крыніц па гісторыі Украіны, могуць — толькі вельмі асцярожна — пераносіцца на гісторыю беларускіх земляў, і яны павінны быць або пацверджаны, або абвергнуты з дапамогай крыніц па гісторыі Беларусі.

Ігарам Скачылясам выканана важная праца па ўвядзенні ў навуковы зварот раней невядомай крыніцы, пададзены яе аналіз, сфармуляваны арыгінальныя (з апісаннем розных дыскурсаў і парадыгмаў) канцэпцыі развіцця ўніяцкай царквы ў апошняй трэці XVII — першай чвэрці XVIII ст., што робіць яго кнігу прыкметнай пазіцыяй у гістарыяграфіі уніі, якая будзе запатрабавана і беларускімі гісторыкамі.

Мінск *Сяргей Каўн*

## GORDZIEJEW, JEZY. Komisje Porządkowe Cywilno-Wojskowe w Wielkim Księstwie Litewskim w okresie Sejmu Czteroletniego (1789–1792). Kraków: Wydawnictwo Uniwersytetu Jagellońskiego, 2010. 352 c.

Беларускі гісторык Юры Гардзееў, вядомы як руплівы даследчык гарадзенскай гісторыі, які ўжо даўно жыве і працуе ў Кракаве, у 2010 г. надрукаваў у выдавецтве Ягелонскага ўніверсітэта працу, прысвечаную малавядомай старонцы апошніх гадоў існавання Рэчы Паспалітай — стварэнню і функцыянаванню парадкавых цывільна-вайсковых камісій.

У верасні 1788 г. у Варшаве распачаў дзейнасць вальны сканфедэраваны сойм, які пазней назавуць Вялікім, ці Чатырохгадовым. На сойме нечакана моцным фронтам выступіла антыкаралеўская апазіцыя. Ва ўмовах, калі вайсковыя сілы Расійскай Імперыі былі задзейнічаны ў Турцыі, у шляхты з’явіўся шанец на правядзенне шыро-

камаштабных рэформаў, якія ў выніку закранулі амаль усе сферы жыцця Рэчы Паспалітай.

Аднак ужо ў 1789 г. стала зразумела, што большасць прынятых на сойме рэформаў не рэалізуюцца, бо ў дзяржаве адсутнічаў эфектыўны адміністрацыйны апарат, які мог бы прыводзіць у дзеянне, ці прынамсі кантраляваць, выкананне тых ці іншых пастаноў сойма. Для вырашэння гэтай сітуацыі ў лістападзе 1789 г. шляхта ВКЛ прыняла праект аб стварэнні спецыяльных ваяводскіх і павятовых камісій, а пазней падобную пастанову прынялі і палякі[1]. Менавіта функцыянаванне гэтых камісій на тэрыторыі ВКЛ і разглядае ў сваёй працы Юры Гардзееў.

Як слушна заўважае аўтар у прадмове, тэма цывільна-вайсковых камісій да гэтага часу сур'ёзна не даследавалася ў навуковай літаратуры. Нельга сказаць, што названая тэма зусім прапушчаная навукоўцамі: у канцы XIX ст., у межах вывучэння Чатырохгадовага Сойма, да пытання парадкавых камісій звярталіся Тадэвуш Корзун, Валеры Калінка, шэраг публікацый выйшаў таксама ў 60–80-я г. ужо XX ст. Аднак грунтоўнага даследавання на падставе павятовых дакументаў, а не толькі соймавых пастаноў, пагатоў датычных менавіта тэрыторыі ВКЛ, яшчэ не было.

Аўтар ставіць сваёй мэтай прасачыць працэс кшталтавання і функцыянавання лакальнай адміністрацыі ВКЛ у часе Чатырохгадовага Сойма (9).

З прычыны шырокіх паўнамоцтваў і абавязкаў цывільна-вайсковых камісій аўтар засяроджваецца на тых галінах дзейнасці, якія былі найбольш актуальныя для саміх камісій: перапіс насельніцтва, мяшчанскае пытанне, падатковая палітыка і звязаныя з ёй пытанні сельскай гаспадаркі, а таксама праблема рэкрутавання войска.

Найбольшы комплекс крыніц, датычных парадкавых камісій, захаваўся ў Нацыянальным гістарычным архіве

[1] Першапачаткова камісіі называліся проста ваяводскімі і павятовымі, пазней з'явілася найменне *парадкавыя цывільна-вайсковыя камісіі*. У кнізе (і адпаведна, у рэцэнзіі) выкарыстоўваецца як першая, так і другая назвы.

Беларусі, частка дакументаў знаходзіцца ў Гістарычным архіве Літвы і бібліятэцы імя Т. Урублеўскага ў Вільні. У першую чаргу гэта самі акты парадкавых камісій. Найлепш захаваліся акты наступных камісій: гарадзенскай, шчучынскай, пінскай, менскай, полацкай і аршанскай (усе ў гістарычным архіве ў Мінску). Пры гэтым амаль не захавалася карэспандэнцыі цывільна-вайсковых камісій. Некаторыя матэрыялы, прысвечаныя камісіям, былі знойдзены ў дакументах Чатырохгадовага Сойма. Частка матэрыялаў раскіданая па канцылярскіх і земскіх кнігах, а таксама ў перыядычных выданнях таго часу.

Асноўная частка працы складаецца з 6 раздзелаў, першы з якіх прысвечаны апісанню агульнага стану лакальнай адміністрацыі напярэдадні Чатырохгадовага Сойма, а таксама працэсу стварэння і структуры саміх парадкавых цывільна-вайсковых камісій. У наступных 5 раздзелах па чарзе разглядаецца дзейнасць камісій па захаванні публічнага парадку (раздзел 2), узаемадачыненне з гарадамі (раздзел 3), санітарна-гігіенічная і адукацыйная дзейнасць (раздзел 4), эканамічныя пытанні (раздзел 5) і вайсковыя (раздзел 6).

У пачатку першай часткі аўтар выстаўляе вельмі істотныя акцэнты: рэформы лакальнай адміністрацыі адбываліся ва ўсёй Еўропе цягам XVIII ст. у бок цэнтралізацыі. У Рэчы Паспалітай над гэтым пытаннем пачалі задумвацца толькі з прыходам на трон Станіслава Аўгуста Панятоўскага (18), але ўсе гэтыя працэсы да апошняга тармазіла шляхта і магнатэрыя вышэйшых органаў улады. І распачаць рэформы атрымалася толькі на Чатырохгадовым Сойме. Таксама аўтар коратка апісвае тыя праекты рэформы лакальнай адміністрацыі, якія існавалі яшчэ да Чатырохгадовага Сойма, а таксама генезіс прыняцця самой канстытуцыі „Komisje wojewódzkie i powiatowe Wielkim Księstwie Litewskim”. Аналізуючы сам дакумент, аўтар прыходзіць да высновы, што наваствораны апарат шмат якімі рысамі мусіў нагадваць заходнееўрапейскія сістэмы лакальнай адміністрацыі, але пры гэтым крытыкуе яго

за бессістэмнасць, асабліва ў раздзеле, прысвечаным эканамічным пытанням.

Сярод іншага Ю. Гардзееў уступае ў палеміку з некаторымі польскімі гісторыкамі (у тым ліку Ю. Бардахам), якія лічылі, што ў склад камісій уваходзілі мяшчане. Аўтар не знайшоў ні аднаго мешчаніна сярод чальцоў камісій (41).

Даследчык падрабязна апісвае структуру стварэння і функцыянавання камісій: выбар кандыдатаў, функцыі асобных чальцоў, абмежаванні на заняцце пасады і іншае. Прычым робіць гэта не толькі на падставе „найвышэйшых" соймавых пастаноў, але і з актыўным выкарыстаннем лакальных дакументаў, і прыходзіць да высновы, што новая адміністрацыйная структура аказалася мадыфікацыяй старой, традыцыйнай мадэлі з элементамі новых еўрапейскіх распрацовак у гэтай сферы. Пры гэтым аўтар падкрэслівае, што цывільна-вайсковыя камісіі — гэта толькі пачатак у стварэнні новай сістэмы лакальнай адміністрацыі (52).

У наступных пяці раздзелах Ю. Гардзееў разглядае працэс рэалізацыі задач, пастаўленых перад цывільна-вайсковымі камісіямі соймам. Адно толькі пералічэнне тых задач можа выклікаць здзіўленне. У сферы працы з насельніцтвам чальцы парадкавых камісій мусілі: правесці поўны перапіс насельніцтва ВКЛ (па сутнасці, першы перапіс такога ўзроўню на нашых землях), арганізаваць штогадовы збор метрык у цэрквах і касцёлах для далейшага адсочвання статыстыкі, сістэматызаваць кошты на рэлігійныя паслугі, прымаць скаргі ад сялян і паспрабаваць забяспечыць спакой у паветах, дзе ў 1789–1790 г. узрушэнне сялян магло перарасці ў бунт. Да ўсяго гэтага на камісіі ўскладваўся абавязак па арганізацыі памежнага з Расійскай Імперыяй кантролю і інспекцыі вязніц.

У гарадах камісіі, будучы судамі першай інстанцыі, мусілі разбіраць скаргі мяшчан на яўрэяў, а таксама кантраляваць канфлікты паміж старастамі і мяшчанамі. Менавіта парадкавыя камісіі распрацавалі і ўпершыню ўвялі нормы пажарнай бяспекі ў беларускіх і літоўскіх

гарадах. Справы па доглядзе за санітарнымі нормамі, стварэнне новых могілак і рэвізіі шпіталяў ляжалі на тых самых людзях.

Але асноўныя задачы парадкавых камісій палягалі ў сферы эканомікі і войска. Менавіта гэтыя камісіі мусілі заняцца рэгуляваннем коштаў у паветах, арганізацыяй рэкруцкіх набораў і пастою войскаў.

Неверагодна вялікі спіс задач для невялікіх камісій, сабраных, як адзначае аўтар, са звычайных павятовых шляхцічаў.

Аналіз кожнай з задач Ю. Гардзееў праводзіць прыблізна па адной схеме: спачатку ён падрабязна апісвае сутнасць кожнай з задач, якая стаяла перад камісіямі, для чаго часта выходзіць далёка за межы храналагічных рамак (1789–1792), а пасля прапануе прыклады рашэння гэтых задач, зафіксаваныя ў актах цывільна-вайсковых камісій таго ці іншага павета. І ўрэшце робіць высновы аб эфектыўнасці рашэнняў у дачыненні да той ці іншай тэмы.

Спектр праблем, закранутых цывільна-вайсковымі камісіямі, быў настолькі шырокі, што кніга ўрэшце аказваецца зрэзам грамадска-палітычнага жыцця ў паветах ВКЛ у прамежку паміж 1789 і 1792 г. А гісторыі з актавых кніг парадкавых камісій, падабраныя аўтарам для аналізу дзейнасці гэтых камісій, настолькі жывыя, што часам падаецца, нібы чытаеш не навуковую манаграфію, а гістарычны раман.

Менавіта тут, магчыма, і ёсць адзіны момант, дзе можна трохі ўпікнуць аўтара: часам за аналізам ці ілюстраваннем эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў у паветах ВКЛ губляецца разуменне дзейнасаці саміх камісій. Хоць тут трэба прызнаць, што задача ў аўтара была няпростая, бо акрамя вельмі шырокага кола праблем, быў яшчэ адзін момант — павятовыя камісіі мусілі супрацоўнічаць з ужо існуючымі на вышэйшым узроўні Вайсковай, Скарбавай, Адукацыйнай і іншымі камісіямі. Часта іх задачы поўнасцю супадалі, і таму раскрываць пытанне парадкавых камісій, не закранаючы іншых тэм, было б вельмі складана.

Яшчэ ва ўступе аўтар адзначае недахоп карэспандэнцыі, якая не дайшла да нас. І на самой справе, калі пастановы той ці іншай камісіі зафіксаваны ў спецыяльных актах, то выкананне гэтых пастаноў прасачыць можна далёка не заўсёды, што было б вельмі дарэчы для разумення эфектыўнасці новай структуры лакальнай адміністрацыі ў ВКЛ.

Працэсы, апісаныя ў кнізе, вельмі добра паказваюць адну з базісных прычын заняпаду Рэчы Паспалітай — адсутнасць цэнтралізаванага, прафесійнага выканаўчага бюракратычнага апарату, і як вынік — невыкананне рашэнняў Сойма на лакальным узроўні. Але з іншага боку даюць падставы казаць, што напрыканцы свайго існавання Рэч Паспалітая пачала рухацца ў правільным накірунку і ёй папросту не хапіла часу.

У сваім даследаванні аўтар асабліва часта звяртаецца да падзей, звязаных з Гарадзенскім паветам і самой Горадняй, што, відавочна, ёсць вынікам папярэдняй працы Ю. Гардзеева.

Падводзячы вынікі, аўтар пералічвае асноўныя недахопы функцыянавання новай лакальнай адміністрацыі, сярод якіх называе мінімальную персанальную адказнасць, слабыя структурныя сувязі з іншымі, у тым ліку вышэйшымі, органамі ўлады, адсутнасць спецыялізацыі. Аднак пры гэтым даследчык сцвярджае, што стварэнне цывільна-вайсковых парадкавых камісій — вялікі крок у развіцці і мадэрнізацыі адміністрацыйнай структуры на месцах.

Такім чынам, можна сказаць, што праца Ю. Гардзеева стала грунтоўным унёскам у даследаванні гэтай малавядомай, але вельмі істотнай тэмы апошніх гадоў Рэчы Паспалітай, а таксама пэўным „даведнікам” жыцця правінцый ВКЛ у пачатку 90-х г. XVIII ст.

Мінск *Цімафей Акудовіч*

# РАМАНАВА, ІРЫНА; МАХОЎСКАЯ, ІРЫНА. Мір: гісторыя мястэчка, што расказалі яго жыхары. Вільня: Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт, 2009. 247 с.

Мір, што фігуруе ў назве кнігі Ірыны Раманавай і Ірыны Махоўскай, — сёння невялікі гарадскі пасёлак у Гродзенскай вобласці, які, аднак, мае надзвычай багатую гісторыю. Менавіта яе раскрыццё і паставілі сабе на мэце даследчыцы. Але дасягнуць гэтай мэты яны вырашылі не традыцыйным для гісторыка спосабам — праз даследаванне дакументаў, а пры дапамозе жывых сведак і непасрэдных удзельнікаў колішніх гістарычных падзей.

Названы населены пункт адметны тым, што тут знаходзіцца замак XVI ст., у якім да Другой сусветнай вайны і прыходу савецкай улады жылі прадстаўнікі княскага роду Святаполк-Мірскіх. Наяўнасць у гісторыі Міра замка і княскага роду дагэтуль з’яўляецца прадметам гонару і падставай для пачуцця выключнасці сярод яго жыхароў. Дадавала славы Міру і тутэйшая ешыва (існавала ў 1815–1939 г.), славуты адукацыйны цэнтр для паслядоўнікаў іўдаізму з многіх краін Еўропы, а таксама Амерыкі і Афрыкі. Выключны каларыт наваколля прадвызначаў і этнічны склад мястэчка: тут мірна жылі беларусы, палякі, татары і яўрэі.

Гэтае багацце і з’яўляецца прадметам рэканструкцыі непаўторнай мікрагісторыі Міра аўтаркамі кнігі. Іх мэтай была не чарговая спроба раскрыцця „аб’ектыўнай ісціны”, а пошук рэспандэнтаў, здольных расказаць даследчыку мноства „суб’ектыўных ісцін”. Са статыстычных зводак і дакументаў акцэнт быў перасунуты на простых людзей. У аснове рэцэнзаванай працы ляжыць перакананне, што гэтыя суб’ектыўныя веды з’яўляюцца гістарычнымі фактамі не ў меншай ступені, чым падзеі, якія рэальна мелі месца. Сёння вусная гісторыя — адзін з найбольш папулярных напрамкаў гістарычнай навукі. Аргументам на карысць такой метадалогіі даследаванняў выступае той факт, што вусны слой гісторыі знаходзіцца пад пагро-

зай незваротнай страты разам з адыходам носьбітаў гэтых ведаў. Узятыя даследчыцамі інтэрв'ю — гэта гісторыя вачыма людзей, якія самі ніколі не перанеслі б яе на паперу. Аўтаркі зафіксавалі ўспаміны непасрэдных сведак і ўдзельнікаў падзей, якія адносяцца сама меней да трох, а то і чатырох перыядаў. Гэта гісторыя, якая ў адваротным выпадку ніколі не была б прадстаўлена шырокаму колу чытачоў. Некаторыя інфарматары не дачакаліся выхаду кнігі.

Кніга стала плёнам навуковых экспедыцый, якія праводзіліся з ліпеня 2003 да ліпеня 2005 г. з удзелам студэнтаў гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Была складзена спецыяльная анкета з выкарыстаннем двух метадаў вывучэння вуснай гісторыі: біяграфічны метад і праца па схеме „пытанне — адказ”. Даследаванне з'явілася камбінацыяй гэтых двух метадаў.

Даследчыкі наведалі кожны дом у гарадскім пасёлку Мір, у выніку чаго былі ўзяты 85 інтэрв'ю. Рэспандэнтамі ў пераважнай большасці сталі людзі, якія нарадзіліся ў 1910–1930 г. Яны далі згоду на публікацыю сваіх прозвішчаў, і гэты спіс можна знайсці ў канцы кнігі. Сабраны такім чынам матэрыял няпроста паддаваўся аналізу. Аўтары даследавання распрацавалі віртуальную мадэль такога аналізу, паводле якой інфарматары, нібыта сабраныя ў адным месцы, апавядалі гісторыю мястэчка Мір, узаемна дапаўняючы адзін аднаго. На практыцы аналіз запісаных інтэрв'ю ажыццяўляўся наступным чынам: браўся фрагмент успамінаў аднаго з рэспандэнтаў і шукаліся дапаўненні ва ўспамінах іншых інфарматараў. Такім чынам быў ажыццёўлены свайго роду мантаж фрагментаў успамінаў паводле тэматычнага крытэрыя. Плёнам такой методыкі стаў зборны (калектыўны) аповед жыхароў Міра, рэканструкцыя прасторы іх штодзённага побыту на працягу некалькіх гістарычных перыядаў.

Заслугоўвае ўвагі тое, як аўтары справіліся з праблемай аналізу яўрэйскай памяці пра жыццё ў Міры. Па аб'ектыўных прычынах даследчыкі не мелі магчымасці

апытаць яўрэяў, якія дажылі б у Міры да сёння, бо не ўдалося адшукаць ніводнага прадстаўніка гэтай супольнасці. Жыццё яўрэяў паказана ў кнізе з пункту гледжання беларусаў, палякаў і татараў. Вядома, такое адлюстраванне не можа быць тоесным карціне, намаляванай самімі яўрэямі. Імкнучыся кампенсаваць адсутнасць яўрэйскіх аповедаў пра мінуўшчыну Міра, аўтары кнігі скарысталі ўспаміны, лісты яўрэяў — былых жыхароў мястэчка — і апублікавалі іх у канцы кнігі ў якасці дадаткаў. Без іх праца, несумненна, страціла б каштоўнасць, стала б няпоўнай, фрагментаванай рэканструкцыяй гісторыі Міра.

Кніга складаецца з трох раздзелаў, кожны з якіх прысвечаны пэўнаму гістарычнаму перыяду. Яны маюць наступныя назвы: I. Мір „за польскім часам”, II. Другая сусветная вайна, III. Пасляваенны Мір. У трох згаданых раздзелах змешчаны аналіз шырокага эмпірычнага матэрыялу, назапашанага пад час экспедыцый. Неад’емную частку публікацыі складаюць таксама першакрыніцы, сабраныя пад адным загалоўкам „Дадаткі. Лісты і ўспаміны аб Міры”. Гэта перш за ўсё карэспандэнцыя і ўспаміны былых яўрэйскіх жыхароў Міра, перакладзеныя Ірынай Махоўскай на беларускую мову з англійскай і рускай.

Раздзел «Мір „за польскім часам”» складаецца з двух падраздзелаў, першы з якіх атрымаў назву „Штодзённае жыццё мястэчка”. Аўтары на падставе сабранага ад рэспандэнтаў матэрыялу здолелі дэталёва рэканструяваць тапаграфію міжваеннага Міра, што ўваходзіў тады ў склад другой Рэчы Паспалітай. Мы даведваемся пра назвы вуліц, месцазнаходжанне храмаў і найважнейшых установ — гміннай адміністрацыі, паліцэйскага ўчастка, дома культуры, школ, пра размяшчэнне крам, рэстаранаў, корчмаў, лазні, пра этнічнае паходжанне і прозвішчы іх уладальнікаў.

Аўтаркам кнігі на аснове ўзятых інтэрв’ю ўдалося дэталёва паказаць узаемаадносіны жыхароў Міра з тамтэйшай яўрэйскай грамадой. З гэтай часткі кнігі вынікае, што кожная з этнічных супольнасцей, якія насялялі Мір, спецыялізавалася на канкрэтнай сферы

дзейнасці: напрыклад, крамамі, рэстаранамі, корчмамі апекаваліся галоўным чынам яўрэі, а конямі гандлявалі цыганы. Аўтаркам праекта ўдалося таксама зафіксаваць успаміны жыхароў Міра аб „прафесіях”, якія незваротна адышлі ў нябыт, — бабках-павітухах і шаптухах. Асабліва цяжка пад час палявых даследаванняў здабыць інфармацыю пра апошніх, бо шаптухі знаходзяцца пад аховай своеасаблівага культурнага табу. З аналізу эмпірычнага матэрыялу вынікае, што ў той час асноўнымі заняткамі жыхароў Міра, з якіх яны жылі, былі, у першую чаргу, рамяство і земляробства. З першага падраздзела паўстае таксама маёмасная структура мястэчка і звязаныя з ёй побытавыя ўмовы жыцця насельніцтва. Да цікавых назіранняў адносіцца хоць бы тое, што „простым” людзям жылося ў той час дрэнна, а тым, хто слугаваў князю Святаполк-Мірскаму, — добра.

Асаблівую ўвагу аўтаркі кнігі прысвяцілі міжнацыянальным адносінам у даваенным Міры. Перад намі паўстае мястэчка, дзе яўрэі складалі больш за палову насельніцтва, а на некаторых вуліцах — і пад 90%. Побач з імі жылі беларусы, палякі і татары. Кожная з гэтых супольнасцяў культывавала свае традыцыі, прычым у вачах беларусаў, палякаў і татараў найбольш адрозніваліся ад усіх якраз яўрэі. Яны вылучаліся не толькі адзеннем, але і паводзінамі ды мовай. Вучні Мірскай ешывы між сабой гаварылі на сваёй мове, а з беларускім насельніцтвам — па-беларуску. Беларусы ўспрымалі яўрэяў праз прызму матэрыяльнага становішча і прафесійных заняткаў апошніх. З прааналізаванага матэрыялу паўстае вобраз яўрэя як чалавека, які займаецца перш за ўсё гандлем ці рамяством і амаль ніколі не працуе на зямлі. У кнізе, аднак, можна знайсці інфармацыю і пра яўрэйскія сем’і, што знаходзіліся ў цяжкім матэрыяльным становішчы.

Неяўрэйскія супольнасці (асабліва беларусы) успрымалі яўрэяў у цэлым пазітыўна, хоць толькі яўрэі былі прадметам жартаў і кпінаў з боку астатніх груп. Яўрэі часцей за ўсё ўспрымаліся як „чужыя”. Заслугоўвае ўвагі той факт, што яўрэйская супольнасць мястэчка

была найбольш ізаляваная ад астатніх. З аднаго боку, эмірычны матэрыял сведчыць, што беларускім рэспандэнтам імёны і прозвішчы яўрэяў было прыгадваць цяжэй, чым палякаў. З другога боку, як вынікае з прыведзенай у дадатках перапіскі выпускнікоў Мірскай ешывы, яўрэям найцяжэй запаміналіся прадстаўнікі польскай супольнасці, на чале з князем Святаполк-Мірскім. У кнізе прыводзяцца прыклады прадузятых меркаванняў і негатыўных стэрэатыпаў пра яўрэяў, якія нібыта маглі быць забойцамі хрысціянскіх дзяцей, хоць тут жа прысутнічаюць і цалкам процілеглыя выказванні.

Зусім па-іншаму апісваюць беларускія жыхары Міра тамтэйшую татарскую грамаду, якая для іх была куды больш блізкая і зразумелая. Гэтыя дзве супольнасці яднала не толькі адна мова, але і род заняткаў ды лад жыцця. Падкрэсліваецца адсутнасць варожасці паміж беларусамі і татарамі, доказам чаго часта былі мяшаныя шлюбы. Татары атаясамліваліся з працавітасцю і з канкрэтнай прафесіяй — агародніцтвам.

Перад чытачом паўстае адметны вобраз беларускапольскіх узаемадачыненняў, на шкоду якім ішла надта вялікая маёмасная розніца паміж польскім і беларускім насельніцтвам. Шкодзіла тут, на думку беларускіх рэспандэнтаў, і тыповая польская пыха, якая ўспрымалася як самаўзвышэнне. З апісання польска-беларускіх узаемаадносін вынікае, што беларусы ў стасунках з палякамі схільныя былі акрэсліваць сябе не як беларусаў, а як „рускіх”. У процілегласць „сваім” татарам палякі ўспрымаліся як прыхадні, „чужыя”. Беларускія жыхары Міра згадваюць і пра ўзмацненне антыяўрэйскіх настрояў сярод часткі палякаў у другой палове 1930-х г.

З гэтага падраздзела мы даведваемся і пра тагачасную сістэму асветы ў мястэчку Мір, а таксама пра багацце культурнага жыцця тамтэйшай шматнацыянальнай грамады. Важную ролю ў культурным жыцці мястэчка выконвала пажарнае дэпо. Ёсць тут і ўспаміны, прысвечаныя рэлігійным, народным і дзяржаўным святам.

Вельмі цікавыя ўспаміны жыхароў Міра датычаць жыцця ў Савецкай Беларусі. Сабраныя матэрыялы даз-

валяюць аўтаркам меркаваць, што міране досыць добра ведалі пра становішча, якое панавала ва ўсходняй частцы Беларусі, але ж не заўсёды хацелі верыць весткам з-за ўсходняй мяжы. З успамінаў, змешчаных у гэтым падраздзеле, заслугоўваюць увагі фрагменты, што апавядаюць пра дзейнасць на тэрыторыі Заходняй Беларусі падпольных камуністычных арганізацый, якія распаўсюджвалі сярод беларускага насельніцтва станоўчыя меркаванні пра савецкую рэчаіснасць і паджыўлялі негатыўны вобраз палякаў у процілегласць „сваім" рускім. З прааналізаванага матэрыялу вынікае, што камуністычная агітацыя знаходзіла ў Міры дабратворную глебу.

Другая частка першага раздзела атрымала назву „Замак і маёнтак". Яна цалкам прысвечана русіфікаванаму ў XIX ст. беларуска-польскаму княжацкаму роду Святаполк-Мірскіх, і ў першую чаргу асобе Міхала Святаполк-Мірскага, які сярод жыхароў мястэчка карыстаўся выключнай папулярнасцю. Адмоўна на гэтую папулярнасць уплываў той факт, што шляхі звычайнага жыхара Міра і князя перасякаліся вельмі рэдка. Магчымасць доступу ў маёнтак князя ўспрымалася мясцовымі жыхарамі ў катэгорыях вялікага прэстыжу, нават калі гэта датычыла княскіх слуг або парабкаў. Заўважым, што хоць жыхары Міра і князь жылі нібыта ў двух паралельных светах, але ж ён залічваўся ў катэгорыю „сваіх". Відаць, гэтаму спрыяла тое, што, нягледзячы на валоданне некалькімі мовамі, з мясцовымі жыхарамі князь кантактаваў па-беларуску. Супольная мова і вера збліжалі князя ды праваслаўнае беларускае насельніцтва ў каталіцкай дзяржаве.

Другі раздзел пачынаецца падраздзелам, які атрымаў назву „Першыя Саветы". Менавіта так старэйшыя жыхары Заходняй Беларусі яшчэ і сёння называюць перыяд пасля 17 верасня 1939 г. З прыведзеных у гэтай частцы аповедаў мы даведваемся, як выглядала ўступленне ў мястэчка савецкіх войскаў, як рэагавалі на гэтую падзею мясцовыя жыхары. Дзякуючы камуністычнай агітацыі прадстаўнікі савецкага боку ўспрымаліся як „свае". Рэ-

спандэнты адзначаюць, што савецкія войскі ўвайшлі як вызваленчыя сілы, якіх віталі з кветкамі і непрыхаванай радасцю. Зусім нямногія ўспрымалі гэты момант як пачатак вайны.

Цікавымі выглядаюць каментары рэспандэнтаў, якія апісваюць канфлікт паміж уяўным вобразам Саветаў і „жывым" савецкім войскам. Найбольшае здзіўленне жыхароў Заходняй Беларусі выклікала сціплае адзенне і рыштунак салдат Чырвонай Арміі; гэта было першым сігналам таго, як на самай справе жывецца ва ўяўным „раі" за ўсходняй мяжой. Ахвярамі агітацыі былі і чырвонаармейцы, якія не маглі зразумець, чаму польскае насельніцтва гаворыць на зразумелай рускім мове.

Кніга прыводзіць цікавыя сведчанні пра паводзіны яўрэйскага насельніцтва пасля прыходу Чырвонай Арміі. На думку рэспандэнтаў, пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР яўрэі занялі значную долю кіраўнічых пасад на розных узроўнях новай улады. Негатыўнае адценне набыло паўсюдна ўжыванае раней слова *жыд*. Савецкія ўлады прапагандавалі выкарыстанне замест яго эмацыянальна нейтральнага наймення *яўрэй*.

Іншай істотнай для рэспандэнтаў з'явай у той час былі рэпрэсіі савецкай улады супраць „варожых элементаў". З аналізу эмпірычнага матэрыялу вынікае, што ў 1940 г. пачаліся высылкі ў Сібір, якія закранулі не толькі польскіх асаднікаў і чыноўнікаў, але і беларускіх „кулакоў". Інфарматары таксама падрабязна апісваюць метады прымусовай калектывізацыі. Аўтаркі кнігі падкрэсліваюць, аднак, што большасць рэспандэнтаў пазітыўна паставіліся да змен, якія адбыліся пасля далучэння іх земляў да БССР, асабліва да замены афіцыйнай польскай мовы ў дзяржаўных установах і сістэме адукацыі беларускай ды рускай мовамі.

З другой часткі другога раздзела („Штодзённае жыццё ў часы нямецкай акупацыі") вынікае, што ў свядомасці большасці беларускіх рэспандэнтаў вайна пачалася толькі 22 чэрвеня 1941 г. — пасля абвяшчэння Гітлерам вайны СССР і пасля ўступлення ў Мір нямецкіх войскаў 28 чэрвеня таго ж года. Перад гэтым мястэчка зведала

бамбардзіроўкі. Змяшчаюцца ўспаміны пра ўзаемаадносіны паміж нямецкімі акупантамі і мясцовым беларускім насельніцтвам. Глыбокі і балючы след у памяці жыхароў Міра пакінулі катаванні, ужытыя супраць мясцовых камуністычных актывістаў. Рэспандэнты падрабязна апісваюць усталяваную немцамі сістэму кіравання ў мястэчку і этапы ўкаранення нямецкай улады.

Перыяд нямецкай акупацыі рэспандэнты ўспамінаюць як час, калі панаваў адносны спакой, што тлумачылася строгасцю ўсталяваных парадкаў. Падкрэсліваецца, што падаткі, якія трэба было плаціць намцам, былі куды ніжэйшыя, чым „за Польшчай". Апрача таго, немцы не цікавіліся тымі, хто не лез у палітыку. Яны не рабавалі гаспадарак. Вельмі важнай падзеяй, асацыяванай з нямецкай акупацыяй, інфарматары называюць адкрыццё немцамі ў Міры беларускай школы, вучні якой мелі магчымасць наведваць урокі праваслаўнай рэлігіі. Частка беларускай моладзі заахвочвалася да ўступлення ў нестворкі Саюз беларускай моладзі, які будаваўся на ўзор нямецкага гітлерюгенда. На думку рэспандэнтаў, моладзь уступала туды не з уласнага пераканання, а па прымусу, не ўсведамляючы вынікаў, пад пагрозай адпраўкі на прымусовыя работы ў Нямеччыну. З тэксту кнігі паўстае вобраз немцаў як сілы, якая больш-менш добра абыходзілася з мясцовым насельніцтвам, за выключэннем яўрэяў. Маладыя мужчыны пад прымусам уступалі таксама ў атрады дапаможнай паліцыі. Каб пазбегнуць вывазу на працу ў Нямеччыну, моладзь далучалася і да партызанскіх атрадаў.

Яшчэ адной з'явай, асацыяванай з нямецкай акупацыяй, быў прымусовы вываз жыхароў Міра на работы ў Нямеччыну. Аднак самыя трагічныя ўспаміны ваеннага перыяду ў рэспандэнтаў пакінуў Халакост. Сярод аповедаў мы знаходзім дэталёвыя апісанні вынішчэння яўрэяў, яўрэйскага гета, створанага ў мястэчку, і масавых забойстваў яўрэйскага насельніцтва. З расказаў жыхароў Міра мы даведваемся і пра паўстанне ў яўрэйскім гета. Рэспандэнты звяртаюць увагу на тое, што пад час знішчэння яўрэйскага насельніцтва немцы вы-

карыстоўвалі паліцэйскія атрады, укамплектаваныя перш за ўсё літоўцамі і латышамі. Ёсць таксама сведчанні аб спробах выратавання яўрэяў ад смерці беларускімі жыхарамі Міра.

Прыгадваючы паўторны прыход Саветаў, рэспандэнты сцвярджаюць, што гэтым разам яны ўспрымаліся без такога энтузіязму, як у 1939 г. З іх прыходам звязваецца неадкладная мабілізацыя ў Чырвоную Армію. Заканчэнне вайны жыхары Міра атаясамліваюць з неапісальнай радасцю.

Трэці раздзел называецца „Пасляваенны Мір". Першыя гады пасля вайны — гэта, ва ўспрыманні жыхароў Міра, перыяд адбудовы разбураных дамоў, дэфіцыту ежы, адзення і абутку. Тым не менш, яны падкрэсліваюць, што насельнікам Усходняй Беларусі жылося ў гэты час яшчэ цяжэй. Паводле перакanання жыхароў Міра, „за Польшчай" узровень жыцця ў мястэчку быў куды вышэйшы, чым у першыя пасляваенныя гады. У такіх умовах квітнеў нелегальны гандаль, які дзяржавай разглядаўся як спекуляцыя. Гэты гістарычны перыяд у Заходняй Беларусі атрымаў назву „другіх Саветаў". Паводле сведчанняў, прыведзеных у кнізе, жыхары Міра ўсведамлялі, што новую ўладу ажыццяўлялі людзі прыезджыя, перш за ўсё з Расіі, а шанцы на кар'еру для прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва павялічвала партызанскае мінулае. У кнізе знайшло адлюстраванне стаўленне жыхароў Міра да пасляваеннай калектывізацыі. З успамінаў рэспандэнтаў вынікае, што гэтае стаўленне шмат у чым залежала ад маёмаснага становішча канкрэтнага гаспадара. Інфарматары з роспаччу ўспамінаюць сталінскі перыяд, які атаясамліваецца з вайной, голадам, раскулачваннем, арыштамі і высылкамі. Яны не хаваюць свайго непрыхільнага стаўлення да дзяржаўных улад, якія ўжывалі рэпрэсіі супраць жыхароў, у прыватнасці, за ўдзел у рэлігійным жыцці.

Рэспандэнты больш падрабязна апісваюць пасляваенны перыяд, чым міжваенны ці ваенны. Парадаксальна, што міжваенны і пасляваенны перыяды ацэньваюцца жыхарамі Міра вельмі падобна, хоць на самай справе

яны істотна адрозніваліся. Гісторыю XX ст. жыхары гэтага мястэчка, як і іншыя насельнікі Заходняй Беларусі, прывыклі дзяліць на наступныя перыяды: „за царом", „за Польшчай", „першыя Саветы", вайна („за немцамі") і „другія Саветы". У гэты час Мір зведаў істотныя сацыяльныя і эканамічныя трансфармацыі, якія закранулі ў першую чаргу маёмасны аспект. У міжваенны перыяд найвялікшым багаццем была зямля. Пасля вайны становішча змянілася, і індывідуальныя гаспадары апынуліся ў цяжкім становішчы. Іншым наступствам ваеннай віхуры стала адзначаная ў кнізе страта шматнацыянальнага характару мястэчка. З пасёлка назаўсёды знікла яго неад'емная частка — яўрэйскі субстрат разам з усім сваім багаццем.

Складанасць і разнастайнасць гісторыі ды традыцый Міра былі па-майстэрску рэканструяваныя ў памянёнай кнізе. Апрача падрабязнага аналізу ўспамінаў беларускіх, польскіх і татарскіх жыхароў Міра ў кнігу былі ўключаны пераклады лістоў і ўспамінаў яўрэйскіх выпускнікоў Мірскай ешывы. Без гэтага раздзела рэканструкцыя мікрагісторыі мястэчка, ажыццёўленая аўтарамі кнігі, была б няпоўнай. Успаміны яўрэяў служаць каштоўным дадаткам да згадак прадстаўнікоў іншых этнічных груп, якія нярэдка свядома ідэалізуюць сябе. Дадатковай вартасцю кнігі з'яўляецца змешчаны ў ёй ілюстрацыйны матэрыял з міжваеннага перыяду. Гэта і фотаздымкі найважнейшых будынкаў, і партрэты прадстаўнікоў княжацкага роду Святаполк-Мірскіх. Кніга „Мір: гісторыя мястэчка, што расказалі яго жыхары" — гэта праца, важная не толькі для жыхароў Міра і не толькі для жыхароў усёй Заходняй Беларусі. Яе варта ацэньваць і як важкі ўклад у агульнабеларускую гістарыяграфію. Урэшце, фіксацыя такой мікрагісторыі — вуснай гісторыі, расказанай непасрэднымі сведкамі падзей, — мае вялікае значэнне ў працэсе аднаўлення гістарычнай памяці беларускага народа.

Люблін *Анджэй Екацерынчук*

## MICHALUK, DOROTA. Białoruska Republika Ludowa 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, Wydawnictwo Naukowe Uniwersytetu Mikołaja Kopernika, 2010. 600 s.

Кніга „Беларуская Народная Рэспубліка 1918–1920. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці" даследчыцы Дароты Міхалюк выйшла ў 2010 г. у польскім навуковым выдавецтве Універсітэта Мікалая Каперніка (Торунь). Гэтая праца для звычайнага беларускага чытача, зрэшты, як і для абазнаных навукоўцаў, вельмі важная і знакавая. Пагодзімся, што беларуская гістарычная навука доўга чакала грунтоўнай, шматбаковай апрацоўкі гэтай тэмы. Хоць сёння ў Беларусі ніхто не рашыўся на такую агромністую працу (выключэнне — выданне архіваў БНР[1]), прабел у нашай гістарыяграфіі нарэшце запоўнены. Адказ на пытанне, чаму беларускія гісторыкі нават пасля развалу Савецкага Саюза пазбягалі шчыльнага дакранання да гэтай тэмы, доўга шукаць не трэба. Відавочна, што ў сучаснай Беларусі тэма ў навуковых колах застаецца ў пэўнай ступені забароненай і кан'юнктурна нявыгаднай. Без сумневу, сёння аб'ектыўна напісаную працу па гісторыі БНР у Беларусі ніводнаму гісторыку абараніць не ўдасца. Таму выданне гэтай кнігі, нават па-за межамі Беларусі, трэба вітаць, тым больш што аўтарка ажыццявіла сваё даследаванне на вельмі высокім прафесійным узроўні.

Праца Дароты Міхалюк — гэта дысертацыя на атрыманне навуковай прафесарскай ступені, таму з метадалагічнага пункту гледжання падрыхтавана бездакорна.

Кніга складаецца з сямі раздзелаў: „Беларусь і яе насельніцтва ў XIX і на пачатку XX ст.", „Дзейнасць палітычных груповак на беларускіх тэрыторыях перад Першай сусветнай вайной", „Ад Вялікага Княства

[1] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі / рэд. С. Шупа. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага, 1998. Т. 1–2.

Літоўскага да Беларускай Народнай Рэспубліцы. Беларуская дзяржаўная ідэя ў 1914–1917 г.", „Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Канцэпцыя межаў і сімволіка дзяржавы", „Тры ўрады Беларускай Народнай Рэспублікі і іх дзейнасць у перыяд ад сакавіка да кастрычніка 1918 г.", „У чаканні мірнай канферэнцыі. Дзейнасць урада Антона Луцкевіча ў Беларусі", „Урад Антона Луцкевіча на міжнароднай арэне", змешчаны таксама 10 картаў і 33 фотаздымкі.

Аўтарка выкарыстала матэрыялы з Архіва новых актаў у Варшаве, Архіва канцылярыі прэзідэнта ў Празе, Цэнтральнага вайсковага архіва (Варшава), Дзяржаўнага архіва ў Любліне, Беларускай бібліятэкі і музея Францішка Скарыны ў Лондане, Інстытута Юзэфа Пілсудскага (Лондан), Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва ў Вільні, Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук (Вільня), Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ў Мінску, Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі, Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Расійскага вайсковага архіва ў Маскве, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва вышэйшых органаў улады і ўпраўлення Украіны (Кіеў), а таксама дакументальныя крыніцы, публікацыі, успаміны, прэсу разгляданага перыяду і больш як 200 навуковых распрацовак таго часу.

Найбольш наватарская частка працы прысвечана канцэпцыям межаў БНР (пакуль што названая праблема так грунтоўна не разглядалася). Даследчыца звяртае ўвагу чытача на непадрыхтаванасць беларускай дэлегацыі да перамоваў з прадстаўнікамі УНР наконт межаў паміж дзвюма дзяржавамі. Так, рэпрэзентанты ўрада БНР Аляксандр Цвікевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, прадстаўнікі беларускага асяродку ва Украіне І. Курыловіч, Язэп Фарботка, Лявон Леўшчанка, Іван Краскоўскі не мелі прынятай агульнай канцэпцыі ўсталявання межаў, „пратаколы паседжанняў указваюць на тое, што яе сябры да двухбаковай размовы селі без папярэдняй дыскусіі з кансультантамі і без распрацаванай агульнай пазіцыі", разлічваючы на тое, што межы на гэтай частцы кантынента ўсталююць на мірнай канферэнцыі

на Захадзе. Невядома да чаго магла б прывесці такая наіўнасць і халатнасць беларускіх рэпрэзентантаў, калі б не ўмяшальніцтва ў перамовы прафесара Мітрафана Доўнара-Запольскага, які ў пройгрышнай для беларускага боку сітуацыі праз асабістае знаёмства з нямецкім паслом у Кіеве дамагаўся спынення беларуска-ўкраінскіх перамоваў. Відавочна, слабасць беларускага боку была і ў тым, што, у адрозненне ад украінцаў, беларусы не мелі навуковага асяродку (напрыклад, Кіеўскі ўніверсітэт), таму не было не толькі пляцоўкі для папярэдняй дыскусіі, але і навуковых кадраў, якія маглі б заняцца распрацоўкай гэтага складанага пытання. Усе аргументы беларусаў заканчваліся спасылкамі на этнічную карту Яўхіма Карскага (1903), іншых статыстычных дадзеных і літаратуры яны проста не мелі. Зразумела, што праблемы і дыскусіі ў прадстаўнікоў БНР паўставалі не толькі з паўднёвай мяжой дзяржавы.

Кнігу можна ўвогуле ахарактарызаваць як энцыклапедычную працу па гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі. Кожны раздзел багаты на гістарычныя факты, аналіз, увядзенне ў навуковы зварот новых крыніц. Апрача таго, даследаванне смела можа дапоўніць і ўзбагаціць гісторыю беларускіх дыпламатычных стасункаў. Раздзел „Урад Антона Луцкевіча на міжнароднай арэне” паказвае, як фармавалася беларуская дыпламатыя, як урад БНР падзяляўся на розныя групоўкі, як знешнія фактары ўплывалі на прызнанне ці непрызнанне незалежнасці і самастойнасці БНР. Магчыма, менавіта рэаліі і вынікі Парыжскай мірнай канферэнцыі і паказваюць стан спеласці беларускай дыпламатыі і дзяржаўнасці, а дакладней, дэманструюць яе слабыя бакі. З дасягненняў беларускай знешняй палітыкі аўтарка называе прыхільнасць да беларускага нацыянальнага руху і да стварэння беларускай дзяржаўнасці чэшскага прэзідэнта Тамаша Масарыка. Прэм’ер БНР Антон Луцкевіч 17 красавіка 1919 г. быў у яго з візітам, нават дайшло да дамоўленасці пра абмен дыпламатычнымі прадстаўніцтвамі БНР у Празе і Чэхіі ў Горадні. Праўда, з-за змены палітычнай сітуацыі

да гэтага не дайшло. Таксама за вялікае дасягненне беларускія палітыкі лічылі згоду нямецкага МЗС на выдачу пашпартоў БНР, гэта было патлумачана як прызнанне беларускай дзяржавы нямецкім бокам. Да дасягненняў можна далучыць і прызнанне дэ факта ўрадам Фінляндыі ў снежні 1919 г. урада БНР. Мяркую, што Фінляндыя пайшла на гэты крок не толькі з-за нейкай эканамічнай выгады, але і з разумення становішча Беларусі, а дакладней — становішча народаў, што ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі і змагаліся за самавызначэнне. Фінляндыя, маючы ўласны досвед знаходжання ў Расійскай імперыі на правах аўтаноміі, хутчэй магла зразумець нацыянальныя рухі, якія паўставалі на тэрыторыях былой Расійскай імперыі. Калі гаварыць пра іншыя краіны, ад якіх залежаў вынік Парыжскай мірнай канферэнцыі, то для іх Беларусь ці не існавала, ці існавала як частка нейкага іншага палітычнага ўтварэння. Так, Дарота Міхалюк канстатуе, што Францыя бездыскусійна лічыла Беларусь часткай Расіі, хоць, магчыма, Беларусь магла атрымаць права аўтаноміі. У сваю чаргу беларускія палітыкі да планаў далучэння беларускіх земляў да Расіі, нават калі перамогу атрымаюць белыя, ставіліся даволі скептычна, бо ўрад А. Калчака спачатку не прызнаваў нацыянальных правоў беларусаў. Таксама беларусы не знайшлі паразумення з літоўцамі і не змаглі выступіць адзіным фронтам пад час перамоваў. Так, прадстаўнік Вялікай беларускай рады ў Тарыбе (рэпрэзентацыйны орган беларусаў на канферэнцыі) Дамінік Сямашка, без згоды і ведама А. Луцкевіча, даводзіў, што беларусы чакаюць утварэння літоўскай дзяржавы і падтрымаюць барацьбу за яе незалежнасць. Аднак не ўспамінаў пра тое, што беларускі бок згодны падтрымаць утварэнне Літвы толькі пры той умове, што ў яе склад увойдуць усе беларускія землі, а гэта значыць і Міншчына, і ўсходняя Беларусь, а не толькі тэрыторыі Віленшчыны і Гарадзеншчыны, якія літоўцы называлі часткай сваіх этнічных земляў. У сваю чаргу літоўцы лічылі, што беларусы не з’яўляюцца народам, а іх дзяржаўныя амбіцыі не павінны брацца пад

увагу заходнімі дзяржавамі. Моцным ударам для беларускай дэлегацыі быў той факт, што Раман Скірмунт, які меў досвед міжнародных перамоваў і мусіў быць сябрам беларускай дэлегацыі, так і не патрапіў у Парыж, бо не хацеў ехаць праз Берлін і абмежаваўся перамовамі з Ю. Пілсудскім у Варшаве. На сустрэчы з польскім лідарам 19 ліпеня 1919 г. Р. Скірмунт дамагаўся стварэння беларускага ўрада ў форме краёвага прадстаўніцтва, але ідэя не знайшла падтрымкі ў Пілсудскага. Гэта быў далёка не адзіны удар, які атрымалі беларускія рэпрэзентанты пад час перамоваў у Парыжы. Так, аўтарка прыводзіць даволі цікавы гістарычны факт, які дагэтуль не быў уключаны ў навуковы зварот: адбыўся дыпламатычны казус ці, хутчэй, правакацыя, інспіраваная польскім бокам. Антон Луцкевіч быў запрошаны на сустрэчу з прэм’ерам Польшчы Падарэўскім. Сустрэчу арганізоўваў граф Міхаіл Тышкевіч, сярод іншых пытанняў мусіла абмяркоўвацца магчымасць стварэння беларускага войска. Калі А. Луцкевіч прыехаў у Варшаву 1 верасня 1919 г. і прыйшоў у Каралеўскі Замак, дзе мясцілася рэзідэнцыя прэм’ера, то высветлілася, што прэм’ер не быў папярэджаны пра візіт Луцкевіча і за дзень да гэтага выехаў у Парыж. Тлумачэння сітуацыі А. Луцкевіч не знайшоў і ў польскім Міністэрстве замежных спраў, больш за тое, пашпарт грамадзяніна БНР А. Луцкевіча МЗС Польшчы не прызнала, у выніку стварыліся перашкоды для вяртання беларускага прэм’ера ў Парыж.

Трэба адзначыць, што Англія, у адрозненне ад Францыі, была за ўтварэнне незалежных ад Расіі дэмакратычных балтыйскіх дзяржаваў, у гэтым яна бачыла найперш эканамічныя выгады для сябе — кантроль над значнай часткай гандлю. Таксама Вялікабрытанія засцерагалася, што Савецкая Расія і Нямеччына могуць дамовіцца. Яшчэ да свайго няўдалага выезду ў Варшаву А. Луцкевіч прадставіў некалькі рэфератаў на канферэнцыі, у якіх звяртаў увагу на тое, што калі Беларусь і ўвойдзе ў палітычны саюз з нейкай дзяржавай, то толькі пры захаванні роўных палітычных правоў са сваім саюзнікам, гэта значыць на ўмовах федэрацыі,

што такі палітычны саюз можа дыктавацца эканамічнай выгадай для краіны, напрыклад, магчымасцю выкарыстання балтыйскіх партоў. Сярод партнёраў у першую чаргу бачыліся Літва і Латвія, якія мелі доступ да Балтыкі. Разглядаўся і саюз з Украінай, каб мець доступ да Чорнага мора. Праект федэрацыі з Украінай горача падтрымліваў А. Цвікевіч, які пад час сваіх палітычных візітаў ва Украіну наладзіў шматлікія кантакты ў палітычных колах. Магчымасць федэрацыі з Расіяй разглядалася толькі пры ўмове ўсталявання там дэмакратычнай палітычнай сістэмы. Трэба адзначыць: беларускую дэлегацыю аслабіла і тое, што, акрамя ваенных калізій, пад час мірнай канферэнцыі стварыўся іншы ўрад БНР на чале з В. Ластоўскім.

Спыняючыся на міжнароднай палітыцы, неабходна яшчэ раз звярнуць увагу на тое, што прадстаўнікі ўрадаў БНР мелі не толькі розныя палітычныя погляды, але і рознае бачанне знешніх палітычных адносінаў. Як адзначае аўтарка, А. Цвікевіч быў за кантакты і саюз з Украінай, К. Езавітаў — за супрацу з Латвіяй і Эстоніяй, А. Смоліч і Б. Тарашкевіч схіляліся ў бок Польшчы, П. Бадунова — за супрацоўніцтва з савецкай Расіяй, Антон Луцкевіч быў прыхільнікам федэрацыі ў шырокім сэнсе ва Усходняй Еўропе, з цяжкасцю развітваўся з ідэяй беларуска-літоўскага саюзу і вымушаны быў схіліцца да супрацы з Польшчай, у сваю чаргу эсэраўскі ўрад Ластоўскага жорстка адмежаваўся ад прапольскіх тэндэнцый.

Даследчыца аналізуе і праблему фармавання войска БНР, дакладней, складанасці і перашкоды ў першую чаргу з боку Польшчы, з якімі сутыкаліся беларускія дзеячы, спрабуючы вырашыць гэтую праблему. Варта адзначыць, што названая праблематыка ў асноўным раскрываецца са спасылкамі на папярэднія даследаванні гэтай тэмы Алегам Латышонкам.

Аўтарка разглядае тэму бежанства ў Беларусі пад час Першай сусветнай вайны, звяртаючы ўвагу на тое, што калі б не было бежанства, то ідэя стварэння незалежнай дзяржавы БНР знайшла б больш прыхільнікаў. Мне па-

даецца, што польскія гісторыкі, а дакладней беларускія гісторыкі ў Польшчы, звяртаюць больш увагі на праблему бежанства, чым іх калегі ў Беларусі. Магчыма, гэта звязана з тым, што бежанства закранула Беласточчыну і Гарадзеншчыну, таму тут яшчэ спрацоўвае фактар калектыўнай гістарычнай памяці. А для беларускіх гісторыкаў, асабліва з усходняй Беларусі, гэтая тэма, магчыма, застаецца калі не чужой, то малавядомай.

Не абмінула даследчыца і праблему паланізацыі. Для прыкладу падаецца той факт, што да восені 1919 г. са 150 беларускіх пачатковых школ на Гарадзеншчыне і Віленшчыне, якія функцыянавалі ў часы нямецкай акупацыі, дзейных засталося толькі 20. Таксама польскія ўлады закрылі беларускія гімназіі ў Будславе і Горадні, а ў Слуцку і Вільні абмежавалі іх дзейнасць. З-за браку фінансавання перасталі працаваць беларускія настаўніцкія семінарыі ў Нясвіжы і Барысаве.

Хацелася б, каб кніга Дароты Міхалюк як найхутчэй была перакладзена на беларускую мову і каб як мага больш беларускіх чытачоў мелі магчымасць з ёю пазнаёміцца.

Варшава *Анастасія Ільіна*

## Kościół katolicki na Wchodzie w warunkach totalitaryzmu i posttotalitaryzmu / Pod red. ANDRZEJA GILA i WITOLDA BOBRYKA. Siedlce — Lublin, Akademia Podlaska, Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2010. 141 s.

Даследаванне гісторыі і сучаснага стану Каталіцкай царквы ў былой савецкай дзяржаве і постсавецкіх рэспубліках застаецца актуальнай праблемай як у навуковым, так і ў практычным плане. Новыя падыходы да асэнсавання яе ролі ў гістарычным, культурным, грамадска-палітычным жыцці пачаліся ў канцы

1980-х г. Гэтаму ў значнай ступені спрыялі працэсы дэмакратызацыі, якія ахапілі не толькі рэспублікі СССР, але і ўвесь сацыялістычны лагер.

За гэты час з’явіліся шматлікія публікацыі — як у Беларусі, так і за яе межамі, — дзе даследчыкі раскрываюць драматычнае становішча Каталіцкай царквы ў перыяд ад кастрычніцкай рэвалюцыі да канца 1980-х г. Істотна, што выкарыстоўваецца шмат крыніц, раней недаступных даследчыкам, і што гісторыя Каталіцкай царквы асвятляецца не з марксісцкіх, класавых падыходаў, а з пазіцый агульначалавечых, гуманістычных каштоўнасцяў.

Рэцэнзаваны зборнік складаецца з шасці артыкулаў, аўтары якіх — польскія даследчыкі — прапануюць сваё бачанне праблем Каталіцкай царквы ў СССР і БССР і Грэка-каталіцкай — на Украіне. Прычым апошняй тэматыцы прысвечаны чатыры артыкулы. Храналагічна яны ахопліваюць перыяд ад пачатку 1920-х г. да цяперашняга часу. Аўтары выкарыстоўваюць разнастайную базу крыніц — шэраг украінскіх, польскіх архіваў, архіва Ватыкана, а таксама апублікаваных дакументаў і даследаванняў гісторыкаў. Варта адзначыць, што разгляданыя праблемы ў большасці сваёй вядомыя толькі сціcламу колу даследчыкаў, таму зборнік дае магчымасці пашырыць веды шырокай грамадскасці пра драматычную гісторыю Каталіцкай царквы ў СССР.

Без грунтоўнага яе асвятлення, узаемадачыненняў з дзяржавай, уплыву знешніх і ўнутраных фактараў на рэлігійнае жыццё і канфесійныя адносіны немагчыма паўнавартаснае вывучэнне мінулага. Каталіцкая царква гістарычна была звязана з духоўнай культурай і сацыяльна-палітычным жыццём краіны і народа. І толькі ў савецкай дзяржаве яе ролю імкнуліся ўсяляк зменшыць. З іншага боку, калі дзяржава зацікаўлена, каб пісьменна будаваць палітыку і адносіны з Каталіцкай царквой і іншымі канфесіямі, яна павінна ўлічваць вопыт мінулага.

Апублікаваныя ў зборніку артыкулы не звязаны паміж сабою ўнутраным адзінствам і паслядоўнасцю ў рас-

працоўцы канкрэтнай тэмы, таму рэцэнзент палічыў мэтазгодным прааналізаваць кожны з іх. Артыкул Мацея Мруза (Уроцлаў) „Місія Джаванні Джэноччы як апостальскага візітатара для Украіны ў 1920–1921 г." асвятляе малавядомую старонку ватыканскай дыпламатыі ў вырашэнні праблем грэка-каталікоў у Галіччыне і Наддняпроўскай Украіне. Аўтар адзначае, што Ватыкан імкнуўся выкарыстаць перамены, якія адбыліся ў пачатку 1920-х г. у цэнтральнаеўрапейскім рэгіёне з мэтай умацавання тут сваіх пазіцый. Асаблівая ўвага Апостальскай Сталіцы была прыцягнута да Украіны, дзе жыла значная колькасць грэка-каталікоў. Ватыкан быў зацікаўлены, каб мець інфармацыю пра палітычную сітуацыю ў рэгіёне, пра планы Польшчы і Расіі, становішча ўкраінскай грэка-каталіцкай супольнасці. У сваю чаргу, дыпламатычнае прадстаўніцтва Украінскай Народнай Рэспублікі было зацікаўлена ў падтрымцы Ватыканам УНР. Аўтар паказаў, з якой стараннасцю рыхтавалася місія, як дэталёва ўлічвалася міжнароднае становішча і вызначаліся задачы апостальскага візітатара.

Лаканічна раскрываюцца складаныя абставіны дзейнасці айца Джаванні Джэноччы. Апостальскі візітатар наладзіў сувязі з мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім, ватыканскім нунцыем у Варшаве айцом Рацці, украінскімі палітычнымі коламі. Як абаронца інтарэсаў грэка-каталікоў, а. Джаванні Джэноччы крытычна ставіўся да палітыкі Польшчы ў польскім пытанні на Украіне, таму ў ліпені 1920 г. вымушаны быў з-за гэтага пакінуць Варшаву і пераехаць у Вену. Тут ён прадоўжыў дзейнасць у імя Украіны і Усходняй Галіцыі, але яна не мела станоўчых вынікаў і ў хуткім часе выклікала незадавальненне як Ватыкана, так і дыпламатыі УНР. Тым не менш, для самога а. Джаванні Джэноччы місія не прайшла бясследна. У 1923 г. ён зноў прыехаў у Польшчу ў якасці папскага дэлегата па справах Грэка-каталіцкай царквы ў Польшчы.

Даследчык Анджэй Гіль (Люблін — Седльцэ) у артыкуле „На дарозе да знішчэння. Каталікі ў БССР у 20–30-я г. ХХ ст." на значным фактылагічным матэры-

яле раскрыў няпростую сітуацыю Каталіцкай царквы і метады яе знішчэння ў БССР бальшавікамі. Цікава, як ацэньвае аўтар савецка-ватыканскія адносіны. Даследчык выказаў думку, што Каталіцкая царква з пункту гледжання яе структуры і значэння была трактавана бальшавікамі як адзін з магчымых інструментаў да легітымізацыі іх улады ў Еўропе і ў свеце. Але даследчык не падаў ніводнага факта, каб пацвердзіць свой тэзіс. Больш за тое, прыведзеныя ім факты сведчаць аб адваротным, і гэта падкрэслівае сам аўтар: бальшавікі нізка ацэньвалі міжнародную пазіцыю Ватыкана і нават ігнаравалі яе. Прадпрыманыя ватыканскай дыпламатыяй спробы дасягнуць паразумення ў справе становішча Каталіцкай царквы ў СССР не прынеслі чаканых вынікаў. Кропкай над „і", лічыць аўтар, стаў візіт восенню 1927 г. нунцыя Эўгеніа Пацэллі да наркама замежных справаў Чычэрына, які ў той час знаходзіўся ў Берліне.

Аўтар бачыць адной з важкіх прычын знішчэння Каталіцкай царквы ў БССР яе моцныя прапольскія карані, апору на палякаў-каталікоў, сувязь з Польшчай. Сталінскае кіраўніцтва разглядала Польшчу як свайго заклятага ворага, таму лёгка знаходзіла яе „агентуру" сярод каталіцкага духавенства і вернікаў.

Аднак пры гэтым нельга пагадзіцца з высновай аўтара наконт таго, што палякі, у адпаведнасці са сталінскай палітыкай, былі прызнаны небяспечным элементам для савецкай дзяржавы і падлягалі поўнай ліквідацыі. Гэтая палітыка, піша аўтар, рэалізоўвалася на тэрыторыі БССР. Варта адзначыць, што „небяспечным элементам" для сталінскай сістэмы былі не толькі палякі, але і шмат іншых нацыянальнасцяў, каталіцкія супольнасці (лацінскага і грэка-каталіцкага абрадаў) ва ўсіх савецкіх рэспубліках, дзе яны існавалі.

Аўтар надае важнае значэнне перабудове для лёсу Каталіцкай царквы ў СССР, паступовай змены дзяржаўнай канфесійнай палітыкі з другой паловы 1980-х г. Падкрэсліваецца выключная роля папы Яна Паўла II у актывізацыі рэлігійнага жыцця ў былых савецкіх рэспубліках.

У артыкуле вядомага польскага гісторыка ксяндза прафесара Рамана Дзванкоўскага SAC даецца кароткі агляд савецка-ватыканскіх адносінаў у пасляваенны перыяд. Аўтар выяўляе іх асаблівасці ў перыяд пантыфікату кожнага з Айцоў Каталіцкай царквы: Пія XII, Яна XXIII, Паўла VI і Яна Паўла II. Такі падыход уяўляецца слушным, бо дзейнасць кожнага папы — гэта своеасаблівы этап у гісторыі Каталіцкай царквы. Кс. прафесар Р. Дзванкоўскі адзначае паслядоўную дынаміку развіцця савецка-ватыканскага дыялогу, разглядае яго змест і асаблівасці. Разам з тым паказвае, што галоўнай перашкодай на гэтым шляху была праблема праследу Каталіцкай царквы і парушэння правоў вернікаў у СССР, з чым ніяк не магла прымірыцца Апостальская Сталіца. Савецкая ўлада лічыла рэлігійнае пытанне ў СССР канчаткова вырашаным, а спробы ўздымаць яго Ватыканам разглядала як умяшальніцтва ва ўнутраныя справы краіны. Ватыкан жа, як цэнтр сусветнага каталіцызму, у якасці найважнейшай умовы нармалізацыі адносінаў з СССР выстаўляў карэннае паляпшэнне становішча Каталіцкай царквы, забеспячэнне рэлігійнай свабоды, стварэнне касцельнай іерархіі ў Беларусі.

Цікавым і праблематычна пададзеным уяўляецца артыкул Уладзіміра Асадчага (Люблін) „Радасці і нягоды Каталіцкай царквы на Украіне”. Аўтар зрабіў кароткі экскурс у гісторыю хрысціянства ва Украіне. Асаблівасць гэтай краіны, у адрозненне ад іншых постсавецкіх рэспублік, — наяўнасць тут каталіцтва ў трох абрадах: лацінскім, уніяцкім і рэдка згадваным армяна-каталіцкім. У савецкі час каталіцызм вынішчаўся савецкай уладай па ідэалагічных і палітычных меркаваннях. Аўтар схематычна разглядае асаблівасці працэсу адраджэння каталіцкага рэлігійнага жыцця, які пачаўся ў выніку гарбачоўскай перабудовы. Асноўны ж акцэнт зроблены на сучасным стане і праблемах лацінскага каталіцызму.

У новых гістарычных рэаліях найбольшыя цяжкасці звязаны, як падае даследчык, з „адрачэннем ад стэрэатыпаў”, якія сфармаваліся гістарычна і культурна на працягу стагоддзяў. Перш за ўсё, сцвярджае аўтар, у ма-

савай свядомасці ўкраінцаў каталіцызм яшчэ лічыцца з'явай чужой, як польская Каталіцкая царква, і нават як вынік чужой духоўнай экспансіі Захаду на землі Святой Русі. Другі распаўсюджаны стэрэатып — прызнанне Украіны Маскоўскім Патрыярхатам як „кананічнай тэрыторыі Праваслаўнай царквы".

Але найбольшы клубок праблем, лічыць аўтар, застаецца ў заходніх абласцях Украіны, дзе сутыкаюцца абедзве каталіцкія традыцыі — лацінская і ўсходняя (грэка-каталіцкая). І хоць там большасць складаюць каталікі заходняга абраду, тым не менш лацінскі рух разглядаецца як чужы, польскі ўплыў у мясцовай культуры Украіны.

Прыводзіцца шмат прыкладаў, якія сведчаць пра ўціск лаціна-каталікоў на Украіне: гэта і адмаўленне „дэмакратамі" Львова як епіскапскай сталіцы, выступленні супраць намінацыі каталіцкага епіскапа Мар'яна Яварскага, а таксама прызнанне Украіны „кананічнай тэрыторыяй" Праваслаўнай царквы, адмова каталікам у вяртанні іх храмаў.

Аўтар робіць з усяго сказанага высновы, што найважнейшая прычына канфлікту — той факт, што „адроджаная лацінская Каталіцкая царква не ўпісваецца ў каноны нацыянальнай Каталіцкай царквы. Для многіх адэптаў нацыяналістычнай ідэалогіі, як і для камуністаў у свой час, найлепшым вырашэннем праблемы было б пераўтварэнне лацінскай Каталіцкай царквы ў анклаў, які наведваюць асобы старэйшага ўзросту. У недалёкім будучым такая Каталіцкая царква павінна была б знікнуць з украінскай канфесійнай карты".

У той жа час, насуперак памкненням нацыяналістаў і часткі грэка-каталікоў, лацінская Каталіцкая царква імкнецца рэалізаваць канцэпцыю ўсеагульнай Каталіцкай царквы. Заходняя традыцыя адыходзіць ад стэрэатыпу, згодна з якім украінскае насельніцтва атаясамліваецца з Усходняй царквой, а каталіцызм з „польскай верай". Ён павінен выконваць сваю евангелічную місію на той мове, якой вернікі карыстаюцца ў штодзённым жыцці і якую лічаць роднай.

Томаш Шышлак (Уроцлаў) у артыкуле „Дзве Царквы па абодва бакі ад Карпат. Сучасны стан грэка-каталіцызму на Украіне" разглядае праблемы, якія ўзніклі ў сувязі з дзейнасцю Каталіцкай царквы ўсходняга абраду. Прычым, у адрозненне ад іншых еўрапейскіх дзяржаў, толькі ва Украіне гістарычна існуюць дзве грэка-каталіцкія царквы. Адна з іх у Закарпацці, якое ў мінулым было Руссю, або Украінай Закарпацкай. Тут дзейнічае адзіная грэка-каталіцкая мукачаўская дыяцэзія, якая ў літургіі выкарыстоўвае візантыйска-рускі чын і з-за гэтага атаясамліваецца з Русінскай грэка-каталіцкай царквой. Другая ж грэка-каталіцкая царква ахоплівае сваім уплывам тэрыторыі на поўнач ад Карпацкіх хрыбтоў і знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Украінскай грэка-каталіцкай царквы (УГКЦ). Праблемы іх дзейнасці і ўзаемаадносінаў носяць не толькі гістарычны, але і нацыянальны і палітычны характар. Аўтар падрабязна асвятляе дыскусійныя пытанні, якія абвастрыліся ў 90-я г. XX ст. Многія з іх так і не знайшлі свайго вырашэння да сёння.

Прыведзеныя аўтарам сацыялагічныя дадзеныя паказваюць, наколькі глыбока грэка-каталіцызм умацаваўся ў Закарпацці: калі 38,84% вернікаў ідэнтыфікуюць сябе з праваслаўем, то не намнога менш — 37,19% — з грэка-каталіцызмам. Пры гэтым Каталіцкай царкве ўсходняга абраду „сімпатызуюць" 41,25% тамтэйшых украінцаў, 57,14% русінаў, 30,77% венграў, 50% славакаў, 16,7% расіян. У 50 з больш як 400 парафій у Закарпацці літургія праводзіцца па-венгерску, у 4 — па-румынску, у большасці парафіяльнай мовай застаецца царкоўнаславянская. У гэтым вялікая розніца паміж Грэка-каталіцкій царквой у Закарпацці і Украінскай грэка-каталіцкай царквой.

Аўтар разглядае шэраг іншых дыскусійных праблем, у прыватнасці, падпарадкавання мукачаўскай дыяцэзіі Апостальскай Сталіцы ці Львоўскай мітраполіі Украінскай грэка-каталіцкай царквы, адносіны з лацінскай Каталіцкай царквой, вяртання адабраных у савецкі час святыняў, дзейнасць Апостальскай Сталіцы па вырашэнні праблем грэка-каталікоў ва Украіне і інш.

Намінацыя Ватыканам двух дапаможных епіскапаў — Мархітыча для вернікаў украінскай нацыянальнасці і Галавача — для іншых (русінаў, венграў, румынаў, славакаў, немцаў, палякаў) была скіравана, на думку аўтара, на захаванне гістарычнай традыцыі, этнічнай і канфесійнай разнастайнасці, а таксама лепшай апекі над грэка-каталікамі Закарпацця. Але гэта не стрымала імкнення часткі іерархіі да яднання з Украінскай грэка-каталіцкай царквой. Увосень 1996 г. епіскап Мархітыч на пленарным паседжанні Патрыяршага Сабору ў Львове публічна зачытаў ад імя сваіх дыяцэзіян ліст да іерархаў Украінскай грэка-каталіцкай царквы, у якім выказвалася ідэя: хочам мець адзіную Грэка-каталіцкую царкву ў адзінай вольнай Украіне.

У артыкуле разглядаецца праблема аб'яднання УГКЦ і Праваслаўнай царквы, што знаходзіцца ў юрысдыкцыі Кіеўскага Патрыярхата, у адзіную Кіеўскую царкву. Але гэты шлях вельмі складаны. Перш за ўсё, мяркуе аўтар, павінна дайсці да яднання Рускай праваслаўнай і Украінскай праваслаўнай царквы. Аўтар прыводзіць факты ў пацвярджэнне таго, што ідэя яднання выклікала не толькі дыскусіі, але і ў пэўнай ступені стварыла напружанасць у адносінах паміж рознымі канфесіямі.

Акрэслены таксама складаныя адносіны УГКЦ з уладай. Па сцверджанні аўтара, улады не праводзяць адзінай для ўсёй краіны палітыкі ў дачыненні да Грэка-каталіцкай царквы. У сваю чаргу, іерархія УГКЦ лічыць, што дзяржава павінна прызнаць Каталіцкую царкву ахвярай сталінізму і камуністычнага рэжыму, рэабілітаваць яе духавенства.

Сітуацыя Украінскай грэка-каталіцкай царквы (на паўночным баку Карпат), піша аўтар, значна лепшая, але не да канца ўнармаваная. Ва ўмацаванні пазіцый Каталіцкай царквы вялікая роля належала віднаму грэка-каталіцкаму кардыналу (з 1975 г. патрыярху) Іосіфу Сліпому. Перанясенне сядзібы УГКЦ з Львова ў Кіеў дало магчымасць Грэка-каталіцкай царкве праводзіць сумесна з Украінскай праваслаўнай царквой Кіеўска-

га Патрыярхату працу над збліжэннем гэтых канфесій і стварэннем адзінай Кіеўскай царквы.

Даследчык Вітольд Бобрык з Седльцаў у артыкуле „Да праблемы геаграфіі размяшчэння грэка-каталіцкіх ордэнаў у сучаснай Украіне" вызначыў этапы дзейнасці грэка-каталіцкіх законаў у краінах былога ўсходняга блоку і ва Украіне.

Як сцвярджае аўтар, нешматлікія суполкі сясцёр і братоў законных спачатку дзейнічалі толькі на тэрыторыі СССР і Румыніі. У той жа час у краінах сацыялізму грэка-каталіцкія кляштары не падлягалі ліквідацыі. У артыкуле прыводзіцца колькасны склад, тэрытарыяльнае размяшчэнне законаў. Найбольш іх знаходзілася ў Галіцыі і Закарпацці. Дзейнасць законаў ажывілася пасля распаду СССР. Цяпер, адзначае аўтар, Украінская грэка-каталіцкая царква ў мэтах аказання вернікам, якія жывуць за межамі краіны, пастырскіх паслуг, праводзіць дзейнасць на тэрыторыі іншых дзяржаваў. У прыватнасці, называюцца гарады Вільня, Пракоп'еўск у Сібіры, Караганда, Астана (Казахстан), Полацк, Мінск (Беларусь). Па адной пляцоўцы грэка-каталіцкіх законаў ёсць у Нямеччыне і Грэцыі. Аднак аўтар не раскрывае ўмоваў існавання і дзейнасці грэка-каталіцкіх законаў, таму артыкул носіць толькі інфармацыйны характар.

Падсумоўваючы сказанае, варта адзначыць, што рэцэнзаваны зборнік з'яўляецца пэўным укладам у даследаванне канфесійнай праблематыкі, у прыватнасці, каталіцызму заходняга і ўсходняга абрадаў. Многія з абазначаных аўтарамі праблем патрабуюць больш грунтоўнага вывучэння — не толькі замежнымі, але і беларускімі вучонымі. Праўда, даводзіцца канстатаваць, што ў нашым грамадстве ў вывучэнні гісторыі Каталіцкай царквы працягваюць панаваць стэрэатыпы сталінскага часу, што не толькі стрымлівае развіццё навуковых даследаванняў, але і наносіць непапраўную страту беларускай гістарычнай навуцы.

Гродна *Эдмунд Ярмусік*

## АДАМКОВІЧ, АЛЯКСАНДР. Беларусы ў Літве ўчора і сёння. Кн. I. Вільня: Таварыства беларускай культуры ў Літве, 2010. 200 с.

На першы погляд выданне выглядае вельмі грунтоўна, калі не сказаць — манументальна. Пазнака „Кніга I" дае падставы думаць, што аўтары маюць матэрыял не на адзін выпуск. Прадмову да кнігі напісала доктар навук загадчыца кафедры беларусістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта Лілея Плыгаўка.

Сама кніга складаецца з дзвюх слаба звязаных паміж сабою частак. Першая — зборнік дакументаў па гісторыі беларускага нацыянальнага руху ў Вільні і на Віленшчыне, выяўленых аўтарам-укладальнікам у Цэнтральным дзяржаўным архіве Літоўскай Рэспублікі. Другую частку склалі інтэрв'ю, якія ўзяў Аляксандр Адамковіч у беларусаў сённяшняй Вільні.

Тое, што Адамковіч вырашыў апублікаваць і зрабіць даступнымі дакументы з гэтай архіўнай установы, трэба вітаць. Дакументы ў кнізе разбіты на тэматычныя раздзелы: адукацыя, друк, палітычныя арганізацыі і да т. п. Яны павінны данесці да чытача дух часу міжваеннай Вільні, дапамагчы разабрацца ў хітраспляценнях штодзённасці гэтага важнага для фармавання беларускай нацыі перыяду.

Калекцыі Дзяржаўнага архіва Літоўскай Рэспублікі па шэрагу прычын і сёння малавядомыя беларускім гісторыкам, менавіта таму аўтар мог бы падаць кароткі агляд калекцый гэтай установы, так ці іначай звязаных з беларусістыкай. Такі аналітычны матэрыял толькі б упрыгожыў кнігу і на многія гады зрабіў яе каштоўным даведнікам для беларускіх гісторыкаў не аднаго пакалення.

Таксама ўкладальнік не знайшоў патрэбы і часу на тое, каб патлумачыць чытачам, чаму ён выбраў для публікацыі тыя ці іншыя дакументы і хоць бы ў агульных рысах праясніць іх паходжанне.

Кідаецца ў вочы даволі нечаканы метадычны падыход у справе публікацыі гістарычных дакументаў, які

ўзяў на ўзбраенне публікатар. Рашэнне (даволі спрэчнае) іншамоўныя дакументы падаваць у перакладзе на беларускую мову можна яшчэ патлумачыць тым, што выдаўцам хацелася зрабіць кнігу больш масавай і даступнай для шырэйшага кола чытачоў. Але незразумела, чаму беларускія дакументы, напісаныя лацінскім алфавітам, трэба было абавязкова падаваць кірылічным пісьмом з дзіўнаватай пазнакай „тэкст напісаны лацінкай па-беларуску". Мала таго, што „лацінка" не з'яўляецца ясна акрэсленым тэрмінам, дык за мінулае стагоддзе з беларускім алфавітам на базе лацінскага пісьма адбыліся некаторыя змены. Але чаму калі ў адным дакуменце ўжываюцца два алфавіты, то пазнакі пра гэта няма? (с. 59–60).

Трэба думаць, Адамковіч ганарыцца аб'ёмам сваёй перакладчыцкай працы. Ён сапраўды ўражвае. Але ад кніжкі ў мяне было б куды лепшае ўражанне, каб укладальнік улічыў, што пераклад — гэта не толькі падбор адпаведнікаў з адной мовы на другую, але таксама і некаторая праца па адэкватнай перадачы іншамоўных імёнаў уласных. Іначай на с. 102 у спісе падпісчыкаў „Нашай Волі" я ніколі не сустрэў бы экзатычнае прозвішча „Сусемігл".

У тым, што ніхто з творчага калектыву не чуў пра Эдмунда Зузэміля (Susemihl) — аўтара „Нашай Нівы" і „Крывіча", нямецкага шпіёна, цэнзара газеты „Homan", сябра Ластоўскага — няма нічога страшнага. Хаця асабіста мяне гэтая акалічнасць насцярожвае. Але дзіўна, што ні ў кога ў калектыве, які рыхтаваў гэтую кнігу, не ўзнікла пытанняў пра транслітарацыю прозвішча жыхара нямецкага Кёнігсберга.

Выданне багата праілюстравана фотакопіямі з архіўных дакументаў, але думаю, што выдаўцам лепш было б устрымацца ад такога кроку. Простае параўнанне фотакопіі і публікацыі выяўляе стаўленне да працы з боку Адамковіча. І назваць той падыход старанным ці карпатлівым ніяк не выпадае. Каб не быць галаслоўным, зраблю параўнальны аналіз копіі дакумента і таго, што ў ім здолеў прачытаць архівіст. На с. 41 прыведзена фотакопія

пасведчання, выдадзенага Раку-Міхайлоўскаму, а на с. 63 — расчытаны тэкст гэтага дакумента.

Адразу кідаецца ў вочы тое, што публікатар ва ўсім тэксце скараціў „год” на „г.”, што не зусім уласціва мове 20-х гадоў мінулага стагоддзя, і абышоўся без шапкі і подпісу дакумента, ніякім чынам не пазначыўшы скарачэння. У табліцы падаюцца іншыя разыходжанні паміж арыгіналам і копіяй.

| **Фотакопія** | **Публікацыя** |
|---|---|
| Паказчык | Ўладальнік |
| Аляксандра, | Аляксандра |
| Менскае Беларускае Гімназіі | Менскай беларускай гімназіі |
| да траўня | па траўня |
| Вучыцельскае Сэмінарыі ў Борунах | вучыцельскае семінарыі ў Барунах |
| Вучыцельскіх Дадатковых | вучыцельскіх дадатковых |
| да 10 верасьня | па 10 верасьня |
| Аркадзь Смоліч Старшыня Цэнтральнае Беларускае Школьнае Рады | Старшыня Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады Аркадзь Смоліч |

Прыведзеныя недакладнасці выяўлены ў тэксце, які займае ў кнізе ¼ старонкі. Я думаю, гэта цяжка назваць публікацыяй. Магчыма, „адаптаваны пераказ” будзе больш дакладнай дэфініцыяй. Застаецца толькі здагадвацца, да якой ступені супадаюць астатнія дакументы са сваімі копіямі.

Узнікае пытанне — ці шмат у такой „публікацыі” архіўнага дакумента карысці, напрыклад, даследчыкам? Ім жа ўсё роўна давядзецца ісці ў архіў, каб пераправерыць калегу. Наўрад ці гэта нармальна, бо калегіяльнасць у першую чаргу грунтуецца на даверы. А ў выпадку з Адамковічам ніякіх падставаў для даверу не прасочваецца.

На вялікі жаль, сітуацыі не выправіў і другі раздзел выдання, у які ўвайшлі гутаркі Аляксандра Адамковіча з беларусамі-віленчукамі, цяперашнімі жыхарамі гістарычнай сталіцы. Калі да выбару герояў не можа быць заўваг, то змест гутарак, тое, якім чынам яны праведзе-

ны і якім чынам пададзены чытачу, выклікае сама менш здзіўленне.

Ва ўкладальніка не хапіла імпэту, каб кожнае інтэрв'ю праанансаваць кароткай біяграфіяй свайго суразмоўцы. Навошта? Ну хоць бы для таго, каб увесці чытача ў курс справы. Так ужо атрымалася, што імёны беларусаў-віленчукоў за межамі вузкага кола тутэйшых беларусаў практычна невядомыя.

У тым, што некаторыя інтэрв'юеры скарысталі гэтыя гутаркі як пляцоўку для самарэкламы, як месца, дзе можна паспрабаваць звесці старыя рахункі, я не бачу вялікай бяды. Урэшце, у кожнага сваё разуменне прыстойнасці. Але мне цяжка зразумець прычыны, па якіх гэтыя бясплённыя дыскусіі трапілі на старонкі кнігі. За межамі Вільні ўсе гэтыя даўнія і прынцыповыя спрэчкі паміж беларусамі — пусты гук. І публікацыя ў падтрымку таго ці іншага боку нічога прынцыпова не зменіць. Дык навошта пераводзіць паперу?

З другой часткі не вынікае, што Адамковіч адчувае сябе ўпэўнена ў жанры інтэрв'ю. Вялікай бяды ў гэтым няма. Навыкі прыходзяць з практыкай, досведам і крытычным асэнсаваннем вынікаў сваёй працы. Але калі ўжо так склалася, што апошнім пытаннем, зададзеным у размове, было „Дзе вы нарадзіліся?", то, можа, усё ж не варта смяшыць чытача і ў публікацыі пакідаць яго апошнім. А трэба на паперы перанесці пытанне куды належыць, а менавіта на пачатак. Каб размова была зразумелай для чалавека, які ніколі не чуў ні пра Адамковіча, ні пра яго суразмоўцаў.

Застаецца яшчэ дадаць, што ў кнізе, арыентаванай на „навукоўцаў і краязнаўцаў", адсутнічаюць персанальны і геаграфічны паказальнікі. Напэўна, апублікаваныя копіі і пераказы гістарычных дакументаў вельмі каштоўныя, патрэбныя для таго, каб уявіць, чым быў беларускі нацыянальны рух на Віленшчыне ў першай палове XX ст. Але пакарыстацца ўсім гэтым багаццем без навуковага апарату будзе цяжка.

Вільня *Андрэй Антонаў*

# Публікацыі па гісторыі ў часопісах Беларусі (2009)

*БГА адкрывае рубрыку „Агляд перыёдыкаў”, у якой будуць рэгулярна анатавацца часопісныя артыкулы і паведамленні па гісторыі Беларусі. У першым выпуску агляд абмежаваны айчыннымі выданнямі, у наступных плануецца змяшчаць анатацыі і на публікацыі ў замежных часопісах.*

## Беларускі гістарычны часопіс

„Беларускі гістарычны часопіс” выдаецца з 1993 г. і выходзіць штомесячна. Што часопіс уяўляе сабою аўтарытэтнае выданне, вынікае хаця б з пераліку яго заснавальнікаў, сярод якіх Міністэрства адукацыі, Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, Беларускае таварыства „Веды”. Пазіцыянуецца як „навуковы, навукова-метадычны ілюстраваны часопіс”, г. зн., акрамя ўласна гістарычных тэкстаў, у гэтым перыёдыку друкуюцца таксама артыкулы па методыцы выкладання гісторыі, матэрыялы да ўрокаў і г. д. Наколькі гэта мэтазгодна, улічваючы наяўнасць спецыялізаванага выдання „Гісторыя: праблемы выкладання”, сказаць складана. Што датычыцца „гістарычнай часткі”, то ў ёй немалое месца аддаецца пад матэрыялы, прысвечаныя юбілейным і іншым памятным датам, жыццю і дзейнасці асобных вядомых беларускіх гісторыкаў (матэрыялы пра апошніх, таксама як і рэцэнзіі, за рэдкім выняткам, аглядацца не будуць). Змест асобных нумароў дастаткова разнастайны. Хоць часопіс не выстаўляе нейкіх абмежаванняў наконт геаграфічнага і храналагічнага ахопу тэматыкі матэрыялаў, відавочна, што абсалютная большасць артыкулаў прысвечана гісторыі Беларусі, а ўсеагульная

гісторыя рэпрэзентавана невялікай колькасцю прац, што ў цэлым адпавядае структуры беларускай гістарычнай навукі. Куды больш дзіўна выглядае таксама нідзе не дэкларannounced, але відавочная перавага артыкулаў пра XIX–XX ст. над артыкуламі ранейшай па часе тэматыкі. Зрэшты, не выключана, што гэта проста супадзенне. Апошняе па парадку, але не апошняе па значнасці, што трэба сказаць агулам пра БГЧ: што часопіс уключаны ВАКам у пералік выданняў для апублікавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў.

## 2009

**Першы нумар** распачынаецца публікацыяй трох дакладаў, звязаных з 90-годдзем утварэння ССРБ. Аднак выступленні тагачаснага старшыні Прэзідыума НАН Беларусі **Міхаіла Мясніковіча** і міністра адукацыі **Аляксандра Радзькова** — гэта хутчэй развагі на тэму гісторыі Беларусі. Іншая справа з артыкулам **Міхаіла Касцюка** („Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі: узаемаадносіны з суседзямі на пачатковым этапе існавання”). У ім разглядаюцца ўзаемаадносіны ССРБ з іншымі савецкімі рэспублікамі — Расіяй, Літвой, Украінай. Адзначаецца, што аб’яднанне савецкіх рэспублік Беларусі і Літвы планавалася ў Маскве яшчэ ў 1918 г., да абвяшчэння ССРБ.

Артыкул **Наталлі Маліноўскай-Франке** („Станіслаў Жукоўскі і яго творчасць, прысвечаная родным мясцінам”) распавядае пра мастака, адной з цэнтральных тэмаў творчасці якога было адлюстраванне прыроды захаду Беларусі. Нарэшце, **Уладзімір Паўлаў** („Беларусы ў французскім руху Супраціўлення”) апісвае шматлікія выпадкі — і цяпер яшчэ малавядомыя — змагання беларусаў у французскім руху Супраціву.

**Другі нумар** атрымаўся, можа быць, самым цэласным у 2009 г. Але адбылося гэта, відаць, цалкам выпадкова і было звязана з тэмамі артыкулаў. Так, **Аляксандр Груша** ў матэрыяле „Credo quia veru: аб прычыне адсутнасці пісьменнасці ў варварскім грамад-

стве (метадалагічны аспект)" паспрабаваў адаптаваць набыткі т. зв. гісторыка-антрапалагічнага падыходу, перадусім аб структурным значэнні для „варварскага" грамадства такіх з'яваў, як дар, пір, гасціннасць, групавая салідарнасць. Напрыклад, сцвярджаецца, што паходы літоўскіх плямёнаў у XII–XIII ст. былі абумоўлены не столькі „першапачатковым назапашваннем капіталу", колькі неабходнасцю адорваць супляменнікаў (с. 7). Але галоўнай мэтай працы быў адказ (хутчэй, як падкрэслівае сам аўтар, спроба падыходу да адказу) на пытанне, чаму ў „варварскіх" супольнасцяў не было пісаных дакументаў. У межах той самай „гісторыка-антрапалагічнай" стратэгіі падсумоўваецца, што сінкрэтычная свядомасць тагачаснага чалавека разумела багоў і супольнасць як сведкаў актаў, таму і не патрабавалася іх пісьмовага афармлення. Не выпадае, мяркую, асобна тлумачыць наяўнасць пэўнага структуралісцкага *бэкграўнду* артыкула. Наступныя дзве працы належаць да этналогіі, мабыць, самай „структуралізаванай" з усіх грамадскіх навук у Беларусі. **Святлана Лявонцьева** („Мастацтва рукапіснай кнігі Вяткі і народная творчасць") аналізуе ўзаемасувязь (праз узаемаўплыў) народнай творчасці (перадусім, разьбы) і мастацтва афармлення рукапіснай кнігі на прыкладзе культуры стараабрадцаў Вяткі. Куды большы размах структуралісцкія абагульненні набываюць у артыкуле **Яўгена Малікава** „Мастацкі дэкор у народнай архітэктуры і ткацтве паўднёва-ўсходняй Беларусі (канец XIX — першая палова XX ст.)". Аўтар мяркуе, што існуе структурнае падабенства ў вобразах з мастацкага аздаблення архітэктуры і з ткацтва на тэрыторыі паўднёвага ўсходу Беларусі. У гэтым арэале даследчык вылучае два цэнтры распаўсюджання мастацкіх падыходаў. Першы — усходняя частка Заходняга Палесся і Цэнтральнае Палессе, для якога характэрны лінейна-рытмічныя матывы ў дэкоры архітэктуры і ў ткацтве; другі — Гомельскае Падняпроўе і Пасожжа, дзе ў ткацтве і разьбе пераважае семантычна-знакавы арнамент. Гэтае адрозненне выводзіцца з асаблівасцяў прыроды гэтых субрэгіёнаў: на Палессі лінейны дэ-

кор вынікае з балоцістага ландшафту, а характэрны для Гомельскага Падняпроўя і Пасожжа арнамент — з магчымасці „геаметрызаванага ўспрымання наваколля” „на сухім раўнінна-лясістым ландшафце”. Смелая, але не бясспрэчная гіпотэза. У артыкуле **Аляксандра Сушы** „Ля вытокаў беларускай гістарычнай навукі: творчая спадчына Ігната Кульчынскага” апавядаецца пра жыццё і навуковую дзейнасць Ігната Кульчынскага (апошняя трэць XVII ст. — 1741 г.) — базыльяніна, аднаго з першых гісторыкаў уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай. Аўтар на падставе шырокага кола крыніц удакладняе гады жыцця гэтага рэлігійнага дзеяча і навукоўца, а таксама асобныя старонкі яго біяграфіі, якія раней недакладна асвятляліся ў гістарыяграфіі. Даецца досыць падрабязны разгляд прац І. Кульчынскага, у тым ліку тых, якія дагэтуль былі вядомы ў гістарычнай навуцы адно што па назвах.

**Трэці нумар** адкрывае артыкул **Аляксандра Рытава** „Фарміраванне новай сацыяльнай іерархіі ў БССР у 1920-я гады: адукацыйны аспект”, у якім паказана, што ў міжваенны час у БССР „палітычная адукаванасць” (= лаяльнасць уладзе) мела перавагу над прафесійнай кваліфікацыяй, а для руху па сацыяльнай лесвіцы трэба было мець не высокі ўзровень адукацыі, а, наадварот, сярэдні ці нават нізкі. Запачаткаваную ў папярэднім нумары этналагічную тэму, але ўжо праз прызму рэлігіі, а не мастацтва, працягнулі **Уладзімір Лобач** і **Таццяна Прадко**. У. Лобач („Свет людзей і свет багоў: прастора ў міфапаэтычнай карціне свету беларусаў”) разглядае ўяўленні аб прасторы ў традыцыйнай культуры беларусаў. Асноўная ўвага звернута на суадносіны паміж „сваім” і „чужым” у прасторы: падкрэсліваецца, што гэта зменлівыя характарыстыкі, звязаныя перадусім з часам сутак і парой года. Т. Прадко („Эвалюцыя рэлігійнага сінкрэтызму на Беларускім Палессі”) вызначае тры перыяды „сінкрэтызацыі” рэлігійных уяўленняў палешукоў — протасінкрэтызацыя паганства (VI–X ст.), сінкрэтызацыя хрысціянства з паганствам (XI–XVIII ст.), поліканфесійная сінкрэтызацыя (XIX–XX ст.), звязаныя

з дзейнасцю пратэстанцкіх місіянераў на Палессі. Але толькі апошні перыяд разгледжаны ўласна на палескім „матэрыяле", для больш ранніх часоў даецца агляд рэлігійнай сітуацыі на ўсім абшары ўсходніх славян і сцвярджаецца, што на Палессі так і было. Супольны артыкул **Леаніда Акаловіча, Ігара Гатальскага і Інесы Кароль** „Гістарычны нарыс вёскі Прылукі" ўяўляе сабою багата ілюстраваны выклад гісторыі вёскі Прылукі, што пад Мінскам, у якой знаходзіцца палацава-паркавы комплекс XVII–XIX ст.

**Чацвёрты нумар**, што нязвыкла для БГЧ, распачынаюць два артыкулы па гісторыі ВКЛ. **Пётр Дзмітрачкоў** у артыкуле „Старажытныя дасягненні і традыцыі ў развіцці дзяржаўнасці і права на беларускіх землях у перыяд ВКЛ (другая палова XIII — першая XVI ст.)" дае змястоўны агляд дзяржаўных інстытутаў і грамадскіх практык у Вялікім Княстве Літоўскім у іх сувязі са „старажытнарускімі" (у тэрміналогіі аўтара) вытокамі. Гэтая сувязь часам паказана добра (асаблівасці кіравання „рускімі" землямі ВКЛ, валаснoе самакіраванне і інш.), часам — небясспрэчна (ваяводствы ўсё-такі мелі за ўзор польскія, а не „старажытнарускія" прыклады). Іншая справа, што наогул не выпадае перабольшваць ролю генетычных сувязяў: у відавочна новых умовах ВКЛ нават наўпрост паўсталыя з „Русі" інстытуты і практыкі змянялі свае функцыі. У артыкуле **Алены Дзянісавай** („Гаспадарчая дзейнасць праваслаўных манастыроў Турава-Пінскай епархіі ў другой палове XV–XVII ст.") разглядаюцца матэрыяльнае становішча манастыроў, крыніцы іх прыбыткаў і артыкулы выдаткаў. Робіцца спроба паказаць манастырскую маёмасць як фактар, які праз права „патранату" ўцягваў манастыры ў залежнасць ад свецкіх асобаў.

Звычайна рэцэнзіі ў БГЧ выносяцца ў канец нумара, але рэцэнзія **Сяргея Новікава** на даследаванне нямецкага гісторыка Дытэра Поля аб палітыцы Вермахта ў дачыненні да мясцовага насельніцтва ў т. зв. „зоне армейскага тылу", у якую ўваходзіў і ўсход Беларусі, змешчана ў асноўнай частцы перыёдыка

і адрозніваецца грунтоўнасцю разгляду. Беларускага гісторыка ў дадзенай працы прывабіў, перадусім, кампаратыўны аналіз, прароблены Д. Полем. Даследаванне **Алены Шычко** „Эвалюцыя тэматыкі беларускага эстампа ў 1980-я г. (на прыкладзе работ А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага і В. Шаранговіча)” паказвае, што час зменаў — 80-я гады — быў такім і для беларускага мастацтва, у прыватнасці, эстампа. Хоць аўтар падкрэслівае захаванне ў гэты перыяд традыцыйнай тэматыкі — ваеннай, у артыкуле адзначаецца ўзнікненне як новых тэм (экалагічнай, тэмы ўрбанізацыі), так і новых мастацкіх вырашэнняў. „Гістарычную” частку чацвёртага нумара завяршае артыкул **Дзмітрыя Хромчанкі** „Круглянскія маладагвардзейцы”, дзе на падставе неапублікаваных архіўных матэрыялаў апавядаецца пра дзейнасць у 1941–1943 г. Круглянскага моладзевага антыфашысцкага падполля. Аўтар не без пафасу прыпадабняе юных падпольшчыкаў да „маладагвардзейцаў”.

Травеньскі, **пяты** па ліку, **нумар**, вядома ж, не мог абысціся без тэматыкі Вялікай Айчыннай вайны. Так, **Віктар Шомадзі** („Вызваленне Беларусі: 18 верасня 1943 — 28 ліпеня 1944 г.”), хоць і быў непасрэдным удзельнікам падзей, абмежаваўся наўпрост хранікальным выкладам: у храналагічнай паслядоўнасці згадвае назвы і даты аперацый і бітваў. Зрэшты, пра постаць чалавека на вайне ідзе гаворка ў артыкуле **Васіля Кушнера і Альберта Котава** „Сям’я Царукоў — прыклад самаадданага служэння свайму народу”. Артыкул перадусім прысвечаны асобам камуністычнага дзеяча Уладзіміра Царука (1899–1957) і яго сына гісторыка Аляксандра Царука (1923–2008). Асноўная ўвага аддадзена іх партызанскай дзейнасці пад час Другой сусветнай вайны, а таксама ўдзелу Уладзіміра Царука ў беларускім нацыянальным руху ў міжваеннай Заходняй Беларусі. Астатнія публікацыі надзіва пазбягаюць вышэйзгаданай тэматыкі. Так, **Людміла Мікалаева** („Адносіны ВКЛ і Малдаўскага княства ў канцы XV — першай палове XVI ст.”) падкрэслівае, што якраз у

адносінах з Малдаўскай дзяржавай ВКЛ дэманстравала выразна незалежную ад Польшчы знешнюю палітыку, што праявілася ў неаднаразовых адмовах удзельнічаць у польска-валашскіх памежных спрэчках.

**Вадзім Белявец** („Насельніцтва вельбарскай культуры на тэрыторыі Беларусі") не без поспехаў імкнецца даказаць, што вельбарская культура („гістарычныя готы") на тэрыторыі Беларусі не з'яўлялася гамагеннай, а падзялялася на дзве групы помнікаў з адрознымі пахавальнымі традыцыямі і тэрыторыямі, з якіх іх носьбіты прывандравалі ў Заходняе Палессе. Таксама аўтар, насуперак прынятаму меркаванню, сцвярджае, што готы на паўднёвым захадзе Беларусі засялілі не пустыя землі, а тэрыторыі, занятыя носьбітамі пшэворскай і роднаснай познезарубінецкай культур. **Вітаўт Чаропка** («Жыццё і незвычайныя прыгоды „Андрыёлі з Вільні"») маляўніча і крыху рамантычна распавядае пра Міхала Эльвіра Андрыёлі (1836–1893), паўстанца 1863 г., які стаў вядомым мастаком і працаваў пераважна ў жанры кніжнай ілюстрацыі.

У **шостым нумары** рэдактар БГЧ **Васіль Кушнер** апублікаваў матэрыял «Вайна. Народ. Перамога (асэнсаванне матэрыялаў „круглага стала", які адбыўся ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі 14 мая 2009 г.)». Ён цікавы не столькі пераказам агучаных пад час „круглага стала" думак, у асноўным вытрыманых у афіцыйным, а часам наўпрост „ура-патрыятычным" стылі, колькі ўласна пазіцыяй аўтара агляду. Ён дазволіў сабе выказаць сумненні ў мэтазгоднасці некаторых зусім ужо „радыкальных" прапаноў, кшталту падкрэслівання інтэлектуальнай перавагі савецкіх военачальнікаў над іх праціўнікамі, ідэалагізаванай крытыкі даўняй кнігі Юрыя Туронка і, урэшце, неабходнасці ўвядзення ледзь ці не крымінальнай адказнасці за выяўленне сімпатыі да беларускіх калабарацыяністаў. Галоўнай тэмай з'яўляецца гісторыя культуры беларускай эміграцыі, ёй прысвечаны артыкулы **Дзмітрыя Карава** („Беларусы і беларусазнаўства ў ЗША і Канадзе ў другой палове XX ст."), **Анастасіі Каравай** („Беларусы і беларуса-

знаўства ў Вялікабрытаніі ў 1940-я — 1990-я г.) і **Ганны Змітрукевіч** („Беларуская дыяспара і беларусазнаўства ў ФРГ у другой палове 1940-х — 1990-я г.). Аўтары аглядаюць (на падставе ўжо досыць шырокай літаратуры прадмета) культурнае, рэлігійнае і навуковае жыццё беларускай эміграцыі ў Паўночнай Амерыцы, Вялікабрытаніі і ФРГ. Артыкулы пабудаваны па адной схеме: пералік даследчыкаў эмігранцкага жыцця, нарыс культурнай працы ў эмігранцкім асяроддзі, прыклады навуковых даследаванняў, здзейсненых як эмігрантамі, так і мясцовымі даследчыкамі-беларусістамі. Сам фармат падобных артыкулаў вядзе да галоўнага недахопу — нагрувашчванне імёнаў, датаў, падзей ускладняе ўспрыманне.

У артыкуле **Аляксандра Вабішчэвіча** „Беларускае навуковае таварыства ў Вільні (1918–1939 г.)” разглядаюцца арганізацыя і асноўныя напрамкі дзейнасці БНТ. Аўтар выкладае перыядызацыю гісторыі дадзенай установы, акрэслівае спецыфіку навуковай працы ў кожным перыядзе і дачыненні з польскімі ўладамі. Два артыкулы прысвечаны вядомаму гісторыку, этнографу і краязнаўцу Аляксандру Ельскаму (1834–1916). У матэрыяле **Васіля Кушнера** „Збіральнік народных скарбаў (Да 175-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Вікенція Ельскага)” асноўная ўвага засяроджваецца на стаўленні навукоўца XIX ст. да Беларусі. Але артыкул утрымлівае прыкрыя памылкі: так, знакаміты этнограф Міхал Федароўскі названы „Федаркоўскім” (с. 43), а сярод лібералаў, напалоханых рэвалюцыяй 1905–1907 г., чамусьці згадваецца спачылы да таго часу Адам Кіркор (1818–1886). **Аляксандр Дуко** („Навукова-даследчыцкая дзейнасць Аляксандра Ельскага”) таксама спыняецца на дачыненні А. Ельскага да „беларускай справы”. Робіцца спроба праз разгляд дзейнасці вядомага краязнаўца паказаць ролю ў абуджэнні беларускай самасвядомасці не толькі сялянскай культуры, але і культуры шляхецкіх рэзідэнцый. У выніку Аляксандр Ельскі вызначаецца як «прадстаўнік „краёвай плыні” ў беларускім руху, лібральна-кансерватыўнай па сва-

ёй сутнасці, якая, падтрымліваючы беларускае нацыянальнае адраджэнне, выступала за захаванне адзінства народаў былой Рэчы Паспалітай» (с. 53). Моцным бокам працы з'яўляецца шырокі зварот да архіўных матэрыялаў з AGAD у Варшаве, дзякуючы якім асвятляецца беларуская дзейнасць не толькі Ельскага, але і іншых, дагэтуль малавядомых ці зусім невядомых, асобаў.

**Сёмы нумар** прысвечаны ўшанаванню памяці ахвяраў Вялікай Айчыннай вайны. З навуковых матэрыялаў, акрамя аповедаў пра Гілера Ліўшыца і ксяндза Уладыслава Завальнюка, можна вылучыць толькі рэцэнзію **Сяргея Новікава** на зборнік дакументаў і матэрыялаў „Хатынь: трагедия и память” (Мінск, 2009) і артыкул філолага **Віктара Іўчанкава** „Беларускі правапіс: гісторыя і сучаснасць”. У апошнім аўтар старанна абмінае палітычныя аспекты выкарыстання розных варыянтаў беларускага правапісу і правядзення яго рэформаў. З гістарычнага пункту гледжання цікавыя разважанні пра дамінаванне ў беларускай мове ў мінулым „вуснага элемента”, што і абумовіла спецыфіку яе правапісу.

**Восьмы нумар** несумненна мае сваёй тэмай юбілей — 75 гадоў гістарычнаму факультэту БДУ. Усе матэрыялы „гістарычнай часткі” нумара ці прысвечаны гістфаку, яго супрацоўнікам і студэнтам, ці з'яўляюцца плёнам працы выкладчыкаў факультэта. Напачатку змешчаны матэрыял «Гістарычнаму факультэту БДУ — 75 гадоў (матэрыялы „круглага стала”)». Хоць зварот мадэратара **Васіля Кушнера** — „падрыхтоўка і правядзенне юбілею — гэта перш за ўсё падстава паразважаць над тым, што мы самі зрабілі карыснага, што і як трэба зрабіць без карэннай ломкі таго, што мы маем” (с. 3) — выглядаў шматабяцальна, дэкан і загадчыкі кафедраў абмежаваліся выступленнем у стылі „ўсё ў нас добра”, можа толькі камп'ютараў не хапае ды дах на факультэце цячэ. Толькі **Віктар Фядосік** закрануў „шматлікія рэформы і іх імітацыі ў апошнія гады ў ВНУ” (с. 12) і, можа быць, занадта рэзка выказаўся «пра „розныя псіхагісторыі” і „сінергетыкі” і ім падобныя „метадалогіі”» (с. 12). Астатнія, відаць, былі прасякнуты міралюбівым

перадсвяточным настроем. Далей прыведзены ўспаміны („Воспоминания об историческом факультете БГУ”) пра навучанне на гістфаку студэнткі 1946–1951 г. **Ідэі Бельскай**. У артыкуле „Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны на гістарычным факультэце БДУ: гісторыя і сучаснасць” **Міхаіл Шумейка** апавядае пра гісторыю даследавання крыніцазнаўчай і архіўнай праблематыкі ў БДУ.

Галоўная мэта артыкула **Эдуарда Загарульскага** „Пераадоленне язычніцтва падчас хрысціянізацыі заходніх зямель Русі” — абвергнуць распаўсюджаную ў гістарыяграфіі думку аб маруднай хрысціянізацыі ўсходнеславянскіх абшараў. Аўтар спрабуе зрабіць гэта праз аналіз археалагічных звестак: амаль сінхронны хрышчэнню пераход ад трупаспалення да трупапалажэння і распаўсюджанне ў пахаваннях нацельных крыжыкаў. Артыкул **Сцяпана Цемушава** („Навуковая і педагагічная дзейнасць А. П. П’янкова ў Беларускім дзяржаўным універсітэце”), прысвечаны навуковаму шляху вядомага славіста-медыявіста Аляксея П’янкова (1901–1987), вылучаецца наяўнасцю не толькі традыцыйнай для падобнага кшталту матэрыялаў усхваляльнай часткі, але і дастатковай крытычнасцю да відавочна небясспрэчных падыходаў гэтага беларускага гісторыка.

**Дзявяты нумар** пачынае артыкул **Уладзіміра Ладысева** „Беларускае пытанне ў Другой Рэчы Паспалітай. Уз’яднанне Заходняй Беларусі з БССР”. Гэта прынагодны, але змястоўны аглядны матэрыял, у якім адлюстравана палітыка польскага ўрада па беларускім пытанні і дзейнасць беларускіх арганізацый рознай арыентацыі. Да артыкула дапасаваны дакументы, якія асвятляюць разнастайныя бакі далучэння Заходняй Беларусі да БССР. У артыкуле **Юрыя Бажэнава** „Сядзібна-паркавы ансамбль у вёсцы Каштанаўка” апавядаецца пра гісторыю фальварка Чахец (гэта гістарычная назва сучаснай вёскі Каштанаўка Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці), у якім у сярэдзіне XIX ст. быў створаны сядзібна-паркавы ансамбль.

Гэты нумар БГЧ можна назваць нават „нумарам Дзяконскіх”, бо пра гэты шляхецкі род згадваецца і ў папярэднім матэрыяле, а **Вольга Папко** („Пятровіцкая галіна роду Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX–XX ст.”) падрабязна апісвае гісторыю пятровіцкай галіны Дзяконскіх з пачатку XIX ст. да сённяшняга часу. Да артыкула прыкладзена радаводнае дрэва Дзяконскіх.

**Дзясяты нумар** прысвечаны святкаванню 80-годдзя Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Спачатку ідуць артыкулы **Аляксандра Кавалені** („Інстытут гісторыі — 80 год творчай працы”), **Вольгі Ляўко** („Цэнтр гісторыі даіндустрыяльнага грамадства”), **Мікалая Смяховіча** („Цэнтр гісторыі індустрыльнага грамадства”) і **Вячаслава Даніловіч**а („Даследаванне гісторыі постіндустрыльнага грамадства”). Артыкулы цалкам адпавядаюць свайму прынагоднаму характару і таму складаюцца з аповеду пра гісторыю Інстытута і яго структурных частак, з характарыстыкі напрамкаў дзейнасці і дасягненняў. Варта спыніцца на тым, што чамусьці ў артыкуле В. Ляўко асноўная ўвага звернута на дзейнасць археолагаў, а плён працы „гістарычнай” часткі Цэнтра акрэслена пункцірна. Таксама з матэрыялу В. Даніловіча вынікае, што Цэнтр гісторыі постіндустрыяльнага грамадства распрацоўвае пытанні, звязаныя з гісторыяй ледзь ці не Сярэднявечча.

**Валянцін Голубеў** („Крыніцы па гісторыі сельскай абшчыны ў Беларусі ў XVI–XVIII ст.”) на падставе шырокага кола крыніц пацвярджае ўласную гіпотэзу, што абшчына (у тым ліку на захадзе Беларусі) не знікла ў XVI ст. ці была толькі органам самакіравання, але часта функцыянавала як распараджальнік зямлі, агент у здзелках з ёй і абаронца калектыўных інтарэсаў сялян. У артыкуле **Андрэя Мацука** „Узмацненне канфлікту паміж магнацкімі родамі Сапегаў і Радзівілаў і канчатковае афармленне антырадзівілаўскай кааліцыі” апісваецца супрацьстаянне, якое разгарнулася перад і пад час Трыбуналу ВКЛ 1740 г., паміж Радзівіламі і кааліцыяй іх праціўнікаў на чале з Сапегамі. У цэнтры канфлікту — маёмасныя спрэчкі. Аўтар пастулюе палітычны аспект

супрацьстаяння (у анатацыі — с. 79), але бліжэй гэтае пытанне не закранае. Выклікае сумненні і вынесенае ў загаловак „канчатковае афармленне антырадзівілаўскай кааліцыі” — з тэксту вынікае, што яна была вельмі рухомай у сваім складзе, як, зрэшты, і шэрагі прыхільнікаў Радзівілаў. У публікацыі **Наталлі Новік** „Сельскагаспадарчая адукацыя як фактар аграрнай мадэрнізацыі Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.” робіцца спроба асэнсаваць сельскагаспадарчую адукацыю на беларускіх землях Расійскай імперыі як фактар мадэрнізацыі. Аднак сама аўтарка прызнае (с. 47), што вызначыць уплыў выпускнікоў навучальных установ на стан сялянскіх гаспадарак Беларусі праблематычна. Нарэшце, **Міхаіл Старавойтаў** („Узровень пісьменнасці і адукаванасці ўсходнеславянскага насельніцтва беларуска-расійска-ўкраінскага памежжа (1920–1930-я г.)”), акрамя акцэнту на пераважна аграрным характары беларускай нацыі як перадумове вялікай непісьменнасці, звяртае ўвагу на тое, што сярод беларусаў, якія жылі ў небеларускіх абласцях, быў вышэйшы працэнт адукаваных людзей, чым у беларусаў у Беларусі. Напрыканцы артыкула сцвярджаецца, што „абсалютная большасць беларусаў па свайму менталітэту была і заставалася ва ўсходнеславянскай цывілізацыі і мела больш агульнага, чым спецыфічнага, з рускімі і ўкраінцамі” (с. 55). Не выключана, што яно так і было. Але якое значэнне гэты пасаж павінен мець у даследаванні пра ўзровень адукаванасці, застаецца незразумелым.

**Адзінаццаты нумар** прысвечаны далучэнню Заходняй Беларусі да БССР. **Рыгор Лазько** („Крах Версальскай сістэмы ў Еўропе і аб’яднанне Беларусі”) разглядае палітыку СССР у дачыненні да Заходняй Беларусі ў міжваенны час праз прызму міжнародных адносінаў у Еўропе, перадусім жадання Савецкага Саюза знішчыць Версальскую сістэму. **Іван Палуян** ледзь ці не ў першых радках свайго артыкула („Той незабыўны верасень 1939 года”) сцвярджае: „некаторыя польскія і нават беларускія гісторыкі і палітыкі імкнуцца сказіць сапраўдную сутнасць гэтага гістарычнага акта

[уз’яднання Заходняй Беларусі з БССР], паставіць пад сумненне яго правамернасць” (с. 8). Але насуперак такім падыходам, зрэшты, бліжэй неакрэсленым, даследчык выстаўляе толькі хранікальны выклад (з уплященнем уласных успамінаў) гісторыі захаду Беларусі ў міжваенны перыяд. Польскі гісторык **Войцех Сляшыньскі** („Грамадска-палітычнае становішча на паўночна-ўсходніх землях II Рэчы Паспалітай (Заходняя Беларусь) з 1 па 17 верасня 1939 г.”) сцвярджае, што сітуацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі да сярэдзіны верасня 1939 г. была ў цэлым спакойнай, што забяспечвалася польскім дзяржаўным апаратам бяспекі, кантролю і прымусу. Але напярэдадні і пасля ўваходжання Чырвонай Арміі (17 верасня 1939 г.) становішча абвастрылася, бо прыгнечаныя нацыянальна і прыніжаныя сацыяльна ў Польшчы беларуская і яўрэйская супольнасці арыентаваліся на савецкую ўладу. **Вольга Матусевіч** („Сучасная польская гістарыяграфія аб дзейнасці беларускіх палітычных партый у міжваеннай Польшчы”) вылучае дзве плыні ў польскай гістарыяграфіі дадзенага пытання, „якія адлюстроўваюць або інтарэс польскай дзяржаўнасці, або пазіцыю беларускага насельніцтва” (с. 22). Таксама адзначаецца, што палітызацыя і ідэалагізацыя тэмы ў першай палове 90-х г. XX ст. змянілася ў далейшым больш узважаным стаўленнем. Артыкул **Людмілы Адзінец** „Баранавічы 1939 года: дзейнасць Часовага ўпраўлення” дае магчымасць прасачыць рэальнае ўвасабленне агульных мерапрыемстваў па ўсталяванні Савецкай улады на прыкладзе Баранавічаў. Аўтарка, сярод іншага, адзначае, што адным з першых мерапрыемстваў у сферы культуры было ўвядзенне вывучэння рускай мовы (с. 23), а мясцовых камуністаў было зусім мала, таму „актыў” фармаваўся з выхадцаў з БССР (с. 29). Зрэшты, даследчыца зусім не імкнецца да перагляду тых ці іншых гістарыяграфічных пастулатаў аб падзеях 1939 г., наадварот, цалкам застаецца ў межах айчыннай навуковай традыцыі.

Іншая тэматыка ў нумары рэпрэзентавана артыкулам **Аляксандра Грушы** „Невядомы арыгінал граматы кня-

зя Васіля Нарымонтавіча канца XIV ст.", у якім вызначаецца дата (1390 г.) і месца (Вільня ці Пінск / Піншчына) стварэння адной з найстаражытнейшых грамат ВКЛ, якія зберагаюцца ў беларускіх сховішчах (у дадзеным выпадку — у Музеі беларускага Палесся ў Пінску). Аўтар працягвае аналіз пачаткаў пісьмовай культуры ў ВКЛ (гл. БГЧ, № 2): падкрэслівае прысутнасць сярод сведкаў ігумена Панкрата і святара, які быў пісарам, што павінна сведчыць пра сакральнае падмацаванне здзелкі. Публікуецца крыніца з грунтоўным палеаграфічным апісаннем. У артыкуле **Рыгора Васілевіча** „Знакавыя змены Канстытуцыі БССР у кастрычніку 1989 г.: да 20-годдзя падзеі" аналізуецца Закон БССР ад 27 кастрычніка 1989 г. „Аб змяненнях і дапаўненнях Канстытуцыі (Асноўнага Закона) Беларускай ССР" і шэраг іншых нарматыўна-прававых актаў, якія дазволілі правесці ў 1990 г. у БССР першыя альтэрнатыўныя выбары. **Андрэй Мяцельскі** ў матэрыяле „Заснаванне Пустынскага Свята-Успенскага манастыра: загадка гісторыі", насуперак прынятай думцы пра Сямёна Лугвена Альгердавіча як заснавальніка (у 1380 г.) Пустынскага Свята-Успенскага манастыра ля Мсціслава, мяркуе, што фундатарам манастыра ў 1480 г. быў тагачасны мсціслаўскі князь Іван Юр'евіч. Таксама даецца кароткая гісторыя манастыра.

У **дванаццатым нумары** колькасную перавагу мелі матэрыялы пра паўстанні 1830–1831 г. і 1863–1864 г., а дакладней, пра грамадска-палітычную сітуацыю пасля іх. **Аксана Лепеш** у артыкуле „Камітэт заходніх губерняў у Расійскай імперыі другой чвэрці XIX ст." разгледзела асноўныя напрамкі дзейнасці Асобага камітэта (1830–1831) і Камітэта заходніх губерняў (1831–1848). Аўтарка сцвярджае, што асноўнымі пытаннямі ў дзейнасці Камітэта заходніх губерняў былі саслоўная палітыка, увядзенне расійскага заканадаўства ў былым ВКЛ, рэформа адукацыі і ўсталяванне кантролю над рэлігійным жыццём. **Алена Серак** („Парадак і ўмовы ссылкі ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 г. у Беларусі") разглядае этапаванне паўстанцаў, у асноўным на пад-

ставе заканадаўчых і распарадчых актаў расійскіх уладаў. Адзначаецца, што вялікая колькасць зняволеных прымусіла расійскую адміністрацыю ўнесці змены ў парадак ссылкі. Матэрыял **Вольгі Гарбачовай і Зінаіды Антановіч** „Лёсы святароў Магілёўскай і Мінскай рымска-каталіцкіх дыяцэзій пасля паўстання 1863–1864 г.” прысвечаны лёсу каталіцкіх святароў, якія па абвінавачванні ці проста падазрэнні ў супрацоўніцтве з паўстанцамі былі высланы ў Сібір.

У артыкуле **Таццяны Літвінавай** „Творы мастакоў з Польшчы ў Музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля” атрыбутуюцца і апісваюцца творы польскіх аўтараў, якія належалі І. Ф. Паскевічу, а цяпер знаходзяцца ў Гомельскім палацы ды іншых сховішчах. **Наталля Мінько** („Канстытуцыйна-прававое рэгуляванне ў сферы прыродакарыстання ў БССР і Рэспубліцы Беларусь”) спрабуе прасачыць праявы нормаў рэгулявання ў сферы прыродакарыстання ад першых Дэкрэтаў Савецкай улады да сённяшняга дня.

## Весці Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі
### Серыя гуманітарных навук

Гэта афіцыйнае выданне НАН Беларусі, выходзіць з 1956 г. Цяперашняя перыядычнасць выхаду — чатыры разы на год. „Серыя гуманітарных навук” аб’ядноўвае шырокае кола дысцыплін, па кожнай з якіх з’яўляецца ад 2 да 4 артыкулаў у выпуску. У дадзеным аглядзе пад увагу бяруцца матэрыялы з рубрыкі „Гісторыя”, а таксама выбарачна сумежныя з гістарычнымі даследаваннямі артыкулы з іншых галін навукі.

### 2009

У **першым выпуску** толькі два артыкулы былі прысвечаны ўласна гісторыі. У матэрыяле **Аляксандра Грушы** «Даследаванне Пола Сэнгера „Чытанне пра сябе: яго

ўздзеянне на пісьмо і грамадства позняга Сярэднявечча" і сучасныя праблемы вывучэння фарміравання пісьмовай культуры ў Вялікім Княстве Літоўскім» апісваецца надрукаваны ў 1982 г. артыкул П. Сэнгера, у якім той прасачыў пераход у Сярэднявеччы ў Заходняй Еўропе ад абавязковага чытання ўслых і пісьма пад дыктоўку да „маўклівага" чытання і пісьма. Беларускі даследчык ставіць пытанне (пакуль без адказу), ці прасочваюцца падобныя працэсы ў ВКЛ. У артыкуле **Уладзіміра Здановіча** „Акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны ў працах айчынных даследчыкаў (1991–2007)" акрэсліваюцца тэмы, якія, на думку аўтара, атрымалі грунтоўнае асвятленне ў сучаснай беларускай гістарыяграфіі — канцлагеры, Халакост, прымусовая праца ў Нямеччыне, медыцына і адукацыя пад час вайны.

Гістарычную складовую частку маюць таксама артыкулы **Уладзіміра Конана** і **Валянціны Мароз**. У. Конан („Праблемы этыкі і антрапалогіі ў сярэдневяковай Беларусі") спачатку апісвае этычныя ідэалы Бібліі, а пасля дае агляд этычных поглядаў сярэднявечных асветнікаў і інтэлектуалаў з беларускіх земляў. У артыкуле В. Мароз „Лацінскае пісьмо ў гісторыі Беларусі (на матэрыяле летапісаў)" прасочваецца, як на летапісныя тэксты з мовазнаўчага пункту гледжання ўплывала транслітарацыя („Хроніка Быхаўца") і пераклад на польскую мову („Альшэўскі летапіс"). Адзначаецца выкарыстанне беларускіх слоў у Віцебскай і Магілёўскай гарадскіх хроніках, напісаных у XVII–XVIII ст. папольску.

**Другі нумар** адкрывае **Сяргей Віцязь** артыкулам „Помнікі яцвягаў перыяду ранняга Сярэдневякоўя ў Верхнім Панямонні", дзе вызначаны асноўныя канцэпцыі лакалізацыі яцвяжскага арэалу. Сам аўтар выкладае сваю версію, паказваючы дынаміку рассялення яцвягаў, пералічвае безумоўныя і верагодныя яцвяжскія помнікі, далучаецца да тых навукоўцаў, якія сцвярджаюць, што яцвягі і ўсходнія славяне мірна суіснавалі ў Верхнім Панямонні. **Андрэй Ганчар** у

артыкуле „Увядзенне рускай мовы ў выкладанні Закона Божага ў рымска-каталіцкай царкве Беларусі (другая палова XIX — пачатак XX ст.) падкрэслівае, што захады расійскіх уладаў па ўвядзенні рускай мовы ў касцёле і школе сустракалі як адмоўную, так і станоўчую рэакцыю з боку ксяндзоў. Адзначаецца, што з пачаткам XX ст. прымусовы перавод на рускую мову спыніўся. Змястоўны артыкул, але чамусьці ў шэрагі прадстаўнікоў польскай гістарыяграфіі ў ім запісаны і Адам Станкевіч. Артыкул **Ірыны Дмітрук** „Патрыятычнае выхаванне як частка дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь", акрамя агульных слоў пра патрыятызм, пералічэння разнастайных дзяржаўных праграм, канцэпцый і мерапрыемстваў, вылучае два этапы ў патрыятычным выхаванні ў Беларусі: 1991–1995 г. („перыяд крызісу") і 1996–2000 г., калі пазіцыі дзяржавы ў патрыятычным выхаванні ўмацаваліся. Запачаткаваную ў папярэднім нумары тэму летапісаў працягвае **Валянціна Мароз** у артыкуле „Беларускія летапісы ў кантэксце старажытнага пісьменства: мовазнаўчы аспект", у якім сцвярджаецца, што беларуска-літоўскія летапісы XIV–XVI ст. найбольш поўна адлюстроўваюць асаблівасці тагачаснай беларускай пісьмовай традыцыі.

**Трэці нумар.** У артыкуле **Андрэя Мацука** „Размеркаванне трыбунальскіх урадаў у межах магнацкай кааліцыі ў 1745 г." апісваюцца выбары ў Галоўны Трыбунал ВКЛ 1745 г., калі, па сведчаннях сучаснікаў, быў выпадак „згоды даўно не бачанай у Літве", бо ранейшыя праціўнікі — Радзівілы, Чартарыйскія, Сапегі — дзейнічалі супольна. Два іншыя артыкулы з гістарычнай часткі прысвечаны праблемам міжваеннага перыяду гісторыі Беларусі XX ст. **Вячаслаў Даніловіч** („Моладзь у грамадска-палітычным жыцці Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь напярэдадні беларусізацыі") разглядае дзейнасць Камуністычнага саюзу моладзі Беларусі (КСМБ) у 1923 г. Адзначаюцца першыя праявы беларусізацыі ў яго дзейнасці, хоць яна ішла павольна і кіраўніцтва вялікай актыўнасці не праяўляла. **Віталь**

**Крывуць** („Сельскагаспадарчая падрыхтоўка моладзі Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я г.") апісвае такія мерапрыемствы польскіх уладаў і грамадскіх арганізацый, як стварэнне народных сельскагаспадарчых школ (у Заходняй Беларусі — беспаспяхова) і так званай „Сельскагаспадарчай падрыхтоўкі" — дадатковых заняткаў па аграноміі.

У літаратуразнаўчай частцы таксама змешчаны артыкулы, звязаныя з гістарычнай тэматыкай. Так, у матэрыяле **Г. Васільевай** і **Т. Харкевіч** „Некаторыя аспекты асобаснай рэканструкцыі гісторыі: да праблемы аўтэнтычнасці" пададзены вынікі сацыялагічнага апытвання 100 студэнтаў-негісторыкаў БДПУ імя Максіма Танка. Рэспандэнты адказвалі на пытанні аб ролі мінулага і даверы да розных крыніц звестак пра яго. У артыкуле **Жаны Некрашэвіч-Кароткай** „Лацінамоўны гераічны эпас Беларусі ў кантэксце еўрапейскай эпічнай традыцыі (XVI — першая палавіна XVII ст.)" адзначаюцца як агульныя рысы з антычнай літаратурай, так і адметныя ў лацінамоўнай гераічна-эпічнай паэзіі ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

У **чацвёртым нумары Валянцін Голубеў** („Абшчына ў расійскай гістарыяграфіі XIX–XX ст.") пералічвае асноўныя падыходы да аналізу абшчыны ў дарэвалюцыйнай, савецкай і сучаснай расійскай навуцы. Напрыканцы артыкула пададзена параўнанне абшчыны на беларускіх і расійскіх землях. **Аляксандр Цымбал** у артыкуле „Абвяшчэнне аўтакефаліі Праваслаўнай Царквы ў II Рэчы Паспалітай (першая палавіна 1920-х г.)" апісвае складаны і супярэчлівы працэс атрымання Польскай Праваслаўнай Царквой статусу незалежнай ад Маскоўскага Патрыярхату, які аўтар, дарэчы, лічыць некананічным (с. 87). Адзначаецца, што духоўныя і свецкія асобы Заходняй Беларусі выступалі супраць аўтакефаліі. У артыкуле **Марата Жылінскага** „Сістэма адукацыі Беларусі напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны і яе становішча пасля вызвалення ад германскай акупацыі" адзначаюцца поспехі ў эвакуацыі дзяцей з акупаванай тэрыторыі. Згадваюцца забойствы дзяцей і

настаўнікаў, здзейсненыя немцамі, і разрабаванне матэрыяльнай базы навучальных устаноў.

## Веснік БДУ

Навуковы часопіс Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта выдаецца з 1969 г. Перыядычнасць — 3 разы на год. Артыкулы на гістарычную тэматыку ўваходзяць у Серыю 3.

### 2009

**Першы нумар** за 2009 г. меў відавочны ўхіл у мадэрную гісторыю: усе артыкулы былі прысвечаны XIX–XXI ст. Так, **Аляксандр Каханоўскі** („Асаблівасці эвалюцыі саслоўных інстытутаў у Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.”) паказвае працэс паступовага паслаблення саслоўнай структуры грамадства ў Расійскай імперыі. Адзначаецца больш павольны характар гэтага працэсу ў беларускіх губернях. **Сяргей Ходзін** („Беларускае сялянства ў 1921–1939 г.: гістарыяграфія, крыніцы, метады вывучэння”), сярод іншага, падрабязна спыняецца на патэнцыяле ўсё яшчэ „новых” для нашай навукі падыходаў (псіха- і мікрагістарычны падыходы, гісторыя паўсядзённасці і вусная гісторыя) у вывучэнні гісторыі беларускага сялянства ў міжваенны перыяд. **Уладзімір Снапкоўскі** ў артыкуле „Аб прагерманскай арыентацыі лідараў беларускай палітычнай эміграцыі ў Празе (1938–1941)” апісвае кантакты Васіля Захаркі і Івана Ермачэнкі з нямецкімі ўладамі ў 1938–1941 г. Аўтар засяроджвае ўвагу на змесце зваротаў В. Захаркі да А. Гітлера і ўрада фашысцкай Нямеччыны, адзначае асноўныя прапановы лідара БНР.

Два артыкулы датычаць „найноўшай” гісторыі ў поўным сэнсе гэтага слова. **Віктар Шадурскі** („Интеграционные и дезинтеграционные тенденции на постсоветском пространстве”) спрабуе адказаць на пытанне, чаму мала што атрымліваецца ў плане інтэграцыі на постсавецкай

прасторы. Хоць спачатку варта было б паставіць пытанне, ці патрэбна тая інтэграцыя на гэтай „прасторы" наогул. **Аляксандр Шарапа** ў артыкуле „Тенденции мировой политики на современном этапе" акрэслівае кірункі развіцця Еўрапейскага, Азіяцка-Ціхаакіянскага, Лацінаамерыканскага рэгіёнаў і Злучаных Штатаў Амерыкі.

**Другі нумар** атрымаўся даволі збалансаваным — ёсць артыкулы, прысвечаныя розным перыядам гісторыі. У матэрыяле **Анастасіі Зуевай** „Вывучэнне культуры шарападобных амфар на тэрыторыі Беларусі ў канцы XX — пачатку XXI ст." пералічваюцца галоўныя даследчыкі культуры шарападобных амфар, асноўныя напрамкі даследавання (храналогія, узаемаадносіны з тубыльцамі, шляхі міграцыі) і спрэчныя моманты — характар узаемаадносінаў з іншымі культурамі, механізмы распаўсюджвання і інш. У артыкуле **Леаніда Казакова** „Стан жывёлагадоўлі ў шляхецкіх фальварках у Беларусі другой паловы XVI — пачатку XVII ст." падкрэсліваецца, што асартымент жывёлагадоўчай прадукцыі быў адзіны для ўсяго ВКЛ, затое пэўныя рэгіёны — Палессе, у пэўнай ступені Усходняя Беларусь — спецыялізаваліся менавіта на жывёлагадоўлі, а не на земляробстве. **Віктар Кахновіч** („Асаблівасці развіцця дваранскага прамысловага прадпрымальніцтва на Палессі ў парэформенны перыяд (1861–1914): некаторыя аспекты яго вывучэння ў беларускай і ўкраінскай гістарыяграфіі") адзначае, што дваранства ў 1861–1914 г. паступова страчвала свае пазіцыі (акрамя вінакурэння) у прамысловасці. У артыкуле **Наталлі Новік** „Революционные события начала XX в. и деятельность профессиональной школы Беларуси" паказана, што рэвалюцыя 1905–1907 г. выклікала вялікі рух у вучнёўскім асяроддзі за ператварэнні ў адукацыі, у той час як пасля лютага 1917 г. маштабных акцый вучнёўскага непадпарадкавання не было, затое былі праведзены пэўныя рэформы. У матэрыяле **Аляксея Махнача** „Этнаграфічнае вывучэнне Беларусі карэспандэнтамі К. Машынскага" адлюстраваны метады збору інфармацыі, якія выкарыстоўваліся

польскім этнографам Казімірам Машынскім — праца з непадрыхтаванымі інфармантамі і карэспандэнцыя ад сеткі прафесійных этнографаў. Нарэшце, у артыкуле **Сцяпана Стурэйкі** „Проблема типологизации вынужденных мигрантов в контексте социально-культурной антропологии" падкрэсліваецца, насуперак побытаваму меркаванню, што бежанцы з'яўляюцца не пасіўнымі ўдзельнікамі грамадскіх працэсаў, а актыўнымі актарамі, якія рэалізуюць на новым месцы жыхарства ўласную стратэгію жыццезабеспячэння.

**Трэці нумар.** У артыкуле **Паўла Лойкі** „Узаемадачыненні шляхецкага і мяшчанскага саслоўя на беларускіх землях у другой палове XVI — першай палове XVII ст." разглядаюцца як шляхецка-мяшчанскія супярэчнасці з-за ўцёкаў сялян у горад, існавання юрыдык, так і іх супрацоўніцтва — вызваленне сялян ад часткі падаткаў у прыватнаўласніцкіх гарадах, часам абарона інтарэсаў гарадоў шляхтай на соймах. **Валянцін Голубеў** („Сялянская абшчына ў Беларусі ў другой палове XVII — першай палове XVIII ст.") робіць выснову, што пасля спусташальных войнаў у другой палове XVII — першай палове XVIII ст. сялянская грамада ў каралеўскіх сталовых эканоміях мела значныя функцыі — выступала як супольны падаткаплацельшчык і карыстальнік зямлёю, а часам і распараджальнік ёю. Артыкул **Вадзіма Аніпяркова** „Утварэнне і механізм дзеяння інстытутаў Таргавіцкай канфедэрацыі на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага" — спроба сістэмнага разгляду інстытутаў Таргавіцкай канфедэрацыі (1792–1793) — Генеральнай, ваяводскіх і павятовых канфедэрацый — з пункту гледжання выканання імі адміністрацыйных і судовых функцый.

У артыкуле **Уладзіміра Коршука** „Уплыў ідэалогіі лібералізму на беларускае грамадства пачатку XX ст." адзначаецца, што на тэрыторыі Беларусі на падзел унутры ліберальнага кола ўплываў шматэтнічны і шматканфесійны склад насельніцтва. У матэрыяле **Віталя Барабаша** «„Проблема Беларуси" в политике государств антифашистской коалиции (1941–1945)» ад-

люстравана, як дзякуючы поспехам на савецка-германскім фронце СССР здолеў атрымаць падтрымку ЗША і Вялікабрытаніі ў правядзенні мяжы з Польшчай па „лініі Керзана”. **Вольга Барташ** у матэрыяле „Общественные традиции цыган Беларуси (вторая половина XX — начало XXI в.)” паказвае значэнне катэгорый „гонар” і „апаганьванне” ў цыганскім асяродку Беларусі. Адзначаюцца змены, якія адбыліся з пераходам цыганоў да аселасці.

## Весці БДПУ

Навукова-метадычны (прынамсі, так ён афіцыйна тытулуецца) часопіс Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта выходзіць з чэрвеня 1994 г. Перыядычнасць — чатыры разы на год, гістарычныя матэрыялы друкуюцца ў Серыі 2.

### 2009

**Нумар першы** за 2009 г. атрымаўся даволі тэматычна разнастайным. **У. Тугай і У. Грыгор’еў** за мэту свайго артыкула „Славяне і іх продкі ў літаратурнай традыцыі IV–VII ст. н. э.” паставілі „аб’ектыўна паказаць ход гісторыі ў Еўропе і месца ў ёй продкаў славян у IV ст. н. э.” (с. 17) — у самаўпэўненасці аўтарам не адмовіш. Але насамрэч гэта толькі аглядны матэрыял. Артыкул **Сяргея Стрэнкоўскага** „Самакіраванне беларускіх гарадоў, не звязанае з нямецкім правам, у XV–XVII ст.” — спроба паказаць, што ў акрэслены перыяд у ВКЛ паралельна з магдэбургскім існавала т. зв. „устаўное” гарадское права. Гарадской тэматыцы прысвечаны і артыкул **Юрыя Урублеўскага** „Працы беларускіх савецкіх даследчыкаў па гістарыяграфіі гісторыі гарадоў Беларусі ў эпоху феадалізму”.

У артыкуле **Наталлі Новік** „Прыватныя і грамадскія ініцыятывы ў развіцці прафесійнай адукацыі Беларусі (другая палова XIX — пачатак XX ст.)” адзначаецца,

што менавіта ў стварэнні ўстаноў прафесійнай адукацыі вялікую ролю адыгрывалі прыватная і грамадская ініцыятыва. Матэрыял **Віталя Барабаша** „Беларусь у палітыцы польскага эміграцыйнага ўрада ў перыяд Другой сусветнай вайны” ў асноўным падобны да артыкула ў „Весніку БДУ” (№ 3, 2009), але дададзены агляд пазіцый польскіх палітычных партый па пытанні мяжы з СССР.

Вялікую частку **другога нумара** займае спецыяльна вылучаны блок, прысвечаны Другой сусветнай вайне. **Марат Жылінскі** („Дзейнасць партызан і падпольшчыкаў Беларусі па зрыве германскіх планаў у галіне адукацыі”) малюе карціну шырокага распаўсюджання савецкіх школ — партызанскіх, таемных, лясных — у Беларусі пад час нямецкай акупацыі. Артыкул **Яраслава Бязлепкіна** „Палітыка германскіх акупантаў у сферы адукацыі на тэрыторыі Беларусі ў 1941–1944 г. (па матэрыялах англа-амерыканскай гістарыяграфіі)” — гэта пералік і аналіз нешматлікіх прац па дадзенай тэматыцы.

**Віктар Якаўчук** у публікацыі „Фарміраванне дзяржаўнага апарату ў заходніх губернях Расійскай імперыі ў XIX — пачатку XX ст.” у асноўным паўтарае даўно вядомыя сцверджанні. Прыцягвае ўвагу адно што апісанне замены „польскіх” чыноўнікаў на „рускіх” пасля паўстання 1863–1864 г. У артыкуле **Кацярыны Драздовай** „Роля і месца банкаў у сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі (1861–1914)” прасочваецца ўплыў банкаў на інтэнсіфікацыю эканамічнага жыцця беларускіх губерняў. У матэрыяле **Міхаіла Цубы** „Грамадска-палітычныя накірункі дзейнасці эсэраўскіх арганізацый у Беларусі пад час Першай сусветнай вайны (жнівень 1914 — люты 1917 г.)” паказваецца становішча партыі эсэраў на беларускіх землях у 1914–1917 г., раз’яднанасць у яе шэрагах. **Мікалай Клепікаў** („Захаванне культурна-гістарычнай спадчыны Беларусі ў пачатку 20-х г. XX ст.”) асвятляе дзейнасць у 1919–1923 г. Мінскага таварыства гісторыі і старажытнасці, якое займалася аховай культурна-гістарычнай спадчыны і навуковымі росшукамі. Артыкул **Анжэлы Лютай** „Працы айчынных

даследчыкаў па гістарыяграфіі сацыяльна-эканамічнай гісторыі Беларусі другой паловы XVIII — першай паловы XIX ст.” — фактычна гэта рэцэнзія на кнігу З. Капыскага і В. Чапко „Историография БССР: эпоха феодализма”, выдадзеную ў 1986 г. (!). Рэцэнзія неблагая, але як усё гэта стасуецца з назвай артыкула?

**У трэцім нумары** ў артыкуле „Яцвягі: да пытання этнічнай прыналежнасці” **У. Тугай** і **У. Грыгор’еў**, сярод іншага, сцвярджаюць, што яцвягі паходзяць ад готаў (с. 11). Пры гэтым у артыкуле абсалютна не ўлічана багатая і супярэчлівая найноўшая гістарыяграфія праблемы. У артыкуле **Аляксандра Кушнярэвіча** „Канвентхаўзы Вялікага Княства Літоўскага” апісваюцца замкі ў Троках і Іказні, якія аўтар адносіць да „канвентхаўзаў”, г. зн. падобных да замкаў Тэўтонскага ордэна. **Ігар Вуглік** („Этнаніміка беларусаў XVII–XVIII ст.: экзаэтнонімы”) пералічвае асноўныя экзаэтнонімы (назвы, дадзеныя іншымі народамі) беларусаў у XVII–XVIII ст. У матэрыяле **Юрыя Урублеўскага** „Гісторыя гарадоў Беларусі XIV–XVIII ст. у працах айчынных даследчыкаў пасляваеннага перыяду” аналізуюцца дасягненні і недахопы беларускай савецкай гістарыяграфіі гарадоў.

**Ігар Гушчынскі** („Крыніцы па вывучэнні дзейнасці судовых устаноў Беларусі перыяду капіталізму: 1864–1914”) падае грунтоўны агляд крыніц з улікам спецыфікі асобных іх груп. **Андрэй Багдановіч** у публікацыі „Барацьба расійскага самадзяржаўя з талстоўствам у Беларусі (канец XIX — пачатак XX ст.)” паказвае, як жыхары беларускіх губерняў удзельнічалі ў распаўсюджванні ідэй Льва Талстога, акрэсліваецца рэакцыя на гэта ўлад. **Аляксандр Цымбал** у матэрыяле „Праблема рэвіндыкацыі праваслаўнай маёмасці ў канфесіянальнай палітыцы польскіх улад у Заходняй Беларусі (1921–1939)” прасочвае правядзенне палітыкі рэвіндыкацыі — вяртання Каталіцкай царкве былых каталіцкіх і ўніяцкіх храмаў, аддадзеных у часы Расійскай імперыі праваслаўным. У артыкуле **В. Буракова** „Жыллёвая кааперацыя БССР (1924–1929)” разглядаецца жыллёвая арэндная і будаўнічая каапера-

цыя. А ў публікацыі **Івана Саракавіка і Канстанціна Барвінка** „Перамены ў вышэйшых органах улады СССР і іх уплыў на кадравую палітыку. 1953–1991 г. (па матэрыялах МУС БССР)" паказана, як кожны новы кіраўнік СССР змяняў ролю міліцыі ў дзяржаўнай сістэме.

У **чацвёртым нумары** пераважалі артыкулы па гісторыі ХХ ст. Цікавы артыкул **Ігара Гушчынскага** „Сутнасць расійскай судовай рэформы 1864 г. і асаблівасці яе рэалізацыі на тэрыторыі Беларусі", у якім адлюстравана, як абмежавальная дзяржаўная палітыка ў дачыненні да беларускіх земляў выклікала „ўсячэнне" судовай рэформы.

Публікацыя **Аляксандра Субоціна** „Харчовае забеспячэнне стаханаўцаў БССР у другой палове 1930-х г." распавядае пра тое, што ўдзел у стаханаўскім руху вёў не толькі да павелічэння прэстыжу, але і да заможнасці. Артыкул **Віталя Барабаша** «„Праблема Заходняй Беларусі" ў палітыцы СССР у пачатку Другой сусветнай вайны (1939–1941)» добра ілюструе, як праз эксплуатацыю „беларускай" і „літоўскай" карты СССР у 1939–1941 г. дамагаўся сваіх геапалітычных мэтаў. **Н. Барабаш** („Перасяленне жыхароў з сельскай мясцовасці БССР у Калінінградскую вобласць: 1946–1956") акрэслівае колькасць пераселеных сем'яў, апісваюцца ўмовы іх пераезду, складанасці на новым месцы жыхарства. Адзначаецца негатыўны ўплыў гэтай „планавай" міграцыі на дэмаграфічную сітуацыю ў Беларусі. **Л. Гаўрылавец** („Варшаўскі дагавор 1970 г. аб асновах нармалізацыі ўзаемных стасункаў паміж ПНР і ФРГ") падае складаны працэс падпісання дамовы ад 4 снежня 1970 г., паводле якой ФРГ прызнала пасляваенную заходнюю мяжу Польшчы. У артыкуле **Сяргея Гарбіцкага** „Беларуска-чэшскія культурныя адносіны (канец ХХ — пачатак ХХІ ст.)" апісваюцца ўсе больш-менш значныя (і пры гэтым дазволеныя беларускай уладай) праявы культурных кантактаў паміж Беларуссю і Чэхіяй.

# Веснік Брэсцкага ўніверсітэта
## Серыя гуманітарных і грамадскіх навук

Часопіс выдаецца з 1997 г., чатыры разы на год. У 2009 г. артыкулы па гісторыі друкаваліся ў „Серыі гуманітарных і грамадскіх навук”. Неабходна сказаць, што за ўвесь год у „Весніку Брэсцкага ўніверсітэта” не было апублікавана ніводнага артыкула, прысвечанага падзеям раней за XIX ст. Спадзяемся, што такая дыспрапорцыя мае выпадковы характар.

### 2009

У **першы выпуск** за 2009 г. увайшлі чатыры артыкулы па гісторыі. **Кацярына Марозька** („Церковные школы на Пинщине: вторая половина XIX — начало XX в.”) на прыкладзе Піншчыны паказвае змяненне колькасці царкоўных школ (у сувязі з дзяржаўнай палітыкай), апісвае працэс навучання ў такога кшталту ўстановах. **Надзея Маторава** („Социальная политика органов городского самоуправления белорусских губерний: историографический аспект”) падкрэслівае, што комплексных даследаванняў па гэтай тэматыцы ў беларускай гістарыяграфіі не было. Магчыма, сама аўтарка запоўніць гэты прагал.

У артыкуле **Андрэя Гарбацкага** „Гісторыя старабрадніцтва: вынікі крыніцазнаўчага вывучэння (1917 — пач. XXI ст.) (Ч. 3)” пералічваюцца і аналізуюцца даследаванні па гісторыі стараабрадніцтва. Цікава, што аўтар звяртаецца і да шэрагу літаратурных твораў па гэтай тэматыцы. **Аляксандр Вабішчэвіч** у матэрыяле „Нацыянальна-культурная праблематыка ў грамадска-царкоўным жыцці праваслаўнага духавенства Заходняй Беларусі (1921–1939)” паказвае некаторыя захады беларускіх дзеячаў па „беларусізацыі” Праваслаўнай царквы ў Заходняй Беларусі. Адзначаецца адсутнасць поспеху ў гэтай дзейнасці, раскрываюцца прычыны няўдачы. Акцэнтавана ўвага на спробах уладаў „паланізаваць” Праваслаўную царкву.

**Другі нумар** змяшчае артыкулы, прысвечаныя амаль што выключна XX–XXI ст. **Віталь Гарматны** („Палітыка насаджэння асадніцтва і яе асаблівасці ў Палескім ваяводстве ў 1921–1939 г.”), сярод іншага, пастулюе, што асаднікі адыгралі і станоўчую ролю, перадусім, у павышэнні ўзроўню агракультуры, але ніякімі фактамі гэта не пацвярджае. Артыкул **Аляксея Радзюка** „Создание партизанских зон на территории Беларуси в годы Великой Отечественной войны (1941–1944)” мае аглядны характар і, на жаль, не ўносіць нічога новага ў разгляд тэмы. У артыкуле **Эдмунда Ярмусіка** „Рымска-каталіцкія манастыры ў сацыяльным і духоўным жыцці Беларусі (30-я г. XX ст. — пачатак XXI ст.)” апісана дзейнасць каталіцкіх кляштараў на беларускіх землях у II Рэчы Паспалітай, іх складанае становішча пад час Другой сусветнай вайны, знішчэнне ў савецкі перыяд і паступовае аднаўленне ў цяперашні час. У матэрыяле **Уладзіміра Здановіча** „Пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў працах беларускіх даследчыкаў (1990–2008)” разглядаецца, як беларускія гісторыкі асэнсоўвалі спрэчныя пытанні гісторыі нападу Нямеччыны на СССР — праблему прэвентыўнага ўдару, суадносінаў сіл.

**Трэці нумар** змяшчае ўсяго некалькі гістарычных публікацый. У артыкуле **Святланы Грыбавай** „Удзел беларускіх татар у падпольным руху на тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны” прыводзяцца звесткі пра ўдзел этнічных татараў у мінскім і уздзенскім падполлі. **Наталля Бункевіч** у артыкуле „Методы палеоантропологии при изучении этногенеза восточных славян” падрабязна спыняецца на краніялагічным метадзе (вымярэнне чарапоў), які найбольш распаўсюджаны ў беларускай навуцы.

**Чацвёрты нумар** склалі матэрыялы па гісторыі Заходняй Беларусі (што нядзіўна для брэсцкага выдання) і міжнародных кантактах Нямеччыны. Артыкул **Аляксандра Вабішчэвіча** „Нацыянальна-культурнае жыццё Заходняй Беларусі (1921–1939): праблемы перыядызацыі, тыпалогіі ўзаемаадносін” цікавы тым, што ў ім, акрамя

звычайнага разгляду беларуска-польскіх стасункаў, робіцца спроба акрэсліць адносіны беларусаў і палякаў з іншымі этнічнымі супольнасцямі ў Заходняй Беларусі. У артыкуле **Вольгі Мярчук** „Адміністрацыйна-прававыя асновы эміграцыі з тэрыторыі Заходняй Беларусі (1921–1939)" падаюцца спецыфіка эміграцыйнага заканадаўства, асноўныя напрамкі эміграцыі з тэрыторыі Заходняй Беларусі. **Павел Корнеў** у матэрыяле „Сельская гаспадарка Брэсцкай вобласці ў першыя гады пасля вызвалення ад германскіх акупантаў (1944–1947)" апісвае мерапрыемствы савецкай улады па аднаўленні матэрыяльнай базы сельскай гаспадаркі, паляпшэнні ўмоваў жыцця і стварэнні калгасаў.

Дзве публікацыі датычаць гісторыі адносін з Нямеччынай. **Дзмітрый Мігун** у артыкуле „Германо-советский торговый договор 1925 г. и его значение" падае агляд нямецка-савецкіх адносінаў у 1921–1925 г., а **Андрэй Русаковіч** („Основные проблемы белорусско-германских отношений в период 2001–2003 г.") паказвае пэўныя поспехі ў эканамічных узаемаадносінах Беларусі і Нямеччыны ў 2001–2003 г. і амаль поўную адсутнасць зрухаў у сферы палітыкі ў гэты час.

## Веснік Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта

Выдаецца з 1996 г., у 2009 г. выйшла чатыры выпускі. Звычайна ў нумар трапляе 3–4 матэрыялы па гісторыі, часам да іх далучаюцца артыкулы па этналогіі і археалогіі. У 2009 г. у „Весніку" назіралася выразная перавага публікацый па гісторыі Беларусі XIX–XX ст. Большасць аўтараў з ВДУ імя П. М. Машэрава, але друкуюцца і прадстаўнікі з іншых навуковых асяродкаў.

### 2009

Рубрыку „Гісторыя" ў **першым нумары** за 2009 г. адкрыў артыкул **Аляксандра Самовіча** „Турецкие

военнопленные 1877–1878 г. в Витебской губернии”, дзе апавядаецца пра паўсядзённае існаванне турэцкіх вайскоўцаў у расійскім палоне, адзначаецца цікавасць да іх з боку мясцовага насельніцтва. **Сяргей Зыбін** („Первая Всебелорусская молочная выставка 1925 г. в г. Минске: новые архивные материалы”) адзначае прапагандысцкую і эканамічную функцыі выставы 1925 г., але падрабязна спыняецца толькі на другой з іх. Даследаванні найноўшай гісторыі Беларусі рэпрэзентуе артыкул **Дзяніса Юрчака** „Белорусско-украинские отношения в 1991–2004 г.: успехи и противоречия”, у якім аўтар спыняецца на палітычных і эканамічных аспектах ва ўзаемаадносінах дзвюх краін. Прызнаючы праявы напружанасці (непрызнанне Вярхоўнай Радай Украіны беларускага парламента ў 1996–1999 г., пытанне ўкраінскай запазычанасці і дэмаркацыі мяжы), даследчык ацэньвае беларуска-ўкраінскае супрацоўніцтва як плённае.

**Другі нумар** змясціў артыкулы па гісторыі і этналогіі. У артыкуле **Аляксея Саўкова** «Схема социальной динамики и концепция „всемирной истории” Н. А. Рожкова» аналізуецца цыклічная канцэпцыя гісторыі расійскага навукоўца Мікалая Ражкова (1868–1927). Выяўляюцца яе ідэйныя вытокі, месца ў тагачаснай думцы, моцныя і слабыя бакі. **Надзея Маторава** ў матэрыяле „Мероприятия органов городского самоуправления Беларуси по улучшению санитарного состояния городов (1875–1914)” апісвае такія мерапрыемствы, як стварэнне санітарных камісій, камітэтаў і апякунстваў, увядзенне пасады санітарных урачоў (не без супраціву з боку гарадскіх Дум), кантроль чысціні вады і інш. У этналагічную частку ўваходзіць артыкул **Уладзіміра Лобача** „Міфа-семантыка сядзібы і хаты ў традыцыйным светапоглядзе беларусаў”, дзе раскрываецца значэнне сядзібы і хаты ў традыцыйнай беларускай культуры як увасабленняў „сваёй” прасторы і Сусвету ў цэлым.

У **трэці нумар** уключана найбольшая за 2009 г. колькасць артыкулаў па гісторыі — пяць. У артыкуле **Алены Дзянісавай** „Гаспадарчая дзейнасць праваслаўных

манастыроў Беларусі ў другой палове XV — першай палове XVII ст.” акрэсліваецца маёмасны стан манастыроў, іх узаемаадносіны са свецкімі феадаламі, колькасць прыгонных і характар павіннасцяў. Робіцца выснова, што манастыры былі не вельмі заможнымі, але забяспечвалі патрэбы манахаў. **Юрый Петухоў** у матэрыяле „Этнополитическое и историческое сознание белорусского дворянства в конце XVIII — начале XX в.: обзор источников” вылучае наступныя групы крыніц па дадзенай праблематыцы: гістарычныя, этнаграфічныя даследаванні і гістарычная публіцыстыка; літаратурныя творы, мемуары і дзённікі; дваранскія перапісы; судова-следчыя матэрыялы і кіраўніцкая дакументацыя (с. 17). Але аўтар засяродзіўся толькі на пералічэнні крыніц, іх вартасцяў і недахопаў і нават не паспрабаваў акрэсліць метадалогію даследавання „этнапалітычнай і гістарычнай свядомасці беларускага дваранства ў канцы XVIII — пачатку XX ст.” ці хаця б раскрыць сутнасць гэтага інтэлектуальнага канструкта. Зрэшты, магчыма, гэта не ўваходзіла ў праблемнае поле артыкула, але разгляд крыніц без бліжэйшага вызначэння прадмета даследавання ўсё-такі немэтазгодны. **Васіль Табуноў** („Католическое духовенство и церковноприходские школы в Беларуси в начале XX века”) разглядае палітыку расійскага ўрада па выкрыццю нелегальных каталіцкіх школ і насаджэнню царкоўнапрыходскіх школ, у тым ліку сярод каталікоў. Падкрэсліваецца значэнне як супрацьвагі гэтаму цыркуляра № 509 ад 12 лютага 1902 г. віленскага біскупа С. Звяровіча аб ненаведванні каталікамі праваслаўных школ. Выкананне гэтага цыркуляра вернікамі прымусіла ўрад пайсці на саступкі. У артыкуле **Сяргея Васовіча** „Культурно-просветительская деятельность Витебского Свято-Владимирского братства в начале XX в.” робіцца акцэнт на дабрачыннай і рэлігійна-асветніцкай (натуральна, у праваслаўным рэчышчы) дзейнасці дадзенага брацтва. Адзначаецца антырэвалюцыйная агітацыя брацтва пад час падзей 1905–1907 г. **Наталля Новік** („Учительские институты в системе профессионального образования Беларуси начала XX в.”) разглядае

настаўніцкія інстытуты ў Віцебску (з 1910 г.), Магілёве (з 1913 г.) і Мінску (з 1914 г.), акрэслівае рэлігійны (выключна праваслаўныя) і сацыяльны (большая частка — сяляне) склад навучэнцаў.

У рубрыцы „Філасофія” ў **чацвёртым нумары** змешчаны цікавы і гісторыкам артыкул **Аляксандра Табачкова** „Исторический источник: онтогносеологический анализ”: аўтар, хоць нідзе гэта прама не сцвярджае, прытрымліваецца канструктывісцкага падыходу да аналізу паняцця „гістарычны факт”, таксама ён падкрэслівае, што „крыніца фактычнасці” — гэта акурат і ёсць гістарычная крыніца, актуалізаваная даследчыкам. Ва ўласна гістарычнай частцы нумара змешчаны тры артыкулы. У матэрыяле **Кацярыны Марозькі** „Организация учебного процесса в Минской духовной семинарии (вторая половина XIX в.)” акрэсліваецца матэрыяльны стан Мінскай духоўнай семінарыі, яе адукацыйны ўзровень, але асноўная ўвага скіравана на побыт навучэнцаў і перспектывы іх далейшай кар’еры. **Аляксандр Субоцін** („Успрыманне стаханаўскага руху рабочымі БССР у сярэдзіне 1930-х г.”) аналізуе ўспрыманне рабочымі БССР „стаханаўскага руху”. Яго станоўчая матывацыя прасочваецца праз разгляд сведчанняў саміх стаханаўцаў, але большасць прыведзеных прыкладаў — гэта ідылічныя замалёўкі з тагачаснай савецкай перыёдыкі, што аўтар зусім не ўлічвае. Паказаны таксама праявы адмоўнага стаўлення да „стаханаўскага руху” і прычыны гэтага. **Расціслаў Цімафееў** у артыкуле „Материально-технические условия развития транспорта БССР в 1943–1991 г.”, акрамя агульнага аповеду аб развіцці транспарту ў БССР, спыняецца на шматлікіх праблемах, якія існавалі ў транспартнай сферы ў той час.

## Известия Гомельского государственного университета им. Ф. Скорины

Часопіс дэкляраваны як „навуковы і вытворча-практычны”. Выдаецца з 1999 г., выходзіць 6 выпускаў на год,

пры гэтым некаторыя з іх у некалькіх частках. Аднак далёка не ва ўсіх нумарах ёсць матэрыялы па гісторыі.

## 2009

**Нумар другі** за 2009 г. змясціў два артыкулы па гісторыі, дакладней, па гісторыі асветы і адукацыі. У матэрыяле **Сяргея Васовіча** „Организация народных чтений и бесед епархиальными братствами в конце XIX — начале XX в.” адлюстраваны мерапрыемствы па арганізацыі чытанняў і гутарак, асаблівасці іх правядзення ў розных епархіях, тэмы чытанняў і вынікі дзейнасці, апошнія, праўда, у некалькі патэтычным стылі. У артыкуле **А. Сарокі** „Станаўленне сістэмы навучальных устаноў па падрыхтоўцы работнікаў для культурна-асветніцкіх устаноў савецкай Беларусі ў 20-х г. XX ст.” асвятляецца функцыянаванне савецкіх партыйных школ I і II ступеняў і Магілёўскага палітыка-асветніцкага тэхнікума.

**Трэці нумар** абышоўся без „гістарычнай” часткі, але сярод матэрыялаў у рубрыцы „Фальклярыстыка” вылучаецца даследаванне **Аляксандра Карскага** „Карские — собиратели белорусского фольклора”, у якім адзначаецца, што актыўным збіральнікам фальклору быў не толькі Яўхім Карскі, але і члены яго сям’і і бліжэйшыя сваякі.

**Частка першая чацвёртага выпуску** даволі багатая на гістарычныя даследаванні. **Мікалай Клепікаў** („К истории Гомельского музея”), апавядаючы пра Гомельскі музей у 20–30-я г. XX ст., здолеў змясціць інфармацыю і пра „Румянцаўскі гурток”, і пра распродаж музейных каштоўнасцяў у СССР. Артыкул **Віталя Гарматнага** „Вайсковае асадніцтва на тэрыторыі палескага[1] ваяводства ў 1921–1939 г.” мала адрозніваецца ад іншых матэрыялаў аўтара (гл.: Веснік БрДУ, № 2, 2009; Веснік МДУ, № 1, 2009). У даследаванні **Аксаны Яшчанкі** „Общественные традиции молодежи Мозырско-Припятского Полесья в 1920-е г.” паказана пранікненне ў

[1] Менавіта так – з малой літары – у тэксце.

культуру моладзі Палесся савецкіх звычаяў. Нягледзячы на згадванне Беларусі ў назве артыкула **Дзмітрыя Мігуна** „Беларусь в германо-советских отношениях 1939 г.”, тэкст пераважна прысвечаны міжнароднай сітуацыі ў 1939 г. без асаблівай прывязкі да Беларусі. Нарэшце, найбольш змястоўны артыкул у „гістарычнай” частцы прэзентуе **Сцяпан Захаркевіч** („Маркеры этнических меньшинств Беларуси в XIV–XVIII в.”): на падставе класіфікацый Ф. Барта і Ю. Абрэмбскага аўтар вызначае рысы як у знешнім выглядзе, так і ў свядомасці, якія адрознівалі прадстаўнікоў этнічных меншасцяў на тэрыторыі Беларусі ў XIV–XVIII ст.

У „філасофскай” частцы знаходзіцца артыкул **Вячаслава Цацарына** „Хэйдэн Уайт і Поль Рыкёр аб структуры гістарычнага тлумачэння”: пераказваюцца ідэі Х. Уайта аб „паэтычным” характары гісторыяпісання і іх перааэнсаванне П. Рыкёрам. Аўтар схільны больш згаджацца з пазіцыяй Уайта, чым Рыкёра.

Згадаем, што ў нумар увайшлі таксама матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі **„Беларусь і суседзі: гістарычныя шляхі, узаемадзеянне і ўзаемаўплывы”**.

Пачэснае месца занялі матэрыялы на гістарычныя тэмы і ў **шостым нумары**. У артыкуле **Д. Савіча** „К вопросу об истории православной церкви Витебщины в первые годы после Брестского церковного собора (1596–1625)” пераказваюцца ў асноўным добра вядомыя факты, звязаныя, перадусім, з постаццю Язафата Кунцэвіча, які, дарэчы, абвінавачваецца ў выкарыстанні „дваістых стандартаў”. **Алена Корань** („Этико-эстетические установки декабристов”) сцвярджае, што ў сваёй грамадскай дзейнасці дзекабрысты кіраваліся этычнымі перакананнямі, у замацаванні якіх вялікую ролю надавалі літаратуры і мастацтву. **Рыгор Лазько** („Ідэя самавызначэння народаў у ленінскай палітычнай канцэпцыі ў дакастрычніцкі перыяд”) падкрэслівае, што дэкларованае У. Ленінам права нацый на самавызначэнне было тактычным крокам бальшавікоў. У публікацыі **Анатоля Бабкова** „Помощь беженцам Первой мировой во-

йны эвакуационными органами Полоцкого уезда в 1919–1920 г.” паказана, як рассялялі бежанцаў, даглядалі іх пад час савецка-польскай вайны 1919–1920 г. Адзначаны кепскія, фактычна антысанітарныя, умовы ў лагерах для бежанцаў у Полацку. **Мікалай Мязга** („Падпісанне рапальскага дагавора і рэакцыя польскай дыпламатыі”) апісвае спробы Польшчы спыніць нямецка-расійскае збліжэнне ў першай палове 20-х г. XX ст. праз прыцягненне падтрымкі заходніх краін, кантакты то з Нямеччынай, то з Савецкай Расіяй.

## Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы
## Серыя 1: Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія

Часопіс выдаецца з сакавіка 1999 г. тры разы на год. У Серыі 1 матэрыялы па гісторыі складаюць звычайна большую палову тэкстаў. У кожным з нумароў 2009 г. значнае месца было аддадзена пад гістарыяграфічныя і крыніцазнаўчыя матэрыялы, і гэта не выпадкова, бо гістарычны факультэт ГрДУ вядомы сваім інтарэсам да гістарыяграфічнай праблематыкі (працы Аляксандра Нечухрына, Дзмітрыя Карава і інш.). Публікуюцца матэрыялы гродзенскіх навукоўцаў (а ГрДУ — адзін з найбуйнейшых цэнтраў гістарычных даследаванняў у Беларусі) і прадстаўнікоў іншых гарадоў.

### 2009

У **нумары першым** у артыкуле „Этническая ментальность белорусского дворянства в конце XVIII — начале XX вв. (историографический аспект)” **Юрый Петухоў** паказаў, як асэнсоўвалася дваранства беларускіх зямель навукоўцамі і публіцыстамі Расійскай імперыі — спачатку як „польскае”, пасля як „апалячанае”. Адзначаецца, што ў савецкай і постсавецкай навуцы спецыяльных даследаванняў па гэтай тэме не было. **Тадэвуш**

**Кручкоўскі** („Российско-польские отношения в первой половине XIX века и их влияние на развитие исторической полонистики в России"), акрамя рэтраспектыўнага агляду разнастайных навуковых і публіцыстычных прац, падкрэслівае ролю Мікалая Карамзіна як чалавека, які першым абгрунтаваў ідэю аб немагчымасці незалежнай Польшчы без шкоды для Расіі. На мяжы крыніцазнаўчых штудый і інтэлектуальнай гісторыі знаходзіцца артыкул **Ганны Паўлоўскай** „Хроніка кляштара кармелітаў босых гаспадарскага места Гародні як silva rerum Conventus Grodnensis", у якім даецца падрабязнае апісанне Хронікі кляштара босых кармелітаў у Гродне (апісвала падзеі 1652–1790 г.). Здзейснена спроба параўнаць яе са шляхецкімі зборнікамі энцыклапедычнага характару — silva rerum. Сцвярджаецца, што як і silva rerum, Хроніка стварала суму ведаў і ідэалы выхавання, захоўвала калектыўную тоеснасць.

Але не толькі гістарыяграфія і крыніцазнаўства вабіць аўтараў дадзенага выдання. У артыкуле **Алега Карповіча** „Участие населения белорусских уездов Гродненской губернии в восстании 1863–1864 г." акрэсліваецца і аналізуецца сацыяльны склад паўстанцаў у Брэсцкім, Ваўкавыскім, Гродзенскім, Кобрынскім, Пружанскім і Слонімскім паветах. Робіцца выснова, што большую частку паўстанцаў складалі прадстаўнікі беззямельнага збяднелага дваранства і дробныя чыноўнікі. Даюцца прычыны ўдзелу розных сацыяльных груп у паўстанні 1863–1864 г. на Гродзеншчыне. У публікацыі **Вольгі Папко** „Прынцыпы наследавання ардынацый князёў Радзівілаў у XIX ст." адлюстраваны шэраг адыходаў ад прынцыпу ардынацыі (маярату) пры перадачы ўладанняў Радзівілаў у спадчыну ў XIX ст. Разгледжаны ўплыў палітычных аспектаў на маёмасныя адносіны — удзел князя Дамініка Радзівіла ў вайне 1812 г. на баку Напалеона, пераход часткі Радзівілаў, нямецкіх падданых, у пачатку XX ст. у расійскае падданства для магчымасці карыстацца сваімі ўладаннямі на тэрыторыі Расійскай імперыі. **Таццяна Хурсан** у артыкуле „Пытанні колькаснага вызначэння стараабраднікаў на тэрыторыі

Усходняй Беларусі (другая палова XVIII — XIX ст.)” паказвае дынаміку (рост) колькасці стараабраднікаў у другой палове XIX ст. Праўда, пераканаўчага тлумачэння гэтага даследчыца не падае. Артыкул **Аляксандра Самовіча** „Опыт восприятия турецких военнопленных населением белорусских губерний (1877–1878)” у цэлым падобны да матэрыялу гэтага ж аўтара ў „Весніку ВДУ” (№ 1, 2009, гл. раней), толькі мае большы геаграфічны ахоп. Дадаецца таксама апісанне выпадкаў жадання некаторых палонных застацца ў Расійскай імперыі і перайсці ў праваслаўе. У публікацыі **Наталлі Новік** „Профессиональное образование в Гродненской губернии в XIX — начале XX в.” адзначаецца адставанне Гродзенскай губерні ў прафесійнай адукацыі ад іншых беларускіх губерняў, што аўтарка тлумачыць адсутнасцю земстваў.

Гісторыя XX ст. таксама багата рэпрэзентавана ў гэтым нумары. У артыкуле **Вольгі Шчукі** „Еврейские политические партии и организации в Западной Беларуси в условиях мирового экономического кризиса (1929–1933)” падкрэсліваецца, што ў міжваеннай Польшчы ва ўмовах крызісу ўзраслі антысеміцкія настроі. Але асноўная ўвага звернута на дзейнасць яўрэйскіх партый і арганізацый рознай палітычнай накіраванасці. Робіцца выснова, што найбольш уплывовымі з іх былі Бунд і Паалей-Цыён. **Анатоль Вялікі** („Пытанне нацыянальнасці і грамадзянства ў час рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з ПНР у БССР у 1957–1959 г.”) прасочвае, як са змяненнем палітычнай кан’юнктуры ў 40–50-я г. XX ст. (сталае замацаванне тэрыторыі Заходняй Беларусі за БССР, магчымасць выезду ў Польшчу) змянялася і нацыянальнасць многіх жыхароў захаду Беларусі — з палякаў у беларусы і наадварот. У матэрыяле **Эдмунда Ярмусіка** „Римско-католическая Церковь в Беларуси в период понтификата Иоанна Павла II” апавядаецца пра Рымска-каталіцкую царкву ў Беларусі ў 1978–2005 г., калі папам рымскім быў Ян Павел II. Акрэсліваюцца асноўныя падзеі ў рэлігійным жыцці беларускіх каталікоў. Аўтар старанна абыходзіць

тэму ўзаемаадносінаў каталіцкай царквы з уладамі незалежнай Беларусі.

**Другі нумар** распачынае **Андрэй Ганчар** („Политика Российской империи в отношении римско-католической церкви на территории Беларуси в посл. трети XIX — нач. XX в.”), які вызначае ў дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі гісторыі каталіцкай царквы кансерватыўны (які пераважаў) і ліберальны напрамкі. У савецкай гістарыяграфіі ім вылучаецца два перыяды: 1920–1950-я г., калі каталіцкая царква апісвалася выключна ў змрочных фарбах, і 1950–1980-я г., калі панаваў больш узважаны падыход. У сучаснай расійскай гістарычнай навуцы адзначаецца тэзіс, што адносіны Расіі і Рыма псавала „польскае пытанне”. **Сяргей Занеўскі** ў матэрыяле „Роль правового положения шляхты ВКЛ в законодательном оформлении российского дворянства (источниковедческий анализ)” сцвярджае, што прававы стан шляхты ВКЛ стаў узорам для расійскага дваранства ў яго імкненні да заканадаўчага замацавання ўласных правоў. **Аляксандр Радзівонаў** („Комплектование российской армии на территории Гродненской губернии накануне Отечественной войной[2] 1812 г.”) „парадаваў” яшчэ ў рэзюмэ да артыкула, дзе падзяліў ваенных гісторыкаў на „дваранскіх”, „буржуазных”, „савецкіх” і „айчынных” (с. 81). Абсалютную некарэктнасць (з пункту гледжання логікі) такой класіфікацыі тлумачыць не выпадае. Але ў цэлым гэта неблагі матэрыял пра арганізацыю рэкруцкай павіннасці ў Расійскай імперыі (у прыватнасці, у Гродзенскай губерні) у першым дзесяцігоддзі XIX ст.

У артыкуле **Валерыя Чарапіцы** „Чины Гродненской губернской, городской и уездной полиции в начале XX века: их типы и судьбы” падаецца кароткі агляд арганізацыі паліцэйскай службы ў Расійскай імперыі, біяграфіі шэрагу значных паліцэйскіх чыноў Гродзенскай губерні, а таксама Пятра Станіслававіча Геніюша, свёкра знакамітай паэткі Ларысы Геніюш. У

[2] „Накануне Отечественной войной”: менавіта так, з памылкай у дапасаванні, у назве артыкула.

даследаванні **Вольгі Радзівонавай** „Православное духовенство Белорусских епархий в начальный период Первой мировой войны (июль — декабрь 1914 г.)” акрэсліваецца дабрачынная і прапагандысцкая дзейнасць праваслаўных святароў у пачатку Першай сусветнай вайны. **Аляксей Саўкоў** („Проблема личности и личностного фактора в исторической концепции Н. А. Рожкова”) адзначае супярэчлівасць поглядаў расійскага гісторыка Мікалая Ражкова на ролю асобы ў гісторыі: з аднаго боку, пад уплывам пазітывізму і марксізму, яе поўнае адмаўленне, а з іншага, вылучэнне (фактычна на падставе „вялікіх асобаў”) „псіхічных тыпаў”, якімі і адрозніваюцца эпохі.

У артыкуле **Дзмітрыя Карава** „Западноруссизм и его представители в белорусской историографии пореформенного периода (к проблеме влияния политики на историческую идеологию)” паказваецца палітызаваная сутнасць „заходнерусісцкай” гістарыяграфіі. Матэрыял **Анастасіі Каравай** „Белорусская диаспора и становление традиций белорусоведения в Великобритании в 40-е — сер. 80-х г. XX в. (историографические, источниковедческие, историко-культурологические аспекты проблемы)” значна пашыраны і больш сістэматызаваны, чым падобны артыкул аўтаркі ў БГЧ (№ 6, 2009, гл. раней). Асаблівая ўвага звернута на крыніцы па гісторыі беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі. Артыкул **Ганны Змітрукевіч** „Белорусская диаспора и формирование традиции белорусоведения в Западной Германии и ФРГ (40–80-е гг. XX в.)” — пашыраны варыянт з БГЧ (№ 6, 2009, гл. раней). Бянтэжыць пэўная неахайнасць артыкулаў А. Каравай і Г. Змітрукевіч: граматычныя памылкі, паўторы тэксту, нарэшце, наяўнасць аднолькавых ці вельмі падобных фрагментаў у абодвух матэрыялах: на с. 66–67 і 75 — пра Янку Запрудніка і Міколу Панькова, на с. 66 і 79 — пра газету „Бацькаўшчына”. Гэта значна зніжае навуковую вартасць публікацый.

У матэрыяле **Андрэя Боркі** „Структура і асаблівасці дзейнасці Гродзенскай гарадской рады (1919–1927)” ад-

люстраваны нацыянальны (пераважалі палякі і яўрэі), рэлігійны (у асноўным каталікі і іўдзеі) і палітычны (з цягам часу павялічвалася прадстаўніцтва праўрадавых колаў) склад рады, акрэслены яе паўнамоцтвы. Тэму Заходняй Беларусі працягвае **Аляксандр Вабішчэвіч** у артыкуле „Беларускае тэатральнае і музычнае жыццё ў Польшчы ў 20–30-я г. ХХ ст.", дзе апісваюцца спробы стварэння беларускага прафесійнага тэатра, дзейнасць самадзейных тэатраў, беларускіх хораў, музыкаў і спевакоў, перашкоды для беларускага тэатра і музыкі з боку польскіх уладаў.

Нарэшце, **Алена Макрушыч** („Этнокультурная политика в Республике Беларусь в начале XXI в.") пералічвае нарматыўна-прававыя акты, мерапрыемствы, дасягненні і г. д. у этнакультурнай палітыцы ў Беларусі.

**Трэці нумар** запоўнены пераважна гістарыяграфічнымі матэрыяламі. **Святлана Марозава** („Гісторыка-канфесійныя даследаванні на кафедры гісторыі Беларусі ГрДУ імя Янкі Купалы") прасочвае дзейнасць трох пакаленняў даследчыкаў (пачынаючы ад Якава Мараша), якія займаліся і займаюцца канфесійнай праблематыкай на гістарычным факультэце ГрДУ. У артыкуле **Наталлі Ягнешко** „Сістэма атэстацыі навуковых і навукова-педагагічных кадраў у Рэспубліцы Беларусь і яе вынікі па гістарычных навуках (1991–2007)" пералічваюцца шматлікія ператварэнні ў сістэме атэстацыі ў Беларусі, прыводзяцца прыклады ўдалых і няўдалых спробаў атрымання вучоных ступеняў. У артыкуле **Руслана Гагуа** «„Хроника конфликта..." как один из основных источников для исследования Грюнвальдской битвы 1410 года в отечественной и зарубежной историографии» пра айчынную гістарыяграфію (спадзяюся, аўтар пад ёй меў на ўвазе беларускую) нічога не сказана, магчыма, таму што „Хроніка канфлікту..." не атрымала ў нас (да ўласна Р. Гагуа) належнага разгляду. Што датычыцца замежнай гістарыяграфіі, то, на думку аўтара, у польскай навуцы склалася недакладнае, заніжанае меркаванне аб вартасцях гэтай крыніцы. Асноўную частку працы **Та-**

**дэвуша Кручкоўскага** „Общественно-политические условия развития исторической полонистики в России второй половины XIX века" займае апісанне зменаў ва ўрадавай палітыцы ў дачыненні да „польскага пытання" і стаўленне да яго ў грамадскай думцы. Пра ўласна „гістарычную паланістыку" адзначаецца, што адносіны да Польшчы кансерватыўных і ліберальных гісторыкаў не вельмі адрозніваліся і (за рэдкім выняткам) былі насцярожанымі. У крыніцазнаўчым артыкуле **Андрэя Чарнякевіча** „Православная церковь Беларуси конца XVIII — начала XX веков (по материалам польских источников и литературы)" чамусьці вельмі выбарачна рэпрэзентаваны крыніцы: колькі прац з XIX ст., у тым ліку публіцыстычных, адна кніга з міжваеннага часу, нічога з перыяду ПНР, а завяршае ўсё агляд сучаснай польскай гістарыяграфіі. Казаць у такім выпадку пра нейкія тэндэнцыі ў адлюстраванні Праваслаўнай царквы ў польскай грамадскай думцы не выпадае. Артыкул **Святланы Сілавай** „Православная церковь в конце XIX — начале XX вв. (к историографии вопроса)" фактычна ўяўляе сабою два розныя матэрыялы: агляд крызіснага стану Праваслаўнай царквы ў Расіі на памежжы XIX–XX ст. і пералік крыніц і гістарыяграфіі па гісторыі праваслаўя ў Расіі. Як усё гэта суадносіцца з назвай артыкула, сказаць складана. Спіс выкарыстанай літаратуры налічвае 92 (!) пазіцыі, але добра, калі на палову з іх ёсць спасылкі ў тэксце. Артыкул **Вольгі Працэнкі** «Проблема цивилизационного выбора России на страницах журнала „Отечественная история" (2000–2008 гг.)» — пра вечную праблему „лёсу Расіі" (у тым ліку ў яе цывілізацыйнай мадыфікацыі), якая ўжо стала не толькі гістарычнай, але і гістарыяграфічнай праблемай.

Але не гістарыяграфіяй адзінай жыве „Веснік ГрДУ". Артыкул **Алены Корань** „Декабристы после декабря. Ретроспективная самооценка и менталитет", нягледзячы на заяўленую маштабнасць і „мадэрнасць" тэмы, уяўляе сабою вельмі інфарматыўны, але ўсё-такі панегірык дзекабрыстам. Што датычыцца праана-

лізаванага аўтарам менталітэту ўдзельнікаў паўстання, то прыцягвае ўвагу адчуванне дзекабрыстамі ўласнай гістарычнай ролі і адказнасці, якое не знікла і ў ссылцы. У артыкуле **Андрэя Боркі** „Структура і асаблівасці дзейнасці Гродзенскіх гарадскіх радаў у другой палове 20 — 30-х г. XX ст.” асвятляецца дзейнасць II–IV Гродзенскіх радаў, акрэсліваецца партыйны і нацыянальны склад членаў (прадстаўнікі польскіх і яўрэйскіх партый і арганізацый), паўнамоцтвы рады, яе залежнасць ад ваяводскага начальства. У публікацыі **Дзмітрыя Кіенкі** „Авиация Белорусского военного округа в советско-польском конфликте сентября 1939 года” паказана, што СССР меў перавагу ў паветры над Польшчай, асноўная частка ВПС якой змагалася ў гэты час з Нямеччынай. Артыкул **Вольгі Харчанкі** „Культурные преобразования в западных областях Беларуси (сентябрь 1939 — июнь 1941 г.)” добра ілюструе поспехі Савецкай улады ў некаторых сферах (кантроль СМІ, адукацыя) і правал — у іншых, напрыклад, у антырэлігійнай прапагандзе. **Сяргей Піваварчык** у матэрыяле «Организация обороны советских войск на „Линии Сталина”» аналізуе з ваеннагістарычнага пункту гледжання „Лінію Сталіна”, адзін са слупоў афіцыйнай беларускай ідэалогіі. Адзначаецца, што значную ролю адыграў толькі Полацкі ўмацаваны раён, які здолелі падрыхтаваць да прыходу немцаў, астатнія ж, да вайны занядбаныя, не мелі вялікага значэння. Бадай што самым удалым месцам артыкула **Расціслава Цімафеева** „Государственная политика по управлению деятельностью белорусского транспорта в 1943–1991 г.” з’яўляецца такі „прысуд” дзяржаўнай транспартнай палітыцы: „пяцігоддзе ішло за пяцігоддзем, а патрэбных станоўчых зменаў у развіцці транспарту рэспублікі не назіралася. У адваротным выпадку навошта было зноў і зноў звяртацца [у разнастайных пастановах і г. д.] да аднаго і таго ж” (с. 40). Сам жа матэрыял уяўляе сабою амаль бясконцы пералік ведамстваў, устаноў, іх кіраўнікоў, нарматыўна-прававых актаў.

# Веснік Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова

Выдаецца са снежня 1998 г. і да 2010 г. выходзіў тры разы на год без падзелу на серыі.

## 2009

У **нумары першым** у артыкуле **Міхаіла Наскова** «Пример межкультурного обмена Западной Руси и Скандинавии IX–XI в. (белорусская легенда о „главном черте”)» сцвярджаецца, што запісаная Адамам Багдановічам беларуская легенда пра „галоўнага чорта” мае скандынаўскае паходжанне і ўтварылася на падставе адной з легендаў пра Локі. Але пасля такого „сярэднявечнага” пачатку аўтары артыкулаў на беларускую і калябеларускую тэматыку кінуліся ва ўлюбёную нашай універсітэцкай перыёдыкай мадэрную гісторыю. **Алена Галавач** у артыкуле „Проекты решения аграрного вопроса в I Думе” вызначыла, што найбольшую ўвагу ў Думе аддавалі аграрнаму пытанню (с. 32). Але гэта было вядома і раней. Цікавасць жа ўяўляюць звесткі пра выступленне дэпутатаў ад беларускіх губерняў на паседжаннях Думы. У артыкуле **Дзмітрыя Лаўрыновіча** «Политический портрет В. К. Стукалича — председателя Витебского отдела „Союза 17 октября”» апавядаецца пра Уладзіміра Стукаліча (1856–1918) — у маладосці блізкага да народнікаў, а ў сталым веку — „заходнерусіста” і акцябрыста. Біяграфічныя матэрыялы працягваюць **Уладзімір Навіцкі і Міхаіл Абраменка** („Человек своего времени”), якія апісваюць жыццё рэпрэсаванага ў 1937 г. Івана Сурты (1893–1937), які паспеў пабыць стваральнікам сельскагаспадарчай камуны, чэкістам, наркамам аховы здароўя БССР, прэзідэнтам Акадэміі навук БССР.

**Віталь Гарматны** ў артыкуле „Аграрная палітыка польскіх улад на землях Заходняй Беларусі (1921–1939)” акрэслівае ход такіх мерапрыемстваў, як увядзенне асадніцтва, камасацыя (стварэнне хутароў), ліквідацыя

сервітутаў і парцэляцыя. **Сяргей Новікаў** („Баі за магілёўскі плацдарм з 20 па 26 ліпеня 1941 г.: погляд у святле нямецкіх крыніц”) уводзіць у навуковы ўжытак нямецкае „Данясенне пра бой за Магілёў”, якое дае магчымасць удакладніць абставіны Магілёўскай бітвы. Нарэшце, **Аляксандра Буракова** ў артыкуле „Отражение истории партизанского движения в экспозициях Могилевского областного краеведческого музея” паказвае ідэалагічную сутнасць першапачатковай экспазіцыі (узвялічванне ролі Сталіна і кампартыі) і паступовы адыход ад такой падачы матэрыялу.

**Наступны нумар** меў падвойную **(2–3)** нумарацыю, але на колькасці артыкулаў па гісторыі гэта ніяк не адбілася. У артыкуле **Дзяніса Дука** „Абарончыя ўмацаванні полацкіх пасадаў XI–XVIII ст.” разглядаецца развіццё ўмацаванняў Вялікага і Запалоцкага пасадаў у Полацку. Наступныя два артыкулы прысвечаны грамадска-палітычнаму руху ў Расійскай імперыі ў пачатку XX ст. **Канстанцін Бандарэнка** („Историография монархического движения в России и Беларуси в 20–30-е г. прошлого века”) усяляк падкрэслівае ідэалагізаванасць ацэнак манархічнага руху ў савецкай гістарыяграфіі 20–30-х г. XX ст. У матэрыяле **Дзмітрыя Лаўрыновіча** „Либеральное движение в Беларуси (ноябрь 1904–1905 г.)” паказана, што на тэрыторыі Беларусі ў 1904–1905 г., яшчэ да афармлення ліберальных партый, існаваў актыўны ліберальны рух. Беларускую тэматыку завяршае **Сяргей Зыбін** („БССР на Всесоюзной сельскохозяйственной выставке 1939 г. в Москве”), які ў асноўным апісвае павільён БССР на выставе 1939 г.

**Чацвёрты нумар** (фактычна трэці) змяшчае пяць артыкулаў па гісторыі і адзін па этналогіі. Што датычыцца апошняга, то маецца на ўвазе даследаванне **Веры Мішынай** „Прасторава-часавыя характарыстыкі традыцыйнага каравайнага рытуалу беларусаў XIX — пачатку XX ст.”, у якім акрэслена значэнне ў традыцыйнай культуры розных этапаў прыгатавання вясельнага каравая і месцаў у хаце і па-за яе межамі пад час гэтага працэсу.

У артыкуле **Барыса Сідарэнкі і Пятра Дзмітрачкова** «Современная российская историография „русско-литовских" войн конца XV — первой трети XVI в.» падкрэсліваецца, што ў сучаснай расійскай гістарыяграфіі пераадолены многія ідэалагічныя штампы савецкага часу ў вывучэнні войнаў паміж Масквой і ВКЛ. **Наталля Аляксейчыкава** ў публікацыі „Влияние цеховых организаций на семейную жизнь ремесленников и купцов в XVI–XVIII в. (на примере г. Могилева)" паказвае падабенства структуры цэху і сям'і, уплыў цэхаў на матрыманіяльныя, сямейныя адносіны.

Два артыкулы напісаны на тэму дзейнасці палітычных партый у 1917 г. **Ігар Шардыка** („Кадеты в 1917 г.: эволюция взглядов на аграрную проблему") адзначае, што аграрная праграма кадэтаў у 1917 г. „не паспявала" за патрабаваннямі сялянства. У артыкуле **Алесі Мельнікавай** „Деятельность Витебской организации Трудовой народно-социалистической партии в 1917 г." разглядаецца дзейнасць Працоўнай народнасацыялістычнай партыі (аб'яднанне „народных сацыялістаў" і „трудовиков") у Віцебску ў 1917 г. Падкрэсліваецца, што гэтая партыя, якая выступала за эвалюцыйны шлях грамадскага развіцця, не мела шырокай падтрымкі насельніцтва.

**Яўген Грэбень** у артыкуле „Чрезвычайные ситуации в жизни населения Беларуси в период нацистской оккупации" паказвае на прыкладзе Магілёва арганізацыю службы ратавання на вадзе і пажарнай службы пад час нямецкай акупацыі.

## Веснік Мазырскага дзяржаўнага педагічнага ўніверсітэта імя І. Шамякіна

Выдаецца 4 разы на год, але ў 2009 г. № 4 не змяшчаў артыкулаў па гісторыі. Відавочным адрозненнем часопіса ад іншых універсітэцкіх выданняў з'яўляецца вельмі малая прысутнасць на яго старонках артыкулаў гісторыкаў, якія прадстаўляюць універсітэт-выдавец.

## 2009

Так, у **першым нумары** толькі адзін матэрыял быў падрыхтаваны спецыялістам з МДПУ — „Да пытання аб старажытнай спадчыне Мазыра” **Алены Барсук**: пад некалькі таямнічай назвай хаваецца сціслы агляд гісторыі Мазыра з акцэнтам на помнікі архітэктуры.

У артыкуле **Віктара Кахновіча** „Асаблівасці памешчыцкага землеўладання і гаспадарання на Палессі ў парэформенны перыяд Расійскай імперыі (1861–1914)” адзначаецца, што Палессе было рэгіёнам латыфундыяльнага землеўладання, але найбольшая прадпрымальніцкая ініцыятыва праяўлялася не ў буйных, а ў сярэдніх латыфундыях. У матэрыяле **Дзмітрыя Лаўрыновіча** „Участие конституционно-демократической партии в выборах в Учредительное собрание в Беларуси (октябрь — ноябрь 1917 г.)” асвятляецца працэс фармавання выбарчых спісаў кадэтаў, агітацыя, якая вялася партыяй. Адзначаецца, што на выбарах у беларускіх губернях кадэты пацярпелі паражэнне, бо перадусім у аграрнай частцы праграмы не маглі супернічаць з сацыялістамі, якіх, у асноўным бальшавікоў, таксама падтрымлівалі салдаты. Нарэшце, артыкул **Ірыны Калачовай** „Сям’я беларусаў у горадзе: тэндэнцыі этнакультурнага развіцця на сучасным этапе” — гэта спроба прасачыць ступень захаванасці традыцый „народнай педагогікі” ў сучасных гарадскіх сем’ях.

**Другі нумар** распачынаюць два артыкулы **Аляксандра Вараб’ёва**. У першым з іх — „Выборы в Учредительное собрание на территории Мстиславского и Климовичского уездов Могилевской губернии” — адлюстраваны партыйныя спісы, факты парушэнняў на выбарах і вынікі галасавання, якія прынеслі перамогу эсэрам. Другі артыкул („Историография выборов в Учредительное собрание на территории Беларуси и соседних российских губерний”) — гэта пералік (з сур’ёзнай тэндэнцыяй у бок крытыкі) даследаванняў па гісторыі выбараў ва Устаноўчы сход. Праўда, аўтар чамусьці занёс у гістарыяграфію шэраг лістоў У. Леніна, якія выпа-

дае ўсё-такі залічыць у крыніцы. Матэрыял **Алены Галавач** „Социальные проблемы на территории Беларуси в нач. XX в.” уяўляе сабою агляд рабочага, аграрнага і адукацыйнага пытанняў у беларускіх губернях Расійскай імперыі. У публікацыі **Паўла Літвінава** „Польское население Мозырщины в 20-е г. XX в.: этническая характеристика” вылучаюцца два віды „польскасці” — касцельная (апалячаная шляхта) і этнічная (перасяленцы з Польшчы). Адзначаецца, што польская самасвядомасць магла быць вышэйшай менавіта ў „касцельных” палякаў. Завяршае „беларускую” частку **Дзмітрый Мігун**, у артыкуле якога „Германо-белорусские экономические контакты в межвоенный период” апавядаецца пра дзейнасць Гандлёвага прадстаўніцтва БССР у Нямеччыне, а таксама пра ўдзел беларускіх прадпрыемстваў у нямецкіх выставах і наадварот.

Як і другі, **трэці нумар** абышоўся без артыкулаў гісторыкаў з МДПУ. **Ігар Увараў** („Развитие институтов государственной власти в Великом Княжестве Литовском в XV–XVI в.”) паўтарае даўно вядомую схему руху ВКЛ да абмежаванай манархіі. У артыкуле **Канстанціна Бандарэнкі** „Состав монархических организаций в белорусских губерниях Российской империи начала XX в.” сцвярджаецца, што правыя партыі ў беларускіх губернях мелі ўсесаслоўны характар, хоць з тэксту вынікае, што гэта можа быць сказана толькі пра некаторыя з іх, перадусім, СРН. У публікацыі **Сяргея Васовіча** „Возрождение и развитие православных братств в Беларуси в 1863–1914 г.” адзначаецца, што брацтвы павінны былі змагацца супраць каталіцызму і польскай культуры. Вылучаюцца перыяды росквіту і заняпаду брацкага руху.

## Вестник Полоцкого государственного университета

Выдаецца штомесячна, але асобныя нумары прысвечаны тым ці іншым групам навук. Таму матэрыялы па гісторыі трапілі толькі ў першы і сёмы выпускі за 2009 г.

Цікава, што часопіс пазіцыянуецца як працяг выдання, якое ладзілася яшчэ ў Полацкай езуіцкай акадэміі.

**2009**

**Нумар першы** распачынае **Дзяніс Дук** артыкулам „Полацкі пасад IX–XVII ст.: гісторыка-параўнаўчая характарыстыка": параўноўваецца структура пасадаў у Полацку з адпаведнымі ўзорамі іншых гарадоў поўначы Русі. Сцвярджаецца, што Полацк вылучаецца з шэрагу іншых гарадоў, бо да ранняга Новага часу ў ім не склалася „соценнай" сацыяльнай структуры, а гарадскіх „канцоў" не было наогул. У матэрыяле **Юрыя Усціновіча** „Арганізацыя сістэмы ўтрымання дзяржаўных умацаванняў Вялікага Княства Літоўскага ў XVI ст." падкрэсліваецца, што насельніцтва мелася выконваць павіннасці па ўтрыманні ўмацаванняў па „даўніне", але гэтая „даўніна" мела ўласцівасць з часам змяняцца. **В. Емяльянчык і І. Кошкін** у матэрыяле „Население Полоцка XVII–XVIII в. по данным антропологии (по материалам раскопок на Полоцком городище)" вызначаюць сярэднюю працягласць жыцця людзей, пахаваных на даследаваных Д. Дукам могілках полацкай шляхты, апісваюць выяўленыя паталогіі і хваробы. Робіцца выснова, што па характарыстыках чарапоў полацкая шляхта не вылучалася з тагачаснага насельніцтва беларускіх зямель.

**Алеся Мельнікава** („Организационное оформление парламентской трудовой группы и формирование ее партийных установок в период деятельности I Государственной думы") вызначае сацыяльны склад „трудовиков", прысутнасць у іх шэрагах дэпутатаў ад беларускіх губерняў, асноўныя напрамкі дзейнасці групы і прычыны няўдач. У артыкуле **Валерыя Волжанкова** «Полемика „Нашай Нівы" с правой прессой» параўноўваюцца аргументы ў спрэчках „Нашай Нівы" з расійскімі выданнямі. **Аляксандр Вараб'ёў** („К вопросу о выборах во Всероссийское Учредительное собрание в Невельском уезде Витебской губернии") апісвае ўдзел у галасаванні салдатаў, пера-

важна прыязных да бальшавікоў, і шматлікія парушэнні, здзейсненыя бальшавікамі і, у меншай ступені, эсэрамі.

У раздзеле „Культуралогія" змешчаны выдатны артыкул **Уладзіміра Лобача** „Рускія, украінскія і польскія землі ў міфапаэтычных уяўленнях беларусаў у XIX — пачатку XX ст.", які добра паказвае стаўленне беларусаў да суседніх земляў як да „чужой", г. зн. непрыязнай прасторы.

**Сёмы нумар** таксама адкрыў **Дзяніс Дук**, які ў артыкуле „Гісторыя археалагічнага вывучэння полацкіх пасадаў" падрабязна апісаў вынікі раскопак, у тым ліку не самых вядомых, на полацкіх пасадах, пералічыў усе важкія адкрыцці і акрэсліў асноўныя навуковыя гіпотэзы па гэтай тэматыцы. У публікацыі **Віктара Якубава** „Склад войска Вялікага Княства Літоўскага і Польскага каралеўства ў Інфлянтах 1605–1609 г." даказваецца, што большую частку войска Рэчы Паспалітай у вайне са Швецыяй у перыяд 1605–1609 г. складалі выхадцы з ВКЛ. **Андрэй Мацук** („Барацьба магнацкіх груповак вакол Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага 1741 г.") паказвае ўсе перыпетыі барацьбы ў 1741 г. Сапегаў і Чартарыйскіх (пры ўдзеле іншых магнатаў) супраць Радзівілаў і перамогу (пераканальную, хоць і часовую) антырадзівілаўскай кааліцыі. У артыкуле **Юліі Аўчыннікавай** „Становление и деятельность Полоцкой униатской духовной консистории в годы архиерейства Иоасона Смогоржевского и Ираклия Лисовского" апісваецца ўсталяванне ўніяцкай кансісторыі (па ўзоры праваслаўных), а таксама яе функцыі.

**Дзмітрый Лаўрыновіч** у матэрыяле „Конституционные демократы в Минской губернии (1905–1917)" асвятляе станаўленне кадэцкіх груп у Мінскай губерні, асаблівасці пазіцыі мінскіх кадэтаў, уплыў на функцыянаванне партыі на Міншчыне палітычнай сітуацыі ў Расійскай імперыі ў цэлым. **Наталля Даўгяла** („Конфессиональная политика органов Советской власти на территории Витебского и Полоцкого округов. 1924–1930") адзначае, што ў 1924–1928 г. да рэлігіі ўлады ставіліся адносна цярпіма, шырокі наступ пачаўся з 1928 г. Па-

казана становішча Праваслаўнай, Каталіцкай цэркваў, Пратэстанцкіх намінацый і іўдзейскай супольнасці.

Тры артыкулы ў гэтым нумары належаць да галіны этналогіі. У матэрыяле **Уладзіміра Лобача** „Латвія і латышы ў традыцыйнай карціне свету беларусаў Падзвіння XIX — першай паловы XX ст.” паказваецца стаўленне беларусаў да латышоў, перадусім, сялянкаланістаў як да „чужых сваіх” — блізкіх па многіх параметрах, але ўсё-такі адрозных па мове і г. д., успрыманых як уладальнікаў „таемных ведаў”, што характэрна для вобразу „чужога”. У публікацыі **Уладзіміра Аўсейчыка** „Пахавальна-памінальная абраднасць беларусаў Падзвіння: гістарыяграфія і сучасны стан даследаванняў” пералічваюцца асноўныя працы па пахавальна-памінальнай абраднасці, даецца іх апісанне выключна ў станоўчым рэчышчы, адмоўных момантаў аўтар не знаходзіць. **Святлана Андрыеўская** („Традыцыйнае сямейнае выхаванне і побыт дзяцей на тэрыторыі Беларускага Падзвіння: гістарыяграфія і крыніцы”) разглядае працы педагогаў, культуролагаў і этнолагаў у форме пераліку, без асаблівага крытычнага напаўнення. Адно што падкрэслівае абыходжанне даследчыкамі рэгіянальных асаблівасцяў у выхаванні.

## Гістарычны альманах

Выданне „Гістарычнага альманаха” распачалося ў 1998 г. намаганнямі групы гродзенскіх навукоўцаў, у якасці выдаўца выступае „Беларускае гістарычнае таварыства”. На канец 2010 г. выйшла 16 нумароў. Альманах цягам існавання не меў дакладнай перыядычнасці, але з 2004 г. выдаецца адзін нумар на год. Для пачатковых нумароў быў характэрны акрэслены падзел на „гістарычную” і „краязнаўчую” частку, але ён з часам знік. У фокусе перыёдыка — гісторыя Беларусі, асобныя нумары не маюць пэўнай тэматыкі, за выключэннем тых, у якіх публікаваліся тэксты канферэнцый і семінараў (№ 4, 7, 9–13) і якія прысвячаліся выдатным

постацям беларускай навукі (№ 6 — памяці Міхася Біча). У першым нумары падкрэслівалася, што пры адборы публікацый „навуковая ступень, пасада, узрост, рэгаліі аўтара ў разлік не прымаюцца”, гэтага правіла альманах прытрымліваецца і сёння, што пацвярджае і склад аўтараў пятнаццатага нумара.

**Пятнаццаты нумар (2009)** — нетэматычны, матэрыялы ахопліваюць гісторыю беларускіх зямель з канца XIV ст. да Другой сусветнай вайны. У канцы зборніка пад рубрыкай „Сацыялогія” змешчаны артыкул **Сяргея Кандрычына** «Сацыяльная прастора Украіны і Беларусі ў працэсе „сутыкнення цывілізацый” паводле сацыяльнай і дэмаграфічнай статыстыкі».

„Гістарычную” ж частку распачынае **Васіль Варонін** матэрыялам „Старонка біяграфіі князя Андрэя Полацкага”. Пад гэтай сціплай назвай хаваецца змястоўны артыкул, у якім на падставе лацінамоўных „рахункаў” Кракава і польскага каралеўскага двара асвятляецца побыт князя Андрэя Полацкага ў зняволенні ў 1390–1394 г. у польскім замку Хэнціны. З гэтых крыніц даследчык атрымлівае інфармацыю як пра ролю князя Андрэя ў перамовах паміж Ягайлам і Вітаўтам, якія варагавалі ў той час, так і пра паўсядзённае жыццё вязня — яго гастранамічныя перавагі, адзенне, паездкі на набажэнства. Украінская даследчыца **Ала Бортнікава** з апорай на амаль „сакральную” цытату з Арона Гурэвіча спрабуе „прыблізіцца да разумення грамадскага зместу сацыяльных працэсаў” (с. 10) праз аналіз пацверджанняў наданняў уладзімірскаму служэбніку Ваську Калчоўскаму. Часам, праўда, „набліжэнне” здзяйсняецца праз некарэктнае, як здаецца, тлумачэнне стандартных актавых формул, якія нічога не могуць сказаць менавіта праз выпадак з Калчоўскім. Моцны бок працы — апісанне працэсу пераходу уладанняў Калчоўскага са сферы ўжытку звычаёвага гарадскога права ў магдэбургскае і назад, а пасля наогул у земскае права.

У артыкуле **Наталлі Сліж** „Практыка разводаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XVI–XVIII ст.” акрэсліваюцца магчымыя падставы для разводу і яго механізм у вернікаў

праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкіх цэркваў. Адзначаюцца змяненні ў сямейным заканадаўстве ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Даследаванне **Ксеніі Гатальскай** „Самагубствы як сацыяльна-культурны феномен на беларускіх землях у пачатку XX ст.” пабудаваны па падобным да артыкула Н. Сліж прынцыпе. Даецца класіфікацыя прычынаў самагубстваў, а пасля прыводзяцца прыклады, якія ілюструюць кожную з прычын. Такі падыход можа скіраваць працу ў рэчышча збору „анекдотаў” (хоць такое азначэнне і выглядае жахлівым у выпадку апісання самагубстваў). Матэрыял Н. Сліж ускладнены параўнаннем практыкі разводу ў розных канфесіях, аналізам развіцця сямейнага права, у той час як К. Гатальская не выкарыстала выдатную магчымасць разгляду адзначанай ёй жа „моды” на самагубствы пад уздзеяннем літаратуры і г. д.

Артыкул **Змітра Крывашэева** „Эвалюцыя бортніцтва на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага” ўяўляе сабою грунтоўны аналіз бортніцтва не толькі з гаспадарчага пункту гледжання, але і як часткі грамадскіх адносінаў: мёд як узнагарода ад вялікага князя, сход бортнікаў для раскладкі даніны, маёмасныя адносіны вакол пчалярскай справы. Адзінае, што засмучае, гэта пэўная некарэктнасць прапанаванай аўтарам перыядызацыі названага промыслу ў ВКЛ у XVI–XVII ст. (с. 36): два першыя перыяды акрэслены на падставе прававых і гаспадарчых аспектаў промыслу, а трэці — толькі на падставе гаспадарчых. Польскі навуковец **Марыюш Савіцкі** („Артылерыя, цэйхгаўз і замак у крэпасці Стары Быхаў у 1692–1707 г.”) паказаў на падставе архіўных дакументаў стан узбраення прыватнаўласніцкага — належаў Сапегам — замка Стары Быхаў перад пачаткам і пад час Паўночнай вайны. **Леанід Лаўрэш** („Ян Снядэцкі (1756–1830) — навуковец і асветнік гістарычнай Літвы”) падае біяграфію Яна Снядэцкага, грамадскага дзеяча, рэктара Віленскага ўніверсітэта (1807–1815), але перадусім выдатнага астранома.

У артыкуле **Ірыны Раманавай** „Палітычныя прыпеўкі 1920–1930-х г.” падаюцца шматлікія прыклады ан-

тысавецкіх і антыкамуністычных прыпевак, знойдзеныя аўтарам у архівах і запісаныя ад інфармантаў. Акрэсліваюцца асноўныя тэмы народнай сатыры: наступствы калектывізацыі і калгаснае жыццё, эканамічная палітыка ўладаў, спадзяванні на лепшую будучыню, кпіны з савецкіх кіраўнікоў. Рубрыку „Гісторыя" завяршае артыкул **Юрыя Грыбоўскага** „Палітычная чыннасць старшыні Рады БНР Васіля Захаркі напярэдадні і ў гады Другой сусветнай вайны (1938–1943)", у якім аўтар паказвае, што Васіль Захарка ў пачатку вайны гатовы быў супрацоўнічаць з нямецкімі ўладамі, бо яны мэтанакіравана знішчалі непрымальную для Беларусі Версальскую сістэму, акрамя таго, ён знаходзіўся пад уплывам Івана Ермачэнкі, які выразна рабіў стаўку на Нямеччыну. Але ўжо ў 1942 г., як вынікае з яго ліставання, В. Захарка ставіўся са скепсісам і засцярогай да нямецкага рэжыму як магчымага памочніка ў стварэнні незалежнай Беларусі.

*Яўген Глінскі*

# Юліуш Бардах як даследчык ВКЛ і яго спадкаемцаў

**Марцэлі Косман**

## I

26 студзеня 2010 г. еўрапейская навука панесла непапраўную страту: у Варшаве памёр старэйшына польскай гуманістыкі, знакаміты даследчык і арганізатар навуковага жыцця ў другой палове XX ст. — Юліуш Бардах, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта, правадзейны член Польскай акадэміі навук і актыўны член Польскай акадэміі ведаў, удзельнік шматлікіх польскіх і замежных (як усходніх, так і заходніх) навуковых арганізацый, у тым ліку Нацыянальнай акадэміі дэі Лінчэі (Рым)[1], Міжземнаморскай акадэміі навук (Катанія), Таварыства параўнальнай гісторыі грамадскіх інстытутаў імя Жана Бадэна (Бельгія), Таварыства гісторыі права (Парыж), Міжнароднай камісіі па славянскіх даследаваннях Міжнароднага камітэта гістарычных навук, Міжнароднай камісіі па гісторыі дзяржаўных саюзаў і парламентарызму МКГН, Таварыства па старажытных дзяржавах і дзяржаўных саюзах (Бельгія), Гістарычнай камісіі ПАН і АН СССР (сустаршыня). Чалавек-інстытут, які выдатна праявіў сябе ў цяжкія для навукі гады, выдатны аналітык і сінтэтык, надзвычай паспяховы ў дзеяннях; чалавек, які цвяроза глядзіць на рэчаіснасць і кіруецца думкай у будучыню. Ён меў за сабой багаты жыццёвы досвед[2].

[1] Членам гэтай прэстыжнай арганізацыі — адной з найстарэйшых і самых вядомых акадэмій навук у свеце — Юліуш Бардах стаў у 1974 г.

[2] Навуковую біяграфію прафесара гл., у прыватнасці: Orze-

Будучы навуковец прыйшоў на свет праз некалькі месяцаў пасля пачатку Першай сусветнай вайны (нарадзіўся ў Адэсе 3 лістапада 1914 г.), у дарослае жыццё ўступаў у міжваенны перыяд, заканчэнне якога стала і фіналам першага этапу яго навуковай кар'еры, распачатай у Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторыя. Тады яму было ўсяго 25 гадоў і ён быў аўтарам некалькіх артыкулаў, але яшчэ далёка было да абароны доктарскай дысертацыі, падрыхтаванай пад кіраўніцтвам рэктара ўніверсітэта Стэфана Эрэнкройца, закатаванага потым у засценках НКУС. Другім яго настаўнікам на факультэце права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта быў Віктар Сукенніцкі. Выбух вайны і лёс Віленшчыны ў 1939–1945 г. сталі жорсткай, але карыснай школай жыцця. У Польшчу ў яе новых межах Ю. Бардах вярнуўся ў вайсковым мундзіры, у складзе I корпуса Войска Польскага ў СССР — тады гэта быў адзіны шлях пазбегнуць ссылкі. З войска ён звольніўся толькі ў 1950 г. у званні палкоўніка. Аднак гэтае дзесяцігоддзе не азначала поўнага перапынку ў навуковай дзейнасці — двума гадамі раней Ю. Бардах абараніў дысертацыю ў Кракаўскім Ягелонскім універсітэце, а неўзабаве стаў прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта.

Гэта быў час росквіту вульгарнай гістарыяграфіі, і Бардах адыграў вялікую ролю ў захаванні вартасці польскай навукі — ён бараніў яе як выдатны тактык, які карыстаўся аўтарытэтам з абодвух бакоў барыкад[3]. Ён стварыў знакамітую метадалагічную школу,

chowski K. Szkis do portretu Uczonego. O Juliuszu Bardachu w pięćdziesięciolecie twórczości // Czasopismo Prawno-Historyczne. 1985. Z. 2. S. 1–38; Sójka-Zielińska K. Juliusz Bardach — Profesor Uniwersytetu Warszawskiego. Historyk prawa. W pięćdziesięciolecie pracy naukowej // Kronika Warszawy. 1986. № 3–4. S. 17–27; Russocki S. Mistrz // Życie Szkoły Wyższej. 1987. № 7/8. S. 131–138; Grodziski S. Historyzm prawniczy Juliusza Bardacha // Czasopismo Prawno-Historyczne. 2010. T. LXII. Z. 2. S. 11–18.

[3] Пра яго метадалагічную пазіцыю ў гэты час піша Г. Лябуда: Labuda G. Rozwój metod dziejopisarskich od starożytności do współczesności. Cz. I. Poznań, 2003. S. 156–158; гл. таксама

падваліны якой заклаў яшчэ ў Вільні, дзе дэбютаваў з артыкулам „Адопцыя ў літоўскім праве ў XV–XVI ст." (1938), а яшчэ раней выступіў у дэбатах на VI Усеагульным з'ездзе польскіх гісторыкаў у Вільні (1935). Ягоны вучань Станіслаў Русоцкі напісаў: «У цяжкі перыяд навязвання „адзіна праўдзівага і слушнага" метаду гістарычных даследаванняў прыроджаная памяркоўнасць і разважлівая пазіцыя ва ўсіх спрэчках дазволілі яму ўмацаваць свой прэстыж у гістарычна-прававым асяроддзі. Яму ўдалося таксама зберагчы ўлюбёную дысцыпліну ад адміністрацыйнага выраджэння эпохі ідэалагізацыі навукі і адукацыі. Яшчэ важней тое, што дзякуючы сістэматычнаму клопату пра маладыя кадры ва ўсіх асяродках ён істотна паспрыяў утрыманню ўсёй дысцыпліны на традыцыйна высокім, еўрапейскім узроўні". Пасляваенным настаўнікам Ю. Бардаха стаў Адам Ветулані. Бардаху ўдалося выдатна спалучаць уласныя даследаванні з арганізацыяй калектыўнай працы, уласную выкладчыцкую дзейнасць з калектыўнымі мерапрыемствамі. Ён карыстаўся аўтарытэтам у дзяржаўных улад на розных этапах пасляваеннай гісторыі Польшчы. Шмат увагі аддаваў параўнальнаму метаду, рэцэпцыі ў гісторыі дзяржавы і права. Ён быў юрыстам паводле адукацыі і гісторыкам з шырокім колам інтарэсаў.

Творчая спадчына Ю. Бардаха налічвае больш як 600 пазіцый. Ён належаў да суаўтараў першага тома фундаментальнай „Гісторыі Польшчы" Інстытута гісторыі ПАН (1957)[4], разам з Аляксандрам Гейштарам, Генрыкам Лаўмяньскім і Евай Малячыньскай напісаў шматразова перавыдаваны падручнік „Гісторыя Польшчы да 1466 г.". Але ў першую чаргу ён вядомы як рэдактар „Гісторыі дзяржавы і права Польшчы" і аўтар яе першага тома (да сярэдзіны XV ст.) — у шматлікіх перавыданнях, а пазней у сінтэтычным аднатомным выданні,

cz. II. Poznań, 2010. S. 150.

[4] Разам з Герардам Лябудам напісаў раздзелы пра XII–XIV ст. — агулам больш як 200 старонак (с. 282–488).

напісаным разам з Багуславам Лесьнадорскім і Міхаілам Петшакам. Чарговымі яго буйнымі працамі былі манаграфія „Соймы ў старадаўняй Польшчы”, а таксама ўдзел у калектыўнай „Гісторыі польскага сойма” (у 4 т.). Бібліяграфія творчай спадчыны Ю. Бардаха паказвае надзвычай шырокі дыяпазон яго навуковых інтарэсаў. Яна была змешчана ў юбілейных выданнях: „Парламент, права, людзі. Працы, прысвечаныя прафесару Юліушу Бардаху з нагоды 60-годдзя яго творчай дзейнасці” (Варшава, 1996)[5] і „З гісторыі прававой культуры. Працы, прысвечаныя прафесару Юліушу Бардаху на 90-годдзе з дня нараджэння” (Варшава, 2004)[6]. Бібліяграфія, змешчаная ў першым зборніку, налічвае 458 пазіцый, у другім — 564 пазіцыі. Пошукавымі намаганнямі ўдавы гісторыка Ванды Суднік-Бардах к цяперашняму часу гэтая лічба вырасла да 600 назваў. Спецыяльнай кнігай адзначылі наданне Ю. Бардаху ступені доктара *honoris causa* з боку сваёй ВНУ прадстаўнікі Лодзьскага ўніверсітэта (*“Symbolae historico-iuridicae Łodziensis Iulio Bardach dedicatae”,* 1997)[7]. Такую самую ступень надаў свайму прафесару і Варшаўскі ўніверсітэт, а таксама ягоная альма-матэр — Віленскі ўніверсітэт. Тым самым быў адзначаны яго вялікі ўнёсак у літуаністыку — гэта шматлікія артыкулы па гісторыі Літвы, большасць з якіх сабраны ў кнігах „Даследаванні па гісторыі дзяржаўнага

[5] Кнігу адкрывае прадмова С. Русоцкага: Russocki S. Juliusz Bardach. Sześćdziesiąt lat twórczości Uczonego (1935—1995) // Parlament, prawo, ludzie. Studia ofiarowane profesorowi Juliuszowi Bardachowi w sześćdziesięciolecie pracy twórczej. Warszawa, 1996. S. 7–9.

[6] Уступны артыкул: Wąsowicz M. Kultura prawna w dorobku Profesora Juliusza Bardacha // Z dziejów kultury prawnej. Studia ofiarowane Profesorowi Juliuszowi Bardachowi w dziewięćdziesięciolecie urodzin / Red. Dziewanowska H. Warszawa, 2004. S. 11–17.

[7] Кнігу адкрываюць тэкст выступу рэктара Лодзьскага ўніверсітэта Міхала Севярынскага (с. 9–10), а таксама прамова, сказаная Зігфрыдам Рамашэўскім 13 кастрычніка 1995 г. (с. 11–15). Паказальна, што доктар *honoris causa* абраў такую тэму для сваёй лекцыі: „Польска-літоўская унія — яе змест і спадчына” (с. 17–26).

ладу і права Вялікага Княства Літоўскага” (1970), „Статуты ВКЛ і рымскае права” (1999), а таксама „Пра даўнюю і нядаўнюю Літву” (1988). Пра шырыню інтарэсаў сведчаць нарысы і артыкулы, апублікаваныя ў апошнія гады жыцця ў зборніках „Феміда і Кліа, ці Права і Гісторыя” (2001) і „У аб’ектыве навукі і ў люстэрку памяці (пра вучоных, пісьменнікаў і палітыкаў XIX–XX ст.)” пад рэдакцыяй Ванды Суднік (2004). Звярну ўвагу на змешчанае там эсэ пра Яраслава Івашкевіча пад назвай „Народжаны на Украіне”. Яго мог напісаць толькі той, хто не толькі добра знаецца ў мінуўшчыне, але і сам прыйшоў на свет на той зямлі, каб гэтак жа, як і вялікі пісьменнік, урэшце пазіраць на яе з надвіслянскай перспектывы.

Шмат прац Юліуша Бардаха апублікавана за мяжой, асабліва на французскай мове. Тым самым аўтар папулярызаваў на Захадзе вынікі даследаванняў (не толькі ўласных), у першую чаргу па гісторыі Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў яе складзе.

Адышоў адзін з тытанаў польскай гуманістыкі, якому ўдалося згуртаваць даследчыкаў — не толькі польскіх — і які за гэта назаўсёды застанецца ў нашай удзячнай памяці.

## II

За два гады да дзевяностагадовага юбілею прафесара Юліуша Бардаха беларускае гістарычнае асяроддзе, дзякуючы ў першую чаргу галоўнаму рэдактару часопіса „Беларускі Гістарычны Агляд” Генадзю Сагановічу, у рамках бібліятэчкі гэтага часопіса ўшанавала чарговыя ўгодкі тагачаснага старэйшыны польскіх даследчыкаў дзяржаўнага ладу выданнем аб’ёмнага тома яго прац пад назвай „Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага” (Мінск, 2002). У ім змешчаны працы, напісаныя на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў і прысвечаныя падзеям на тэрыторыі колішняга ВКЛ[8]. Прафесар падтрымліваў блізкія кантакты з беларускімі гісторыкамі. Увосень

[8] У 2010 г. у Мінску выйшла другое выданне гэтай кнігі.

1998 г. ён з задавальненнем прыняў прапанову стаць членам навуковай рады БГА і параіў запрасіць у яе і іншых прадстаўнікоў міжнароднай гістарычнай супольнасці — ад Італіі Сантэ Грачыёці, прафесара Рымскага ўніверсітэта „Ла Сап’енца”, члена Нацыянальнай акадэміі дэі Лінчэі, „выдатнага славіста з гістарычным ухілам”, нагадаўшы, што некалькімі гадамі раней ён ужо ўдзельнічаў у канферэнцыі ў Мінску па ініцыятыве і за кошт аселага ў Лондане доктара Анджэя Цеханавецкага; таксама ад Францыі (прапанаваў Даніэля Бавуа) і Вялікабрытаніі (тут „не меў канкрэтных ідэй”). З уласцівым яму тактам у тым жа лісце ён зазначыў, што гэта толькі яго сціплыя парады, магчыма заўчасныя, і дадаў па-руску: „Дело хозяйское”[9]. Гаспадар скарыстаўся з гэтых парад, пра што сведчыць міжнародны склад рэдакцыйнай рады гэтага часопіса ў наступныя гады. Пазней у асобным лісце прафесар выказаў сваё стаўленне да меркаванага пераліку яго прац, якія меліся быць змешчаны ў рыхтаваным беларускамоўным выданні, і ўнёс у яго дробныя папраўкі[10].

Праз некалькі гадоў, калі пайшоў ужо на пенсію, ён дзяліўся такімі ўспамінамі: „Вучоба ў Вільні скіравала маё зацікаўленне ў бок дзяржаўнага ладу і прававой сістэмы Вялікага Княства Літоўскага. Паспрыяла гэтаму яшчэ і сама атмасфера Вільні — горада, які ўяўляў сабой цэнтр польскага анклава на літоўска-беларускім этнічным памежжы”[11].

Колькасць жыхароў Вільні з больш як 200 тысяч перад пачаткам Першай сусветнай вайны ўпала да 140 тысяч у 1916 г. Пасля заканчэння вайны колькасць насельніцтва паволі расла, але даваенны ўзровень перасягнула толькі

9 Недатаваны ліст Юліуша Бардаха да Генадзя Сагановіча, якому выказваю ўдзячнасць за прадастаўленне мне копій перапіскі.

10 Ю. Бардах да Г. Сагановіча, Варшава, 11.04.1999 г. Першы ліст мае дату 27.12.1995 і ўтрымлівае віншаванні з Новым годам.

11 Bardach J. Patrząc wstecz // Polityka. № 47 (1542). 22 XI 1986. S. 14.

ў 1939 г. Палякі складалі ў той час каля 66% віленчукоў, яўрэі — каля 28%, у лік астатніх 5,6% уваходзілі рускія, беларусы, літоўцы і ўкраінцы[12]. Прыгадваючы часта цытаваныя словы Чэслава Мілаша (“Цяжка зразумець гэты характар даваеннай Вільні як анклава — ці то Польшча, ці то не Польшча, ці то Літва, ці то не Літва, ці то правінцыя, ці то сталіца, хоць у першую чаргу ўсё ж правінцыя”), Ю. Бардах піша: „У міжваенныя гады цэнтрам гэтай асаблівай правінцыі быў Віленскі ўніверсітэт — гэтак жа як і ў першыя трыццаць гадоў XIX стагоддзя”, — і зноў спасылаецца на прыгожае эсэ толькі што цытаванага лаўрэата літаратурнай Нобелеўскай прэміі, у якім той разважае пра перапыненне традыцыі альма-матэр у 1832–1919 г., калі захоўвалася памяць пра філаматаў, слава якіх не згасла і пазней, а пасля аднаўлення ўніверсітэта, названага імем Стэфана Баторыя, сумяшалася са славай Клуба Валацуг, а таксама Таварыства Круцялёў ці ложы „Шчыры ліцвін”, якія ў свой час узгадавалі творчасць Адама Міцкевіча. «Так варта меркаваць і з некаторых учынкаў майго прафесара Стэфана Эрэнкройца. Тая атмасфера адыгрывала ў міжваеннай Вільні немалую ролю. Яе падкрэслівае ў сваіх успамінах і іншы мой універсітэцкі настаўнік — Віктар Сукенніцкі. Гэта стварала інтэлектуальны клімат, у якім добра адчуў сябе Станіслаў Лорэнц, калі ў 1929 г. прыхаў у горад над Віліяй, — пра гэта ён піша ў сваім „Віленскім альбоме”»[13].

Лорэнц, знакаміты гісторык мастацтва і арганізатар музейнай справы, хоць і з’ехаў праз некалькі гадоў у Варшаву на пасаду дырэктара Нацыянальнага музея, але назаўсёды закахаўся ў горад над Віліяй, што засведчыў у памянёным томе ўспамінаў, а таксама ў апублікаванай перапісцы са сваім студэнтам і пазнейшым калегам[14],

[12] Kosman M. Wilno dawniej i dziś. Toruń, 1983. S. 55.

[13] Bardach J. Patrząc wstecz. S. 14. Пра тагачасны клімат у Вільні гл.: Bujnicki T. Szkice wileńskie. Rozprawy i eseje. Kraków, 2002; Idem. W Wielkim Księstwie Litewskim i w Wilnie. Warszawa, 2010.

[14] Lorentz S. Album wileńskie. Warszawa, 1986; Vladas Drėma

заслужыўшы тытул „віленчука паводле выхавання”. Тое самае азначэнне можна дапасаваць і да Юліуша Бардаха, які свае цёплыя пачуцці да горада маладосці ў пасляваенны перыяд дэманстраваў неаднаразова, асабліва пасля палітычных перамен у Польшчы, звязаных з кастрычніцкімі падзеямі 1956 г. Пад час юбілейных урачыстасцяў з нагоды свайго сямідзесяцігоддзя ён прызнаўся шматлікім калегам і вучням, прысутным у зале імя Брудзінскага Казіміраўскага палаца Варшаўскага ўніверсітэта: „Я да сёння застаюся верны праблематыцы Вялікага Княства Літоўскага і рады, што два мае самыя маладыя і ўжо, відаць, апошнія вучні спецыялізуюцца акурат у сферы дзяржаўнага ладу і права гістарычнай Літвы. Бо сярод польскіх гісторыкаў права не павінны знікнуць даследчыкі таго права, якое дзейнічала прыкладна на ¾ тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай. Гэтаксама і ў пазнавальных адносінах літоўскае права, якое ўзнікла на скрыжаванні лацінскай і візантыйскай культуры, на скрыжаванні ўсходу і захаду Еўропы, з'яўляецца надзвычай цікавым і дае шмат матэрыялу для разумення шляхоў запазычвання прававых нормаў, а таксама для параўнальных даследаванняў”[15].

Гэта не адзінае выказванне знакамітага даследчыка пра горад яго студэнцкай маладосці, на які ён з цеплынёй глядзеў і праз шмат дзесяцігоддзяў, здабыўшы славу еўрапейскага вучонага, добра вядомага ў гістарычна-прававых асяродках як на Усходзе, так і на Захадзе. Сваю лекцыю ў Лодзьскім універсітэце з нагоды атрымання ў 1995 г. доктарскай ступені *honoris causa* ён пачаў з успамінаў пра свае першыя кантакты з гэтай ВНУ на пачатку яе існавання, калі роўна паўстагоддзя таму, у канцы лютага — пачатку сакавіка, ён праездам з фронту апынуўся ў Лодзі і атрымаў там прапанову наконт чытання лекцый па гісторыі права ў новастворанным універсітэце. Фармальна ён не меў яшчэ доктарскай ступені. Але згоды не дало вайсковае камандаванне,

laiškai — Stanislaw Lorentz listy. Vilnius, 1998.

[15] Bardach J. Patrząc wstecz. S. 14.

і яшчэ некалькі гадоў Ю. Бардах правёў у мундзіры ў якасці афіцэра. Дык вось, і ў гэтым выступе ён успомніў пра сваю родную *Almae Matris Vilnensis*[16].

У спадчыне нязменна актыўнага з канца міжваенных часоў гуманіста гістарычная Літва займае асаблівае месца — досыць зірнуць на бібліяграфію, якая налічвае больш як пяцьсот назваў, каб пераканацца ў гэтым і адначасова заўважыць, што працы на гэтую тэму публікаваліся ў пэўных храналагічных блоках. Кажучы папросту, тут знаходзіла свой адбітак агульнае становішча польскай літуаністыкі за мінулыя паўстагоддзя. Народжаны ў Адэсе будучы вучоны ў перыяд вучобы і адразу ж пасля яе завяршэння быў звязаны з Універсітэтам Стэфана Баторыя ў Вільні і першыя сем сваіх публікацый (за 1936–1939 г.) прысвяціў дзяржаватворчым аспектам спадчыннага права Гедымінавічаў і Ягайлавічаў. У ліку гэтых прац былі пяць рэцэнзій, выступленне ў дэбатах на VI Усеагульным з'ездзе польскіх гісторыкаў, які праходзіў у Вільні ў 1935 г. ("Трацiна ў літоўскім праве"), а таксама грунтоўнае, амаль стостаронкавае даследаванне „Адопцыя ў літоўскім праве ў XV–XVI ст.".

Вільня — гістарычная сталіца Вялікага Княства Літоўскага і адначасова горад, які пакінуў трывалы след у польскай, беларускай, яўрэйскай культурах, горад на шматнацыянальным памежжы — зачаравала дваццацігадовага грамадзяніна міжваеннай Польшчы. Бо гэта ж была дзяржава, якая пры ягоным жыцці, а менавіта калі яму было чатыры гады, здабыла незалежнасць пасля стагоддзяў падзелу паміж чужымі імперыямі.

Абодва гэтыя студэнцкія тэксты аказаліся грунтоўнымі (другі потым паслужыў асновай доктарскай дысертацыі), пра што сведчыць іх уключэнне праз некалькі дзесяцігоддзяў — пасля ўнясення шэрагу паправак і дапаўненняў — у зборнік даследаванняў па гісторыі дзяржаўнага ладу і права Вялікага Княства. І гэтыя працы, і рэцэнзіі, не лічачы выдадзенага ў Львове

[16] Symbolae historico-iuridicae Lodzienses Iulio Bardach dedicatae. Łodź, 1997. S. 17.

„Дзённіка VI Усеагульнага з’езда польскіх гісторыкаў”, публікаваліся тут жа, у Вільні, — у „Ateneum Wileńskim” ды „Wiadomościach Studium Historii Prawa Litewskiego USB”. Як заўважыў Станіслаў Русоцкі ў артыкуле з выпадку шасцідзесяцігоддзя творчасці Юліуша Бардаха (у зборніку „Парламент, права, людзі”, Варшава, 1996, с. 7), не так і часта здаралася, каб 21-гадовы студэнт наважваўся — і прычым з поспехам — узяць слова на пасяджэннях агульнапольскага навуковага форуму і выступіць з заўвагамі да дакладаў такіх аўтарытэтаў, як Войцех Гейнаш і Стэфан Эрэнкройц — тагачасны навуковы кіраўнік будучага даследчыка.

XI Усеагульны з’езд польскіх гісторыкаў прайшоў у Вільні 17–20 верасня 1935 г. і стаў значнай падзеяй у колах аматараў Кліа ва ўсёй тагачаснай Польшчы, а асабліва ў горадзе над Віліяй. З’езд быў старанна падрыхтаваны Польскім гістарычным таварыствам[17], а базай яго правядзення было віленскае аддзяленне гэтага таварыства. Спрэчкі наконт праграмы з’езда былі жывыя і датычыліся прапорцый паміж агульнай тэматыкай і гісторыяй ВКЛ, якому прысвячалася асаблівая ўвага[18].

Тры аналагічныя з’езды, першы з якіх адбыўся ў 1880 г. з нагоды чатырохсотых угодкаў смерці Яна Длугаша, прайшлі яшчэ да здабыцця незалежнасці. У не-

[17] Пасля здабыцця незалежнасці Гістарычнае таварыства, якое існавала на польскіх землях пад Аўстра-Венгрыяй і мела сядзібу ў Львове, набыло агульнапольскі характар, праявай чаго стала яго змененая назва (Польскае гістарычнае таварыства), і стварыла поруч з „аўтаномным гуртком”, які існаваў у Кракаве, падобныя аддзяленні і ў іншых гарадах, перш за ўсё ў Варшаве (на базе Таварыства аматараў гісторыі), Познані, Вільні і Любліне. Віленскае аддзяленне было ўтворана 15 лютага 1925 г., яго старшынёй стаў прафесар Альфонс Парчэўскі, а сакратаром — доктар Генрык Лаўмяньскі. Гл.: Żytkowicz L. Wileński Oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego 1925–1939 // Zapiski Historyczne (далей ZH). T. LI. Z. 4. Toruń, 1986. S. 9–26.

[18] Nowak Z. H. Spór o zakres tematyki litewskiej VI Zjazdu Powszechnego Historyków Polskich w Wilnie (17–20 września 1935 roku) // ZH. 1986. T. LI. Z. 4. S. 137–145.

залежнай Польшчы былі праведзены таксама тры: у Познані (1925), Варшаве (1930) і Вільні (1935). Правядзенне чарговага з’езда гісторыкаў было запланавана на 1940 г. у Львове, але з прычыны выбуху сусветнай вайны гэтага так і не адбылося. У познаньскім з’ездзе ўдзельнічалі каля 500 чалавек, у варшаўскім — каля 640, у віленскім — 633, што было вялікім поспехам, калі ўлічыць перыферыйнае становішча старадаўняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Адзін з удзельнікаў гэтага з’езда — Ян Адамус, з якім Бардах быў і тады, і ў пазнейшыя гады цесна звязаны[19], — успамінаў:

“Віленскі з’езд несумненна ўдаўся. Часткова, у якасці дадатковых фактараў, гэтаму безумоўна паспрыялі пэўныя акалічнасці па-за рамкай афіцыйнай праграмы. Стаўленне да з’езда з боку мясцовай прэсы, зацікаўленасць у з’ездзе ўсёй інтэлігентнай віленскай грамады стваралі атмасферу незвычайнай добразычлівасці, у якой маглі ва ўсёй велічы расквітнець традыцыйная старапольская гасціннасць горада Гедыміна і высокая культура яго насельнікаў. Дый сам горад са сваімі поўнымі старадаўніх рэліквій мурамі ствараў настрой, які асабліва спрыяў сур’ёзным дыскусіям. <…> Са-

[19] Ян Адамус (1896–1862), гісторык дзяржавы і права, пасля вучобы ў Вене быў звязаны з Львовам, а пасля габілітацыі ва Універсітэце Стафана Баторыя (1933) — з Вільняй; у 1940 г. быў адпраўлены ў лагер, з 1942 г. у эміграцыі, пасля вяртання на радзіму — дацэнт, а потым прафесар Лодзьскага ўніверсітэта. Юліуш Бардах у 1995 г. успамінаў: „З радасцю сустрэў <…> вестку, што выкладанне гісторыі права ў Лодзі атрымаў, вярнуўшыся з войска на Захадзе, прафесар Ян Адамус, добразычлівая дапамога і навуковая апека якога вельмі дапамаглі мне пад час вучобы, калі ён, будучы дацэнтам кафедры гісторыі польскага і літоўскага права, якою кіраваў прафесар Стэфан Эрэнкройц, падтрымаў мае першыя крокі ў галіне даследавання права Вялікага Княства Літоўскага, якое ведаў як мала хто іншы. Потым нас яднала цеснае супрацоўніцтва і сяброўства — аж да заўчаснай ягонай смерці”. Гл. Symbolae historico-iuridicae. S. 17. Гл. таксама: Bardah J. Nauka historii ustroju i prawa litewskiego w Wilnie w latach 1920–1939 // Lithuania. 1994. № 14. S. 63–76.

ма гісторыя нібы прамаўляла непасрэдна да сэрцаў, а не толькі да розумаў сабраных з усёй Польшчы гісторыкаў"[20].

У памяці студэнта-правазнаўца — і, напэўна, не толькі яго — засталася роля, якую даручылі яму афіцыйныя сакратары другой секцыі з'езда, а менавіта Ян Адамус і доктар Караль Караный з Львоўскага ўніверсітэта імя Яна Казіміра. Праз шмат гадоў Ю. Бардах расказаў, што абодва яны не вельмі хацелі займацца працаёмкім стэнаграфаваннем ходу паседжанняў і таму пасадзілі яго за сакратарскі стол. Так Юліуш Бардах стаў тым, хто вёў паседжанні секцыі гісторыі права, што рабіў, вядома, з гонарам, бо быў „адным з наймаладзейшых удзельнікаў з'езда, меў за плячыма ледзьве дваццаць гадоў"[21].

Студэнт-правазнавец, які толькі два гады знаходзіўся ў Вільні, але ўжо здабыў вядомасць сярод прафесараў не толькі свайго факультэта, дэбютаваў перад гісторыкамі, якія з'ехаліся з усёй краіны — з Львова, Кракава, Любліна, Варшавы і ажно з Познані. Паседжанні адбываліся ў васьмі секцыях — 1) палітычнай гісторыі; 2) гісторыі права; 3) эканамічнай гісторыі; 4) гісторыі культуры; 5) ваеннай гісторыі; 6) прыкладных гістарычных дысцыплін; 7) старажытнай гісторыі; 8) выкладання гісторыі[22].

Юліуш Бардах выконваў функцыі не толькі стэнаграфіста, але і дэ-факта сакратара другой секцыі. Таксама ён узяў слова ў дыскусіі наконт дакладаў, прысвечаных уплыву рымскага права на статуты ВКЛ, а таксама ўзаемаадносінам паміж імі і польскім правам. Яго выступленне, адрэдагаванае і паглыбленае, было

[20] Adamus J. Recenzja do „Pamiętnika VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich", t. 1–2 // Ateneum Wileńskie. R. XI. Wilno, 1936. S. 610.

[21] Bardach J. W obiektywie nauki i w lustrze pamięci. O uczonych, pisarzach i politykach XIX i XX wieku / Pod redakcją Wandy Sudnik. Warszawa, 2004. S. 330 — нарыс пад назвай „Jana Adamusa wspominam". Перадрук у „Czasopismie Prawno-Historycznym", т. 49, сш. 1–2, Познань, 1997, с. 163–173.

[22] Pamiętnik VIII Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie 17–20 września 1936 r. T. I–II. Lwów, 1935.

апублікавана ў 2-м томе матэрыялаў з'езда, які ахопліваў дэбаты ва ўсіх секцыях[23].

У будучыні Ю. Бардаху наканавана было зрабіцца галоўным аўтарытэтам у вывучэнні Статутаў ВКЛ, ім ён прысвяціў шматлікія артыкулы і манаграфіі. Пачатак быў пакладзены грунтоўным артыкулам пра Статуты ВКЛ як помнікі права эпохі Адраджэння, напісаным у 1974 г.[24]. У наступным годзе на французскай мове быў апублікаваны тэкст выступлення Ю. Бардаха на XIV Міжнародным кангрэсе гістарычных навук у Чыкага[25]. Выказваўся ён пра гэтыя помнікі прававой культуры Залатога веку ВКЛ і на канферэнцыях у Бруселі, Маскве ды іншых месцах, выступаў у друку з рэцэнзіямі на публікацыі, што выходзілі як у Польшчы, так і за яе межамі. Падсумаваннем даследчай дзейнасці ў гэтым кірунку стала выдадзеная ў 1999 г. 160-старонкавая манаграфія, прысвечаная тром статутам ВКЛ у параўнанні з іншымі тагачаснымі еўрапейскімі прававымі кадыфікацыямі з асаблівым акцэнтам на ўплыў рымскага права[26]. Тут мы бачым увасабленне даследчых пастулатаў, вылучаных колішнім віленскім студэнтам-правазнаўцам шэсцьдзясят гадоў таму на з'ездзе гісторыкаў у Вільні.

## III

Пасля заканчэння вучобы на факультэце права Віленскага ўніверсітэта малады даследчык меў перад сабой выдатныя перспектывы навуковай працы ў горадзе над Віліяй[27], але неўзабаве эйфарыя прайшла,

[23] Pamiętnik VIII Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich. T. II. S. 101–102.

[24] Kwartalnik Historyczny. 1974. № 4. S. 788–818.

[25] Poland and the 14th International Congres of Historical Sciences in San Francisco. Studies in Comparative History. Wrocław etc., 1975. P. 45–65.

[26] Bardach J. Statuty Litewskie a prawo rzymskie. Warszawa, 1999.

[27] Пра культурныя традыцыі горада гл.: Jurkowski R. Z dziejów Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie 1907–1939. Przyczynek do żucia kulturalnego w Wilnie // ZH. 1986. № LI. Z. 4. S. 113–

вайна перапыніла нармальнае развіццё віленскага навуковага асяроддзя (уласна кажучы, знішчыла яго ў ранейшых польскіх формах), таму наступны восьмы пункт у бібліяграфіі з памянёнага юбілейнага выдання з'явіўся на старонках газеты „Polska Zbrojna" толькі праз шэсць гадоў пасля папярэдняга і датычыў дыскусіі наконт вызвалення Познані ад нямецкай акупацыі (артыкул быў настолькі цікавы, што праз 17 гадоў яго ўключылі ў калектыўную „Анталогію польскага ваеннага рэпартажу 1939–1945 г."). Наступныя паўдзесяцігоддзя былі праведзены на ваеннай службе і таксама не былі плённымі ў навуковай дзейнасці. Толькі ў 1950 г. Ю. Бардах вярнуўся ва ўніверсітэт, гэтым разам у Варшаўскі. «У цяжкі перыяд навязвання „адзіна праўдзівага і слушнага" метаду гістарычных даследаванняў прыроджаная памяркоўнасць і разважлівая пазіцыя ва ўсіх спрэчках дазволілі яму ўмацаваць свой прэстыж у гістарычна-прававым асяроддзі», — трапна заўважае Русоцкі, прычым гэты прэстыж варта пашырыць на ўсё польскае гістарычнае асяроддзе, не забываючы і пра аўтарытэт Ю. Бардаха ў міжнародным маштабе.

Разважлівасць і рэалізм прымусілі пры гэтым — гэтак жа як і значна старэйшага гісторыка з Вільні Генрыка Лаўмяньскага, які пасля заканчэння вайны пасяліўся ў Познані, — у найцяжэйшыя гады пераключыцца з літуаністыкі на гісторыю Польшчы і Славакіі, што, вядома ж, не азначала канчатковага адыходу ад вывучэння гісторыі Літвы, як гэта мела месца ў выпадку з некаторымі іншымі „выгнанцамі" з колішняга Універсітэта Стэфана Баторыя. Ю. Бардах вярнуўся да літуаністыкі, як толькі пасля „кастрычніцкага пералому" склаліся больш-менш спрыяльныя ўмовы для гэтага. 1958 год прынёс, поруч з некалькімі рэцэнзіямі на працы па гісторыі Вялікага Княства, вялікі артыкул ("Непадзельная ўласнасць у статутах ВКЛ") у юбілейным

135, а асабліва фундаментальную манаграфію Генрыкі Ільгевіч пра навуковыя таварыствы ў Вільні ў XIX — першай палове XX ст.

зборніку ў гонар памянёнага вышэй старэйшага калегі. Праз два гады выйшла праца „Аб практыцы літоўскай канцылярыі часоў Жыгімонта І Старога", прысвечаная Раману Градэцкаму. У сваю чаргу, Тадэвушу Мантэйфелю быў прысвечаны нарыс з гісторыі адміністрацыі Вялікага Княства Літоўскага ў XV–XVII ст. пад назвай „Чалабіцці і паклоны" (1962). Праз год у „Czasopiśmie Prawno-Historycznym" з'явілася грунтоўнае даследаванне „Свецкі характар звычаёвага шлюбнага права русінаў Вялікага Княства Літоўскага (XV–XVII ст.)". У тым жа нумары выйшлі ўспаміны пра Яна Адамуса — віленскага гісторыка дзяржаўнага ладу, які пасяліўся ў Лодзі. У нумары ж, прысвечаным Лешаку Раабу, быў апублікаваны вялікі нарыс пад назвай „Віленскія гады: 1933–1944". 1966 год прынёс рэцэнзію на тэму паўстання на Літве ў другой палове XIX ст., наступны — развагі наконт успрымання „Хронікі" Мацея Стрыйкоўскага ў Расіі і нарыс пра гісторыю выведачнай службы ў ВКЛ XVI ст. ("Рыскун і шпег"), прысвечаны Станіславу Гербсту. У 1969 г. (якраз адзначалася 400-годдзе Люблінскай уніі) „Kwartalnik Historyczny" апублікаваў першую версію ягонай працы пра развіццё дзяржаўнага саюзу паміж ВКЛ і Польшчай у 1385–1569 г., а ў Бруселі выйшла бібліяграфія ВКЛ у рамках маштабнага кампендыума па гісторыі права (Юліуш Бардах быў галоўным з трох аўтараў гэтага выдання).

Неўзабаве — хоць часы для гісторыкаў у палітычным сэнсе былі па-ранейшаму нялёгкія, пра што сведчаць перыпетыі з X Усеагульным з'ездам польскіх гісторыкаў у Любліне, — Ю. Бардах апублікаваў вялікае эсэ пра Люблінскую унію ў папулярным выданні „Kultura i Społeczeństwo" з думкай пра шырокае кола чытачоў, а заходнім даследчыкам адрасаваў французскамоўную версію гэтага твора ў часопісе „Acta Poloniae Historica". Надзвычай важна тое, што пры гэтым яму ўдавалася падтрымліваць кантакты і з савецкімі вучонымі, што дазволіла польскай літуаністыцы павольна, але няўхільна „выходзіць на паверхню", у тым ліку і праз гадаванне свайго маладога пакалення, найперш у Познані

і Варшаве. Значнай падзеяй стала публікацыя Ю. Бардахам у 1970 г. аб'ёмнай, больш як 400-старонкавай кнігі „Даследаванні па гісторыі дзяржаўнага ладу і права Вялікага Княства Літоўскага (XIV–XVII ст.)", у склад якой увайшлі новыя версіі называных вышэй прац (усяго адзінаццаці), пачынаючы з напісанай больш як тры дзесяцігоддзі таму „Адопцыі".

Гэтая манаграфія была з велізарнай цікавасцю сустрэта ў Польшчы і за яе межамі, пра што сведчаць 12 напісаных на яе рэцэнзій, прычым палова з іх — у СССР (у Маскве, Кіеве, Вільні). Поруч з іншымі выступіў на старонках „Kwartalnika Historycznego" Генрык Лаўмяньскі, які — на добры лад, пасля больш як 30-гадовага перапынку — закрануў праграмныя пытанні ў вывучэнні ягелонскай эпохі (сам ён не наважваўся на публікацыю сваіх ваенных прац па гісторыі гэтага перыяду — пра палітыку польска-літоўскай дынастыі, а таксама пра насельніцтва ВКЛ у XVI ст., якія спачывалі ў рукапісах і былі выдадзены толькі пасля яго смерці, у канцы XX ст.) і прыйшоў да наступнай высновы: „Прафесар Бардах ахвотней за ўсё бярэцца за недаацэненыя або пераацэненыя тэмы, амаль не кранутыя ў гістарычнай навуцы, якія, тым не менш, маюць вялікае пазнавальнае значэнне на шырокім параўнальным фоне, які аўтар нязменна бярэ пад увагу, або як істотныя элементы старадаўняга дзяржаўнага ладу і права, асвятляе іх пры дапамозе скрупулёзнага, уважлівага і крытычнага вывучэння першакрыніц і апісвае колішнія грамадскія інстытуты з максімальна магчымай дакладнасцю і дэталізаванасцю. У выніку запаўняюцца праблемныя прагалы, наяўныя ў гістарыяграфіі, а вобраз мінуўшчыны робіцца значна паўнейшым, набывае больш канкрэтныя абрысы. Таму неабходна высока ацаніць як даследчыцкія заслугі аўтара, так і значэнне яго прац. Збор і публікацыя ў адной кнізе шматлікіх прац аўтара на літоўска-русінскую тэматыку будуць з вялікім задавальненнем успрыняты гісторыкамі Літвы, Беларусі і Украіны, а таксама дадуць каштоўныя матэрыялы і цікавае чытво даследчыкам і аматарам гісторыі не толькі са згаданых краін, але і на-

огул з усяго славянскага свету дзякуючы параўнальным звесткам, узятым непасрэдна з неўжываных дагэтуль крыніц, нярэдка архіўных, а таксама дзякуючы пастаноўцы многіх новых праблем, якія разглядаюцца з дасканалым веданнем справы. Гэтая кніга падводзіць рысу пад пэўным этапам працы аўтара ў гэтай галіне, але ж ніяк не азначае яе завяршэння"[28].

Апошні сказ утрымлівае трапную заўвагу, якая грунтавалася, магчыма, на ўражаннях ад асабістых размоў паміж двума старымі віленчукамі, якіх ядналі даследчыцкія інтарэсы, сфармаваныя яшчэ ў міжваенныя гады, а таксама нязгаслы сантымент да часоў і мясцін Універсітэта Стэфана Баторыя. Тэматычныя прапорцыі ў творчасці Юліуша Бардаха з цягам часу ўсё больш выразна мяняліся (дагэтуль пераважалі даследаванні польскага права) на карысць „даўняй і нядаўняй Літвы" — назва другога вялікага зборніка, выдадзенага ў Познані ў 1988 г. У гэтым выданні пераважалі тэксты храналагічна бліжэйшыя, прысвечаныя падзеям канца XIX — пачатку XX ст., таму сярод рэцэнзентаў (іх было 12) гэтым разам можна бачыць прозвішчы Стэфана Кеневіча, Пятра Ласоўскага і Ежы Тамашэўскага. Тым не менш, быў тут і артыкул „Статуты ВКЛ у іх юрыдычна-культурным акружэнні".

Пасля трагічнага скону ў верасні 1984 г. Генрыка Лаўмяньскага[29], стваральніка „Пачаткаў Польшчы", а некалі (у 1931–32 г.) і класічных „Даследаванняў пра пачаткі літоўскага грамадства і дзяржавы", Ю. Бардах зрабіўся сапраўдным патронам гістарычнай літуаністыкі — шмат увагі аддаваў акурат гэтым помнікам юрыспрудэнцыі

[28] Łowmiański H. Wielkie Księstwo Litewskie — zagadnienia ustrojowe i prawne // KH. 1972. R. 79. № 4. S. 896. Гэтая вялікая рэцэнзія на літуаністычны зборнік Юліуша Бардаха 1970 г. была перадрукавана ў кнізе выбраных твораў аўтара: Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 351–364.

[29] Генрык Лаўмяньскі (нар. у 1898 г.) загінуў 4 верасня 1984 г. пад коламі трамвая па дарозе са свайго дома ў Познаньскую ўніверсітэцкую бібліятэку, ідучы па маршруце, якім ён штодня хадзіў доўгія гады.

Вялікага Княства эпохі Адраджэння, у тым ліку ў кнізе „Статуты ВКЛ і рымскае права” (Варшава, 1999). Гэтыя даследаванні вяліся адначасова з напісаннем многіх іншых прац надзвычай шырокага тэматычнага абсягу, пра шырыню якога сведчыць чарговы зборнік (Варшава, 2001) пад назвай „Феміда і Кліа, або Права і Гісторыя”. У ім няма асобна вылучанай літоўскай тэматыкі, затое яна стала прысутнічае ў бібліяграфіі — у выглядзе спецыяльных артыкулаў, а таксама эсэ, прызначаных для шырокага кола чытачоў, асабліва з нагоды буйных юбілеяў, такіх, як хрышчэнне Літвы (1387) ці новая ўніфікацыя дзвюх частак Рэчы Паспалітай пад час Чатырохгадовага сойма.

У часе памятнага святкавання 50-годдзя навуковай дзейнасці, якое ўвосень 1986 г. сабрала ў Казіміраўскім палацы Варшаўскага ўніверсітэта цэлую плойму гісторыкаў розных пакаленняў (і розных палітычных поглядаў!), герой урачыстасці выступіў з выдатным „звядзеннем рахункаў” з самім сабой у кантэксце навук пра мінуўшчыну і спадарожных ім акалічнасцей, якое потым было апублікавана ў штотыднёвіку „Polityka” (№ 47 за 22 лістапала 1986 г.). У гэтым выступе ён прыгадаў даваенныя часы і атмасферу тагачаснай Вільні, а таксама яе ўніверсітэт, асобна пералічыўшы такія постаці, як Стэфан Эрэнкройц, Віктар Сукенніцкі і Станіслаў Лорэнц. Праз шмат гадоў слынны вучоны зноў апынуўся ў Вільні, дзе ў верасні 1994 г. удзельнічаў у польска-літоўскай канферэнцыі, зладжанай універсітэтам, які праз тры гады надаў свайму даўняму выпускніку (праз 64 гады пасля пачатку яго вучобы) ступень доктара *honoris causa.*

Умацоўваліся і яго кантакты з другой сталіцай, узніклай на землях колішняга ВКЛ, — Мінскам, які ў пару ягонай маладосці нярэдка называлі „Мінск-Літоўскі”. Калі павевы новых часоў трывала замацаваліся ў тамтэйшай гістарычнай навуцы, праявай чаго стаў, у прыватнасці, новы часопіс „Беларускі Гістарычны Агляд”, у адным з першых нумароў якога (1995, № 1) было змешчана інтэрв’ю з польскім даследчыкам пад красамоўнай назвай „Зачараваны Вялікім Княствам”. Гэтая гутарка,

якая адбылася 10 снежня 1994 г., была перадрукавана праз сем гадоў, адкрыўшы сабой выдадзены зноў жа на беларускай мове зборнік прац Юліуша Бардаха — „Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага”. У савецкі час гісторыкі з Мінска хоць нясмела, але згадвалі пра ўдзел сваіх даўніх продкаў у палітычнай гісторыі Вялікага Княства, мелі нават далёкасяжныя даследчыя планы ў гэтай галіне, але да часу ўсё заставалася пад пераможным уплывам савецкай дактрыны, якая прадпісвала і ў спецыяльных, і ў вялікіх (паводле аб’ёму!) абагульняльных працах апісваць мінуўшчыну старадаўняй Літвы ці Беларусі выключна ў іх межах другой паловы XX ст. У размове Ю. Бардах вяртаецца да старапольскіх рэалій, прыгадвае тагачасны стан рэчаў і гаворыць аб прычынах свайго „зачаравання” краінай, якая ўяўляла сабой мазаіку народаў, рэлігій і культур.

Гэта выдатныя ўводзіны ў атмасферу першага артыкула мінскага выдання, датычнага ўнутранай інтэграцыі Вялікага Княства ў часы Гедымінавічаў — Ягайлавічаў, а таксама яго структурнага набліжэння ў 1385–1569 г. да Еўропы пры пасярэдніцтве Кароны. Я, вядома ж, маю на ўвазе артыкул „Крэва і Люблін. З праблем польска-літоўскае уніі” (с. 17–102), першым месцам дзеяння якога з’яўляецца размешчаная на паўдарозе паміж Мінскам і Вільняй сталіца аднаго з княстваў Русі, памятная таямнічай смерцю ў тамтэйшых лёхах вялікага князя Кейстута за некалькі гадоў да сустрэчы яго пляменніка Ягайлы з польскім пасольствам. Сёння ў Крэве захаваліся руіны замка і часткова ацалелая вежа. Артыкул завяршаецца разважаннямі пра непазбежную адрознасць падыходу да палітычных канцэпцый у часы Ягелонаў і ў сучаснасці ды пра пераацэнку гэтых канцэпцый з цягам часу — прыкладам чаго можа быць польска-літоўская унія, якая так па-living рознаму ацэньвалася нашчадкамі, але пры гэтым адыграла значную ролю ў сваёй эпосе.

Наступным у кнізе змешчаны артыкул „Лад местаў на магдэбургскім праве ў Вялікім Княстве Літоўскім да сярэдзіны XVII ст.” (с. 103–160), а адразу за ім — праца

„Аб практыцы літоўскай канцылярыі часоў Жыгімонта I Старога” (с. 161–198), якая ўтрымлівае цікавыя назіранні пра функцыянаванне ў складзе канцылярыі паралельных рускага і лацінскага аддзелаў, пазіцыі якіх нярэдка не супадалі. Пазней перавагу пачала здабываць польская мова. Чытачоў з Мінска асабліва зацікавіў чарговы тэкст — „Звычаёвае шлюбнае права русінаў Вялікага Княства Літоўскага (XV–XVII ст.)” (с. 199–274).

Калі пералічаныя працы былі ўзяты — не лічачы першадрукаў — з двух польскіх зборнікаў Ю. Бардаха (1970 і 1988 г.), галоўным чынам з першага, то наступны артыкул, значна меншы паводле аб’ёму (“Дачыненні паміж каталікамі і праваслаўнымі ў Вялікім Княстве Літоўскім (канец XIV–XVII ст.)”, с. 276–291), быў ужо вядомы мясцоваму чытачу па публікацыі ў „Беларусім Гістарычным Аглядзе” (№ 1), а двума гадамі раней выйшаў у Рыме на французскай мове. На XV Усеагульным з’ездзе польскіх гісторыкаў 1994 г. упершыню была прадстаўлена праца „Шматузроўневая нацыянальная свядомасць на літоўска-рускіх землях Рэчы Паспалітай у XVII—XX ст.” (у беларускім выданні на с. 292–311).

Артыкул „Ад палітычных да этнічных народаў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе” (с. 312–331) выйшаў папольску дзесяць гадоў таму, „Літоўскія палякі і іншыя народы гістарычнае Літвы” (с. 332–363) — годам пазней, а «Канстытуцыя 3 траўня і „Узаемныя Заручыны Абодвух Народаў” 1791 г.» (с. 364–408) — на двухсотыя ўгодкі славутага заканадаўчага акта апошніх гадоў існавання Рэчы Паспалітай.

На заканчэнне творчая спадчына аўтара была прадстаўлена беларускім вучоным праз бібліяграфію, якая налічвае 514 пазіцый і даходзіць да 2001 г. Гэта нечакана сімпатычная рыса выдання, рэдкая для такога роду публікацый, асабліва калі справа датычыць замежных вучоных. Праўда, у гэтым выпадку цяжка гаварыць пра замежжа, асабліва калі гутарка ідзе пра супольную некалі дзяржаўнасць, з поўным аб’ектывізмам апісаную даследчыкам, які „зачараваны” гэтай мінуўшчынай і глядзіць на яе з перспектывы зноў аб’яднанай у зусім

новых гістарычных умовах Еўропы. За апошнія два дзесяцігоддзі вучоны папоўніў сваю бібліяграфію больш як трыма сотнямі пазіцый (колькасна гэта складае 3/5 ад усёй бібліяграфіі). Пры гэтым усё больш трывалае месца займалі кнігі, артыкулы і рэцэнзіі пра колішнюю Рэч Паспалітую і яе пазнейшых усходніх спадкаемцаў. Гэта такое сабе „вяртанне да вытокаў”, як выказаўся сам вучоны на цырымоніі надання яму доктарскай ступені *honoris causa* ў віленскім касцёле Святога Яна, — да вытокаў, ад якіх ён ніколі не адыходзіў, хоць паўтара дзесяцігоддзя не мог гэтага паказваць, як і ўся тагачасная польская гістарыяграфія.

Ён тужыў па Вільні, хоць, як некалі мне прызнаўся, не хацеў ехаць у горад сваёй маладосці, пакуль не стаў там выразна запатрабаваны — у новай палітычнай рэальнасці. У юбілейным выданні, прысвечаным 400-годдзю заснавання Віленскага ўніверсітэта і 75-годдзю яго аднаўлення пад шыльдай Універсітэта Стэфана Баторыя, ён згадваў пра ўрачыстасці 1978 г. (яны прайшлі ў Варшаве і былі дапоўнены тыднёвай канферэнцыяй), а таксама пра юбілейныя канферэнцыі, зладжаныя пятнаццаццю гадамі пазней у абедзвюх сталіцах (тут ён заўважыў, што ў Вільню на маштабныя святкаванні ўгодкаў „найстарэйшага ўніверсітэта ў Савецкім Саюзе”, як некалі апавядалі экскурсаводы, прыехалі дзесяць польскіх даследчыкаў, тады як у Варшаву на куды сціплейшае мерапрыемства — толькі двое дакладчыкаў з Вільні). Ва ўніверсітэцкім касцёле Святых Янаў была адпраўлена ўрачыстая імша за памерлых выкладчыкаў, студэнтаў і ўсіх супрацоўнікаў універсітэта, а ў выступленнях дакладчыкаў згадваліся 1919–1939 г. і іх значэнне ў чатырохсотгадовай гісторыі *alma mater*. Шмат месца Юліуш Бардах прысвяціў трохдзённай канферэнцыі, падкрэсліў значнасць спадчыны часопіса „Ateneum Wileńskie”, Таварыства сяброў навук і „Wiadomości Studium Historii Prawa Litewskiego” (перад вайноў паспеў выйсці толькі адзін нумар гэтага часопіса). На выстаўцы, зладжанай з нагоды юбілею, ён налічыў у суме пад сто польскіх пазіцый. Такім чынам,

міжваенны даробак быў не забыты, гэтак жа як і заслугі езуітаў ды караля Стэфана. Другі дзень канферэнцыі быў прысвечаны Універсітэту Стэфана Баторыя: шэсць дакладаў прачыталі госці з Польшчы, а чатыры — гаспадары. Кіраўнік дэлегацыі з-над Віслы Аляксандр Гейштар апісаў тагачаснае асяроддзе гісторыкаў у горадзе над Віліяй, а Юліуш Бардах расказаў пра даследаванні літоўскага права, якія вяліся ў коле Стэфана Эрэнкройца. Ён вярнуўся на радзіму з перакананнем, што ёсць „выразнае жаданне з боку віленчукоў далучыць да гісторыі Віленскага ўніверсітэта дагэтуль зусім замоўчваную спадчыну Універсітэта Стэфана Баторыя". На яго думку, узнікалі рэальныя перспектывы развіцця паланістыкі ў Віленскім універсітэце (неўзабаве за рэалізацыю гэтай праграмы ўзяўся прафесар Ягелонскага ўніверсітэта Тадэвуш Буйніцкі — колішні віляньчук), ён марыў пра стварэнне кафедраў гісторыі Польшчы, гісторыі культуры і мастацтва, а можа, яшчэ і фізічнай ды эканамічнай геаграфіі. Свае разважанні ён скончыў заўвагамі наконт актуальнасці традыцый Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў праз вяртанне да ідэй часоў Стэфана Баторыя: „Паходзячы з Сяміграддзя, г. зн. з тагачаснай Венгрыі, гэты манарх праз заснаванне Акадэміі ўмацоўваў лацінскую культуру над берагамі Віліі і Нёмана. Так супадаюць рацыянальныя палітычныя погляды, пазнавальныя матывы і прыхільнасць не толькі палякаў ды літоўцаў, але і венграў (яны былі трэцім бокам, чые гісторыкі ўзялі ўдзел у сустрэчы 1994 г. — *М. К.*) да старых муроў колішняй Віленскай акадэміі Таварыства Ісуса, потым польскага паводле мовы і духу Імператарскага Віленскага ўніверсітэта, пасля — польскага Універсітэта Стэфана Баторыя і, нарэшце, літоўскага Віленскага ўніверсітэта"[30].

[30] Bardach J. W Uniwersytecie Wileńskim we wrześniu 1994 roku // Z dziejów Almae Matris Vilnensis. Księga pamiątkowa ku czci 400-lecia założenia i 75-lecia wskrzeszenia Uniwersytetu Wileńskiego / Redakcja naukowa Piechnik L. i Buchowski K. Kraków, 1996. S. 278–281, цыт. з 281.

## IV

Народжаны ў Адэсе слынны польскі гуманіст, даследчык праравой, гістарычнай і палітычнай культуры, якога „сваім" прызнавалі і юрысты, і гісторыкі, пад час урачыстасцей у гонар яго 70-годдзя і 50-годдзя творчай дзейнасці сказаў з характэрнай для яго вытанчанасцю: „У навуковым асяроддзі пануе перакананасць, што ўласцівыя яму павага і ўшанаванне з'яўляюцца вынікам не столькі стараннасці і працавітасці, колькі дасягнення паважнага ўзросту. Прамінулі дзве круглыя даты — шасцідзесяці- і сямідзесяцігоддзе. Пазнейшыя, калі ўзяць пад увагу сярэднюю працягласць жыцця, з'яўляюцца доляй выбраных". Гэты выступ штотыднёвік „Polityka" апублікаваў 22 лістапада 1986 г. пад назвай „Пазіраючы назад", каля якой быў змешчаны красамоўны падзгаловак „Жывём не для таго, каб есці, а для таго, каб есці добра", варты сапраўднага эпікурэйца. У выступленні юбіляр сцісла падвёў рахунак сваім дасягненням на розных этапах пасляваеннай рэчаіснасці, паказаўшы яе цені, але пры гэтым і магчымасці пазітыўнага дзеяння, а таксама павучальна канстатаваў: „Пазіраючы назад, я ўсведамляю, што дзейнічаў на празмерна шырокім даследчым фронце, што няўхільна вяло да расцярушвання намаганняў і змяншала іх плён. Аднак перш за ўсё я кіраваўся ўласнымі зацікаўленнямі, а яны мяняліся. Калі ж максімальна агульна падысці да справы, лічу, што ў супастаўленні двух процілеглых чалавечых тыпаў я быў — і застаюся — бліжэйшы да *homo ludens,* чым да *homo faber*".

Так можа напісаць толькі творца высокага палёту, дасведчаны чалавек, які ведае сапраўдны смак жыцця.

У аўтара працытаваных слоў засталося шмат сяброў, вучняў на радзіме і за мяжой, і не толькі ў навуковых колах. Ён заслужыў глыбокае прызнанне не толькі сваёй даследчай працай, але і не ў меншай ступені арганізацыйнай дзейнасцю і добразычлівым стаўленнем да людзей, асабліва ў цяжкіх сітуацыях, якіх за апошнія 60 гадоў польскай гісторыі не бракавала. На яго долю

выпала таксама святкаваць чарговыя юбілеі — з нагоды васьмідзесяці- і дзевяностагоддзя. Сапраўдным гонарам стаў для мяне ўдзел у стварэнні юбілейнага выдання „З гісторыі юрыдычнай культуры. Працы, прысвечаныя прафесару Юліушу Бардаху на 90-годдзе з дня нараджэння", якое было ўручана юбіляру ў Зале Сената на першым паверсе таго самага галоўнага корпуса Віленскага ўніверсітэта 20 снежня 2004 г. з удзелам Яго Магніфіцэнцыі Пятра Венгленскага, прадстаўнікоў адміністрацыі факультэта права, у тым ліку дэкана Марэка Вансовіча і дырэктара роднага Інстытута гісторыі дзяржавы і права Анджэя Закшэўскага, прадстаўнікоў навуковых колаў і гасцей з усіх адукацыйных асяродкаў краіны. Герой сустрэчы выступіў вельмі сцісла, пасля чаго з келіхам віна ў руцэ прымаў віншаванні ад прысутных.

Гэтае выданне, якое налічвае роўна 600 старонак, адкрывае (перад тым як даць месца поўнай бібліяграфіі за 1936–2004 г., што складаецца з 564 пунктаў, з прывядзеннем зместу зборнікаў прац) нарыс М. Вансовіча пад назвай „Прававая культура ў спадчыне прафесара Ю. Бардаха". Сярод удзельнікаў юбілейнай сустрэчы вялікую частку складалі гісторыкі; зрэшты, з іх дысцыплінай у значнай ступені салідарызаваліся прысутныя даследчыкі дзяржаўнага ладу, а пра кірункі зацікаўленняў Юліуша Бардаха найлепш сведчыць уся яго спадчына, а таксама характар кнігі, прысвечанай гэтаму рэдка сустраканаму юбілею. Выданне складаецца з чатырох частак: 1) „Стан права — шляхі ўтварэння і ўспрымання"; 2) „Юрыдычная думка, дактрыны, ідэі, вывучэнне права"; 3) „Функцыянаванне права на практыцы"; 4) „Ацэнкі і адносіны да права". Над усім зместам, аднак, лунае дух Кліа: аўтары, разглядаючы свой прадмет, перамяшчаюцца ад старажытнасці да XX ст., прычым пачэснае месца займае ранні Новы час, а тэрытарыяльна — Вялікае Княства Літоўскае і найноўшая гісторыя Літвы (яе датычаць 14 артыкулаў з 37). За рамкамі чатырох раздзелаў змешчаны развагі Ганны Роснер ("Даследаванне прававой культуры. Спроба

апісання праблематыкі”), на долю якіх у нейкім сэнсе выпала функцыя падсумавання — вядома ж, не творчасці юбіляра, а метадалагічных пытанняў, звязаных са стыкам палітычнай (гістарычнай) і прававой культуры; пачэснае месца ў гэтых развагах занялі класічныя сёння артыкулы Станіслава Эстрэйхера і Юзафа Сяменскага пра XVI ст., якія абодва былі апублікаваны ў зборніку 1932 г. Высока ацаніла аўтарка і матэрыялы торуньскага XI Усеагульнага з’езда польскіх гісторыкаў 1974 г. пра палітычную культуру (асабліва праграмны выступ Стэфана Кеневіча), а таксама разважанні Януша Тазбіра (1976) і працу Эдварда Апаліньскага, каб урэшце дайсці да артыкула Вацлава Урушчака за 1980 г. пра палітычную і прававую культуру польскага парламентарызму эпохі Адраджэння. Усе гэтыя працы ўяўляюць сабой зыходны пункт для астатняга зместу кнігі, над усёй жа ёю — хоць гэта і не зафіксавана на паперы — лунаюць думкі, вядомыя з прац Майстра.

Хоць дыяпазон ягоных навуковых інтарэсаў быў велізарны, ад Сярэднявечча да сучаснасці, а кожны артыкул старанна прадумваўся, пры перавыданнях жа, як правіла, перапрацоўваўся, пашыраўся і паглыбляўся, асаблівае месца ў 70-гадовай спадчыне займае гісторыя гістарычнай і этнічнай Літвы, ВКЛ, перш за ўсё XV–XVIII ст. Пра гэта сведчаць фундаментальныя зборнікі, якія выйшлі ў палітычнай сітуацыі, калі польскай літуаністыцы ўжо не трэба было заставацца ў „падполлі” ці прынамсі ў схованцы (я пісаў пра гэта ў нарысе „Віленскія даследчыкі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага на ростанях (пасля 1945 г.)” у зборніку „Апошнія грамадзяне ВКЛ”, Люблін, 2005). Раней ён закладаў яе падваліны ў новай рэчаіснасці (“пястаўскай”, у процілегласць даўнейшай „ягелонскай”) праз менш прыкметныя для цэнзуры публікацыі ў часопісах ці юбілейных выданнях. А потым сапраўднай падзеяй стаў выхад кніг Юліуша Бардаха — „Даследаванні па гісторыі дзяржаўнага ладу і права Вялікага Княства Літоўскага (XIV–XVII ст.)” (Беласток — Варшава, 1970), якая атрымала больш за дзесяць рэцэнзій, у тым ліку аўтарства найлепшага тады

польскага літуаніста Генрыка Лаўмяньскага, і „Пра даўнюю і нядаўнюю Літву" (Познань, 1988), што таксама была шматразова рэцэнзавана, гэтым разам пераважна ў Польшчы.

Прафесар Юліуш Бардах пакінуў у людской памяці ўдзячныя ўспаміны, якія датычаць і тых часоў, калі нярэдка неабходна было мець і сілу духа, і прымірэнчы талент. Яго высока цанілі на Захадзе і на Усходзе, асабліва ў сённяшняй Польшчы, а таксама на колішніх ускраінах Рэчы Паспалітай, у Вільні, Кіеве і Мінску. Сімвалічным доказам гэтага з'яўляецца том яго выбраных прац пад назвай „Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага", выдадзены па-беларуску ў 2002 г. і перавыдадзены ў 2010 г.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# *In memoriam*

## Уладзімір Ісаенка (15.12.1928–30.06.2010)

Археолаг Уладзімір Фёдаравіч Ісаенка памёр 30 чэрвеня 2010 г. у Мінску, так і не трапіўшы тым летам у мястэчка Юравічы, што на Прыпяці, дзе ён зрабіў свае першыя археалагічныя адкрыцці і куды штогод з вялікім жаданнем вяртаўся. У тым жа 2010 годзе, хоць і са спазненнем, выйшаў зборнік навуковых прац, які прысвячаўся яго 80-гадоваму юбілею і 70-годдзю з дня нараджэння Міхася Чарняўскага[1]. Уладзімір Ісаенка з той плеяды, якая адрадзіла беларускую археалогію і стварыла навуковую школу. Ён адзін з тых навукоўцаў, якія запачаткоўвалі беларускую неалітологію.

Пакручастым, часам і драматычным, было яго жыццё, складаным і няпростым быў шлях у навуку. У. Ісаенка нарадзіўся 15 снежня 1928 г. у Горках (Магілёўская вобласць). Яго тата і мама вучыліся тады ў мясцовай Сельскагаспадарчай Акадэміі. Фёдар Ісаенка, бацька будучага навукоўца, прайшоўшы камісарам грамадзянскую вайну, быў сакратаром партячэйкі ў Горацкай акадэміі. У 1932 г. сям'я пераехала ў Мінск. Фёдар Ісаенка працаваў у Наркамземе, пазней трапіў пад рэпрэсіі, але ацалеў[2]. Ісаенкі засталіся жыць у акупаваным фашыстамі Мінску. Бацька пайшоў працаваць аграномам у Мінскую гарадскую ўправу, а маці — на малочны завод. Пазней Фёдар Ісаенка прымаў удзел у Беларускай Народнай Самапо-

[1] Матэрыялы па археалогіі Беларусі: Даследаванні каменнага і бронзавага вякоў (да юбілеяў У. Ф. Ісаенкі і М. М. Чарняўскага). Мінск, 2010. Вып. 18.

[2] Ісаенка У. Жыццё з галавой у пятлі // Arche. 1999. № 2. С. 172.

мачы[3]. Уладзімір спачатку вучыўся ў адной з беларускіх народных школ, якія працавалі ў акупаваным Мінску, а атрымаўшы атэстат паступіў у Мінскую прагімназію. У ёй, паводле яго ўспамінаў, ён здолеў паспяхова засвоіць шмат якія веды. Выдадзены атэстат шанаваў і захоўваў амаль усё сваё жыццё, нягледзячы на многія небяспечныя абставіны. Хлопец быў у тым узросце, калі ў памяць уразаліся шматлікія падзеі і сцэны з акупаванага Мінска, якія праз многія гады ён мог да драбніц прыгадаць[4]. Вясной 1944 г. Уладзімір разам з маці і бабуляй быў вывезены ў паўднёвую Нямеччыну, дзе, працуючы на ваенным заводзе, трапляў пад бомбы саюзнікаў, якія перыядычна нішчылі нямецкія вытворчыя аб'екты. Потым быў Берлін зімы і вясны 1945 г. з жудасцямі татальнага знішчэння горада і людзей. Хлопцу давялося жыць і хавацца „ў самым цэнтры, за два кварталы ад Ангальтэрбангоф, за тры — ад дома Гімлера, за чатыры — ад Райхсканцылярыі”[5]. Бацька Уладзіміра Ісаенкі, апынуўшыся пасля ўцёкаў з Мінска ў Берліне, праз нейкі час з'ехаў у ЗША, дзе пазней і памёр. Маці адмовілася ехаць за мужам і разам з Уладзімірам вярнулася ў Мінск. На радзіме іх чакаў новы страх за сваё жыццё. Нечаканае выратаванне прыйшло ад стрыечнага брата маці, які да вайны служыў у НКУС. Ён накіраваў іх у Гомель, дзе Уладзімір змог закончыць школу і паступіць у 1947 г. у Гомельскі педінстытут на фізіка-матэматычны факультэт. Пасля заканчэння, як адзін з лепшых студэнтаў, ён атрымаў рэкамендацыю на выкладанне ў ВНУ, але не скарыстаўся ёю, бо ведаў, якую праверку біяграфіі праходзяць інстытуцкія выкладчыкі. З 1951 г., атрымаўшы дыплом настаўніка матэматыкі, ён працаваў спачатку ў Шыіцкай, а пазней у Юравіцкай школах Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

Менавіта тут, у Юравічах, у старадаўнім палескім мястэчку, у маладога настаўніка, а пазней дырэктара

3 Тамсама. С. 176–177.
4 Тамсама. С. 171–184.
5 Тамсама. С. 176–177.

школы, абудзілася цікавасць да краязнаўства і гісторыі. Юравічы набылі шырокую вядомасць дзякуючы адкрыццю ў 1929 г. палеалітычнай стаянкі. Акрамя таго, у ваколіцах мястэчка археолагі знаходзілі вялікую колькасць іншых помнікаў эпох каменя і бронзы. На ўскраіне Юравічаў захаваліся валы гарадзішча — рэшткі невядомага сярэднявечнага горада X–XIII ст. (паводле А. Іова), а пасярод мястэчка велічна ўзвышаліся сцены ўнікальнай трохнефнай базілікі — касцёла Раства Прасвятой Багародзіцы (XVIII ст.). Сабраныя Ісаенкам у 1958–1973 г. матэрыялы па гісторыі мястэчка і яго ваколіц пазней складуць вялікую рукапісную кнігу „Летопись Юрович", частка якой была надрукавана ў 2000 г.[6], а іншая чакае свайго выдання. Дарэчы, варта адзначыць, што, працуючы ў тых ці іншых мясцінах, Уладзімір Ісаенка з захапленнем збіраў гістарычныя паведамленні пра іх. Так ўзніклі краязнаўчыя нарысы пра Пагост-Загародскі і Камень на Піншчыне, пра Іслач каля Ракава. Раздрукаваныя на машынцы тэксты ён з вялікім задавальненнем дарыў сваім сябрам.

У канцы 1950-х г. У. Ісаенка пачаў цікавіцца мясцовымі старажытнасцямі. Спачатку гэта былі школьныя экскурсіі і паходы з мэтай агляду помнікаў археалогіі ўздоўж Прыпяці. У выніку такіх вандровак пачала фармавацца калекцыя школьнага археалагічнага музея ў Юравічах. У экспазіцыі і фондах пераважалі матэрыялы каменнага і бронзавага вякоў. Актывізацыі пошукавай дзейнасці спрыялі тыя абставіны, што ў 1958 г. археолаг У. Будзько і геолаг Л. Вазнянчук пачалі новы этап даследчых прац на Юравіцкай палеалітычнай стаянцы.

Вялікая цікавасць да мінуўшчыны перарасла ў жаданне заняцца археалогіяй прафесійна. У 1961 г., пасля напружанага этапу самападрыхтоўкі, У. Ісаенка паступіў у аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі і пачаў працу над кандыдацкай дысертацыяй „Неаліт Прыпяцкага Палесся". Перад маладым на-

[6] Ісаенка У. Ф. Юравічы над Прыпяццю. Мінск: „Арты-Фэкс", 2000.

вукоўцам паўсталі надзвычай складаныя задачы. У першую чаргу неабходна было правесці шырокамаштабныя палявыя даследаванні. У фондах інстытута захоўваліся толькі рэшткі вернутых з Нямеччыны даваенных калекцый. Нельга было, безумоўна, спадзявацца на музейныя зборы, аснову якіх складалі адзінкавыя выпадковыя знаходкі. Ю. Кухарэнка ў сваім зводзе першабытных помнікаў, падсумоўваючы вынікі вывучэння палескага неаліту і спасылаючыся на дадзеныя эпізадычных пошукаў канца XIX — першай паловы XX ст., змог згадаць толькі пра 80 месцазнаходжанняў з т. зв. „неалітычнай грабеньчатай" керамікай[7]. Разрозненыя і нешматлікія артэфакты, зразумела, не маглі быць паўнавартаснымі крыніцамі для распрацоўкі канцэпцый з'яўлення і развіцця неалітычных культур Палесся. Надзвычай супярэчлівымі былі меркаванні археолагаў адносна культурнай ідэнтыфікацыі і паходжання неаліту Палесся. Некалі знойдзеныя тут матэрыялы адносілі ўслед за А. Гардаўскім да днепра-эльбскай культуры[8] або пачалі ўключаць ў межы распаўсюджання днепра-данецкай культуры з грабеньчата-накольчатай керамікай[9]. Некаторыя вучоныя па-ранейшаму прытрымліваліся думкі пра параўнальна малую заселенасць Палесся ў глыбокай старажытнасці, спасылаючыся на забагненасць нізін у басейне Прыпяці.

Уладзімір Ісаенка правёў шырокамаштабныя палявыя даследаванні на тэрыторыі Усходняга і Заходняга Палесся. Штогадовыя археалагічныя разведкі і раскопкі дазволілі яму на працягу 1960–1980-х г. давесці колькасць палескіх неалітычных помнікаў амаль да 500. Многія з іх раскопваліся шырокімі плошчамі. Сярод іх — Камень-2 (Заходняе Палессе), паселішча неаліту і бронзавага веку, якое капалася з 1967 да 1980 г. на плошчы каля 8118 кв. м. Уражвае аб'ём сабранага за

[7] Кухаренко Ю. В. Первобытные памятники Полесья // Свод археологических источников. Москва, 1962. Вып. Б1-18.
[8] Gardawski A. Zagadnienie kultury „ceramiki grzebykowej" w Polsce // Wiadomości Archeologiczne. Warszawa, 1958. T. XXV.
[9] Телегін Д. Я. Дніпро-донецька культура. Київ, 1968.

тыя дзесягоддзі археалагічнага матэрыялу — гэта сотні тысяч артэфактаў! Калекцыйны фонд Ісаенкі мае каштоўнасць яшчэ і тым, што многія абследаваныя ім помнікі, а гэта найчасцей пясчаныя палескія дзюны, не захаваліся да нашага часу. Частка месцазнаходжанняў знішчалася пад час меліярацыі Палесся, зарастала лесам, аралася, забудоўвалася, ператваралася ў кар'еры. Вялікая колькасць палескіх помнікаў стала недаступнай у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Пры ліквідацыі наступстваў радыеактыўнага забруджвання шмат якія помнікі выкарыстоўваліся пад кар'еры і могільнікі. У сувязі з гэтым палескія калекцыі У. Ісаенкі можна называць фондам выратаваных археалагічных каштоўнасцяў, якія для некаторых рэгіёнаў Палесся застаюцца сёння бадай ці не адзінымі археалагічнымі крыніцамі.

Кандыдацкую дысертацыю У. Ісаенка паспяхова абараніў у 1973 г. З сярэдзіны 1960-х да канца 1970-х г. вучоны напісаў асноўныя свае працы. З друку выйшлі яго „археалагічныя карты" па каменным і бронзавым вяках Беларусі[10], раздзелы па эпохах каменя і бронзы ў „Очерках по археологии Беларуси"[11], у „Гісторыі Беларускай ССР"[12], у шэрагу энцыклапедычных выданняў. У 1976 г. была надрукавана яго манаграфія „Неолит Припятского Полесья"[13].

Уладзімір Ісаенка прыйшоў да высновы, што шляхі з'яўлення і развіцця неалітычных культур ва Усходнім і Заходнім Палессі істотна адрозніваліся. На захадзе Палесся і на поўначы Валыні пад уздзеяннем культурнага імпульсу з Буга-Днястроўскай вобласці і Балкан-

[10] Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Минск: Полымя, 1968. Вып. 1: Памятники каменного века. 127 с.; ён жа. Археологическая карта Белоруссии. Минск: Полымя, 1976. Вып. 3: Памятники бронзового века.

[11] Очерки по археологии Белоруссии. Минск: Наука и техника, 1972. Ч. 1.

[12] Гісторыя Беларускай ССР: у 5 т. / АН БССР. Ін-т гісторыі; Рэдкал.: К. І. Шабуня (гал. рэд.) і інш. Мінск: Навука і тэхніка, 1972. Т. 1.

[13] Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья. Минск: Наука и техника, 1976.

скага паўвострава пачаў развівацца мясцовы варыянт нёманскай неалітычнай культуры, а на ўсходзе Палесся распаўсюджваліся традыцыі днепра-данецкай культуры. На падставе параўнання комплексаў і аналізу стратыграфіі даследчык прасачыў асноўныя этапы фармавання ўсходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры і заходнепалескіх помнікаў нёманскай культуры. Для кожнага з этапаў усходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры і заходнепалескай групы нёманскай культуры Ісаенка вылучыў найбольш характэрныя комплексы прыкмет і асаблівасцяў. Ён абгрунтаваў вылучэнне IV этапу ў развіцці днепра-данецкай культуры, які меў месца ва Усходнім Палессі і развіваўся адначасова з культурай шнуравой керамікі. У. Ісаенка звярнуў таксама ўвагу на прысутнасць у палескім лясным неаліце культуры лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар, трыпольскай культуры. Сярод ідэй, якія развіваў даследчык, асаблівай увагі заслугоўвае думка пра працяглую жывучасць неалітычных „грабеньчатых" традыцый, якія істотна паўплывалі на ўсю далейшую хаду гісторыка-культурнага развіцця, найперш на этапе фармавання культур эпохі бронзы. У. Ісаенка, як і многія іншыя спецыялісты яго пакалення, заставаўся прыхільнікам этнакультурных метадаў інтэрпрэтацыі і імкнуўся знайсці этнічную аснову ў вылучаных ім культурных таксонах. Паводле яго заключэння, мясцовыя „этнічныя супольнасці неалітычнай эпохі" складаліся са старажытных індаеўрапейцаў. На іх аснове пазней фармаваліся „балтыйскія і праславянскія плямёны"[14]. Адно з апошніх яго захапленняў — этнічная гідраніміка, вынікам чаго стала падрыхтаваная ім карта старажытных гідронімаў Беларусі III тыс. да н. э. — сярэдзіны I тыс. н. э.[15].

Адна з праблем, якая цікавіла У. Ісаенку, — пераход неалітычнага насельніцтва да вытвараючай гаспадаркі. Ужо ў неалітычны перыяд, паводле яго меркавання, ста-

[14] Тамсама. С. 118–120, 127.

[15] Гістарычны атлас Беларусі. Warszawa: Efekt, 2008. Т. 1: Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. С. 38–39.

ражытныя палешукі маглі асвоіць ранняе земляробства і жывёлагадоўлю. Пры гэтым У. Ісаенка дапускаў, што на Палессі знаёмства з вытвараючымі формамі гаспадарання адбылося раней III тыс. да н. э. У якасці доказаў ён прыводзіў адпаведны археалагічны і астэалагічны матэрыял, пісаў пра „дэмаграфічны выбух" — параўнальна рэзкае павелічэнне колькасці паселішчаў на познанеалітычных этапах, а таксама пра пераход да новых формаў светаўспрымання, пранікненне на Палессе традыцый цэнтральнаеўрапейскіх культур, якія ў той час актыўна развівалі земляробчую і жывёлагадоўчую эканоміку. Асаблівай увагі заслугоўвае той факт, што для аргументацыі сваіх палажэнняў Ісаенка спасылаўся не толькі на археалагічныя дадзеныя, але і на вынікі прыродазнаўчых даследаванняў, у прыватнасці на паліналагічныя аналізы, фіксацыю антрапагеннага ўздзеяння на прыроду Палесся ў суббарэальны перыяд[16]. Менавіта палеабатанічныя даследаванні, якія актыўна праводзяцца апошнім часам на тэрыторыі Беларусі, дазваляюць пацвердзіць думку пра неалітычны этап у развіцці ранніх формаў земляробства і жывёлагадоўлі на тэрыторыі Беларускага Палесся[17].

Паводле высноў У. Ісаенкі, у сістэме прысваяльнай эканомікі ў неалітычныя часы на Палессі найбольшае значэнне належала рыбалоўству. Рыбацтва, пісаў ён,

[16] Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.

[17] Зерницкая В. П., Симакова Г. И., Павлова И. Д. Признаки хозяйственной деятельности человека в пыльцевых спектрах голоцена Беларуси // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2001. № 16. С. 5–19; Калечыц А. Г. Пераход да вытворчай гаспадаркі на тэрыторыі Беларусі (шляхі і час) // Od neolityzacji do początków epoki brązu. Przemiany kulturowe w miedzyrzeczu Odry i Dniepru miedzu VI i II tys. przed Chr. Poznań, 2001. S. 29–42; Kryvaltsevich M., Simakova G., Razlutskaya A. The Emergence of Early Agriculture and Stock Raising on the Territory of Belarus: Several Issues and Research Aspects // Eurasian Perspectives on Environmental Archaeology: Annual Conference of the Association for Environmental Archaeology (AEA), Poznan, September 12—15, 2007. Poznan, 2007. P. 89–92.

дазваляла старажытным палешукам выпрацаваць устойлівыя і збалансаваныя спосабы выжывання ва ўмовах мясцовага навакольнага асяроддзя. Прыстасаванасць да спецыфічных прыродных умоў Палесся ў сваю чаргу спрыяла кансерватыўнасці неалітычнага ладу жыцця і працягламу існаванню традыцый „ляснога неаліту”[18].

Акрамя неаліту Палесся, У. Ісаенка актыўна працаваў над многімі іншымі праблемамі айчыннай археалогіі. У прыватнасці, ён шмат увагі аддаваў збору і інтэрпрэтацыі матэрыялаў мезалітычнага перыяду. Асаблівыя шляхі развіцця ўсходне- і заходнепалескага позняга мезаліту, паводле яго заключэння, прадвызначылі „этнакультурны” падзел Прыпяцкага Палесся па Гарыні, Стыры і паўночнай Случы ў неалітычную эпоху[19]. У. Ісаенка, услед за І. Арцёменкам, паспрабаваў абагульніць некаторыя дадзеныя па „шнуравым перыядзе” і бронзавым веку на тэрыторыі Беларусі[20]. Важным дасягненнем у гэтым кірунку стала яго праца „Археологическая карта Беларуси. Ч. 3. Памятники бронзового века”[21]. У кнізе, акрамя найбольш поўнага зводу помнікаў з матэрыяламі бронзавага веку, ён надрукаваў кароткія нарысы свайго бачання культурнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства эпохі бронзы на тэрыторыі Беларусі, спрабуючы сінхранізаваць асноўныя перыяды бронзавага веку Беларусі з этапамі культурных зменаў у сумежных рэгіёнах Еўропы[22]. У сваіх публікацыях У. Ісаенка

[18] Исаенко В. Ф. Древнее рыболовство в Полесье // Рыболовство и морской промысел в эпоху мезолита — раннего металла в лесной и лесостепной зоне Восточной Европы. Ленинград: Наука, 1991. С. 96–106.

[19] Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.

[20] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3: Памятники бронзового века.

[21] Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3: Памятники бронзового века.

[22] Гл. з гэтай нагоды: Крывальцэвіч М. М. Праблемы перыядызацыі і храналогіі эпохі бронзы на тэрыторыі Паўднёвай Беларусі // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2006. № 22. С. 39–40.

неаднаразова слушна адзначаў некаторыя асаблівасці помнікаў са шнуравой керамікай на тэрыторыі Прыпяцкага Палесся. Для вызначэння іх адметнасці ён спачатку ўжываў тэрмін „палеская група”[23], а пазней „палеская культура шнуравой керамікі”[24]. Апошняя, на яго думку, адрознівалася ад сярэднедняпроўскай і зближалася са стшыжаўскай культурай[25].

На падставе ўласнага шматгадовага досведу і вопыту працы з крамянёвымі знаходкамі Уладзімір Ісаенка прапанаваў сваю сістэму класіфікацыі крамянёвых вырабаў Паўднёвай Беларусі. Ён напісаў цікавыя і адначасова карысныя і змястоўныя артыкулы па асаблівасцях тапаграфіі і стратыграфіі палескіх помнікаў каменнага веку, па метадах рэгламентацыі палявых прац на паселішчах каменнага веку, па старажытнай мастацкай творчасці і інш.

Сваю дасведчанасць у сістэматызацыі навуковай інфармацыі вучоны паспяхова праявіў у працы над многімі энцыклапедычнымі выданнямі. Ён уваходзіў у рэдакцыйныя калегіі многіх беларускіх энцыклапедый, быў кансультантам, рэдактарам і аўтарам вялікай колькасці энцыклапедычных артыкулаў (ім напісана больш за 400 артыкулаў для энцыклапедый!). У. Ісаенка — аўтар многіх гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі „Памяць”[26]. Акрамя ўласна археалагічных артыкулаў ён змяшчаў на старонках кніг „Памяці” напрацаваны ім матэрыял па розных перыядах мясцовай гісторыі, найперш на тэму Другой сусветнай вайны.

[23] Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1. С. 123; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3: Памятники бронзового века. С. 16.

[24] Белорусская археология: Достижения археологов за годы советской власти / В. Ф. Исаенко, М. М. Чернявский и др. / Редкол.: Г. В. Штыхов и др. Минск: Наука и техника, 1987. С. 25–26.

[25] Тамсама. С. 25–26.

[26] Гл. бібліяграфію навуковых прац: Крывальцэвіч М. М. Спіс навуковых і навукова-папулярных прац Уладзіміра Фёдаравіча Ісаенкі // Матэрыялы па археалогіі Беларусі: Даследаванні каменнага і бронзавага вякоў (да юбілеяў У. Ф. Ісаенкі і М. М. Чарняўскага). Мінск, 2010. Вып. 18. С. 12–19.

Захапленне вучонага ваеннай тэматыкай, бадай, нельга назваць хобі. Вайна, якая пакінула ў памяці падлетка страшны след, не магла не прымусіць думаць усё жыццё пра яе і цікавіцца праўдзівай ваеннай гісторыяй. Я не памылюся, калі напішу, што У. Ісаенка быў адным з самых дасведчаных у Беларусі храністаў Вялікай Айчыннай вайны. Сабраныя і сістэматызаваныя веды пра вайну дазволілі У. Ісаенку прапанаваць цікавыя і грунтоўныя артыкулы, рэцэнзіі, карты баявых дзеянняў для навуковых і навукова-папулярных выданняў Беларусі[27]. У. Ісаенка — першы ў Беларусі археолаг, які паспрабаваў спалучыць прафесійны археалагічны досвед і ваенна-гістарычныя веды з дзейнасцю, скіраванай на пошук невядомых пахаванняў часоў вайны. У другой палове 1990-х — пачатку 2000-х г. ён паспяхова і плённа працаваў на пасадзе археолага-кансультанта ў спецыялізаваным пошукавым батальёне, падрыхтаваў для камандзіраў падраздзялення дапаможнік па методыцы правядзення палявых прац, закладаючы тым самым тэарэтычную і практычную аснову беларускай ваеннай археалогіі.

Уладзімір Ісаенка належаў да той катэгорыі навукоўцаў, якія ніколі не спыняліся на дасягнутым. Ён, як ніхто іншы з нашых калег, мог крытычна ацаніць тую ці іншую ідэю, паказаць перспектыву яе развіцця і ўдасканалення. Здзіўляла яго памкненне распрацоўваць маштабныя па сваёй глыбіні навуковыя праблемы. Шкада, што многія з распачатых праектаў па розных прычынах так і не былі рэалізаваныя.

*Мікола Крывальцэвіч*

[27] Гл., напрыклад: Ісаенка У. Ф. Карта „Абарона Мінска 25 чэрвеня — 3 ліпеня 1941 г." // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 161–163; ён жа: Карта „Навагрудскі кацёл" // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 5. Мінск, 1999. С. 260–261; ён жа: Карта „Вялікая Айчынная вайна. Баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. 22 чэрвеня — жнівень 1941 г." // Нацыянальны атлас Беларусі. Мінск, 2002. С. 282–283; ён жа: Рэц.: Першы дапаможнік па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны // БГА. 2005. Т. 12. Сш. 1–2 (22–23). С. 341–359.

# *In memoriam*

## Павел Лойка (12.07.1958–22.10.2010)

22 кастрычніка 2010 г. пайшоў з жыцця Павел Алегавіч Лойка.

Не стала чалавека, які пакінуў па сабе не толькі багатую гістарыяграфічную спадчыну, але і самую добрую памяць у сэрцах многіх і многіх людзей. Гэтая смерць успрымаецца з асаблівым болем і трагізмам яшчэ і таму, што Павел Алегавіч пакінуў гэты свет у росквіце творчых сіл, поўны планаў і ідэй.

Сын вядомага вучонага-філолага, пісьменніка Алега Антонавіча Лойкі, Павел Алегавіч быў узгадаваны ў атмасферы і на лепшых узорах беларускай гуманістыкі. Ён шчыра любіў людзей і вельмі многім дапамог. Цудоўна валодаў словам і меў талент суразмоўніка: умеў гаварыць і, што не менш важна, слухаць. Лагодны ў адносінах з людзьмі, ён, тым не менш, заўсёды меў сваю пазіцыю і ўмеў яе адстойваць. Павел Алегавіч быў шчодра адораны артыстычнымі здольнасцямі, але справай яго жыцця стала гісторыя.

Павел Лойка нарадзіўся 12 ліпеня 1958 г. у Слоніме. У 1980 г. скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дыпломны праект выканаў пад кіраўніцтвам В. Цяпловай. Паступленне ў аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, дзе ў той час існавала моцная школа гісторыкаў-аграрнікаў, у многім прадвызначыла яго цікавасць да гісторыі сялянства і сельскай гаспадаркі — цікавасць, якая не згасала ў яго ніколі. Тэма кандыдацкай дысертацыі (“Феадальная рэнта ў прыватнаўласніцкіх памесцях Беларусі ў другой палове XVI—XVIII ст.”) была парэкамендавана В. Мя-

лешкам, які і стаў яго навуковым кіраўніком. У 1984 г. П. Лойка паспяхова абараніў дысертацыю, якая выйшла ў 1991 г. у выглядзе манаграфіі (“Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст.”). Фармулёўка тэмы дысертацыі гучыць цалкам традыцыйна для таго часу, але ўжо па назве манаграфіі можна зразумець, што аўтара цікавіла не толькі рэнта, але і сялянства як сацыяльны пласт. Менавіта сялянства пастаўлена ў загалоўку кнігі на першае месца, і гэта не выпадкова. Сапраўды, кніга напоўнена людзьмі. Так праявілася правіла, якога гісторык цвёрда прытрымліваўся ўсё жыццё: у любых працэсах і з’явах ён бачыў і імкнуўся паказаць людзей. Той жа рысай вылучаюцца і яго супольныя з В. Мялешкам публікацыі, прысвечаныя Крычаўскаму сялянскаму паўстанню і асобе яго правадыра — Васіля Вашчылы. Так непрыкметна і, можа, не да канца ўсвядомлена ў нашай гістарычнай навуцы таксама адбываўся той антрапалагічны паварот, які стаў адным з магістральных кірункаў развіцця еўрапейскай і амерыканскай гістарыяграфіі 2-й паловы XX ст.

Бурлівая мяжа 80 і 90-х гадоў XX ст. стала пераломным часам у развіцці айчыннай гістарычнай навукі, і П. Лойка быў сярод тых, хто ўвасабляў яе новы твар. Адначасова са зменай падыходаў і ацэнак змянялася і тэматыка даследаванняў многіх вучоных. Сярод прыярытэтаў даследчыкаў Вялікага Княства Літоўскага з’явілася палітычная гісторыя гэтай дзяржавы. Да ліку найважнейшых публікацый, дзе ёй было адведзена адпаведнае месца, належыць артыкул В. Мялешкі, З. Капыскага і П. Лойкі “Беларусь у канцы XV — сярэдзіне XVI ст.” у зборніку “Скарына і яго эпоха” (1990). З гэтага часу Павел Алегавіч аддаваў усё большае месца ў сваіх працах тэматыцы палітычнай гісторыі, гісторыі ўладных структур і гісторыі шляхты — саслоўя, якое гэтую ўладу ўвасабляла. Яго манаграфія “Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI — першай трэці XVII ст.” (2002) застаецца ці не адзінай у нас, прысвечанай гэтай важнай тэме.

Павел Лойка быў не толькі прызнаным вучоным-даследчыкам, але і нястомным папулярызатарам айчыннай гісторыі. Доўгі час яго выступленні былі вельмі запатрабаванымі ў прэсе, на радыё, тэлебачанні. Шырокая эрудыцыя, уменне прэзентаваць матэрыял, чалавечае абаянне, патрыятычны настрой — усё гэта прыцягвала ўвагу, прымушала слухаць і верыць. Ён належаў да ліку сапраўды папулярных гісторыкаў, якіх у наш час вельмі мала.

Павел Алегавіч быў сярод тых, каму на пачатку 1990-х было даручана ствараць новыя школьныя падручнікі і праграмы па айчыннай гісторыі. За вельмі кароткі час ён здолеў падрыхтаваць рукапіс, які быў, бадай, найлепшым з усёй гэтай серыі (Гісторыя Беларусі: Вучэбны дапаможнік для 7 класа сярэдняй школы. Мінск, 1993). З таго часу выкладанне айчыннай гісторыі і педагагічная праца рабіліся ўсё больш важным кірункам дзейнасці даследчыка. У 1994 г. ён перайшоў на працу на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, дзе ўзначаліў зноў створаную кафедру гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў. Студэнты атрымалі магчымасць наведваць заняткі такіх вядомых спецыялістаў, як Г. Галенчанка, В. Голубеў, У. Емяльянчык, Г. Сагановіч, што пачалі супрацоўнічаць з кафедрай. І, зразумела, заняткі самога Паўла Алегавіча, выдатнага лектара. Яго аўтарытэт сярод выкладчыкаў і студэнтаў быў непахісным.

Выкладчыцкая дзейнасць П. Лойкі суправаджалася стварэннем шэрагу навучальных дапаможнікаў і іншых навукова-метадычных выданняў як для студэнтаў, так і для школьнікаў. Тым не менш, ён працягваў актыўна працаваць і ў навуковай галіне. Да ліку найбольш прыкметных публікацый, падрыхтаваных вучоным у гэты перыяд, належаць раздзелы ў акадэмічных абагульняльных выданнях: 1-м томе трохтамовай “Гісторыі сялянства Беларусі” (1997) і 2-м томе шасцітамовай “Гісторыі Беларусі” (2008). Гэтыя раздзелы тэматычна вельмі розныя. У першым выпадку зроблена пэўнае падсумаванне ранейшых прац аўтара па сялянскай праблематыцы. У

другім — акрэслены погляд гісторыка на пытанні, якія ён распрацоўваў цягам пазнейшага часу: органы ўлады і кіравання Вялікага Княства Літоўскага, склад і дзейнасць прадстаўнічых інстытутаў шляхты (сойм), унутраная палітыка вялікіх князёў літоўскіх. Аднак у абодвух выпадках выразна заяўлена аўтарская пазіцыя, відаць пазнавальны аўтарскі стыль.

Апошнія гады жыцця былі нялёгкімі для Паўла Алегавіча. Уласныя хваробы, смерць бацькі і іншае не зламілі яго, хоць і паскорылі заўчасны сыход. Нам жа, шматлікім калегам, вучням, проста сябрам засталася яго вялікая навуковая спадчына і памяць — памяць пра выдатнага гісторыка і светлага чалавека.

*Васіль Варонін*

## Новыя выданні, атрыманыя рэдакцыяй

Вялікі А. Ф. Беларусь у савецка-польскіх міждзяржаўных адносінах. 1944–1959 г. Мінск: БДПУ, 2010.

Гардзіенка Н. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Рэд. А. Гардзіенка. Мінск: Медысонт, 2010 (Бібліятэка Бацькаўшчыны, 18).

Україна та розвиток громадянського суспільства після 2004 року. Матеріали українсько-німецької наукової конференції. Выд. С. Луканюк, К. Зьоллер, Т. Вюнш. Тернопіль, 2010.

Beiträge zur Militärgeschichte des Preussenlandes von der Ordenszeit bis zum Zeitalter der Weltkriege. Hg. Von Bernhart Jähnig. Marburg, 2010.

Dembowski A. Co to jest wolność? Wstęp i oprac. M. Wyszomirska i A. Perłakowski. Kraków, 2008.

Gordziejew J. Komisje Porządkowe Cywilno-Wojskowe w Wielkim Księstwie Litewskim w okresie Sejmu Czteroletniego (1789–1792). Kraków, Wydawnictwo Uniwersytetu Jagiellońskiego, 2010.

Kosman M. Krzyżacy w historii i legendzie wieków. W 600 rocznicę grunwaldzkiej wiktorii. Toruń, 2010.

Kosman M. Opowieści kórnickie. Kórnik, 2010.

Labuda G. O historykach. Kto jest kim w dziejopisarstwie polskim? Poznań, 2010.

Lietuvos valstybės susikūrimas Europiniame kontekste. Red. kol.: A. Nikžentaitis, R. Petrauskas, M. Borgolte. Vilnius, 2008.

Michaluk D. Białoruska Republika Ludowa. 1918–1920. U podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, Wydawnictwo Naukowe Uniwersytetu Mikołaja Kopernika, 2010.

Poznań – Wilnu. Studia historyków w roku tysiąclecia Państwa Litewskiego. Pod red. Zbysława Wojtkowiaka. Poznań, 2010.

Praktyka życia publicznego w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w XVI–XVIII wieku. Materiały XVIII konferencji Komisji Lituanistycznej przy Komitecie Nauk Historycznych PAN w d. 23–25 września 2009 r. Pod red. Urszuli Augustyniak i Andrzeja B. Zakrzewskiego. Warszawa, 2010.

Rachuba A. Konfederacje wojska litewskiego 1657–1663. Zabrze, 2010.

Sobieski Diariusz ekspedicyjej moskiewskiej dwuletniej królewicza Władysława 1617–1618. Opracowali Janusz Byliński, Włodzimierz Kaczorowski. Opole, 2010.

Wojtkowiak Z. Odnaleziony tekst Macjeja Stryjkowskiego o bitwie z Moskwą 1564 roku i inne rewelacje w zbiorach rosyjskich i nie tylko. Poznań, 2010.

Wünsch T. Deutsche und Slawen im Mittelalter. Beziehungen zu Tschechen, Polen, Südslawen und Russen. München, 2008.

Ab Imperio. 2010. № 1–4.

Hansische Geschichtsblätter. Jg. 128 (2010).

History and Theory. Vol. 49, nr. 1–4; Vol. 50, nr.1.

Odrodzenie i Reformacja w Polsce. T. LIII (2009).

Studia Białorutenistyczne. Vol. 4 (Lublin, 2010).

Zapiski Historyczne. T. LXXV (2010). Z. 1–4, Suplement.

## Аўтары нумара

**Udo Arnold**
Rheinische Friedrich-Wilhelms-Universität Bonn
Projektbereich Ostdeutsche Landesgeschichte
Adenaueralle 4–6
D-53113 Bonn

**Sven Ekdahl**
Sponholzstr. 38
D-12159 Berlin

**Sławomir Jóźwiak**
Instytut Historii i Archiwistyki
Uniwersytetu Mikołaja Kopernika w Toruniu
ul. Gagarina 9
87-100 Toruń

**Alena Marková**
Karlova Univerzita v Praze
U Kříže 8,
Praha 158 00

**Генадзь Сагановіч**
European Humanities University
Tauro st. 12
LT-01114 Vilnius

**Timothy Snyder**
Department of History
Yale University
P. O. Box 208324
New Haven, CT 06520-8324

**Галіна Туміловіч**
вул. Д. Сердзіча, д. 16, кв. 37
220082 Мінск

# BELARUSIAN HISTORICAL REVIEW

Volume 17 Fascicle 1–2 (32–33) December 2010

## Contents

### On the 600th Anniversary of the Battle of Tannenberg



### Presentation



### Articles



### Publications



### Historiography

## New Literature: Reviews



## Journals Review



## In memoriam